# Гарады і вёскі Беларусі



## БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

### кніга I



ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ



# БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга I






Мінск
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
2006

УДК 94 (476.7)
ББК 63.3(4 Беи)
Г 20



Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І.Лакоткі.

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ISBN 985-11-0373-Х (т. 3, кн. 1)
ISBN 985-11-0302-0

# БРЭСТ



*Археалагічны музей «Бярэсце».*

Адміністрацыйны цэнтр Брэсцкай вобласці — Брэст (летапісныя назвы Б е р а с ц е, Б я р э с ц е, Б е р е с т ь е), у канцы 18 — пач. 20 ст. называўся Брэст-Літоўск, у 1921—39 гг. Брэст-над-Бугам, з вер. 1939 г. — сучасная назва. Горад, адм. цэнтр Брэсцкай вобл. і р-на, на ПдЗ Беларусі, на р. Мухавец пры ўпадзенні яе ў р. Зах. Буг, вузел аўтадарог і чыгунак на граніцы з Польшчай, рачны порт, аэрапорт, за 349 км ад Мінска. Пл. 74,4 км$^2$. Падзяляецца на 2 адм. раёны — Ленінскі і Маскоўскі. 300,1 тыс. жыхароў (2005).

Паводле нар. падання пра паходжанне назвы горада, якое запісаў у сярэдзіне 19 ст. П.М.Шпілеўскі ў сваім «Падарожжы па Палессі і Беларускім краі», некалі, даўным-даўно багаты купец, прабіраючыся цераз вязкія балоты з вял. колькасцю featureнага тавару, зрубіў плаціну са ствалоў бярозы, заваліў балота бяростай (верхні белы слой бярозавай кары) і такім чынам праклаў сабе шлях. У памяць аб сваім выратаванні з гэтых балот купец пабудаваў копішча і прынёс там ахвяру язычніцкаму богу Вялесу. А самое месца аб зрубленай з бяросты плаціны ён назваў Берасцем, Берасценем. Пазней, прадаўшы з выгадай у Літве свае тавары, купец вярнуўся і атабарыўся на гэтым месцы са сваёй дружынай. Існуюць таксама меркаванні, што назва горада паходзіць ад наймення — бераст (дрэвавая ці кустовая расліна сямейства вязавых) ці ад імя асабовага — Бераст.



*Раскоп старажытнага горада 13 ст. ў археалагічным музеі «Бярэсце».*

Археалагічныя даследаванні сведчаць, што горад узнік на мяжы 10—11 ст. на тэрыторыі рассялення ўсходнеславянскага племяннога аб'яднання дрыгавічоў. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1019 г. у сувязі з барацьбой за Кіеўскі велікакняжацкі прастол паміж тураўскім кн. Святаполкам Уладзіміравічам і яго братам Яраславам, князем наўгародскім. Пасля паражэння ў бітве



*Мужчынскі і жаночы бернардзінскія манастыры і касцёлы 17—18 ст. у Брэсце. Макет. 1998. Аўтар М.М.Уласюк.*



*Комплекс будынкаў канца 19 ст. на пл. Свабоды (б. Думская пл.) у Брэсце.*

на р. Альт з рэшткамі дружыны на шляху свайго цесця караля Баляслава Храбрага (Харобрага) у Польшчу паранены Святаполк спыніўся ў Берасці, які пазней занялі польскія войскі. У 1022, 1031, 1044 гг. паходы на Берасце рабіў кн. Яраслаў (пазней празваны Мудрым). У сваім «Павучанні» Уладзімір Манамах пісаў, што каля 1073 г. ён быў пасланы вял. князем кіеўскім ахоўваць Берасце, якое было спалена палякамі ў час набегу. У гэтым дакуменце Берасце ўпершыню названа горадам. У 11—12 ст. ён належаў тураўскім, кіеўскім, уладзіміра-валынскім князям; з'яўляўся прыгранічным гандл. цэнтрам Старажытнарускай дзяржавы, часта падвяргаўся ваен. нападам. Да Берасця праяўлялі зацікаўленасць польскія князі. У 1164 г. горадам валодаў літоўскі кн. Скірмунт.

Дзядзінец стараж. Берасця (трохвугольнай у плане формы, умацаваны з боку поля ровам, земляным валам і частаколам) размяшчаўся на мысе, утвораным правым берагам р. Зах. Буг і левым берагам левага рукава р. Мухавец. Вакольны горад месціўся супраць дзядзінца, на востраве, утвораным 2 суседнімі рукавамі Мухаўца. Стараж. Берасце, размешчанае на сутоку рэк, кантралявала водныя шляхі па Мухаўцу з У, ад дняпроўскага вял. воднага шляху «з варагаў у грэкі» да Буга і па Бугу — шлях з Пд, з Валыні — да Балтыйскага мора. З самага пачатку існавання Берасце адыгрывала ролю палітычнага, эканам., адм. і культ. цэнтра Пабужжа. У 12 ст. на месцы дзядзінца пабудаваны драўляны замак (адноўлены ў 2-й пал. 13 ст.), у 1276—88 гг. на яго тэрыторыі валынскім кн. Уладзімірам Васількавічам была ўзведзена мураваная вежа-данжон (праіснавала да 1831, знесена пры пабудове Брэсцкай крэпасці). У 13 ст. сінхронна з вежай у горадзе была змуравана царква св. Пятра. У 14—18 ст. цэнтрам абароны Берасця з'яўляўся замак з каменю і дрэва. Яго ўмацоўвалі роў



*Карціна Б.Залескага «Будаўніцтва Брэсцкай крэпасці». 1840.*







*Будынкі канца 19 ст. на вул. Савецкіх пагранічнікаў.*

*Брэсцкая Свята-Сімяонаўская царква. 1862 г.*

і вал, на якім стаялі абарончыя сцены — гародні і 5 вежаў; замак уваходзіў у комплекс гар. умацаванняў (існавалі ў 14—18 ст.). Паводле даследаванняў архітэктара І.Лаўроўскай, Берасцейская вежа-данжон 13 ст. месцілася асобна па-за межамі замка (верагодна, побач з дамініканскім касцёлам).

З пачатку 14 ст. горад знаходзіўся ў складзе ВКЛ. У 1349 г. Берасце захапіў і да 1366 г. ўтрымліваў польскі кароль Казімір III. У 1379 г. горад разрабавалі і спалілі тэўтонскія рыцары. У 1390 г. ён першым з бел. гарадоў атрымаў самакіраванне на аснове магдэбурскага права (пацвярджалася ў 1408, 1511, 1554, 1580, 1607, 1614, 1661); быў пабудаваны гасціны двор, праводзіліся кірмашы. У 14 ст. існавала кафедральная праваслаўная мураваная Мікалаеўская царква. У 1409 г. ў Берасцейскім замку адбылася нарада польскага караля Уладзіслава II (Ягайлы) і вял. кн. ВКЛ Вітаўта, на якой быў распрацаваны план ген. бітвы з тэўтонскімі крыжакамі. 15.7.1410 г. ў бітве пад Грунвальдам разам з іншымі прыняла ўдзел і берасцейская харугва. У 1411 г. паводле фундацыі вял. кн. ВКЛ Вітаўта па-за межамі горада, паміж рэкамі Угрынка і Мухавец, былі пабудаваны драўляны Троіцкі касцёл (на месцы ранейшага закладзенага Ягайлам; паводле некаторых даведачных выданняў, касцёл пабудавалі пасля 1380) і кляштар каталіцкага манаскага ордэна аўгусцінаў. З 1413 г. горад — цэнтр Берасцейскага староства ў складзе Трокскага ваяв.; у 1441 г. адзначаны ў ліку 15 буйнейшых гарадоў ВКЛ. Вядомы Берасцейскія старосты-намеснікі: Нац (Начка; 1440—46), Алехна Давойнавіч (1452), Ян На-



*Думская плошча (цяпер пл. Свабоды) у Брэсце. Пачатак 20 ст.*



*Касцёл Узвіжання Св. Крыжа ў Брэсце. 1856.*



*Забудова 1920-х г. гістарычнага цэнтра Брэста (цотны бок сучаснай вул. Савецкай).*

суціч (1475), Я.І.Неміровіч (1483—87), Івашка Гайцэвіч (1492), Сенька Алізаравіч (1495—96), С.М.Петкавіч (1498—1503). У 1500 г. Берасце разрабавана войскамі крымскага хана Менглі-Гірэя. У 1446, 1454, 1460, 1471, 1478, 1505, 1511, 1515 і 1518 гг. адбываліся сеймы ВКЛ. З 1520 г. — цэнтр павета Падляшскага ваяв., з 1566 г. — цэнтр створанага Берасцейскага ваяв. (падзялялася на Брэсцкі і Пінскі паветы; 1-ы ваявода Ю.Тышкевіч). З 16 ст. Берасце карысталася гербам: у блакітным полі сярэбраны лук са стралой. З 1554 г., згодна з прывілеем караля Жыгімонта II Аўгуста, гораду дазвалялася карыстацца гербавай пячаткаю з выявай шатровай вежы пры зліцці дзвюх рэк. У 1566 г. Берасце складалася з 3 частак: замка, «места» (на востраве, які ўтвараўся Зах. Бугам і рукавамі Мухаўца) і «Замухавечча» (на правым беразе Мухаўца). «Места» авальнай у плане канфігурацыі складалася з цэнтр. часткі, умацаванай абарончай сцяной, і перыферыйнай, умацаванай валам. Асновай планіроўкі цэнтр. часткі горада была паўавальная рынкавая плошча, якая злучалася мостам цераз Мухавец з замкам. На плошчы размяшчаліся ратуша з крамамі, друкарня, саляны склад, васкабойня, 23 двары гараджан. Планіровачны каркас горада стварала сістэма радыяльных вуліц, якія пачыналіся ад плошчы і перасякаліся паўкальцовымі вуліцамі. Ва ўмацаванай частцы «места» праходзілі 3 вуліцы, з якіх дзве (Кавальская і Пескаўская, злучаліся з Віленскім і Кракаўскім трактамі) з'яўляліся магістральнымі. На вуліцах месціліся 170 мяшчанскіх сядзіб, двор праваслаўнага епіскапа з мураванай Мікалаеўскай царквой, фарны касцёл з плябаніяй, багадзельня (шпіталь), іншыя будынкі. Перыферыйная частка «места» мела 20 невялікіх вуліц, на якіх знаходзіліся 401 мяшчанская сядзіба, 3 касцёлы (адзін з кляштарам, другі з багадзельняй, трэці — прыходскі варварынскі), Уваскрэсенская і Варварынская цэрквы. На тэр. Замухавечча на 2 вуліцах размяшчаліся касцёл Дароты, Спаса-Праабражэнская царква, Сімяонаўскі манастыр і манастыр Нараджэння Багародзіцы з дзвюма цэрквамі, каля 240 сядзіб. Усяго ў 1566 г. ў Берасці налічвалася каля 1 тыс. сядзіб (паводле іншых даных — 26 вуліц, 1091 домаўладальнік, 1166 сядзіб). Горад меў каля 6—7 тыс. жыхароў, сярод якіх рамеснікі 56 рамесных спецыяльнасцей складалі прыкладна 24—25% (у 1450—

*Вуліца Паліцэйская (цяпер вул. Савецкая) у Брэст-Літоўску пасля пажару 1901 г.*





80 гг. каля 40 відаў рамёстваў). У 1588 г. з'явіліся першыя брукаваныя вуліцы, у 1583 г. адкрыта аптэка. З пач. 15 ст. існавала сінагога (да 1812 перабудавана на патрэбы Брэсцкай крэпасці). Гарадскія купцы развівалі гандаль з гарадамі ВКЛ, Польшчы, Рус. дзяржавы. Брэсцкая мытня ў 1-й пал. 16 ст. займала 2-е месца ў даходах дзярж. казны.

Берасце таксама з'яўлялася значным рэліг. цэнтрам. У 1550-я г. брэсцкі староста Мікалай Радзівіл Чорны заснаваў тут кальвінскі збор і першую на тэр. Беларусі друкарню, дзе ў 1563 г. была выдадзена Брэсцкая біблія (іншая назва Радзівілаўская). У 1591 г. пры Мікалаеўскай царкве ўзнікла праваслаўнае брацтва і адчынілася школа, у якой у 1592—95 гг. выкладаў бел. гуманіст-асветнік Л.Зізаній. 9.10.1596 г. на царк. саборы ў Берасці была падпісана так званая Брэсцкая унія — спецыяльны акт пра арганізацыйнае аб'яднанне каталіцкай і праваслаўнай цэркваў на тэр. Рэчы Паспалітай, стварэнне уніяцкай царквы. У горадзе дзейнічалі і будавалі свае касцёлы і кляштары каталіцкія манаскія ордэны: аўгусцінцаў (драўляны з 1380, спалены ў 1666, з 1672 на гандл. плошчы, касцёл змураваны ў 1683—86), бернардзінцаў (з 1605, змураваны ў 1623, разбураны ў 1656 і 1660), бернардзінак (існаваў у 1624—1831, мураваны касцёл з 1750), брыгітак (з 1623, змураваны ў 1751), езуітаў (з 1616, касцёл змураваны ў 1656—1713 ), трынітарыяў (1730—60), дамініканцаў (засн. ў 1635, касцёл пабудаваны ў 1696). Пры кляштарах адчыняліся школы. У 1620 г. пабудаваны касцёл і кляштар базыльян. З 1620 г. дзейнічаў Брэсцкі езуіцкі калегіум (пабудаваны ў 1623, разбураны ў 1654—67, адноўлены ў 1679, з 1773 — школа), дзе вучыўся бел. мысліцель, грамадска-палітычны дзеяч і педагог К.Лышчынскі (1634—89). У 1696—1760 гг. пры калегіуме дзейнічаў тэатр.

У 1605 і 1612 гг. горад з'яўляўся месцам збору ваен. канфедэрацый; у 1653 г. тут адбыўся сейм Рэчы Паспалітай. У сярэдзіне 17 ст. ў Брэсце налічвалася 14 цэхаў, якія аб'ядноўвалі 48 рамесных прафесій. У 1659 г. засн. манетны двор, дзе ў 1664—66 гг. чаканілі дробныя медныя манеты (барацінкі).



*Брэсцкая Свята-Мікалаеўская царква. 1904—06 гг.*

Жыхары Брэста актыўна ўдзельнічалі ў антыфеад. вайне 1648—51 гг. у Беларусі. У 1648 г. лагерам каля горада размясцілася апалчэнне супраць казакоў, якое сабрала шляхта Берасцейскага (Брэсцкага) пав. 5(15) вер. таго ж года былі пакараны смерцю 17 гараджан,



*Забудова 1920-х г. на пл. Свабоды ў Брэсце.*

*Дом 1920-х г. на вул. Савецкай.*



якіх абвінавачвалі ў падрыхтоўцы паўстання. Сярод пакараных быў грамадскі і царк. дзеяч, ігумен Сімяонаўскага манастыра А.Філіповіч. Калі да Брэста падышлі атрады казакоў, пасланых Б.Хмяльніцкім на Беларусь, у горадзе пачалося паўстанне. Паўстанцы і казацка-сялянскія атрады разбілі вял. атрад апалчэнцаў на чале з брэсцкім кашталянам К.Тышкевічам. У ліст.—снеж. 1648 г. каля горада адбываліся баі паміж паўстанцамі і войскам (наёмнікамі і шляхтай) пад камандаваннем Я.Радзівіла. У пач. 1649 г. яго войска здолела захапіць Брэст; загінула каля 2 тыс. чал., горад быў моцна разбураны. Брэст значна пацярпеў таксама ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. У 1657 г. яго спалілі шведы, у 1660 г. занялі рус. войскі, у 1661г. — войскі Рэчы Паспалітай. У выніку ваен. дзеянняў колькасць «дымоў» скарацілася з 1500 да 869 (на 42%). У перыяд Паўн. вайны 1700—21 гг. у горадзе быў створаны склад правіянту для забеспячэння рус. арміі; у 1706 г. горад наведаў Пётр І; пазней Брэст захапілі і разрабавалі шведскія войскі. Пасля вайны пастановай сойма гараджане былі вызвалены на 4 гады амаль ад усіх дзярж. павіннасцей. Толькі ў 2-й пал. 18 ст. пачалося ажыўленне гандлю і эканомікі горада, які паступова стаў гал. рачным портам на р. Зах. Буг (вывозілі збожжа, пяньку, лес і іншае). Каля 1770 г. падскарбій ВКЛ А.Тызенгаўз заснаваў у Брэсце суконную мануфактуру (у 1780 працавалі 20 рабочых, закрыта ў 1780 г.). У канцы 18 ст. горад налічваў 3,5 тыс. жыхароў. У 1792 г. тут знаходзілася рэзідэнцыя кіраўнікоў Таргавіцкай канфедэрацыі.

З 1795 г. Брэст-Літоўск знаходзіўся ў складзе Рас. імперыі як пав. горад Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1797 г. 623 дамы, з іх 21 мураваны, суконная ф-ка, вінакурня. У 1811 г. 3596 жыхароў. У

*Брэсцкая крэпасць у дзень вызвалення 28.7. 1944 г.*



*Холмскія вароты Брэсцкай крэпасці.*









*Скульптурная кампазіцыя «Смага» ў Брэсцкай крэпасці.*

*Мемарыял «Героям — вартавым граніц» на ўшанаванне памяці воінаў-пагранічнікаў.*

вайну 1812 г. Б. зноў апынуўся ў паласе ваен. дзеянняў і быў захоплены напалеонаўскай арміяй. Вызвалены рус. арміяй 25.12.1812 г. Вялікія страты гораду і яго жыхарам нанеслі пажары 1802, 1822, 1828, 1835 гг. У час пажару 1828 г. згарэлі 220 пабудоў, у тым ліку уніяцкая царква, кляштар брыгітак, 150 крам.

Новы этап у развіцці Брэста пачаўся ў 1836—42 гг., калі на месцы старога горада і замка была пабудавана Брэсцкая крэпасць як частка сістэмы ўмацаванняў на З Рас. імперыі (аўтары праекта інжынер-генералы Н.М.Малецкі, К.І.Оперман, палкоўнік А.І.Фельдман; нагляд за будаўніцтвам ажыццяўлялі генерал І.І.Дэн, пазней генерал-фельдмаршал І.Ф.Паскевіч; крэпасць рэканструявана ў 1864 і 1911—14). Пры будаўніцтве крэпасці былі пакінуты некаторыя пабудовы старога горада. У перабудаваных будынках кляштараў езуітаў, базыльян, бернардзінцаў размяшчаліся канцылярыя каменданта, афіцэрскае казіно, кадэцкі корпус (у 1841—60). Крэпасць знаходзілася на 4 астравах, утвораных рукавамі рэк Мухавец, Зах. Буг і сістэмай каналаў, і складалася з Цэнтр. ўмацавання (Цытадэль) і Цярэспальскага, Валынскага, Кобрынскага перадмаставых умацаванняў. Жылая забудова горада перамясцілася за 2 км ад крэпасці, на 3 фарштаты: Кобрынскі, Валынскі, Забугскі.

У 1845 г. Брэст налічваў каля 18 тыс. жыхароў, быў зацверджаны яго новы герб: на мысе пры зліцці дзвюх рэк круг з сярэбраных шчытоў, над ім узвышаецца штандар крэпасці, у верх. частцы гербавы знак Гродзенскай губ. — зубр. У 1846 г. на Гандлёвай плошчы былі пабудаваны гандл. рады, у 1856 г. кафедральны Крыжаўзвіжанскі касцёл (разбураны ў Вял. Айч. вайну, у 1950-я г. адноўлены і прыстасаваны пад Брэсцкі абл. краязнаўчы музей), у 1865 г. Сімя-



*Казармы Брэсцкай крэпасці на беразе р. Мухавец.*



*Помнік першаму Герою Беларусі У.М.Карвату на бульвары Касманаўтаў.*

онаўская царква (захавалася і дзейнічае). У 1860 г. ў горадзе 6 плошчаў, 225 вуліц і завулкаў, у 1861 г. — 20,9 тыс. жыхароў, 178 лавак, 27 заезных дамоў, карчма. У 1860-я г. працавалі 5 тытунёвых ф-к, 6 прадпрыемстваў па вырабе свечак, розныя майстэрні. Развіццё Б. адбывалася пераважна на У ад крэпасці, на месцы Кобрынскага фарштата. Рэгулярная планіровачная сетка вуліц утварала дробныя прамавугольныя або трапецападобныя кварталы. Пасля завяршэння будаўніцтва чыгунак, якія звязалі Брэст з Варшавай (1869), Масквой (1871), Кіевам (1873), Гомелем (1886), горад ператварыўся ў буйны чыг. вузел (уключаў 5 станцый, 4 вакзалы, 5 лакаматыўных і 2 вагонныя дэпо, інш. прадпрыемствы). У 1883—86 гг. узведзены будынак Цэнтр. чыг. вакзала (архітэктары Я.Гарбуноў, В.Лорберг, Л.Нікалаі; з 1888 г. ў будынку і на перонах мелася электрычнае асвятленне). З 1865 г. дзейнічала 4-класная прагімназія, у канцы 1870-х г. — гарадское 4-класнае і царк.-прыходскае вучылішчы, прыватны пансіён для шляхетных дзяўчат, з 1874 г. — прыватная б-ка, з 1885 г. — музычна-драм. т-ва, у 1903—04 гг. — 2 гімназіі. У 1895 г. існавалі 12 бальнічных устаноў (на 713 ложкаў), 5 аптэк. У 1897 г. ў Брэсце 46 568 жыхароў (з іх 45,5% пісьменных); у 1904 г. працавалі 75 фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў (858 рабочых), 784 рамесныя майстэрні (2834 чал.). Працоўныя горада і яго жыхары актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыі 1905—07 гг. Дзейнічалі Брэсцкія арг-цыі РСДРП (аформілася ў канцы 1905) і Польскай сацыяліст. партыі ў Літве (ППС у Літве, існавала ў 1902—06), Брэсцкая ваенна-рэв. арг-цыя РСДРП (існавала ў 1905—06), якія кіравалі падрыхтоўкай і правядзеннем забастовак, маніфестацый і інш. выступленняў працоўных горада і салдат крэпасці. У 1913 г. ў Брэсце 57,3 тыс. жыхароў. У 1-ю сусветную вайну з 26.8(8.9).1915 г. горад і крэпасць акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. За перыяд акупацыі (да канца 1918) у Брэст-Літоўску было спалена і разбурана 2500 будынкаў з 3670, узарвана частка ўмацаванняў крэпасці. 3.3.1918 г. пасля перагавораў у будынку Белага палаца крэпасці быў падпісаны мірны дагавор Сав. Расіі з Германіяй і яе саюзнікамі. 20.2.1919 г. Брэст-Літоўск захоплены польскімі войскамі, 1.8.1920 г. вызвалены Чырвонай Арміяй. 19.8.1920 г. зноў заняты польскай арміяй. У сак. 1919 — жн. 1920 г. пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)ЛіБ

*Праспект Машэрава і яго працяг — вул. Маскоўская ў Брэсце.*









*Пешаходная частка вул. Савецкай.*

*Гасцініца «Буг».*

у горадзе і наваколлі дзейнічалі Брэсцкія падп. к-т КП(б)ЛіБ (старшыня Я.Б.Быкін) і камуністычнае падполле. Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Брэст увайшоў у склад Польшчы, стаў цэнтрам Палескага ваяв. У 1921 г. горад, цэнтр Брэсцкага пав., налічваў 1941 будынак, 29 460 жыхароў. У 1929 г. — 37 684 жыхары, у 1937 г. — 51,2 тыс. жыхароў. Працавалі чыг., швейныя, зброевая і механічныя майстэрні, тытунёвая ф-ка, гарэлачны з-д акцыянернага т-ва «Познань», піваварны з-д «Карона», лесапільны з-д, млын; у 1929 г. — 2 б-кі (гарадская і настаўніцкая), 2 кінатэатры, 19 школ (з іх 7 пач., 7 прыватных, сярэдняя тэхнічная, гандлёвая, гар. кваліфікацыйная, 2 рамесныя), 7 гімназій (у т.л. 1 дзярж., 3 прыватныя польскія, 2 прыватныя яўр., 1 прыватная руская), 3 бальніцы (гар. на 60 ложкаў, чыгуначная на 150 ложкаў, яўр. на 90 ложкаў), некалькі прыватных лячэбніц. У 1925 г. пабудавана электрастанцыя. У 1929 г. ў мяжы горада былі ўключаны Граеўская Слабодка (іншая назва Граеўка), Кіеўская Слабодка (іншая назва Кіеўка), в. Шпановічы. Дзейнічалі акруговыя і гар. арг-цыі КПЗБ, КСМЗБ; рэв.-дэмакратычныя арг-цыі: Бел. сялянска-работніцкая грамада, клуб «Змаганне»; культ.-асв. арганізацыя Т-ва бел. школы. У 1922—25 гг. баставалі рабочыя друкарні, тытунёвай ф-кі, лесапільнага з-да, чыгуначнікі, швейнікі і інш. 21.2.1926 г. адбылася дэманстрацыя беспрацоўных, у 1928—30 гг. — выступленні рабочых лесапільных прадпрыемстваў, чыгуначнікаў. У студз. 1927 г. ў горадзе адбыўся суд, арганізаваны ўладамі Польшчы, над групай дзеячаў КПЗБ, сярод якіх былі В.З.Харужая і З.Ф.Паплаўскі.

З 22.9.1939 г. Брэст у складзе БССР, з 4.12.1939 г. — цэнтр Брэсцкай вобл., з 15.1.1940 г. — аднайменнага раёна. У 1940 г. 68,8 тыс. жыхароў, 24 прам. прадпрыемствы, 17 школ, 2 тэхнікумы, 3 вучылішчы, Рус. драматычны тэатр. У Вял. Айч. вайну з 22.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці сав. воінамі доўжылася да канца ліп. 1941 г. За перыяд акупацыі гітлераўцы стварылі ў горадзе 4 канцлагеры з 8 аддзяленнямі і філіяламі, загубілі звыш 40 тыс. чал. (у вобласці больш за 83,9 тыс. чал.), зруйнавалі ўсе прадпрыемствы і культ.-асв. ўстановы, амаль палову жыллёвага фонду. У Брэсце, раёне і вобласці супраць ворагаў дзейнічалі абласная і гарадская

*Жылы раён «Усход».*







*Брэсцкі тэатр драмы і музыкі.*

*Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С.Пушкіна.*

антыфаш. арг-цыі, патрыятычнае і маладзёжнае падполлі, падп. абкомы і гаркомы, КП(б)Б і ЛКСМБ, Брэсцкае партыз. злучэнне, выдаваліся падп. газ. «За Родину», «Заря». 28.7.1944 г. горад вызвалены ў ходзе Люблін-Брэсцкай аперацыі.

Пасля вызвалення горад паступова адрадзіўся і вырас у буйны прамысловы і культ. цэнтр Рэспублікі Беларусь. Ужо ў 1945 г. ў адпаведнасці з рашэннем Савета Міністраў БССР пачаліся работы па ген. плану аднаўлення і рэканструкцыі Брэста. Распрацоўка яго вялася супрацоўнікамі ін-та «Белдзяржпраект» і была завершана ў 1948 г. (план удакладняўся і карэкціраваўся архітэктарам Г.А.Парсаданавым да 1953). Ген. план вызначаў напрамак развіцця горада на 2 пасляваен. дзесяцігоддзі і прадугледжваў удасканаленне планіровачнай структуры горада, разбіваў усю тэр. Брэста на планіровачныя раёны, якія, у сваю чаргу, дзяліліся на прам. і жылыя раёны, мікраараёны. Горад развіваўся ва ўсходнім (раёны Кіеўка і Усходні), паўн. (Адамкава—Рэчыца—Граеўка) і часткова паўднёнвых напрамках. Прадугледжвалася аднаўленне, рэканструкцыя і добраўпарадкаванне цэнтра горада і гал. магістралей — вул. Леніна (звязвала Прывакзальную пл. з набярэжнай р. Мухавец) і вул. Маскоўскай (пачыналася каля Брэсцкай крэпасці і пераходзіла ў шашу Брэст—Масква). Забудоўвалася пл. Леніна як адм.-грамадскі цэнтр Б. У цэнтры ўзводзіліся 4—5-і павярховыя дамы (архітэктары А.Сувораў, З.Леўчанка); рэканструяваны чыг. вакзал (1956), пабудаваны універмаг (1955), гасцініца «Буг» (1958). Згодна з новым ген. планам развіцця Б., які быў зацверджаны Саветам Міністраў БССР у 1965 г. (распрацаваны ў ін-це «Белдзяржпраект», архітэктары Ю.Глінка, Я.Ліневіч, А.Гарбачоў), далейшае развіццё горада адбывалася ва ўсх. напрамку: стварыўся ўсходні прам. вузел, вялося будаўніцтва буйнейшага раёна Усход, які ўключае 7 мікраараёнаў і грамадскі цэнтр. Спрыяльным для прам. і жыллёвага будаўніцтва па ген. плану з'яўляўся і паўд. напрамак. У 1976 г. план быў скарэкціраваны да 2000 г. ў Мінскім філіяле Цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва (архітэктары Г.Булдаў, Р.Арцёмчык). У 1970-я г. пачалося асваенне зямель пад жылую забудову ў паўд. напрамку (левабярэжная частка р. Мухавец). Паўднёвы жылы раён разлічаны на 70—80 тыс. жыхароў і складаец-

*Цэнтральны універмаг на вул. Маскоўскай.*









*Музей гісторыі горада.*

*Экспанаты Брэсцкага музея транспарту пад адкрытым небам.*

ца з 6 мікрараёнаў. У пач. 1970-х г. ў Брэсце сфарміравалася 6 раёнаў, дзе вялося будаўніцтва жылля: паўднёвы, цэнтральны, усходні, Граеўскі, Адамкова—Рэчыца і раён Камянецкай шашы. Паводле праекта планіроўкі цэнтра Брэста 1968 г. (архітэктары В.Анікір, Г.Трушнікава) фарміруецца ансамбль грамадскіх будынкаў у раёне пл. Леніна, рэканструюцца вуліцы Леніна і Савецкая, забудоўваецца Маскоўская вуліца. У 1985 г. ў Беларускім н.-д. і праектным ін-це горадабудаўніцтва распрацаваны праект рэгенерацыі гіст. часткі Брэста, які прадугледжваў захаванне планіроўкі, што склалася гістарычна, як помніка горадабудаўніцтва. Гэты праект стаў першым вопытам у серыі праектаў рэгенерацыі гіст. гарадоў Беларусі. У сувязі з будаўніцтвам прадпрыемстваў паўд. прам. вузла ў 1980-я г. асвойваецца новы раён горада — паўд.-ўсходні (з 1983 г. забудоўваецца мікраараён Паўд. Усход-3; архітэктары Карват, М.Козік). У паўднёвым прам. вузле размешчана маш.-буд. аб'яднанне. У 1992 г. БелНДІПгорадабудаўніцтва распрацаваў чарговы ген. план развіцця Брэста (гал. архітэктар А.Зайцава), які прапануе канцэпцыю комплекснага развіцця горада. Адметнай асаблівасцю праекта з'яўляецца сац. накіраванасць горадабудаўнічых рашэнняў. У ім больш поўна ўлічана інтэграцыя паміж горадам і сумежнымі з ім тэрыторямі. Умовы планіровачнага развіцця дазваляюць пашырэнне горада ў паўн. і паўд. напрамках. Асноўнае жыллёвае будаўніцтва весці на тэрыторыях, якія прымыкаюць да вул. Паркавай і працягу бульвара Шаўчэнкі ў паўд. часткі горада, да вул. Лейтэнанта Рабцава ў паўн. часткі, а таксама да вул. Піянерскай у раёне Бярозаўкі. Актыўнаму асваенню належыць тэрыторыя, абмежаваная вул. Маскоўскай і р. Мухавец.

У пасляваен. перыяд у межы горада ўвайшлі навакольныя вёскі: Адамкова, Бярозаўка 1-я, Бярозаўка-2-я (усе 1958), Бярозаўка (1968), Валынка (у 1921—39, наз. Траўгутава), Вулька-Падгародска, Гузні (абедзве 1968), Дуброўка (1979), Кавалёва (1958), Кацельня-Падгародская (1968), Кацінбор (1979), Крушына (1968), Лысая Гара (1958), Пугачова (1979), Рэчыца, Трышын (абедзве 1968); Паўднёвы пасёлак (1958). У 1945 г. ў Б. налічвалася 22,9 тыс. жыхароў, у 1959 г. — 73,6 тыс., 1970 г. — 121,5 тыс., 1979 г. — 177 тыс.,

*Прывакзальная плошча ў Брэсце.*



1989 г. — 259 тыс., у 1998 г. — 299,2 тыс. жыхароў.

Працуюць прадпрыемствы электратэхнічнай і электроннай (сярод іх электралямпавы з-д), металаапрацоўчай, лёгкай («Брэсцкі панчошны камбінат», «Дываны Брэста» і інш.), харч., будаўнічых матэрыялаў прам-сці. У 1996 г. створана свабодная эканам. зона «Брэст». З кастр. 1939 г. працуе Брэсцкая мытня, з 1991 г. — мытня «Заходні Буг». Дзейнічаюць Брэсцкі дзярж. ун-т імя А.С. Пушкіна, Дзярж. тэхн. ун-т, 2 тэхнікумы; абласныя Тэатр драмы і музыкі і Тэатр лялек; Дзярж. архіў Брэсцкай вобл.; музеі: археалагічны «Бярэсце» (з 1983), абласны краязнаўчы, абароны Брэсцкай крэпасці-героя, «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці». У Брэсце праводзяцца міжнар. штогадовыя фестывалі: тэатральны «Белая вежа», дзіцячы музычны «Пралескі». Сярод шматлікіх помнікаў гісторыі горада самы значны — мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой» (створаны ў 1969—71). Помнікі архітэктуры: будынкі банка (1926), гарадскіх асабнякоў пач. 19 ст. (перакрыжаванні вул. Міцкевіча з вуліцамі Савецкай і Камсамольскай), пошты (сярэдзіна 19 ст.), чыг. вакзала (1886); Мікалаеўская царква (1906), Сімяонаўскі кафедральны сабор (1865), кафедральны Крыжаўзвіжанскі касцёл (1856), жылыя дамы канца 19 — сярэдзіны 20 ст. на вуліцах Савецкай, 17 Верасня, Савецкіх пагранічнікаў.

Брэст — радзіма Героя Беларусі У.М.Карвата, Герояў Сав. Саюза А.С. Благавешчанскага, П.І.Івашуціна, І.П. Мазурука, вучонага-славіста В.В.Макушава, матэматыка Я.П.Громера, педагога В.М.Сарокі, кампазітара і дырыжора В.М.Трамбіцкага, бел. пісьменніка М.М.Пракаповіча, мастакоў Л.Б.Алімава, А.А.Алонцава, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру 1978 г., прэм'ер-міністра Ізраіля ў 1977—83 гг. М.Бегіна і інш.



*Гандлёвы комплекс на праспекце Машэрава.*



*Рака Мухавец у Брэсце.*



ВОБЛАСЦЬ
НАВАГРУДСКІ Р-Н
КАРЭЛІЦКІ Р-Н
ДЗЯТЛАЎСКІ Р-Н
ГРОДЗЕНСКАЯ
СЛОНІМСКІ РАЁН
ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН
ЛЯХАВІЦКІ РАЁН
НЯСВІЖСКІ Р-Н
МІНСКАЯ ВОБЛ.
СТОЎБЦЫ
БАРАНАВІЧЫ
Гарадзішча
Мір
Новая Мыш
Ляхавічы
Слуцк
Лунінец
Навагрудак
Ліда
Навальня
Мінск
Слонім
Ваукавыск
Слонім, Гродна
Кобрын, Івацэвічы
Брэст
Івацэвічы
Ляхавічы
АКАЗНІК БАРАНАВІЦКІ
Ляхавічы
Пост 1
Мацкевічы
Дабраполь
Палонка
Дзекалы
Дзеткавічы
Цівунцы
Сасновая
Лясная
Падгорная
Яжоны
Добры Бор
Колбавічы
Ямічна
Кайпакі
Падасайцы
Мілавіды
Стрэлава
Падкрыніца
Гута
Навасады
Кадычыцы
Уцёс
Рагозніца
Багушы
Вял. Лукі
Мал. Лукі
Млынок
Мірны
Замошша
Ястрамбель
Лесіна
Светлы
Груды
Тартакі
Паўлінава
Бярозаўка
Грыцавец
Малахоўцы
Скварчыцы
Кунцавічы
Гінцавічы
Дзерайная
Маглляны
Прыазёрная
Спачынак
Жамчужны
Сяўрукі
Альбінкі
Небыты
Гардзейчыкі
Узнагі
Глініша
Мал. Валахва
Вял. Валахва
Грабавец
Капані
Русіно
Крыжыкі
Кабушкіна
Нов. Лукі
Янова
Гірава
Дубава
Забароддзе
Адахаўшчына
Залюбічы
Ятвезь
Падлясейкі
Якімавічы
Альсевічы
Вял. Каўпеніца
Мал. Каўпеніца
Антанова
Новы
Пятрэвічы
Цяплівады
Дубішча
Важгінты
Вяршок
Паронасіны
Забалоцце
Лебяжаны
Белалессе
Стар. Мыш
Дамашэвічы
Сталовічы
Скарчова
Новы Свет
Дуброўна
Крошын
Стары Двор
Макашы
Кломпікі
Юшкавічы
Цішкавічы
Ніжн. Чэрніхава
Верхн. Чэрніхава
Ліхасельцы
Голынка
Нагорная
Чэрніхава
Мелехавічы
Уласы
Прыдаткі
Загор'е
Судары
Торчыцы
Заполле
Навікі
Цюкантавічы
Пастарынне
Палянічыцы
Драгабыль
Вял. Гацішчы
Арабаўшчына
Кайшы
Сакаловічы
Агароднікі
Лугавая
Цешаўля
Шпакоўцы
Цюхнявічы
Мордычы
Зорычы
Жалезніца
Катмінаўцы
Кузевічы
Крутаўцы
Гірмантаўцы
Жабінцы
Галынка
Багушы
Нагорная
Станкевічы
Калдычэва
Навасёлкі
Завоссе
Залессе
Круглікі
Стайкі
Азярэц
Вольна
Савічы
Родкавічы
Дудзічы
Задзвея
Петкавічы
Іцкалдзь
Рэпічы
Барацінa
Паланечка
Рабковічы
Росаш
Бартнікі
Вызарак
Скробава
Мітрапольшчына
Высадавічы
Рудашы
Тарцавічы
Быткоўшчына
Пянчын
Шчэрбавічы
Савецкі
Брыксічы
Кісялі
Несіяры
Лозы
Слабажаны
Мастытычы
Ялуцавічы
Буйневічы
Казловічы
Сенічаняты
Соргавічы
Гайбуты
Андрэйцы
Пачапава
Амневічы
Душкаўцы
Насейкі
Паручын
Болцічы
Мікулічы
Вял. Пурнявічы
Стралаўшчына
Данейкі
Мал. Сваротва
Кругляны
Сайцавічы
Мойчадзь
Серабрышча
Скарродзіцы
Люшнева
Перхавічы
Іванкавічы
Зверайшчына
Верхлессе
Бор
Лотвічы
Ягадная
Свіраны
Елава
Грыбаўшчына
Вял. Сяло
Міхнаўшчына
53°20'
53°10'
53°00'
52°50'
25°30'
25°45'
26°00'
26°15'
1. Зазер'е
2. Мал. Пурневічы
3. Пархімаўшчына
4. Чарнявічы
5. Голевічы
6. Драздзы
7. Навасёлкі
8. Вял. Сваротва
9. Зялёная
10. Гаранавічы
11. Канюшоўшчына
12. Пруды
13. Алізараўшчына
14. Кутаўшчына
15. Ясенец
16. Емельянавічы
17. Застарынне
18. Пярэвалака
19. Сялявічы
20. Крапачы
21. Навікі
22. Медзяневічы
23. Красевічы
24. Новыя Войкавічы
25. Стар. Войкавічы
26. Першамайскі
27. Торчыцы
28. Кастрычніцкі
29. Казлякевічы
30. Лаўрынавічы
31. Анісімавічы
32. Зорная
33. Бараўцы
Маштаб 1:400 000



# БАРАНАВІЦКІ РАЁН

Размешчаны на Пн Брэсцкай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. як Навамышскі, у 1957 г. быў перайменаваны ў Баранавіцкі р-н. Пл. 2,2 тыс. км², насельніцтва 47,8 тыс. чал. (2003 г.). Цэнтр — г. Баранавічы. Уключае г.п. Гарадзішча, 244 сельскія населеныя пункты, 21 сельскі савет: Велікалуцкі, Вольнаўскі, Гірмантаўскі, Жамчужненскі, Карчоўскі, Каўпеніцкі, Крошынскі, Ляснянскі, Малахавецкі, Мілавідскі, Моўчадскі, Мядзеневіцкі, Навамышскі, Падгорнаўскі, Паланэчкаўскі, Палонкаўскі, Пачапаўскі, Петкавіцкі, Сталовіцкі, Уцёскі, Цешаўлянскі, а таксама Гарадзішчанскі пасялковы Савет. Па тэрыторыі раёна праходзяць чыгункі Брэст—Мінск, з Баранавіч на Ліду, Слуцк, Лунінец, Слонім; аўтадарогі Брэст—Мінск, Кобрын—Івацэвічы—Стоўбцы, Баранавічы—Слонім—Гродна, з Баранавіч на Навагрудак, Ляхавічы, Нясвіж. Паўн. частка ў межах Навагрудскага ўзвышша, паўд. — на Баранавіцкай раўніне. Паверхня ўзгорыста-раўнінная, пераважаюць вышыні 180—240 м. Самы высокі пункт раёна 267 м знаходзіцца каля в. Зялёная. Карысныя выкапні: торф, будаўнічыя пяскі, гліны, пясчана-жвіровы матэрыял. Найбольшая рака — Шчара з прытокамі Мышанка, Лахазва, Іса, на Пн — р. Сэрвач, на ПнЗ — Моўчадзь. Створана вадасховішча Гаць. Ёсць азёры Калдычэўскае і Дамашэўскае. Лясы займаюць 33% тэрыторыі. Пад балотамі 18,7 тыс. га, амаль усе нізінныя, часткова асушаныя. На тэрыторыі раёна знаходзяцца частка біялагічнага заказніка Баранавіцкі, Моўчадскае насаджэнне еўрапейскай лістоўніцы. Ахоўваецца помнік прыроды Карчоўскія дубы-блізняты. Агульная плошча с.-г. угоддзяў 117 тыс. га, з іх асушаных 18,6 тыс. га. Асн. галіны сельскай гаспадаркі — мяса-малочная жывёлагадоўля, птушкагадоўля, бульбаводства. Вырошчваюць цукровыя буракі, збожжавыя культуры, лён, агародніну. Прамысловасць раёна прадстаўлена прадпрыемствамі паліўнай, дрэваапрацоўчай, харчовай галін.

**БАРАНАВІЧЫ** — горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Баранавіцкага р-на, за 201 км на ПнУ ад Брэста. Вузел чыгуначных (лініі на Мінск, Брэст, Слуцк, Лунінец, Ліду, Ваўкавыск) і аўтамабільных дарог.

З інтэнсіўным чыг. будаўніцтвам у Рас. імперыі ў 2-й пал. 19 ст. звязана ўзнікненне Баранавіч. У ліст. 1871 г. была пабудавана невялікая (3-га класа) чыг. станцыя на Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы. Драўляны будынак вакзала, станцыйныя пабудовы, нешматлікія дамы, у якіх жылі чыг. рабочыя, — такім



*Мемарыяльны комплекс «Урочышча Гай».*


*Пакроўскі сабор у г. Баранавічы.*

спачатку было паселішча, якое цяпер мае назву Баранавічы. Паступова чыг. станцыя развівалася, яна стала горадабудаўнічай асновай для фарміравання пасёлка. Непадалёку ад яе будаваліся паравозныя майстэрні, якія пазней ператварыліся ў дэпо. Жыхарам пасёлка прыходзілася арандаваць за досыць высокую плату зямлю ў графіні Е.А.Развадоўскай — уладальніцы маёнтка, які прымыкаў да чыгункі ў раёне станцыі.


*Баранавіцкі строй — узоры нацыянальнага адзення.*

Штуршком для больш інтэнсіўнага засялення мясцовасці, што прымыкала да чыг. станцыі з Пд, паслужыў клопат Е.А.Развадоўскай аб наданні пасёлку статуса мястэчка, які і быў яму прысвоены ў 1884 г. Мястэчка атрымала назву Развадова. У сярэдзіне 1880-х г. тут налічвалася 120 дамоў, каля 1,5 тыс. жыхароў. У 1884 г. пачаў дзейнічаць участак чыгункі Вільна—Лунінец—Пінск. Непадалёку ад чыг. ст. Развадова на дзярж. зямлі ўзнік яшчэ адзін пасёлак. У 1886 г. ў эксплуатацыю здаецца яшчэ адна лінія Палескіх чыгунак Баранавічы—Беласток. Адкрыта чыг. ст. Баранавічы-Палескія. Баранавічы ператварыліся ў чыгуначны вузел, які звязаў важнейшыя эканамічныя цэнтры краіны. У 1890-я г. два пасёлкі зліліся ў адзін населены пункт — Баранавічы. Каля станцыі Баранавічы-Палескія будуюцца млыны, свірны, сухарны з-д Віленскага інтэнданцтва, а таксама харчовы пункт. Сюды пераводзяцца на пастаяннае раскватараванне некалькі батальёнаў чыг. брыгады і 2 батальёны пях. палка. Гэтыя пачынанні ваеннага ведамства, а таксама развіццё чыг. станцый патрабавалі шмат прац. рук, што дало штуршок імкліваму прытоку насельніцтва, росту гандлёва-прамысловай дзейнасці. Паводле перапісу 1897 г. ў Баранавічах налічвалася 8718 жыхароў, 834 будынкі, 4 прадпрыемствы, двухкласныя школы (чыгуначная і дабрачыннага таварыства), крамы, паштова-тэлеграфная кантора, аптэка, аптэчны магазін і інш.

Перспектывы развіцця ў сувязі з выгадным размяшчэннем і адсутнасцю сродкаў на добраўпарадкаванне вымусілі мясц. ўлады ўзбудзіць у пач. 20 ст. хадайніцтва перад царскім урадам аб пераводзе мястэчка ў разрад горада, аднак яно закончылася беспаспяхова. Але гэта не спыніла бурнага развіцця Б., у якіх



з'яўляюцца ўсё новыя невялікія прамысловыя і гандл. прадпрыемствы.

У 1904 г. сярод салдат чыг. брыгады дзейнічала с.-д. група, аб чым сведчаць матэрыялы «Справы аб абвінавачанні Васіля Чуркіна, Яніса Ровіча, Карла Рэйнерта, Яніса Сісэна, Карла Уніса і іншых у распаўсюджванні пракламацый на латышскай мове сярод ніжніх чыноў чыгуначнай брыгады ў мястэчку Баранавічы».

13 сак. 1905 г. ў Б. баставалі 40 шаўцоў, якія патрабавалі павелічэння заработнай платы. 30 чэрв. адбылася агульная забастоўка рамеснікаў. Пад вечар каля 200 забастоўшчыкаў з крыкамі «Долой правительство!», «Долой монархию!» прайшлі па вуліцах. 2 ліп. 1905 г. зноў успыхнула агульная забастоўка рамеснікаў, было арыштавана 7 чал.

12 кастр. 1905 г. чыгуначнікі аб'явілі забастоўку, якая працягвалася 14 дзён і прайшла паспяхова. З пачатку ліст. 1905 г. ўзмацнілася хваляванне сярод салдат чыг. брыгады. Гэта надало больш рашучы і арганізаваны характар руху чыгуначнікаў. У снежні яны падтрымалі выступленне маскоўскага пралетарыяту.

9 снеж. 1905 г. баранавіцкія забастоўшчыкі пад кіраўніцтвам аднаго з актыўных удзельнікаў рэв. руху ў горадзе інжынера М.І.Ляпко сапсавалі апаратуру паштова-тэлегр. канторы, перарваўшы



Помнік у гонар заснавання чыгуначных станцый у г. Баранавічы.

сувязь з губернскім Мінскам. Спыніўся рух паяздоў, у мястэчку праходзілі бурныя мітынгі. 10 снеж. ў Б. быў арыштаваны дэпутат ад Маскоўскага савета і прадстаўнік рэв. партый, які прыбыў з Масквы і выступаў на ўсіх чыг. мітынгах, раздаваў рэв. пракламацыі. У час аднаго з мітынгаў былі арыштаваны трое салдат чыг. брыгады, але хутка былі вызвалены салдатамі колькасцю да 150 чал.

11 снеж. 1905 г. на лагерным пляцы ў размяшчэнні чыг. брыгады сабраліся, нягледзячы на надзвычайнае становішча, сотні салдат, некалькі дзесяткаў рабочых, мястэчковая моладзь. У Баранавічах распаўсюджваліся рэв. лістоўкі. Пачаўся мітынг. Правядзенню яго паспрабаваў перашкодзіць нач. брыгады ген.-маёр Арцем'еў. У суправаджэнні групы афіцэраў ён прыбыў на пляц і загадаў усім разысціся. Але ні салдаты, ні рабочыя не выканалі гэта распараджэнне. Тады Арцем'еў, раз'юшаны непаслу-



Пакроўскі сабор у г. Баранавічы. Мазаіка «Спас з данатарам».



Пакроўскі сабор у г. Баранавічы. Фрагмент іканастаса. Разьба па дрэве.





*Помнік С.І.Грыцаўцу ў г. Баранавічы.*

шэнствам, пачаў распіхваць удзельнікаў мітынгу. Рабочыя ў адказ збілі генерала, сарвалі з яго пагоны, зламалі шашку. Афіцэры з акружэння генерала пачалі страляць у рабочых і паранілі некалькі з іх. Але ў рабочых таксама знайшлася зброя. Адбылася перастрэлка. Пасля таго як афіцэрам падаспела дапамога — дзяжурны па брыгадзе з 30 салдатамі, удзельнікі мітынгу вымушаны былі разысціся. На наступны дзень, 12 снеж., у Баранавічы прыбыў карны атрад на чале з палкоўнікам Рэрбергам, а 13 снеж. — камандзір 43-й пях. дывізіі ген.-лейт. Арлоў з батальёнам пяхоты. 12 снеж. 1905 г. ў мястэчку і на станцыях было аб'яўлена ваеннае становішча. Пачаліся арышты. Найбольш актыўныя ўдзельнікі рэв. падзей былі адпраўлены ў Віленскую турму.

Да 16 снеж. уладам удалося наладзіць чыг. рух праз Баранавічы Нягледзячы на ўвядзенне ваеннага становішча, у Баранавічах поўнага спакою не было дасягнута. У жніўні 1913 г. адбылася забастоўка прыказчыкаў, якой кіраваў прафсаюз. Яны патрабавалі ўвесці 12-гадзінны прац. дзень. Гэта патрабаванне было задаволена. 10 вер. 1913 г. ў Б. адбылася забастоўка швачак, якія патрабавалі ўвесці 9-гадзінны рабочы дзень замест 11-гадзіннага, ветлівага абыходжання з работнікамі, павысіць заработную плату, увесці бясплатнае медыцынскае абслугоўванне. У 1914 г. ў мястэчку адбылася першамайская стачка. У 1911 г. працавалі 3 чыг. вучылішчы, у якіх налічвалася 16 настаўнікаў і займалася 716 дзяцей.

Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў Баранавічах пражывала больш за 30 тыс. чал., дзейнічалі 3 цагельныя, маслабойны, калёснай мазі, 2 лесапільныя, чыгуначны і сухарны з-ды, чыг. рамонтныя майстэрні, 2 млыны, 3 ф-кі млынавых жорнаў. Баранавічы з'яўляліся таксама буйным гандл. цэнтрам. У 1912—13 гг. выдавалася газ. «Баранавіцкі лісток аб'яў». Дзейнічала тэлеф. сетка агульнага карыстання (з 1911), лік абанентаў якой складаў 177 чал. (канец 1912). У мястэчку ў гэты час меліся 4 царквы, капліца, 10 малітоўных дамоў, 7 рознага тыпу пач. школ, 2 аптэкі; працавалі 13 урачоў, 6 зубных урачоў, 8 акушэрак, ветэрынарны ўрач, 8 аптэкарскіх магазінаў, шэраг невялікіх прадпрыемстваў (маслабойны, чыгуналіцейны, калёснай мазі з-ды, ф-ка драўляных вырабаў, сахарны з-д ваеннага ведамства, 2 друкарні, 2 млыны і інш.), крамы, налічвалася 35 вуліц, з якіх толькі адна была цалкам брукаваная, а 5 — толькі часткова, іх асвятлялі 23 газавыя ліхтары. З 1913 г. існавала тэлеф. сувязь з Варшавай, Масквой, Вільняй (праз Мінск).

У пач. 1-й сусветнай вайны ў Баранавічах знаходзілася Стаўка Вярх. галоўнакамандуючага рас. арміяй, якую 10 разоў наведаў імператар Мікалай II. У выніку ням. акупацыі (з восені 1915) Б. былі значна разбураны. 5.1.1919 г. Чырвоная Армія вызваліла мястэчка.

*Баранавічы ў пачатку 20 ст.*









*Крыжаўзвіжанскі касцёл (1921) у г. Баранавічы.*

*План забудовы мястэчка Развадова. 1884 г.*

У адпаведнасці з пастановай Прэзідыума ЦВК БССР ад 6.2.1919 г. «Аб стварэнні Баранавіцкага павета ў Мінскай губерні» Баранавічам быў нададзены статус горада. Вялікую работу па арганізацыі і ўмацаванні сав. улады ў горадзе і павеце праводзіў Баранавіцкі павятовы рэв. камітэт.

У сак. 1919 г. — ліп. 1920 г. і з верасня 1920 г. Баранавічы былі заняты польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 18.3.1921 г. горад Баранавічы ўвайшоў у склад Польшчы і стаў цэнтрам павета Навагрудскага ваяв. Паводле перапісу 1931 г. ў горадзе 22 181 жыхар. У гэту лічбу не ўваходзілі ваенныя, якіх было шмат тут. Аб занятках гараджан можна меркаваць па тым пераліку прафесій, які прыведзены ў «Календары Баранавіцкім» за 1937 год: саматужнікі, купцы, чыноўнікі, працаўнікі па найме, прадстаўнікі свабодных заняткаў, сяляне. Самымі шматлікімі былі саматужнікі, гандляры, будаўнікі і чыгуначнікі. Прамысловасць горада ўяўляла сабой невялікую колькасць малых прадпрыемстваў, занятых у асноўным перапрацоўкай мясц. сыравіны. Самым буйным з іх было прадпрыемства па выпуску мясных паўфабрыкатаў і кансерваў. На ім працавала каля 200 чал. На працягу ўсяго перыяду польскай акупацыі вялася барацьба за аб'яднанне з БССР. Нацыянальна-вызваленчы рух узначальвалі Камуністычная партыя Зах. Беларусі і Бел. сялянска-работніцкая грамада (разгромлена ў 1927). У лютым 1936 г. адбыўся масавы мітынг працоўных горада і навакольных вёсак супраць рэакцыйнай палітыкі ўрада Пілсудскага (удзельнічала каля 5 тыс. чал.).



*Чыгуначны вакзал станцыі Баранавічы-Палескія.*







*В.П.Таўлай.*

*К.І.Цялікша.*

*Г.М.Халасцякоў.*

Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР у 1939 г. Баранавічы — цэнтр вобласці (снежань 1939 — студзень 1954). У 1940—41 гг. дзейнічаў Баранавіцкі драматычны тэатр. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў горадзе налічвалася каля 45 тыс. жыхароў.

27.6.1941 г. Баранавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ператварылі горад у моцны вузел абароны з развітой сістэмай траншэй, дзотаў, вял. колькасцю мінных палёў і дротавых загарод. Дзейнічалі Баранавіцкае антыфаш. падполле, Баранавіцкія падпольныя абком і гарком КП(б)Б, абком і гарком ЛКСМБ. Падпольны гарком выдаваў газ. «За Родину!». 6 ліп. 1944 г. сав. войскі акружылі Баранавіцкую групіроўку праціўніка і пасля 2 дзён жорсткіх баёў разграмілі яе. Горад вызвалены 8.7.1944 г. ў выніку Баранавіцка-Слонімскай аперацыі. У яго вызваленні ўдзельнічалі 28-я, 65-я паветраныя арміі, авіяцыя далёкага дзеяння. 28 воінскім злучэнням і часцям было прысвоена ганаровая найменне «Баранавіцкіх». За перыяд акупацыі гітлераўцы знішчылі ў Баранавічах каля 31 тыс. ваеннапалонных і мірных жыхароў, 80% прам. прадпрыемстваў, вучэбныя ўстановы і культ. цэнтры, 2,5 тыс. жылых дамоў.

У 1944—48 гг. узнавіў пастаноўкі Баранавіцкі драматычны тэатр. З 8.1.1954 г. Баранавічы знаходзяцца ў складзе Брэсцкай вобл., з 20.5.1954 г. — цэнтр Навамышскага, з 8.4.1957 г. — Баранавіцкага р-наў. Паводле перапісу 1959 г. ў горадзе было 56 730, у 1970 г. — 101,5 тыс. жыхароў. У 2000 г. — 160 тыс. жыхароў.

У пасляваеннай прам. структуры горада атрымалі развіццё машынабудаванне, лёгкая і харчовая прам-сць. Працуюць з-ды аўтаагрэгатны, аўтаматычных ліній, станкапрылад, станкабудаўнічы, гандлёвага машынабудавання, вытв. баваўнянае аб'яднанне, абутковая, мэблевая, мастацкіх вырабаў, трыкатажная і швейная ф-кі, малочны, мясакансервавы, харчовых прадуктаў і хлебапрадуктаў камбінаты, іншыя прадпрыемствы. Дзейнічаюць: дзярж. універсітэт, філіялы Бел. тэхнічнага ун-та, Брэсцкага ун-та імя Пушкіна, Бел. недзяржаўнага ін-та правазнаўства, а таксама каледжы лёгкай прам-сці, тэхналагічны, вучылішчы музычнае, медыцынскае і вышэйшае прафесійна-тэхнічнае лёгкай прам-сці, прафесійна-тэхн. будаўнікоў, прафесійна-тэхн. ліцэй машынабудавання, эканоміка-юрыд. тэхнікум, ліцэй, 5 гімназій, 16 агульнаадукац. школ, 3 муз., мастацкая і харэаграфічная школы, шмат дзіцячых дашкольных устаноў, бібліятэчная сістэма, краязнаўчы музей, Дом культуры, Палац культуры тэкстыльшчыкаў, Дом культуры чыгуначнікаў.

У горадзе каля 100 помнікаў, памятных знакаў і месцаў, прысвечаных розным гіст. падзеям. На паўн.-ўсх. ускраіне Баранавіч у 1971—72 гг. пабудаваны мемарыяльны комплекс «Урочышча Гай», які ўшаноўвае памяць 3 тыс. чэхаславацкіх грамадзян, загубленых ням.-фаш. акупантамі ў 1942 г. У цэнтры горада на вуліцы Камсамольскай устаноўлены (1949 г.) помнік двойчы Герою Сав. Саюза С.І.Грыцаўцу, які загінуў у 1939 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Помнікі ўстаноўлены на брацкіх магілах сав. воінаў, падпольшчыкаў, загінуўшым у Вял. Айч. вайну, на магілах ахвяр фашызму, на магілах Герояў Сав. Саюза В.А.Зверава, І.П.Кадачнікава, У.З.Царука; у гонар заснавання чыг. станцый Баранавічы-Палескія і Баранавічы-Цэнтральныя і інш. Захаваліся помнікі архітэктуры — Пятроўскі сабор (пабудаваны з цэглы ў 1924—31 гг.), касцёл (у 1924 г. з цэглы).

Баранавічы — радзіма бел. пісьменнікаў В.П. Таўлая, Яшы Бурша (Анісяровіча Янкі); кампазітараў У.А.Грушэўскага, Л.І.Сімаковіча, У.Я.Солтана, Л.К.Шлег; мастакоў А.М.Варвашэні, С.Ф.Палякова, А.І.Родзіна, Г.У.Саламянкі, С.Г.Харашаўцава, Ю.І.Хілько; Героя Сав. Саюза Г.М.Халасцякова. З Баранавічамі звязаны жыццё і дзейнасць бел. пісьменніка



Р.К.Сабаленкі, літаратурнага крытыка А.К.Клышкі, спявачкі Бел. дзярж. тэатра оперы і балета В.Цішынай.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 28 км на Пн ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 13 жыхароў, 6 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав., 27 двароў, 204 жыхары, вадзяны млын. У 1909 г. 44 двары, 267 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР, 173 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. ў вёсцы 125 жыхароў. У 1998 г. 15 двароў, 11 жыхароў.

**АДАХАЎШЧЫНА** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 10 км на Пн ад Баранавіч, каля р. Шчара. 77 жыхароў, 53 гаспадаркі (2005).

У 1866 г. тут пабудавана Ільінская царква, якую наведвала каля 3 тыс. вернікаў (1879). Царкве належала 60 дзес. зямлі, у тым ліку 30 дзес. ворыва. У 1886 г. сяло, 63 двары, 580 жыхароў, 2 царквы і школа. У 1909 г. сяло і маёнтак у Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 161 двор, 1070 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4. 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У 1940 г. 76 гаспадарак, 238 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. На франтах вайны загінулі 11 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 508 жыхароў. У 1970 г. да яе далучаны суседнія вёскі Адахаўшчына 2-я і Адахаўшчына 3-я. У 1998 г. 33 двары, 34 жыхары, магазін. Радзіма бел. дзярж. дзеяча М.І.Ігнатовіча.



*Ільінская царква ў в. Адахаўшчына (1996).*

**АЗЯРЭЦ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Баранавіч, за 20 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 24 жыхары, 18 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак (1 двор, 9 жыхароў) у Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., у пачатку 20 ст. хутар у Чэрніхаўскай вол. (1 двор, 3 жыхары). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. хутар, 238 жыхароў, у 1970 г. — 135 жыхароў.

**АЛЬБІНКІ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 22 км на З ад Баранавіч, за 1 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Бара-

навічы—Ваўкавыск. 17 жыхароў, 7 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 9 двароў, 88 жыхароў. У пач. 20 ст. 7 двароў, 90 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. З 1939 г. ў БССР, 71 жыхар. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 96, 1970 г. — 82 жыхары. У 1998 г. 20 двароў, 35 жыхароў.

**АЛЬСЕВІЧЫ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Баранавіч. 122 жыхары, 56 гаспадарак (2005).

У 1880-я г. вёска ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 68 двароў, 546 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 296 двароў, 683 жыхары, карчма. На пачатку 20 ст. 140 двароў, 750 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 450 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 446, 1970 г. — 332 жыхары. У 1998 г. 74 двары, 138 жыхароў.

**АМНЕВІЧЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 36 км на Пн ад г. Баранавічы. 57 жыхароў, 27 гаспадарак (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1567 г. маёнтак Амневічы належаў шляхцічам С.Грышкевічу, Я.Зяньковічу, М.Цішэвічу, Я.Макавецкаму, якія накіроўвалі ў ВКЛ па адным конным воіну. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, вёска Гарадзішчанскай вол. Бабруйскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 165 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. ў Гарадзішчанскай вол. з назвай Амневічы існавалі 2 вёскі, у якіх налічвалася прыкладна 60 двароў і 400 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 189 жыхароў, 1970 г. — 152 жыхары. У 1998 г. 39 падвор'яў, 66 жыхароў, магазін. Магіла ахвяр фашызму.

**АНДРЭЕЎЦЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Моўчадзь на лініі Баранавічы—Ліда. 2163 жыхары, 961 гаспадарка (2005).

Пад 1880 г. пазначаны як сяленне пры дарозе Шчорсы—Любча. У 1909 г. вёска ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 32 двары, 286 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 143 жыхары, 21 двор. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 7 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 264, 1970 г. — 195 жыхароў. У 1998 г. 63 двары, 86 жыхароў.

**АНІСІМАВІЧЫ** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 3 км на Пн ад Баранавіч. 206 жыхароў, 92 гаспадаркі (2005).

У 1880 г. ў Анісімавічах 200 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 449 жыхароў, 39 двароў, у Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 311 жыхароў, 56 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 196, 1970 г. — 246 жыхароў. У 1998 г. 66 двароў, 189 жыхароў, працаваў магазін.



**АНТАНОВА** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 5 км на Пн ад Баранавіч. 307 жыхароў, 113 гаспадарак (2005).

Пад 1580 г. у вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва пазначана в. Антонавічы. Паводле перапісу 1897 г. 243 жыхары, 19 двароў, у Навамышскай вол. Навагрудскага пав. У 1909 г. 370 жыхароў, 51 двор. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав., 311 жыхароў, 56 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 10 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 254 жыхары. У 1998 г. 82 двары, 327 жыхароў. Радзіма бел. дзярж. дзеяча А.М.Ваніцкага.

**АРАБАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 14 км на Пн ад Баранавіч, 14 км ад чыг. ст. Баранавічы. 630 жыхароў, 226 гаспадарак (2005).

Пад 1883 г. пазначана як сяленне ў Навагрудскім пав. Мінскай губ., мелася капліца. Паводле перапісу 1987 г. 147 жыхароў, 49 двароў, хлебазапасны магазін, у Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Побач знаходзілася аднайменная вёска — 17 жыхароў, 2 двары. У 1909 г. ў вёсцы і маёнтку 216 жыхароў, 38 двароў. Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 6 дамоў, 31 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 354 жыхары. У 1998 г. — 114 падвор'яў, 672 жыхары, клуб, масавая б-ка, магазін, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа. У 1965 г. пры школе адчынены гісторыка-краязнаўчы музей.

**БАГУШЫ** — вёска ва Уцёскім с/с, за 22 км на Пд ад Баранавіч, за 17 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 185 жыхароў, 84 двары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 89 двароў, 507 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 108 двароў, 563 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 36 дамоў, 222 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 207 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 2 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў. У 1998 г. 126 двароў, 211 жыхароў, магазін.

**БАГУШЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 26 км на Пн ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 47 жыхароў, 25 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 23 двары, 194 жыхары. У 1919 г. 30 двароў, 215 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У 1939 г. ў вёсцы 503 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінуў 21 аднавясковец. Паводле перапісаў 1959 г. — 542, 1970 г. — 495 жыхароў. У 1998 г. 126 двароў, 211 жыхароў, магазін. На мясцовых могілках пахаваны партызан А.А.Хвалько, які загінуў у баі з гітлераўцамі ў 1943 г. У 1964 г. на яго магіле ўстаноўлены абеліск.

**БАРАЎЦЫ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 6 км на З ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Баранавічы. 127 жыхароў, 56 гаспадарак (2005).

У 19 — пачатку 20 ст. вёска Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., былая ўласнасць Радзівілаў.



*Капліца ў в. Бартнікі.*

Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 229 жыхароў. На пачатку 20 ст. 39 двароў, 282 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 18 дамоў, 101 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 199 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8 ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 197 жыхароў. У 1998 г. 64 падвор'і, 130 жыхароў, магазін. Радзіма двойчы Героя Сав. Саюза С.І.Грыцаўца.

**БАРАЦІНА** — вёска ў Петкавіцкім с/с, за 39 км на ПнУ ад Баранавіч, за 22 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 27 жыхароў, 14 гаспадарак (2005).

У пісьмовых крыніцах Бараціна ўпамінаецца пад 1567 г. як вёска, шляхціч якой В.Тумінскі выставіў для дзярж. войска аднаго коннага воіна. У 1623 г. фальварак і вёска Бараціна ўваходзілі ў склад маёнтка Ішкалдзь, з'яўляўся ўласнасцю Радзівілаў. З канца 18 ст. ў складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. — хутар, 1 двор, 8 жыхароў, у Востраўскай вол. Навагрудскага пав. У 1909 г. засценак, 7 двароў, 27 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Паланэчкаўскай, са снеж. 1925 г. Вольнаўскай гміне Навагрудскага ваяв., 20 двароў, 97 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

**БАРТНІКІ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Баранавіч, за 229 км ад г. Брэст, за 18 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінк. 152 жыхары, 84 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 103 двары, 528 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 кузні, капліца, ветраны млын, карчма. Побач з вёскай знаходзілася сядзіба Бартнікі: 1 двор, 19 жыхароў, працавалі вінакурны з-д і ветраны млын. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 124 дамы, 688 жыхароў, у фальварку Бартнікі 3 дамы, 14 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, 816 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны ў баях загінула 30 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 545, 1970 г. — 448 жыхароў. У 1998 г. 120 двароў, 180 жыхароў, магазін. Да Бартнікаў далучана сумежная в. Галёня.

**БЕЛАЛЕССЕ** — вёска ў Цешаўлянскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 13 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 95 жыхароў, 51 гаспадарка (2005)

У 1888 г. ў Белалессі пачала дзейнічаць школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. вёска Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 49 двароў, 492 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма, ветраны млын. У 1909 г. 89 двароў, 698 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 55 дамоў, 326 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 539 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 28



вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 294, 1970 г. — 286 жыхароў. У 1998 г. было 82 двары, 115 жыхароў, магазін.

**БОР** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 24 км на З ад Баранавіч, за 211 км ад г. Брэст, 10 км ад чыг. ст. Палонка. 63 жыхары, 31 гаспадарка (2005).

Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 231 жыхар. У 1998 г. 47 двароў, 84 жыхары.

**БРЫКСІЧЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 27 км на Пн ад Баранавіч. 75 жыхароў, 26 гаспадарак (2005).

У 1567 г. ўладанне шляхціча Івана Шышука, які ставіў з Брыксіч (Брыдчычы) для войска ВКЛ аднаго коннага воіна. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, вёска ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 133 жыхары. У 1909 г. 33 двары, 148 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 30 двароў, 161 жыхар. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісу 1970 г. 138 жыхароў. У 1998 г. 40 падвор'яў, 89 жыхароў, магазін.

**БЫТКОЎШЧЫНА** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 33 км на Пн ад Баранавіч, за 26 км ад чыг. ст. Пагарэльцы. 20 жыхароў, 11 гаспадарак (2005).

У 1909 г. вёска ў Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 12 двароў, 127 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 55 жыхароў. У 1998 г. 12 падвор'яў, 24 жыхары. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы Г.І.Карповіч.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 52 жыхары, 32 гаспадаркі (2005).

У 1909 г. хутар у Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 8 двароў, 25 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР, 233 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 154, 1970 г. — 157 жыхароў. На паўд.-зах. ускраіне вёскі знаходзіцца брацкая магіла, у якой пахаваны 628 сав. воінаў і партызан, а таксама ваеннапалонных, закатаваных у Ляснянскім лагеры смерці.

**ВЕРХАЛЕССЕ** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 14 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 76 жыхароў, 37 гаспадарак (2005).

На пачатку 20 ст. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., каля 190 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Люшнеўскай гміне Слонімскага пав., 24 дамы, 134 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, 353 жыхары. З 15.1.1940 г. ў складзе Навамышскага, з 8.4.1957 г. Баранавіцкага р-наў Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінула 7 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 273 жыхары. У 1998 г. 2 двары, 3 жыхары.

**ВОЛЬНА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 27 км на ПнУ ад Баранавіч, за 14 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 764 жыхары, 316 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з сярэдзіны 16 ст., належала Хадкевічам, з 1571 г. Валовічам, з 1632 г. Камінскім. У 1632 г. тут быў засн. мужчынскі базыльянскі манастыр. У 1768 г. на сродкі манастыра пабудавана уніяцкая царква (цяпер Троіцкая царква). Пры манастыры існавала школа для дзяцей шляхты, у якой вучыўся вядомы медальер і скульптар Р.Слізень. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе



*Троіцкая царква (18 ст.) у в. Вольна.*

Рас. імперыі, сяло Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1839 г. зачынены базыльянскі манастыр. Яго будынкі ў 1840 г. перададзены жаночаму праваслаўнаму манастыру, які быў пераведзены з Навагрудка. У 1879 г. мясцовы праваслаўны прыход налічваў каля 5 тыс. вернікаў (з іх 5% пісьменных), дзейнічала праваслаўнае папячыцельства. У 1886 г. ў сяле 61 двор, 470 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, нар. вучылішча (адкрыта ў 1863), побач з сялом — вінакурны з-д і млын. У 1890 г. адчынена царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 99 двароў, 341 жыхар, працавалі нар. вучылішча, царква, хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом, існаваў помнік у гонар вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці. У 1909 г. ў сяле і маёнтку 107 двароў, 44 жыхары. У 1900 г. ў нар. вучылішчы займалася 100 хлопчыкаў (настаўніца Г.Тарановіч). З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Чэрніхаўскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 125 дамоў, 724 жыхары. Побач з вёскай размяшчаўся аднайменны фальварак: 7 дамоў, 35 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, 941 жыхар. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Гарадзішчанскага, з 25.12.1962 г. Баранавіцкага р-наў Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінуў 21 аднавяскоўвец. Паводле перапісаў 1959 г. 641 жыхар, 1970 г. — 519. У 1998 г. 370 двароў, 854 жыхары, выканком сельсавета, будынак эксперыментальнай базы, працавалі рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, спіртзавод, Дом быту, сярэдняя школа (у 1995 адкрыты краязнаўчы музей), клуб, б-ка, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, ашчадны банк, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячыя яслі-сад, сталовая, 4 магазіны. Помнік архітэктуры — Троіцкая царква (18 ст.).

**ВЫЖГІНТЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 18 км на З ад Баранавіч, за 212 км ад г. Брэст. 9 жыхароў, 5 гаспадарак (2005).

У 1998 г. — 10 двароў, 18 жыхароў.

**ВЫЗАРАК**, вёска ў Карчоўскім с/с, за 22 км на Пн ад Баранавіч. 50 жыхароў, 27 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 11 двароў, 70 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Цырынскай гміне Навагрудскага пав., 4 двары, 23 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 120 жыхароў. У 1998 г. 36 падвор'яў, 63 жыхары.

**ВЫСАДАВІЧЫ** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 40 км на Пн ад Баранавіч, за 40 км ад чыг. ст. Баранавічы. 21 жыхар, 14 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 34 двары, 217 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Цырынскай гміне Навагрудскага пав., 22 двары, 168 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 165, 1970 г. — 137 жыхароў. У 1998 г. 36 гаспадарак, 63 жыхары.

**ВЯЛІКАЕ СЯЛО** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 27 км на Пн



ад Баранавіч, каля р. Сэрвач, за 3 км ад шашы Баранавічы—Навагрудак.

У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 70 двароў, 497 жыхароў. У 1909 г. 109 двароў, 580 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 21 двор, 106 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 306 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. да 19.1.1965 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 133 двары, 379 жыхароў. У 1998 г. 100 гаспадарак, 167 жыхароў, механічныя майстэрні, магазін, б-ка, аддз. сувязі, ветэрынарны ўчастак. Помнік археалогіі — гарадзішча.

**ВЯЛІКАЯ ВАЛАХВА** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 7 км на Пд ад Баранавіч, на р. Мышанка (прыток р. Шчара). 127 жыхароў, 54 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 106 двароў, 660 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 152 двары, 750 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 66 дамоў, 389 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Навамышскім, з 8.4. 1957 г. ў Баранавіцкім р-нах Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінуў 31 зямляк. Паводле перапісаў 1959 г. — 391, 1970 г. — 288 жыхароў. У 1998 г. 62 двары, 114 жыхароў, магазін. Радзіма бел. мастака І.К.Радкевіч.

**ВЯЛІКАЯ КАЎПЕНІЦА** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 6 км на Пн ад Баранавіч, на скрыжаванні шашэйных дарог Брэст—Мінск і Баранавічы—Навагрудак. 650 жыхароў, 275 гаспадарак (2005).

Аб паходжанні назвы Каўпеніца сярод мясц. жыхароў існуе паданне, што калісьці побач з сучаснай вёскай размяшчалася дрыгвяністае балота, у якім расло шмат журавін. Аднойчы дзяўчына Ніца, збіраючы журавіны, нечакана трапіла ў багністае месца, і яе пачала паглынаць дрыгва. Ніца стала моцна крычаць. Яе пачуў юнак, якога, паводле падання, звалі Каўпей. Ён кінуўся ратаваць дзяўчыну. Але, спяшаючыся, сам трапіў у пастку дрыгвы. І дзяўчына і юнак загінулі ў балоце. У памяць аб іх балота сталі называць Каўпеніца — па імёнам юнака і дзяўчыны. Пазней вёска, заснаваная каля гэтага балота, таксама стала называцца Каўпеніца. Потым да назвы было дабаўлена слова Вялікая.

Па пісьмовых крыніцах паселішча вядома з 1449 г. Спачатку з'яўлялася дзярж. уласнасцю, а з сярэдзіны 15 ст. да 1831 г. належала каталіцкай царкве. У 1781 г. была пабудавана прыходская царква з дрэва. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, сяло Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1798 г. — 40 дамоў, ветраны млын і царква. З 1831 г. дзярж. маёмасць. У 1848 г. перададзена ў арэнду К.Туганоўскаму. У 1852 г. ў сяле адчынена нар. вучылішча, якое размяшчалася ў памешчыцкім доме. У час паўстання 1863—64 гг. тут знаходзіўся зборны пункт паўстанцаў. У 1886 г. сяло, 57 двароў, 420 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, нар. вучылішча. У 1886—87 навуч. г. ў школе займалася 56 вучняў, з іх было толькі 2 дзяўчынкі (настаўнік Дзмітрый Ходар). Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 216 двароў, 592 жыхары, праваслаўная царква, нар. вучылішча, піцейны дом. У 1898 г. працавалі 2 ветраныя млыны і лясніцтва. У 1909 г. 110 двароў, 643 жыхары. Побач з сялом знаходзіліся хутар Каўпеніца (1 двор, 11 жыхароў) і лясніцтва Каўпеніца (1 двор, 9 жыхароў). З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Сталовіцкай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 109 дамоў, 522 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 637 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамыш-

скім, з 8.4.1957 г. Баранавіцкім р-нах Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 8 аднавяскоўцаў. У 1949 г. тут створаны калгас «Бальшавік» (старшыня Фёдар Саўка). Паводле перапісаў 1959 г. — 592, 1970 г. — 753 жыхары. У 1998 г. 145 двароў, 433 жыхары, калгасная сядзіба, ветэрынарны ўчастак, рамонтна-механічныя майстэрні, магазін. На мясц. могілках брацкія магілы сав. воінаў і партызан.

**ВЯЛІКАЯ СВАРОТВА** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 47 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 13 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда, на р. Сваротва. 117 жыхароў, 48 гаспадарак (2005).

У 19 — пач. 20 ст. населены пункт вядомы як с. Сваротва Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. У 1823 г. тут была пабудавана з цэглы і каменю праваслаўная Троіцкая царква, якую наведвала каля 1500 прыхаджан (1879 г.). У 1879 г. царкве належала каля 90 дзес. зямлі, у тым ліку ворыва 46 дзес. У 1886 г. ў сяле 21 двор, 240 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, царк.-прыходская школа. На пач. 20 ст. сяло, прыкладна 50 двароў, больш за 300 жыхароў. Побач з сялом знаходзіўся маёнтак Сваротва: 2 двары, каля 40 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Люшнеўскай гміны Слонімскага пав. З 1939 г. ў БССР, 458 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 280, 1970 г. — 232 жыхары.

*Руіны царквы ў в. Вялікая Сваротва.*



**ВЯЛІКІЯ ГАЦІШЧЫ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Баранавіч. 64 жыхары, 37 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах Гацішчы вядомы з 16 ст. як вёска. У 1567 г. шляхціч П.Біштоўтавіч выдзеліў для войска ВКЛ аднаго коннага воіна. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага ваяв., у 2 фальварках Гацішчы малыя і Гацішчы вялікія 22 дамы, 77 жыхароў. З 1939 г. абодва ў БССР, 348 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінула 13 аднавяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 236, 1970 г. — 257 жыхароў. У 1978 г. да Вялікіх Гацішчаў далучана сумежная в. Тодараўцы. У 1998 г. 56 двароў, 81 жыхар, магазін.

**ВЯЛІКІЯ ЛУКІ** — вёска, цэнтр Велікалуцкага с/с, за 15 км на Пд ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Русіно на лініі Баранавічы—Лунінец. 408 жыхароў, 134 гаспадаркі (2005).

Вядомы з 15 ст. як с. Лука. Да 1430 г. ўласнасць вял. кн. Вітаўта. З 1449 г. належалі каталіцкай царкве. У 1770 г. пабудавана драўляная царква. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, сяло Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав., з 1842 г. Мінскай губ. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1879 г. працавала праваслаўнае папячыцельства, праваслаўны прыход (вёскі Вялікія Лукі, Волахва, Малыя Лукі, Рагозніца, Русіно, Грабавец) налічваў 3,5 тыс. прыхаджан (пісьменныя



складалі 5%). Царкве належала 90 дзес. зямлі, у тым ліку 50 дзес. ворыва. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 174 двары, 1024 жыхары, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, праваслаўная царква, піцейны дом. У 1900 г. ў нар. вучылішчы было 90 вучняў (з іх 10 дзяўчынак). У 1909 г. 215 двароў, больш за 1117 жыхароў, працавалі 2 нар. вучылішчы (для хлопчыкаў і для дзяўчынак, настаўнікі Фёдар Кароткі і Марыя Гарбацэвіч). Побач з сялом знаходзіўся маёнтак Лукі — 1 двор, 10 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Ястрамбельскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 126 дамоў, 689 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 1293 жыхары. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Навамышскага, з 8.4. 1957 г. Баранавіцкага р-наў Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 33 аднавяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 584 жыхары, 1970 г. — 237 двароў, 822 жыхары, камбінат быт. абслугоўвання, клуб, сталовая, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1998 г. — 121 двор, 506 жыхароў, сядзібы выканкома сельсавета і калгаса, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа (ёсць гісторыка-краязнаўчы музей), фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, клуб, дом быту, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Помнік землякам, брацкая магіла сав. воінаў. Да Вялікіх Лукаў далучана суседняя в. Жарнакоўшчына.

**ВЯЛІКІЯ ПУРНЕВІЧЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 39 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 18 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда, на р. Сваротва. 44 жыхары, 24 гаспадаркі (2005).

У 1909 г. вёска і маёнтак Пурневічы ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав., 52 двары, 294 жыхары, адчынена нар. вучылішча. Паводле перапісаў 1959 г. — 160, 1970 г. — 164 жыхары. У 1998 г. вёска, 41 двор, 59 жыхароў, магазін.

**ВЯРШОК** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 27 км на З ад Баранавіч, за 220 км ад г. Брэст, за 11 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 22 жыхары, 16 гаспадарак (2005).

З 15.1.1940 г. ў Навамышскім, з 8.4.1957 г. Баранавіцкім р-нах Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 5 землякоў. У 1998 г. 13 двароў, 21 жыхар.

**ГАЙБУТЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 8 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 30 жыхароў, 19 гаспадарак (2005).

На пач. 20 ст. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., налічвала прыкладна 20 двароў, 160 жыхароў. Побач знаходзілася в. Малыя Гайбуты: 5 двароў, каля 40 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. ў вёсках Вялікія Гайбуты — 114, Малыя Гайбуты — 36 жыхароў. У 1998 г. 31 двор, 37 жыхароў. На мясц. могілках пахаваны партызан І.І.Кавалеўскі, які загінуў у баі з ням.-фаш. акупантамі ў 1943 г. Да вёскі далучаны суседні хутар Кляндзін.

**ГАЛЫНКА** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 47 жыхароў, 31 гаспадарка (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 37 двароў, 231 жыхар, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. — 8 двароў, 188 жыхароў; адбылося стыхійнае выступленне сялян, якія самавольна секлі памешчыцкі лес. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Чэрніхаўскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 52 дамы, 313 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, 317 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім, з 25.12.1962 г. Баранавіцкім р-нах Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. З 12.10.1940 г. да

14.4.1960 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопніка-мі. Паводле перапісаў 1959 г. — 358, 1970 г. — 232 жыхары. У 1998 г. 77 два-роў, 71 жыхар, магазін.

**ГАЛЫНКА** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 239 км ад Брэста, за 6 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда.

Паводле перапісу 1959 г. існавалі 2 вёскі — Вялікая Галынка і Малая Галынка, якія разам налічвалі 259 жыхароў. Пазней яны зліліся ў адну вёску Галынка. У 1998 г. 48 двароў, 60 жыхароў.

**ГАРАДЗІШЧА** — гарадскі пасёлак, цэнтр пас. Савета, за 25 км на Пн ад Баранавіч, за 25 км ад чыг. ст. Баранавічы, на р. Сэрвач (прыток Нёмана). На аўтадарозе Баранавічы—Навагрудак.

Па пісьмовых крыніцах маёнтак Гарадзішча вядомы з 1413 г. як дзярж. (велікакняжацкая) уласнасць. У 1494 г. заснаваны касцёл Да 1499 г. знаходзілася ва ўладанні кн. С.Бельскага. У 1501 г. вял. князь ВКЛ Аляксандр падараваў маёнтак сваёй жонцы Алене Іванаўне. У інвентары Кобрынскага староства 1597 г. пазначаны як цэнтр воласці. У канцы 16 ст. Я.Адахоўскі пабудаваў царкву св. Іллі і выдзеліў ёй селішча Козьеўскае і Іванаўскі Луг. У 1640 г. Каменскія пабудавалі мураваны касцёл. У 16—18 ст. Гарадзішча належала Неміровічам, Хадкевічам, Гастомскім, Пацам (да 1831 г.) і іншым. У 1752 г. атрымала дазвол на правядзенне кірмашоў два разы на год. Тут размяшчаліся палац з садам і паркам. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) мяст. Гарадзішча ў складзе Рас. імперыі, з 1795 г. цэнтр воласці Навагрудскага пав. З 1831 г. казённая ўласнасць. У 1866 г. касцёл пераўтвораны ў праваслаўную царкву. У 1886 г. ў мястэчку налічвалася 60 двароў, 504 жыхары, працавалі 2 праваслаўныя царквы, нар. вучылішча (адчынена ў 1863), капліца, сінагога, 4 малітоўныя дамы, багадзельня, конная паштовая станцыя, цагляны з-д, бровар, валасное праўленне, адбываліся 2 кірмашы на год, працаваў урач. У 1909 г. ў мястэчку і маёнтку 246 двароў, 2942 жыхары, дзейнічалі пошта з тэлеграфам, земскае нар. вучылішча (у 1901 96 вучняў, з якіх толькі 9 дзяўчынак), аптэка, лячэбніца, валасное праўленне, 2 праваслаўныя царквы, сінагога, 5 малітоўных дамоў, цагляны з-д, больш за 10 лавак, 2 кірмашы на год, багадзельня, конная паштовая станцыя. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 165 двароў, 1021 жыхар. У 1937 г. ў мястэчку адбылася буйная забастоўка рабочых фанернага з-да (удзельнічала каля 600 чал.). Працоўныя патрабавалі павелічэння зарплаты, паляпшэння ўмоў працы і быту, аднаўлення на працы. Патрабаванні рабочых былі часткова выкананы. У 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, з 1.1.1940 г. да 25.12.1962 г. цэнтр Гарадзішчанскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 10.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Гарадзішчы каля 4 тыс. сав. грамадзян. Паводле перапісу 1959 г. 1694 жыхары. У 1998 г. — 2630 жыхароў, ДЭУ і ПМК-5, маслазавод, хлебапякарня, сталярны цэх, электрападстанцыя, аддз. сувязі, Дом быту, лясніцтва, аўтастанцыя, ветлячэбніца, бальніца, аптэка, сярэдняя школа, шко-

*Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі (17 ст.) у г.п. Гарадзішча.*







*Крыжаўзвіжанская царква (1764) у г.п. Гарадзішча.*

ла-інтэрнат, амбулаторыя, аддз. ашчаднага банка, Дом культуры, муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, яслі-сад, 2 масавыя б-кі. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Помнікі: археалогіі — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, архітэктуры — Крыжаўзвіжанская царква (1764), касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі (17 ст.).

**ГАРАНАВІЧЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 34 км на Пн ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 37 жыхароў, 19 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 16 двароў, 104 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, 13 жыхароў. У пач. 20 ст. ў вёсцы прыкладна 20 двароў, 100 жыхароў; у маёнтку — 1 двор, 5 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 162, 1970 г. — 135 жыхароў. У 1998 г. 32 падвор'і, 46 жыхароў, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан.

**ГАРДЗЕЙЧЫКІ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 20 км на З ад Баранавіч, за 1 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 18 жыхароў, 9 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 14 двароў, 143 жыхары. У 1909 г. 29 двароў, 255 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 20 дамоў, 87 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 130 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 101, 1970 г. — 73 жыхары. У 1998 г. 23 двары, 16 жыхароў, магазін.

**ГІНЦАВІЧЫ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Баранавіч. 152 жыхары, 64 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. Гінцавічы ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 39 двароў, 437 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы і маёнтку 91 двор, 676 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав., 39 двароў, 258 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 260 жыхароў. У 1998 г. 82 падвор'і, 160 жыхароў.

**ГІРАВА** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 6 км на У ад Баранавіч. 430 жыхароў, 163 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Дараўскай вол. Навагрудскага пав., 37 двароў, 199 жыхароў, кузня, карчма. Пасля 1905 г. пачало дзейнічаць нар. вучылішча, якое размясцілася ў сял. хаце. У 1909 г. 45 двароў, 181 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 27 дамоў, 169 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У

Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 246, 1970 г. — 220 жыхароў. У 1998 г. 89 двароў, 263 жыхары.

**ГІРМАНТАЎЦЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 26 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 227 км ад Брэста, за 9 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 295 жыхароў, 102 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 51 двор, 350 жыхароў. У 1909 г. 73 двары, 403 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 74 дамы, 380 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 420 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 17.2. 1975 г. і з 6.8.1978 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 15 аднавяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 315 жыхароў, 1970 г. — 90 двароў, 151 жыхар. У 1998 г. — 151 двор, 324 жыхары, сельсавецкая і калгасная сядзібы, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, клуб, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, сярэдняя школа (з 1982 г. ў ёй працуе краязнаўчы музей). У цэнтры вёскі размешчаны помнік землякам.

**ГЛІНІШЧА** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 7 км на Пд ад Баранавіч. 20 жыхароў, 12 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав., 19 двароў, 148 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 133 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 8 дамоў, 47 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 99 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. 84 жыхары. У 1998 г. 15 двароў, 24 жыхары.

**ГОЛЕВІЧЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 17 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 54 жыхары, 27 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 47 двароў, 272 жыхары. Паводле перапісаў 1959 г. — 237, 1970 г. — 160 жыхароў. У 1998 г. 39 двароў, 68 жыхароў, магазін.

**ГРАБАВЕЦ** — вёска ў Велікалуцкім с/с, за 8 км на Пд ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Баранавічы. 28 жыхароў, 13 гаспадарак (2005).

Вядомы з 1577 г. як сяло. Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав., 43 двары, 194 жыхары, карчма. У 1909 г. 56 двароў, 344 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 43 двары, 222 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 389 жыхароў. З 1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Вёска вызвалена воінамі 193-й стралк. дывізіі. Паводле перапісу 1959 г. 224 жыхары. У 1998 г. 22 двары, 36 жыхароў.

**ГРУДЫ** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 3 жыхары, 3 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав., 1 двор, 10 жыхароў. У 1909 г. — 14 двароў, 78 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 28 дамоў, 160 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да



ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У 1998 г. 5 двароў, 10 жыхароў.

**ГРЫБАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 28 км на Пн ад Баранавіч. 4 жыхары, 3 гаспадаркі (2005).

У 1909 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 5 двароў, 33 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 7 двароў, 27 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 566 жыхароў. У 1998 г. 4 падвор'і, 5 жыхароў.

**ГУТА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст.

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 29 двароў, 180 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 248 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 51 дом, 243 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 310 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 292, 1970 г. — 327 жыхароў. У 1998 г. — 91 двор, 166 жыхароў, калгасная сядзіба, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, пач. школа, б-ка, магазін. У 1968 г. далучана суседняя в. Дзедзін.

**ДАБРАПОЛЬ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 30 км ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Міцкевічы. 69 жыхароў, 36 гаспадарак (2005).

У пачатку 20 ст. маёнтак Дабраполь у Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., каля 90 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак Люшнеўскай гміны Слонімскага пав., 8 дамоў, 53 жыхары. З 1939 г. ў БССР, вёска. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 114, 1970 г. — 144 жыхары. У 1998 г. 23 двары, 87 жыхароў, магазін.

**ДАМАШЭВІЧЫ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Баранавіч, чыг. ст. Дамашэвічы на лініі Баранавічы—Ліда. 109 жыхароў, 57 гаспадарак (2005).

Пасля пабудовы чыгункі Вільня—Лунінец у 1884 г. ўзнікла чыг. ст. Дамашэвічы. У 1909 г. ў аднайменных вёсцы і маёнтку 49 двароў, 280 жыхароў, у Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 50 дамоў, 257 жыхароў, у фальварку Дамашэвічы — 1 дом, 18 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 399 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 392, 1970 г. — 287 жыхароў. У 1998 г. 99 падвор'яў, 113 жыхароў. Брацкая магіла сав. воінаў.

**ДАНЕЙКІ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 107 жыхароў, 57 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах паселішча вядома з 16 ст. У 1567 г. ўласнасць шляхцічаў Я. Івановіча, Ж.Якубовіча і Л.Пятровіча, якія выстаўлялі ў войска ВКЛ па адным конным воіну. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 63 двары, 365 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 65 двароў, 330 жыхароў. З

1939 г. ў БССР, 343 жыхары. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 12 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 372 жыхары. У 1998 г. — 87 двароў, 135 жыхароў, магазін. Радзіма бел. пісьменніка А.К.Клышкі.



*А.К.Клышка.*

**ДЗЕКАЛЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 23 км на З ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 40 жыхароў, 29 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 9 двароў, 87 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 26 дамоў, 138 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; на франтах вайны загінула 14 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 248, 1970 г. — 181 жыхар. У 1998 г. 51 двор, 56 жыхароў.

**ДЗЕРАЎНАЯ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Баранавіч. 162 жыхары, 97 гаспадарак (2005).

Вядома з сярэдзіны 16 ст. як сяленне Дзераўна ў Трокскім, з 1566 г. Навагрудскім ваяводствах. Шляхецкая ўласнасць. Пад 1586 г. пазначана як двор у Слонімскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) далучана да Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1901 г. Гродзенскай губерніях. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. цэнтр Дзераўнянскай вол. Слонімскага пав., 40 двароў, 528 жыхароў, вінакурня, вадзяны млын, царква, капліца. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 666 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца, карчма. У 1909 г. ў вёсцы 45 двароў, 393 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 155 дамоў, 761 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 1266 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. — 697 жыхароў. У 1998 г. 162 падвор'і, 225 жыхароў, магазін.

**ДЗЕТКАВІЧЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 25 км на З ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 38 жыхароў, 23 гаспадаркі (2005).

Вядомы з 1567 г., у складзе маёнтка шляхціча П.Падарэўскага, які выстаўляў з усіх сваіх уладанняў у войска ВКЛ 9 конных воінаў. З канца 18 ст. ў складзе Рас. імперыі. З 1921 г. ў Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 30 дамоў, 184 жыхары. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны фальварак, 7 двароў, 67 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 512 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 11 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 216, 1970 г. — 121 жыхар. У 1998 г. 34 двары, 39 жыхароў, працаваў магазін. Да вёскі далучаны суседні хутар Хаткі.

**ДОБРЫ БОР** — вёска ў Падгорнаўскім с/с, за 49 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 175 км ад Брэста, за 25 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст, каля р. Шчара.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. У 1561 г. ў складзе маёнтка Гавінавічы Слонімскага пав., уласнасць вял. кн. ВКЛ Жыгімонта II. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, вёска Слонімскага пав., з 1801 г. ў Гродненскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з



4.10.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 8 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 712, 1970 г. — 639 жыхароў. У 1998 г. 162 двары, 225 жыхароў, магазін. Каля вёскі знаходзяцца 2 археал. помнікі — гарадзішча і стаянка.

**ДРАГАБЫЛЛЕ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 18 км ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Дамашэвічы. 19 жыхароў, 15 гаспадарак (2005).

Вядома з 16 ст., у 1567 г. ўласнасць Хадкевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1870 г. вёска і фальварак належалі Залатніцкаму, у Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 190 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 30 дамоў, 177 жыхароў. Сумежна з вёскай знаходзіўся аднайменны фальварак. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 231 жыхар. У 1998 г. 37 падвор'яў, 28 жыхароў, магазін.

**ДРАЗДЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 11 км ад чыг. ст. Міцкевічы. 9 жыхароў, 8 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 9 двароў, 129 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 65, 1970 г. — 43 жыхары. У 1998 г. 14 двароў, 26 жыхароў. У 1970 г. далучана суседняя в. Ралы.

**ДУБАВА** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 6 км на ПнУ ад Баранавіч. 207 жыхароў, 103 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 111 двароў, 632 жыхары. У 1909 г. 130 двароў, 956 жыхароў. У 1906 г. адчынена нар. вучылішча (першая настаўніца Кацярына Дзеравяшка). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 73 дамы, 354 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 463 жыхары. У 1998 г. 145 двароў, 231 жыхар. Брацкая магіла сав. воінаў.

**ДУБІШЧА** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 15 км на З ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 10 жыхароў, 7 гаспадарак (2005).

У 1909 г. хутар у Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 3 двары, 23 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 8 дамоў, 42 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 96 жыхароў. У 1998 г. 15 двароў, 10 жыхароў, магазін.

**ДУБРОЎНА** — вёска ў Крошынскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Баранавіч, за

*Археалагічныя знаходкі са стаянкі каля в. Добры Бор.*



16 км ад чыг. ст. Баранавічы. 36 жыхароў, 21 гаспадарка (2005).

У 1909 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 30 двароў, 225 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны фальварак: 1 двор, 7 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 12 дамоў, 50 жыхароў З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 113 жыхароў. У 1998 г. 27 двароў, 45 жыхароў, магазін.

**ДУДЗІЧЫ** — вёска ў Петкавіцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Баранавіч, за 18 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 62 жыхары, 32 гаспадаркі (2005).

У 1881 г. вёска і фальварак Дудзічы належалі Свічатоўскаму. У 1909 г. ў Гарадзейскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 22 двары, 97 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Паланэчкаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 24 дамы, 128 жыхароў. Са снеж. 1925 г. ў Вольнаўскай гміне. З 1939 г. ў БССР, у вёсцы 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 161 жыхар. У 1998 г. 40 двароў, 80 жыхароў.

**ДУШКАЎЦЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 31 км на Пн ад Баранавіч. 18 жыхароў, 12 гаспадарак (2005).

У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 14 двароў, 105 жыхароў У 1909 г. 17 двароў, 120 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 20 двароў, 120 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у вёсцы 110 жыхароў. З 12.10.1940 г. да 21.1.1971 г. цэнтр сельсавета Гарадзішчанскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 146, 1970 г. — 125 жыхароў. У 1998 г. 22 падвор'і, 26 жыхароў, магазін.

**ЕЛАВА** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 23 км на З ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск.

У 1886 г. хутар Елава ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав., лесапільня, вадзяны млын. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Люшнеўскай гміне Слонімскага пав., 16 двароў, 104 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 152 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў адзін вясковец. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 176 жыхароў.

**ЕМЯЛЬЯНАВІЧЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 14 км ад чыг. ст. Міцкевічы. 118 жыхароў, 60 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 58 двароў, 413 жыхароў. У 1921 г. ў Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 55 двароў, 343 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 338, 1970 г. — 377 жыхароў. У 1998 г. 30 двароў, 39 жыхароў, магазін.

**ЕМЯЛЬЯНАЎКА** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 18 км на Пд ад Баранавіч, за 219 км ад Брэста, за 10 км ад чыг. ст. Грыцавец на лініі Баранавічы—Брэст. 38 жыхароў, 23 гаспадаркі (2005).

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 173, 1970 г. — 210 жыхароў. У 1998 г. 30 двароў, 39 жыхароў.



**ЖАБІНЦЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 13 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 33 жыхары, 17 гаспадарак (2005).

Вядомы з 1577 г. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 41 двор, 338 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 84 жыхары. У 1998 г. 30 двароў, 32 жыхары.

**ЖАЛЕЗНІЦА** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 25 жыхароў, 12 гаспадарак (2005).

Вядома з 1471 г. як маёнтак, які належыў Кезгайлам, з 1554 г. Хадкевічам. У 17 ст. ўласнасць Камароўскіх, потым Кашыцаў. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1839 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1879 г. праваслаўны прыход налічваў каля 2600 прыхаджан, царква мела каля 100 дзес. зямлі, у тым ліку ворыва 65 дзес., сенажаці 10 дзес., лесу 10 дзес.; дзейнічалі капліца, вінакурны з-д. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав., 2 двары, 22 жыхары, царква, царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў сяле і маёнтку 4 двары, 24 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 14 двароў, 119 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 187 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 5 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 84 жыхары. У 1998 г. 16 двароў, 26 жыхароў, магазін.

**ЖАМЧУЖНЫ** — пасёлак, цэнтр сельсавета, за 12 км на З ад Баранавіч, на аўтадарозе Новая Мыш—Ваўкавыск. 3485 жыхароў, 1081 гаспадарка (2005).

З 18.3.1985 г. цэнтр сельсавета. У 1998 г. ў пасёлку 3380 жыхароў, размяшчаліся сядзіба выканкома сельсавета, аддз. сувязі, Дом культуры (мясц. ансамблю песні і танца ў 1986 прысвоена ганаровая назва народнага), сярэдняя школа (у 1972 адкрыты краязнаўчы музей).

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Цешаўлянскім с/с, за 17 км на З ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Дамашэвічы на лініі Баранавічы—Ліда. 362 жыхары, 143 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 45 двароў, 374 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 77 двароў, 604 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 41 дом, 259 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 521 жыхар. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1954 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 38 вяскоўцаў. Каля вёскі 8.7. 1944 г. вызначылася група сав. разведчыкаў, якія захапілі 6 мінамётаў, 4 радыёстанцыі і шмат іншай тэхнікі, узялі ў палон 7 ням. салдат і афіцэраў. За гэты подзвіг сяржанту С.Ашыраву і радавому М.Яроміну было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 545 жыхароў. У 1998 г. — 139 двароў, 405 жыхароў, саўгасная сядзіба, с.-г. механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Помнік землякам.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 10 км на У ад Баранавіч. 39 жыхароў, 17 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Дараўскай вол. Навагрудскага пав., 29 двароў, 161 жыхар. У 1909 г. 42 двары, 283 жыхары. Побач з вёскай знаходзіліся 2 аднайменныя фальваркі (уладанні Кадзевічаў і Рымашэўскіх), якія налічвалі 2 двары, 27 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 15 дамоў, 84 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4. 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў ёй 107 жыхароў. У 1998 г. 24 двары, 41 жыхар, магазін.



*Міцкевіч на скале Аюдаг. Мастак В.М.Ваньковіч. 1828 г.*

**ЗАВОССЕ** — вёска ў Мядзеневіцкім с/с, за 24 км на Пн ад г. Баранавічы. 26 жыхароў, 16 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 8 двароў, 110 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы, 2 маёнтках і фальварку 25 двароў, 128 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 8 двароў, 43 жыхары. З 1939 г. ў БССР, існавалі 2 вёскі з назвай Завоссе, у якіх налічвалася 160 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 173, 1970 г. — 110 жыхароў. У 1998 г. 23 двары, 36 жыхароў. За 3 км ад вёскі бярэ пачатак р. Шчара.



*Музей-сядзіба А.Міцкевіча ў в. Завоссе.*

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Баранавіч. 51 жыхар, 24 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 82 двары, 291 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 56 двароў, 270 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 22 дамы, 136 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 369 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 4 вяскоўцы. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. — 159, 1970 г. — 138 жыхароў. У 1998 г. — 39 двароў, 75 жыхароў, магазін. Радзіма бел. пісьменніцы Н.С.Загорскай.

**ЗАДЗВЕЯ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Ба-



ранавічы—Мінск, на р. Дзвея. 237 жыхароў, 131 гаспадарка (2005).

Вядома з 15 ст. як маёнтак у Навагрудскім пав., належыў Чамровічам, з 1464 г. да 1471 г. — Гаштольдам. У 17—18 ст. маёнтак Задзвея — уласнасць шляхцічаў Макушынскіх і Чачотаў. Чачоты пабудавалі тут каталіцкі касцёл і палац (не захаваліся). У 1909 г. ў Жухавіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 1 двор, 32 жыхары, дзейнічала царк.-прыходская школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Паланэцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 134 дамы, 778 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся фальварак Задзвея, у якім 11 дамоў, 41 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 28 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 961, 1970 г. — 719 жыхароў. У 1998 г. — 166 двароў, 265 жыхароў, магазін, сярэдняя школа (з 1986 г. працуе краязнаўчы музей). Радзіма бел. мастака Г.А.Фалея.

**ЗАЗЕР'Е** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Мордычы. 35 жыхароў, 25 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 22 двары, 122 жыхары. У 1921 г. ў Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 31 двор, 166 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 203, 1970 г. — 165 жыхароў. У 1998 г. 35 двароў, 43 жыхары.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Баранавіч, за 19 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 134 жыхары, 75 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст., у 1571 г. вёска ўваходзіла ў маёнтак Вольна, які належыў Валовічам. Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 51 двор, 315 жыхароў. У 1909 г. 64 двары, 239 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 86 дамоў, 473 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 571 жыхар. З 15.1.1940 г. ў складзе Гарадзішчанскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 34 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 480 жыхароў. У 1998 г. 126 двароў, 166 жыхароў, магазін. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы Т.Ц.Ліцкевіч.

**ЗАЛЮБІЧЫ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 16 км на У ад Баранавіч. 133 жыхары, 76 гаспадарак (2005).



*Лядоўня ў в. Задзвея.*



*Сядзіба Міцкевічаў у в. Завоссе. Малюнак Н.Орды.*

Паводле перапісу насельніцтва 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 202 двары, 501 жыхар, карчма. У 1909 г. — 110 двароў, 590 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 69 дамоў, 478 жыхароў. У 1939 г. ў складзе БССР, 507 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінулі 13 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 427 жыхароў. У 1998 г. 115 двароў, 157 жыхароў, магазін.

**ЗАМОШША** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 16 км на Пд ад Баранавіч. 48 жыхароў, 28 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав., 22 двары, 135 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, каля 150 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв., 20 дамоў, 105 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 148 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 101 жыхар. У 1998 г. 36 двароў, 58 жыхароў, магазін.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Баранавіч. 73 жыхары, 23 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 58 двароў, 229 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 35 дамоў, 207 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, 663 жыхары. З 15.1. 1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. Паводле перапісу 1959 г. — 144, 1970 г. — 84 жыхары. У 1998 г. 22 двары, 41 жыхар, магазін.

**ЗАСТАРЫННЕ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Міцкевічы. 304 жыхары, 117 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав., 74 двары, 402 жыхары. З 1921 г. ў Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав. Палескага ваяв., 42 дамы, 260 жыхароў. З 1939 г. ў складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. — цэнтр сельсавета. У 1940 г. ў вёсцы 115 гаспадарак, 412 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ноччу 2.5.1943 г. партызаны атрада імя А.Суворава арганізавалі ўрачысты сход жыхароў в. Застарынне, прысвечаны святу 1 Мая. Пра гэта стала вядома гітлераўцам. Раніцой 2 мая ў вёску ўварваліся карнікі, якія спалілі 108 двароў і загубілі 387 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена. Паводле перапісу 1959 г. — 392 жыхары. У 1998 г. — 78 двароў, 315 жыхароў, магазін, аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Брацкая магіла партызан, магіла ахвяр фашызму. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**ЗВЕРАЎШЧЫНА** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 69 жыхароў, 38 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1599 г. фальварак і вёска Слонімскага пав. ВКЛ. У 1886 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав., 21 двор, 256 жыхароў, працавала школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 40 двароў, 227 жыха-



роў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 30 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 422, 1970 г. — 324 жыхары. У 1998 г. 76 двароў, 90 жыхароў, магазін.

**ЗОРНАЯ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 7 км на З ад Баранавіч. 964 жыхары, 337 гаспадарак (2005).

Раней населены пункт меў назву Муцькавічы, якая ўпамінаецца ў дакументах 1798 г. У 1897 г. в. Муцькавічы ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 21 двор, 219 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У 1909 г. 43 двары, 358 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 36 дамоў, 187 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. в. Муцькавічы перайменавана ў Зорную. Паводле перапісу 1959 г. — 411 жыхароў. У 1998 г. 142 двары, 724 жыхары, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў.

**ЗОРЫЧЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 42 жыхары, 25 гаспадарак (2005).

Вядомы з 1798 г. як в. Мордычы. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 61 двор, 423 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 71 двор, 473 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 34 двары, 161 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1944 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 167 жыхароў. У 1964 г. в. Мордычы перайменавана ў Зорычы. У 1998 г. 56 двароў, 47 жыхароў, магазін.

**ЗЯЛЁНАЯ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 29 км на Пн ад Баранавіч, на шашы Баранавічы—Навагрудак. 217 жыхароў, 75 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав., 2 двары, 8 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 2 двары, 16 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 54 землякі. З 16.11.1970 г. да 6.8.1979 г. Зялёная з'яўлялася цэнтрам сельсавета. У 1971 г. 36 двароў, 116 жыхароў. У 1998 г. — 77 двароў, 116 жыхароў, сядзібы выканкома сельсавета і калгаса, механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ІВАНКАВІЧЫ** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 27 км ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск, на р. Іса.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. У 1570 г. вёска мела 3 валокі зямлі, падатак складаў 3 капы і 9 грошай. У 1905 г. ў вёсцы і маёнтку 478 жыхароў, у Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Люшнеўскай гміне Слонімскага пав., у 2 аднайменных вёсках 87 двароў, 461 жыхар. У фальварку Іванкавічы 1 дом, 3 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 22 вяскоўцы, акупанты загубілі 16 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 404 жыхары. У 1971 г. — 96 двароў, 392 жыхары, працавалі пач. школа, магазін, клуб, б-ка. У 1998 г. — 87 двароў, 167 жыхароў, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветэрынарны ўчастак, магазін, пач. школа, б-ка, аддз. сувязі.

**ІШКАЛДЗЬ** — вёска ў Петкавіцкім с/с, за 36 км на ПнУ ад Баранавіч, за 20 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, за 3 км ад шашы





*Капліца ў в. Ішкалдзь.*

Брэст—Мінск. 264 жыхары, 123 гаспадаркі (2005).

По пісьмовых крыніцах Ішкалдзь вядома як сяленне з 15 ст. Належала Неміровічам, Ільінічам, Радзівілам, потым Вітгенштэйнам. У 1472 г. М.Неміровічам пабудаваны мураваны Троіцкі касцёл. У 1787 г. мястэчка знаходзілася ў складзе Навагрудскага пав. ВКЛ, налічвала больш за 100 двароў. У 1793 г. далучана да Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. У 1868 г. касцёл пераўтвораны ў Троіцкую праваслаўную царкву. У 1879 г. яе прыход налічваў каля 2 тысяч прыхаджан, сярод якіх пісьменныя складалі толькі 4%. У 1862 г. мястэчка ў Гарадзейскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 108 двароў, 738 жыхароў, царква. У 1897 г. сяло, 120 двароў, 628 жыхароў, царква, магазін, крама, карчма, 1 кірмаш на год. Побач з мястэчкам быў засценак Новая Ішкалдзь, 4 двары, каля 10 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, мястэчка Паланэчкаўскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 136 дамоў, 691 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 512 жыхароў. Помнік архітэктуры — Троіцкі касцёл (15 ст.).

**КАБУШКІНА** — пасёлак у Велікалуцкім с/с, за 14 км на Пд ад Баранавіч. 178 жыхароў, 59 гаспадарак (2005).

Раней паселішча было вядома як в. Торбалава. Паводле перапісу 1959 г. ў ёй 75 жыхароў. У 1969 г. вёска пераўтворана ў пасёлак, якому было нададзена прозвішча Героя Сав. Саюза, ураджэнца суседняй в. Малахоўцы І.К.Кабушкіна. Паводле перапісу 1970 г. ў пасёлку 204 жыхары. У 1998 г. 183 жыхары, магазін. Да пасёлка далучана в. Чарамошнік.


*Троіцкі касцёл (15 ст.) у в. Ішкалдзь.*


*Троіцкі касцёл у в. Ішкалдзь. Аксанаметрыя.*



**КАДЫЧЫЦЫ** — вёска ва Уцёскім с/с, за 28 км на Пд ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 32 жыхары, 20 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Вострабаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 33 двары, 204 жыхары, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 34 двары, каля 190 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Вострабаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 31 дом, 136 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 247, 1970 г. — 168 жыхароў. У 1998 г. 48 двароў, 110 жыхароў.

**КАЗЛОВІЧЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Міцкевічы. 54 жыхары, 39 гаспадарак (2005).

У 1883 г. аднайменныя вёска і фальварак у Навагрудскім пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў іх 51 двор, 372 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 55 двароў, 266 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісу 1959 г. — 419, 1970 г. — 289 жыхароў. У 1998 г. 79 двароў, 85 жыхароў, магазін.

**КАЗЛЯКЕВІЧЫ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Баранавіч. 114 жыхароў, 53 гаспадаркі (2005).

Вядомы з 1567 г. З 1884 г. працавала царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 42 двары, 387 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У пач. 20 ст. ў вёсцы 87 двароў, 582 жыхары. Побач знаходзіўся маёнтак — 2 двары, 19 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 73 дамы, 365 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся аднайменны фальварак — 1 дом, 5 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 510 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1998 г. 66 двароў, 89 жыхароў, магазін.



*Помнік ахвярам Калдычэўскага лагера смерці.*

**КАЛДЫЧЭВА** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 18 км на Пн ад Баранавіч, на шашы Баранавічы—Навагрудак, за 2 км ад р. Шчара. 140 жыхароў, 74 гаспадаркі (2005).

Паводле пісьмовых крыніц Калдычэва вядома з пач. 16 ст. як маёнтак, які належаў Гаруновічам, потым Тактамышам. У 1567 г. — уласнасць шляхцічаў Аляшкевіча, Ваўка, Скуратовічаў, Васілевіча, Крывіпішчаў, якія выставілі ў тым жа годзе ў войска ВКЛ 8 коннікаў (па адным ад кожнага двара). Пазней маёнтак перайшоў ва ўладанне да князёў Ямбекавічаў, якія прадалі яго ў 1585 г. Валовічам. У сярэдзіне 17 ст. Калдычэва — цэнтр воласці Навагрудскага пав. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, маёнтак у Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1897 г. ў маёнтку 22 жыхары. У пач. 20 ст. 1 двор, 4 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР, у вёсцы 430

жыхароў, у былым маёнтку 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942 г. стварылі тут лагер смерці для масавага знішчэння сав. грамадзян. У ім утрымлівалася адначасова да 10 тыс. чал. Тэрыторыя лагера была агароджана некалькімі радамі калючага дроту, узмоцнена ахоўвалася. У бараках летняга тыпу знаходзілася толькі 30—40 працэнтаў вязняў, астатнія — пад адкрытым небам. Людзі гінулі ад голаду, цяжкай працы на торфараспрацоўках і іншых работах. Перад адступленнем у ноч на 30.6.1944 г. гітлераўцы расстралялі ўсіх, хто яшчэ заставаўся ў жывых, і ўзарвалі асн. памяшканні лагера. Усяго ў Калдычэўскім лагеры смерці загінулі больш за 22 тыс. чал. У 1971 г. 142 гаспадаркі, 398 жыхароў. У 1998 г. — 107 гаспадарак, 164 жыхары, саўгасная сядзіба, ветэрынарны ўчастак, механічныя майстэрні, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Помнікі на ўшанаванне памяці загінуўшых вязняў лагера смерці — скульптура смуткуючай жанчыны (на месцы былога лагера, 1964) і стэла (1964). Каля вёскі бярэ пачатак р. Шчара.

**КАНЮШОЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 28 км на Пн ад Баранавіч і чыг. ст. Баранавічы.

У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 13 двароў, 85 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 120 жыхароў. З 1921 г. ў Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 21 двор, 121 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 144 жыхары. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 92 жыхары. У 1998 г. 16 падвор'яў, 41 жыхар.

**КАПАНІ** — вёска ў Велікалуцкім с/с, за 8 км на Пд ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Баранавічы-Палескія на лініі Баранавічы—Лунінец. 26 жыхароў, 12 гаспадарак (2005).

З 12.10.1940 г. вёска ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У 1940 г. 15 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. акупанты спалілі вёску і загубілі яе 17 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. Паводле перапісу 1959 г. — 79, 1970 г. — 65 жыхароў. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**КАРЧОВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 35 км на Пн ад Баранавіч, за 1 км ад р. Сэрвач. 464 жыхары, 175 гаспадарак (2005).

Першапачаткова вёска мела назву Туганавічы. У 1510 г. ўпамінаецца як маёнтак, які належыў Туганоўскім. У 17 ст. ім валодалі па частках Дайнэкі, Гарніцкія, Касцянецкія і Туганоўскія. З 1758 г. Туганавічы сталі ўласнасцю Верашчакаў. У 2-й пал. 18 ст. тут быў створаны пейзажны парк, які займаў пл. каля 5 га. З



*Туганавіцкі парк у в. Карчова. Фрагмент.*



*Туганавіцкі парк у в. Карчова. План.*



1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1798 г. маёнтак і вёска Туганавічы мелі 40 дамоў. Частымі гасцямі гаспадароў маёнтка былі Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка. З 1831 г. яго зноў набылі ТугаHоўскія. Канстанцін Тугаюўскі ўзяў шлюб з Сафіяй Верашчакай; падтрымліваў сувязі з К. Каліноўскім, дапамагаў яму ў рэв. барацьбе. У час паўстання 1863—64 гг. у маёнтку Туганавічы была створана майстэрня па вырабе зброі, якая потым перапраўлялася ў адзін з цэнтраў паўстання — Мілавіды. У 1909 г. в. Карчова, у Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 74 двары, 517 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Цырынскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісаў 1959 г. — 342, 1970 г. — 445 жыхароў. У 1971 г. — 123 гаспадаркі, 413 жыхароў, камбінат быт. абслугоўвання, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, магазін. У 1998 г. — 175 падвор'яў, 496 жыхароў, сядзібы выканкома сельсавета і калгаса, механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, Дом быту, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў. На левым беразе р. Сэрвач — Туганавіцкі парк (2-я пал. 18 ст.), у глыбокім яры недалёка ад яго ляжыць валун — Камень філарэтаў.

**КАСТРЫЧНІЦКІ** — пасёлак у Сталовіцкім с/с, за 11 км на Пн ад Баранавіч. 387 жыхароў, 162 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1970 г. ў пасёлку 465 жыхароў. На тэрыторыі сучаснага пасёлка размешчаны клуб, б-ка, сталовая, магазін. Цэнтр торфапрадпрыемства «Каўпеніца».

**КАТМІНАЎЦЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 2 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 129 жыхароў, 52 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 43 двары, 345 жыхароў, ветраны млын. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 10 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 309 жыхароў. У 1998 г. 63 двары, 129 жыхароў.

**КАЎБАВІЧЫ** — вёска ў Падгорнаўскім с/с, за 49 км на ПдЗ ад Баранавіч,



*Сядзіба ў Туганавічах (цяпер в. Карчова). Малюнак Н.Орды.*



*«Камень філарэтаў» каля в. Карчова.*

за 25 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст, на р. Шчара. 119 жыхароў, 65 гаспадарак (2005).

Вядома з 1567 г. як уласнасць шляхцічаў Івановіча, Федаровіча, Яцкава. У 1905 г. ў Шылавіцкай вол. Слонімскага пав., 255 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 4.10.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 85 двароў, 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 10 вяскоўцаў. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску і загубілі 162 жыхароў. Ахвяры фашызму ўвекавечаны ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». Пасля вайны вёска адноўлена. Паводле перапісу 1959 г. — 305, 1970 г. — 364 жыхары. У 1998 г. 81 двор, 131 жыхар. У цэнтры вёскі знаходзіцца абеліск на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**КАЎПАКІ** — вёска ў Мілавідскім с/с, за 42 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 19 жыхароў, 13 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Крывошынскай вол. Навагрудскага пав., 15 двароў, 145 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дабромысленскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 60, 1970 г. — 103 жыхары. У 1998 г. 24 двары, 28 жыхароў.

**КАЎШЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 10 м ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Брэст. 9 жыхароў, 5 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 34 двары, 86 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 39 дамоў, 189 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінуў 1 вясковец. Паводле перапісу 1959 г. — 62, 1970 г. — 36 жыхароў. У 1998 г. 6 двароў, 9 жыхароў.

**КІСЯЛІ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 26 км на Пн ад Баранавіч. 108 жыхароў, 50 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 46 двароў, 302 жыхары, вадзяны млын. У 1909 г. 66 двароў, 360 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 71 двор, 408 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 338 жыхароў. У 1998 г. 78 гаспадарак, 134 жыхары.

**КЛОМПІКІ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 55 жыхароў, 30 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 37 двароў, 229 жыхароў. У 1909 г. 49 двароў, 258 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай, са снеж. 1925 г. Вольнаўскай гмінах Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 283, 1970 г. — 179 жыхароў. У 1998 г. 48 двароў, 67 жыхароў.

**КРАПАЧЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 29 км на Пн ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 23 жыхары, 17 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мін-



скай губ., 24 двары, 178 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзішчанскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 26 дамоў, 148 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 5 аднавяскоўцаў. У 1998 г. ў вёсцы 22 двары, 29 жыхароў.

**КРАСЕВІЧЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 30 км на Пн ад Баранавіч, за 14 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 14 жыхароў, 10 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 25 двароў, 161 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 32 двары, 185 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся маёнтак Красевічы: 1 двор, 2 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 6 дамоў, 72 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 150 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў адзін вясковец. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў. У 1998 г. 22 двары, 29 жыхароў.

**КРОШЫН** — вёска, цэнтр сельсавета, за 17 км на ПнУ ад Баранавіч, за 2 км ад аўтадарогі Баранавічы—Мінск, за 12 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, на правым беразе р. Шчара. 690 жыхароў, 266 гаспадарак (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1442 г. як маёнтак, які належыў князям Крошынскім; пабудаваны касцёл. З 1499 г. ўласнасць ваяводы кіеўскага кн. Дз.Пуцяціча, з 1570 г. — Валовічаў, з канца 16 ст. — Радзівілаў. У 1512 г. ўпамінаецца як мястэчка. У 1580 г. 39 дамоў. У цэнтры мястэчка знаходзілася гандл. плошча, на якой 1 раз у тыдзень адбываўся таржок, працавалі млын і карчма, 4 рамеснікі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Крошын у складзе Рас. імперыі, мястэчка Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. У 1818 г. пабудаваны новы драўляны касцёл. З 1822 г. ўласнасць Юрачаў-Гедройцаў, а з 1843 г. — Завадскіх. У 1828 г. тут адбыўся антыпрыгонніцкі бунт сялян. У Крошыне нарадзіўся і жыў П.Багрым (1812—91). У 1886 г. ў мястэчку 77 двароў, 637 жыхароў, касцёл, яўр. малітоўны дом. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1900 г. дзейнічала нар. вучылішча, у якім настаўнічаў Яраслаў Якімовіч. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 95 двароў, 1030 жыхароў, касцёл, сінагога, 2 крамы, карчма, раз у год адбываўся таржок. У 1909 г. ў мястэчку і маёнтку 158 двароў, 1406 жыхароў. У 1907 г. ў нар. вучылішчы працаваў настаўнікам Аляксандр Сіўко. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 79 дамоў, 411 жыхароў. Побач з мястэчкам знаходзіўся фальварак: 1 дом, 20 жыхароў. У 1920-я г. ў мястэчку пабудаваны касцёл, дзе зберагаецца выкаваная Багрымам жырандоль. З 1939 г. ў БССР, 763 жыхары. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, у Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з



*П.Багрым. Скульптар З.Азгур.*



*Касцёл Божага Цела (1920-я гг.) ў в. Крошын.*



*Сучасная забудова в. Крошын на беразе р. Шчара.*

25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 314, 1970 г. — 450 жыхароў. У 1972 г. 156 двароў, 456 жыхароў, працавалі клуб, камбінат быт. абслугоўвання, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. У 1998 г. — 192 двары, 697 жыхароў, выканком сельсавета, калгасная сядзіба, рамонтна-механічная майстэрня, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, магазін, сярэдняя школа (музей П.Багрыма з 1985 г.). У вясковым скверы знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў. На мясц. могілках пахаваны бел. паэт П.В.Багрым і Герой Сацыяліст. Працы А.А.Мацкоўскі. Помнік архітэктуры — касцёл (20 ст.).

**КРУГЛІКІ** — вёска ў Мядзеневіцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Баранавіч. 5 жыхароў, 3 гаспадаркі (2005).

У 1909 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 4 двары, 21 жыхар. З 1921 г. да 1939 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР, 70 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 78 жыхароў. У 1998 г. 12 двароў, 8 жыхароў.

**КРУПЛЯНЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 40 км на З ад Баранавіч, за 9 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 35 жыхароў, 23 гаспадаркі (2005).

Пад 1631 і 1632 гг. маёнтак Круплі ўпамінаецца ў дакументах Віленскага цэнтр. архіва. У 1886 г. сяло ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 7 двароў, 91 жыхар, царква. У 1905 г. 148 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Моўчадскай гміне Слонімскага пав., 12 дамоў, 67 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся фальварак Крупляны: 1 дом, 8 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 175, 1970 г. — 201 жыхар. У 1998 г. 5 двароў, 50 жыхароў, магазін.

**КРУТАЎЦЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 8 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 45 жыхароў, 32 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 61 двор, 387 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 77 двароў, 460 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 6 вяскоўцаў. У 1998 г. 72 двары, 54 жыхары.

**КРЫЖЫКІ** — вёска ў Велікалуцкім с/с, за 10 км на Пд ад Баранавіч, за 11 км ад чыг. ст. Русіно на лініі Баранавічы—Лунінец. 5 жыхароў, 4 гаспадаркі (2005).



У сярэдзіне 19 ст. ў Навагрудскім пав. Мінскай губ. З 1921 г. да 1939 г. знаходзілася ў складзе Польшчы, потым у БССР. З 12.10.1940 г. ў Велікалуцкім с/с Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 82 жыхары. У 1998 г. 5 двароў, 8 жыхароў.

**КУЗЕВІЧЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 2 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 27 жыхароў, 20 гаспадарак (2005).

У 1905 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав., 133 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Моўчадскай гміне Слонімскага пав., 21 двор, 106 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 9 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 112, 1970 г. — 108 жыхароў. У 1998 г. 15 двароў, 25 жыхароў.

**КУНЦАВІЧЫ** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 7 км на Пд ад Баранавіч. 72 жыхары, 42 гаспадаркі (2005).

У 1883 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав., 10 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 158 жыхароў. У 1909 г. вёска ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 38 двароў, 305 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 15 дамоў, 104 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 5 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 260, 1970 г. — 243 жыхары. У 1998 г. 72 двары, 54 жыхары, магазін.

**КУТАЎШЧЫНА** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 30 км на Пн ад Баранавіч. 39 жыхароў, 17 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 18 двароў, 189 жыхароў, цагляны з-д, нар. вучылішча. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак: 1 двор, каля 50 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Цырынскай гміне Навагрудскага пав., 10 двароў, 51 жыхар. Паводле перапісу 1959 г. — 147, 1970 г. — 86 жыхароў. У 1998 г. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў.

**ЛАЎРЫНАВІЧЫ** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 9 км на ПнУ ад Баранавіч, на шашы Баранавічы—Нясвіж. 220 жыхароў, 84 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 50 двароў, 279 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 20 дамоў, 87 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 16.7.1954 г. да 22.3.1962 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 140, 1970 г. — 193 жыхары. У 1972 г. — 55 двароў, 171 жыхар, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 1998 г. — 65 двароў, 209 жыхароў, сядзіба калгаса, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі.

**ЛАХАЗВА** — былая вёска ў Жамчужненскім с/с, на р. Лахазва.

У 2-й пал. 19 — пачатку 20 ст. маёнтак у Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., уласнасць Слізняў. У 1896 г. Ціт Слізень адкрыў тут шоўкапрадзільную ф-ку, якая працавала да 1-й сусветнай вайны. Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку 10 двароў, 289 жыха-

роў, шоўкапрадзільная ф-ка, шкіпінарны з-д, вадзяны млын, каталіцкая капліца. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана гітлераўцамі. З 1954 г. не існуе. Яе жыхары пераехалі ў іншыя месцы. Засталіся могілкі, на якіх брацкая магіла партызан.

**ЛЕБЯЖАНЫ** — вёска ў Цешаўлянскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Баранавіч, на аўтадарозе Баранавічы—Ліда, каля р. Мышанка.

У 1884 г. вёска і фальварак у Навамышскай вол. Навагрудскага пав., 10 двароў. З 1890 г. дзейнічала нар. вучылішча. У 1909 г. 29 двароў, 255 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак: 6 двароў, 65 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 18 дамоў, 104 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 217 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1. 1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 9 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 217, 1970 г. — 193 жыхары. У 1998 г. 47 двароў, 95 жыхароў, магазін. У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў.

**ЛЕСІНА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 9 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 94 жыхары, 53 гаспадаркі (2005).

У 1939 г. вёска, 76 жыхароў. З 15.1. 1940 г. да 8.4.1957 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана гітлераўцамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 188 жыхароў. У 1998 г. 64 двары, 113 жыхароў.

**ЛІХАСЕЛЬЦЫ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, каля аўтадарогі Брэст—Мінск. 94 жыхары, 53 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 53 двары, 322 жыхары, карчма, кузня. У 1905 г. тут адбылося хваляванне сялян, якія самастойна секлі памешчыцкі лес. У 1909 г. 61 двор, 340 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай, са снеж. 1925 г. ў Вольнаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 82 дамы, 473 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 34 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 483, 1970 г. — 212 жыхароў. У 1998 г. 116 двароў, 126 жыхароў, магазін. На мясц. могілках пахаваны сакратар былога Гарынкаўскага с/с В. В. Калоша, якога забілі бандыты ў 1948 г.

**ЛОЗЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 36 км ад Баранавіч, за 14 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 15 жыхароў, 14 гаспадарак (2005).

Вядома з 1567 г. як вёска, з якой шляхціч Я. Багдановіч выставіў аднаго коннага воіна ў войска ВКЛ. З канца 18 ст. ў складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 7 двароў, 62 жыхары. У 1909 г. 12 двароў, 73 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 13 двароў. З 1939 г. ў БССР, 80 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 7 аднавяскоўцаў.



Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў. У 1998 г. 30 двароў, 24 жыхары.

**ЛОТВІЧЫ** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 11 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск, на р. Іса. 405 жыхароў, 164 гаспадаркі (2005).

Вядомы па пісьмовых крыніцах з 16 ст. як вёска, з'яўляліся ўласнасцю Яновічаў, потым Санапоўскіх, Стаброўскіх. З канца 16 ст. — Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1905 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 280 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Лотвічы: 28 жыхароў. У пач. 20 ст. тут адкрыта нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у вёсцы і фальварку 59 двароў, 323 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 389 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 17.11.1959 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 27 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. — 359 жыхароў, 1972 г. — 154 двары, 518 жыхароў, камбінат быт. абслугоўвання, сталовая, 2 клубы, 2 б-кі, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 1998 г. — 140 двароў, 279 жыхароў, саўгасная сядзіба, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны пункт, Дом быту, базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. У цэнтры вёскі размешчана брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Да Лотвічаў далучаны суседнія вёскі Ляшкі (яна ж Любінаўка) і Сяркі (у 1970).

**ЛУГАВАЯ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Баранавіч. 26 жыхароў, 13 гаспадарак (2005).

Раней паселішча мела назву Дурневічы, якія ўпамінаюцца ў дакументах за 1798 г. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 29 двароў, 159 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У 1909 г. 377 двароў, 202 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 22 двары, 114 жыхароў. У 1964 г. вёска атрымала сучасную назву. Паводле перапісу 1970 г. 133 жыхары. У 1998 г. 32 двары, 33 жыхары, магазін.

**ЛЮШНЕВА** — вёска ў Цешаўлянскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 18 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда, пры аўтадарозе з Моўчадзі ў Палонку, за 1,5 км ад р. Уса.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з сярэдзіны 16 ст. як сяло. З канца 16 ст. належала Сапегам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1886 г. ў сяле 55 двароў, 572 жыхары, дзейнічалі валаснoe праўленне, царква, нар. вучылішча (адчынена ў 1863 г.), карчма, побач — вадзяны млын і лесапільны з-д. Існавалі лесапрацоўчыя, сплаўныя, возніцкія і іншыя промыслы. На пач. 20 ст. сяло, 912 жыхароў, працавала нар. вучылішча (у 1901 у ім вучылася 80 дзяцей). З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны Слонімскага пав., 42 дамы, 332 жыхары. Побач з вёскай размяшчаўся аднайменны фальварак: 9 дамоў, 72 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 22.3. 1962 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 535, 1970 г. — 745 жыхароў. У 1972 — 272 двары, 697 жыхароў, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, 8-гадовая школа. У 1998 г. — 172 двары, 478 жыхароў, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветэрынарны пункт, 2 магазіны, аддз. сувязі, базавая школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя,



*У.І.Галубок. Мастак Я.Ціхановіч. 1985 г.*

фельч.-акушэрскі пункт. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Каля вёскі знаходзіцца археал. помнік — курган.

**ЛЯСНАЯ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 25 км на ПнЗ ад Баранавіч, чыг. станцыя на лініі Баранавічы—Брэст, за 2,5 км ад шашы Баранавічы—Брэст.

Вядома паселішча з 1880-х г. як чыг. ст. Лясная ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў пасёлку пры аднайменнай чыг. ст. 3 двары, 18 жыхароў. У 1909 г. 10 двароў, 50 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 26 дамоў, 167 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 565 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баі каля вёскі 8.7.1944 г. вызначыўся Герой Сав. Саюза М.П.Акімаў. У вер. 1941 г. ў вёсцы гітлераўцы стварылі лагер № 337 для масавай загубы сав. ваеннапалонных, у якім пастаянна ўтрымлівалі каля 55 тыс. чал. У 1941—44 гг. ў Ляснянскім лагеры смерці акупанты загубілі 88,5 тыс. чал. Паводле перапісу 1959 г. 1213 жыхароў. У 1972 г. ў вёсцы 310 двароў, 1391 жыхар, працавалі лясніцтва, пякарня, цэх Баранавіцкай мэблевай ф-кі, сярэдняя школа, сталовая, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 5 магазінаў. У 1998 г. — 556 двароў, 1639 жыхароў, лясніцтва, сярэдняя школа (у школе ў 1986 адкрыты музей імя Галубка), бальніца, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, Дом быту, бальніца, аптэка, б-ка, 5 магазінаў, ашчадны банк. На паўд.-зах. ускраіне вёскі знаходзіцца магіла ахвяр фашызму, каля чыг. станцыі — брацкая магіла сав. воінаў і ахвяр фашызму. Радзіма бел. сав. пісьменніка, рэжысёра, акцёра, мастака, першага нар. артыста БССР У.І.Галубка (сапр. прозвішча Голуб).

**МАГІЛЯНЫ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 10 км на З ад Баранавіч. 57 жыхароў, 30 гаспадарак (2005).

У 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 17 двароў, 144 жыхары. У пач. 20 ст. ў вёсцы 31 двор, каля 180 жыхароў. Побач размяшчаўся маёнтак Магіляны: 6 двароў, 53 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 6 дамоў, 29 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 156 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 160 жыхароў. У 1998 г. 39 гаспадарак, 56 жыхароў.

**МАКАШЫ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 55 жыхароў, 35 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 41 двор, 243 жыхары, дзейнічалі млын, карчма. У 1909 г. ў вёсцы 50 двароў, 202 жыхары. Побач знаходзіўся фальварак Макашы: 1 двор, 10 жыхароў.



З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 58 дамоў, 322 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 386 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 343, 1970 г. — 278 жыхароў. У 1998 г. 37 двароў, 76 жыхароў, магазін.

**МАЛАХОЎЦЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 14 км на Пд ад Баранавіч, за 3 км ад аўтадарогі Баранавічы—Уцёс, на р. Мышанка. 151 жыхар, 80 гаспадарак (2005).

У 1885 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 23 двары, млын, царква. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 66 двароў, 380 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У 1909 г. 84 двары, 464 жыхары. Асн. заняткам насельніцтва былі земляробства і жывёлагадоўля. Існавалі таксама промыслы: возніцтва, ткацтва, прадзенне, сплаў лесу і іншыя. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 61 дом, 306 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 610 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 36 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 553, 1970 г. — 417 жыхароў. У 1998 г. дзейнічалі ветэрынарны ўчастак, рамонтна-механічныя майстэрні, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Радзіма Героя Сав. Саюза І.К.Кабушкіна і бел. паэта Алеся Жамойціна.

**МАЛАЯ ВОЛАХВА** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 7 км на Пд ад Баранавіч, на р. Мышанка. 152 жыхары, 58 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 61 двор, 414 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 94 двары, 531 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 44 дамы, 244 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 515 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў ёй 427 жыхароў. У 1998 г. — 56 двароў, 151 жыхар, магазін.

**МАЛАЯ КАЎПЕНІЦА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 5 км на Пн ад Баранавіч, на скрыжаванні аўтадарог Брэст—Мінск і Баранавічы—Навагрудак. 791 жыхар, 306 гаспадарак (2005).

По пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як вёска. З 1602 г. да 1831 г. з'яўлялася ўласнасцю віленскага каталіцкага епіскапата. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1798 г. 49 дамоў. Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 267 двароў, 574 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма. У 1898 г. працавалі 3 млыны, якія належалі Апанасевічам, Станкевічам і Галацкім. У 1909 г. 133 двары, 588 жыхароў. У 1913 г. тут адбылося хваляванне сялян, якія адмовіліся перасяляцца на хутары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 103 дамы, 464 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 733 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах вайны. У 1949 г. арганізаваны калгас «За Савецкую Радзіму» (старшыня Антон Галаўко). Паводле перапісу 1959 г. 614 жыхароў. У 1998 г. — 235 два-



*І.К.Кабушкін.*

роў, 831 жыхар, сядзіба сельсавета, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, ашчадны банк, Дом быту, базавая школа, б-ка, Дом культуры.

**МАЛАЯ СВАРОТВА** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 39 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 9 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 287 жыхароў, 117 гаспадарак (2005).

На пачатку 20 ст. існаваў маёнтак Сваротва ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 11 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска і фальварак Моўчадскай гміны Слонімскага пав., 54 двары, 336 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 458 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі палавіну вёскі. На франтах вайны загінулі 14 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 437, 1970 г. — 397 жыхароў. У 1972 г. — 199 двароў, 403 жыхары, Дом культуры, 8-гадовая школа, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 1998 г. — 153 двары, 280 жыхароў, с.-г. майстэрні, ветэрынарны ўчастак, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. Да вёскі далучаны сумежны хутар Лімантаўшчына. У 1999 г. адкрыты музей імя Б.Б.Вільчкоўскага.

**МАЛЫЯ ЛУКІ** — вёска ў Велікалуцкім с/с, за 15 км на Пд ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Русіно на лініі Баранавічы—Лунінец. 83 жыхары, 58 гаспадарак (2005).

У 1884 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 27 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 76 двароў, 458 жыхароў. У 1909 г. 96 двароў, 542 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 61 дом, 337 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 626 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Велікалуцкім с/с Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1. 1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г.



*Помнік Б.Б.Вільчкоўскаму ў в. Малая Сваротва.*

ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 27 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 417, 1970 г. — 290 жыхароў. У 1998 г. 66 двароў, 110 жыхароў.

**МАЛЫЯ ПУРНЕВІЧЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 19 км ад чыг. ст. Міцкевічы. 23 жыхары, 15 гаспадарак (2005).

У 1909 г. маёнтак Пурневічы ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 1 двор, 5 жыхароў. Пазней на месцы колішняга маёнтка пабудавана вёска, якая атрымала сучасную назву. У 1921 г. ў Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 9 двароў, 41 жыхар. Паводле перапісу 1959 г. — 146, 1970 г. — 115 жыхароў. У 1998 г. 33 двары, 38 жыхароў.

**МАСТЫТЫЧЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 30 км на Пн ад Баранавіч. 27 жыхароў, 18 гаспадарак (2005).

У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 29 двароў, 200 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак: 5 двароў,



19 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 41 двор, 210 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 32 двары, 142 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 236 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 201 жыхар. У 1998 г. 32 двары, 39 жыхароў, магазін.

**МЕЛЕХАВІЧЫ** — вёска ў Мядзеневіцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Баранавіч. 46 жыхароў, 23 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 12 двароў, 56 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, ветраны млын. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак: 2 двары, 14 жыхароў. У 1909 г. 8 двароў, 59 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 17 двароў, 110 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 200 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 146, 1970 г. — 144 жыхары. У 1998 г. 32 двары, 56 жыхароў.

**МІЛАВІДЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 37 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 11 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст, на аўтадарозе Івацэвічы—Слуцк. 807 жыхароў, 337 гаспадарак (2005).

Вядомы з 16 ст., у 1518 г. Ян Неміровіч адпісаў вёску сваёй жонцы. З 1712 г. ў валоданні Быценскага кляштара. У сярэдзіне 19 ст. ў Дабромысленскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1843 г. пабудавана паштовая станцыя, якая ўключала станцыйны дом, карэтную і хлеў. З 1861 г. адкрыта нар. вучылішча. У час паўстання 1863—64 гг. Мілавіды з'уляліся адным з цэнтраў паўстання. Тут знаходзіўся паўстанцкі лагер. У сярэдзіне мая 1863 г. ў ім знаходзілася некалькі атрадаў (каля 800 чал.), камандаванне аб'яднанымі сіламі ажыццяўляў А.Лянкевіч. Паўстанцы ўстанавілі кантроль над навакольнай тэрыторыяй, знаёмілі сялян з мэтамі паўстання, выступалі за надзяленне іх зямлёй, за адмену феад. павіннасцей. 20.5.1863 г. мілавідскі лагер наведаў К.Каліноўскі. Царскія ўлады накіравалі супраць паўстанцаў войскі. 22 мая адбыўся жорсткі бой паміж рас. войскамі і паўстанцамі. Дэмаралізаваныя карнікі праз некалькі гадзін вымушаны былі адступіць. Аднак хутка да іх падышла дапамога з Нясвіжа. 23 мая наступленне было адноўлена. Але паўстанцы к таму часу пакінулі лагер і здолелі нанесці значны ўрон царскім войскам (па афіц. звестках 50 забітых і параненых). Мілавідская бітва была адной з буйнейшых у Беларусі. У 1-й пал. 1880-х г. на месцы сучаснага паселішча існавалі 2 вёскі з назвай Мілавіды, якія налічвалі 32 двары, 336 жыхароў; дзейнічалі праваслаўная царква, нар. вучылішча (адкрыта ў 1861), заезны дом, паштовая станцыя, карчма. У 1890—1914 гг. працавала лесапільная ф-ка, якая мела паравую машыну. У 1901 г. ў Мілавідскім нар. вучылішчы займаліся каля 70 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дабромысленскай гміне Слонімскага пав. З 1939 г. ў БССР, 675 жыхароў. З 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета, у Быценскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.7.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 258 двароў, 735 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 186 двароў і загубілі 83 жыхары. На франтах вайны загінулі 70 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 695 жыхароў. У 1972 г. да яе далучана в. Скарынкі. У 1998 г. ў Мілавідах 864 двары, 1016 жыхароў, выканком сельсавета і калгасная сядзіба, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, б-ка, аддз. сувязі, клуб, 2 магазіны, сярэдняя школа (з 1970 у ёй працуе гісторыка-краязнаўчы музей). У



*Мемарыяльная капліца (1930—33) у в. Мілавіды.*




*У цэнтры г.п.Мір.*

цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў і партызан, каля сярэдняй школы пастаўлены помнік землякам. За 1,5 км ад вёскі, на Брэсцкай шашы, на месцы Мілавідскай бітвы ў 1930—33 гг. пабудавана мемарыяльная капліца, архітэктура якой вырашана ў стылі неакласіцызму, а побач у 1988 г. ўстаноўлены памятны знак.

**МІР** — пасёлак Навамышскага сельсавета, за 10 км на ПнЗ ад Баранавіч. 339 двароў, 1040 жыхароў (2005).

**МІРНЫ** — пасёлак у Малахавецкім с/с, за 10 км на Пд ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Баранавічы на лініі Баранавічы—Брэст, на р. Мышанка. 428 жыхароў, 133 гаспадаркі (2005).

Заснаваны ў 1965 г. У 1998 г. налічваў 416 жыхароў. Працавалі дзіцячая муз. школа, Дом культуры (фальклорны тэатр «Званочкі»), аддз. сувязі, магазін, сталовая.

**МІТРАПОЛЬШЧЫНА** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 33 км на Пн ад Баранавіч. 23 жыхары, 14 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 32 двары, 149 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак: 1 двор, 4 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Цырынскай гміне Навагрудскага ваяв., 32 дамы, 104 жыхары. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісу 1959 г. 184 жыхары. У 1998 г. 23 двары, 28 жыхароў.

**МІХНАЎШЧЫНА** — вёска ў Мядзеневіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Баранавіч, за 20 км ад чыг. ст. Баранавічы. 11 жыхароў, 6 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 14 двароў, 50 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак — 1 двор, 13 жыхароў, уладанне Хмялеўскіх. У 1909 г. ў вёсцы 21 двор, 83 жыхары. Каля яе існавалі 2 маёнткі з назвай Міхнаўшчына: 2 двары, 6 жыхароў (належалі Хмялеўскім). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай



гміне Навагрудскага пав., 9 двароў, 39 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 110 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары. У 1998 г. 15 двароў, 13 жыхароў. Да Міхнаўшчыны далучана суседняя в. Нячэхі.

**МІЦКЕВІЧЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Баранавіч, чыг. станцыя на лініі Баранавічы—Ліда. 300 жыхароў, 172 гаспадаркі (2005).

Пад 1606 г. пазначана ў вопісе дакументаў цэнтр. архіва старажытных актавых кніг. У 1905 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 531 жыхар, адкрыта нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Люшнеўскай гміне Слонімскага пав., 68 двароў, 350 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 750 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры яе вызваленні вызначыўся Герой Сав. Саюза гвардыі лейтэнант, камандзір танкавай роты І.М.Сухамлін. На франтах вайны загінулі 14 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 807, 1970 г. — 733 жыхары. У 1998 г. — 272 двары, 390 жыхароў, клуб, магазін. З Міцкевічамі аб'яднана суседняя в. Калеснікі (1970).



**МЛЫНОК** – вёска ў Малахавецкім с/с, за 13 км на Пд ад Баранавіч. 44 жыхары, 30 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав., 34 двары, 195 жыхароў. У 1909 г. 38 двароў, 206 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 34 дамы, 209 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 248 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. – 201, 1970 г. – 159 жыхароў. У 1998 г. 42 двары, 55 жыхароў, магазін.

**МОЎЧАДЗЬ** – вёска, цэнтр сельсавета, за 33 км на ПнЗ ад Баранавіч, чыг. станцыя на лініі Баранавічы–Ліда, на р. Моўчадзь. 950 жыхароў, 330 гаспадарак (2005).

Адносна паходжання назвы існуе паданне, што калісьці на тутэйшы край напалі ворагі. Яны рабавалі і спустошалі паселішчы, здзекваліся над насельніцтвам. Але на месцы сучаснай в. Моўчадзь іх разбілі, і яны былі вымушаны адступаць праз дрыгвяністае, гнілое балота. Ворагі, не ведаючы броду, з крыкам пачалі тапіцца. Калі іх крыкі сціхлі, то пераможцы ад радасці гаварылі: «Маўчаць! Маўчаць!». З таго часу балота і паселішча, якое было засн. побач, сталі называць Моўчадзь. Але хутчэй за ўсё сваё імя вёска атрымала ад назвы р. Моўчадзь.

Па пісьмовых крыніцах Моўчадзь вядома з 1487 г., з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1654 г. вял. пажар цалкам знішчыў мястэчка. З гэтай прычыны местачкоўцы былі вызвалены на 4 гады ад усіх падаткаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскім пав. У 1862 г. тут было адчынена нар. вучылішча. У 1879 г. зноў здарыўся пажар, які знішчыў большую частку пабудоў. У 1884 г. побач з мястэчкам была пракладзена чыгунка. У 1886 г. 1100 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, 3 сінагогі, бровар, чыг. станцыя, нар. вучылішча, 4 разы на год адбываліся кірмашы. Мясцовы праваслаўны прыход налічваў каля 2,5 тыс. вернікаў. На пач. 20 ст. ў мястэчку 1800 жыхароў, на чыг. станцыі 50 жыхароў; у нар. вучылішчы ў 1901 г. навучалася 128 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Люшнеўскай вол. Слонімскага пав., 263 двары, 1483 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 1965 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Гарадзішчанскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут 3,6 тыс. мірных жыхароў. На франтах вайны загінулі 8 вяскоўцаў. Пасля вайны да Моўчадзі далучаны в. Самкі і колішні маёнтак Сунгалоўшчына. Паводле перапісу 1959 г. – 1141, 1970 г. – 995 жыхароў. У 1998 г. – 303 двары, 1246 жыхароў, выканком сельсавета, калгасная сядзіба, рамонтна-механічныя майстэрні, Дом быту, ветэрынарны ўчастак, сталовая, аддз. сувязі, б-ка, школа-інтэрнат, сярэдняя школа (пры школе працуе з 1967 гісторыка-краязнаўчы музей), 4 магазіны. Помнік землякам. На тэрыторыі школы-інтэрната ўстаноўлены помнік – скульптура двойчы Героя Сав.



*Петрапаўлаўская царква (1869–73) у в.Моўчадзь.*

Саюза С.І.Грыцаўца. Помнік архітэктуры — мураваная царква (19 ст.). У ваколіцах вёскі археал. помнік — курган.

**МЯДЗЕНЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 21 км на Пн ад Баранавіч, за 2 км ад шашэйнай дарогі Баранавічы—Навагрудак, на р. Шчара. 151 жыхар, 78 гаспадарак (2005).

У 19 — пач. 20 ст. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 47 двароў, 327 жыхароў, працаваў ветраны млын. У пач. 20 ст. 66 двароў, каля 380 жыхароў. Існавалі ткацкі, рыбалоўны, адыходныя і іншыя промыслы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР 350 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 28 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 383, 1970 г. — 343 жыхары. У 1998 г. — 102 двары, 183 жыхары, выканком сельсавета, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. За 4 км на Пн ад вёскі знаходзіцца ўрочышча Завоссе (раней фальварак Завоссе). Як сцвярджаюць даследчыкі, у гэтым фальварку 24.12. 1798 г. нарадзіўся польскі паэт Адам Міцкевіч. На ўшанаванне яго памяці ў 1927 г. на месцы колішняга фальварка Завоссе ўстаноўлены абеліск, які быў рэстаўрыраваны ў 1955 г.

**НАВАСАДЫ** — вёска ва Уцёскім с/с, за 25 км ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 70 жыхароў, 35 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Вастраўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 105 двароў, 732 жыхары, хлебазапасны магазін, школа граматы, крама, карчма. У 1909 г. ў вёсцы 62 двары, 401 жыхар. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак: 4 двары, больш за 40 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Вастраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 68 дамоў, 233 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 218, 1970 г. — 252 жыхары. У 1998 г. 53 двары, 81 жыхар, магазін.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 20 км на Пн ад Баранавіч, за 17 км ад чыг. ст. Баранавічы-Цэнтральная. 54 жыхары, 28 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 28 двароў, 198 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 22 двары, 136 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У баі за вёску 5 ліп. 1944 г. вызначыўся старшы сяржант Я.М.Сулейменаў. На чале групы байцоў ён падпоўз да пазіцыі праціўніка і закідаў гранатамі ўчастак абароны гітлераўцаў, вымусіў іх адступіць, чым садзейнічаў выхаду з акружэння 200 сав. воінаў. За гэты подзвіг Сулейменаву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Паводле перапісу 1959 г. — 182, 1970 г. — 121 жыхар. У 1998 г. 34 двары, 35 жыхароў, магазін. З Навасёлкамі аб'яднаны суседнія хутары Очкава і Чорны Луг і в. Льнянікі.

**НАВІКІ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Баранавіч. 14 жыхароў, 9 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 8 двароў, 34 жыхары. У 1909 г. 9 двароў, 70 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 10 дамоў, 44 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіц-



кім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 74, 1970 г. — 54 жыхары. У 1998 г. 19 двароў, 116 жыхароў.

**НАВІНКІ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 15 жыхароў, 8 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 20 двароў, 112 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 25 двароў, 154 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 16 двароў, 81 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. У 1998 г. 19 двароў, 13 жыхароў.

**НАГОРНАЯ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 33 км на Пн ад Баранавіч, за 15 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 108 жыхароў, 41 гаспадарка (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 9 двароў, 78 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 12 двароў, 90 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 41 дом, 248 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 80 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 5 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 135, 1970 г. — 143 жыхары. У 1998 г. — 47 двароў, 110 жыхароў, сядзіба калгаса, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветэрынарны ўчастак, пач. школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Помнік землякам.

**НАГОРНАЯ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Баранавіч, за 9 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 81 жыхар, 49 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 28 двароў, 184 жыхары. У 1905 г. тут адбылося хваляванне сялян, якія зрабілі самавольную высечку памешчыцкага лесу. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 283 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 139 жыхароў. У 1998 г. 75 двароў, 102 жыхары.

**НЕБЫТЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 16 км на З ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 63 жыхары, 41 гаспадарка (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 23 двары, 258 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы 39 двароў, 348 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 30 дамоў, 181 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 272 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 191 жыхар. У 1998 г. 66 двароў, 103 жыхары.

**НЕСЦЯРЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 28 км на Пн ад Баранавіч, за 13 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 25 жыхароў, 14 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 26 двароў, 236 жыхароў. У 1909 г. 44 двары, 250 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 307 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 7 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 254 жыхары. У 1998 г. 31 двор, 34 жыхары.

**НОВАЯ МЫШ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 8 км на З ад Баранавіч, на скрыжаванні аўтадарог на Івацэвічы, Стоўбцы, Слонім, Моўчадзь, на р. Мышанка.

Вядома з 16 ст. як мястэчка, дзярж. ўласнасць. У 1568 г. вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт II Аўгуст падараваў мястэчка жмудскаму старасце Яну Хадкевічу, які пабудаваў тут замак (не захаваўся). Пазней мястэчка ва ўладанні Сіняўскіх, Юдзіцкіх, Масальскіх, Несялоўскіх. Неаднаразова разбуралася войнамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі; цэнтр воласці ў Навагрудскім пав. У 1825 г. ўзведзены Праабражэнскі касцёл (з цэглы). У 1842 г. адбыліся 2 кірмашы (1 і 29 вер.), на якіх у асн. гандлявалі с.-г. прадуктамі і жывёлай. У 1859 г. ў мястэчку на сродкі казны і тутэйшых сялян пабудавана драўляная Праабражэнская царква. Праваслаўны прыход налічваў каля 3500 вернікаў, сярод якіх пісьменных было толькі каля 10%. У 1-й пал. 1880-х г. у мястэчку каля 160 двароў, 1030 жыхароў, дзейнічалі царква, нар. вучылішча (адчынена ў 1862), валаснoe праўленне, касцёл, сінагога, 3 яўр. школы, бальніца, 21 крама, бровар, цагельны з-д, паравы і ветраны млыны. Існавалі промыслы: шавецкі, кравецкі і кузнецкі, па вырабе розных рэчаў з дрэва. У пач. 20 ст. Н.М. уяўляла сабой вялікае і шматмоўнае мястэчка, у якім налічвалася 320 двароў, каля 3860 жыхароў, у нар. вучылішчы вучылася каля 150 дзяцей (з іх толькі 25 дзяўчынак). Дзейнічалі прызыўны ўчастак і аптэка. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 327 дамоў, 1815 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. цэнтр Навамышскага р-на Баранавіцкай (з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета), з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4. 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры яе вызваленні вызначыўся наводчык, камандзір гарматы М.П.Акімаў, які падбіў 5 варожых танкаў, знішчыў 50 акупантаў і ўтрымаў рубеж да прыходу асн. сіл сваёй часці. За гэты подзвіг Акімаву 25.9.1944 г. было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1942 жыхары. У 1998 г. — 511 гаспадарак, 1752 жыхары, філіял Баранавіцкай ф-кі дзіцячых цацак, выканком сельсавета, калгасная сядзіба, механічныя майстэрні, Дом быту, аддз. сувязі і ашчаднага банка, бальніца, аўтаматычная тэлеф. станцыя, племстанцыя, ветэрынарная лячэбніца, прафесійна-тэхн. вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя і муз. школы, дзіцячыя яслі-сад, Дом культу-



*Праабражэнскі касцёл у в. Новая Мыш.*





Праабражэнскі касцёл у в. Новая Мыш. Фрагмент амбона.

ры, б-ка, аптэка, сталовая, 2 магазіны. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Помнік архітэктуры — Праабражэнскі касцёл (1825), Праабражэнская царква (1859).

**НОВЫ СВЕТ** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад Баранавіч. 61 жыхар, 33 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 46 двароў, 94 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы і фальварку 24 двары, 92 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 22 дамы, 104 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 115 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 77, 1970 г. — 69 жыхароў. У 1998 г. 49 двароў, 58 жыхароў.

**НОВЫЯ ВОЙКАВІЧЫ** — вёска ў Мядзеневіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Баранавіч. 46 жыхароў, 21 гаспадарка (2005).

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 151, 1970 г. — 137 жыхароў. У 1998 г. 32 двары, 56 жыхароў.

**НОВЫЯ ЛУКІ** — вёска ў Вялікалуцкім с/с, за 14 км на Пд ад Баранавіч, за 9 км ад чыг. ст. Русіно на лініі Баранавічы—Лунінец. 40 жыхароў, 31 гаспадарка (2005).

У 19 — пач. 20 ст. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 76 двароў, 458 жыхароў. У 1909 г. 19 двароў, 124 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 10 дамоў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 95 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Велікалуцкім с/с Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1. 1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 134 жыхары. У 1998 г. 47 двароў, 146 жыхароў. Да яе далучана суседняя в. Задвор'е.

**ПАДАСАЎЦЫ** — вёска ў Мілавідскім с/с, за 44 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 18 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 44 жыхары, 23 гаспадаркі (2005).

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 616 жыхароў. У 1998 г. 15 двароў, 35 жыхароў.

**ПАДГОРНАЯ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 43 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 19 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Бара-

Праабражэнская царква ў в. Новая Мыш.



навічы—Брэст, на правым беразе р. Лахазва.

У пісьмовых крыніцах сустракаецца з сярэдзіны 16 ст. пад назвай Гавінавічы. У 1555 г. маёнтак, уласнасць Ганны Ільінічны, у 1565 г. — Сафіі Янаўны Вікторынай; пазней належаў Гаўрыле Камбулатовічу. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1817 г. пабудавана царква святога Антонія (захавалася). На пач. 20 ст. працавала школа граматы. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Быценскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 4.10.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 27 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1063 жыхары. У 1964 г. Гавінавічы атрымалі назву Падгорная. Паводле перапісу 1970 г. 1274 жыхары. У 1998 г. — 345 двароў, 822 жыхары, выканком сельсавета, сядзіба калгаса, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, сярэдняя школа (з 1986 г. дзейнічае музей прац. і баявой славы), Дом культуры (працуе хор нар. песні, якому ў 1972 г. прысвоена ганаровае званне народны), б-ка, бальніца, аддз. сувязі, 3 магазіны. Помнік землякам.

**ПАДЛЯСЕЙКІ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 448 жыхароў, 214 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 99 двароў, 539 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня, карчма, 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 117 двароў, 607 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 126 дамоў, 739 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 892 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 1987 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінулі 17 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 1051, 1970 г. — 836 жыхароў. У 1998 г. — 219 двароў, 524 жыхары, калгасная сядзіба, рамонтнамеханічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. На адным з дамоў устаноўлена ў 1983 г. мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці старшыні былога Падлясейскага с/с А.К.Пятліцкага, забітага бандытамі ў 1948 г. Ён пахаваны на могілках у суседняй в. Ятвезь.

**ПАЛАНЭЧКА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 35 км на ПнУ ад Баранавіч, за 21 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, на р. Змейка (прыток р. Шчара), з г. Баранавічы злучана аўтадарогай. 612 жыхароў, 264 гаспадаркі (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як мястэчка, з'яўлялася ўласнасцю Дусяцкіх-Рудамінаў, пазней Радзівілаў. У канцы 18 — пач. 19 ст. кн. К.Радзівіл пабудаваў тут цагляны палац, у якім размяшчаліся вял. б-ка, архіў, творы мастацтва і калекцыя манет (рэканструяваны ў пач. 20 ст.). У 1751 г. ў мястэчку ўзведзены драўляны касцёл святога Юрыя. У 1777 г. Паланэчку наведаў рас. пісьменнік Дз.Фанвізін, які ехаў з Масквы ў Францыю. Ён пакінуў запісы аб мястэчку і яго ваколіцах. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Паланэчка была далучана да Рас. імперыі, у складзе Жухавіцкай вол. Навагрудскага пав. У 1819 г. тут пабудаваны вадзяны млын. Паводле інвентару 1844 г. ў мястэчку 58 сял. двароў, якія мелі поўны зямельны надзел, і 32 двары (агароднікі), дзе меліся толькі прысядзібныя ўчасткі. У местачкоўцаў было каля 50 кароў, 26 коней. Гаспадар Паланэчкі князь К.Радзівіл вызначаўся прагрэсіўнымі поглядамі, падтрымліваў





*Палац (канец 18—пачатак 19 ст.) у в. Паланэчка.*

сувязі і сустракаўся з патрыят. дзеячамі Расіі, Польшчы і Беларусі. Да яго прыязджаў У.Сыракомля. У 1845 г. ў маёнтку К.Радзівіла знаходзілася рэдакцыя часопіса «Народ і час», які выдаваў Я.Філіповіч (выйшаў толькі першы нумар). У 1886 г. — 62 двары, 454 жыхары, капліца, вадзяны млын, касцёл, крама, нар. вучылішча. Каля мястэчка знаходзіліся аднайменныя маёнтак і вёска, у якіх налічвалася 9 сял. двароў. У 1909 г. сяло ў Жухавіцкай вол. Навагрудскага пав., 90 двароў, 488 жыхароў. Маёнтак Паланэчка налічваў 29 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 99 дамоў, 523 жыхары. Побач размяшчаўся фальварак: 9 дамоў, 77 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. Цэнтр сельсавета з 12.10.1940 г. да 14.4.1960 г. і з 1987 г. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінуў 71 аднасяльчанін. Паводле перапісу 1959 г. — 404, 1970 г. — 1071 жыхар. У 1998 г. — 291 двор, 662 жыхары, выканком сельсавета, калгасная сядзіба, рамонтныя с.-г. майстэрні, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, клуб, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, б-ка, магазін.

Брацкая магіла сав. воінаў, помнік землякам. Помнікі архітэктуры — палац (канец 18 — пач. 19 ст.), вадзяны млын (1819), Юр'еўскі касцёл (1899). Радзіма Героя Сацыяліст. Працы М.Л.Светліка (1926—72).

**ПАЛОНКА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 20 км на З ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск, на р. Палонка (прыток р. Іса), на аўтадарозе Новая Мыш—Слонім. 786 жыхароў, 305 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 16 ст. У 1506 г. ў ваколіцах сяла войскі ВКЛ на чале з гетманамі М.Глінскім і С.Кішкай разграмілі татар. У 1660 г. каля Палонкі адбылася бітва паміж рас. войскамі на чале з ваяводамі Змеявым, Нашчокіным, Трубяцкім, Хаванскім, Шчарбатавым і войскамі пад камандаваннем гетманаў П.Сапегі і С.Чарнецкага. Войска Расіі налічвала 46 тыс., аб'яднаныя сілы Рэчы Паспалітай — каля 15 тыс. воінаў. Сапега і Чарнецкі атрымалі бліскучую



*Фрагмент дэкору галоўнага фасада палаца ў в. Паланэчка.*



*Юр'еўскі касцёл (1899) у в. Паланэчка.*

перамогу над рас. ваяводамі: кн. Шчарбатаў быў забіты, а Хаванскі цяжка параненьі. У выніку ваенных дзеянняў сяло Палонка было разбурана, а насельніцтва вызвалена ад падаткаў тэрмінам на адзін год. У 1680 г. засн. дамініканскі кляштар, які праіснаваў да 1830 г. У 2-й пал. 18 ст. сяляне напісалі скаргу свайму пану Сапегу на жорсткі прыгнёт з боку эканома. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, мястэчка ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. У 1886 г. — 20 двароў, 200 жыхароў, дзейнічалі 2 яўр. школы, царк.-прыходскія школа і папячыцельства. Праваслаўны прыход налічваў каля 1,4 тыс. вернікаў. З 1900 г. працавала нар. вучылішча, у якім у 1889—1900 навуч. г. займалася 96 дзяцей (з іх 8 дзяўчынак, настаўніца К.Завусцінская). У 1909 г. ў мястэчку 56 двароў, каля 500 жыхароў. Летам 1906 г. настаўнікі Лісоўскі, Буляк, Кужалевіч вялі сярод сялян агітацыю, распаўсюджвалі лістоўкі і пракламацыі, якія заклікалі іх да барацьбы з царызмам і памешчыкамі. У пач. 20 ст. пабудавана драўляная царква. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 55 дамоў, 440 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 7.9.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1941 г. загубілі 14 жыхароў. На франтах вайны загінула 11 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 408, 1970 г. — 622 жыхары. Да Палонкі ў пасляваенныя гады далучаны суседні хутар Прушынава. У 1998 г. — 155 двароў, 782 жыхары, выканком сельсавета, сядзіба саўгаса, рамонтна-механічныя с.-г. майстэрні, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, лясніцтва, 4 магазіны. Брацкая магіла сав. воінаў. Магіла ахвяр фашызму. На будынку сельсавета ў 1983 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка, якая ўшаноўвае памяць былога старшыні П.Г.Шчарбакова, загінуўшага ад рук бандытаў. Помнік архітэктуры — царква (пач. 20 ст.).

*Пейзажны парк у в. Паўлінава.*



**ПАЛЯНІЧЫЦЫ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Баранавіч. 180 жыхароў, 82 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 204 двары, 632 жыхары. У 1909 г. 125 двароў, 780 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Сталовіцкай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 8 дамоў, 44 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 681 жыхар. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 9 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 643, 1970 г. — 465 жыхароў. Радзіма доктара біялагічных навук С.М.Чаранкевіча.

**ПАРУЧЫН** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 31 км на Пн ад Баранавіч. 72 жыхары, 47 гаспадарак (2005).

У 1783 г. тут пабудавана Я.Кабылінскім царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1886 г. ў вёсцы Паручын (альбо Ясянец) 35 двароў, 350 жыхароў, царква.



Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., у вёсцы 29 двароў, 247 жыхароў, у сяле 6 двароў, 44 жыхары, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма. У пач. 20 ст. ў сяле 50 двароў, каля 300 жыхароў. Побач з сялом знаходзіўся аднайменны маёнтак: 1 двор, 4 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 26 двароў, 175 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 280 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 303 жыхары. У 1998 г. 78 двароў, 101 жыхар, магазін. У 1970 г. далучана суседняя в. Крывое Сяло.

**ПАСТАРЫННЕ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Дамашэвічы. 180 жыхароў, 99 гаспадарак (2005).

У 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 434 двары, 991 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы 196 двароў, 1195 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 172 дамы, 901 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 137 жыхароў. У 1998 г. 136 двароў, 212 жыхароў, магазін. Помнік землякам. Магіла маёра Чырвонай Арміі У.І.Туркатава.

**ПАЎЛІНАВА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 239 жыхароў, 103 гаспадаркі (2005).

У 1921 г. ў Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў адзін вясковец. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы налічвалася 236 жыхароў. У 1998 г. 9 двароў, 24 жыхары.

**ПАЧАПАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 43 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 15 км ад чыг. ст. Міцкевічы, пры р. Пачапаўка.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяленне Пачапаў. Пад 1678 г. упамінаецца маёнтак Пачапаў. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, сяло, цэнтр воласці Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1867 г. на сродкі мясц. жыхароў і дзяржавы пабудавана новая царква, прыход якой налічваў каля 3 тыс. чал., з якіх пісьменныя складалі толькі 8% (1879). Царква мела каля 60 дзес. зямлі, у тым ліку ворыва 40 дзес. У 1-й пал. 1880-х г. у сяле 20 двароў, 204 жыхары, дзейнічалі валаснoe праўленне, нар. вучылішча (адчынена ў 1863), царква, вінакурны з-д. Асн. заняткам насельніцтва былі земляробства і жывёлагадоўля. У 1909 г. 50 двароў, 345 жыхароў, у нар. вучылішчы ў 1901 г. вучыліся 85 хлопчыкаў і 19 дзяўчынак. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Пачапаўскай гміны Навагрудскага пав., 32 двары, 229 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Гарадзішчанскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 83 двары, 311 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. гітлераўцы спалілі 64 двары і загубілі 41 жыхара. Пасля вайны адноўлена. Паводле перапісу 1959 г. — 302, 1970 г. — 313 жыхароў. У



*Палац у в. Паўлінава (1906–09).*

1998 г. — 62 двары, 283 жыхары, выканком сельсавета, сядзіба саўгаса, ветэрынарны ўчастак, механічныя майстэрні, магазін, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад. Брацкая магіла партызан, помнік землякам. Да Пачапава далучана суседняя в. Карсакоўшчына.

**ПЕРАНОСІНЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 23 км на З ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 77 жыхароў, 46 гаспадарак (2005).

У 1788 г. ўпамінаецца пад назвай Зарэчча. Паводле перапісу 1897 г. Зарэчча ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 20 двароў, 128 жыхароў. У 1909 г. 28 двароў, 226 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав., 20 двароў, 99 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 142 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 20 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 336, 1970 г. — 269 жыхароў. У 1998 г. 70 двароў, 85 жыхароў.

**ПЕРХАВІЧЫ** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 15 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда, за 2 км ад р. Іса.

У 1905 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у вёсцы 315 жыхароў. Побач з ёй знаходзіліся 2 аднайменных маёнткі (34 жыхары). Гал. заняткамі насельніцтва былі земляробства, жывёлагадоўля, промыслы: прадзенне, ткацтва і іншыя. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Люшнеўскай гміне Слонімскага пав., 35 двароў, 196 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4. 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 22.3.1962 г. да 1986 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 335 жыхароў. У 1998 г. — 88 двароў, 334 жыхары, сядзіба калгаса, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Помнік землякам.

**ПЕРШАМАЙСКІ** — пасёлак у Цешаўлянскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 290 жыхароў, 99 гаспадарак (2005).

Упамінаецца як пас. Першамайскі ў матэрыялах перапісу 1970 г. У 1998 г. — 53 гаспадаркі, 304 жыхары, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, сталовая і магазін.

**ПЕТКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 34 км на ПнУ ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, каля р. Ішкалдзь, на аўтадарозе Новая Мыш—Мінск.

У 19 — пач. 20 ст. вёска Гарадзейскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Ішкалдзь, які належаў Вітгенштэйнам. У 1887 г. ў вёсцы 42 двары. У 1909 г. 166 двароў, 626 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. за-



*Знак на мяжы Мінскай і Брэсцкай абласцей каля в. Петкавічы.*



хопнікамі. З 18.8.1986 г. цэнтр сельсавета. З 1998 г. дзейнічаюць с.-г. майстэрні, ветэрынарны пункт, базавая школа, клуб, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, дзіцячыя яслі-сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя.

**ПРУДЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 28 км на Пн ад Баранавіч. 21 жыхар, 15 гаспадарак (2005).

У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 23 двары, 154 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 32 двары, 195 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Навагрудскага пав., 28 двароў, 162 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 198 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 160 жыхароў. У 1998 г. 34 двары, 40 жыхароў.

**ПРЫАЗЁРНАЯ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 8 км на З ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Бараўцы на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 427 жыхароў, 156 гаспадарак (2005).

Вёска вядома з канца 16 ст. пад назвай Балабановічы. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1869 г. тут адкрыта школа граматы. На пач. 20 ст. Балобанавічы ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 90 двароў, 780 жыхароў. Каля вёскі знаходзіўся аднайменны маёнтак: 5 двароў, каля 40 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 49 дамоў, 327 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 564 жыхары. З 15.1. 1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10. 1940 г. да 17.11.1959 г. цэнтр Балобанавіцкага с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969 г. Балобанавічы перайменаваны ў Прыазёрную. У 1998 г. — 160 двароў, 405 жыхароў, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, пач. школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Брацкая магіла воінаў. Да П. далучаны хутар Гельда.



*Панегірык А.Рымшы на герб Л.Сапегі. Статут ВКЛ 1588 г.*

**ПРЫДАТКІ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Крошын на лініі Баранавічы—Мінск. 54 жыхары, 29 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 182, 1970 г. — 130 жыхароў. У 1998 г. 45 двароў, 72 жыхары.

**ПЯНЧЫН** — вёска ў Каргоўскім с/с, за 26 км на Пн ад Баранавіч. 26 жыхароў, 52 гаспадаркі (2005). Радзіма Андрэя Рымшы (каля 1550 — пасля 1595), бел. паэта, заснавальніка жанру панегірычнай паэзіі ў стараж.-бел. літаратуры.

**ПЯРЭВАЛАКА** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 18 км на Пн ад Баранавіч. 51 жыхар, 32 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав., 10 двароў. У 1909 г. 12 двароў, 94 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. — 203, 1970 г. — 178 жыхароў. У 1998 г. 43 двары, 75 жыхароў.

**ПЯТРЭВІЧЫ** — вёска ў Навамышскім с/с, за 10 км на Пн ад Баранавіч. 76 жыхароў, 43 гаспадаркі (2005).

У 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 26 двароў, 298 жыхароў. У 1909 г. 49 двароў, 420 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся хутар Пятрэвічы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 54 дамы, 251 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 412 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 356, 1970 г. — 278 жыхароў. У 1998 г. 74 двары, 87 жыхароў, магазін.

**РАБКОВІЧЫ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 87 жыхароў, 60 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. Рабковічы ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 49 двароў, 311 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная капліца, карчма. У 1909 г. ў вёсцы 58 двароў, 232 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Паланэчкаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 69 дамоў, 391 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 19 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 340, 1970 г. — 320 жыхароў. У 1998 г. 96 двароў, 120 жыхароў, магазін. Да вёскі далучаны суседні хутар Уланаўшчына.

**РАГОЗНІЦА** — вёска ва Уцёскім с/с, за 20 км на Пд ад Баранавіч, за 22 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 15 жыхароў, 13 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 17 двароў, 133 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 146 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 28 дамоў, 142 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 213 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 170, 1970 г. — 138 жыхароў. У 1998 г. 26 двароў, 19 жыхароў, магазін.

**РОДКАВІЧЫ** — вёска ў Петкавіцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Баранавіч, за 13 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 63 жыхары, 40 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав., 18 двароў, 126 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 47 двароў, 127 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 52 дамы, 300 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Помнік землякам. На мясц. могілках пахаваны партызаны І.В.Ваearlyранковіч, Р.Ф.Косцін, В.І.Плаўсюк, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1943—44 гг., і старшыня былога Галынкаўскага с/с І.І.Сташынскі, забіты ў 1950 г. бандытамі.

**РУДАШЫ** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Баранавіч, за 24 км ад чыг. ст. Пагарэльцы. 14 жыхароў, 11 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 6 двароў, 66 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы,



у Цырынскай гміне Навагрудскага пав., 11 двароў, 75 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. — 103, 1970 г. — 70 жыхароў. У 1998 г. 24 двары, 72 жыхары.

**РУСІНО** — вёска ў Велікалуцкім с/с, за 8 км на ПдУ ад Баранавіч, чыг. ст. Русіно на лініі Баранавічы—Лунінец.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 18 ст. 30.12.1884 г. ўведзена ў эксплуатацыю чыг. станцыя. У 1889 г. вёска Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., дзярж. ўласнасць. Адносілася да Велікалуцкага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 55 двароў, 381 жыхар. У 1909 г. 81 двор, 450 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 76 дамоў, 368 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 499 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 193-й стралк. дывізіі. На франтах вайны загінула 6 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 444, 1970 г. — 484 жыхары. У 1998 г. — 199 двароў, 1552 жыхары, ветэрынарны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, клуб, б-ка, сярэдняя школа (з 1989 існуе музей гісторыі школы). Брацкая магіла сав. воінаў. На будынку мясц. школы ў 1983 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці настаўніка школы, падпольшчыка К.П.Бодака, замучанага гітлераўцамі ў 1944 г.

**РЭПІЧЫ** — вёска ў Паланэчкаўскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Баранавіч, за 18 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 152 жыхары, 68 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Жухавіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 72 двары, 212 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Паланэчкаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 64 дамы, 347 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны ў баях з ворагамі загінула 20 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 356, 1970 г. — 260 жыхароў. У 1998 г. 97 двароў, 194 жыхары, магазін.

**САВЕЦКІ** — пасёлак у Карчоўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Баранавіч. 225 жыхароў, 84 гаспадаркі (2005).

На месцы сучаснага пасёлка знаходзілася в. Малышы, якая ў 1798 г. налічвала 4 дамы. Паводле перапісу 1970 г. ў пасёлку 121 жыхар. У 1998 г. 19 двароў, 253 жыхары, цагельны з-д «Малышы», магазін, б-ка, клуб, аддз. сувязі.

**САВІЧЫ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, каля шашы Новая Мыш—Мінск, на р. Змейка. 340 жыхароў, 169 гаспадарак (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Слонімскага пав. ВКЛ. Пад 1567 г. упамінаюцца ў перапісе войска ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ва ўладанні С.Солтана, 22

*Палац у в. Савічы. Малюнак Н.Орды.*



двары; побач размяшчаўся фальварак. У 1889 г. ў вёсцы 50 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 111 двароў, 601 жыхар, дзейнічалі царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, кузня, карчма. На пач. 20 ст. ў вёсцы 119 двароў, 491 жыхар. У маёнтку Савічы 3 двары, 35 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 125 дамоў, 660 жыхароў, у фальварку Савічы 6 дамоў, 45 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 36 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 873 жыхары. У 1972 г. да Савічаў далучана сумежная в. Фалесіна. У 1998 г. — 212 двароў, 413 жыхароў, рамонтна-механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, 2 магазіны, клуб, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Помнік землякам. На адным з будынкаў установлены мемарыяльныя дошкі ў памяць старшыні і сакратара былога Галынкаўскага с/с І.І.Сташынскага і В.В.Калошы, забітых бандытамі ў 1948 г.

**САКАЛОВІЧЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Дамашэвічы на лініі Баранавічы—Ліда. 28 жыхароў, 14 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав., 113 двароў, 295 жыхароў. У 1909 г. 62 двары, 341 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 28 дамоў, 150 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў адзін вясковец. Паводле перапісу 1959 г. 256 жыхароў. У 1998 г. 30 двароў, 22 жыхары.

**САСНОВАЯ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 17 км на З ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 113 жыхароў, 47 гаспадарак (2005).

Упершыню ўпамінаецца ў 1798 г. пад назвай Жарбілавічы. Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 19 двароў, 215 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 46 двароў, 359 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав., 27 двароў, 141 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4. 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 13 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 231 жыхар. У 1964 г. в. Жарбілавічы перайменавана ў Сасновую. У 1998 г. 68 двароў, 120 жыхароў, магазін. Помнік землякам.

**САЎЦАВІЧЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 92 жыхары, 48 гаспадарак (2005).

У 1905 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 436 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Люшнеўскай гміны Слонімскага пав., 13 дамоў, 89 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 271 жыхар. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінулі 22 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 256, 1970 г. — 190 жыхароў. У 1972 г.



далучана суседняя в. Іванавічы. У 1998 г. 101 двор, 105 жыхароў, магазін. Радзіма доктара фізіка-матэматычных навук В.А.Лойкі.

**СВАЯШКІ** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 3 жыхары, 2 гаспадаркі (2005).

У 1909 г. хутар Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 6 двароў, 22 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 12 дамоў, 64 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 85 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў ёй 84 жыхары. У 1998 г. 3 двары, 2 жыхары.

**СВЕТЛЫ** — пасёлак у Малахавецкім с/с, за 15 км на Пд ад Баранавіч. 410 жыхароў, 133 гаспадаркі (2005).

На месцы сучаснага пасёлка раней існавалі вёскі Цагельня і Селішча. Абедзве ўпаміналіся ў дакументах 1870 г. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1998 г. 400 жыхароў, магазін.

**СВІРАНЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 8 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск, за 3 км ад р. Іса. 198 жыхароў, 78 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 509 жыхароў, царк.-прыходская школа. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак (15 жыхароў). З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Люшнеўскай гміны Слонімскага пав., 64 дамы, 288 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 14 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 367, 1970 г. — 469 жыхароў. У 1998 г. — 132 двары, 197 жыхароў, калгасная сядзіба, майстэрні для рамонту с.-г. тэхнікі, ветэрынарны ўчастак, магазін, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік землякам.

**СЕНІЧАНЯТЫ** — вёска ў Пачапаўскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Моўчадзь на лініі Баранавічы—Ліда. 71 жыхар, 45 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 45 двароў, 265 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Пачапаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 55 дамоў, 294 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 22 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 280, 1970 г. — 300 жыхароў. У 1998 г. 81 двор, 114 жыхароў.

**СЕРАБРЫШЧА** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда, каля р. Іса. 119 жыхароў, 52 гаспадаркі (2005).

У пачатку 20 ст. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 450 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Люшнеўскай гміны Слонімскага пав., 58 дамоў, 337 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 24 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 415 жыхароў. У 1998 г. 71 двор,

124 жыхары, магазін. Радзіма бел. паэта і літаратуразнаўца І.С.Курбекі.

**СЕЎРУКІ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 16 км на З ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 574 жыхары, 188 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 12 двароў, 90 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Навамышскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 49 дамоў, 268 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 330 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4. 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 362, 1970 г. — 422 жыхары. У 1998 г. — 204 двары, 584 жыхары, саўгасная сядзіба, шэраг гаспадарчых пабудоў, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў.

**СКАРОДЗІНЦЫ** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 32 км на З ад Баранавіч, за 13 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 26 жыхароў, 17 гаспадарак (2005).

У 1905 г. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав., 116 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Моўчадскай гміне Слонімскага пав., 9 двароў, 48 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. — 156, 1970 г. — 122 жыхары. У 1998 г. 29 двароў, 41 жыхар.

**СКАРЧОВА** — вёска ў Крошынскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Баранавіч. 152 жыхары, 71 гаспадарка (2005).

Раней сяленне называлася Плябанская Слабада. Пад гэтай назвай вёска ўпамінаецца ў 1889 г. Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 286 двароў, 954 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. ў вёсцы 145 двароў, 740 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 32 дамы, 236 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 5 землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 287, 1970 г. — 288 жыхароў. У 1998 г. 91 двор, 139 жыхароў, магазін.

**СКВАРЧЫЦЫ** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 9 км на Пд ад Баранавіч. 42 жыхары, 26 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 29 двароў, 204 жыхары. У 1909 г. 39 двароў, 225 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ястрамбельскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 266 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 11 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. — 224, 1970 г. — 269 жыхароў. У 1998 г. 50 двароў, 62 жыхары.

**СКРОБАВА** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 29 км на Пн ад Баранавіч, за 29 км ад чыг. ст. Баранавічы. 276 жыхароў, 118 гаспадарак (2005).

У канцы 1880-х г. на безымяннай рэчцы, прытоку р. Сэрвач, з назвай Скробава існавалі 2 вёскі (18 і 14 двароў) і 2 фальваркі. Адзін з іх належаў Данейкам, а другі — Анкутам. Вёскі і фальваркі ўваходзілі ў Цырынскую вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ.; працавала царк.-прыходская школа. Падчас 1-й сусветнай вайны ў наваколлі Скробава адбываліся жорсткія баі паміж войска-



мі Рас. імперыі і Германіі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. існавалі 2 вёскі: Скробава Горнае — 188 жыхароў і Скробава Дольнае — 217 жыхароў. У 1970 г. Скробава Горнае налічвала 184, Скробава Дольнае — 240 жыхароў. У 1998 г. ў вёсцы Скробава 114 двароў, 307 жыхароў, калгасная сядзіба, механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, клуб, б-ка, школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. За 1,5 км на У ад яе брацкая магіла рус. воінаў, што загінулі ў баях з герм. войскамі ў 1917 г. (у 1984 устаноўлена пліта). Помнік землякам.

**СЛАБАЖАНЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 40 км на Пн ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 30 жыхароў, 18 гаспадарак (2005).

У 1798 г. вёска называлася Баўдзілаўцы, у Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. У 1909 г. ў ёй 24 двары, 159 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 25 двароў, 165 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 вяскоўцы. У 1964 г. в. Баўдзілаўцы атрымала сучасную назву. Паводле перапісу 1970 г. 124 жыхары. У 1998 г. 32 двары, 32 жыхары.

**СОРГАВІЧЫ** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 55 жыхароў, 34 гаспадаркі (2005).

У 1890 г. ў Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 10 двароў. У 1909 г. 31 двор, 246 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 38 двароў, 258 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 173, 1970 г. — 98 жыхароў. У 1998 г. 60 двароў, 87 жыхароў, магазін. На вясковых могілках пахаваны старшыня мясц. калгаса, Герой Сацыяліст. Працы Б.Б.Вільчкоўскі.

**СПАЧЫНАК** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 14 км на З ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 36 жыхароў, 15 гаспадарак (2005).

У 1909 г. Спачынак — фальварак Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 3 двары, 22 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак Навамышскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 3 дамы, 19 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у вёсцы 97 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 105 жыхароў. У 1998 г. — 36 двароў, 15 жыхароў.

**СТАЙКІ** — вёска ў Мядзеневіцкім с/с, за 23 км на ПнУ ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 551 жыхар, 219 гаспадарак (2005).

На пач. 20 ст. маёнтак у Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 4 двары, 45 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак Чэрніхаўскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 7 дамоў, 90 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 1139 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з



*Успенская царква (былы касцёл Іаана Хрысціцеля) у в. Сталовічы.*



*Бой каля мястэчка Сталовічы. 1771 г. Мастак С.Раманаў.*

8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Баранавіцкім р-не. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 35 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 938, 1970 г. — 711 жыхароў. У 1998 г. — 299 двароў, 580 жыхароў, калгасная сядзіба, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Да Стаек далучаны суседнія вёскі Ламашы, Зараўе, Некрашы.



*Руіны сядзібнага дома ў в. Стайкі.*

**СТАЛОВІЧЫ,** Сталавічы — вёска, цэнтр сельсавета, праходзіць шаша Баранавічы—Навагрудак, за 12 км на Пн ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Баранавічы-Цэнтральныя, на р. Смалянка. 639 жыхароў, 249 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 14 ст. як мястэчка. Найчасцей у дакументах упаміналіся пад назвай Стваловічы, радзей Сталовічы. Першапачаткова мястэчка з'яўлялася дзярж. (велікакняжацкай) уласнасцю, потым належала Няміру Разановічу (15 ст.), Мікалаю Радзівілу Сіротке (з 16 ст.), які пабудаваў тут драўляную капліцу. Яго сын Жыгімонт Караль уступіў у рыцары Мальтыйскага ордэна і ў 1609 г. адкрыў у Сталовічах камандорыю гэтага ордэна (праіснавала да часоў праўлення апошняга караля Польшчы і вял. князя С.Панятоўскага). Тады ж тут быў пабудаваны драўляны касцёл. У 1639 г. на яго месцы ўзведзена мураваная капліца, а ў 1736 г. — закладзены мураваны касцёл, будаўніцтва якога было скончана ў 1743 г. У 1771 г. пад Сталовічамі расійскія войскі пад камандаваннем А.В.Суворава разграмілі атрады Рэчы Паспалітай на чале з вял. гетманам ВКЛ М.К.Агінскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Сталовічы ўвайшлі ў склад Рас. імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. Дзейнічалі паштовая станцыя, карчма, стаяў ваенны гарнізон. У 1814—15 гг. у вайсковай часці служыў будучы дзекабрыст К.Ф.Рылееў. У 1867 г. ў мястэчку 102 дамы, 523 жыхары, працавалі нар. вучылішча, касцёл, царква, адбываліся 2 кірмашы на год. У 1868 г. касцёл быў пераўтвораны ў праваслаўную царкву, у 1879 г. яе прыход налічваў каля 3 тыс. вернікаў (пісьменнымі былі толькі 10%). Царква мела каля 130 дзес. зямлі, у тым ліку 75 дзес. ворыва. Паводле перапісу 1897 г. 123 двары, 150 жылых дамоў, нар. вучылішча, 13 крам, царква, валаснoе праўленне, адбываліся







*М.К.Радзівіл Сіротка. З гравюры 16 ст.*

*Касцёл Сэрца Ісуса ў в. Сталовічы.*

2 кірмашы на год. У 1900 г. — да 100 двароў, каля 1 тыс. жыхароў, дзейнічалі валасное праўленне, нар. вучылішча, 3 млыны, 2 царквы, 2 малітоўныя дамы, карчма, некалькі крам. На пач. 20 ст. ў мястэчку 95 двароў, 858 жыхароў. Побач знаходзіўся маёнтак Сталовічы: 1 двор, 25 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, мястэчка — цэнтр гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 116 дамоў, 678 жыхароў. Побач з ім размяшчаўся аднайменны фальварак: 3 дамы, 37 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 876 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. Баранавіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах вайны загінула 12 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 607, 1970 г. — 765 жыхароў. У 1998 г. — 232 двары, 699 жыхароў, выканком сельсавета, калгасная сядзіба, механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, млын, Дом быту, сталовая, клуб, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячыя яслі-сад, 3 магазіны. Брацкая магіла партызан, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

Помнікі архітэктуры: Успенская царква 17—18 ст. (былы касцёл Іаана Хрысціцеля), касцёл Сэрца Ісуса канца 19 — пач. 20 ст.

**СТАНКЕВІЧЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 20 км на Пн ад Баранавіч. 62 жыхары, 31 гаспадарка (2005).

У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 30 двароў, 252 жыхары. У пач. 20 ст. ў вёсцы 47 двароў, 325 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1939 г. ў БССР, 70 жы-

*Памятны знак на месцы бітвы 1771 г. ў в. Сталовічы.*






хароў. Паводле перапісу 1970 г. 248 жыхароў. У 1998 г. 51 двор, 84 жыхары, магазін.

**СТАРАЯ МЫШ** — вёска ў Цешаўлянскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Баранавіч, на р. Мышанка. 34 жыхары, 18 гаспадарак (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. пад назвай Мыш, велікакняжацкая (дзярж.) уласнасць. З 1568 г. ўладанне Яна Хадкевіча, які пабудаваў недалёка ад паселішча, на правым беразе р. Мышанка замак, абкружаны валам і ровам. Замкавыя ўмацаванні былі пазначаны на карце ВКЛ 16 ст. Разбураны ў 1654 г. ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У пач. 20 ст. маёнтак Старая Мыш, у Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 11 двароў, 128 жыхароў. Побач з маёнткам знаходзілася сяленне Мыш: 2 двары, 11 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак Старая Мыш у Навамышскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 4 дамы, 23 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 32 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 5 землякоў. Паводле перапісаў 1959 г. — 85, 1970 г. — 187 жыхароў.

*Рэшткі каралеўскага ўмацавання каля в. Старая Мыш.*



У 1998 г. 32 двары, 54 жыхары, магазін. Захаваліся рэшткі ўмацаванняў 16 ст.

**СТАРЫ ДВОР** — вёска ў Крошынскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 182 жыхары, 74 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 11 двароў, 41 жыхар, дзейнічала сыраварня. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 198 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 201, 1970 г. — 222 жыхары. У 1998 г. 67 двароў, 173 жыхары.

**СТАРЫЯ ВОЙКАВІЧЫ** — вёска ў Мядзеневіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Баранавіч. 11 жыхароў, 7 гаспадарак (2005).

Вядомы з 1585 г. як в. Войкавічы; уласнасць князёў Ямбекавічаў, уваходзіла ў склад маёнтка Калдычэва. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 33 двары, 174 жыхары, ветраны млын. На пач. 20 ст. 37 двароў, 210 жыхароў. Раней паселішча мела назву Мінакі, якая мала ўжывалася. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзішчанскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 8 двароў, 37 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 70 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 76, 1970 г. — 48 жыхароў. У 1998 г. ў вёсцы 17 двароў, 19 жыхароў, магазін.





Я.К.Хадкевіч.

**СТРАМІЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Моўчадскім с/с, за 44 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 14 км ад чыг. ст. Міцкевічы на лініі Баранавічы—Ліда. 27 жыхароў, 15 гаспадарак (2005).

У 1909 г. ў вёсцы і фальварку 14 двароў, 153 жыхары, у Пачапаўскай вол. Навагрудскага пав. У 1921 г. ў Пачапаўскай гміне Навагрудскага пав., 16 двароў, 95 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 6 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 112 жыхароў. У 1998 г. 10 двароў, 15 жыхароў.

**СТРЭЛАВА** — вёска ў Мілавідскім с/с, за 34 км на Пд ад Баранавіч, за 7 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст, каля аўтадарогі Мілавіды—Лясная. 67 жыхароў, 43 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Востраўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 66 двароў, 431 жыхар, хлебазапасны магазін, 2 крамы, карчма. Пасля 1905 г. пачало працаваць нар. вучылішча. У 1909 г. 93 двары, 464 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Востраўскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 83 дамы, 457 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 281, 1970 г. — 278 жыхароў. У 1998 г. 68 двароў, 84 жыхары. Каля вёскі знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, які мае каля 46 насыпаў. Да С. далучаны хутар Падкрыніцы.

**СУДАРЫ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Баранавіч. 27 жыхароў, 12 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 30 двароў, 119 жыхароў. У 1909 г. 18 двароў, 109 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 13 дамоў, 74 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў.

**СЯЛЯВІЧЫ** — вёска ў Гірмантаўскім с/с, за 30 км на Пн ад Баранавіч, за 10 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 21 жыхар, 11 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 17 двароў, 99 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 25 двароў, 163 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навагрудскай вол. Баранавіцкага пав. З 1939 г. ў БССР, 196 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У

Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 143 жыхары. У 1998 г. 23 двары, 27 жыхароў.

**ТАРТАКІ** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст, на шашы Баранавічы—Брэст.

Узнікненне сучаснай вёскі звязана з лесараспрацоўкамі. Спачатку тут існавала лесапільня, вакол якой было пабудавана паселішча. У 1798 г. Т. належалі магнатам Сапегам, з 1854 г. дзярж. уласнасць. У 1-й пал. 19 ст. працавалі карчма, лесапільня, жалезаплавільны і спіртавы з-ды. У 1854 г. вёска, 10 дамоў. У 1867 г. пабудаваны новы млын (дзейнічаў да 1963) і сукнавальня, якая праіснавала да 1-й сусветнай вайны. У 1892 г. 14 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 19 двароў, 192 жыхары, папяровая ф-ка. На пач. 20 ст. 30 двароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Навамышскай гміны Навагрудскага ваяв., 31 дом, 191 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 289 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 9.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 6 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 388, 1970 г. — 350 жыхароў. У 1998 г. 93 двары, 140 жыхароў, магазін. Брацкія магілы сав. воінаў.

**ТОРЧЫЦЫ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Баранавіч, за 12 км ад чыг. ст. Дамашэвічы на лініі Баранавічы—Ліда. 27 жыхароў, 15 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 61 двор, 213 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 304 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары. У 1998 г. 27 двароў, 30 жыхароў.

**ТРАЦАВІЧЫ** — вёска ў Карчоўскім с/с, за 35 км на Пн ад Баранавіч, за 15 км ад чыг. ст. Пагарэльцы. 100 жыхароў, 48 гаспадарак (2005).

У 1893 г. 24 двары. У пач. 20 ст. вёска Цырынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 25 двароў, каля 190 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак: 1 двор, 13 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 202, 1970 г. — 214 жыхароў. У 1998 г. 69 двароў, 26 жыхароў.

**УЗНОГІ** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 4 км на Пд ад Баранавіч. 1938 жыхароў, 788 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Ястрамбельскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 18 двароў, 145 жыхароў, нар. вучылішча (адкрыта ў 1888). У 1909 г. 30 двароў, 201 жыхар. Побач з вёскай размяшчаўся фальварак: 1 двор, 3 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Ястрамбельскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 8 дамоў, 66 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінуў адзін вясковец. Паводле перапісаў 1959 г. — 365, 1970 г. — 481 жыхар. У 1998 г. 192 двары, 1427 жыхароў, магазін.

**УЛАСЫ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Крошын на лініі Баранавічы—Мінск. 101 жыхар, 39 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 94 двары, 266 жыхароў, хлебазапасны магазін, цагельны з-д. У 1909 г. 51



двор, 301 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Сталовіцкай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 27 дамоў, 158 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 246 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 183, 1970 г. — 149 жыхароў. У 1998 г. 46 двароў, 106 жыхароў. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы Л.С.Кучар.

**УЦЁС** — вёска, цэнтр сельсавета, за 26 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 14 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст, на аўтадарозе Брэст—Слуцк. 408 жыхароў, 189 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Востраўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 105 двароў, 732 жыхары, хлебазапасны магазін, крама, карчма. У пач. 20 ст. — 158 двароў, каля 970 жыхароў, адкрыта нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Востраўскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 68 дамоў, 545 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 970 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. Баранавіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 40 аднавяскоўцаў. Пасля вайны створаны калгас. Паводле перапісаў 1959 г. — 502, 1970 г. — 836 жыхароў. У 1972 г. далучаны суседнія вёскі Гайкоўцы, Забярвечча, Хваявата. У 1998 г. — 236 двароў, 249 жыхароў, выканком сельсавета, саўгасная сядзіба, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветэрынарны ўчастак, Дом быту, лесапільня, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Брацкая магіла сав. воінаў, Курган Славы. На вясковых могілках пахавана жыхарка Уцёса, адна з арганізатараў першага калгаса Е.С.Кузьміна, якую ў снеж. 1950 г. забілі бандыты.

**ЦЕШАЎЛЯ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 20 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда, за 2 км ад р. Мышанка, на аўтадарозе Дзятлава—Новая Мыш. 617 жыхароў, 248 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 68 двароў, 717 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1909 г. 130 двароў, 920 жыхароў. Каля вёскі знаходзіўся аднайменны маёнтак: 9 двароў, 77 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, Навамышскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.: у вёсцы 109 дамоў, 20 жыхароў, у фальварку 4 дамы, 20 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у вёсцы — 885, у былым фальварку — 11 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1. 1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. Баранавіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 8.7. 1944 г. Пры вызваленні Ц. вызначыўся камандзір агнявога ўзвода артыл.-мінамётнага палка старшы лейтэнант Р.А. Чакмянёў. 8.7.1944 г. ўзвод пад яго камандаваннем захапіў абарончы пункт гітлераўцаў у вёсцы, адбіў тут 2 контратакі праціўніка, знішчыў 4 танкі і каля 250 гітлераўцаў. Чакмянёў загінуў у гэтым баі, пахаваны ў суседнім пас. Першамайскі. 25.9.1944 г. Чакмянёву прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На франтах вайны загінула 40 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 310, 1970 г. — 753 жыхары. У 1998 г. — 208 гаспадарак, 673 жыхары, выканком сельсавета, калгасная сядзіба, механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, клуб, б-ка, Дом быту, бальніца, сярэдняя школа (з 1997 працуе краязнаўчы музей), аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, ашчадны банк, 2 магазіны. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЦІВУНЦЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 18 км на З ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 21 жыхар, 9 гаспадарак (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 10 двароў, 131 жыхар. У 1909 г. 23 двары, 133 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Навамышскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 15 дамоў, 81 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 292 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 114 жыхароў. У 1998 г. 24 двары, 27 жыхароў.

**ЦІШКАЎЦЫ** — вёска ў Вольнаўскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Баранавіч, за 3 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск.

Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 26 двароў, 120 жыхароў. У 1909 г. 25 двароў, 130 жыхароў. Каля вёскі знаходзіўся фальварак: 1 двор, 5 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 197 жыхароў. У 1998 г. 49 двароў, 61 жыхар.

**ЦЮКАНТАВІЧЫ** — вёска ў Сталовіцкім с/с, за 17 км на Пн ад Баранавіч. 127 жыхароў, 61 гаспадарка (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сталовіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 57 двароў, 243 жыхары. У 1909 г. 47 двароў, 210 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Сталовіцкай гміне Баранавіцкага пав. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 8 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 227, 1970 г. — 170 жыхароў. У 1998 г. 60 двароў, 153 жыхары.

**ЦЮХНЯВІЧЫ** — вёска ў Цешаўлянскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 5 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 38 жыхароў, 25 гаспадарак (2005).

На пачатку 20 ст. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Мінскай губ., каля 170 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Моўчадскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 15 дамоў, 94 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 181 жыхар. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 28 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 144, 1970 г. — 145 жыхароў. У 1998 г. 38 двароў, 50 жыхароў.

**ЦЯПЛІВАДЫ** — вёска ў Жамчужненскім с/с, за 15 км на З ад Баранавіч, за 9 км ад чыг. ст. Палонка, на аўтадарозе Новая Мыш—Слонім. 8 жыхароў, 6 гаспадарак (2005).

У пачатку 20 ст. маёнтак Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 7 двароў, каля 60 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак Навамышскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 4 дамы, 29 жыхароў. Побач з засценкам размяшчаліся 3 аднайменныя фальваркі, у якіх разам было 6 дамоў, 38 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. ў



ёй 52 жыхары. У 1998 г. 16 двароў, 20 жыхароў, магазін.

**ЧЭРНІХАВА** – вёска ў Вольнаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Баранавіч, за 8 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадарозе Сталовічы—Нясвіж.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне Чэрніхаў Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пад 1567 г. пазначана ў перапісе войска ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1886 г. Ч. – сяло, цэнтр воласці Навагрудскага пав. Мінскай губ., 29 двароў, 270 жыхароў, дзейнічалі валаснoe праўленне, царква, нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. – 58 двароў, 362 жыхары, валаснoe праўленне, царква, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, ветраны млын і карчма. На пач. 20 ст. ў сяле 82 двары, 270 жыхароў. Побач знаходзіліся маёнткі Горны Чэрніхаў і Дольны Чэрніхаў, у якіх разам налічвалася 6 двароў, каля 80 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 88 дамоў, 560 жыхароў. У фальварках Горнае Чэрніхава і Дольнае Чэрніхава разам было 22 дамы, 116 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 15 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. – 463, 1970 г. – 381 жыхар. У 1998 г. 454 жыхары, магазін.

**ШПАКОЎЦЫ** – вёска ў Цешаўлянскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Мордычы на лініі Баранавічы—Ліда. 50 жыхароў, 32 гаспадаркі (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Навамышскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 23 двары, 209 жыхароў. У 1909 г. 41 двор, 304 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Навамышскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 40 дамоў, 224 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 8 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. – 237, 1970 г. – 221 жыхар. У 1998 г. 50 двароў, 67 жыхароў.

**ШЧЭРБАВІЧЫ** – вёска ў Паланэчкаўскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Баранавіч, за 17 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 126 жыхароў, 58 гаспадарак (2005).

У пачатку 20 ст. вёска Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 56 двароў, каля 160 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 11 аднавяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. – 589, 1970 г. – 376 жыхароў. У 1998 г. 72 двары, 159 жыхароў.

**ЮШКАВІЧЫ** – вёска ў Крошынскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Баранавіч, за 8 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 72 жыхары, 43 гаспадаркі (2005).

У 1886 г. ў Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав., 51 двор, 564 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 102 двары, 605 жыхароў, хлебазапасны магазін, 5 ветраных млыноў, кузня, карчма. У 1909 г. 128 двароў, 553 жыхары. У ліст. 1905 г. адбылося хваляванне мясц. сялян, якія самавольна секлі памешчыцкі лес. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 35 дамоў, 703 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.

1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 534, 1970 г. — 353 жыхары. У 1998 г. 110 двароў, 93 жыхары, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў.

**ЯГАДНАЯ** — вёска ў Палонкаўскім с/с, за 20 км на З ад Баранавіч, за 16 км ад чыг. ст. Палонка на лініі Баранавічы—Ваўкавыск. 119 жыхароў, 71 гаспадарка (2005).

У 1798 г. ў пісьмовых крыніцах упамінаецца як в. Блошна. На пач. 20 ст. ў Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 270 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Моўчадскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 42 дамы, 258 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 2 вяскоўцы. У 1964 г. вёска атрымала сучасную назву. Паводле перапісаў 1959 г. — 371, 1970 г. — 369 жыхароў. У 1998 г. 93 двары, 159 жыхароў.

**ЯЖОНА** — вёска ў Падгорнаўскім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 15 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 266 жыхароў, 124 гаспадаркі (2005).

*Сядзіба (канец 19 ст.) ў в. Ястрамбель.*



У 1905 г. ў Шылавіцкай вол. Слонімскага пав., 600 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 15.1. 1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 4.7. 1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліпеня 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 4 аднавяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 445, 1970 г. — 479 жыхароў. У 1998 г. 128 двароў, 300 жыхароў. Радзіма бел. вучонага-географа, картографа, прафесара, работніка нар. адукацыі Беларусі Р.А.Жмойдзяка.

**ЯКІМАВІЧЫ** — вёска ў Каўпеніцкім с/с, за 10 км на У ад Баранавіч. 58 жыхароў, 26 гаспадарак (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Брэсцкага пав. ВКЛ. Паводле перапісу 1897 г. ў Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. 50 двароў, 328 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 23 дамы, 122 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў адзін вясковец. Паводле перапісаў 1959 г. — 171, 1970 г. — 152 жыхары. У 1998 г. 41 двор, 75 жыхароў, магазін.

**ЯМІЧНА** — вёска ў Мілавідскім с/с, за 42 км на ПдЗ ад Баранавіч, за 17 км ад чыг. ст. Лясная на лініі Баранавічы—Брэст. 136 жыхароў, 63 гаспадаркі (2005).

У 1905 г. ў Дабромысленскай вол. Слонімскага пав., 71 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, 316 жыхароў. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Быценскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. Баранавіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш.



захопнікамі. На франтах вайны загінулі 3 землякі. Паводле перапісаў 1959 г. — 316, 1970 г. — 400 жыхароў. Магіла ахвяр фашызму.

**ЯНОВА** — вёска ў Велікалуцкім с/с, за 5 км на Пд ад Баранавіч, за 4 км ад чыг. ст. Русіно на лініі Баранавічы—Лунінец. 60 жыхароў, 31 гаспадарка (2005).

Пад 1577 г. с. Янова пазначана ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Велікалуцкім с/с Навамышскага р-на Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў. У 1998 г. 23 двары, 72 жыхары.

**ЯСЯНЕЦ** — вёска ў Гарадзішчанскім пас. Савеце, за 28 км на Пн ад Баранавіч, пры р. Сэрвач.

У 1-й пал. 1880-х г. с. Ясянец (яно ж Паручын) у Гарадзішчанскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 35 двароў, 350 жыхароў, дзейнічалі 2 царквы, капліца, школа. У 1897 г. — 21 двор, 171 жыхар, царква, царк.-прыходская школа, вадзяны млын. У пач. 20 ст. 31 двор, каля 170 жыхароў. Побач з сялом знаходзіўся аднайменны маёнтак: 1 двор, 2 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, 225 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 221 жыхар. У 1998 г. 57 двароў, 74 жыхары.

**ЯСТРАМБЕЛЬ** — вёска ў Малахавецкім с/с, за 15 км на Пд ад Баранавіч, пры р. Мышанка. 384 жыхары, 155 гаспадарак (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пад 1577 г. упамінаецца ў актах Брэсцкага гродскага суда. У 1840 г. пабудавана драўляная царква. З 1878 г. працавала школа чаравічнага рамяства. У 1879 г. праваслаўны прыход налічваў каля 1,5 тыс. вернікаў, царкве належала каля 40 дзес. зямлі (у тым ліку 17 дзес. ворыва). У 1886 г. сяло — цэнтр воласці Навагрудскага пав. Мінскай губ., 15 двароў, каля 80 жыхароў, царква. Побач знаходзіліся сядзіба, дзе працаваў вінакурны з-д, пейзажны парк, сад, сажалка. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 39 двароў, 229 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, валасное праўленне, пабудавана новая сядзіба. На пач. 20 ст. 54 двары, 261 жыхар, школа граматы; у маёнтку: 1 двор, 28 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.: у вёсцы 31 дом, 161 жыхар, у маёнтку 6 дамоў, 82 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 366 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Навамышскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 8.4.1957 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінула 12 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 498, 1970 г. — 496 жыхароў. У 1998 г. — 165 двароў, 376 жыхароў, магазін, школа-інтэрнат, музей Кабушкіна. Помнік архітэктуры — сядзіба (канец 19 ст.; уключае жылы мураваны дом, гаспадарчыя пабудовы, пейзажны парк, сад, сажалку).

**ЯТВЕЗЬ** — вёска ў Крошынскім с/с, за 24 км на У ад Баранавіч, за 6 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 172 жыхары, 118 гаспадарак (2005).



*В.Валынец. Пад старой грушай. 1980 г.*





Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 1880-х г. у Чэрніхаўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 51 двор, 562 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. — 111 двароў, 675 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня, карчма, 4 ветраныя млыны. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чэрніхаўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 164 дамы, 927 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 982 жыхары. З 15.1. 1940 г. ў Гарадзішчанскім р-не Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Баранавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісаў 1959 г. — 458, 1970 г. — 786 жыхароў. Брацкая магіла сав. воінаў. На могілках пахаваны старшыня сельсавета А.К.Пятліцкі, забіты бандытамі ў 1948 г. Радзіма мастака В.І.Валынца.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2120; ф. 30, воп. 5, спр. 28, 6753, 6760; воп. 9, спр. 2378, 6753.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1321—1322.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Указатель населенным местностям Гродненской губернии... Гродно, 1905.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1—4. Мн., 1959—79.
Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии: 1941—1944. Мн., 1965.
Навечно в сердце народном. 3 изд. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1—2. Мн., 1985—87.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Памяць: Баранавічы. Баранавіцкі р-н. Мн., 2000.
Рэспубліка Беларусь: Вобласці і раёны: Энцыкл. дав. Мн., 2004.

КАМЯНЕЦКІ РАЁН

ЖАБІНКАЎСКІ РАЁН

МАЛАРЫЦКІ РАЁН

ПОЛЬШЧА

УКРАІНА

ВАЛЫНСКАЯ ВОБЛ.

БРЭСТ

Дамачава

52°20′ 23°30′ 52°10′ 52°00′ 24°00′ 51°50′ 51°40′ 23°45′ 51°30′

Мал.Зводы, Люта, Марозавічы, Цюпрікі, Рудавец, Сегенейшчына, Кустын, Агароднікі, Астрамечава, Холмічы, Пагубяцічы, Нов.Лышыцы, Лышчыцы, Кашылава, Покры, Яцкавічы, Вял.Шчытнікі, Мал.Шчытнікі, Мал.Сухарэвічы, Заполле, Блювінічы, Вельямовічы, Вял.Ракавіца, Матыкалы, Чарнаўчыцы, Амяліна, Няневічы, Сколдычы, Чыжэвічы, Сычы, Нехалсты, Вістычы, Несвіла, Зелянец, Івахнавічы, Чылеева, Вял.Матыкалы, Смуга, Мал.Курніца, Вітошкі, Галачова, Вял.Курніца, Вялюнь, Цэрабунь, Кавярдзякі, Дружба, Селяхі, Забярззе, Шумакі, Бердычы, Валоскі, Кацельня-Баярская, Кастычы, Цюхінічы, Чэрні, Братылава, Вочкі, Бабровцы, Машчонка, Вял.Косічы, Смолін, Буякі, Нэплі, Клейнікі, Скокі, Плоска, Хабы, Казловічы, Тэльмы 1-я, Тэльмы 2-я, Вычулкі, Шэбрын, Булькава, Лукаў, Гулі, Літвіны, Падлессе-Радваніцкае, Варшава, Закій, Херма, Забалацце, Аркадыя, Гершоны, Вулька-Застаўская, Сямісосны, Франопаль, Міцкі, Мухавец, Мал.Радванічы, Вял.Радванічы, Бярнады, Лазы, Заслучна, Міхалін, Падлессе-Каменецкае, Прылукі, Заказанка, Страдзеч, Знаменка, Дубрава, Медна, Альха, Збунін, Бярэсце, Лысны, Рагозна, Белае Возера, Дубіца, Ляплёўка, Барысы, Кабёлка, Рудня, Шыкілі, Падлужжа, Чэрск, Багданы, Домбраўка, Навасады, Лінінкі, Гута, Дубок, Харсы, Прыбарава, Селяхі, Камароўка, Тамашоўка, Уладава, Орхава, Рыцэц

Камянец, Высока-Літоўск, Высокае, Жабінка, Мінск, Ковель

Брэст Цэнтральны, Брэст Паўночны, Брэст Усходні, Брэст Паўднёвы

1. Вял.Сухарэвічы
2. Сасноўка
3. Збарамірава
4. Казловічы
5. Мал.Ракавіца
6. Вулька
7. Мал.Матыкалы
8. Чарнакі
9. Ставішча
10. Клімовічы
11. Гутовічы
12. Карабаны
13. Залессе
14. Збірагі
15. Стар.Сяло
16. Скокі
17. Пяскі
18. Харытоны
19. Лідымо
20. Кашалёва
21. Стар.Задворцы
22. Мал.Косічы
23. Нов.Задворцы
24. Ямна
25. Ваўкі
26. Камяніца-Жыровецкая

Маштаб 1:400 000



# БРЭСЦКІ РАЁН

Утвораны 15.1.1940 г. на ПдЗ Брэсцкай вобл. У сучасных межах з 1950 г. Плошча 1,6 тыс. км², насельніцтва 43,6 тыс. чал. (2005). Цэнтр раёна — г. Брэст. У раён уваходзяць г.п. Дамачава і 148 сельскіх населеных пунктаў. Падзяляецца на 11 сельсаветаў: Гершонскі, Знаменскі, Клейнікаўскі, Лышчыцкі, Матыкальскі, Мухавецкі, Радваніцкі, Тамашоўскі, Тэльмінскі, Чарнаўчыцкі, Чэрнінскі; Дамачаўскі пас. Савет. Рэльеф нізінна-раўнінны. Асн. частка раёна размешчана ў межах Брэсцкага Палесся, паўн. нязначная частка — на Прыбугскай раўніне. Мяжуе на Пд з Валынскай вобл. Украіны, на У — з Маларыцкім і Жабінкаўскім, на Пн — з Камянецкім р-намі, на З — з Польшчай. Працякаюць р. Зах. Буг з прытокамі Лясная, Мухавец, Спанаўка, Капаёўка і інш. Значнае гасп. значэнне мае р. Мухавец, якая ўваходзіць у сістэму Дняпроўска-Бугскага воднага шляху. Азёры: Селяхоўскае, Страдзецкае, Рагазнянскае, Чорнае, Белае, Тайнае, Мяднянскае. Каля Селяхоўскага воз. біялагічны заказнік Селяхі. Пад лясамі 34,9% тэр. раёна. Буйныя лясныя масівы — Тэльмінскі, Мухавецкі, Белаазерскі і інш. Балоты займаюць 4,4 тыс. га. Агульная плошча с.-г. угоддзяў 72,3 тыс. га, з іх асушаных 24,1 тыс. га. Глебы пераважаюць дзярнова-падзолістыя, забалочаныя, поймавыя і дзярнова-карбанатныя. Якасць ворных зямель складала 41 бал, кармавых угоддзяў — 29, усіх сельхозугоддзяў — 36 балаў. Працуюць прадпрыемствы харч. і будаўнічых матэрыялаў прам-сці. У сістэме адукацыі раёна 17 сярэдніх і 9 базавых школ, 2 школы-садкі. Дзейнічаюць 2 навучальна-вытв. камбінаты, дзіцячы юнацкі клуб, цэнтр пазашкольнай работы, 40 клубных устаноў, 24 б-кі. Выдаецца газ. «Заря над Бугом».

Па тэр. раёна праходзяць чыгункі Брэст—Баранавічы, Брэст—Лунінец, Брэст—Беласток, Брэст—Ковель. Аўтадарогамі звязаны з Баранавічамі, Пінскам, Камянцом, Маларытай. У раёне 3 пункты пропуску праз дзярж. граніцу Рэспублікі Беларусь: Казловічы—Кукарыкі, Дамачава—Славіцічы, Тамашоўка—Пулемец.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 29 км на Пн ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як паселішча агароднікаў у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. Уваходзілі ў склад



*Сялянкі Брэст-Літоўскага пав. 19 ст.*

вотчыннага маёнтка Астрамечава-Плянта, які размяшчаўся за $^{1}/_{4}$ вярсты ад вёскі. У 1840 г. пазначаны ў ліку сёл Астрамечаўскага царк. прыхода. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы 12 двароў, 77 жыхароў. Належала пані Т.Лабаноўскай. У 1860 г. ў складзе маёнтка Ставы, 234 рэвізскія душы, уласнасць графіні Красінай. У 1890 г. сяляне ўваходзілі ў склад Астрамечаўскай сельскай грамады, якой належала 363 дзес. зямлі. Дзейнічалі праваслаўная могілкавая царква, школа граматы. У 1905 г. вёска (180 жыхароў) у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. 11 двароў, 54 жыхары, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Пінскага ваяв. Недалёка ад вёскі размяшчалася аднайменная калонія — 21 двор, 129 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 28 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 вяскоўцы. У 1997 г. 14 двароў, 20 жыхароў. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**АМЯЛІНА** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 21 км на Пн ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Матыкалы. 71 гаспадарка, 171 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. як вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка — дзярж. ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 247 рэвізскіх душ. У 1870 г. адносілася да Цюхінскай сельскай грамады. У 1862 г. пазначана ў ліку сёл Чарнаўчыцкага царк. прыхода. У 1882 г. дзейнічала царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 517 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 540 жыхароў, у Турноўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы. На 30.9. 1921 г. 52 двары, 213 жыхароў, у Турнянаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі, 3 прапалі без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. ў вёсцы 297, 1970 г. — 218 жыхароў. Цэнтр с.-г. рэсп. унітарнага даччынага прадпрыемства «Амяліна»; клуб, магазін, жывёлагадоўчая ферма.

**АРКАДЫЯ** — вёска ў Гершонскім с/с, за 7 км на Пд ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Брэст-Цэнтральны, на У меліярацыйны канал. 69 гаспадарак, 859 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Тут 15.9.1648 г. пакараны смерцю ігумен брэсцкага Сімяонаўскага манастыра Афанасій Філіповіч. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. Уваходзіла ў склад дзярж. маёнтка Пажэжын. У 1868 г. пазначана як сяло ў Гершонскім царк. прыходзе. У 1876 г. 38 двароў, 278 жыхароў. Вяскоўцы ўваходзілі ў Пажэжынскую сельскую грамаду. У 1878—88 гг. паблізу вёскі пабудаваны крапасны форт № 5. У 1890 г. сялянам Аркадзійскага сельскага т-ва, у якое ўваходзілі вёскі Дубінкі і Аркадзія, належала 283,3 дзес. зямлі. На мяжы 19—20 ст. пабудавана драўляная Афанасіеўскага царква. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 517 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. вёска (270 жыхароў) у Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 24 двары, 131 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 69 двароў, 356 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі спалілі 8 двароў, знішчылі 10 жыхароў; 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Малянкова, які аб'ядноўваў 40 гаспадарак; пазней увайшоў у склад саўгаса «Прыбужжа», а ў 1992 г. ператвораны ў аднайменны калгас. У 1997 г. 228 гаспадарак, 681 жыхар. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «За мір» (цэнтр — в.







*Парахавы склеп № 4 у в. Аркадыя. Канец 19 — пачатак 20 ст.*

*Свята-Афанасьеўскі мужчынскі праваслаўны манастыр (1995) у в. Аркадыя.*

Страдзеч). За 2 км на ПдЗ ад вёскі размешчаны крапасны форт № 5 — узор фартыфікацыйнага будаўніцтва канца 19 — пач. 20 ст. У цэнтры вёскі на месцы гібелі Афанасія Філіповіча знаходзіцца Афансіеўская капліца — помнік нар. драўлянага дойлідства, адноўлена прыхаджанамі ў 1988 г. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**АСТРАМЕЧАВА** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 22 км на Пн ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 686 гаспадарак, 2088 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. як маёнтак — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Трокскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяводстваў ВКЛ. У 1533 г. ва ўладанні Я.І.Ілініча, у 1570 г. — Харытаў. З 1598 г. ў складзе Берасцейскай эканоміі. У 1738 г. маёмасць пана Сузіня. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. У 18 ст. вотчынны маёнтак належаў панам Нямцэвічам, складаўся з аднайменных фальварка і часткі вёскі. Другая частка вёскі адносілася да маёнтка Плянта. Паводле рэвізіі 1833 г. ў ім налічвалася 160 рэвізскіх душ. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы 20 двароў, 145 жыхароў. Сялянам належала 538 дзес. зямлі, асн. іх заняткамі былі земляробства і жывёлагадоўля. Невял. прыбытак атрымлівалі ад лоўлі рыбы ў ручаі Люта. Праз вёску праходзіла старадаўняя дарога на Брэст. У 1846 г. замест састарэлай драўлянай царквы была пабудавана з бутавага каменю і цэглы праваслаўная Міхайлаўская царква. У 1860 г. сяло, маёмасць памешчыка Пузыны. У 1878 г. 51 двор, 195 жыхароў. З 1886 г. ў Лышчыцкай вол., 29 двароў, 348 жыхароў, царк.-прыходская школа, карчма. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 316 жыхароў, хлебазапасны магазін, праваслаўная царква, нар. вучылішча. У 1905 г. сяло і маёнтак, 894 жыхары, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Маёнтак належаў А.В.Пузыню, які меў тут 921 дзес. зямлі. У 1905 г. адкрыта адна з першых у Беларусі бясплатных нар. бібліятэк на сродкі фонду рус. прагрэсіўнага кнігавыдаўца Ф.Ф.Паўленкава. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 29 двароў, 141 жыхар. Побач з вёскай размяшчаўся фальварак, у якім было 4 двары, 13 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 155 двароў, 776 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупанты спалілі 12 двароў; 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партызанах. У 1949 г. арганізаваны першы калгас «Памяць Ільіча», які аб'яднаў 75 гаспадарак і 109 чал., 58 коней і 780 га зямлі. У 1988 г. на яго базе ўтворана с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава». У 1997 г. ў вёсцы налічвалася 570 гаспадарак, 1904 жыхары. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы); сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, камбінат быт. абслу-




гоўвання, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, прадуктовы і прамтаварны магазіны, кансервавы з-д, звераферма.

**БАБРОЎЦЫ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 10 км на Пн ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Брэст-Цэнтральны. 27 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Скокі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. ў вёсцы налічвалася 84 сял. душы. У 1890 г. дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой вучыліся 33 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 185 жыхароў, школа граматы. У 1905 г. ў вёсцы 231 жыхар, у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 12 двароў, 97 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі, 3 прапалі без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 152, 1970 г. — 136 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**БАБРЫ** — былы хутар у Чэрнінскім с/с.

У 19 ст. вядомы як фальварак у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. належаў пану С.Ягміну, які меў тут 67,6 дзес. зямлі. У 1905 г. 16 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў фальварку 2 двары, 15 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 21, 1970 г. — 11 жыхароў.

**БАГДАНЫ** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 57 км на Пд ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Дубіца, на У меліярацыйныя каналы, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Вісла). 24 гаспадаркі, 40 жыхароў (2005).

У 19 ст. вядома як прыселак у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 71 жыхар. У 1905 г. 75 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 13 двароў, 98 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 вяскоўцы, 1 прапаў без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 114, 1970 г. — 121 жыхар. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава). Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**БАРЫСЫ** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 54 км на Пд ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Дубіца. 124 гаспадаркі, 380 жыхароў (2005).

У 19 ст. невял. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Дамачава. Паводле матэрыялаў 1858 г. 14 сял. душ. Уласнасць князёў Вітгенштэйнаў. У 1870 г. адносілася да Падлужскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. прыселак, 27 двароў, 176 жыхароў, карчма. У 1905 г. 18 жыхароў, у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 26 двароў, 114 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, у калгасе «Беларусь» (цэнтр — г.п. Дамачава). У Вял. Айч. вайну 9 вяскоўцаў загінулі, 3 прапалі без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 310, 1970 г. — 274 жыхары. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава).

**БАЯРЫ** — былая вёска ў Лышчыцкім с/с.

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад дзярж. маёнтка Марозавічы. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 84 сял. душы. У 1786 г. 33 двары, 195 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 201 жыхар, у Лышчыцкай вол.



Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 18 двароў, 76 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі, 1 прапаў без вестак.

**БЕРДЫЧЫ** – вёска ў Чэрнінскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1566 г. ў Збірогскім войтаўстве Берасцейскага староства. У сяле налічвалася 13 жыхароў, якія мелі 15 валок зямлі. Сяляне плацілі чынш — з адной валокі 31 грош, а таксама натуральную даніну. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1818 г. ў складзе казённага маёнтка Цюхінічы, 68 мужчын, 82 жанчыны. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 283 жыхары. У 1905 г. вёска (298 жыхароў) і маёнтак (12 жыхароў) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 20 двароў, 108 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1941 г. 58 двароў, 318 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупанты спалілі 17 двароў, загубілі 32 мірных жыхароў; 3 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 201, 1970 г. — 132 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**БЛЮВІНІЧЫ** – вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 21 км на Пн ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Матыкалы. 44 гаспадаркі, 185 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. ў Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. Вял. кн. Казімір IV падараваў Блювінічы пану Л.Шальмічу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Дзям'янавічы. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. ў вёсцы налічвалася 173 сял. душы, уладанне памешчыка Баяроўскага. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады, якая мела 242 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 338 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. 391 жыхар, у Турноўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Турноўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 65 двароў, 389 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 66 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 10 вяскоўцаў. У сак. 1949 г. арганізаваны калгас імя Лысенкі, які аб'яднаў 27 гаспадарак з 50. У 1960-я г. ўвайшоў у калгас «Іскра». Да 1970-х г. дзейнічала торфапрадпрыемства «Блювінічы». Паводле перапісаў 1959 г. — 220, 1970 г. — 175 жыхароў. У 1997 г. 56 гаспадарак, 109 жыхароў. У складзе СВК «Чарнаўчыцы» (цэнтр — в. Чарнаўчыцы). Радзіма бел. пісьменніцы К.К.Каліны.

**БРАТЫЛАВА** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 39 двароў, 95 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1599 г. шляхецкая ўласнасць. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Чэрні — уладання пана Ягміна. У 1858 г. ў вёсцы налічвалася 119 рэвізскіх душ. У 1870 г. адносілася да Чэрнінскай сельскай грамады. У 1905 г. аднайменныя вёска і фальварк (250 жыхароў) у Косіцкай вол. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 29 гаспадарак, 168 жыхароў.

У Вял. Айч. вайну 3 вяскоўцы загінулі, 1 прапаў без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 205, 1970 г. — 136 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**БУЛЬКАВА** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 18 км на У ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні, на р. Мухавец (прыток р. Зах. Буг), на У меліярацыйныя каналы, побач аўтадарога Брэст—Кобрын. 20 гаспадарак, 32 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як маёнтак — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Падляшскага ваяв. ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Належала Ажараўскім, з 1808 г. — Чапскім. У 1905 г. 403 жыхары, у Рагазнянскай вол. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Рагазнянскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 41 двор, 283 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінула 13 жыхароў. У 1997 г. ў вёсцы 28 гаспадарак, 85 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1). Планіровачна складаецца з дзвюх вуліц Г-падобнай канфігурацыі і адасобленага ўчастка забудовы на З. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены двухбакова, няшчыльна. Прыгарадная зона адпачынку за 20 км на У ад Брэста, на берагах рэк Мухавец і Асіпоўка. Пл. больш за 1,2 тыс. га. Адначасова могуць адпачываць каля 5 тыс. чал. На тэр. зоны аздараўленчыя лагеры, база адпачынку, участкі садовага т-ва.

**БУЯКІ** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 18 км на У ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Жабінка. 6 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка паноў Райскіх у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У склад яго ўваходзілі 2 вёскі — Буякі і Вочкі. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 287 сял. душ, у в. Буякі 11 двароў, 99 жыхароў. У 1870 г. ў вёсцы 108 рэвізскіх душ, цэнтр сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 148 жыхароў, вятрак, карчма, у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Побач размяшчалася аднайменная сядзіба (9 жыхароў). У 1905 г. ў вёсцы 119 жыхароў, у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 25 двароў, 115 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 9 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 93, 1970 г. — 82 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1).

**БЯРНАДЫ** — вёска ў Гершонскім с/с, за 9 км на Пд ад Брэста, на Пд і З меліярацыйныя каналы. 53 двары, 121 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як вёска ў Берасцейскім старостве ВКЛ. У 1631 г. ўпамінаецца як маёнтак Бярнатавічы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Уваходзілі ў склад маёнтка Гершоны. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. ў вёсцы 95 рэвізскіх душ. У 1870 г. вяскоўцы адносіліся да Міцькаўскай сельскай грамады. У 1876 г. 47 двароў, 112 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 207 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 246 жыхароў, у Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. 24 двары, 131 жыхар, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі, 2 прапалі без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 310, 1970 г. — 274 жыхары. У складзе адкрытага акц. т-ва «Агравіта» (цэнтр — в. Гершоны). Планіровачна складаецца з



дзвюх кароткіх вуліц, якія ўтвараюць Т-падобную кампазіцыю. Забудова двухбаковая, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**ВАЛОСКІ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 7 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — дзярж. уласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 29 сял. душ. У 1870 г. Валоскі адносіліся да Харытонаўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 51 жыхар, у Збіражскай вол. У 1905 г. ў вёсцы 55 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 9 двароў, 37 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 41, 1970 г. — 34 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**ВАЎКІ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Брэста. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — дзярж. уласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1868 г. 137 жыхароў, у Радваніцкай вол. У 1890 г. вяскоўцы ўваходзілі ў Падлеснае с.-г. т-ва, якое мела 1323 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 321 жыхар. У 1905 г. 65 жыхароў, у Радваніцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радваніцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 35 двароў, 193 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. налічвалася 35 двароў, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 27 двароў, загубілі 8 жыхароў, 2 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісаў 1959 г. — 108, 1970 г. — 80 жыхароў. У 1997 г. ў вёсцы было 18 гаспадарак, 22 жыхары. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ВЕЛЬЯМОВІЧЫ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Лышчыцы, на аўтадарозе Воўчын—Брэст, на Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з Матыкальскім каналам. 62 гаспадаркі, 523 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло — дзярж. уласнасць у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1566 г. ва ўладанні С.Траяноўскага. Пад 1631 г. пазначана як сяло з царквой і каштоўным евангеллем. У 1724 г. ўзведзена новая драўляная праваслаўная царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 19 ст. — вёска, цэнтр маёнтка паноў Дабражыніцкіх у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1846 г. 7 двароў, 58 жыхароў. Маёнтку належала 153, сялянам 69 дзес. зямлі. У 1868 г. сяло, дзярж. уласнасць, 177 жыхароў. У 1869 г. пабудавана праваслаўная мураваная царква са званіцай, якую наведвалі прыхаджане з 6 вёсак. Дзейнічала царк.-прыходская школа. З 1886 г. ў Воўчынскай вол., 29 двароў, 287 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, карчма. У 1881 г. на месцы храма, узведзенага ў 1724 г., ва ўсх. частцы вёскі пабудавана праваслаўная Ільінская царква. У 1890 г. маёнтак належаў памешчыку В.Дабрынскаму, які меў тут 93 дзес. зямлі, 40 дзес. зямлі належала царкве. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы налічвалася 419 жыхароў. У 1905 г. ў сяле 546, у маёнтку — 6 жыхароў, у Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 48 двароў, 237 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 86 двароў, 433 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 18 двароў, загубілі 8 жыхароў; 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны быў арганізаваны калгас імя Гастэлы, які аб'яднаў 48 гаспадарак з 107. Паводле



*Помнік землякам у в. Вельямовічы.*

перапісу 1959 г. ў в. Вельямовічы Вялікія — 265, у в. Вельямовічы Малыя — 67 жыхароў. У хуткім часе гэтыя вёскі аб'яднаны ў адну, у якой паводле перапісу 1970 г. налічвалася 225 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы); сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. У цэнтры вёскі помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю 19 ст. — царква Ушэсця. Побач з вёскай радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (0,2 млн. м$^3$).

**ВІСТЫЧЫ** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 12 км на Пн ад Брэста. 190 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як сяльцо — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. З 1471 г. належала берасцейскаму падкаморыю Выганоўскаму. У 16 ст. ўладанне маршалка літоўскага і старосты берасцейскага Ю.І.Ілініча, пазней — Тышкевічаў. У 1678 г. пабудаваны з цэглы касцёл цыстэрцыянцаў. У пач. 19 ст. вёска належала памешчыку Шэміету. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У вайну 1812 г., у верасні, пры пераправе цераз р. Лясная каля вёсак Вістычы, Клейнікі і Церабунь адбылася бітва, у выніку якой загінулі 2 тыс. французскіх і 1 тыс. рас. салдат, а вёска згарэла. У 1834 г. касцёл перабудаваны ў мураваную царкву з драўлянай званіцай. Медны звон важыў больш за 5 пудоў і быў датаваны 1692 г. Царкву наведвалі каля 4 тыс. прыхаджан з 14 навакольных вёсак, ёй належала 126 дзес. зямлі. У 1849 г. Вістычы — уладанне графа Грабоўскага. У маёнтку была плаціна і 8 мастоў. У 1863 г. ў вёсцы меліся карчма, вадзяны і ветраны млыны. Маёнткам валодаў П.Ягмін, які за ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. паводле царскага загаду абавязаны быў прадаць $^1/_7$ частку свайго маёнтка. У 1889—90 гг. у вёсцы працавала нар. вучылішча, дзе вучыліся 61 хлопчык і 3 дзяўчынкі. У 1890 г. маёнткам валодаў С.Ягмін, які меў тут 383 дзес. зямлі. У 1905 г. Вістычы ў Матыкальскай вол., 74 жыхары. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 3 двары, 89 жыхароў; працаваў вадзяны млын. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 5 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 105, 1970 г. — 103 жыхары. У 1997 г. ў вёсцы 170 гаспадарак, 605 жыхароў. Цэнтр камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет»; магазін, базавая школа, б-ка, аддз. сувязі. У цэнтры вёскі Крыжаўзвіжанская царква — помнік архітэктуры барока.

**ВІТОШКІ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Жабінка. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. З 1868 г. маёнтак Вітошкі належаў Галеўскаму. У 1870 г. ў вёсцы 76 рэвізскіх душ. У 1890 г. сяляне ўваходзілі ў Залескае с.-г. т-ва (налічвала 81 дзес. зямлі). Маёнткам валодаў У.Анцуг, які меў 105 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска (191 жыхар) у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 183 жыхары, вятрак, кузня. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіраж-



скай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 11 двароў, 65 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 8 двароў, 41 жыхар. Паводле перапісаў 1959 г. — 45, 1970 г. —34 жыхары. У 1997 г. ў Вітошках налічвалася 2 гаспадаркі, 4 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**ВОЧКІ** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 19 км на У ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Жабінка. 5 гаспадарак, 41 жыхар (2005).

У 19 ст. вёска ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Буякі. Паводле інвентару 1846 г. 20 двароў, 156 жыхароў, уласнасць нашчадкаў пана Райскага. У 1870 г. ў вёсцы налічваліся 163 рэвізскія душы, адносілася да Буяцкай сельскай грамады ў Збіражскай вол. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 31 двор, 168 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінула 9 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 147, 1970 г. — 102 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1).

**ВУЛЬКА** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 12 км на Пн ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Матыкалы. 7 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У 18 ст. вёска — дзярж. ўласнасць у складзе Брэсцкай эканоміі. Акрамя феад. чыншу, сяляне плацілі падымны падатак. Яго памер у 1767 г. складаў 71 злоты і 12 грошаў. Другой грашовай павіннасцю на карысць дзяржавы была гіберна — падатак на ўтрыманне войска зімой. У 1767 г. гіберна вёскі складала 31 злоты і 20 грошаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Кавярдзякі. У 1860 г. належала Ф.Ягміну. У 1870 г. 65 рэвізскіх душ, цэнтр Вулькаўскай сельскай грамады. У 1876 г. ў вёсцы 21 двор, 124 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 97 жыхароў, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 136 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 10 двароў, 57 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 85, 1970 г. — 67 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы).

**ВУЛЬКА-ЗАСТАЎСКАЯ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Брэста. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Горны, належала памешчыку Тарскаму. У 1870 г. ў вёсцы налічвалася 77 рэвізскіх душ, у 1876 г. 65 двароў, 460 жыхароў. У канцы 19 ст. ў Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. 171 жыхар. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 6 двароў, 64 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 4 вяскоўцы загінулі, 2 прапалі без вестак. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ВЫЧУЛКІ** — вёска ў Тэльмінскім с/с, у прыгараднай зоне Брэста, на правым беразе р. Мухавец, за 8 км на У ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Брэст-Цэнтральны, 1,5 км ад шашы Брэст—Мінск. 599 гаспадарак, 1748 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1510 г. як сяло на р. Мухавец у Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. Уласнасць Л.Храбтовіча, з 1745 г. — падчашніка брэсцкага Чыжа. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Уваходзіла ў маёнтак Тры-




шын, уладанне паноў Гутоўскіх. У 1870 г. ў сяле 38 мужчын, 50 жанчын. У 1890 г. сяло — цэнтр сельскай грамады, якая аб'ядноўвала сялян вёсак Косічы, Вычулкі і Задворцы, мела 4514 дзес. зямлі. У 1905 г. 220 жыхароў, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 21 двор, 143 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 52 двары, 182 жыхары. Паводле перапісаў 1959 г. — 303, 1970 г. — 365 жыхароў. З 1.4.1968 г. да 8.5.1970 г. цэнтр сельсавета Брэсцкага р-на. У 1997 г. 334 гаспадаркі, 996 жыхароў. Цэнтр камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Цяплічны камбінат «Бярэсце»; пач. школа, клуб, магазін, б-ка, участак Брэсцкага рачнога порта, дырэкцыя будоўлі аўтадарог, прыватнае унітарнае прадпрыемства «Брэсцкі зааветснаб», дарожна-буд. ўпраўленне № 138, абесельгасэнерга.

**ВЯЛІКАЯ КУРНІЦА** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 79 гаспадарак, 202 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах 17 ст. вёска ўпамінаецца ў Брэсцкім пав. і ваяводстве ВКЛ. З 1698 г. ўладанне Чартарыйскіх. У 18 ст. згадваецца ў сувязі з вызначэннем межаў з суседнімі сёламі. У 19 ст. маёнтак — дзярж. ўласнасць у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Вялікая і Малая Курніца, Чарнакі. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. ў вёсцы 286 сял. душ. Паводле перапісу 1897 г. 86 двароў, 497 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы і маёнтку 592 жыхары, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 52 двары, 272 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 18 вяскоўцаў загінулі, 6 прапалі без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 363, 1970 г. — 248 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**ВЯЛІКАЯ РАКАВІЦА** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 24 гаспадаркі, 57 жыхароў (2005).

У 18 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка ў Брэсцкім пав. і ваяводстве ВКЛ. Уладанне князей Шуйскіх, якія ў 1740 г. перадалі в. Ракавіца стольніку П.Талочку. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 34 сял. душы, уласнасць пані Талачковай. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 175 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня, вятрак. У 1905 г. 150 жыхароў, у Матыкальскай вол. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся маёнтак (20 жыхароў). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 19 двароў, 122 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**ВЯЛІКІЯ КОСІЧЫ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 50 гаспадарак, 107 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як сяло — шляхецкая ўласнасць у Трокскім ваяв. ВКЛ. У канцы 15 ст. ўладанне Б.А.Салагубовіча, які адпісаў частку маёнтка Косічы свайму брату Юрыю. У 1500 г. вял. кн. ВКЛ Аляксандр пацвердзіў гэты запіс. Пад 1567 г. пазначана ў попісе войска ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1860 г. вёска ў складзе маёнтка Трышын, уладальнікам якога



быў Гутоўскі; 47 мужчын, 58 жанчын. У 1876 г. 37 двароў, 262 жыхары. У 1882 г. жыхары Вялікіх Косіч і навакольных вёсах сумесна са свяшчэннікамі Качалоўскім і Савіцкім пабудавалі праваслаўную царкву са званіцай. У 1886 г. сяло, 13 двароў, 147 жыхароў, валасная ўправа (з 1890 у в. Чэрні), праваслаўная царква, карчма. Працавала царк.-прыходская школа, у якой вучылася 69 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У 1905 г. сяло (214 жыхароў) — цэнтр Косіцкай вол. Непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак (9 жыхароў). У сяле быў валасны сельскі фельчар, размяшчаліся ўчасткі: судовых следчых, міравых пасрэднікаў, судова-міравой акругі. Адзін раз у год працаваў прызыўны ўчастак па воінскай павіннасці. У воласці налічвалася 16 с.-г. т-ваў і с.-г. абшчын; яна аб'ядноўвала 27 вёсак, у якіх было 395 двароў, 2161 мужчына, 2159 жанчын. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Косіцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 10 двароў, 52 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы 29 двароў, 168 жыхароў. У студз. 1950 г. арганізаваны калгас імя Фрунзе, у які з 42 гаспадарак уступілі 32. У 1969 г. аб'яднаны з саўгасам «Маладая гвардыя». У 1997 г. ў вёсцы 46 гаспадарак, 168 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**ВЯЛІКІЯ МАТЫКАЛЫ** — вёска, цэнтр Матыкальскага с/с, у прыгараднай зоне Брэста, за 18 км на Пн ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Матыкалы, на лініі Брэст—Высокае—Літоўск, аўтадарозе Брэст—Высокае. 82 гаспадаркі, 2423 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. З 1566 г. Матыкалы — уладанне зямян Афанаса і Мацея Бекішаў у Камянецкім пав. Берасцейскага староства, з 1597 г. — пана Івана Матыкальскага. У 1672 г. — цэнтр



*Былая абарончая казарма перыяду 1-й сусветнай вайны ў в. Вялікія Матыкалы.*

гміны, уласнасць Марціна Матусевіча, у 1788 г. — кашталяна брэсцкага Юзафа Шчыта. У 1788 г. дзейнічала паштовая станцыя паміж Брэстам і Высокім. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. —Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1861 г. ў вёсцы адбыліся сял. хваляванні. Сяляне адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці, для ўстанаўлення парадку былі выкарыстаны салдаты. У 1866 г. ў вёсцы 84 мужчыны, 97 жанчын, маёнткам валодаў Уладкоў. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1869 г. на сродкі ўрада і жыхароў навакольных вёсак пабудавана мураваная царква са званіцай. У 1876 г. сяло, 59 двароў, 345 жыхароў. У 1886 г. 22 двары, 214 жыхароў, валасная ўправа, царк.-прыходская школа, карчма; у маёнтку Матыкалы — цагельны з-д, ветраны млын, карчма. У 1889 г. працавала нар. вучылішча, у якім вучыліся 53 хлопчыкі. У 1905 г. сяло, 368 жыхароў, у маёнтку 42 жыхары, цэнтр Матыкальскай вол., знаходзілася за 14 вёрст ад Брэста. Размяшчаліся ўчасткі: судовых следчых, міравых пасрэднікаў, судова-міравой акругі, валаснога сельскага фельчара. У сяле працавала паштовае аддзяленне, прызыўны ўчастак на вайсковую службу. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Матыкальскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 32 двары, 181 жыхар. У 1924 г. працаваў млын. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Матыкальскага с/с

Брэсцкага р-на. У 1940 г. 52 двары, 154 жыхары. У 1997 г. ў вёсцы налічвалася 714 гаспадарак, 2190 жыхароў. Цэнтр. сядзіба Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні»; птушкафабрыка, сярэдняя школа, Дом культуры, цэнтр. раённая б-ка, комплексны прыёмны пункт камбіната бытавога абслугоўвання, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, клуб, муз. школа, урачэбная амбулаторыя, спажывецкае т-ва, 2 магазіны.

**ВЯЛІКІЯ РАДВАНІЧЫ** — вёска, цэнтр Радваніцкага с/с, на правым беразе р. Рыта, за 33 км на ПдУ ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Жабінка, на У меліярацыйныя каналы, на З — р. Рыта (прыток р. Мухавец). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Вял. Радванічы—Брэст. 194 гаспадаркі, 506 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло — цэнтр Радваніцкай вол. ў Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1510 г. кароль Жыгімонт I Стары зацвердзіў Радванічы Царкоўныя на р. Рыць за берасцейскім дваранінам Андрэем Лозкам. У 1600 г. была пабудавана праваслаўная царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1868 г. ў сяле 192 мужчыны, 293 жанчыны. У 1886 г. сяло, 54 двары, 634 жыхары, валасное праўленне, праваслаўная царква, карчма, за 3 вярсты размяшчалася лясная кантора Каблунь. У 1890 г. ўладальнікамі маёнтка былі І.Песціч, Катарскі, У.Тур. У 1889 г. працавала нар. вучылішча, у якім вучыліся 67 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1905 г. 324 жыхары. Сяло Радванічы Царкоўныя цэнтр Радваніцкай вол., за 25 вёрст ад Брэста. У ім працаваў валасны сельскі фельчар, былі размешчаны ўчасткі паліцэйскіх ураднікаў, міравых пасрэднікаў, судова-міравой акругі, судовых следчых, адзін раз у год дзейнічаў прызыўны ўчастак па воінскай павіннасці. У воласць уваходзілі маёнтак Франопаль,



*Помнік землякам у в. Вялікія Радванічы.*

вёскі Літвіны, Кашылава, Міхалін, Ваўкі, Радванічы Зарэчныя. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Радваніцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 97 двароў, 595 жыхароў. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 220 двароў, 937 жыхароў. У Вял. Айч. вайну фашысты знішчылі 97 двароў, загубілі 34 жыхароў; на фронце загінуў 41 вясковец. Паводле перапісу 1959 г. 575 жыхароў. У 1997 г. ў вёсцы 205 гаспадарак, 537 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы); сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, 2 магазіны.

**ВЯЛІКІЯ СУХАРЭВІЧЫ** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 16 км на Пн ад Брэста. 8 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Вістычы. Паводле рэвізіі 1858 г. ў ёй налічвалася 111 сял. душ. Уладанне пана Ягміна. Паводле перапісаў 1897 г. 35 двароў, 218 жыхароў, у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав., дзейнічала школа граматы. У 1905 г. 286 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 24 двары, 106 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 17 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 170, 1970 г. — 106 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г.



прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы).

**ВЯЛІКІЯ ШЧЫТНІКІ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Брэста, 2,5 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 38 гаспадарак, 79 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка пана Паніквіцкага ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1821 г. пазначана ў ліку сяленняў Шчытніцкага царк. прыхода. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 207 сял. душ. У 1905 г. ў маёнтку Шчытнікі 78 жыхароў, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9. 1921 г. 37 двароў, 156 жыхароў. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся аднайменны фальварак (9 двароў, 40 жыхароў); працаваў ветраны млын. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 8 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 215, 1970 г. — 190 жыхароў. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**ВЯЛЮНЬ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 49 гаспадарак, 78 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1868 г. — цэнтр аднайменнага маёнтка, якім валодаў Ягмін; мелася 358 дзес. зямлі. У 1870 г. ў вёсцы налічвалася 90 мужчын, 74 жанчыны. У 1890 г. — цэнтр Вялюнскай сельскай грамады, якой належала 246 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 322 жыхары, у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 309 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 20 двароў, 141 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 61 двор, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. У сак. 1948 г. арганізаваны калгас імя Суворава, які аб'яднаў 52 гаспадаркі з 70, 300 га раллі і 65 га сенакосу, 33 кані. Паводле перапісаў 1959 г. — 243, 1970 г. — 200 жыхароў. У 1997 г. ў вёсцы налічвалася 54 гаспадаркі, 104 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні). Радзіма Героя Сав. Саюза І.Ц.Майсеева.



*І.Ц.Майсееў.*

**ГАЛАЧОВА** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Матыкалы. 24 гаспадаркі, 44 жыхары (2005).

У пачатку 20 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., у 1905 г. 236 жыхароў. Паводлле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв.; 19 двароў, 96 жыхароў. Непадалёку размяшчаўся фальварак. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. ў вёсках Галачова-1 і Галачова-2 — 206, 1970 г. — 119 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**ГЕРШОНЫ** — вёска, цэнтр Гершонскага с/с, у прыгараднай зоне Брэста, 6 км на Пд ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Брэст, на аўтадарозе Брэст—Тамашоўка. 582 гаспадаркі, 2010 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 15 ст. як сяло ў Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1566 г. 41 жыхар. У 1672 г., паводле прывілея польскага караля Яна Казіміра, пабудавана праваслаўная царква. Ёй былі выдзелены 2 валокі зямлі з Брэсцкай эканоміі і фальварак у канцы сяла. У 1682 г. уладанне Хайноўскага-Даніловіча, Кулеша. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. У 1839 г. пабудаваны лесапільны з-д, на якім працава-



*Абаронная казарма часоў 1-й сусветнай вайны каля в. Гершоны.*

ла 49 рабочых. У 1868 г. вёска адносілася да маёнтка Плянта ў Камянец-Жыровіцкай вол., уладальніцай якога была пані Паніхвіцкая; 63 мужчыны, 60 жанчын. У гэтым жа годзе на сродкі прыхаджан і за кошт дапамогі з асігнавання ген.-губернатара М.М.Мураўёва пабудавана мураваная праваслаўная Свята-Раства-Багародзіцкая царква са званіцай. У 1876 г. ў Гершонах 37 двароў, 199 жыхароў. У 1878—88 гг. каля вёскі быў пабудаваны форт № 5, каб удасканаліць умацаванне Брэсцкай крэпасці адпаведна зменам, што адбыліся ў ваен. тэхніцы. У 1889 г. працавалі школа граматы, нар. вучылішча, у якім вучыліся 71 хлопчык і 5 дзяўчынак. Размяшчалася кватэра паліцэйскіх урраднікаў. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 3 двары, 11 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. Побач размяшчалася аднайменная вёска (32 двары, 234 жыхары), хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. вёска (253 жыхары) у Камянец-Жыровіцкай вол. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв.; 30 двароў, 250 жыхароў. Працавалі 2 цагельні (100 рабочых). З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. адкрыта 7-гадовая школа. Цэнтр адкрытага акц. т-ва «Аграваіта»; сярэдняя школа, у якой у 1970—80-я г. працаваў вучэбна-вопытны ўчастак. 21 вучань быў удзельнікам ВДНГ, 7 з іх атрымалі значок «Удзельнік ВДНГ». Паводле перапісаў 1959 г. ў в. Вял. Гершоны — 251, у в. Малыя Гершоны — 228 жыхароў; 1970 г. ў в. Гершоны 112 двароў, 776 жыхароў. Клуб, б-ка, аддз. сувязі, амбулаторыя, 2 магазіны. Размешчана Брэсцкая перасоўная механізаваная калона. У 1997 г. 525 гаспадарак, 1700 жыхароў. У цэнтры вёскі царква — помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю 19 ст. Паблізу вёскі радовішча глін (4,8 млн. м$^3$).

**ГУЛІ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Брэста. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радваніцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 78, 1970 г. — 49 жыхароў. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ГУТА** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 62 км на Пд ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Дубіца. 46 гаспадарак, 96 жыхароў (2005).

У вёсцы развіта металургічная або шкляная вытворчасць. Тэрмін (паходзіць, магчыма, ад герм. Hutte) узнік у 14—16 ст. У 19 ст. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1860 г. ў Прыбароўскай вол., у складзе маёнтка Прыбарова, якім валодаў граф Замойскі. У ліп. 1862 г. адбыліся сял. хваляванні. Сяляне адмовіліся адбываць згонную павіннасць і плаціць чынш грашыма або хлебам. У 1866 г. заснавана нар. вучылішча, у якім вучыліся 31 хлопчык і 4 дзяўчынкі. У 1868 г. 41 мужчына, 44 жанчыны. У 1890 г. сяляне Гуцкага с.-г. т-ва мелі 183 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска (282 жыхары) у Прыбароўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прыбароўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 16 двароў, 120 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы 58 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 51 двор, загубілі 9 жыхароў; 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 2 — у партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 236, 1970 г. —



244 жыхары. У 1997 г. 56 гаспадарак, 165 жыхароў. Вёска ў складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава); клуб, б-ка.

**ГУТОВІЧЫ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У пач. 19 ст. вёска — дзярж. уласнасць у Воўчынскай вол. Брэсцкага пав., у 1868 г. — у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ.; 36 мужчын, 39 жанчын. У 1890 г. сяляне ўваходзілі ў Харытонаўскае с.-г. т-ва, якое мела 92 дзес. зямлі. Працавала школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 176 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 180 жыхароў, у Збіражскай вол. Згодна з ўмовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв.; 14 двароў, 80 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 94, 1970 г. — 54 жыхары. У 1997 г. ў вёсцы 13 гаспадарак, 17 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**ДАМАЧАВА** — гарадскі пасёлак, цэнтр Дамачаўскага пас. Савета, за 52 км на Пд ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Дубіца, 2 км ад аўтадарогі Брэст—Тамашоўка. 1299 жыхароў (2005).

У 18 ст. мястэчка ў Брэсцкім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1788 г. намаганнямі жыхароў Дамачава і навакольных вёсак пабудавана праваслаўная драўляная царква з капліцай. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. Тут размяшчаўся кардонны пост, які кантраляваў выплату мытных падаткаў у сувязі з перасячэннем мяжы з Каралеўствам Польскім. У 1860 г. мястэчка (1104 жыхары) — цэнтр Дамачаўскай вол. і маёнтка, якім валодаў кн. Вітгенштэйн. У чэрв. 1861 г. адбылося выступленне сялян супраць пана, якое было задушана ваен. сілай. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1876 г. ў мястэчку 246 двароў, 1789 жыхароў. Мелася 13 вуліц: Аляксандраўская, Базарная, Брэсцкая, Гандлёвая, Кабелкаўская, Крывая, Купальная, Ляплёўская, Новая, Пясочная, Садовая, Царкоўная, Чэрская. На першай размяшчаліся сельская лячэбніца і валаснoе праўленне. У 1886 г. — 683 жыхары, валасная ўправа, праваслаўная царква, яўр. малітоўны дом. Працавала нар. вучылішча, у якім вучыліся 63 хлопчыкі, дзейнічалі мяшчанская ўправа, паштовае аддзяленне. У 1890 г. уладальнікам маёнтка быў кн. П.Вітгенштэйн. У склад маёнтка ўваходзілі хутары Аляксандрава, Маслянкі і фальварак Чэрск. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 130 двароў, 1029 жыхароў, 30 лавак, 2 карчмы. На працягу года адбываліся 2 кірмашы. На чыг. ст. Дамачава — 11 двароў, 27 жыхароў, вадакачка, буфет. У 1905 г. 1163 жыхары, чыг. ст. Дамачава на лініі Брэст—Холм. Маёнтак і 7827 дзес. зямлі належалі правадз. стацкаму саветніку М.І.Дурыліну. У 1905 г. на месцы старога храма пабудавана драўляная праваслаўная Лукаўская царква. Працавалі ўчастак сельскага ўрача, лячэбніца, валасны фельчар, раз у год дзейнічаў прызыўны ўчастак па воінскай павіннасці. Тут размяшчаліся ўчасткі судовых следчых, міравых



*Помнік на месцы масавага знішчэння гітлераўцамі мясцовых жыхароў і вязняў гета ў г.п. Дамачава.*



*Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан у г.п. Дамачава.*

пасрэднікаў, судова-міравой акругі, паліцэйскіхураднікаў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Дамачаўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў мястэчку 110 двароў, 1504 жыхары. Непадалёку знаходзілася калонія, у якой было 3 будынкі, 10 жыхароў. Працавалі млын і невял. прадпрыемства па вырабе масел. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр Дамачаўскага р-на; 530 двароў, 3950 жыхароў. У Вял. Айч. вайну знішчана 500 двароў і 3800 жыхароў. 17.12.1956 г. Дамачаўскі р-н скасаваны, г.п. Дамачава ўключаны ў склад Брэсцкага р-на. Паводле перапісу 1959 г. 4266 жыхароў. Цэнтр адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс»; сярэдняя школа, райпрамкамбінат (чарапічны і мэблевы цэхі і млын), маслазавод, лясніцтва, дзіцячы сад, вучэбна-вытв. камбінат, гарпасялковая бальніца, аддз. сувязі, б-ка, Дом культуры, кінатэатр, санаторый, КВП «Хлебазавод», аптова-рознічнае гандл. прадпрыемства, дом для састарэлых і інвалідаў.

**ДАМБРОЎКА** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 56 км на Пд ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Дубіца. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. як маёнтак у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 19 ст. — вёска, цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Маёнтак, у склад якога ўваходзілі 6 фальваркаў і каля 20 навакольных вёсак, належаў графу Сіверу. Паводле рэвізіі 1833 г. 2029 сял. душ. Пасля смерці графа маёнтак перайшоў да яго дачкі. Паводле інвентару 1846 г. ў ім налічвалася 2063 сял. душы, 4235 дзес. зямлі, якія належалі графіне Сівер і пані Бахмецевай. Працавалі млын, цагельны і вінакурны з-ды, палатняная ф-ка. У 1870 г. вёска адносілася да Цюхініцкай сельскай грамады. У 1905 г. 51 жыхар, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 13 двароў, 83 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава).

**ДРУЖБА** (да 30.7.1964 Скорбічы) вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 12 км на Пн ад Брэста. 58 гаспадарак, 137 жыхароў (2005).

Выяўленыя археолагамі 2 селішчы паблізу вёскі сведчаць, што гэта мясцовасць была заселена людзьмі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 15 ст. пад назвай Скорбічы ў Берасцейскай вол. Трокскага ваяв. ВКЛ. Пад 1449 г. пазначана ў даравальных запісах вял. князёў літоўскіх. У 19 ст. вёска — дзярж. уласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад казённага маёнтка Цюхінічы. У 1860 г. 246 жыхароў, у Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. У 1870 г. налічвалася 246 рэвізскіх душ. Адносілася да Цюхініцкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 484 жыхары. Працавала школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 484 жыхары, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле ўмоў



Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 26 двароў, 170 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы 89 двароў, 278 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 5 двароў, загубілі 16 жыхароў; 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісаў 1959 г. — 340, 1970 г. — 269 жыхароў. У 1997 г. 68 гаспадарак, 211 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы); магазін.

**ДУБІЦА** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 39 км на Пд ад Брэста, чыг. станцыя на лініі Брэст—Уладава, на Пд лес, на Пн меліярацыйныя каналы, непадалёку (1 км) лес, на Пн меліярацыйныя каналы, непадалёку (1 км) аўтадарога Брэст—Тамашоўка. 60 гаспадарак, 110 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Пад 1574 г. ўпамінаецца як маёнтак. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1870 г. ў Дамачаўскай вол.; 101 мужчына, 88 жанчын. У 1876 г. 71 двор, 410 жыхароў. У 1883 г. засн. лесапільны з-д, на якім у 1895 г. працаваў 21 рабочы, у 1884 г. ўведзены паравы рухавік. У 1890 г. сялянам Дубіцкага с.-г. т-ва належала 308 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 358 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. вёска (374 жыхары), чыг. паўстанак Дубіца (10 жыхароў) Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 53 двары, 265 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. цэнтр Дубіцкага, затым Ляплёўскага (1954) сельсаветаў Дамачаўскага р-на, які ў 1956 г. аднесены да Брэсцкага р-на. У 1940 г. 106 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 8 двароў, загубілі 14 жыхароў; 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 406 жыхароў. У 1997 г. ў в. Д. 92 гаспадаркі, 166 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Птушкафабрыка Медна» (цэнтр — в. Медна).

**ДУБОК** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 53 км на Пд ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Дубіца, на З — р. Капаёўка (прыток р. Зах. Буг), на У меліярацыйны канал, на Пд сетка меліярацыйных каналаў і дзярж. мяжа з Украінай, аўтадарогай звязана з г.п. Дамачава. 27 гаспадарак, 224 жыхары (2005).

У канцы 18 — пач. 19 ст. ў вёсцы пабудавана драўляная праваслаўная Ільінская царква. У 19 ст. — сяло ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1868 г. ў Прыбараўскай вол.; 160 мужчын, 179 жанчын. Уласнасць графа Замойскага. У 1875 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1876 г. ў сяле 143 двары, 1008 жыхароў. У 1886 г. — 25 двароў, 410 жыхароў, праваслаўная царква, царк.-прыходская школа, карчма. У 1890 г. сялянам Дубоцкага с.-г. т-ва належала 632,3 дзес. ворыва. У нар. вучылішчы займаліся 39 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 121 двор, 644 жыхары, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, майстэрня па вырабе гонту, карчма. У 1905 г. вёска (934 жыхары) і маёнтак (20 жыхароў) у Прыбараўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прыбараўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 60 двароў, 270 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 149 двароў, 654 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 23 двары, загубілі 57 жыхароў; 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісаў 1959 г. — 575, 1970 г. — 524 жыхары. У 1997 г. 128 гаспадарак, 211 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава); пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. На зах. ускраіне вёскі размешчана царква — помнік архітэктуры нар. дойлідства Бел. Палесся.

**ДУБРАВА** — вёска ў Знаменскім с/с, за 42 км на Пд ад Брэста, 20 км ад чыг.

ст. Дубіца. 48 гаспадарак, 117 жыхароў (2005).

У пачатку 20 ст. вядома як лясная старожка ў Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1900 г. тут працавала лесапільня. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 16 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў крас. 1943 г. спалілі 15 двароў, загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 154, 1970 г. — 247 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Птушкафабрыка Медна» (цэнтр — в. Медна).

**ДУБРОЎКА** — былая вёска ў Матыкальскім с/с.

У пачатку 20 ст. ў Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 67 жыхароў. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв.; 13 двароў, 83 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 223, 1970 г. — 495 жыхароў. Уключана ў межы Брэста.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы, на аўтадарозе Малыя Радванічы—Брэст, на З меліярацыйныя каналы. 17 двароў, 172 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах 16 ст. згадваецца ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Пад 1589 г. упамінаецца ў сувязі з «наездамі на сяло». З 1753 г. ўладанне І.Матушэвіча. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. У 1869 г. маёнтак належаў пану Ляшкевічу. У 1870 г. ў вёсцы налічвалася 165 рэвізскіх душ; адносілася да Забалацкай сельскай грамады. У пач. 20 ст. вёска ў Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 381 жыхар, непадалёку ад яе размяшчаўся фальварак. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 15 двароў, 109 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну ў Забалацці дзейнічала падп. антыфаш. ячэйка. Вясковая моладзь на чале з У.І.Стэльмашук сабрала для партызан шмат зброі, у т.л. 5 аўтаматаў, 4 ручныя кулямёты, 30 вінтовак. За гады вайны загінулі 20 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 225, 1970 г. — 244 жыхары. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ЗАБЯРЭЗЗЕ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).

У 19 ст. вядома як фальварак у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. З 1890 г. ўласнасць М.Бекмана, які меў тут 382 дзес. зямлі. У 1905 г. 33 жыхары. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 3 двары, 14 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 41, 1970 г. — 22 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**ЗАВОСЦЕ** — былая вёска ў Радваніцкім с/с.

У пачатку 20 ст. вядома як фальварак у Радваніцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў ім 9 жыхароў. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радваніцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР.

**ЗАКАЗАНКА** — вёска ў Гершонскім с/с, за 16 км на Пд ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Брэст-Цэнтральны, на аўтадарозе Брэст—Тамашоўка, на З дзярж. граніца з Польшчай. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).



Выяўленая археолагамі стаянка за 2 км на Пн ад вёскі, у даліне р. Зах. Буг, на пясчаных узгорках сведчыць, што гэта мясцовасць была заселена людзьмі ў глыбокай старажытнасці. У пач. 20 ст. вёска ў Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 90 жыхароў. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мяднянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы 8 двароў, 53 жыхары. Побач размяшчаўся аднайменны фальварак (1 будынак, 7 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы 22 двары, 100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 75 жыхароў. У 1997 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары. У складзе адкрытага акц. т-ва «Агравіта» (цэнтр — в. Гершоны). Археал. помнік — стаянка адносіцца да мезаліту, перыядаў ранняга і позняга неаліту, ранняй і сярэдняй бронзы.

**ЗАКІЙ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы, на З — р. Каменка (прыток р. Мухавец), на У меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Малыя Радванічы—Брэст. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Пад 1839 г. пазначана ў ліку сёл Камянец-Жыровіцкага царк. прыхода. Паводле рэвізскіх матэрыялаў вёска (117 жыхароў) — уласнасць пана Выганоўскага. У 1890 г. цэнтр Закійскай сельскай грамады, якой належала 115 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 249 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У 1905 г. вёска (263 жыхары) у Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 36 будынкаў, 165 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 72 двары, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 72 двары, загубілі 6 жыхароў; на фронце загінула 7 вяскоўцаў, у партызанах — 5. У жн. 1949 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, у які ўваходзіла 48 гаспадарак. Паводле перапісаў 1959 г. — 170, 1970 г. — 124 жыхары. У 1997 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 28 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1630 г. належала П.Вітаноўскаму, у 1774 г. — А.Вітаноўскаму, у 1789 г. — Старавольскім. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1861 г. вёска (72 жыхары) у складзе маёнтка Збірагі, прыватнае ўладанне графа Грабоўскага. У 1886 г. 11 двароў, 129 жыхароў, у Збіражскай вол. Кобрынскага пав.; у вёсцы размяшчалася Збіражская валасная ўправа. У 1890 г. сяляне Залескай сельскай грамады мелі 118 дзес. зямлі. Працавала школа граматы. У 1905 г. вёска (121 жыхар) у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Згодна ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 21 двор, 89 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 45 двароў, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 157, 1970 г. — 124 жыхары. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 71 жыхар. У складзе камунальнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 21 км на Пн ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Матыкальскім. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Пад 1567 г. упамінаецца ў матэрыялах попісу войска ВКЛ. Уладанне В.Копаця. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. Уваходзіла ў склад маёнтка Кавярдзякі. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічвалася 78 сял. душ, уласнасць пана Ф.Ягміна. У 1870 г. адносілася да Вулькаўскай сельскай грамады. У 1905 г. вёска (160 жыхароў) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 6 двароў, 29 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 101, 1970 г. — 53 жыхары. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**ЗАСЛУЧНА** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 39 гаспадарак, 95 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Камяніца Біскупская, які належаў графіні Красінскай. У 1870 г. ў вёсцы налічвалася 118 рэвізскіх душ, адносілася да Біскупска-камяніцкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 281 жыхар. У 1905 г. 298 жыхароў, у Камянец-Жыровіцкай вол. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 132, 1970 г. — 129 жыхароў. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ЗБАРАМІРАВА** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 20 км на Пн ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Матыкалы. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. ўласнасць пані Л.Зэймы. Вёска адносілася да Цюхініцкай сельскай грамады. У 1905 г. 147 жыхароў, у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў аднайменным фальварку 12 двароў, 67 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 143, 1970 г. — 62 жыхары. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**ЗБІРАГІ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Жабінка. 63 гаспадаркі, 141 жыхар (2005). Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як казённая ўласнасць у Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1502 г. тут існавала праваслаўная царква. Пад 1564 г. пазначана ў метрыцы караля Жыгімонта II Аўгуста. У 1566 г. сяло — цэнтр Збіражскага войтаўства ў Берасцейскім ваяв. ВКЛ; 89 жыхароў. У 1568 г. ўласнасць пана Рушчыца, потым Пацаў. У 1610 г. ў вёсцы па фундацыі княгіні Агаты Сапегі з Пацаў пабудавана драўляная уніяцкая Параскева-Пятніцкая царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1866 г. вучыліся 45 хлопчыкаў. Уніяцкая царква была ператворана ў праваслаўную. Маёнтак належаў графу Грабоўскаму. У 1886 г. сяло, цэнтр Збіражскай вол., у якую ўваходзілі 29 сёл (310 двароў). Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 26 жыхароў, 2 царквы, карчма, валаснее праўленне, нар. вучылішча. У 1905 г. ў маёнтку 22 жыхары. Згодна з умовамі Рыжскага



мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Збіражскай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 11 двароў, 30 жыхароў; дзейнічаў касцёл. У 1938 г. працавала пач. школа. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 26 двароў, 213 жыхароў, пачала працаваць 7-гадовая школа. У студз. 1949 г. арганізаваны першы калгас «Шлях Леніна», з 27 двароў у яго ўступілі 25. Меў 110 га раллі і 30 га сенакосу, 17 коней. Паводле перапісаў 1959 г. — 116, 1970 г. — 166 жыхароў. У 1997 г. ў вёсцы 67 гаспадарак, 154 жыхары. У складзе камунальнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні); базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, б-ка, клуб.

**ЗБУНІН** — вёска ў Знаменскім с/с, за 36 км на Пд ад Брэста, побач р. Серадовая Рэчка (прыток р. Зах. Буг) і аўтадарога Брэст—Тамашоўка. 104 гаспадаркі, 201 жыхар (2005).

Выяўленая археолагамі стаянка (за 2 км на Пн ад вёскі, на пясчаным узгорку, каля р. Зах. Буг) эпохі позняга неаліту і бронзавага веку (3—2-е тыс. да н.э.) сведчыць пра дзейнасць чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. У 16 ст. вядомы як маёнтак — шляхецкая ўласнасць пры р. Буг у Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. Знаходзілася каля дарогі Камароўка—Бярэсце. У 1628 г. кн. Мікалай Сапега пабудаваў тут праваслаўную драўляную царкву. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. У 19 ст. фальварак і вёска ў складзе маёнтка Медна (Мяднянскага ключа). Паводле інвентару 1846 г. вёска (49 двароў), уладанне графіні Е.Красінскай. У 1870 г. працавала нар. вучылішча. У 1878 г. 122 двары, 678 жыхароў, у Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. У 1886 г. 33 двары, 238 жыхароў, карчма, царк.-прыходская школа. У 1890 г. цэнтр Збунінскага с.-г. т-ва, якому належала 677 дзес. зямлі, царкве — 104 дзес. У нар. вучылішчы навучаліся 25 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 363 жыхары. У 1905 г. сяло (649 жыхароў) і фальварак (6 жыхароў) у Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мяднянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 105 двароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 120 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўскія акупанты спалілі 20 двароў, загубілі 15 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 382, 1970 г. — 475 жыхароў. У 1997 г. ў вёсцы 262 гаспадаркі, 676 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Птушкафабрыка Медна» (цэнтр — в. Медна); сельская б-ка.

**ЗЕЛЯНЕЦ** (да 30.7.1964 г. Цярпілавічы) — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 18 км ад Брэста. 12 гаспадарак, 21 жыхар (2005).

У 19 ст. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Пад 1869 г. пазначана ў ліку сёл Чарнаўчыцкага царк. прыхода. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Брэсцкім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. ў в. Вял. Цярпілавічы — 91, у в. Малыя Цярпілавічы — 25, 1970 г. ў в. Зелянец — 93 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы).

**ЗНАМЕНКА** (да 30.7.1964 г. Дурычы) — вёска, цэнтр Знаменскага с/с, за 26 км на Пд ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Дубіца, на аўтадарозе Брэст—Тамашоўка, на У — р. Серадовая Рэчка, меліярацыйныя каналы. 541 гаспадарка, 1353 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. ў Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. Пад 1492 г. 3 жыхары в. Дурычы былі перададзены Р. С. Осцікавічу. У 19 ст. фальварак і вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Медна. Паводле інвентару 1846 г. вёска (50 двароў, 242 жыхары) — уладанне графіні Е.Красінскай. У 1860 г. 282 жыхары, у Мяднянскай вол. Дзейнічала царк.-




прыходская школа. У 1866 г. 33 двары, 331 жыхар, школа, карчма. У 1890 г. вёска — цэнтр Дурыцкага с.-г. т-ва, у якое ўваходзілі вёскі Белагоры, Мельнікі і Дурычы, мелі 713,3 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска (327 жыхароў) і фальварак (14 жыхароў) у Мяднянскай вол. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мяднянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 112 двароў, 455 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 184 двары, 436 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 9 двароў, загубілі 30 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 601, 1970 г. — 1073 жыхары. У складзе адкрытага акц. т-ва «Птушкафабрыка Медна» (цэнтр — в. Медна); сярэдняя школа, аддз. сувязі, амбулаторыя, сельская б-ка, турысцка-аздараўленчы комплекс «Белае возера», санаторый «Бярэсце».

**ІВАХНАВІЧЫ** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Жабінка. 59 гаспадарак, 144 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Чарнаўчыцы. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. ў вёсцы 263 сял. душы; уладанне графоў Грабоўскіх. Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 545 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, у Турнянскай вол. Па ўмовах Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Турнянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 37 двароў, 219 жыхароў. З 1939 ў складзе БССР. У 1940 г. 81 двор, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну фашысты знішчылі 3 двары; 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партызанах. У кастр. 1949 г. арганізаваны калгас імя Андрэева, у які ўвайшлі 48 гаспадарак са 109. Паводле перапісаў 1959 г. — 346, 1970 г. — 256 жыхароў. У выніку ўзбуйнення калгасаў вёска зрабілася падраздзяленнем калгаса «Іскра». У складзе СВК «Чарнаўчыцы» (цэнтр — в. Чарнаўчыцы); фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка.

**КАБЁЛКА** — вёска ў Дамачаўскім с/с, за 52 км на Пд ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Дубіца, на аўтадарозе Брэст—Тамашоўка. 97 гаспадарак, 214 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як сяло — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. Размяшчалася на дарозе Камароўка—Бярэсце. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Дамачава. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 235 сял. душ, уладанне князя Вітгенштэйна. У 1878 г. вёска (113 двароў, 591 жыхар) з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады, адносілася да Дамачаўскай вол. У 1890 г. працавала царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 451 жыхар, у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзейнічала школа граматы. У 1905 г. ў вёсцы 452 жыхары. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 46 двароў, 257 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісу 1970 г. 454 жыхары. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава); клуб.

**КАВЕРДЗЯКІ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 8 км на Пн ад Брэста. 442 гаспадаркі, 1217 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як маёнтак у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У пач. 18 ст. ўладанне канцлера ВКЛ кн. Чартарыйскага. З 1740 г. належала цыстэрцыянскаму манастыру в. Вістычы. У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка, прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ.; у склад маёнтка ўваходзілі 3 вёскі. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы 156 сял. душ. У 1870 г. маёнтак належаў Ф.Ягміну. Вёска адносілася да Кавердзякоўскай сельскай грамады. У 1876 г. 63 двары, 365 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 320 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. вёска (420 жы-







*Форт часоў 1-й сусветнай вайны каля в. Казловічы.*

*Адзін з дотаў Брэсцкага ўмацавання раёна перыяду 2-й сусветнай вайны каля в. Казловічы.*

хароў) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак, у якім пражывалі 44 чал. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы 25 двароў, 159 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 18 вяскоўцаў. У 1945 г. пачала працаваць МТС. Паводле перапісаў 1959 г. — 380, 1970 г. — 542 жыхары. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы); урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, клуб, магазін. Радзіма бел. скульптара В.У.Магучага.

**КАЗЛОВІЧЫ** — вёска ў Клейнікаўскім с/с, за 5 км ад цэнтра Брэста. 120 гаспадарак, 278 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Вістычы. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы 263 сял. душы, уласнасць П.Ягміна. У 1870 г. працавала нар. вучылішча. У 1876 г. 113 двароў, 665 жыхароў, у Матыкальскай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы было 99 двароў, 604 жыхары, хлебазапасны магазін, кузня, 2 ветраныя млыны, карчма. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 76 двароў, 339 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 135 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 17 вяскоўцаў. У 1944—54 гг. — цэнтр сельсавета, які ў ліп. 1954 г. пераўтвораны ў Цюхініцкі, а ў вер. 1959 г. — у Матыкальскі с/с. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр в. —Клейнікі); б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Сад сав.-польскай дружбы.

**КАЗЛОВІЧЫ** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 14 км на Пн ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Матыкалы, 1,5 км ад аўтадарогі Жабінка—Вял. Матыкалы, на правым беразе р. Лясная. 76 гаспадарак, 187 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. З'яўлялася цэнтрам аднайменнага маёнтка, які быў уласнасцю Брэста. У 1820 г. ў вёсцы было 59 жыхароў; у 1876 г. 16 двароў, 104 жыхары, у Косіцкай вол. У 1890 г. вёска — цэнтр с.-г. т-ва, якому належала 142,5 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 155 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. вёска і маёнтак Казловічы Гарадскія (196 жыхароў) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 22 двары, 157 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 93 вяскоўцы. 27.10. 1949 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, у які ўступілі 44 гаспадаркі са 135. Згодна з пастановай ЦК КП(б)Б і Савета Міністраў БССР ад 9.12.1949 г. пераўтвораны ў саўгас «Рассвет». Паводле перапісаў 1959 г. — 537, 1970 г. — 431 жыхар. У 1997 г. 103 гаспадаркі, 211 жыхароў. У складзе каму-



*В.У.Магучы.*

нальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы); клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Сад сав.-польскай дружбы.

**КАЛОДНА** — былая вёска ў Клейнікаўскім с/с.

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Церабунь. Уласнасць графа Грабоўскага. У 1858 г. ў вёсцы налічвалася 231 сял. душа. Адносілася да Пецькаўскай сельскай грамады. У пач. 20 ст. вёска ў Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 87 жыхароў. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. 52 будынкі, 253 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, у калгасе «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі).



*П.І.Клімук.*

**КАМАРОЎКА** — вёска ў Тамашоўскім с/с, за 66 км на Пд ад Брэста, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Нараў) і дзярж. граніца з Польшчай. Аўтадарогай звязана з Брэстам. 195 гаспадарак, 427 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. Трокскага, з 1566 г. — Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Маёмасць праваслаўнай царквы. У 1580 г. ўласнасць М.Казярадскага. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Прыбарава. У 1861 г. 50 двароў, у Прыбараўскай вол. Належала графу Замойскаму. У ліп. 1862 г. ў вёсцы адбыліся сял. хваляванні. Сяляне адмовіліся выконваць згонную павіннасць і плаціць чынш грашыма або хлебам. У 1876 г. 140 двароў, 854 жыхары. У 1890 г. ў вёсцы зямля належала с.-г. абшчыне, якая мела 149 дзес. зямлі. Працавала царк.-прыходская школа, у якой вучыўся 31 хлопчык. Паводле перапісу 1897 г. 116 двароў, 656 жыхароў. У 1905 г. 690 жыхароў, у Прыбараўскай вол. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прыбараўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 52 двары, 310 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Дамачаўскім р-не. У 1940 г. 130 двароў, 540 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 40 вяскоўцаў. У 1954 г. Камароўскі с/с перайменаваны ў Тамашоўскі, у 1956 г. аднесены да Брэсцкага р-на. Паводле перапісаў 1959 г. — 819, 1970 г. — 780 жыхароў. У 1997 г. 213 гаспадарак, 463 жыхары. У складзе адкрытага акц. т-ва «Камароўка» (цэнтр — в. Тамашоўка); клуб, б-ка. Радзіма лётчыка-касманаўта, ген.-маёра авіацыі, двойчы Героя Сав. Саюза П.І.Клімука.

**КАМЯНІЦА-ЖЫРОВЕЦКАЯ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы, на Пд — р. Каменка (прыток р. Мухавец), на аўтадарозе Брэст—Вял. Радванічы. 112 гаспадарак, 233 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло — уласнасць зямян у Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1510 г. вял. князь ВКЛ Жыгімонт I Стары зацвердзіў с. Жыровічы з Камяніцай за магнатам Л.Храбтовічам. З 1566 г. ў Берасцейскім ваяв. ВКЛ, уладанне каталіцкай царквы, з 1781 г. — брэсцкага падкаморыя Выганоўскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. У 1838 г. Выганоўскім тут пабудавана праваслаўная драўляная царква са званіцай. У 1861 г. вёска ў складзе маёнтка Камяніца, 60 мужчын, 62 жанчыны. У 1861 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1881 г. сяло, 16 двароў, 171 жыхар; валасная ўправа, царк.-прыходская школа, карчма. Працавала нар. вучылішча, у якім вучыліся 57 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. У 1890 г. маёнтак Камянец-Жыровецкі (ён жа Чырвоны Двор) належаў М.Татарскаму. У 1886 г. цэнтр Камянец-Жыровецкай вол. Брэсцкага пав., у якую ўваходзілі 19 сёл з 327 дварамі. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 308 жыхароў, праваслаўная царква, валасное



праўленне, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. У 1898 г. ў маёнтку дзейнічаў цагельны з-д (16 рабочых). У 1905 г. сяло (325 жыхароў) у Брэсцкім пав.; працаваў валасны сельскі фельчар, размяшчаліся ўчасткі: паліцэйскіхураднікаў, кватэра якіх знаходзілася ў Гершонах, судовых следчых,міравых пасрэднікаў, судова-міравой акругі, адзін раз у год працаваў прызыўны ўчастак. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Камянец-Жыровецкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 17 двароў, 231 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 52 двары, 333 жыхары. У Вял. Айч. вайну 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 228, 1970 г. — 280 жыхароў. У 1997 г. ў вёсцы 93 гаспадаркі, 186 жыхароў. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод Мухавец» (цэнтр — пас. «Мухавец); аддзяленне і цяпліца саўгаса «Мухавец», базавая школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб, б-ка.

**КАРАБАНЫ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005).

У 19 ст. невял. вёска, казённая ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1870 г. налічвалася 8 рэвізскіх душ. Адносілася да Пяткоўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 42 жыхары. У 1905 г. вёска (29 жыхароў) у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 3 двары, 22 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 29, 1970 г. — 21 жыхар. У складзе камунальнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**КАЦЕЛЬНЯ-БАЯРСКАЯ** — вёска ў Гершонскім с/с, за 9 км на Пд ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Брэст-Цэнтральны, на Пд меліярацыйныя каналы, на З дзярж. граніца з Польшчай. 9 гаспадарак, 204 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Камяніца Біскупская. У 1870 г. 111 рэвізскіх душ. У 1905 г. 222 жыхары, у Камянец-Жыровіцкай вол. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 35 двароў, 191 жыхар. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 вяскоўцы. У складзе адкрытага акц. т-ва «Агравіта» (цэнтр — в. Гершоны). Планіроўка складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**КАЦЕЛЬНЯ-БАЯРСКАЯ** — вёска ў Клейнікаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Скокі. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 209 жыхароў; хлебазапасны магазін, карчма. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 13 двароў, 84 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі, 1 прапаў без вестак. Паводле перапісу 1959 г. — 91, 1970 г. — 58 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі).

**КАШАЛЁВА** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 12 км на У ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні, на Пн меліярацыйны канал. 40 гаспадарак, 106 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Пад 1618 г. згадваецца як фальварак. Пасля пракладкі Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, якая была ўведзена ў пастаянную эксплуатацыю 29.11.1871 г.,

пачаў дзейнічаць чыг. паўстанак. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 140 (на чыг. паўстанку — 17), 1970 г. — 151 жыхар. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1).

**КАШЫЛАВА** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 18 км на Пн ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 5 гаспадарак, 138 жыхароў (2005).

Выяўлены археолагамі за 1,5 км на З ад вёскі курганны могільнік сведчыць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка, прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1870 г. ў вёсцы налічвалася 180 рэвізскіх душ. Маёнтак належаў пану Карчэўскаму. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 48 двароў, 301 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 163 жыхары, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 32 двары, 125 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак (2 двары, 64 жыхары), працаваў млын. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы было 42 двары, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 12 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», у які ўвайшла 41 гаспадарка. Паводле перапісу 1970 г. 188 жыхароў. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**КЛЕЙНІКІ** — вёска, цэнтр Клейнікаўскага с/с, за 8 км на ПнЗ ад Брэста, побач з вёскай цячэ р. Лясная. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па аўтадарогах, якія адыходзяць ад Брэста. 512 гаспадарак, 430 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома як сяло ў Берасцейскім пав. Трокскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1604 г. ўладанне Солтанаў. У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Знаходзілася за 2 вярсты ад паштовага тракту. У вайну 1812 г. пры пераправе цераз р. Лясная каля вёсак Клейнікі, Вістычы і Церабунь адбылася бітва, у выніку якой загінулі 2 тыс. французскіх і 1 тыс. рас. салдат. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1833 г. ў вёсцы 126 сял. душ. У 1844 г. 17 двароў, 135 жыхароў. Уласнасць паноў Нямцэвічаў, якім належала 535 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 252 жыхары, хлебазапасны магазін, кузня, у Матыкальскай вол. У 1905 г. ў вёсцы было 364, у маёнтку — 13 жыхароў. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 65 двароў, 350 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы 85 гаспадарак, 335 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 77 вяскоўцаў. У 1951 г. арганізаваны калгас «Пагранічнік», які аб'яднаў 97 гаспадарак. У 1970 г. 148 двароў, 433 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі); сярэдняя школа, Палац культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, міжгаспадарчы пункт пажарнай аховы, вучэбны камбінат.

**КЛІМОВІЧЫ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1566 г. пазначана ў актах Слонімскага земскага суда. У 19 ст. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Чэрні, які належаў Ф.Ягміну. Паводле 1858 г. налічвалася 139 сял. душ. Вёска з'ўлялася цэнтрам сельскай грамады. У 1905 г. вёска (226 жыхароў) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы,



у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 16 двароў, 114 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 113, 1970 г. — 79 жыхароў. У складзе камунальнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**КОСТЫЧЫ** — вёска ў Клейнікаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Скокі. 40 гаспадарак, 66 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1566 г. пазначана ў актах Слонімскага земскага суда. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў маёнтак Церабунь. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 105 сял. душ. Уладанне графоў Грабоўскіх. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 209 жыхароў, ветраны млын, у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 282 жыхары. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 18 гаспадарак, 90 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 400, 1970 г. — 461 жыхар. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі)

**КУНАХІ** — былая вёска ў Мухавецкім с/с.

У 19 ст. вядомы як засценак у складзе маёнтка Вулька ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уласнасць пана Гутоўскага. У 1870 г. налічвалася 63 жыхары. Засценак адносіўся да сельскай грамады. У пач. 20 ст. вёска ў Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв.; 1 гаспадарка, 3 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. Злілася з в. Камяніца-Жыравецкая.

**КУСТЫНЬ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 27 км на Пн ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 91 гаспадарка, 181 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. Трокскага, з 1566 г. — Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У пач. 17 ст. вёску набыў пан Геранім Лышчынскі — бацька Казіміра Лышчынскага, бел. мысліцеля, філосафа, атэіста. У 1739 г. на сродкі пана Хржаноўскага ў вёсцы пабудавана праваслаўная драўляная царква з мураванай званіцай. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Маёнтак Кустынь складаўся з фальварка і аднайменнай вёскі. Паводле матэрыялаў 1833 г. ў маёнтку 83 сял. душы, 392 дзес. зямлі. Паводле інвентару 1844 г. 12 двароў, 74 жыхары. У 1886 г. сяло ў Лышчыцкай вол. ва ўрочышчы Барсукоўшчызна; 22 двары, 197 жыхароў, праваслаўная царква, ветраны млын, заезны дом. У Кустыні размяшчалася Лышчынская валасная ўправа. У 1890 г. маёнтак належаў З.Узбіцкаму, які меў 151 дзес. зямлі. Сяляне Кустынскай с.-г. грамады мелі 200 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 219 жыхароў, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін. Дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой у 1899 г. вучыліся 2 хлопчыкі і 9 дзяўчынак. У 1905 г. сяло (270 жыхароў), маёнтак (23 жыхары), маёнтак (38 жыхароў) у Лышчыцкай вол.; размяшчаўся ўчастак паліцэйскіх ураднікаў. Летам 1906 г. адбылося антыкулацкае выступленне. Сяляне в. Кустынь сумесна з сялянамі вёсак Ратайчыцы і Рудаўцы Брэсцкага пав. выгналі з маёнтка Трасцянец групу кулакоў, якія купілі гэты маёнтак за 115 тыс. руб. Паводле Рыжскага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 32 двары, 172 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 65 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 9 вяскоўцаў. У сак. 1947 г. арганізаваны




калгас імя Молатава, у які ўвайшлі 37 гаспадарак з 62. Пазней аб'яднаны з калгасам імя Мічурына, а затым увайшоў у с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава». Паводле перапісаў 1959 г. ў вёсках Кустынь, Кустынь 1 і Кустынь 2 — 312, 1970 г. — 273 жыхары (вёскі аб'яднаны).

**ЛАЗЫ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

У 20 ст. вядомы як выселкі ў Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 35 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Брэсцкім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 109, 1970 г. — 90 жыхароў. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ЛАШНЁВА** — былая вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце.

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Дзям'янічы, якім валодаў пан Р.Гажыц. У 1870 г. ў вёсцы 174 жыхары. У 1905 г. 118 жыхароў, у Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Турнянскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 5 двароў, 30 жыхароў. З 1939 г. ў БССР.

**ЛІДЫМО** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 16 км на У ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Збірагі. Уласнасць графа Грабоўскага. У 1870 г. ў вёсцы 56 жыхароў. У 1905 г. 198 жыхароў, у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 6 двароў, 27 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 75, 1970 г. — 37 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1).

**ЛІПІНКІ** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 55 км на Пд ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Дубіца, вакол лес, непадалёку аўтадарога Брэст—Тамашоўка. 62 гаспадаркі, 131 жыхар (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Дамачава. Паводле матэрыялаў 1858 г. ў вёсцы 96 сял. душ. Уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1876 г. 71 двор, 552 жыхары, у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле перапісу 1897 г. 348 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 22 двары, 162 жыхары. У 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы 70 двароў, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы загубілі 26 жыхароў, 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1948 г. быў арганізаваны калгас імя Жданава. Паводле перапісаў 1959 г. — 342, 1970 г. — 378 жыхароў. З 1989 г. ў калгасе «Беларусь». У 1997 г. 83 гаспадаркі, 180 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава).

**ЛІТВІНЫ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Брэста. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).



*Магіла невядомага лётчыка каля в. Літвіны.*



Вёска заснавана ў пач. 1920-х г. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Брэсцкі пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1941 г. 12 двароў, 48 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 33 жыхары. У 1997 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ЛЫШЧЫЦЫ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Брэста, за 2 км ад чыг. ст. Лышчыцы, 4 км ад аўтадарогі Камянец—Высокае. 56 гаспадарак, 93 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., калі вёску паводле прывілея атрымаў Леў Лышчынскі, які паходзіў з Вільні. Ён меў трох сыноў: Канстанціна, Станіслава і Івана. У Канстанціна нарадзіўся сын Геранім, які быў бацькам Казіміра Лышчынскага, бел. мысліцеля, філосафа і атэіста, радзіма якога в. Лышчыцы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1817 г. К.Вислоцкі пабудаваў праваслаўную драўляную царкву са званіцай. У 1878 г. 95 двароў, 484 жыхары, ветраны млын, карчма. У 1886 г. вёска (33 двары, 386 жыхароў) — цэнтр Лышчыцкай вол., у якую ўваходзілі 17 сёл (380 двароў). Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 475 жыхароў. У 1905 г. 574 жыхары, чыг. ст. Лышчыцы на паўд.-зах. напрамку. Былі размешчаны тэлегр. станцыя, участкі: па воінскай павіннасці, валаснога сельскага фельчара, судовых следчых, міравых пасрэднікаў, судова-міравой акругі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Лышчыцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. вёска, фальварак, чыг. станцыя, 52 двары, 347 жыхароў. У 1924 г. працавалі 5 млыноў, цагельня. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ, якая ўваходзіла ў Брэсцкую акруговую арг-цыю. 7.11.1926 г. большасць сялян вёскі пад лозунгамі КПЗБ удзельнічалі ў дэманстрацыі. У 1940 г. 100 двароў, 603 жыхары. У Вял. Айч. вайну 6 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партызанах. У студз. 1949 г. 70 з 89 гаспадарак уступілі ў калгас імя Мічурына. Паводле перапісу 1959 г. — пасёлак (331 жыхар) і вёска (315 жыхароў). У хуткім часе яны склалі адзін населены пункт, у якім у 1970 г. налічвалася 282 жыхары. У 1997 г. 65 гаспадарак, 160 жыхароў. Цэнтр с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава»; сярэдняя школа, клуб, дзіцячы сад, аптэка, б-ка, аддз. сувязі, участковая бальніца, 2 магазіны. Радзіма бел. мысліцеля, грамадска-палітычнага дзеяча і педагога 17 ст. К.Лышчынскага.



*К.Лышчынскі. Мастак С.Свістуновіч.*

**ЛЮТА** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Брэста, за 5 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 75 гаспадарак, 171 жыхар (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Сягнеўшчына. Уласнасць пана Р.Гажыца. У 1870 г. ў вёсцы 154 жыхары, адносілася да Астрамечаўскай сельскай грамады. У 1905 г. 342 жыхары, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 38 двароў, 197 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 жыхары. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**ЛЯПЛЁЎКА** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 42 км на Пд ад Брэста, на р. Капаёўка (прыток р. Зах. Буг), на аўтадарозе Брэст—Тамашоўка. 208 гаспадарак, 508 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў маёнтак Дамачава, якім валодаў кн. Вітгенштэйн; 196 мужчын, 108 жанчын. У 1875 г. ў вёсцы быў пабудаваны з цэглы сядзібны дом, акружаны пейзажным паркам пл. 7 га. У 1876 г. 178 двароў, 1009 жыхароў; у 1886 г. 51 двор, 614 жыхароў, вадзяны



*Памятны знак на брацкай магіле дзяцей Дамачаўскага дзіцячага дома, расстраляных гітлераўцамі 23.9.1942 г.*

млын, лесапільня. У 1890 г. сяляне вёскі ў Клейнікаўскім с.-г. т-ве, якое мела 368,7 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 149 двароў, 808 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 вадзяныя млыны, карчма. У 1905 г. вёска (870 жыхароў) у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Дамачаўскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 22 двары, 162 жыхары. У ліп. 1933 г. ў вёсцы адбылося выступленне сялян супраць падатковага прыгнёту. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў Дамачаўскім р-не, цэнтр сельсавета. У 1940 г. 220 двароў, 460 жыхароў. У Вял. Айч. вайну фашысты знішчылі 54 двары, загубілі 15 мірных жыхароў; 25 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партызанах. 23.9.1942 г. гітлераўцы вывезлі з Дамачаўскага дзіцячага дома 55 дзяцей разам з выхавацельніцай П.Грахольскай і расстралялі іх каля в. Ляплёўка. У 1956 г. аднесена да Брэсцкага р-на ў сувязі з ліквідацыяй Дамачаўскага р-на. З 1959 г. ў складзе саўгаса «Дамачаўскі». Паводле перапісу 1970 г. 741 жыхар. У 1997 г. 229 гаспадарак, 564 жыхары. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава); базавая школа.

**МАКСІМЫ** — былая вёска ў Чэрнінскім с/с.

У 19 ст. вёска ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Збірагі, якім валодаў граф Грабоўскі. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічваліся 83 сял. душы. У 1870 г. адносілася да Залескай сельскай грамады. У 1905 г. 143 жыхары, у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 13 двароў, 64 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 вяскоўцаў. Злілася з в. Збірагі.

**МАЛАЯ КУРНІЦА** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 12 км на Пн ад Брэста. 32 гаспадаркі, 70 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — дзярж. ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Курніца. Згодна з рэвізскімі матэрыяламі 1858 г. 109 сял. душ. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 240 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. ў вёсцы 267 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 12 двароў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 7 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 243, 1970 г. — 168 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы).

**МАЛАЯ РАКАВІЦА** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 22 км на Пн ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Матыкалы. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 111 жыхароў, карчма, у Ма-



тыкальскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Брэсцкім пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 12 двароў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 57, 1970 г. — 58 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**МАЛЫЯ ЗВОДЫ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 215 гаспадарак, 532 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1861 г. цэнтр маёнтка, якім валодаў Гутоўскі; 49 мужчын, 59 жанчын. У гэтым жа годзе прыхаджанамі пабудавана праваслаўная драўляная царква, якую наведвалі 1478 чал. з 6 вёсак. У 1886 г. сяло ў Лышчыцкай вол. ва ўрочышчы Гашчэй; 15 двароў, 160 жыхароў, царк.-прыходская школа, карчма. У 1889 г. працавала нар. вучылішча. У 1890 г. ўладальнікам маёнтка быў Б.Гутоўскі, які меў тут 491 дзес. зямлі; сялянам аднайменнага с.-г. т-ва належалі133 дзес. зямлі. У 1905 г. сяло (243 жыхары) і фальварак (18 жыхароў) у Лышчыцкай вол. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 12 двароў, 59 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 35 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партызанах. У 1997 г. 200 гаспадарак, 523 жыхары. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы); базавая школа, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі курганны могільнік усх. славян (датуецца 9—13 ст.), на паўд.-зах. ускраіне — сядзіба 19 ст.

**МАЛЫЯ КОСІЧЫ** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 9 км на У ад Брэста, 2 км ад аўтадарогі Брэст—Мінск, на Пд і У меліярацыйныя каналы. 55 гаспадарак, 166 жыхароў (2005).

У 20 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 8 двароў, 51 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 15 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы ў ліп. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску (пасля вайны адноўлена). Паводле перапісу 1959 г. 79 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1).

**МАЛЫЯ МАТЫКАЛЫ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 16 км на Пн ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Вял. Матыкалы. 21 гаспадарка, 42 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Матыкалы. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 133 сял. душы. У 1876 г. вёска (45 двароў, 255 жыхароў) у Матыкальскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 225 жыхароў, ветраны млын, карчма. У 1905 г. 271 жыхар. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 23 двары, 126 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 8 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 128 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**МАЛЫЯ РАДВАНІЧЫ (Зарэчныя Радванічы)** — вёска ў Радваніцкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Жабінка. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Вял. Радванічы—Брэст. 213 гаспадарак, 611 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. З 1861 г. ўладанне М.Гутоўскага, якому належала 196 дзес. зямлі; сяляне Радваніцка-Зарэчнага с.-г. т-ва мелі 341 дзес. зямлі. Дзейнічала школа граматы. У 1878 г. ў

вёсцы было 117 двароў, 632 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 86 двароў, 663 жыхары. У 1905 г. вёска (356 жыхароў) у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радваніцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 65 двароў, 367 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 116 двароў, 494 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 6 двароў, загубілі 35 жыхароў; 15 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 у партызанах. Паводле перапісу 1970 г. — 442 жыхары. У 1997 г. 230 гаспадарак, 670 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**МАЛЫЯ СУХАРЭВІЧЫ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 18 км на Пн ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Вістычы, які належаў П.Ягміну. Паводле рэвізіі 1858 г. 79 сял. душ. У 1897 г. 25 двароў, 166 жыхароў, карчма. У 1905 г. вёска (190 жыхароў) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 21 двор, 88 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1941 г. ў вёсцы 35 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 10 жыхароў загінулі на фронце. У лют. 1949 г. арганізаваны першы калгас «Чырвоны партызан», у якім аб'яднаны 19 гаспадарак. Паводле перапісу 1970 г. 92 жыхары. У 1997 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**МАЛЫЯ ШЧЫТНІКІ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 23 км на Пн ад Брэста, 2,5 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 63 гаспадаркі, 134 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Падляшскага ваяв. ВКЛ. У 1566 г. ў Берасцейскім старостве, належала зямянам Гарнастаевым. У 1742 г. ў прысядзібным парку пабудаваны з цэглы невял. касцёл. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1821 г. пан Ф.Паніхвіцкі сумесна з мясц. святаром А.Будзіловічам пабудаваў мураваную праваслаўную царкву з драўлянай званіцай. У 1886 г. сяло, цэнтр маёнтка Шчытнікі; 96 мужчын, 102 жанчыны. У 1890 г. маёнтак належаў пані В.Дхумоўскай, якая мела 437 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска (78 жыхароў) у Лышчыцкай вол. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 31 двор, 137 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1941 г. 47 двароў, 235 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісаў 1959 г. — 234, 1970 г. — 163 жыхары. У 1997 г. 63 гаспадаркі, 116 жыхароў. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы). За 1 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Кірганы, знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік (мясц. назва Шведскія магілы). У парку на тэр. былой сядзібы размешчаны помнік архітэктуры з рысамі барока — Пакроўская царква.

**МАЛЬКІ** — былы хутар у Чэрнінскім с/с.

Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, уваходзіў у Збіражскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР.

**МАРОЗАВІЧЫ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 30 км на Пн ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 36 гаспадарак, 66 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр дзярж. маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Маёнтак складаўся з фальварка і аднайменнай вёскі. Паводле рэвізіі 1858 г. ў Марозавічах было 204 сял. душы. У 1876 г. 51 двор, 215 жыхароў. Вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Дзейнічалі нар. вучылішча, карчма. З 1890 г. маён-



так належаў В.Лышчынскай, якая мела 1080 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 409 жыхароў, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 36 двароў, 168 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**МАШЧОНКА** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 7 км на Пн ад Брэста, на У лес, побач акружная аўтадарога. 31 гаспадарка, 51 жыхар (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Чэрні, якім валодаў Ягмін. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы 61 сял. душа. У 1870 г. адносілася да Чэрнінскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 150 жыхароў, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы мелася 13 двароў, 74 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 130, 1970 г. — 93 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**МЕДНА** — вёска ў Знаменскім с/с, за 33 км на Пд ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Дубіца, на р. Спанаўка (прыток р. Зах. Буг). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Брадзяцін—Знаменка. 355 гаспадарак, 968 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як маёнтак — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Трокскага, з 1566 г. — Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1849 г. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка, якім валодаў граф Браніцкі. У гэтым жа годзе на сродкі мясц. жыхароў і аканома маёнтка Кавалеўскага пабудавана драўляная праваслаўная царква. У 1876 г. ў вёсцы 132 двары, 835 жыхароў. У 1886 г. сяло — цэнтр Мяднянскай вол. Працаваў валасны сельскі фельч. пункт, размяшчаліся ўчасткі: міравых пасрэднікаў, судова-міравой акругі, судовых следчых. Раз у год дзейнічаў прызыўны ўчастак па воінскай павіннасці. Участак паліцэйскіх ураднікаў Мяднянскай вол. знаходзіўся ў в. Чэрні. У воласці налічвалася 8 с.-г. т-ваў. У 1886 г. 452 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 105 двароў, 623 жыхары, капліца. У склад Мяднянскай вол. ў 1905 г. ўваходзілі вёскі Знаменка (Дурычы), Рагозна, Страдзеч, Прылукі, Збунін. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Мяднянскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 67 двароў, 473 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 220 двароў, 1100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 25.2.1943 г. фашысты спалілі вёску (212 двароў), загубілі 126 жыхароў; усяго за гады акупацыі ў М. знішчана 316 чал. Паводле перапісаў 1959 г. — 801, 1970 г. — 901 жыхар. У 1997 г. 332 гаспадаркі, 908 жыхароў. Цэнтр адкрытага акц. т-ва «Птушкафабрыка Медна»; птушкаферма, базавая школа, участковая бальніца, аддз. сувязі, сельская б-ка, 2 магазіны. На паўд. ускраіне вёскі Праабражэнская царква — помнік нар. дойлідства канца 18 ст.

**МІХАЛІН** — вёска ў Радваніцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Закруцін. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Маёнтак складаўся з фальварка і аднайменнай вёскі. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку налічваліся 83 сял. душы. Уласнасць пані М.Абрэмскай, якой належала 500 дзес. зямлі. У 1876 г. 51 двор, 215 жыхароў. Вёска адносілася да Яцкавіцкай сельскай грамады. У 1905 г. 89 жыхароў, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гро-

*Помнік С.Я.Багданчуку ў пас. Мухавец. Скульптар П.Данелія. 1970 г.*



дзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. вёска і калонія (31 двор, 166 жыхароў). З 1925 г. дзейнічалі 2 ячэйкі КПЗБ. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 70 двароў, 355 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 5 двароў, загубілі 24 жыхароў; 21 вясковец загінуў на фронце, 3 — у партызанах; 2.10.1942 г. ва ўрочышчы Дубрава фашысты расстралялі 13 жыхароў і сям'ю партызана Грудніка. Паводле перапісу 1970 г. 131 жыхар. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**МІЦЬКІ** — вёска ў Гершонскім с/с, за 9 км на Пд ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы, аўтадарогай злучана з Брэстам. 135 гаспадарак, 436 жыхароў (2005).

У 18 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Маёнтак складаўся з фальварка і аднайменнай вёскі. Паводле рэвізіі 1858 г. ў маёнтку налічваліся 72 сял. душы. Уласнасць пана Куроўскага. Вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 96 жыхароў, у Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 116 жыхароў. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 18 двароў, 96 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак (1 двор, 16 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 37 двароў, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 27 двароў, загубілі 6 жыхароў; 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1997 г. 105 гаспадарак, 270 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «За мір» (цэнтр — в Страдзеч).

**МУРЫ** — былая вёска ў Радваніцкім с/с.

Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Радваніцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. Злілася з в. Малыя Радванічы.

**МУХАВЕЦ** (да 1969 Раманаўскія хутары) — пасёлак, цэнтр Мухавецкага с/с, прыгарадная зона за 15 км на ПдУ ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы, на аўтадарозе Брэст—Ковель, побач р. Каменка (прыток р. Мухавец). 644 гаспадаркі, 1999 жыхароў (2005).

Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. ў вёсцы 42 двары, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 164 вяскоўцы. У кастр. 1948 г. арганізаваны калгас імя В.П.Чкалава, у які ўключана 26 гаспадарак з 32. У 1997 г. 542 гаспадаркі, 1632 жыхары. Цэнтр дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец»; амбулаторыя, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, яслі-сад, аддз.



сувязі, кемпінг, гасцініца, сталовая, прамтаварны і прадуктовы магазіны. Помнік С.Я.Багданчуку — дзеячу рэв. руху ў Зах. Беларусі.

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 59 км на Пд ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Дубіца. 38 гаспадарак, 77 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1868 г. 42 жыхары, у складзе маёнтка Мутвіцы Олтушскай вол. З 1892 г. яго уладальнікам быў Дз.Лабачоў, які вызначаўся жорсткімі адносінамі да сваіх сялян. Толькі за 1896 г. ён узбудзіў супраць іх 237 спраў. У 1905 г. 163 жыхары. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 19 двароў, 111 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1941 г. 38 двароў, 206 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 37 двароў, загубілі 7 жыхароў; 7 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партызанах. У 1997 г. 27 гаспадарак, 31 жыхар. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава).

**НЕСВІЛО** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 14 км на Пн ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Матыкалы. 19 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — дзярж. уласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Вял. Курніца. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы было 65 сял. душ. У 1870 г. адносілася да Чарнакоўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 98 жыхароў, 2 ветраныя млыны, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 93 жыхары. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 6 двароў, 39 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 86, 1970 г. — 83 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы).

**НЕХАЛСТЫ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 20 км на Пн ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Матыкалы. 3 гаспадаркі, 155 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім старостве і павеце ВКЛ. У 1566 г. адносілася да Сычоўскага войтаўства. Жыхары мелі 28 валок зямлі і плацілі чынш: з адной валокі 94 грошы. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1860 г. ў складзе аднайменнага маёнтка, які належаў М.Швыкоўскаму; 101 мужчына, 111 жанчын. У 1890 г. вёскай валодаў І.Швыкоўскі, які меў 181 дзес. зямлі. Сялянам Нехалстаўскага с.-г. т-ва належалі 302 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 330 жыхароў; хлебазапасны магазін, 2 кузні, карчма. У 1905 г. вёска (445 жыхароў) і маёнтак (42 жыхары) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 46 двароў, 234 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 104 двары, 297 жыхароў. У жн. 1948 г. ў вёсцы арганізаваны першы калгас, у які аб'яднаны 66 гаспадарак, 504 га зямлі. У Вял. Айч. вайну загінулі 10 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 167, 1970 г. — 252 жыхары. У 1997 г. 63 гаспадаркі, 142 жыхары. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г.

*Помнік землякам у пас. Мухавец.*






прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**НОВЫЯ ЗАДВОРЦЫ** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 5 км на У ад Брэста. 182 гаспадаркі, 538 жыхароў (2005).

У пачатку 20 ст. вёска ў Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 1 жыхар. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв.; 26 двароў, 146 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы).

**НОВЫЯ ЛЫШЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Лышчыцкага с/с, за 25 км на ПнЗ ад Брэста, чыг. станцыя на лініі Брэст—Высока-Літоўск. 372 гаспадаркі, 939 жыхароў (2005).

**НЭПЛІ** — вёска ў Клейнікаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Брэста. 25 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як маёнтак — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1510 г. кароль Жыгімонт І Стары зацвердзіў с. Нэпле за магнатам бел. паходжання Львом Багавіцінавічам. З 1566 г. ў Берасцейскім ваяв. ВКЛ. У 1769 г. ўласнасць Нямцэвічаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 173 сял. душы. З 1868 г. вёска ў складзе маёнтка, якім валодаў пан Пуслоўскі; 85 мужчын, 88 жанчын. У 1890 г. цэнтр Нэплінскай сельскай грамады, якой належала 171 дзес. зямлі. Уладальнікам фальварка быў барон Таўбе. Працавала школа граматы. У 1905 г. 503 жыхары, у Матыкальскай вол. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 38 двароў, 227 жыхароў. Матэрыяльнае становішча сялян было цяжкім. У сувязі з тым, што вяскоўцы не маглі выплаціць усе падаткі за зямлю, у 1931 г. была апісана маёмасць 37 гаспадарак. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 17 двароў, 461 жыхар. У Вял. Айч. вайну загінулі 20 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 130 жыхароў. У 1997 г. 27 гаспадарак, 31 жыхар. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі).

**ОРХАВА** — вёска ў Тамашоўскім с/с, за 70 км на Пд ад Брэста, 1,5 км ад чыг. ст. Уладава (Польшча), на Пд і У дзярж. граніца з Украінай, на З — з Польшчай, аўтадарогай звязана з Брэстам. 104 гаспадаркі, 265 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1958 г. 579 сял. душ. З 1870 г. маёнткам валодаў пан Каншэўскі, пазней — граф Замайскі. Фальварку належала 417 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 121 двор, 727 жыхароў. У 1905 г. вёска (1047 жыхароў) у Прыбараўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прыбараўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 22 двары, 151 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 26 вяскоўцаў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Камароўка» (цэнтр — в. Тамашоўка).

**ПАГУБЯЦІЧЫ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Сягнеўшчына. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічвалася 159 сял. душ. Уласнасць пана Гажыца. У 1870 г. вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. У 1905 г. 282 жыхары, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 27 двароў, 111



жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 9 жыхароў. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**ПАДЛЕССЕ-КАМЯНЕЦКАЕ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Брэста, на У меліярацыйныя каналы, на З — р. Каменка (прыток р. Мухавец). 62 гаспадаркі, 137 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Камяніца Біскупская. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічвалася 200 сял. душ. Уласнасць графіні Краснінскай. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады. У 1886 г. 30 двароў, 240 жыхароў; царк.-прыходская школа, карчма. У 1905 г. 367 жыхароў, у Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 150 двароў, 730 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты знішчылі вёску. У студз. 1949 г. арганізаваны першы калгас, які аб'яднаў 37 гаспадарак. Паводле перапісаў 1959 г. — 140, 1970 г. — 265 жыхароў. У 1997 г. 56 гаспадарак, 117 жыхароў. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ПАДЛЕССЕ-РАДВАНІЦКАЕ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні, на р. Рыта. 72 гаспадаркі, 94 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска — дзярж. ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Камяніца Біскупская. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. ў вёсцы налічвалася 207 сял. душ. У 1870 г. адносілася да Цюхініцкай сельскай грамады. У 1905 г. 784 жыхары, у Радваніцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радваніцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 66 двароў, 324 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 72 двары, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты знішчылі вёску, загубілі 21 жыхара. Паводле перапісаў 1959 г. — 344, 1970 г. — 334 жыхары. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ПАДЛУЖЖА** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 56 км на Пд ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Дубіца, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Нараў) і дзярж. граніца з Польшчай, аўтадарогай звязана з г.п. Дамачава і шашэйнай Брэст—Тамашоўка. 54 гаспадаркі, 121 жыхар (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Дамачава. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічвалася 267 сял. душ. Уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1870 г. вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 348 жыхароў, заезны дом, у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 370 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 37 двароў, 186 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 321, 1970 г. — 266 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс»; пач. школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**ПЛОСКА** — вёска ў Тэльмінскім с/с, у прыгараднай зоне, за 4 км на Пн ад Брэста, 2,5 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па Брэсцкай акружной аўтадарозе. 344 гаспадаркі, 1029 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяло ў Брэсцкім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1698 г. ўласнасць брэсцкіх езуітаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Вёска была цэнтрам вотчыннага маёнтка ў Брэсцкім пав., у які ўваходзілі фальварак Плянта,

в. Агароднікі і частка в. Астрамечава. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку налічваліся 143 сял. душы. З 1846 г. ўласнасць пані Любаноўскай. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 256 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 295 жыхароў. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 45 двароў, 272 жыхары. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 24 жыхары. Паводле перапісаў 1959 г. — 437, 1970 г. — 450 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1); пач. школа, гасцініца аўтатранспартнага прадпрыемства «Саўаўта—Брэст», базы брэсцкіх прадпрыемстваў.

**ПОКРЫ** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 24 км на ПнУ ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Матыкалы. 78 гаспадарак, 209 жыхароў (2005).

Выяўленыя археолагамі гарадзішча і могільнікі за 2 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Лясная, сведчаць, што гэта мясцовасць была заселена людзьмі яшчэ ў старажытнасці. У 1739 г. пабудавана драўляная праваслаўная царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1840 г. жыхарамі вёскі і панам А.Баяроўскім царква перабудавана. Паводле матэрыялаў 1858 г. сяло (145 сял. душ) у Брэсцкім пав. Уваходзіла ў маёнтак Дзямянчыцы пані Баяроўскай. У 1870 г. дзейнічала нар. вучылішча. У 1886 г. 17 двароў, 180 жыхароў, царк.-прыходская школа, у Турнянскай вол. Брэсцкага пав. У 1890 г. вёска — цэнтр с.-г. т-ва, якому належала 333,5 дзес. зямлі; 48 дзес. зямлі мела царква. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 273 жыхары, хлебазапасны магазін, у Турнянскай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 297 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Турнянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 7 двароў, 30 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 60 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 35 двароў, 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. У лют. 1949 г. арганізаваны першы калгас «Савецкая Армія». З 54 гаспадарак у яго ўступілі 43; 20 мужчын і 36 жанчын. Паводле перапісаў 1959 г. — 249, 1970 г. — 216 жыхароў. У 1997 г. 92 гаспадаркі, 253 жыхары. У складзе с.-г. вытв. кааператыва прадпрыемства «Чарнаўчыцы» (цэнтр — в. Чарнаўчыцы); фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, б-ка. На Пн ад вёскі Пакроўская царква — помнік нар. драўлянага дойлідства стылю барока 18 ст.

**ПРЫБАРАВА** — вёска ў Тамашоўскім с/с, за 62 км на Пд ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Уладава. 244 гаспадаркі, 520 жыхароў (2005).

Выяўленыя археолагамі 2 стаянкі на Пд і Пн ад вёскі (5—3-е тыс. да н.э.) сведчаць пра засяленне гэтай мясцовасці людзьмі яшчэ з глыбокай старажытнасці. У пач. 19 ст. вёска належала кн. А.Чартарыйскаму, які ў 1890 г. сумесна з жыхарамі гэтай і навакольных вёсак пабудаваў драўляную праваслаўную царкву. У ліп. 1863 г. адбываліся сял. хваляванні, часоваабавязаныя сяляне адмовіліся плаціць чынш грашыма або хлебам, а таксама адбываць згонныя павіннасці. У 1868 г. 388 мужчын, 433 жанчыны; у 1878 г. 257 двароў, 1378 жыхароў. У 1886 г. ў сяле 810 жыхароў, 80 двароў; валасная ўправа, царк.-прыходская школа, праваслаўная царква, карчма. У 1890 г. маёнтак належаў графу Ф.Замойскаму. У вёсцы працавала нар. вучылішча, у якім навучаліся 68 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. 211 двароў, 969 жыхароў. У 1905 г. сяло (1488 жыхароў) — цэнтр Прыбараўскай вол.; працаваў валасны сельскі фельчар, былі размешчаны ўчасткі: паліцэйскіх ураднікаў, судовых следчых, міравых пасрэднікаў, судовай міравой акругі. Раз у год дзейнічаў прызыўны ўчастак па воінскай павіннасці. У воласць уваходзілі



вёскі Гута, Камароўка, Селяхі, Орхава, фальварак Дубок, 6 с.-г. т-ваў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Прыбараўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы 139 двароў, 645 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. вёска ў Дамачаўскім р-не, цэнтр сельсавета (з 12.10.1940), які быў аб'яднаны з Падлужскім с/с у адзін Ліпінскі ў ліп. 1954 г., апошні ў вер. 1959 г. ўвайшоў Тамашоўскі с/с Брэсцкага р-на. У вёсцы быў арганізаваны калгас імя Дзяржынскага. У 1940 г. 299 двароў, 897 жыхароў. У Вял. Айч. вайну фашысты спалілі 100 двароў, загубілі 250 жыхароў; 136 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 167, 1970 г. — 252 жыхары. У 1997 г. 360 гаспадарак, 640 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Камароўка» (цэнтр — в. Тамашоўка); базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сельская б-ка.

**ПРЫЛУКІ** — вёска ў Гершонскім с/с, у прыгараднай зоне, за 14 км на Пд ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы, на аўтадарозе Брэст—Тамашоўка, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Нараў) і дзярж. мяжа з Польшчай. 182 гаспадаркі, 496 жыхароў (2005).

Выяўленыя археолагамі стаянкі эпохі мезаліту (8—5-е тыс. да н.э.), неаліту (5—3-е тыс. да н.э.) за 2 км на Пд ад вёскі сведчаць пра засяленне тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 16 ст. як уласнасць казны ў Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1566 г. сяло Прылукі — цэнтр войтаўства ў Берасцейскім старостве і павеце ВКЛ, каралеўскае ўладанне. Сяляне мелі 43 валокі, плацілі чынш — з адной валокі 31 грош, павінны былі апрацоўваць гаспадарскую зямлю (з кожнай валокі трэба было адпрацаваць на ёй 2 дні ў тыдзень і 4 дні летам). 18.10.1669 г. М.Вішнявецкі падараваў езуітам участак зямлі ў вёсцы «для распаўсюджвання Божай хвалы і рымска-каталіцкай веры».



*Помнік на магіле ахвяр фашызму ў в. Прылукі.*

З 1682 г. ўласнасць Хайноўскага, Даніловіча, Кулеша, з 1721 г. — крайчага Брэсцкага ваяв. К.Басяцкага. У 1734 г. 3 валокі зямлі належалі Прэйсу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1868 г. ў Прылуках налічвалася 329 мужчын і 376 жанчын. У 1870 г. мясц. жыхары пабудавалі праваслаўную драўляную царкву са званіцай, прыхаджан было 2702 чал. з 6 вёсак. Дзейнічала царк.-прыходская школа (24 вучні). У 1876 г. 242 двары, 1362 жыхары, у Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. У 1886 г. 76 двароў, 836 жыхароў, нар. вучылішча (навучаліся 37 хлопчыкаў),



*Брацкая магіла савецкіх воінаў-пагранічнікаў у в. Прылукі.*

карчма. У 1890 г. сялянам Прылуцкага с.-г. т-ва належалі 1393,5 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 221 двор, 1307 жыхароў, у Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 1459 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мяднянскай гміне Брэст-Літоўскага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 61 двор, 383 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. Працавала шкіпінарня. У 1940 г. 178 двароў, 664 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ням.-фаш. акупанты спалілі 20 двароў, загубілі 21 жыхара; 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісаў 1959 г. — 612, 1970 г. — 601 жыхар. У 1997 г. 200 гаспадарак, 486 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «За мір» (цэнтр — в. Страдзеч).

**ПЯСКІ** — вёска ў Клейнікаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Скокі. 56 гаспадарак, 113 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Клейнікі, якім валодаў пан Міхневіч. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічваліся 143 сял. душы. У 1870 г. — цэнтр сельскай грамады. Адносілася да Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 14 двароў, 83 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 250, 1970 г. — 215 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі).

**РАГОЗНА** — вёска ў Знаменскім с/с, за 41 км на Пд ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Дубіца, на р. Спанаўка (прыток р. Зах. Буг), на Пн меліярацыйныя каналы, на У — г. Крушына, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Брадзяцін—Знаменка. 144 гаспадаркі, 299 жыхароў (2005).

У 18 ст. вёска вядома пад назвай Рагознечка ў Брэсцкім пав. і ваяводстве ВКЛ. Уладанне паноў Бельскіх, з 1823 г. — Галіцкіх і Ясінскіх. У 1868 г. вёска ў складзе маёнтка Медна ў Мяднянскай вол.; 158 мужчын, 198 жанчын. У 1873 г. ўладальнікам маёнтка быў кн. Баратынскі. У студз. 1873 г. брэсцкі пав. спраўнік паведамляў гродзенскаму губернатару, што сяляне в. Рагозна аказалі яму супраціўленне, таму ў вёску была пастаўлена «ваенная экзекуцыя ў памеры адной роты». У 1876 г. 129 двароў, 801 жыхар. У 1890 г. сяляне Рагазнянскага с.-г. т-ва мелі 349 дзес. зямлі. Працавала школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 95 двароў, 637 жыхароў. У 1905 г. вёска (718 жыхароў) у Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мяднянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 61 двор, 342 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1941 г. 150 двароў, 600 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 124 двары, загубілі 147 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 462, 1970 г. — 638 жыхароў. У 1997 г. 156 гаспадарак, 347 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Птушкафабрыка Медна» (цэнтр — в. Медна); фельч.-акушэрскі пункт, сельская б-ка.

**РУДАВЕЦ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 28 км на Пн ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 28 гаспадарак, 53 жыхары (2005).

У 18 ст. ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1767 г. ўласнасць пана Юзафа (Іосіфа) Дулебы. У 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 106 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 28 двароў, 169 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 65 двароў, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 13 двароў, загубілі 2 жыхароў; 16 вяскоўцаў загінулі на



фронце. Паводле перапісаў 1959 г. — 163, 1970 г. — 146 жыхароў. У 1997 г. 33 гаспадаркі, 75 жыхароў. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**РУДНЯ** — вёска ў Дамачаўскім пас., за 52 км на Пд ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Дубіца, на р. Капаёкаўка (прыток р. Зах. Буг), вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Брэст—Тамашоўка. 25 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1550 г. кароль Жыгімонт II Аўгуст па хадайніцтве Берасцейскага старосты М.Радзівіла зацвердзіў фундуш на будаўніцтва Руднянскай царквы. У 1748 г. сяло — уласнасць А.Кіркора і Б.Краеўскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1876 г. ў прыселку Рудня 19 двароў, 104 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 95 жыхароў. У 1905 г. прыселак (102 жыхары) у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 131, 1970 г. — 121 жыхар. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава).

**РЫЦЕЦ** — вёска ў Тамашоўскім с/с, за 76 км на Пд ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Уладава (Польшча). 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

У 19 ст. вядомы як хутар у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіў у склад фальварка Орхава. У 1870 г. адносіўся да Орхаўскай сельскай грамады. Паводле 1897 г. 3 двары, 31 жыхар. У 1905 г. хутар і вёска (302 жыхары) у Прыбараўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прыбараўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Камароўка» (цэнтр — в. Тамашоўка).

**СЕГЕНЕЎШЧЫНА** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1863 г. ўладальнікам маёнтка быў Г.Гажыц. За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. паводле царскага ўказа ён абавязаны быў прадаць свой маёнтак у двухгадовы тэрмін, а сам высланы з Зах. краю. У 1890 г. маёнткам валодала М.Гажыч. У 1905 г. 75 жыхароў, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 16 двароў, 70 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 24 двары, 106 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 вяскоўцы. У 1997 г. 26 гаспадарак, 64 жыхары. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**СЕЛЯХІ** — вёска ў Тамашоўскім с/с, за 63 км на Пд ад Брэста. 37 гаспадарак, 69 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Пад 1809 г. пазначана ў ліку сёл Прыбараўскага царк. прыхода. Уваходзіла ў склад маёнтка Прыбарава, якім у 1870 г. валодаў граф Замойскі. У ліп. 1862 г. адбылося сял. хваляванне, сяляне адмовіліся адбываць згонную павіннасць і плаціць чынш грашыма або хлебам. У 1876 г. 48 двароў, 356 жыхароў; праваслаўная могілкавая капліца, царк.-прыходская школа. У 1890 г. сяляне Селяхоўскага с.-г. т-ва мелі 149 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 200 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца. У 1905 г. вёска (453 жыхары) у Прыбараўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прыбараўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 30 двароў, 157 жыха-


*Ю.Нямцэвіч.*

роў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 90 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты спалілі 12 двароў, загубілі 10 жыхароў; 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партызанах. У чэрв. 1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна, у які ўключана 30 гаспадарак з 36; у час узбуйнення ўвайшоў у склад калгаса імя Гагарына, затым у калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. Паводле перапісу 1959 г. — 230, 1970 г. — 226 жыхароў. У 1997 г. 47 гаспадарак, 90 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Камароўка» (цэнтр — в. Тамашоўка). Каля воз. Селяхоўскае размешчаны біялагічны заказнік Селяхі.

**СЕЛЯХІ** — вёска ў Чэрнінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Брэста. 8 гаспадарак, 39 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Чэрні, якім валодаў П.Ягмін. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 119 сял. душ. У 1905 г. вёска (293 жыхары) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 15 двароў, 97 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 88, 1970 г. — 70 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні).

**СКОКІ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 10 км на Пн ад Брэста, за 6 км ад чыг. ст. Скокі, на беразе р. Лясная. 231 гаспадарка, 674 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. ВКЛ, на дарозе Брэст—Воўчын. У метрыцы караля Жыгімонта II Аўгуста пазначана пад 1566 г. як сяло з 10 валокамі зямлі — уладанне М.С.Скокаўскай. З 1583 г. належала зямяніну Чыжэўскаму, у 17 ст. — Нямцэвічам, з 1682 г. — пану Ф.Баярскаму, які меў тут 6 валок зямлі. У 1770-я г. ў цэнтры вёскі пабудаваны двухпавярховы мураваны палац. У ансамбль уваходзіў і ўзведзены ў 1776 г. касцёл, які ў 1864 г. ператвораны ў праваслаўны храм (разбураны ў 1-ю сусветную вайну). У цэнтры сядзібна-паркавага комплексу Нямцэвічаў размяшчаўся двухпавярховы гаспадарскі дом, побач з ім — гасп. пабудовы і драўляны касцёл-пахавальня. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, вёска ў Брэсцкім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губ. У 1796 г. М.Нямцэвічам пабудавана мураваная царква са званіцай. У 1868 г. сяло (185 сял. душ) у Матыкальскай вол., меўся млын. У 1886 г. былое ўладанне на р. Лясная, 23 двары, 143 жыхары, праваслаўная царква. У 1890 г. цэнтр маёнтка, якім валодаў І.У.Нямцэвіч; конезавод, школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 313 жыхароў, кузня, царква. У 1905 г. вёска (356 жыхароў) і маёнтак (102 жыхары) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з умовамі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 27 двароў, 159 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 1940 г. вёска ў Цюхінскім с/с, 82 двары, 297 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 16 вяскоўцаў. У лют. 1949 г. арганізаваны першы калгас «XIX з’езд КП(б)Б», у які аб’яднаны 56 гаспадарак. З вер. 1959 г. вёска ў Матыкальскім с/с. Паводле перапісу 1970 г. 272 жыхары. 22.2.1992 г. рашэннем агульнага сходу калгаснікаў на базе калгаса ўтворана с.-г. т-ва «Лясное»; сярэдняя школа, клуб, магазін, сельская б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі. У 1997 г. 138 гаспадарак, 653 жыхары. У цэнтры вёскі рамешчана сядзіба Нямцэвічаў, пабудаваная ў 2-й пал. 18 ст. Радзіма архітэктуры барока і сядзібна-паркавага мастацтва «французскага стылю». Патрабуе поўнай рэстаўрацыі і капрамонту з аднаўленнем першапачатковага выгляду. Радзіма пісьменніка, палітычнага дзеяча, гісторыка Ю.Нямцэвіча.





*Дом-сядзіба Ю.Нямцэвіча ў в. Скокі.*

**СКОЛДЫЧЫ** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 19,5 км на Пн ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Матыкалы. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска і аднайменны фальварак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічвалася 11 сял. душ. У 1870 г. ўваходзіла ў сельскую грамаду. У 1905 г. 44 жыхары, у Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Непадалёку ад С. знаходзіўся аднайменны фальварак (7 жыхароў). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Турнянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 17 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 вяскоўцы. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Садрассвет» (цэнтр — в. Вістычы).

**СМОЛІН** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 14 км на У ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як с. Смоліна ў Берасцейскім старостве Трокскага ваяв. ВКЛ. Пад 1564 г. пазначана ў метрыцы караля Жыгімонта II Аўгуста. У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. ў ёй налічвалася 61 сял. душа. Уласнасць пані Стражамінскай. У 1870 г. адносілася да Буяцкай сельскай грамады. У 1905 г. вёска (150 жыхароў) у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. Паводле перапісаў 1959 г. — 124, 1970 г. — 81 жыхар. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1).

**СМУГА** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 14 км на Пн ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Матыкалы. 44 гаспадаркі, 98 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Кавярдзякі, які належаў пану Ф.Ягміну. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічвалася 251 сял. душа. У 1870 г. з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 428 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся аднайменны пасёлак (1 двор, 6 жыхароў, кузня). У 1905 г. вёска (586 жыхароў) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы 19 двароў, 91 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 15 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 256, 1970 г. — 211 жыхароў.

**СТАВІШЧА** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 11 км на Пн ад Брэста. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. як маёнтак Ставішчы ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Кавярдзякі, што належаў пану Ф.Ягміну. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы налічвалася 48 сял. душ. У 1870 г. адносілася да Кавердзякоўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 107 жыхароў, кузня. У 1905 г. вёска (135 жыхароў) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав.

Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 12 двароў, 83 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 139, 1970 г. — 127 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 11 км на Пн ад Брэста. 133 гаспадаркі, 353 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як дзярж. ўласнасць у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1566 г. сяло — цэнтр войтаўства (войт Карл Гавяновіч). Сяляне мелі 40 валок зямлі, плацілі чынш — з адной валокі 73 грошы. У 1683 г. сяло належала пану Грабоўскаму, у 1756 г. — капітану гвардыі ВКЛ Каралю Лепарскаму, які меў тут 17,25 дзес. зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. сяло, 71 двор, 630 жыхароў. У 1905 г. вёска (274 жыхары) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 171 жыхар, хлебазапасны магазін, кузня, карчма. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 32 двары, 193 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 35 двароў, 234 жыхары. У 1949 г. арганізаваны калгас «Улада Саветаў», у які ўвашлі і жыхары в. Баброўцы; аб'яднана 61 гаспадарка. У Вял. Айч. вайну загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 145 жыхароў. У 1997 г. 104 гаспадаркі, 300 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы); аддз. сувязі, магазін.

**СТАРЫЯ ЗАДВОРЦЫ** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 6 км на У ад Брэста, побач з Брэсцкай акружной аўтадарогай. 135 гаспадарак, 362 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Вычулкі. У 1870 г. ў вёсцы налічваліся 92 рэвізскія душы. З'яўлялася цэнтрам с.-г. т-ва. У 1905 г. вёска (193 жыхары) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 14 двароў, 85 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 39 двароў, 137 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў ліп. 1944 г. спалілі 37 двароў, загубілі 2 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 192, 1970 г. — 165 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы).

**СТРАДЗЕЧ** — вёска ў Гершонскім с/с, за 23 км на Пд ад Брэста, на аўтадарозе Брэст—Тамашоўка, на У — р. Спанаўка (прыток р. Зах. Буг) і меліярацыйныя каналы, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Нараў) і дзярж. граніца з Польшчай. 431 гаспадарка, 160 жыхароў (2005).

Выяўленая археолагамі за 1 км на Пн ад вёскі стаянка позняга неаліту і перыяду сярэдняй бронзы сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці. У 16 ст. вёска вядома як с. Страдча — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Трокскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1866 г. ў складзе маёнтка Колпін, уладальніцай якога была пані Сапежына; 277 жанчын. У 1884 г. на сродкі ўрада і прыхаджан пабудавана драўляная царква са званіцай. Прыхаджан налічвалася 1648 чал. з вёсак Страдзеч, Дурычы, Белагоры. У 1886 г. 69 двароў, 619 жыхароў, царк.-прыходская школа, карчма. У 1889 г. дзейнічала нар. вучылішча, у якім навучаліся 68 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле налічвалася 142 двары, 986 жыхароў. У





*Магіла ахвяр фашызму ў в. Страдзеч.*

1905 г. сяло (1090 жыхароў), фальварак (17 жыхароў) І.Хадароўскага і чыг. ст. Страдзеч (20 жыхароў) у Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У вёсцы размяшчаўся ўчастак паліцэйскіхураднікаў Мяднянскай вол., прыёмны пакой сельскага ўрача. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мяднянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 119 двароў, 807 жыхароў. У 1940 г. цэнтр Страдзецкага с/с. У 1954 г. ён аднесены да Дамачоўскага р-на і перайменаваны ў Дубіцкі (цяпер Знаменскі) с/с. У 1956 г. адышоў да Брэсцкага р-на. У 1940 г. 280 двароў, 1500 жыхароў, 7-гадовая школа, ветраны млын. У Вял. Айч. вайну гітлераўскія акупанты восенню 1943 г. спалілі 212 двароў, загубілі 92 жыхароў; 22 вяскоўцы загінулі на фронце, 1 — у партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 1375, 1970 г. — 1547 жыхароў. У 1997 г. 450 гаспадарак, 1422 жыхары. Цэнтр камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «За мір»; сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, б-ка. Царква святых пакутніц Веры, Надзеі, Любові і маці Сафіі.

**СЫЧЫ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 35 гаспадарак, 57 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як дзярж. уласнасць у Берасцейскім староstве Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1565 г. кароль Жыгімонт II Аўгуст падараваў Сычы ў пажыццёвае валоданне С.Траяноўскаму. Паводле рэвізіі 1566 г. сяло — цэнтр войтаўства, 48 валок зямлі, царква Св. Духа. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У пач. 19 ст. цэнтр маёнтка, які належаў І.Высоцкаму. У 1822 г. ён пабудаваў мураваную царкву св. Параскевы. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. сяло, 47 двароў, 411 жыхароў, царк.-прыходская школа, млын, карчма. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 475 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. ў сяле — 245, у маёнтку — 74 жыхары. У 1906 г. адбылося антыкулацкае выступленне сялян. Яны спалілі гумно са збожжам і хлеў у папа, які актыўна падтрымліваў царскую ўладу і паноў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 54 двары, 217 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета Брэсцкага р-на. У 1940 г. 100 двароў, 498 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы загубілі 5 жыхароў, 22 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Куйбышава, які быў ператвораны ў калгас імя Гастэлы, а пры ўзбуйненні гаспадарак увайшоў у калгас імя Леніна. З 16.7. 1954 г. ў Матыкальскім с/с. У 1997 г. 45 гаспадарак, 74 жыхары. У складзе Рэсп.

унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр в. Вял. Матыкалы); сельская б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік архітэктуры 2-й пал. 19 ст. з традыцыйнымі рысамі мясц. дойлідства — Пакроўская царква. На ўскраіне вёскі ў пейзажным парку (захаваўся часткова) — сядзібны дом, пабудаваны з дрэва на мяжы 19—20 ст.

**СЫЧЫКІ** — былая вёска ў Лышчыцкім с/с.

У канцы 18 — пач. 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка княгіні Яблонскай (у першым шлюбе Сапега) у Брэсцкім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку (складаўся з фальварка і аднайменнай вёскі) налічваўся 81 прыгонны селянін. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы было 10 двароў, 71 жыхар. Уласнасць графіні П.Грабоўскай. У 1905 г. вёска (135 жыхароў) у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. Непадалёку ад яе знаходзіўся маёнтак (44 жыхары). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 11 двароў, 41 жыхар. З 1939 г. ў БССР.

**СЯМІСОСНЫ** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 16 ст. на ПдУ ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Брэст-Паўднёвы. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр вотчыннага маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Маёнтак складаўся з фальварка Сямісосны (або Краснік) і в. Забалацце. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку налічваліся 22 сял. душы, інвентару 1846 г. — 33 прыгонных селяніна. Маёнтак належаў Ганне Камінскай, якая валодала тут 198 дзес. зямлі. Пазней меў назву Сямісосны—Забалацце. У 1890 г. маёнтак — уласнасць пана Качкоўскага, 97 дзес. зямлі. У 1905 выселкі (32 жыхары) у Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Камянец-Жыровіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 3 двары, 18 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 2 жыхары. Паводле перапісаў 1959 г. — 64, 1970 г. — 36 жыхароў. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ТАМАШОЎКА** — вёска, цэнтр Тамашоўскага с/с, за 69 км на Пд ад Брэста, чыг. ст. Уладава, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Нараў) і дзярж. граніца з Польшчай, аўтадарогай звязана з Брэстам. 379 гаспадарак, 1330 жыхароў (2005).

У 19 ст. назву Т. мелі фальварак і пасёлак у Прыбараўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1876 г. ў фальварку было 2 двары, 29 жыхароў, у пасёлку 1 двор, 32 жыхары. У 1-ю сусветную вайну ў 1915—16 гг. тут адбыліся баі паміж рас. і герм. войскамі, у час якіх загінулі 1346 салдат з абодвух бакоў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прыбараўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 3 двары, 18 жыхароў, лясніцтва. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 411 двароў, 4150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну летам 1942 г. гітлераўцы стварылі Тамашоўскае гета, у якім утрымліваліі 2 тыс. чал. У канцы ліп. 1942 г. праведзена масавае знішчэнне вязняў гета. За гады вайны акупанты спалілі 129 двароў, знішчылі больш за 2000 жыхароў. У чэрв. 1949 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага ў в. Прыбарава, у які ўключана Т. Паводле перапісаў 1959 г. 756, 1970 г. — 898 жыхароў. У 1997 г. 376 гаспадарак, 1287 жыхароў. Цэнтр адкрытага акц. т-ва «Камароўка»; сярэдняя школа, амбулаторыя, аддз. сувязі, 2 магазіны, сталовая, дзіцячы санаторый «Елачка». У сярэдняй школе, дзе вучыўся двойчы Герой Сав. Саюза П.І.Клімук, створаны музей касманаўтыкі.



**ТЭЛЬМЫ-1** — вёска, цэнтр Тэльмінскага с/с, за 9 км на У ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні, на аўтадарозе Брэст—Кобрын, на У меліярацыйныя каналы, на З — лес. 667 гаспадарак, 1972 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Ямна, якім валодаў пан Жылей. Паводле рэвізіі 1858 г. 71 сял. душа. У 1890 г. сяляне вёскі ўваходзілі ў Ямніцкае с.-г. т-ва. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 201 жыхар. У 1905 г. вёска (148 жыхароў) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 17 двароў, 101 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. адкрыта 7-гадовая школа. У 1940 г. 41 двор, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 40 двароў, на фронце загінулі 7 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 214, 1970 г. — 443 жыхары. У 1997 г. 632 гаспадаркі, 1963 жыхары. Цэнтр камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі», газаразмеркавальная станцыя, звераферма, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячыя сад-яслі, амбулаторыя, аддз. сувязі, сельская б-ка, сталовая, прадуктовы і прамтаварны магазіны, дзярж. прадпрыемства «Аэрапорт «Брэст», брэсцкае раённае вытв.-эксплуатацыйнае прадпрыемства па энергетыцы «Райсельэнерга», брэсцкі філіял «Белаэранавігацыя».

**ТЭЛЬМЫ-2** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 11 км на У ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні, побач аўтадарога Брэст—Мінск. 53 гаспадаркі, 123 жыхары (2005).

У 19 ст. невял. вёска пад назвай Тэльмы Залескія ў Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 20 будынкаў, 107 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 12 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 158, 1970 г. — 143 жыхары. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства саўгаса «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы-1).

**ФРАНОПАЛЬ** — вёска ў Радваніцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Жабінка. 42 гаспадаркі, 77 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 271 сял. душа. Маёнтак ва ўладанні А.Соладава, які меў 221 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 563 жыхары, хлебазапасны магазін, лаўка. Адносілася да Радваніцкай сельскай грамады. У 1905 г. вёска (98 жыхароў) у Радваніцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Непадалёку знаходзілася аднайменнае паселішча (12 жыхароў). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Радваніцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 72 будынкі, 38 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 124 двары, 484 жыхары. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты знішчылі 39 двароў, загубілі 13 жыхароў; 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1970 г. 284 жыхары. У 1997 г. 65 гаспадарак, 117 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы). Радзіма ўдзельніка рэв. руху ў Зах. Беларусі, ганаровага грамадзяніна Брэста В.П. Ласковіча.



*В.П.Ласковіч.*

**ХАБЫ** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 19 км ад У ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні, побач аўтадарога Брэст—Мінск, на У меліярацыйны канал. 30 гаспадарак, 97 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка ў Косіцкай вол. Брэсцкага пав.

Гродзенскай губ.; дзярж. ўласнасць. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 62 сял. душы. Згодна з перапісам 1897 г. 29 двароў, 228 жыхароў, хлебазапасны магазін. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы 10 двароў, 60 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 вяскоўцаў. Паводле перапісаў 1959 г. — 118, 1970 г. — 86 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства саўгаса «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы-1).

**ХАРСЫ** — вёска ў Тамашоўскім с/с, за 56 км на Пд ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Уладава, побач з аўтадарогай Брэст—Тамашоўка, на Пн лес, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Нараў) і дзярж. граніца з Польшчай. 60 гаспадарак, 117 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1876 г. 87 двароў, 584 жыхары. З'яўлялася цэнтрам сельскай грамады, якой належала 422 дзес. зямлі. У 1886 г. вёска — былое прыватнае ўладанне пры р. Буг, 31 двор, 390 жыхароў, царк.-прыходская школа, капліца. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 77 двароў, 516 жыхароў, царква, школа, ветраны млын. У 1905 г. 76 жыхароў, у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 71 двор, 316 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 88 двароў, 264 жыхары. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 13 двароў, загубілі 8 жыхароў; 14 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісаў 1959 г. — 376, 1970 г. — 357 жыхароў. У 1997 г. 75 гаспадарак, 150 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Камароўка» (цэнтр — в. Тамашоўка); магазін, клуб, б-ка.

**ХАРЫТОНЫ** — вёска і чыг. станцыя ў Чэрнінскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Брэста. 36 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1582 г. ўласнасць пана Харытонаўскага, замест састарэлай збудавана новая драўляная царква. У 19 ст. вёска, дзярж. ўладанне ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 47 сял. душ. У 1890 г. вёска — цэнтр с.-г. т-ва, у якое ўваходзілі вёскі Гутавічы, Валоскі, Харытоны — ім належалі 92 дзес. зямлі. Працавала школа граматы. У 1905 г. 96 жыхароў, у Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Збіражскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 13 двароў, 57 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 21 двор, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы знішчылі 6 двароў, загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 77, 1970 г. — 42 жыхары. У 1997 г. 13 гаспадарак, 27 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Чэрні). За 0,4 км на ПнУ ад вёскі размешчаны археал. помнік — курганны могільнік (мясц. назва Шведскія магілы).

**ХЕРМА** — вёска ў Мухавецкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Брэста. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

У пачатку 20 ст. невял. вёска ў Камянец-Жыровіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Брэсцкім пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 10 будынкаў, 60 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У складзе дзярж. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Племзавод «Мухавец» (цэнтр — пас. Мухавец).

**ХОЛМІЧЫ**, Каростычы — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 27 км на Пн



ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Матыкалы. 40 гаспадарак, 57 жыхароў (2005).

У 19 ст. в. Каростычы ў складзе маёнтка Дзямянчыцы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 200 сял. душ. Вёска належала пані Баярскай. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 363 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, у Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 396 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Турнянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 7 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 352, 1970 г. — 256 жыхароў. У складзе СВК «Чарнаўчыцы» (цэнтр — в. Чарнаўчыцы).

**ЦЕРАБУНЬ** — вёска ў Клейнікаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Матыкалы. 88 гаспадарак, 171 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як велікакняжацкае сяло ў Берасцейскім старостве і ваяв. ВКЛ. Пад 1566 г. пазначана ў інвентары як маёнтак Гноенскага. У 1583 г. (па іншых звестках у 1585) пабудаваны з каменю Троіцкі касцёл. У 17 ст. радавы маёнтак князёў Шуйскіх. У 1609 г. кн. Іванам Шуйскім пабудавана праваслаўная мураваная царква са званіцай. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У Айч. вайну 1812 г. пры пераправе цераз раку каля вёсак Вістычы, Клейнікі, Церабунь адбылася бітва, у выніку якой загінулі 2 тыс. французскіх і 1 тыс. рас. салдат. З 1876 г. вёска (27 двароў, 163 жыхары) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав.; маёнткам валодаў граф К.Грабаў, тут меліся вінакурны з-д, 2 карчмы, штогод адбывалася ярмарка. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1905 г. сяло (47 жыхароў) і маёнтак (5 жыхароў) у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 16 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. адкрыта 7-гадовая школа. У 1940 г. 32 двары, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 вяскоўцаў. У сак. 1950 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», у які ўступілі ўсе жыхары вёскі (34 гаспадаркі). У 1960-я г. калгас аб'яднаўся з калгасам «Краіна Саветаў» (в. Калодна), а затым у час узбуйнення ўвайшоў у склад калгаса «Пагранічнік» (в. Клейна). Паводле перапісаў 1959 г. — 130, 1970 г. — 93 жыхары. У 1997 г. 99 гаспадарак, 180 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі); базавая школа, аддз. сувязі. Помнікі архітэктуры — Троіцкі касцёл, царква Параскевы Пятніцы.

**ЦЮПРЫКІ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 26 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 27 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

У 20 ст. невял. вёска ў Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 14 двароў, 69 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 жыхары. Паводле перапісаў 1959 г. — 107, 1970 г. — 64 жыхары. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы).

**ЦЮХІНІЧЫ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 8 км на Пн ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Брэст-Цэнтральны. 170 гаспадарак, 414 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка, дзярж. маёмасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Згодна з рэвізіяй 1858 г. ў вёсцы налічваліся 133 сял. душы. У 1870 г. з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г.

*Капліца Маці Божай у в. Чарнаўчыцы.*



37 двароў, 249 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, кузня, ветраны млын, карчма, у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 471 жыхар. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак (54 жыхары). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 30 будынкаў, 159 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну загінулі 11 жыхароў. 8.9.1959 г. Цюхініцкі с/с ліквідаваны, яго тэрыторыя далучана да Матыкальскага с/с. Паводле перапісаў 1959 г. — 374, 1970 г. — 324 жыхары. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

*Троіцкі касцёл у в. Чарнаўчыцы.*



**ЧАРНАКІ** — вёска ў Чарнаўчыцкім с/с, за 13 км на Пн ад Брэста. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — дзярж. ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Курніца. У сак. 1861 г. сяляне адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці. Для ўстанаўлення парадку быў высланы адзін батальён Велікалуцкага пях. палка. Складзеныя памешчыкамі ўстаўныя граматы, якія «ўзаконьвалі» абрабаванне сялян, сустрэлі з іх боку актыўны пратэст. У кастр. 1862 г. сяляне зноў адмовіліся адбываць павіннасці. У 1868 г. ў вёсцы налічвалася 117 мужчын, 156 жанчын. Працавала школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 577 жыхароў, у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 700 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 10 двароў, 64 жыхары. У 1940 г. 15 двароў, 68 жыхароў. У 1997 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ЧАРНАЎЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Чарнаўчыцкага с/с, за 18 км на Пн ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Матыкалы, на аўтадарозе Брэст—Камянец. 55 гаспадарак, 2406 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. Трокскага, з 1520 г. Падляшскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1477 г. пан Няміра Ваўчкевіч прадаў Чарнаўчыцы Івашку Іллінічу, затым у валоданні Е.Ілініча, графа Мірскага і Чарнаўчыцкага, кн. Радзівіла. Пад 1567 г. у попісе войска ВКЛ пазначана







*Бальніца ў в. Чарнаўчыцы.*

*Кафэ ў в. Чарнаўчыцы.*

як мястэчка ў Берасцейскім пав. У 1583 г. пабудаваны па фундацыі М.Радзівіла Сіроткі касцёл Прасвятой Тройцы. На ПнЗ ад касцёла 3-ярусная званіца з шатровым дахам. У 1671 г. Радзівіламі быў пабудаваны аднапавярховы палац з вялізнымі сенямі, у якія магла заехаць шасціконная карэта. Пры двары знаходзіліся сад і звярынец. У 1733 г. ўзведзена драўляная праваслаўная царква Параскевы Пятніцы. У 1777 г. тут дзейнічаў вадзяны млын, які меў 11 вадзяных колаў. У 18 ст. мястэчка належала вядомаму натуралісту Марціну Радзівілу (1705—81), які ў Чарнаўчыцах праводзіў фізічныя і хімічныя доследы, спрабаваў адкрыць філасофскі камень, з дапамогай якога збіраўся ператварыць у золата інш. металы. Яго родзіч Геранім Радзівіл, вядомы сваім крывавым падаўленнем Крычаўскага паўстання, абвясціў вальнадумца вар'ятам і забраў у апеку яго маёнтак. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1863 г. гэта было беднае мястэчка, размешчанае за 14 вёрст ад Брэста на гандл. шляху ў Пружаны. У 1867 г. касцёл Прасвятой Тройцы перададзены пад праваслаўную царкву (у 1918 вернуты каталікам). У 1876 г. 177 двароў, 1125 жыхароў, мястэчка з вуліцамі Брэсцкай, Камянецкай, Кобрынскай і інш. Маёнткам Чарнаўчыцы валодаў граф Грабоўскі. У 1886 г. ў мястэчку 71 двор, 509 жыхароў (65 мяшчан), 2 праваслаўныя царквы, яўр. малітоўны дом, сінагога, гандл. лаўкі, шавецкая майстэрня, 2 карчмы, на працягу года праводзіліся 3 кірмашы. У 1889 г. дзейнічала нар. вучылішча (95 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак). У 1892 г. засн. хрустальны з-д, на якім працавалі 250 рабочых і выраблялі хрустальны посуд. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка, 140 двароў, 1101 жыхар, 2 царквы, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, прыёмны пакой, сінагога, хлебазапасны магазін, 13 крам, 3 карчмы, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы, у Турлянскай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. мястэчка, 1316 жыхароў, працаваў пакой сельскага ўрача, дзейнічала мяшчанская ўправа, размяшчаўся прызыўны ўчастак па воінскай павіннасці і ўчастак судова-міравой акругі. Павод-



*Царква Параскевы Пятніцы ў в. Чарнаўчыцы.*

ле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Турлянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 101 двор, 749 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 200 двароў, 1050 жыхароў. У 1940 г. адкрыта 7-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну спалена 60 двароў, забіта 370 жыхароў, 10 вяскоўцаў загінулі на фронце, 7 — у партызанах. У вер. 1949 г. арганізаваны калгас «Іскра», у які ўвайшлі 50 гаспадарак з 98. З 10.3.1951 г. ў калгасе было 320 гаспадарак. Паводле перапісаў 1959 г. — 494, 1970 г. — 659 жыхароў. У 1997 г. 865 гаспадарак, 2372 жыхары. Цэнтр СВК «Чарнаўчыцы»; сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, 2 сталовыя, 4 магазіны, сельская б-ка, вучэбны цэнтр к-та па сельскай гаспадарцы і харчаванні Брэсцкага аблвыканкома, акц. т-ва «Чарнаўчыцкі завод жалезабетонных вырабаў». Помнікі архітэктуры — Троіцкі касцёл, царква Параскевы Пятніцы.

**ЧЫЖЭВІЧЫ** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Лышчыцы, на Пн Матыкальскі канал, на Пд воз. Бяздоннае. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, а затым аўтадарозе Высокае—Брэст. 32 двары, 81 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1569 г. шляхецкая ўласнасць пана Богдана Кучук-Чыжэўскага. У пач. 17 ст. ў валоданні Млажэўскіх, затым С.Грэка, з 1680 г. — падскарбія ВКЛ Б.Сапегі, з 1724 г. — А.Нарковіча. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска — цэнтр аднайменнага маёнтка ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. маёнтак ва ўладанні пана А.Залеўскага, які меў у вёсцы і наваколлі 441,5 дзес. зямлі. У 1905 г. 227 жыхароў, у аднайменным маёнтку, што размяшчаўся побач з вёскай, 15 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 36 двароў, 228 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 11 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. вёскі Чыжэвічы (80 жыхароў) і Чыжэвічы 2 (39 жыхароў), 1970 г. — вёскі аб'ядналіся ў адну (154 жыхары). У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**ЧЫЛЕЕВА** — вёска ў Матыкальскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Брэста, 8 ад чыг. ст. Матыкалы. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2005).

У 18 ст. вядома як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1740 г. шляхецкая ўласнасць пана Ласкоўскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 19 ст. вёска і фальварак уваходзілі ў маёнтак Ракаўцы — уладанне пана К.Талочкі. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы і фальварку 7 двароў, 49 жыхароў. З 1870 г. маёнтак належаў пані Талочка. Вёска адносілася да Пацкаўскай сельскай грамады. У 1905 г. 161 жыхар, у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Непадалёку



*Брацкая магіла савецкіх воінаў у в. Чарнаўчыцы, якія загінулі пры вызваленні Брэсцкага раёна.*



ад вёскі размяшчаўся аднайменны маёнтак (16 жыхароў). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 16 двароў, 82 жыхары. Непадалёку знаходзіўся аднайменны фальварак. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісаў 1959 г. — 108, 1970 г. — 85 жыхароў. У складзе Рэсп. унітарнага с.-г. прадпрыемства «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» (цэнтр — в. Вял. Матыкалы).

**ЧЭРНІ** — вёска, цэнтр Чэрнінскага с/с, за 9 км на ПнУ ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Брэст-Усходні. 841 гаспадарка, 2303 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяло — прыватная ўласнасць у Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Пад 1577 г. пазначана як двор Чэрнік. У 1617 г. маёмасць кн. Фёдара Масальскага. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Цэнтр маёнтка Чэрні, якім у 1868 г. валодаў Ф.Ягмін. У вёсцы налічвалася 30 мужчын, 31 жанчына. У 1877 г. вяскоўцы пабудавалі драўляную царкву. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. У 1876 г. сяло, 42 двары, 257 жыхароў. У 1886 г. 114 жыхароў, царк.-прыходская школа, карчма, у Косіцкай вол. З 1889 г. працавала нар. вучылішча, у якім навучаліся 51 хлопчык і 2 дзяўчынкі. У 1890 г. маёнткам валодаў К.Ягмін. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 188 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа. У 1905 г. сяло (151 жыхар) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Тут размяшчаўся ўчастак паліцэйскіх ураднікаў Мяднянскай вол. У 1905 г. 1370 дзес. зямлі належалі пані Ю.Штэрн. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсках Чэрні-1 і Чэрні-2 62 двары, 371 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 61 двор, 362 жыхары, адкрыта 7-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну акупанты спалілі 8 двароў; 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. У жн. 1950 г. арганізаваны калгас «Маладая гвардыя», у які ўвайшлі 30 гаспадарак з 66. У 1969 г. калгасператвораны ў аднайменны саўгас. Паводле перапісаў 1959 г. — 510, 1970 г. — 280 жыхароў. У 1997 г. 618 гаспадарак, 1806 жыхароў. Цэнтр камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Маладая гвардыя»; сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, магазін.



*Брацкая магіла савецкіх воінаў у в. Чэрні.*

**ЧЭРСК** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 56 км на Пд ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Дубіца, на аўтадарозе Дамачава—Дубок, на У — р. Капаёўка (прыток р. Зах. Буг), на З меліярацыйныя каналы. 76 гаспадарак, 190 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім старостве і павеце ВКЛ. У 1700 г. пабудавана праваслаўная царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонім-



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Чэрск.*

скай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Вёска і аднайменны фальварак уваходзілі ў маёнтак Дамачава, якім валодалі князі Вітгенштэйны. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады, фальварак — уласнасць кн. Вітгенштэйна. У 1886 г. 38 двароў, 395 жыхароў, царк.-прыходская школа, капліца, піваварня і бровар, саладоўня, у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле перапісу 1897 г. 89 двароў, 538 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын, карчма. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак (3 двары, 25 жыхароў). У 1905 г. вёска і фальварак (610 жыхароў) у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 64 двары, 311 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. ў вёсцы было 135 двароў, 520 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты знішчылі 35 двароў, загубілі 25 жыхароў; 20 вяскоўцаў загінулі на фронце, 1 — у партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 539, 1970 г. — 569 жыхароў. У 1997 г. 139 гаспадарак, 250 жыхароў. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава); пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сельская б-ка. Помнік архітэктуры — Міхайлаўская царква (канец 17 — пач. 18 ст.).

**ШУМАКІ** — вёска ў Клейнікаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Скокі. 53 гаспадаркі, 84 жыхары (2005).

Выяўленая археолагамі за 2,5—3 км на ПнЗ ад вёскі стаянка эпохі мезаліту сведчыць пра засяленне гэтых мясцін яшчэ з глыбокай старажытнасці. У пач. 16 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Берасцейскім старостве і павеце ВКЛ, належала падкаморыю брэсцкаму кн. Яну Шуйскаму. У 1609 г. пабудавана праваслаўная мураваная царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Церабунь, якім валодаў граф Грабоўскі. У 1886 г. 20 двароў, 185 жыхароў, карчма, у Матыкальскай вол. Брэсцкага пав. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 255 жыхароў, карчма, царк.-прыходская школа, кузня. У 1905 г. сяло (335 жыхароў) у Матыкальскай вол. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Матыкальскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 15 двароў, 101 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 61 двор, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 12 двароў, загубілі 4 мірных жыхароў; 14 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партызанах. У студз. 1950 г. арганізаваны першы калгас «Ленінец», у які ўвайшла 51 гаспадарка з 60. Пазней стаў наз. «Краіна Саветаў», пасля ўзбуйнення — «Пагранічнік». Паводле перапісаў 1959 г. — 256, 1970 г. — 213 жыхароў. У 1997 г. 60 гаспадарак, 100 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г.



прадпрыемства «Пагранічнік» (цэнтр — в. Клейнікі); фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік архітэктуры — Праабражэнская царква (1609).

**ШЫКІЛІ** — вёска ў Дамачаўскім пас. Савеце, за 56 км на Пд ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Дубіца, аўтадарогай звязана з г.п. Дамачава і шашой Брэст—Тамашоўка, на У лес, на З — р. Зах. Буг (прыток р. Нараў). 30 гаспадарак, 83 жыхары (2005).

У 19 ст. вядомы як прыселак у Дамачаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 165 жыхароў, карчма. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дамачаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы было 16 двароў, 65 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 7 жыхароў. Паводле перапісаў 1959 г. — 208, 1970 г. — 171 жыхар. У складзе адкрытага акц. т-ва «Брэстрайаграсэрвіс» (цэнтр — г.п. Дамачава).

**ШЭБРЫН** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 15 км на У ад Брэста, 2,5 км ад аўтадарогі Брэст—Кобрын, на правым беразе р. Мухавец. 52 гаспадаркі, 83 жыхары (2005).

Выяўлены археолагамі за 0,4 км на ПдУ ад вёскі курганны могільнік 8—10 ст. сведчыць, што гэта мясцовасць была заселена людзьмі яшчэ ў стараж. часы. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім старостве і павеце ВКЛ. Тут знаходзілася царква Раства Багародзіцы, якой біскуп луцкі і берасцейскі Ю.Фалькоўскі адпісаў у 1518 г. 6 валок зямлі. У 1793 г. епіскапам Канстанцінам была пабудавана мураваная праваслаўная царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губ., сяло было цэнтрам маёнтка. У 1849 г. дзейнічаў паром цераз р. Мухавец. У 1886 г. сяло на р. Мухавец у Косіцкай вол. Брэсцкага пав., 17 двароў, 285 жыхароў; праваслаўная царква, царк.-прыходская школа, карчма. У 1889 г. працавала нар. вучылішча (57 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак). З 1890 г. вёска — цэнтр Шэбрынскага с.-г. т-ва (мела 484 дзес. зямлі). Уладальнікам маёнтка быў У.Дмітроўскі, якому належала 150,5 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 429 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, у Косінскай вол. Брэсцкага пав. У 1900 г. засн. торфараспрацоўчы з-д, на якім працавалі 20 рабочых; уведзены паравы рухавік. У 1905 г. сяло (541 жыхар) і маёнтак (62 жыхары) у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв.; у вёсцы было 47 двароў, 280 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 90 двароў, 290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўцы спалілі 12 двароў, загубілі 10 мірных жыхароў; 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 4 — у партызанах. У вер. 1948 г. арганізаваны першы калгас «Перамога», у які ўступілі 87 гаспадарак з 91. Паводле перапісаў 1959 г. — 306, 1970 г. — 243 жыхары. У 1997 г. 54 гаспадаркі, 88 жыхароў. У складзе камунальнага уні-



*Крыніца ў в. Шумакі.*




тарнага с.-г. прадпрыемства саўгаса «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1); аддзяленне і малочнатаварная ферма саўгаса, клуб, магазін, аздараўленчы лагер «Церамок». Побач з вёскай — Брэсцкі аэрапорт, зона адпачынку «Шэбрынскі лес». Помнік архітэктуры — Прачысценская царква (1793).

**ЯМНА** — вёска ў Тэльмінскім с/с, за 10 км на У ад Брэста, на р. Мухавец (прыток р. Зах. Буг). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Брэст—Мінск. 98 гаспадарак, 217 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка на р. Мухавец у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1849 г. тут на пераправе цераз р. Мухавец дзейнічаў паром, які мог падняць каля 40 чал. Паводле рэвізскіх матэрыялаў 1858 г. 125 сял. душ. У 1861 г. уладальнікам маёнтка быў пан Кавальскі. У красавіку гэтага ж года адбыліся сял. хваляванні. Сяляне адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці. Для падаўлення іх выступлення быў прысланы адзін батальён Вялікалуцкага пях. палка: былі пакараны розгамі. Двое сялян, якіх абвінавацілі ў падбухторванні, арыштаваны і зняволены. У 1870 г. маёнтак ва ўладанні пана Жылея. Вёска з'яўлялася цэнтрам с.-г. т-ва, у якое ўваходзілі сяляне вёсак Ямна, Тэльмы і Чэрні, мелі 320 дзес. зямлі. У 1879 г. ў маёнтку працаваў вінакурны з-д, на якім была ўстаноўлена паравая машына. Працавала школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 2 аднайменныя вёскі: былых дзярж. сялян (9 двароў, 87 жыхароў, ветраны млын) і сялян-уласнікаў (37 двароў, 292 жыхары, хлебазапасны магазін, ветраны млын, карчма); у Косіцкай вол. Брэсцкага пав. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. вёска і асада (41 двор, 229 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 70 двароў, 220 жыхароў. У ліп. 1944 г. ням.-фаш. захопнікі знішчылі 51 двор, загубілі 11 жыхароў; 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партызанах. Паводле перапісаў 1959 г. — 315, 1970 г. — 269 жыхароў. У 1950 г. арганізаваны калгас імя П.К.Панамарэнкі з 34 гаспадарак, пазней увайшоў у склад саўгаса «Брэсцкі». У 1997 г. 85 гаспадарак, 187 жыхароў. У складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Брэсцкі» (цэнтр — в. Тэльмы 1); магазін.


*Помнік землякам у в. Яцкавічы.*

**ЯЦКАВІЧЫ** — вёска ў Лышчыцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Брэста, 5,5 км ад чыг. ст. Лышчыцы. 169 гаспадарак, 413 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц стараж. вёска вядома з 16 ст. як сяло — цэнтр войтаўства ў Берасцейскім старостве ВКЛ. У 1566 г. ў сяле налічваліся 22 дымы, яго прыбытак складаў 30 коп грошаў.

У 19 ст. вёскі Яцкавічы 1, Яцкавічы 2 і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Маёнтак складаўся з аднайменнага фальварка і в. Яцкавічы 1 (знаходзіліся за 5 вёрст ад сплаўной р. Буг) і належаў Лабаноўскаму і памешчыцы Сузін. Мелася карчма, што размяшчалася ў в. Чэрвінцы. Яцкавічы 2 — дзярж. уласнасць, уваходзілі ў маёнтак Марозавічы. У 1870 г. ў Яцкавічах 2 157 рэвізскіх душ. Паводле пера-



пісу 1897 г. адна вёска (110 двароў, 665 жыхароў), у Лышчыцкай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. 738 жыхароў. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лышчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 81 двор, 341 жыхар. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 13 жыхароў. У складзе с.-г. каап. прадпрыемства «Астрамечава» (цэнтр — в. Лышчыцы); фельч.-акушэрскі пункт, базавая школа, магазін.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6753.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 14, воп. 1, спр. 222; ф. 30, воп. 9, спр. 2378; ф. 96, воп. 1, спр. 29, 215; ф. 1705, воп. 1, спр. 54, 60, 72; ф. 1741, воп. 1, спр. 32, 38; ф. 1928, воп. 1, спр. 37.
Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 2, воп. 1, спр. 3017; ф. 93, воп. 1, спр. 542; ф. 573, воп. 1, спр. 14.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 536.
Городские поселения Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 2. Вильна, 1870; т. 6. Вильна, 1872.
Список о составе волостей и сельских обществ Гродненской губернии. Гродно, 1870.
Акты Брестского и Гродненского городских судов, с присовокуплением привилегий на землевладение в Брестской и Кобринской экономиях (1388—1783 гг.). Вильна, 1871.
Акты Брестского земского суда. Вильна, 1876.
Ревизия Кобринской экономии. Вильна, 1876.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892.
Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897.
Указатель населенным местностям Гродненской губернии... Гродно, 1905.
Щербицкий О. Город Брест-Литовский: Исторический очерк. Вильна, 1913.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1961.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. М.; Л., 1961.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Брест: Энцикл. справ. Мн., 1987.
Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Мн., 1987.
Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне. 1941—1945: Энцыкл. Мн., 1990.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Мн., 1991.
Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. Мн., 1993.
Архітэктура Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 1993.
Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993 (карта).
Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654—1667. Мн., 1995.
Памяць: Брэст. Кн. 1—2. Мн., 1997—2001.
Шыбека З.В. Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзяў). Мн., 1997.

Памяць: Брэсцкі р-н. Мн., 1998.
Прамысловыя прадпрыемствы дарэвалюцыйнай Беларусі. Мн., 1998.
Гісторыя Беларусі. Т. 1—3. Мн., 2000—04.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2005.
Skorowidz miejscowści Rzeczypospolitej Polskiej. Wojewodztwo Poleskie. T. 8. Warszawa, 1924.
Z Mondalski W. Brześć Podlaski (Brześć Litewski, Brześć nad Bugiem). Źarys geograficzno-historyczny. Turek, 1929.



# БЯРОЗАЎСКІ РАЁН

Утвораны 15.1.1940 г. Размешчаны ў цэнтр. частцы вобласці. Са складу Пружанскага р-на 14.4. 1960 г. далучаны Малецкі і Падкраёўчаўскі (скасаваны 21.1.1961) сельсаветы. Узбуйнены 25.12.1962 г. за кошт далучэння тэр. Івацэвіцкага р-на, з 6.1.1965 г. ў сучасных межах. На Пд мяжуе з Драгічынскім, на ПдЗ — з Кобрынскім, на З і ПнЗ — Пружанскім, на Пн і ПнУ — Івацэвіцкім, на У — з Іванаўскім р-намі Брэсцкай вобл. Цэнтр раёна — г. Бяроза. Пл. — 1412 км$^2$. Насельніцтва 71 065 чал. (2005). Уключае гарады Бяроза і Белаазерск, 110 сельскіх населеных пунктаў, падзелены на 13 сельсаветаў: Боркаўскі, Бярозаўскі, Здзітаўскі, Малецкі, Міжлескі, Нарутавіцкі, Першамайскі, Пескаўскі, Сакалоўскі, Сігневіцкі, Спораўскі, Стрыгінскі, Сялецкі. Праходзяць чыгунка і аўтамагістраль Брэст — Мінск. Паверхня тэр. р-на — плоская забалочаная раўніна з агульным нахілам з ПнЗ на ПдУ. Пераважаюць вышыні 150—160 м (64% тэр.). Карысныя выкапні — торф, крэйда, сілікатныя і будаўнічыя пяскі, пясчана-гравійныя матэрыялы, гліны. Цячэ р. Ясельда з прытокамі Вінец, Жыгулянка. На тэр. раёна азёры Чорнае, Белае, Спораўскае, вадасховішча Сялец, рэсп. біялагічны заказнік Спораўскі і заказнік Буслаўка (абодва часткова). Лясы займаюць 22% тэрыторыі, с.-г. ўгоддзі — 46%.

У эканоміцы раёна пераважае с.-г. вытв-сць, яе асн. напрамкі — мяса-малочная жывёлагадоўля, буракаводства, вытв-сць збожжа і бульбы. Пл. с.-г. угоддзяў раёна 56,6 тыс. га. Найбольш значныя прам. прадпрыемствы сканцэнтраваны ў Бярозе і Белаазерску, у тым ліку Бярозаўская ДРЭС, дзейнічаюць прадпрыемствы металаапрацоўчай і харч. прам-сці, вытв-сці будматэрыялаў. У сістэме аховы здароўя раённая бальніца (330 ложкаў) у Бярозе, Белаазерская гар. бальніца (215 ложкаў), 3 сельскія ўчастковыя бальніцы, 2 урачэбныя амбулаторыі, 26 фельч.-акушэрскіх пунктаў. На тэр. р-на 20 сярэдніх, 7 базавых, 5 пач. школ, 5 школ-садоў, гімназія, санаторная школа-інтэрнат, прафес.-тэхн. вучылішча і каледж, 3 дзіцячаюнацкія спарт. і 6 муз. школ, 10 пазашкольных і 27 дашкольных устаноў. Дзейнічаюць 38 дамоў культуры, 44 б-кі, 10 спарт. клубаў, больш за 260 калектываў і гуртоў мастацкай самадзейнасці, 21 калектыў мае званне народнага. Існуюць 29 абшчын чатырох веравызнанняў, у тым ліку 14 праваслаўных, 4 каталіцкія, пры 9 цэрквах і 3 касцёлах дзейнічаюць нядзельныя школы.

У в. Здзітава на месцы баёў у 1944 г. партызан з ням.-фаш. захопнікамі створаны ў 1975 г. мемарыяльны комплекс «Здзітаўская абарона». Каля чыг. ст. Бронная Гара знаходзіцца месца масавага знішчэння акупантамі мірнага насельніцтва. Захаваліся помнікі архітэктуры: царква Маці Божай у в. Сакалова (сярэдзіна 19 ст.), касцёл у в. Сігневічы (1795), Троіцкая царква (1827) і сядзіба (2-я пал. 18 — пач. 19 ст.) у в. Новыя Пескі, царква Іаана Багаслова ў в. Стрыгінь (1817), Успенская царква (1863—70) і касцёл (1912) у в. Сялец, Мікалаеўская царква ў в. Чарнякава (1825). Найбольш значныя археал.


Уязны знак у г. Бяроза.

помнікі каля вёсак Высокае, Здзітава, Сporава. У 1987 г. выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» выдадзена кніга гісторыка-дакум. хронік «Памяць» Бярозаўскага р-на. Выдаецца раённая газ. «Маяк» (тыраж 9 тыс. экз.).

**БЯРОЗА** – горад ( да 1940 Бяроза-Картузская, Картуз-Бяроза), цэнтр раёна. За 102 км на ПнУ ад Брэста, на шашы Брэст—Мінск, за 6 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская на лініі Брэст—Мінск. Насельніцтва — 25 тыс. чал. (2005).

Упершыню згадваецца ў 1477 г. як вёска Сялецкай вол. Слонімскага пав. ВКЛ, з 1521 г. ў Кобрынскім пав. У 1563 г. сяло, з 1629 г. мястэчка. У 1477 г. Ян Гамшэй са сваей жонкай Барбарай заснаваў у Бярозе касцёл Св. Тройцы. У 1611 г. Гамшэй прадаў Бярозу Льву Сапегу, канцлеру ВКЛ, які ў 1614 г. прадаў сяло харунжаму Марціну Німеіру, але той, займеўшы вялікія даўгі, аддаў сяло мясц. яўрэям. Аднак Сапега выкупіў распіскі Німеіра. Мястэчка мела прывілеі ад вял. кн. літоўскага і караля польскага Жыгімонта І, адбываліся штотыднёвыя таргі. Пасля смерці Сапегі ў 1633 г. Бяроза перайшла да яго сына Яна Сапегі, маршалка ВКЛ, наступным уладальнікам стаў Казімір Леў Сапега. У 1632 г. быў пабудаваны новы касцёл, а ў 1648 г. пачалося (завершанае ў 1689) узвядзенне кляштара ордэна картэзіянцаў (або

Руіны Бярозаўскага кляштара картэзіянцаў 17 ст.





картузаў, ад гэтага і пайшла назва Картуз-Бяроза, ці Бяроза-Картузская). Кляштар валодаў значным зямельным надзелам, меў ва ўласнасці 800 сял. двароў, ператварыўшыся ў горадаўтваральнае ядро Бярозы. Акрамя таго, у 1648 г. Сапегі перадалі кляштару шэраг сваіх уладанняў — 2 вёскі і мяст. Бусяж, у 1655 г. ва ўласнасць кляштара перайшлі яшчэ 2 фальваркі (у тым ліку Лявошкі) і 4 маёнткі. У 1672 г. Хрысціна Высокінская завяшчала кляштаруназаўсёды 3 валокі зямлі ў Здзітаве, у 1678 г. віцебскі стольнік Андрэй Урсін Нямцэвіч — фальварак Шылінок з в. Ястрам, у 1774 г. ротмістр Пётра Сербіеўскі — фальварак. У 17—18 ст. кляштар валодаў аўстэрыяй (заезным домам) і 7 корчмамі з гадавым прыбыткам 8566 злотых. Манастыр славіўся перапісчыкамі кніг, яго бібліятэка мела 39 рукапісных кніг, у тым ліку 11 псалтыроў, і 2314 друкаваных тамоў. У Паўн. вайну 1700—21 гг. шведскія войскі зруйнавалі Бярозу, пацярпеў і кляштар. У ім у 1706 г. Пётр І сустракаўся з польскім каралём Аўгустам II. У 1772 г. ўзведзена з цэглы Петрапаўлаўская царква (напярэдадні 1-й сусвет-



най вайны перабудавана, захавалася, помнік архітэктуры). У 1784—91 гг пры кляштары дзейнічала прыходская школа (36 вучняў). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, мястэчка Пружанскага пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губ. Кляштар перайшоў у падпарадкаванне Луцка-Брэсцкага каталіцкага епіскапа, з 1798 г. ў складзе Віленскай дыяцэзіі. У час вайны 1812 г. французы разрабавалі мястэчка і кляштар, страты якога склалі 36 717 рублёў. У 1819 г. польскі пісьменнік і публіцыст Юльян Нямцэвіч апісаў Бярозу ў сваёй кн. «Падрожжа да Літвы». У 1824 г. ў мястэчку пражывалі 601 мешчанін (130 дамоў) і 256 яўрэяў (20 дамоў), меліся кляштар, 2 царквы, 16 мастоў, ф-ка, рынак, 4 крамы, 8 піцейных дамоў, багадзельня на 12 душ. За ўдзел манахаў у паўстанні кляштар 28.8.1831 г. зачынены царскімі ўладамі, уладанні і маёмасць канфіскаваны (пабудовы ў 1832 перайшлі ваенным, у 1866 разабраны), касцёл пераўтвораны ў парафіяльны, частку маёмасці перадалі Полацкаму кадэцкаму корпусу. У 1833 г ў мястэчку 204 драўляныя дамы, 1174 жыхары, працавалі 36 дробных гандл. крам, суконная (каля 10 тыс. аршын сукна штогод) і 2 гарбарныя (да 25 тыс. скур штогод) мануфактуры, адбывалася 8 кірмашоў штогод. У 1834 г. ў Бярозе некаторы час жыў будучы рэвалюцыянер-народнік Міхаіл Бакунін. У 1863 г. жыхары падтрымалі паўстанцаў, 14 мая тут адбыліся сутыкненні з царскімі войскамі. У 1864 г. ў Бярозе 1223 жыхары, дзейнічала створанае пасля адмены прыгону Бярозаўскае сялянскае т-ва. З 1866 г. ў мястэчку размяшчаўся 151-ы Пяцігорскі пях. полк. У 1886 г. 101 двор, 1222 жыхары (1100 мяшчан), валасное праўленне, царква, капліца, 6 яўр. малітоўных дамоў, пач. школа, паштовая станцыя, паравы, ветраны і конны млыны, 15 піцейных дамоў, кірмаш. Бярозаўская вол. у 1890 г. налічвала 42 паселішчы, 582 двары, 7768 жыхароў; 333 несялянскія дамы. Паводле перапісу 1897 г. ў Бярозе былі 364 мяшчанскія і 286 сял. дамоў, 2606 мяшчан і 1855 сялян (на тэр. 151-га Пяцігорскага палка было 18 будынкаў, размяшчаліся 2273 чал., меўся лазарэт), дзейнічалі 2 царквы (прыходская і на могілках), капліца, 5 яўр. малітоўных дамоў, яўр. багадзельня, нар. вучылішча, валасное праўленне, паштова-тэлегр. аддзяленне, хлебазапасны магазін. Працавалі маслабойны з-д, паравы і 5 ветраных млыноў, 7 кузняў, 61 крама (у тым ліку 4 з «крас-



*Петрапаўлаўская царква ў г.Бяроза.*



*Панарама г. Бяроза.*



Плошча Леніна ў г. Бяроза.



Помнік вязням Бяроза-Картузскага канцлагера ў г. Бяроза.

ным» таварам, 1 — жалезных, 1 — суконных тавараў, астатнія малочныя), 12 піцейных дамоў, штогод адбывалася 8 кірмашоў. У Бярозе нарадзіўся П.В.Горын-Каляда (1900—37), бел. гісторык, дзярж. дзеяч, акадэмік АН БССР (1931), доктар гіст. навук (1934), прэзідэнт АН БССР (1931—34). Адна з вуліц горада сёння носіць імя яшчэ аднаго земляка — А.А. Альшэўскага (1904—37), дзеяча рэв. руху ў Зах. Беларусі (парт. псеўданім Юрка Пружанскі), публіцыста. У 1905 г. 1910 жыхароў (разам са 151-м палком 4,2 тыс. чал.). У час рэвалюцыі 1905—07 гг. у мястэчку і воласці адбываліся хваляванні. 21.8.1905 г. прайшла дэманстрацыя, пасля забастоўкі 1.5.1906 г. адбылася хваля сял. бунтаў, для падаўлення якіх прыцягваліся войскі. У 151-м палку дзейнічала ваенна-рэв. арг-цыя РСДРП, папулярнасцю карысталіся сатырычныя лістоўкі Карпа Хвядчэні. У 1908—15 гг. даваў спектаклі аматарскі



Будынак Бярозаўскага раённага выканаўчага камітэта.

драматычны гурток. У 1914 г., напярэдадні 1-й сусветнай вайны, у Бярозе дзейнічалі 19 дробных прадпрыемстваў (65 рабочых), у тым ліку гарбарны (7), па ачыстцы крэйды (8), 2 лесапільныя (14 рабочых) з-ды.

У 1915 г. мястэчка акупіравана герм. войскамі. Летам 1918 г., у перыяд існавання ўкр. ўрада гетмана Скарападскага (які падтрымлівалі немцы), Бяроза непрацяглы час была цэнтрам павета Холмскай губ. У ходзе адступлення герм. войск усх. частка сучаснай тэр. раёна была занята Чырвонай Арміяй. Менавіта каля Бярозы 14.2.1919 г. адбылося першае сур'ёзнае сутыкненне польскіх і сав. войск у сав.-польскай вайне 1919—20 гг. З канца лют. 1919 г. мястэчка акупіравана польскімі войскамі, уваходзіла ў Пружанскі пав. Брэсцкай акругі. У ліп. 1920 г. ў ходзе контрнаступлення Чырв. Арміі Бяроза была вызвалена. У баях вызначыліся 10-я сав. Армія пад камандаваннем А.Э. Даўмана (адзначаны ордэнам Чырвонага Сцяга) і 28-я стралк. брыгада пад камандаваннем А.І.Чарапанава. У Бярозе і воласці была ўсталявана сав. ўлада. Ураджэнцы Бярозы — П.Горын-Каляда і А.Альшэўскі сталі членамі Пружанскага рэўкома. Аднак 27.8.1920 г. ў мястэчка зноў увайшлі польскія войскі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. яно адышло на польскі бок, стаўшы цэнтрам Бяроза-Картузскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв. (17.2.1932 гміна скасавана, яе тэрыторыя падзелена паміж Малецкай, Сігневіцкай гмінамі). У







*Забудова мікрараёна Паўночны гарадок у г. Бяроза.*

*Бярозаўскі гарадскі Дом культуры.*

1923 г. ў Бярозе-Картузскай былі створаны падп. райком КПЗБ, камсамольская арг-цыя (у сучаснай Бярозе адна з вуліц носіць імя І.М.Хвядчэні, удзельніка рэв. руху ў Зах. Беларусі, ураджэнца в. Сашыца). У 1930-я г. ў мястэчку дзейнічалі цагельны з-д і нар. школа.

«Для ізаляцыі» камуністаў і іншых левых элементаў 17.6.1934 г. польскі ўрад стварыў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. За 5 гадоў праз яго прайшло больш як 10 тыс. вязняў. Сярод іх быў Ю.Нядзельскі, прафс. лідэр з фабрыкі Клеймана ў Лодзі (памёр у лагеры 1.4.1938, у 1977 на яго магіле ўстаноўлена стэла). Вязнямі лагера былі таксама ўкр. паэт А.Гаўрылюк, які напісаў паэму «Песня з Бярозы» (1937), а пазней аповесць «Бяроза» (1941); польскі пісьменнік М.Мірскі, які стварыў дакум. аповесць «Бягом марш»; літаратуразнавец Я.Шутовіч, публіцыст Сяргей Сіняк (Хмара), польскі паэт і перакладчык Л.Пастарнак. У.Паўлюкоўскі пакінуў успаміны «Арышты: Бяроза і воля» (1939), паэт Алесь Сучок (П.Дабрыян) пад уражаннем ад праведзеных у зняволенні дзён, стварыў вершы «У Картуз-Бярозе», «Ой ты, маці, не сумуй». У 1962 г. ўстаноўлены помнік вязням б. канцлагера (рэстаўрыраваны ў 1996).

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр раёна Брэсцкай вобл., 5 тыс. жыхароў, 832 двары. Былі створаны прамкамбінат па вырабе мэблі, калёсаў, пашыву адзення, прадпрыемства безалкагольных напояў, МТС, адчыніліся амбулаторыя, раённая бальніца на 50 ложкаў, аптэка, ветэрынарны пункт, Дом культуры з кінаўстаноўкай і бібліятэкай, 7-гадовая бел. і яўрэйская школы, хата-чытальня, працавалі кравецкая, шавецкая і рымарская арцелі, лазня, 3 паравыя млыны, смалярня, 2 лесапілкі, 3 цагельні, пошта, цырульня, электрастанцыя магутнасцю 60 кВт.

У першыя дні вайны ў раёне Бярозы разгарэліся жорсткія паветраныя баі. Лётчыкі 97-га, 121-га, 125-га, 162-га, 207-га і 212-га бамбардзіровачных авіяпалкоў нанеслі значны ўрон наземным войскам праціўніка. Дзейнічаючы без падтрымкі знішчальнікаў, 24—25.6.1941 г. яны збілі больш як 10 варожых самалётаў, але і самі панеслі вялікія страты. У памяць аб подзвігу лётчыкаў у 1974 г. быў устаноўлены помнік — самалёт на пастаменце. Бяроза была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі 23.6.1941 г. Тэрыторыю колішняга картэзіянскага кляшта-




*Гарадскі парк у г. Бяроза.*



*Будынак Бярозаўскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

ра яныператварылі ў адно з месцаў расстрэлу сав. грамадзян, дзе знішчылі больш як 4,5 тыс. чал. У 1965 г. на брацкай магіле ахвяр фашызму быў устаноўлены помнік. У 1967 г. ўстаноўлены абеліск на магіле, дзе пахаваны члены 14 сямей арганізатараў першага ў раёне калгаса і жыхары в. Осаўцы, расстраляныя фашыстамі каля кляштара ў 1942 г. У 1978 г. ўстаноўлены абеліск на магіле, дзе пахаваны 96 жыхароў вёсак Алёхнавічы, Лукомер, Міхнавічы, Сасноўка, расстраляныя ў 1942 г. Імёны многіх з тых, хто загінуў ад рук акупантаў, засталіся невядомымі. Большая частка яўр. насельніцтва Бярозы была расстраляна на «фабрыцы смерці» ва ўрочышчы Бронная Гара, астатнія знішчаны ў гета разам з сем'ямі сав. камандзіраў, парт. і сав. работнікаў, якія не паспелі эвакуіравацца. Вядомы імёны толькі 48 жыхароў горада, загубленых акупантамі, і 50 воінаў-землякоў, якія загінулі на франтах вайны. Бяроза вызвалена 16.7.1944 г. ў ходзе 2-га этапу Бел. аперацыі 48-й гв. дывізіяй (яе камандзір Г.М.Корчыкаў у 1972 стаў ганаровым грамадзянінам горада) 20-га стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту. Пры абароне і вызваленні горада загінулі больш як 260 сав. воінаў і партызан. На іх брацкай магіле ў 1953 г. ўстаноўлены помнік — скульптура воіна і запалены Вечны агонь. У Бярозе ёсць вуліцы, названыя імёнамі капітана П.С.Грыгарэнкі, які гераічна загінуў у баях за вызваленне горада 14.7.1944 г., ураджэнца в. Старыя Пескі ген.-лейт. С.І.Любарскага, загінуўшага 16.4.1945 г. на пераправе цераз р. Нейсе (Ныса) у Германіі (цяпер тэр. Польшчы), а таксама аднаго з арганізатараў партыз. руху ў Магілёўскай і Брэсцкай абласцях С.А. Яроцкага.

*Адзін з цэхаў Бярозаўскага маторарамонтнага завода.*



Пасля вызвалення ў 1944 г. пачалі працаваць малочны і лесаперапрацоўчы з-ды, райпрамкамбінат, друкарня раённай газ. «Маяк камунізму», пошта, у 1945 г. — паравы млын, пякарня, тарфяны, цагельны і бетонны з-ды, з-д па вырабе скур, МТС (з 1958 — РТС, з 1960 — РТМС), гаркамунгас, шэраг майстэрняў, атэлье і асобных цэхаў. У 1950 г. 5150 жыхароў, 753 жылыя дамы, 61 барак. Паводле перапісу 1959 г. ў горадзе пражывала 5,6 тыс. чал. У канцы 1950-х г. быў распрацаваны першы пасляваенны ген. план забудовы горада. У 1958 г. створана аўтабаза (з 1987 аўтапарк) № 8, кантора «Гаргаз» (цяпер МПУ «Бярозаміжрайгаз», які абслугоўвае Бярозаўскі і Драгічынскі р-ны). У 1957 г. шляхам аб'яднання калгасаў «Камсамолец», імя Дзімітрава і «Чырвоны прамень» быў створаны калгас «Прамень» (з 1967 — племянная гаспадарка, з 1973 — племзавод з цэнтрам у Б., з 1983 у складзе НВА «Белплемжываб'яднанне»). У 1961 г. засн. краязнаўчы музей (адкрыты 3.11.1965). У 1963 г. адкрыўся філіял Брэсцкай аўташколы ДТСААФ (у 1973 пераўтвораны ў спартыўна-тэхн.







*Будынак аддзялення «Белаграпрамбанка» ў г. Бяроза.*

*Бярозаўскі сыраробчы камбінат.*

клуб). У 1961 г. на базе РТМС было створана раённае аб'яднанне «Сельгастэхніка» (з 1986 «Бярозаўская райаграпрамтэхніка»), у 1965 г. на базе рамонтных майстэрняў «Сельгастэхнікі» засн. маторарамонтны з-д (у 1998 — 470 рабочых). У 1965—67 гг. уведзены ў эксплуатацыю масласырзавод. У 1966 г. БУ-1, пераўтваранае ў ПМК-43, увайшло ў склад трэста «Брэстсельбуд» (з 1986 — МПМК-4 аб'яднання «Брэстаблсельбуд», з 1996 — ПМК-4), заснаваны Бярозаўскі гасп.-разліковы ўчастак Баранавіцкага ўпраўлення мантажных і спец. работ (с 1972 — СПМК—113, з 1986 — СПМК-9). З 1967 г. працуе камбінат будматэрыялаў (сёння — РУП «Бярозабудматэрыялы»), з 1969 г. — з-д жалезабетонных вырабаў. У 1971 г. прыняло першых навучэнцаў ПТВ-109 будаўнікоў. З 1972 г. дзейнічае ветэрынарна-санітарны утылізацыйны з-д («Ветсанутыль»), пачалося будаўніцтва мясакансервавага камбіната. У 1977 г. было заснавана прадпрыемства «Бярозабуд», утвораны гасп.-разліковы ўчастак № 2 па механізацыі і спецработам трэста «Брэстсаўгасбуд» (з 1978 — БМУ, з 1981 — СПМК-56). У 1979 г. з «Райсельгастэхнікі» вылучылася ў самастойнае прадпрыемства раённае вытв. аб'яднанне «Сельгасхімія». У 1981 г. створана аўтабаза № 29 (з 1986 міжраённае аўтатранспартнае прадпрыемства, з 1988 аўтатранспартнае прадпрыемства № 2, з 1996 — адкрытае акц. т-ва «Бярозаўскае аўтатранспартнае прадпрыемства»).

28.12.1981 г. аблвыканком уключыў у гар. межы Б. пасёлкі ПТВ-109, ПМК-43, племсаўгаса «Прамень», 17.8.1987 г. — в. Самойлавічы. У 1984 г. ў Бярозе дзейнічалі з-ды маторарамонтны і жалезабетонных вырабаў, камбінаты сельскі домабудаўнічы і будматэрыялаў, Новабярозаўскі вапнавы з-д (в. Самойлавічы), масласырзавод, мясакансервавы камбінат, хлебазавод, з-д «Ветсанутыль» (выт-сць касцяной мукі, кармавых тлушчаў і інш.), выт. ўчастак Пінскага вінзавода, камбінат быт. абслугоўвання. Працавалі ПТВ-109, 2 сярэднія (у наступныя гады адкрыліся яшчэ 2), муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, міжшкольны вучэбна-вытв. камбінат, Дом піянераў і школьнікаў, 7 дашкольных устаноў, 2 б-кі, бальніца і паліклініка.

У 1990 г. засн. камбінат сілікатных вырабаў (на базе Новабярозаўскага вапнавага з-да і недабудаванага з-да сценавых блокаў). У 1992 г. на базе ўчас-

*Комплекс будынкаў Бярозаўскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання.*





*Бярозаўскі краявід.*

тка СПМК-7 утворана СРМК-22 упраўлення «Брэстаблбуд». У 1995 г. заснаваны вытворча-гандлёвыя закрытае акц. т-ва «Бярозагазаўтасэрвіс» і прадпрыемства «Палессе», камерцыйныя фірмы «Прамень» і «Будаўтаторгцэнтр». На беразе Ясельды створана зона адпачынку. У 1993 г. на ўшанаванне памяці 10 ураджэнцаў Бярозаўскага р-на, якія загінулі ў Афганістане, адкрыты помнік воінам-інтэрнацыяналістам (аўтар праекта С.Казак, скульптар А.Паўлючык), імёнамі лейтэнанта І.У.Тышкевіча (загінуў 16.12.1985) і старшага лейтэнанта В.Х.Галаўко (загінуў у 1987) у Бярозе названы вуліцы.

Існуюць грамадскія музеі баявой і прац. славы на Бярозаўскай ДРЭС (з 1989), маторарамонтным з-де (з 1990), гісторыка-краязнаўчыя ў СШ № 3 і ПТВ-109. Працуе раённы гісторыка-краязнаўчы музей. У 1967 г. пры рэдакцыі раённай газеты было створана літаратурнае аб'яднанне «Крыніца», праз якое ў розныя гады прайшлі вядомыя сёння пісьменнікі і журналісты — С.Алексіевіч, Р.Баравікова, М.Вышынскі, З.Дудзюк, А.Казловіч, Н.Мацяш і іншыя.

*Зала рамёстваў Бярозаўскага гісторыка-краязнаўчага музея.*



**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Сакалоўскім с/с, за 13 км ад Бярозы, 19 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 173 двары, 352 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 366 жыхароў, царк.-прыходская школа і кузня. Сяляне ўваходзілі ў Сакалоўскае сельскае т-ва. З 1905 г. вёска ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 392 жыхары. З 1915 г. акупіравана ням. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. На 1924 г. ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 86 будынкаў, 445 жыхароў. У 1920-я г. былі створаны ячэйка КПЗБ, камсамольская арг-цыя, гурток Бел. сялянска-работніцкай грамады. 17.9.1939 г. была створана баявая група вяскоўцаў, якая раззбройвала паліцэйскіх і асаднікаў.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Сакалоўскім с/с Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл., 138 двароў, 593 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партыз. атрад Ю.А.Бярэнчыка ў кастр. 1942 г. разграміў у вёсцы апорны пункт праціўніка. У гонар партыз. атрада, які пазней увайшоў у склад партыз. брыгады імя Свярдлова, на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На ўшанаванне памяці 91 земляка, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск. За гады вайны загінулі 23 жыхары, не вярнуліся з фронту 25 воінаў-землякоў. У 1950 г. створаны калгас «33-я гадавіна Кастрычніка», першым старшынёй клгаса стаў С.А.Труцько (1896—1966), мясцовы ўраджэнец, у 1920-я г. кіраўнік ячэйкі КПЗБ, у яго гонар названа вуліца ў в. Сакалова. У далейшым калгас быў узбуйнены, вёска стала яго цэнтр. сядзібай. Паводле перапісу 1959 г. 189



двароў, 716 жыхароў. У 1970 г. 754 жыхары. Дзейнічала сярэдняя школа. Планіровачна складаецца з двухбакова забудаванай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да яе ў паўн. частцы прымыкае яшчэ адна вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаюцца некалькі ўчасткаў забудовы, злучаных завулкамі і аўтадарогай.

**АЛЁХНАВІЧЫ** — вёска ў Малецкім с/с, за 27 км ад Бярозы, 19 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 17 двароў, 23 жыхары (2005).

Вядомы як Аляхновічы ў 1563 г. ў Дабучынскай вол., Пружанскага пав., у Кобрынскай эканоміі, у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Кабацкага. У 1716 г. ў складзе войтаўства Блудзенскае Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, падаравана Кацярынай II нашчадкам ген.-фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1864 г. ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 105 сялян-уладальнікаў, 113 працоўных уваходзілі ў Аляхновіцкае сельскае т-ва і апрацоўвалі 512 дзес. зямлі зручнай; у 1890 г. таварыству належалі 549 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 56 двароў, 336 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 366 жыхароў. З 1915 г. акупіравана нямецкімі войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. У ліп.—жн. 1920 г. на кароткі час устаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшы, у 1924 г. ў Малевіцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 31 будынак, 154 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 11 жыхароў вёскі, з фронту не вярнуліся 10 воінаў-землякоў. З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1970 г. ў саўгасе «Малеч», 167 жыхароў. Планіровачна складаецца з двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У.



*Калона-капліца каля в. Альшэва.*

**АЛЬШЭВА** — вёска ў Белаазерскім с/с, за 26 км ад Бярозы, за 3,5 км ад чыг. ст. Белаазерск. 31 двор, 56 жыхароў (2005).

У канцы 18 — пач. 19 ст. ўрочышча ва ўладанні Войцеха Пуслоўскага. У 1809 г. пабудаваны касцёл (захаваўся толькі фрагмент сцяны) з фамільным склепам Пуслоўскіх, потым цагляная вежа з дубовым крыжам паблізу Альшэва, дзе знаходзіўся гасп. двор. У касцёле захоўваўся рарытэтны збор абразоў (вядомы па фотаздымках 1927). У фамільным склепе быў пахаваны Францішак-Ксаверы Друцкі-Любецкі, (1778—1846), брат жонкі Войцеха, удзельнік італьянскага паходу А.Суворава (1799), міністр Царства Польскага, прах якога быў перавезены з Пецярбургу. У канцы 19 ст. ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча Альшэўка ва ўладанні Пуслоўскага (3 двары, 27 жыхароў, піцейны дом), сядзіба прыходскага свяшчэнніка, на якой знаходзілася царква і дзейнічала царк. школа (у асобным будынку). Паселішча межавала з фальваркам Чэшнікі (2 двары, 5 жыха-

роў). У 1905 г. сяло, 40 жыхароў, дзейнічала царква. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. — войскамі Польшчы. У ліп.—жн. 1920 г. на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. — у складзе Польшчы, з 1924 г. ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 6 будынкаў, 41 жыхар.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Альшэўскім с/с Бярозаўскага р-на, 7 двароў, 48 жыхароў. У той час у сельсавеце працавалі 2 няпоўныя сярэднія школы, саматужны цагельны з-д, хата-чытальня, магазін. У чэрв. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16.7.1954 г. сельсавет перайменаваны ў Ніўкаўскі (цэнтр — в. Ніўкі). Паводле перапісу 1959 г. 12 двароў, 60 жыхароў. З 12.1.1960 г. ў Белаазерскім сельскім (з 25.6.1960 г. пасялковым) савеце, з 22.1. 1963 г. ў складзе Здітаўскага с/с, з 7.10.1968 г. ў Белаазерскім пас. савеце, з 15.9.1971 г. ў Белаазерскім с/с. Паводле перапісу 1970 г. 114 жыхароў, птушкаферма, саўгас «Альшэўскі». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх паралельных вуліц, арыентаваных з Пн на Пд, да якіх Т-падобна прымыкае з У яшчэ адна вуліца. Паміж вёскай і Белаазерскім энергамеханічным з-дам знаходзіцца помнік-абеліск. Паводле розных звестак, помнік пастаўлены на месцы пахавання шведаў, якія загінулі ў час Паўн. вайны 1700—21 гг., ці французаў, якія загінулі ў 1812 г. Па іншых звестках, адкрыты ў 1912 г. ў гонар 100-годдзя перамогі ў Айч. вайне 1812 г.

**АНІЦАВІЧЫ** — вёска ў Нарутавіцкім с/с, за 13,5 км ад Бярозы, 10 км ад цэнтра сельсавета, 8 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 31 двор, 54 жыхары (2005).

У 1864 г. ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У Аніцавіцкае сельскае т-ва ўваходзіла 96 сялян-уладальнікаў, працаўнікоў, якія выкарыстоўвалі 200 дзес. зручнай і 5 дзес. нязручнай зямлі. У 1890 г. т-ву належалі 453 дзес. сялянскай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол., 49 двароў, 297 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 221 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. — войскамі Польшчы. У ліп.—жн. 1920 г. на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, з 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 16 двароў, 78 жыхароў.

З 1939 г. у БССР, з 1940 г. вёска ў Блудзенскім с/с, 47 двароў, 315 жыхароў, быў створаны мясцовы калгас. У 1941— 44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 16 жыхароў вёскі, з фронту не вярнуліся 9 воінаў-землякоў. У 1959 г. 20 двароў, 81 жыхар. З 1964 г. ў складзе Асавецкага (з 1977 Нарутавіцкі) с/с. Паводле перапісу 1970 г. ў калгасе «Кастрычнік», 198 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з няшчыльнай двухбаковай забудовай, арыентаванай з З на У.

**АСЕКА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 19 км ад Бярозы, 15 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 8 двароў, 20 жыхароў (2005).

У 1864 г. вядома пад назвай Асіўкі ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Жыхары ўваходзілі ў Зубачаўскае сельскае т-ва, якое разам з жыхарамі в. Зубач налічвала 74 душы сялян-уладальнікаў, 78 працаўнікоў, выкарыстоўвалася 208 дзес. зручнай і 5 дзес. нязручнай зямлі. У канцы 19 ст. ў Сялецкай вол. У 1890 г. Зубацкаму (Зубачаўскаму) сельскаму т-ву належалі 82 дзес. сялянскай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 94 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Вёска межавала з выселкам, які належаў В.К. Курыевічу (1 двор, 7 жыхароў), яго ж маёнткам (1 двор, 11 жыхароў) і маёнткам Ф.Ф.Стыцкага (1 двор, 5 жыхароў) пад той жа назвай. У 1905 г. ў вёсцы 104 жыхары, у маёнтку 7 жыхароў, у другім маёнтку 5 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. У ліп.—жн. 1920 г. на кароткі час уста-



ноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 17 будынкаў, 78 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Сашыцкім с/с, 19 двароў, 110 жыхароў. У 1941—44 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 воінаў-землякоў. З 16.7.1954 г. ў Сялецкім с/с. У 1959 г. 26 двароў, 93 жыхары. Паводле перапісу 1970 г. ў калгасе «Усход», 219 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы з двухбаковай забудовай, арыентаванай з Пн на Пд.

**БАРМУТЫ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 15 км ад Бярозы, 13 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 17 двароў, 26 жыхароў (2005).

Узгадваецца пад назвай Бармутовічы ў 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага. У канцы 19 ст. ў Равяціцкай воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Вяскоўцы былі аб'яднаны ў Бармуцкае сельскае т-ва і ў 1890 г. апрацоўвалі 500 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 336 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 204 жыхары. У 1911 г. тут нарадзіўся М.Я.Вячорка, грамадскі дзеяч, вязень канцлагера Картуз-Бяроза, дзе быў закатаваны. Абеліск на яго магіле пастаўлены ў 1948 г. (па іншых звестках, у 1958). З 1915 г. вёска акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшы. У ліп.—жн.1920 на кароткі час устаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1924 г. вёска ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 26 будынкаў, 179 жыхароў. У сярэдзіне 1920-х г. у ёй былі створаны камсамольская арг-цыя, гурток «Грамады». 27.2. 1932 г. далучана да Малецкай гміны.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Равяціцкім с/с, 75 двароў, 405 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі пахаваны сав. грамадзяне, якіх загубілі фаш. акупанты ў 1942—44 гг.; на іх магіле ў 1967 г. пастаўлены абеліск. Ад рук фашыстаў загінулі 26 жыхароў вёскі, не вярнуліся з фронту 13 воінаў-землякоў. З 16.7. 1954 г. ў Сігневіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 79 двароў, 262 жыхары. У 1970 г. 175 жыхароў, у калгасе «Запаветы Леніна». Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з двухбаковай забудовай, арыентаванай з Пн на Пд.

**БАТАРЭЯ** — вёска ў Міжлескім с/с, за 22 км ад Бярозы, 27 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 50 двароў, 88 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. пасёлак у Мацвеевіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 1 двор, 6 жыхароў, якія ўваходзілі ў Стаўскае сельскае т-ва. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. У ліп.—жн. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. 5.1.1926 г. са скасаванай Чарнякаўскай гміны далучана да Мацвеевіцкай гміны, якая перайменавана ў Міжлескую гміну, а 27.2. 1932 г. ліквідавана, вёска была далучана да Сігневіцкай гміны.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Міжлескім с/с, 101 двор, 228 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 воінаў-землякоў, акупанты загубілі 7 жыхароў вёскі. 31.3.1944 г. каля вёскі загінуў камандзір партыз. атрада імя Пажарскага А.І.Калупаеў, у яго гонар атрад перайменаваны ў імя Калупаева, яго імем названа вуліца ў в. Спорава. У кастр. 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Чырвоная Батарэя», які ў лютым 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Новы шлях». У 1970 г. ў калгасе «Новы шлях», 320 жыхароў. Планіровачна складаецца з асн. вуліцы, з няшчыльнай, пераважна аднабаковай забудовай, арыентаванай з У на З, да якой з Пн і Пд далучаюцца 2 кароткія завулкі.

**БЕЛААЗЕРСК** — горад раённага падпарадкавання, цэнтр Белаазерскага с/с, за



*Царква святога Серафіма Сароўскага ў г. Белаазёрск.*

27 км ад Бярозы, 131 км ад Брэста, чыг. ст. Белаазерск, 33 км ад чыг. станцыі Бяроза-Картузская на лініі Брэст—Мінск. 12 984 жыхары (2006).

Узнік у 1958 г. на месцы в. Ніўкі ў сувязі з будаўніцтвам Бярозаўскай ДРЭС. Першы прамысловы ток станцыя дала ў 1961 г. Магутнасць 920 тыс. кВт. У 1967 г. пушчаны апошні 6-ы блок (на пач. 1970-х г. ДРЭС выпрацоўвала 22,96 млрд. кВт·гадз.). З 12.1.1960 г. р.п. Бярозаўскі, цэнтр Бярозаўскага пас. Савета. Сюды былі пракладзены шаша ад Бярозы, чыг. лінія да станцыі Бронная Гара. З 25.6.1960 г. р.п. Белаазерск, цэнтр Беаазерскага пас. Савета. З 15.1. 1963 г. пасёлак абласнога, з 27.1.1965 г. — раённага падпарадкавання. У 1962—63 гг. у сувязі з павелічэннем магутнасці ДРЭС праект забудовы пасёлка перапрацаваны ў бок значнага пашырэння яго межаў. У 1966 г. створана ПТВ-82. З 16.9.1970 г. — горад раённага падпарадкавання. У 1970 г. 3591 жыхар. 15.3.1971 г. створаны Белаазерскі с/с.

Дзейнічаюць Бярозаўская ДРЭС (другая па магутнасці пасля Лукомскай ДРЭС), энергамеханічны з-д, з-д ячэістага бетону, камбінаты быт. абслугоўвання і грамадскага харчавання, доследная рыбаводна-садковая гаспадарка, хлебазавод, фабрыка спарт. абутку (сумеснае бел.-іспанскае прадпрыемства «Белкельме», створана ў 1993, цяпер акц. т-ва), ПТВ-82 электрамеханікаў, 3 сярэднія і муз. школы, філіял Бярозаўскай дзіцяча-юнацкай спарт. школы, 5 дашкольных устаноў, Палац культуры энергетыкаў, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца (на 330 ложкаў), паліклініка, 2 б-кі, кінатэатр. У 1992—94 г. пабудавана царква ў гонар прападобнага Серафіма Сароўскага. За гады вайны загінулі 2 жыхары в. Ніўкі, якія ўдзельнічалі ў патрыят. падполлі; пры абароне і вызваленні вёскі — 13 чал. У цэнтры горада пахаваны 49 воінаў і партызан, у тым ліку 16 лётчыкаў 130-га хуткаснага, 207 і 212-га далёкага дзеяння бамбардзіровачных авіяпалкоў, якія 22.6. 1941 г. нанеслі ўдары па ням.-фаш. захопнікам ў раёне Бяла-Падляскі і загінулі. У 1973—74 г. астанкі лётчыкаў, воінаў і партызан перапахаваны ў Белаазерску. У 1976 г. на брацкай магіле пастаўлена стэла і запалены Вечны агонь. Імем удзельніка баёў М.Т.Бугаркова названа вуліца. На будаўніцтве ДРЭС і ў іншых месцах горада ў розныя гады працавалі вядомыя бел. пісьменнікі З.Дудзюк, Н.Мацяш, В.Супрунчук. Дакументальную аповесць «Белаазерскі дзённік» (1963) У.Дадзіёмаў прысвяціў будаўнікам Бярозаўскай ДРЭС. У гонар дырэктара Бярозаўскай ДРЭС у 1961—68 гг. У.М. Глінскага названа вуліца.

**БОРКІ** — вёска, цэнтр Боркаўскага с/с, за 23 км ад Бярозы, 28 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 110 двароў, 279 жыхароў (2005).

Згадваецца ў 1716 г. ў складзе войтаўства Блудзенскага Блудзенскага староства. У 1863 г. жыхары вёскі прымалі ўдзел у паўстанні супраць царызму, 10 кастр. адбыліся сутыкненні паўстанцаў з войскамі. У 1864 г. вёска ў Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай



губ. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 247 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 263 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. У ліп.—жн. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. Да 5.1.1926 г. ў Чарнякаўскай гміне, пасля яе скасавання далучана да Равяціцкай гміны, з 27.2.1932 г. ў Сігнявіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Пешкаўскім с/с, 50 двароў, 230 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў 1941—44 гг. загінулі 10 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск і пліты з імёнамі тых, хто загінуў. 16.7. 1954 г. Пешкаўскі с/с перайменаваны ў Боркаўскі і вёска стала яго цэнтрам. Паводле перапісу 1959 г. 63 гаспадаркі, 188 жыхароў. У 1960 г. ў складзе калгаса імя Чапаева, які аб'ядноўваў 7 вёсак, 517 двароў, у 1962 г. перайменаваны ў калгас «Боркі» з цэнтр. сядзібай у Борках (у 1998 ў склад калгаса ўваходзілі 5 вёсак з 630 жыхарамі, з іх працаздольных калгаснікаў было 195, дзейнічалі 4 фермы). Паводле перапісу 1970 г. 241 жыхар. У 1986 г. пры сярэдняй школе адкрыты грамадскі музей баявой і прац. славы. Дзейнічаюць сярэдняя школа, магазіны, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая. Планіровачна складаецца з трох паралельных, шчыльна забудаваных вуліц, злучаных завулкамі, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ.

**БРОННАЯ ГАРА** — пасёлак у Сакалоўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Бярозы, чыг. ст. на лініі Брэст—Баранавічы. 178 двароў, 996 жыхароў (2005).

Вядома ў 19 ст. У 1865 г. тут быў адкрыты смолашкіпінарны з-д. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з лютага 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. леснічоўка ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 4 будынкаі, 16 жыхароў. У 1930-я г. працаваў лесазавод.



*Помнік ахвярам фашызму каля в. Бронная Гара.*

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. ў Сакалоўскім с/с. У 1940 г. — леснічоўка, 30 двароў, 175 жыхароў, лесапілка. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі—ліст. 1942 г. ва ўрочышчы Бронная Гара гітлераўцы загубілі больш за 50 тыс. чал. У ліку ахвяр амаль усё насельніцтва Бярозы, грамадзяне некаторых еўрап. краін, каля тысячы жыхароў самой Броннай Гары, знішчаныя як непажаданыя сведкі. Каб схаваць сляды



*Узорны ансамбль «Бранагорскія лыжкарыкі» з в. Бронная Гара.*

сваіх злачынстваў, у сак. 1944 г. ням. карнікі прыгналі 100 вязняў, якія 2 тыдні раскопвалі і палілі трупы, а потым самі былі расстраляны і спалены. У 1978 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фаш. тэрору пастаўлены абеліск (адноўлены ў 1994). У наваколлі дзейнічалі партызаны. У гонар аперацыі «рэйкавая вайна», якую партызаны брыгад імя Свярдлова і Дзяржынскага правялі ў жн. 1943 г., на будынку чыг. станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1945 г. працавалі лесапілка, мэблевая арцель «Кастрычнік», з 1948 г. кузня. Паводле перапісу 1959 г. пасёлак, 173 гаспадаркі, 591 жыхар, на чыг. станцыі 1 будынак, 2 гаспадаркі, 7 жыхароў. У 1970 г. 247 двароў, 789 жыхароў. Працавалі мэблевы ўчастак Бярозаўскага з-да металаканструкцый, смолашкіпінарны з-д (засн. ў 1865), лясніцтва, сярэдняя і муз. школы, 2 клубы, 2 б-кі, дзіцячы сад і яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 3 магазіны Многія жыхары працавалі ў калгасе «33-я гадавіна Кастрычніка». У 1994 г. пабудаваны і ўведзены ў эксплуатацыю з-д «Гідрашклоізол» з вытв. магутнасцю 400 тыс. м² і гідрашклаізолу штогод — першая ў Беларусі вытворчасць бітумнапалімерных, дахавых і гідраізаляцыйных матэрыялаў. У 2005 г. сярэдняя школа, клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, 3 магазіны.

**БУХАЛІ** — вёска ў Малецкім с/с, за 28 км ад Бярозы, 22 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 2 двары, 3 жыхары (2005).

Узгадваецца ў 1856 г. як в. Бухалы ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Памешчыкам Васілеўскім у вёсцы належалі 11 душ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Сялецкай вол., 4 двары і 20 жыхароў, хлебазапасны магазін. Каля вёскі знаходзіліся аднайменныя маёнткі ва ўладанні Адама Барысаўскага (1 двор, 6 жыхароў), Леакадзіі Барысаўскай (1 двор, 9 жыхароў), Антона Андронаўскага (1 двор, 11 жыхароў) і Уладзіміра Фядота (2 двары, 7 жыхароў). У 1905 г. вёска (75 жыхароў), маёнтак (4 жыхары), аколіца (10 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час была ўстаноўлена сав. улада). З 1921 г. ў складзе Сялянскай гміны Палескага ваяв. Польшчы, з 5.2. 1932 г. ў Малесцкай гміне. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За гады вайны расстраляны 1 жыхар вёскі ў г. Бяроза. З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1970 г. 27 жыхароў. У 2002 г. ўваходзіла ў саўгас імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі.

**БЯРОЗА-КАРТУЗСКАЯ** — чыг. станцыя ў Першамайскім с/с.

Узнікла ў 2-й пал. 19 ст. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. ў сувязі з будаўніцтвам Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, якая паспрыяла развіццю паселішча і росту насельніцтва. Паводле перапісу 1897 г. значыцца як в. Бяроза Бярозаўскай вол. каля чыг. ст. Бяроза. У ёй 101 двор, 724 жыхары, якія ўваходзілі ў Блудзенскае сельскае т-ва. У вёсцы працавалі бакалейная і 7 малочных крам, 2 крамы «красных» і суконных тавараў, 2 піцейныя дамы і кузня. Чыг. станцыя межавала з в. Блудзень, дзе знаходзіліся чыг. майстэрні, двухкласнае міністэрскае вучылішча, 15 двароў з 213 жыхарамі. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з лютага 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У 1927 г. В.Чкалаў зрабіў тут прыпынак разам з Г.Байдуковым і А.Беляковым пасля пералёту праз Паўн. полюс у ЗША. У гонар гэтай падзеі ў скверы на прывакзальнай плошчы ўстаноўлены помнік В.Чкалаву.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. ў Бярозаўскім р-не. У гады Вял. Айч. вайны на станцыі ў в. Блудзень (з 1964 в. Першамайская), з чэрв. 1941 да ліп. 1944 г. дзейнічала камсамольскае падполле (кіруючае ядро — С.П.Руціч, У.К.Саўчук,



В.М.Галенка). Летам 1943 г. арг-цыя аб'ядноўвала 21 патрыёта, многія з іх загінулі ў барацьбе з ворагам і пахаваны на чыг. ст. Бяроза-Картузская. У 1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых устаноўлена мемарыяльная дошка. Імем У.К.Саўчыка, расстралянага фашыстамі 15.3.1944 г., названа вуліца. Пасля вызвалення — у Блудзенскім (з 1964 Першамайскі) с/с, на станцыі праходзіў бягучы рамонт паравозаў.

**ВАЙЦЯШЫН** — вёска ў Пескаўскім с/с, за 17 км ад Бярозы, 13 км ад чыг. ст. Бронная Гара. 124 двары, 243 жыхары (2005).

Вядомы з 19 ст. ў Вайцяшынскім сельскім т-ве. У 1867 г. налічвалася 98 душ і апрацоўвалася 338 дзес. зручнай і 18 дзес. нязручнай зямлі. У 1870 г. ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вядомы пад назвай Вайцяшына, 68 двароў, 343 жыхары, дзейнічала кузня. У 1905 г. 414 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Касаўскага пав. Палескага ваяв., 79 будынкаў, 430 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Пескаўскім с/с, 130 двароў, 622 жыхары.У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 152 гаспадаркі, 637 жыхароў. У 1967 г. пастаўлены абеліск на брацкай магіле сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 г. ў баях з ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. ў саўгасе «Пескаўскі», 672 жыхары, ферма саўгаса. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з двухбаковай забудовай, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой з ПнУ далучаецца кароткая вуліца, а з ПдЗ кароткі завулак, які злучае вёску з чыг. паўстанкам Вайцяшын; у паўд. частцы завулак злучае В. з кароткай паралельнай асноўнай вуліцай.

**ВАРАЖБІТЫ** — вёска ў Нарутавіцкім с/с, за 20 км ад Бярозы, 14,5 км ад



*Этнаграфічная зала Вайцяшынскага народнага музея.*

чыг. ст. Бяроза-Картузская. 29 двароў, 55 жыхароў (2005).

У 1864 г. ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол., у вёсцы 53 двары, 344 жыхары, хлебазапасны магазін. Каля яе знаходзіўся аднайменны фальварак Зундэля Ляйбовіча (1 двор, 4 жыхары). У 1905 г. ў вёсцы 267 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.-жн. 1920 была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, з 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 40 будынкаў, 172 жыхары. У сярэдзіне 1920-х г. была створана ячэйка КПЗБ, у 1932 г. 16 яе членаў арыштаваны і напраўлены ў турму. З 1939 г. ў БССР, з 23.6.1940 г. ў Нарутавіцкім с/с, 72 двары, 417 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 4 жыхары, з фронту не вярнуліся 14 воінаў-землякоў. З 16.7.1954 г. ў Блудзенскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. разам з хутарам Койты — 9 гаспадарак, 40 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Восаўскім (з 21.11.1977 Нарутавіцкі) с/с. Паводле перапісу 1970 г. 205 жыхароў. У 2002 г. ўваходзіла ў калгас «Кастрычнік». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з двухбаковай забудовай, выцягнутай з ПнЗ на ПдУ, якую ва ўсх. частцы перасякае аўтадарога Сялец—Пружаны.

**ВАШЧАНКА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 19,5 км ад Бярозы, 13 км ад

чыг. ст. Бяроза-Картузская. 17 двароў, 22 жыхары (2005).

Вядома ў 1563 г. ў абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Кобрынскай эканоміі. У канцы 19 ст. ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 147 жыхароў, хлебазапасны магазін. На 1905 г. 143 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з лютага 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 13 будынкаў, 52 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. ў Кабакоўскім с/с, 58 двароў, 241 жыхар.У 1941— 44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 3 жыхары, з фронту не вярнуліся 5 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 32 гаспадаркі, 140 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Блудзенскім (з 1.8.1964 Першамайскі) с/с. Паводле перапісу 1970 г. 137 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы з двухбаковай забудовай, выцягнутай з У на ПдЗ.

**ВІНІН** — вёска ў Сігнавіцкім с/с, за 18 км ад Бярозы, 16 км ад чыг. ст. Бяроза—Картузская. 45 двароў, 64 жыхары (2005).

Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на Пд, да якой у сярэдзіне з усх. боку прымыкае завулак.

**ВІСНЯВІЧЫ** — вёска ў Малецкім с/с, за 29 км ад Бярозы, 22 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 11 двароў, 15 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 12 двароў, 95 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 11 будынкаў, 38 жыхароў, з 5.2.1932 г. ў Малецкай гміне. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінула 4 жыхары, на фронце — 9 воінаў-землякоў. З 14.4. 1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 83 жыхары, у саўгасе «Малеч». Планіровачна складаецца з кароткай двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з У на З.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Стрыгінскім с/с, на левым беразе р. Ясельда, за 22 км на ПдУ ад Бярозы, 28 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 68 двароў, 142 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 14 двароў, 86 жыхароў, працаваў ветраны млын. У 1905 г. 97 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска пад назвай Высокія ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 20 будынкаў, 126 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска — цэнтр Высокаўскага с/с, 31 двор, 164 жыхары. У сельсавеце ў той час дзейнічалі пач. школа, 9 ветраных млыноў, магазін. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 5 жыхароў вёскі. Памяць 58 землякоў, якія не вярнуліся з фронту, была ўшанавана абеліскам (1988). 16.7. 1954 г. сельсавет перайменаваны ў Перасудавіцкі (з адначасовым пераносам яго цэнтра ў в. Перасудавічы). Паводле перапісу 1959 г. сяло, 40 гаспадарак, 143 жыхары. Рашэннем аблвыканкома ад 27.11.1962 г. да Высокага была далучана в. Процы (у 1940 налічвала 24 двары, 136 жыхароў, у 1959 — сяло, 25 гаспадарак, 94 жыхары).

У 1957 г. на аснове калгасаў «Праўда» і імя Варашылава створаны саўгас



імя Варашылава, у 1962 перайменаваны ў саўгас «Белаазерскі». У 1970 г. 291 жыхар, 79 двароў, цэнтр сельсавета і саўгаса «Белаазерскі», працавалі 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фальч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. 24.8.1970 г. саўгас рэарганізаваны ў Белаазерскі племянны птушкаводчы з-д, 25.3.1971 г. адноўлены ў саўгас.

21.11.1977 г. Перасудавіцкі с/с перайменаваны ў Высокаўскі, вёска стала яго цэнтрам. У 1991 г. саўгас «Белаазерскі» пераўтвораны ў калгас «Белаазерскі» (з цэнтр. сядзібай ў Высокім, уключаў таксама вёскі Пузі і Мастыкі). 1.3.2002 г. Высокаўскі с/с скасаваны, вёска далучана да Стрыгінскага с/с. У 2002 г. быў адноўлены саўгас «Белаазерскі». Дзейнічоць клуб, б-ка, сярэдняя школа, пры якой існуе гісторыка-краязнаўчы музей. Планіровачна складаецца з 2-х паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, якія прымыкаюць да аўтадарогі, паралельна да якой да адной з вуліц з ПнЗ прымыкае кароткі завулак.

**ВЯЛІКАЕ МІЖЛЕССЕ** — вёска, цэнтр Міжлескага с/с, за 19 км ад Бярозы, 20 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 252 двары, 614 жыхароў (2005).

У 1864 г. — в. Міжлессе, цэнтр Мацвеевіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. 20.5.1884 г. пажар знішчыў 46 сялянскіх дамоў з гасп. пабудовамі, страты склалі 22 500 руб. У 1886 г. — вёска, 33 двары, разам з вёскамі Сішоўка і Леўковічы 397 жыхароў, валаснoе праўленне. Пазней Міжлессе і Ляўковічы зліліся ў адзіную вёску. У 1890 г. цэнтр Мацвеевіцкай вол., у якой налічвалася 24 паселішчы, 116 двароў, 1768 душ, 26 сялянскіх дамоў. Фальварак Міжлессе знаходзіўся ва ўладанні Наталлі Такаржэўскай, разам з іншымі пунктамі памешчыцы належала 2247 дес. землі. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Міжлессе (Ляўковічы) 87 двароў, 492 жыхары, валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін. Фальварак во ўладанні Мікалая Філінчонка, 6 двароў, 23 жыхары. У 1905 г. вёска і маёнтак у Чарнякаўскай вол., у вёсцы 544, у маёнтку 112 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 установлена сав. ўлада). З 1921 г. — у складзе Польшчы. У 1924 г. цэнтр Мацвеевіцкай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., в. Міжлессе (112 будынкаў, 612 жыхароў), побач Малое Міжлессе (25 будынкаў, 161 жыхар) і леснічоўка Старое Міжлессе (1 будынак, 4 жыхары). 5.1.1926 г. Мацвеевіцкая гміна перайменавана ў Міжлескую, 27.2.1932 г. скасавана, тэр. і паселішчы далучаны да Сігневіцкай гміны.

З 1939 г. — у БССР. З 1940 г. цэнтр Міжлескага с/с. У 1940 г. вёскі Вялікае Міжлессе (143 двары, 503 жыхары) і Малое Міжлессе (43 двары, 180 жыхароў). Быў адкрыты фельч.-акушэрскі пункт, працавалі паравы млын, хата-чытальня, пошта. У сельсавеце ў той час дзейнічалі 3 пач. школы. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 20 жыхароў, на франтах загінулі 30 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці 248 воінаў — ураджэнцаў сельсавета, якія загінулі ў гады вайны, у 1993 г. быў пастаўлены помнік землякам. Пасля вызвалення працавалі шавецкая майстэрня (з 1946), МТС, аўтарамонтныя майстэрні (у 1948). 20.9.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная звязда». У лютым 1950 г. значна ўзбуйнены, атрымаў назву «Чырвоны сцяг». Паводле перапісу 1959 г. — вёскі Вялікае Міжлессе (69 будынкаў, 73 гаспадаркі, 227 жыхароў), Малое Міжлессе (45 будынкаў, 56 гаспадарак, 177 жыхароў.) Паводле перапісу 1970 г. — у Вялікім Міжлессі 506 жыхароў. У Малым Міжлессі — 356 жыхароў, праўленне калгаса. У 1972 г. Малое Міжлессе злілося з Вялікім Міжлессем і было выключана з рэестра. Да калгаса «Чырвоны сцяг» 4.10.1987 быў далучаны б. калгас «Новый шлях», але вёска засталася яго цэнтрам. Сярэдняя

школа, Дом культуры і б-ка, урачэбная амбулаторыя, дзіцячы сад.

**ВЯЛІКІЯ ЛЯСКОВІЧЫ** — вёска ў Боркаўскім с/с., за 30,5 км ад Бярозы, 35,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 145 двары, 430 жыхароў (2005).

Узгадваецца ў 1864 г. як вёска пад назвай Лясковічы ў Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. в. Лясковічы, таксама маёнтак Вялікія Лясковічы. Разам з маёнткам Малыя Лясковічы і маёнткам Лаза-Лясковічы памешчыку Івану Бічу належала 1070 дзес. зямлі. У 2-й пал. 19 ст. ў маёнтку Лясковічы быў пабудаваны сядзібны драўляны дом, закладзены невял. пейзажны парк з сістэмай каналаў і сажалак, побач размяшчалася капліца (не захавалася). Сучасную назву атрымала ў канцы 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 422 жыхары, працавалі хлебазапасны магазін і малочная крама. У 1905 г. ў вёсцы 436 жыхароў, у аднайменным маёнтку 25 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час устаноўлена сав. ўлада ). З 1921 г. — у складзе Польшчы, в. Лясковічы Чарнякоўскай гміны Палескага ваяв., з 1926 г. — у Міжлескай (былой Мацвеевіцкай), з 1932 г. — у Сігневіцкай гміне. Апошнім уладальнікам маёнтка быў Ян Біч.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. ў Пешкаўскім с/с, 109 двароў, 549 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсках Вялікія і Малыя Лясковічы 11 жыхароў, на фронце загінулі 17 воінаў-землякоў. З 16.7.1954 г. ў Боркаўскім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. (разам з паселішчам Астроўкі) 135 гаспадарак, 453 жыхары. Паводле перапісу 1970 г. 552 жыхары, сярэдняя школа, клуб, крама. У 1976 г. ў выніку ўзбуйнення калгаса «Боркі» быў створаны калгас «Лясковічы» з цэнтр. сядзібай у Вялікіх Лясковічах. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, адна з якіх арыентавана з Пн на Пд, другая — з ПнЗ на Пд, злучаных трыма кароткімі паралельнымі вуліцамі, арыентаванымі з З на У.

**ГАЛАВІЦКІЯ** — вёска ў Стрыгінскім с/с, за 15 км ад Бярозы, 21 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 66 двароў, 111 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. — калонія Галавацкія Ласкі ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 33 двары, 218 жыхароў. У 1905 г. 97 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з лютага 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 50 будынкаў, 297 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. ў Совінскім с/с, 66 двароў, 450 жыхароў. У 1941—44 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 21 жыхара вёскі, на фронце загінулі 14 воінаў-землякоў. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоная паляна», які ў 1951 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Кірава (з цэнтрам у в. Стрыгінь). З 16.7.1954 г. ў Стрыгінскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 75 гаспадарак, 316 жыхароў. У 1970 г. ў калгасе «33-я гадавіна Кастрычніка», 401 жыхар. Планіровачна складаецца з рэдка забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ (уздоўж Ясельды, 500—700 м ад ракі), да якой прымыкае кароткая вуліца (у цэнтры); асобныя ўчасткі забудовы.

**ГАЛІЦЫ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 12 км ад Бярозы, 10 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 48 двароў, 90 жыхароў (2005).

Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд.

**ГОРСК** — вёска ў Малецкім с/с, за 22 км ад Бярозы, 20 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 59 двароў, 102 жыхары (2005).

Упершыню ўзгадваецца ў 16 ст. пад назвай Падагорцы.У 1890 г. ўрочышча Горск, якое належала памешчыку Аляксею Бажанаву разам з 1815 дес. зямлі.



Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. і сядзіба арандатара Янкеля Ніцберга на зямлі Ганны Мікульскай. У вёсцы было 56 двароў, 268 жыхароў, працавалі кузня і хлебазапасны магазін. У маёнтку Мікульскай 8 двароў, 21 жыхар, побач з вёскай строжка з 3 дварамі і 8 жыхарамі. У 1905 г. ў вёсцы 314 жыхароў, старожка Горск з 4 жыхарамі адносілася да Малецкай вол. З 1915 г. акупіравана ням. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 25 будынкаў, 177 жыхароў З 27.2.1932 г. ў Малецкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.6.1941 г. на подступах да Горска загінулі ў няроўным баі воіны 2 палка 205-й матарызаванай дывізіі 4-й арміі Зах. фронту пад камандаваннем малодшага лейтэнанта М.І.Новікава. У 1960 г. на магіле (за 1 км ад вёскі) пастаўлены абеліск. У сак. 1944 г. ў баі з немцамі загінулі партызаны 345-га атрада, памяць пра якіх ушанавана мемарыяльнай дошкай на клубе. У гонар ураджэнца вёскі, партызана атрада № 345 Брэсцкага партыз. злучэння І.В.Васілеўскага, які загінуў у Бярозе, названа вуліца ў Горску. Таксама мемарыяльная дошка ўстаноўлена ў гонар разгрому калоны ням. войск і вызвалення вёскі 17.7. 1944 г. 138-м гв. стралк. палком 48-й гв. стралк. дывізіі (камандзір — палкоўнік П.П.Варапаеў). Ад рук акупантаў загінулі 13 жыхароў вёскі, не вярнуліся з фронту 15 воінаў-землякоў. З 14.4. 1960 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1970 г. 291 жыхар. Радзіма пісьменніка А.Казловіча, які ў кнігах «На маёй далоні лінія ракі», «Дыханне», «Пара ісці» выкарыстаў рэальныя сюжэты і прататыпы герояў з Горска, а яго кн. «Каб ды калі б» цалкам прысвечана роднай вёсцы і яе тапаніміцы. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, якія, сыходзячыся з паўн. часткай, прымыкаюць да аўтадарогі Кобрын—Бяроза.

**ГРЫЦЭВІЧЫ** — вёска ў Малецкім с/с, за 20,5 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 36 двароў, 56 жыхароў (2005).

Узгадваецца ў 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. вёска ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 52 двары, 282 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 274 жыхары. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 23 будынкі, 147 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 5 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 12 воінаў-землякоў. З 1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 218 жыхароў. Планіровачна складаецца з двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой у цэнтры вёскі прымыкаюць два кароткія завулкі.

**ДАВЫДАВІЧЫ** — вёска ў Малецкім с/с, за 27 км ад Бярозы, 21 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 15 двароў, 20 жыхароў (2005).

У 1856 г. ўзгадваецца ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., нашчадкам Васілеўскага ў ёй належала разам з в. Глушэц 29 душ. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Сялецкай

гміны Палескага вяяв. Польшчы. З 1932 г. ў Малецкай гміне. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 4 жыхары вёскі. З 14.4.1960 ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 111 жыхароў, у саўгасе «Малеч» (у 1979—90 імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на Пд, забудова рэдкая, двухбаковая.

**ДЗЯГЕЛЕЦ** — вёска ў Здзітаўскім с/с, за 9 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 85 двароў, 181 жыхар (2005).

Узгадваецца ў 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары войтаўства Блудзенскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. ў Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Картузскабярозаўскай вол., 71 двор, 444 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 460 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. — у складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне. З 1939 г. ў БССР, ва Углянскім, з 23.5.1940 г. — у Машковіцкім с/с, 102 двары, 518 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. жыхары вёсак Дзягелец, Машковічы. Шылінок, Шылін аб'яднаны ў калгас імя Свярдлова, які ў 1959 г. быў далучаны да саўгаса «Прамень», з 1963 г. на тэр. племсаўгаса «Земляроб». З 16.7.1954 г. ў Міжлескім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 40 гаспадарак, 157 жыхароў. З 8.3.1960 г. вёска ў складзе Углянскага с/с. Паводле перапісу 1970 г. 434 жыхары. З 18.1.1988 г. ў Здзітаўскім с/с. Планіровачна складаецца з 2 паралельных , шчыльна забудаваных вуліц, арыентаваных з Пд на ПнУ, злучаных у паўн. частцы кароткай вуліцай (перад развілкай аўтадарог на Угляны і Здзітава).

**ЕЛЯНОВА** — вёска ў Міжлескім с/с, за 14 км ад Бярозы, 20 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 34 двары, 48 жыхароў (2005).

У 1886 г. в. Яленава (Галенава) у Мацвеевіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 19 двароў, 250 жыхароў, школа і піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Яленава (Галенава) было 60 двароў, 284 жыхары, працавалі нар. вучылішча і хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў Чарнякоўскай вол., 376 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліпеня 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. в. Хеленова ў Мацвеевіцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 58 будынкаў, 310 жыхароў. У 1926 г. ў Міжлескай гміне, у 1932 г. ў Сігневіцкай. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Машковіцкім с/с, 82 двары, 321 жыхар. У 1941—44 гг. акупіравана ням.—фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 21 жыхара вёскі, на фронце загінулі 14 воінаў-землякоў. У кастрычніку 1949 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму», у лютым 1950 г. ён увайшоў у калгас «Чырвоны сцяг» (з цэнтрам у в. Міжлессе), з 16.7.1954 г. — у Міжлескім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 36 гаспадарак, 120 жыхароў. У 1970 г. 309 жыхароў, ферма калгаса «Чырвоны сцяг». Планіровачна складаецца з дугападобнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У, да якой прымыкаюць 3 завулкі.

**ЖЫЧЫН** — вёска ў Першамайскім с/с, за 16 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 85 двароў, 169 жыхароў (2005).

У 1890 г. вёска ў Равяціцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., побач маёнтак, які належаў Івану Скорыну. Павод-



ле перапісу 1897 г. ў вёсцы 83 двары, 482 жыхары, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом. У 1905 г. 614 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 42 будынкі, 298 жыхароў. У сярэдзіне 1920-х г. у вёсцы была створана падп. камсамольская арг-цыя. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Кабакоўскім с/с, 112 двароў, 577 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 115 гаспадарак, 415 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Блудзенскім с/с (1.8.1964 перайменаваны ў Першамайскі). Паводле перапісу 1970 г. ў саўгасе «Бярозаўскі», 403 жыхары. Планіровачна складаецца з 4 вуліц, якія ўтвараюць выцягнуты прамавугольнік, арыентаваны з Пд на ПдУ.

**ЗАЛУЖЖА** — вёска ў Малецкім с/с, за 23 км ад Бярозы, 17 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 29 двароў, 46 жыхароў (2005).

Вядома на 1563 г. у Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага. У 1716 г. ў складзе войтаўства Кабацкага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, падаравана Кацярынай II нашчадкам ген.-фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1864 г. ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 79 двароў, 481 жыхар, дзейнічалі царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 510 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 32 будынкі, 151 жыхар.



*Помнік лётчыкам 130-га хуткаснага бамбардзіровачнага авіяпалка ў в. Зарэчча.*

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 20 воінаўземлякоў. У ліп. 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Дзяржынскага, які ў студз. 1951 г. ўвайшоў у калгас імя Панамарэнкі, у 1958 г. перайменаваны ў калгас «Рассвет». З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 221 жыхар, у саўгасе «Прагрэс». Планіровачна складаецца з двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая паўн. часткай прымыкае да сярэдзіны другой, больш кароткай вуліцы.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 5 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, на аўтадарозе Кобрын—Бяроза—Баранавічы. 141 двор, 317 жыхароў (2005).

За 1 км на ПнУ і на З ад вёскі знаходзяцца 2 стаянкі, выяўленыя ў 1965 і 1968, адносяцца да мезаліту і нёманскай культуры неаліту. Гэта сведчыць об засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. У гіст. дакументах вёска вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ў Бярозаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 490 жыхароў, 64 двары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 542 жыхары, дарожная будка. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з пачатку 1919 да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы пад назвай Зажэчча. З 1932 г. ў Сялецкай гміне. У кастр. 1924 г.

ў ёй створаны Зарэчанскі падрайком КПЗБ. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска Сакалоўскага с/с, 113 двароў, 606 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 20 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 139 гаспадарак, 568 жыхароў. З 1960 г. ў складзе Самойлавіцкага с/с (14.4.1964 перайменаваны ў Бярозаўскі). Паводле перапісу 1970 г. 540 жыхароў, ферма.

Планіровачна складаецца з няшчыльна забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая выходзіць да аўтадарогі Кобрын—Баранавічы, да яе прымыкае ў паўн. частцы другая вуліца, арыентаваная з ПдУ на Пн, з больш рэдкай забудовай.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 20 км ад Бярозы, 17 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 48 двароў, 86 жыхароў (2005).

Планіровачна складаецца з крыху выгнутай двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд, ад якой у цэнтры з зах. боку прымыкае завулак.

**ЗДЗІТАВА** — вёска, цэнтр с/с, за 6 км ад Бярозы, 12 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 189 двароў, 566 жыхароў (2005).

Вядома ў складзе войтаўства Блудзенскага ў 1563 г. У 1672 г. «Хрысціна Высокінская завяшчала назаўсёды картэзіянскаму манастыру Картуз-Бярозы 3 валокі зямлі ў Здзітаве Слонімскага павета». Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. ў Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У канцы 19 ст. ў Картузскабярозаўскай вол.

У 1890 г. Здзітаўскаму сельскаму т-ву належала 204 дзес. зямлі. Пасёлак Здзітаў адносіўся да Бярозаўскага сельскага т-ва, у якога было 1181 дзес. зямлі, маёнтак Стары Дзітаў з 896 дзес. зямлі належаў памешчыку Януарыю Мікульскаму. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 31 двор, 217 жыхароў. У 1905 г. ў ёй 222 жыхары, у маёнтку (за 2 вярсты ад вёскі) 64 жыхары. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. У ліп. 1920 г. на кароткі час устаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Углянскага с/с, 62 двары, 384 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 60 жыхароў вёскі. У ліп. 1944 г. пры вызваленні Бярозаўскага р-на каля Здзітава загінулі 185 салдат і афіцэраў 174-га гв. палка гв. стралк. дывізіі 20-га стралк. корпуса 18-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1966 г. на брацкіх воінскіх могілках быў пастаўлены абеліск. У 1949 г. жыхары вёсак Здзітава і Пясчанка аб'ядналіся ў калгас імя Молатава. Паводле перапісу 1959 г. 89 гаспадарак, 348 жыхароў, далучаны да саўгаса «Прамень». З 1963 г. вёска на тэр. племсаўгаса «Земляроб». Паводле перапісу 1970 г. 504 жыхары, школа. У 1967 г. цэнтр Углянскага с/с перанесены ў в. Здітава, 18.1.1988 г. сельсавет перайменаваны ў Здзітаўскі. Яслі і дзіцячы сад, пачатковая і муз. школы, бібліятэка.

**ЗДЗІТАВА** — вёска ў Спораўскім с/с, на р. Дарагабуж, паміж азёрамі Чорнае і Спораўскае. За 35 км на ПдУ ад Бярозы, за 2 км ад чыг. ст. Белаазерск. 427 двароў, 1047 жыхароў (2005).

Адна з самых стараж. вёсак Бярозаўшчыны. Упершыню ўзгадваецца як г. Здзітаў у 1005 г. ва «Устаўной грамаце аб заснаванні Тураўскай епіскапіі», потым у Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г., калі паселішча было апорным пунктам для войска Данілы Галіцкага ў час яго вайны з Міндоўгам. Паводле археал. звестак, г. Здзітаў існаваў у 11—13 ст., уваходзіў у спіс 35 гарадоў рус. зямель, што існавалі на Беларусі да 1300 г. Тут праходзілі Дняпроўска-Нёманскі і Дняпроўска-Бугскі водныя шляхі, «дорога великая Березинская и Здитовская». Месцазнаходжанне горада дакладна



вызначана ў 1938 г. Выявіў гарадзішча А.Цынкалоўскі, абследавалі М.А.Ткачоў (1970), потым Я.Г.Звяруга. У 1240-я г. князь літ. Міндоўг авалодаў Здзітавам-на-Ясельдзе. У 1263 г. Войшалк (сын Міндоўга) выдаў сваю сястру за Шварна Данілавіча і даў у пасаг гарады Здзітаў і Слонім. У выніку ваен. дзеянняў кіеўскіх князёў супраць яцвягаў горад быў разбураны, а жыхары перасяліліся ў іншыя мясцовасці з той жа назвай — Здзітаў. За 7 км ад стараж. горада на р. Дарагабуж — у сучасную в. Здзітава Спораўскага с/с, а таксама за 22 км ад горада — сучасную вёску Здзітаўскага (б. Углянскага) с/с. З пачатку 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1430 г. мястэчка. Узгадваецца ў «Кнізе судовых спраў літоўскіх» (1520). Назва, верагодна, паходзіць ад назвы р. Дзітва. З 2-й пал. 15 ст. вядомы «Здзітаў Гарадок» («Здзітаў дварэц») каля воз. Спораўскае — цэнтр дзяржаўнай вол. Слонімскага пав. Трокскага ваяв. У 1452 г. значная частка воласці была перададзена пінскаму кн. Юрыю Сямёнавічу. Потым Здзітаў падараваны Казімірам, каралём польскім і вял. кн. літоўскім «княгіні Швітрыгайлавай». У 1520 г. «двор» — адм.-гасп.-цэнтр воласці і мястэчка, праз якое ішла вял. дарога з Валыні ў Вільню. З 2-й пал. 16 ст. ў Слонімскім пав. Навагрудскага ваяв. У 1559 г. значную частку воласці займала Здзітаўская пушча (4 х 2 мілі). У 1561 г. гасп. двор з мястэчкам, «дворцом «Хрысіца» і воласцю перададзены ў заклад на 3 гады В.Цішкевічу, а з 1562 г. — у яго пажыццёвае ўладанне. У 1567 г. ўпамінаецца царква Успення. У 1590 г. Здзітаўская воласць з дваром, мястэчкам і фальваркам у закладзе ў слонімскага старосты Л.Сапегі. У 17—18 ст. Здзітаў — цэнтр староства Сапегаў у Навагрудскім ваяводстве. У 1757 г. смаленскі ваявода П.Сапега перадаў староства старосце А.Бжастоўскаму.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1868 г. ўзгадваецца як Здзітаў. 19.9.1884 г. ў Здзітаве пажар знішчыў 30 сял. дамоў з маёмасцю, страты склалі 15 845 руб. У 1886 г. мястэчка ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 57 двароў, 644 жыхары, царква, школа, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. сяло, якое межавала з в. Гарбова і выселкам Качавічы, 131 двор, 754 жыхары, прыходская царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У Качавічах — 25 двароў, 131 жыхар, працаваў ветраны млын; у в. Гарбова — 45 двароў, 270 жыхароў, кузня, тут знаходзіўся будынак Здзітаўскай царквы (пры ім 1 двор, 8 жыхароў). У сядзібе Здзітава, якую арандаваў Афром Готлейб, у 1 доме жылі 6 чал. У 1905 г. ў сяле 981 жыхар, на мяжы Слонімскага і Кобрынскага паветаў. У 1910 г. складалася з трох асобных частак — Новай Слабады, сяла і асобнай вуліцы Гарбоўкі. У пач. 20 ст. існавала манаполька (у 1910 яе прыбытак складаў 22 тыс. руб., у 1912 — 12 тыс. руб.). Аб беднасці жыхароў сяла, якія выязджалі на заробкі ў Амерыку, пад псеўданімамі «Здзітавец», «Стары дзед Міхась» і інш. пісаў у 1910—14 гг. у «Нашу ніву» мясц. настаўнік і краязнаўца Міхаіл Рамановіч. Ён у пач. 1900-х г. падрыхтаваў рукапісны «Сборник народных песен крестьян Кобринского и Слонимского уездов Гродненской губернии». Частка запісаў

*Мемарыяльны комплекс Здзітаўская абарона.*



мясцовых нар. песень была надрукавана вядомым этнографам-фалькларыстам Еўдакімам Раманавым, які ў 1910 г. выявіў тут археал. стаянку, у сядзібе селяніна Гладкоўскага знайшоў рэшткі стараж. глінянага посуду. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав., 189 будынкаў, 960 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. цэнтр Здзітаўскага с/с, 276 двароў, 1458 жыхароў. Дзейнічалі школа, ветраны млын, хата-чытальня. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі ў зах. частцы вёскі базіраваліся штаб Брэсцкага партыз. злучэння, Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б. 3.4.1944 г. карнікі пачалі наступаць на пазіцыі партызан з некалькіх напрамкаў. Партызаны і 10 тыс. мірных жыхароў, якія знаходзіліся пад іх аховай, апынуліся ў акружэнні. партыз. брыгады імя Дзяржынскага (камандзір В.М.Манахаў, камісар П.Р.Кавалёў), «Савецкая Беларусь» (камандзір М.У.Бабкоў, камісар П.І.Маслоў), 345-ы атрад (камандзір С.А.Яроцкі) і атрад імя С.М.Будзённага (камандзір К.Е.Мерзлякоў, камісар П.К.Каламійцаў) 7 дзён пасляхова адбівалі атакі карнікаў. У 1975 г. да 30-годдзя Перамогі над ням.-фаш. захопнікамі на месцы баёў створаны мемарыяльны комплекс «Здзітаўская абарона» (скульптар В.Дз.Кліменка, архітэктар В.А.Пак). Акупанты загубілі 48 жыхароў вёскі, на франтах загінулі 78 воінаў-землякоў. Імем аднаго з арганізатараў і краўнікоў камуністычнага падполля і партыз. руху ў Беларусі, Героя Сав. Саюза С.І.Сікорскага, імем М.У.Бабкова, арганізатара партыз. руху на Брэстчыне і ў Бярозаўскім р-не, камандзіра партыз. брыгады «Савецкая Беларусь», у вёсцы названы вуліцы. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 127 гаспадарак, 615 жыхароў, у 1970 г. — 565 гаспадарк, 1212 жыхароў, працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. 18.1.1988 г. Здзітаўскі с/с быў перайменаваны ў Спораўскі (Здзітаўскім стаў называцца б. Углянскі). Працуюць сярэдняя і пачатковая школы, б-ка, Дом культуры, царква, сярэднявечнае селішча. Радзіма бел. навукоўца-этналінгвіста А.Леванцэвіч.

За 2 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца археал. стаянка Горбаў-1, датуецца эпохамі неаліту і бронзавага веку, адносіцца на нёманскай і тшцінецкай культур. Выявіў у 1910 г. Е.Р.Раманаў, даследаваў у 1964 г. У.Ф.Ісаенка. За 1 км на Пн ад вёскі — археал. стаянка Горбаў-2. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У.Ф.Ісаенка, адносіцца да неаліту.

**ЗУБАЧЫ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 21 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 23 двары, 40 жыхароў (2005).

У 1864 г. — вёска ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У канцы 19 ст. — у Сялецкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 119 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1905 г. 165 жыхароў. У 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. У ліпені 1920 г. ўстаноўлена савецкая ўлада. З 1921 г. — у складзе Польшчы, у 1924 г. ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 25 будынкаў, 122 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Сашыцкім с/с. 46 двароў, 275 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 6 жыхароў вёскі, на франтах загінулі 9 воінаў-землякоў. Часці 152-й стралк. дывізіі 28-й арміі 1-га Бел. фронту 13.7.1944 г. выйшлі да р. Ясельда ў раёне вёсак Зубачы, Сашыца, Сялец, пры фарсіраванні ракі разгарэўся ўпарты бой. 15.7.1944 г. воіны дывізіі выбілі гітлераўцаў з пазіцый і вызвалілі шэраг населеных пунктаў Бярозаўскага р-на. На ўшанаванне памяці сав. воінаў, якія загінулі ў гэтых баях,



насыпаны 15-метровы Курган Славы і ўстаноўлена пліта з памятным надпісам. З 16.7.1954 г. вёска ў Сялецкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 57 гаспадарак, 200 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 223 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой у цэнтры прымыкаюць 2 завулкі (з ПдЗ і У).

**КАБАКІ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 15,5 км ад Бярозы, 12 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 296 двароў, 633 жыхары (2005).

У 1563 г. ўладанне Кабакі (24 валокі зямлі) у Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Кабацкага. У канцы 16 ст. — дзярж. ўласнасць у Берасцейскім пав. Брэсцкага ваяв. У 1716 г. ў складзе войтаўства Кабацкага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, было падаравана Кацярынай II нашчадкам ген.-фельдмаршала П.А.Румянцава-Задунайскага разам з навакольнымі вёскамі (Равенкі, Залужжа, Падгароддзе, Алёхнавічы, Паўлавічы, Мешчанка і інш.). Яны прадалі Кабякі Паўлу Ягміну. У 19 ст. Кабякі належалі Уладэкам (у пач. 20 ст. адышлі Вітольду Свянціцкаму ў якасці прыданага за Сафіей Уладэк). У 1856 г. Кабякі ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., памешчыку Антону Уладэку належалі ў вёсцы 1118 душ. Закладзеная ў пач. 19 ст. сядзіба захавалася часткова (бровар, малачарня, канюшня, жылы дом, камяніца); будынак палаца ў 1939 г. быў моцна пашкоджаны, а ў 1950-я г. разабраны насельніцтвам на ўласныя будаўнічыя патрэбы. У 1864 г. вёска ў Малецкай вол., належала 805 дзес. зямлі, ва ўладанні памешчыцы Камілы Уладэк, у аднайменным маёнтку 1399 дзес. зямлі. У 1886 г. — 51 двор, 624 жыхары, дзейнічалі вінакурны і цагельны з-ды, ветраны млын, піцейны дом, школа. Паводле перапісу 1897 г. — 133 двары, 802 жыхары, працавалі піцейны дом і 3 ветраныя млыны, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзілася заводскае паселішча пры цагельным заводзе маёнтка. У ім было 15 двароў, 80 жыхароў, ён належаў Марыі Уладэк. У 1905 г. ў вёсцы 821, у маёнтку 58 жыхароў. У 1912 г. пабудаваны жылы дом у панскай сядзібе (захаваўся). З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. У ліп.–жн. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. — вёска (49 будынкаў, 205 жыхароў) і фальварак (6 будынкаў, 107 жыхароў), дзейнічаў спіртзавод. У 1920-я г. існавалі ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. цэнтр Кабакоўскага с/с. На 1940 г. у вёсцы 144 двары, 698 жыхароў, у маёнтку 12 двароў, 57 жыхароў, пач. школа, магазін, спіртзавод. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 11 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 6 воінаў-землякоў. На ўшанаванне іх памяці ў 1994 г. пастаўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. 214 гаспадарак, 748 жыхароў. 14.4.1964 г. Кабакоўскі с/с ліквідаваны, вёска далучана да Блудзенскага с/с, які 1.8.1964 г. перайменаваны ў Першамайскі. У 1970 г. — 845 жыхароў, 276 гаспадарак, цэнтр. сядзіба саўгаса «Бярозаўскі», спіртавы, цагельны і вапнавы з-ды, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. У 1998 г. ў складзе саўгаса былі 8 вёсак, на тэр. саўгаса захаваліся 2 школы, 3 клубы, 3 б-кі. Дзіцячы сад, сталовая, 5 магазінаў. Захаваліся рэшткі сядзібнага парку і будынкі сядзібы. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (паралельных у зах. і цэнтр. частках, якія сыходзяцца ва ўсх.), арыентаваных з З на У, да іх канцоў прымыкаюць 2 больш кароткія вуліцы, арыентаваныя з ПнУ на Пд, і 2 завулкі ў паўд.-зах. частцы.

**КАЛОНІЯ** — вёска ў Здзітаўскім с/с, за 15 км ад Бярозы, 21 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 15 двароў, 22 жыхары (2005).

**КАРПЯШЫ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 14 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 54 двары, 114 жыхароў (2005).

У 1563 г. пад назвай Карпешчы ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучанскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. 3.3.1861 г. сяляне вёскі, якая тады мела назву Карпешава, адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці і адмовіліся падпарадкоўвацца ўладзе, частка сялян была арыштавана і адпраўлена ў Пружанскую турму. У 1864 г. — ў Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., выкарыстоўвалі 188 дзес. зручнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Картузскабярозаўскай вол., 44 двары, 264 жыхары. У 1905 г. 299 жыхароў. З 1915 г. вёска акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1932 г. ў Малецкай гміне. У 1920-я г. дзейнічала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Кабакоўскім с/с. 63 двары, 348 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 7 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 5 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 67 гаспадарак, 265 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Блудзенскім с/с (1.8.1964 перайменаваны ў Першамайскі). У 1970 г. 248 жыхароў, у саўгасе «Бярозаўскі». Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ, злучаных 2 кароткімі вуліцамі (у паўн.-зах. і цэнтр. частках).

**КАСЦЮКІ** — вёска ў Міжлескім с/с, за 16,5 км ад Бярозы, 22,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 87 двароў, 177 жыхароў (2005).

У 1864 г. — вёска ў Мацвееўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. в. Касцюкі (Мацвеевічы), 23 двары, 288 жыхароў, царква, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 59 двароў, 361 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. — у складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Мацвеевіцкай гміне (з 1932 Міжлеская) Пружанскага пав. Палескага ваяв., 91 будынак, 472 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Міжлескім с/с, 99 двароў, 306 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 22 воіны-землякі. У кастр. 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Катоўскага, які ў лютым 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Міжлессе). Паводле перапісу 1959 г. 51 гаспадарка, 175 жыхароў. У 1970 г. 464 жыхары, ферма, клуб. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з З на У, іх пад прамым вуглом перасякаюць 2 больш кароткія вуліцы.

**КАШАЛЁВА** — вёска ў Боркаўскім с/с, за 25 км ад Бярозы, 22 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 35 двароў, 74 жыхары (2005).

У 1890 г. — фальварак у Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., які належаў Ігнацію Шэміёту, разам з фальваркам Горак у выкарыстанні памешчыка знаходзілася 2421 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. фальварак ва ўладанні Ганны Мікульскай, 3 двары, 21 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г — войскамі Польшчы. У ліп.—жн. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Чарнякоўскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1926 г. ў Равяціцкай, з 1932 — у Сігневіцкай гміне. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Пешкаўскім с/с, 32 двары, 157 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вызвалення вёскі



22.3.1945 г. былі забіты ворагамі сав. ўлады адзін з першых старшынь Боркаўскага с/с Я.А.Качаржынскі і сав. актывісты — бацька і дачка М.Д. і Н.М.Строкі (у 1967 на іх магіле пастаўлены абеліск). З 16.7.1954 г. ў Боркаўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 40 гаспадарак, 149 жыхароў. У 1970 г. ў калгасе «Боркі», 201 жыхар, пач. школа (зачынена ў 1993). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай, няшчыльна забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на ПдУ, да яе ў цэнтры з Пн прымыкае завулак.

**КРУГЛАЕ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 5,5 км ад Бярозы, 11,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 12 двароў, 23 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Бярозаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 9 двароў, 64 жыхары. У 1905 г. 75 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Сакалоўскага с/с, 23 двары, 107 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 22 гаспадаркі, 101 жыхар. З 8.3.1960 г. вёска ў Самойлавіцкім с/с (з 14.4.1964 Бярозаўскі). Паводле перапісу 1970 г. 63 жыхары, ферма. Забудова рэдкая, нерэгулярная, вёска арыентавана з Пн на ПдЗ.

**КРЫВАБЛОТЫ** — вёска ў Нарутавіцкім с/с, за 16 км ад Бярозы, 13 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 83 двары, 239 жыхароў (2005).

У 1856 г. вёска ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. належала памешчыку Венядзікту Барэйці, 58 рэвізскіх душ. У 1864 г. ў Сашыцкай вол. У той час вёска падзялялася на 2 часткі, кожная з якіх мела асобную назву — Крываблоцкія і Крываблокі. У 1890 г. ў Сялецкай вол., вёска Крываблоты, альбо Ваўчкі, і аколіца Крываблоты. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы Крываблоты 1-я — 17 двароў, 129 жыхароў, драўляны агульны магазін. Побач маёнтак Крываблоты 1-я ва ўладанні Данілы Друшыца, двор. У маёнтку Вял. Крываблоты, які належаў Іпаліту Марціёні, 3 двары, 21 жыхар. У 1905 г. аднайменная вёска (145 жыхароў), аколіца (76 жыхароў), маёнтак (9 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 14 будынкаў, 60 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Нарутавіцкім с/с, 44 двары, 255 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 5 жыхароў. З 1954 г. ў Блудзенскім с/с. З 1964 г. ў Асавецкім (з 1977 Нарутавіцкі) с/с. Паводле перапісу 1970 г. — у калгасе «Кастрычнік», 183 жыхары. Планіровачна складаецца з двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд, якую ў паўн. частцы перасякае з З на ПнУ другая вуліца (у зах. частцы забудова аднабаковая, у кароткай усх. — двухбаковая), зах. і паўд. ўскраіны злучаны дарогай з асобнымі ўчасткамі забудовы.

**КУРОЎШЧЫНА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 9 км ад Бярозы, 12,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 44 двары, 90 жыхароў.

У 1856 г. вёска вядома ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. пад назвай Кураўшчызна, Алёне Ванзяловічавай у ёй належалі 12 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол., 21 двор, 127 жыхароў, хлебазапасны магазін. Вёска межавала з в. Лявошкі і маёнткамі Кураўшчызна, адзін з якіх знаходзіўся ва ўладанні Рамуальда Янішэўскага і яго сясцёр (2 двары, 10 жыхароў), другі — Аляксандра Карнацэвіча (1 двор, 7 жыхароў). У 1905 г. ў в. Куроўшчына 143 жыхары, у маёнтках Кураўшчызна (1) — 5 і Кураўшчызна (2) — 7 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. войскамі Польшчы

(у ліп.—жн. 1920 устаноўлена на кароткі час сав. ўлада).

З 1921 г. — у складзе Польшчы, у 1924 г. вёска і фальварак у Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., разам 5 будынкаў, 47 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Сялецкім с/с, 38 двароў, 257 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 63 гаспадаркі, 251 жыхар, 1970 г. — 258 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з З на У, з раздзеленай на 2 часткі (пераважна аднабаковай) забудовай.

**ЛІСІЧЫЦЫ** — вёска ў Белаазерскім с/с, за 29 ад Бярозы, 2 км ад чыг. ст. Белаазерск. 112 двароў, 286 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 58 двароў, 344 жыхары, працавала кузня. У 1905 г. 395 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. — у складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 77 будынкаў, 324 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Альшэўскім с/с, 102 двары, 588 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 5 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Нікаўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 129 гаспадарак, 549 жыхароў. З 12.1.1960 г. ў Белаазерскім Савеце. Паводле перапісу 1970 г. ў саўгасе «Белаазерскі», 607 жыхароў, з 1971 г. ў Белаазерскім с/с. Планіровачна складаецца з арыентаванай з Пд на ПнУ вуліцы, да яе ў паўн. частцы прымыкае другая, арыентаваная з ПнЗ на У, побач з якой кароткая паралельная вуліца, злучаная з ёй 2 правулкамі.

**ЛУКОМЕР** — вёска ў Малецкім с/с, за 26 км ад Бярозы, 22 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 74 двары, 162 жыхары (2005).

Вядома пад назвай Лукомер у 1563 г. у Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Кабацкага. У 1716 г. ў складзе войтаўства Блудзенскага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1856 г. ў Малечы і Лукомеры памешчыку Іосіфу Здзітоўскаму належалі 387 рэвізскіх душ, у вёсцы жыў 1 вольны жыхар. У 1864 г. ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1865 г. маёнтак пад назвай Лукомеж за ўдзел гаспадара Аляксандра Жукоўскага ў паўстанні падлягаў абавязковаму продажу з таргоў. У той час у маёнтку знаходзілася карчма, цагельны з-д, кузня, памешчыку належалі 188 дзес. пашы, 86 дзес. сенакоснай, 4 дзес. сядзібнай зямлі. У 1890 г. вёска і маёнтак Лукомер, памешчыцы Соф'і Здзіхоўскай належалі 346 дзес. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 32 двары, 199 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін і кузня. У маёнтку (запісаны як Лукомір) ва ўладанні Соф'і Грамніцкай — 4 двары, 24 жыхары, у б. карчме ў яе ж уладанні 1 двор з 7 жыхарамі. У 1905 г. у вёсцы 222, у маёнтку 20 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада).

З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малевіцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 4 жыхароў, на фронце загінулі 19 воінаў-землякоў. З 1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. ў саўгасе «Малеч» (у 1979—90 імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі), 263 жыхары, дзейнічала пач. школа. Паланіровачна складаецца з двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якую ў паўн. частцы перасякае з Пн на Пд кароткая вуліца, ад гэтага скрыжавання на У адыходзіць кароткі правулак.






*Мемарыял Машэрава гара каля в. Лукомер.*

**ЛЯВОШКІ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 7 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 108 двароў, 183 жыхары (2005).

У 1864 г. вядомы ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сялецкай вол., 64 двары, 394 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач з ёй знаходзіўся аднайменны маёнтак ва ўладанні Дыядора Волкава, 4 двары, 31 жыхар. У1905 г. ў вёсцы 470, у маёнтку 17 жыхароў, дзейнічаў вапнавы з-д, пры якім жылі 10 чалавек. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. у Бяроза-Картузскай гміне, з 1932 г. ў Сялецкай гміне. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Самойлавіцкім с/с, 72 двары, 431 жыхар. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 112 гаспадарак, 445 жыхароў. З 1964 г. ў Бярозаўскім с/с. Паводле перапісу 1970 г. 475 жыхароў, дзейнічаў крэйдавы з-д. Планіровачна складаецца з дугападобнай двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на ПдУ.

**МАЛЕЧ** — вёска, цэнтр Малецкага с/с, за 20 км на З ад Бярозы, 16 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 800 гаспадарак, 2016 жыхароў (2005).

Першыя пісьмовыя звесткі знойдзены ў «Апісанні войска Літоўскага Кобрынскага павета» 1528 г. калі ўзгадваецца «Фёдар з Мальча». У 1563 г. Малеч узгадваўся ў сувязі з будаўніцтвам у сяле царквы. Тады знаходзілася ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, было цэнтрам абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага. Згодна з актам рэвізіі, вакол вёскі на той час ляжалі 39 валок сярэдняй па якасці зямлі. У канцы 16 ст. вядома ў Брэсцкім пав. Берасцейскага ваяв. У 1645 г. атрымаў гар. правы, але ўладальніца Блудаўскага (Блудзенскага) староства Ізабэла Хадкевіч у 1668 г. свавольна скасавала іх. Дэлегатаў горада, якія былі накіраваны ад імя ўсіх мяшчан да караля са скаргай на яе і прашэннем узнавіць правы на самакіраванне, яна загадала схапіць і аддаць у рукі катаў. Спецыяльны загад караля вярнуў ім волю. На гербе Малеча была адлюстравана паясная мужчынская фігура з ключамі ў руцэ. Вакол галавы — німб, сімвал святасці. У правай верхняй частцы герба — выява чорнага пеўня, у левай — зялёная галінка расліны. Пазбаўлены гар. прывілееў у 18 ст.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў Рас. імперыі, мястэчка. У Расіі было ўведзена палажэнне, згодна з якім сяляне павінны былі адбываць натуральныя павіннасці. Жыхары мястэчка адмовіліся іх выконваць, падымалі сял. бунты ў 1806,1807, 1813, 1819, 1820, 1823 гг. У 19 ст. маёнтак належаў роду Шведаў, потым перайшоў да роду Завадскіх. У 1824 г. ў мястэчку 554 жыхары (мяшчан і сялян), 147 яўрэяў, дамоў сялянскіх — 80, яўр. — 12, дзейнічалі рымска-каталіцкая царква, капліца, 3 масты, рынак, 5 піцейных дамоў. У 1833 г. пазначана як мяст. Мальча, у якім 827 жыхароў, з іх 5 купцоў; 5 мураваных цэркваў і 1 драўляная, 152 драўляныя дамы, 5 духоўных навучальных і 5 свецкіх духоўных устаноў, 5 фабрык і з-даў, 3 піцейныя дамы. У 1856 г. ў мястэчку і в. Лукомер памешчыку Іосіфу Здзітоўскаму належала 387 рэвізскіх душ. У 1864 г. ў Малечы (Мальчы) 172 жыхары, мястэчка — цэнтр Малецкай вол.

Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. — 71 двор, 1428 жыхароў, дзейнічалі школа, 2 царквы, яўр. малітоўны дом, сукнавальня, 16 крам, банк, 2 конныя млыны, 5 піцейных дамоў, штогод адбываліся 12 кірмашоў. У вёсцы працавалі вінакурны і вапнавы з-ды. У 1890 г. ў воласці налічваліся 32 паселішчы, 335 сял. двароў, 4535 душ, 183 несялянскія дамы. Сельскаму т-ву належалі 889 дзес. зямлі, царкве — 63 дзес., памешчыку Іосіфу Завадскаму ў маёнтку Малеч разам з фальваркамі — 740 дзес., памешчыку Садоўскаму ва ўрочышчы Малеч — 62 дзес. зямлі.

Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 138 мяшчанскіх і 149 сял. дамоў, 1059 мяшчан і 1023 сялян, прыходская царква, царква на могілках, капліца, нар. вучылішча, валасное праўленне, яўр. малітоўны дом і багадзельня. Дзейнічалі 3 ветраныя млыны, кузня, 30 крам (з іх 3 «краснага» тавару, 2 жалезных тавараў, астатнія малочнага гандлю), 4 піцейныя дамы. Праводзіліся 8 кірмашоў у год. Побач з мястэчкам знаходзілася сядзіба ва ўладанні Іосіфа Завадскага (5 двароў, 70 жыхароў), у якой працаваў вінакурны з-д. На паштовай сядзібе каля мястэчка — 3 двары, 20 жыхароў. Мястэчка межавала з сялом той жа назвы. У канцы 19 ст. ў маёнтку быў пабудаваны палац і закладзены вял. парк (палац захаваўся, пасля Вял. Айч. вайны выкарыстоўваецца пад санаторную школу). У 1905 г. — мястэчка (3808 жыхароў) і маёнтак (50 жыхароў). 29.7.1905 г. адбылася дэманстрацыя ў сувязі з паўгоддзем «кровавого воскресения». На працягу 1905 г. адбываліся сял. хваляванні з эканам. патрабаваннямі, і гаспадар маёнтка Завадскі вымушаны быў хавацца ў горадзе. У 1908 г. жыхар мястэчка Х.Жук напісаў ліст Л.Талстому, у якім выкладаў яму свае погляды на жыццё, прасіў у пісьменніка дапамогі ў вызначэнні маральных арыенціраў. Л.Талстой назваў яго ліст «превосходным письмом».

*Зона адпачынку на беразе возера ў в. Малеч.*



З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Малецкай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1924 г. Малеч — мястэчка (56 будынкаў, 430 жыхароў), вёска (76 будынкаў, 463 жыхары), фальварак ( 3 будынкі, 45 жыхароў). У 1928 г. пабудавана Сямёнаўская царква (захавалася). У 1920-я г. былі створаны ячэйка КПЗБ і камсамольская арг-цыя. У 1930-я г. працавала нар. школа. Арганізавана баявая група, якая раззбройвала паліцэйскіх і асаднікаў.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Малецкага с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 22 жыхары, на фронце загінуў 31 воін-зямляк. На ўшанаванне памяці землякоў у 1975 г. быў пастаўлены абеліск. Пасля вайны 19.1.1949 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса. З 14.4.1960 г. вёска і сельсавет у Бярозаўскім раёне. З 1960 г. вёска ў саўгасе «Бярозаўскі», з лютага 1961 г. цэнтр саўгаса «Малеч» (у студз. 1979 — кастр. 1990 саўгас імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі). У 1970 г. ў вёсцы 1254 жыхары. У 1969—70 гг. Ін-т «Белдзіпрасельбуд» распрацаваў праект планіроўкі і забудовы саўгаса (архітэктар Н.М.Нядзелька, інжынер В.М.Хандогін). Былі ўзведзены Дом культуры з за-





*Дом культуры аграгарадка ў в. Малеч.*

лай на 600 месцаў, гандл. цэнтр са сталовай, магазінамі, камбінатам быт. абслугоўвання, гасцініцай, бальніца, школа. У 1980-я г. цэнтр. сядзіба саўгаса была прыкладам сучаснай планіроўкі і забудовы сельскіх пасёлкаў. У 1972 г. — 1656 жыхароў, 444 двары, сярэдняя і муз. школы, санаторная школа-інтэрнат, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, бальніца (на 85 ложкаў), паліклініка, аддз. сувязі, магазіны. У 1997 г. на тэр. сельсавета дзейнічалі аграфірма-калгас «Малеч»; 2445 жыхароў, 805 двароў; калгас «Прагрэс» (з 1990). Пры сярэдняй школе працуе грамадскі гісторыка-краязнаўчы музей. Найбольшую працягласць забудова вёскі мае ў напрамку з Пн на ПдЗ.

**МАЛЫЯ ЛЯСКОВІЧЫ** — вёска ў Боркаўскім с/с, за 32,5 км ад Бярозы, 37 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 3 двары, 3 жыхары (2005).

Узнікла ў канцы 19 ст. У 1890 г. — маёнтак Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ, які належаў памешчыку Івану Бічу, і вёска, жыхары якой былі аб'яднаны ў Малаляськовіцкае сельскае т-ва, апрацоўвалі 225 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. фальварак ва ўладанні Івана і Васіля Бічаў, 1 двор з 10 жыхарамі. У 1905 г. ў вёсцы 106 жыхароў, у маёнтку 3 жыхары. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяводства Польшчы, у Чарнякоўскай, з 1926 — у Міжлескай (б. Мацвеевіцкай), з 1932 — у Сігневіцкай гмінах. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Пешкаўскім с/с, 29 двароў, 109 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 воінаў-землякоў. За 0,3 км на Пн ад вёскі, у лесе, на могілках, пахаваны 8 партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1966 г. на магіле быў пастаўлены абеліск. З 16.7.1954 г. ў Баркоўскімі с/с. Паводле перапісаў 1959 г. 30 гаспадарак, 110 жыхароў, у 1970 г. — 76 жыхароў, ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**МАНЯВІЧЫ** — вёска ў Белаазерскім с/с, за 28 км ад Бярозы, 1 км ад чыг. ст. Белаазерск. 73 двары, 191 жыхар (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 34 двары, 221 жыхар. У 1905 г. 228 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 на кароткі час устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 35 будынкаў, 128 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Альшэўскім с/с, 42 двары, 254 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Нікаўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 59 гаспадарак, 288 жыхароў. З 12.1.1960 г. ў Белаазерскім сельскім (з 25.6.1960 пасялковым) савеце. З 1963 г. ў Здзітаўскім с/с, з 1968 г. ў Белаазерскім пас. Савеце. Паводле перапісу 1970 г. 395 жыхароў, з 1971 г. ў Белаазерскім с/с, вёска ў саўгасе «Белаазерскі». Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ (да выгнутай на У сярэдзіны вуліцы прымыкае кароткая вуліца, арыентаваная з З на У).

**МАРАВІЛЬ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 17 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 278 двароў, 765 жыхароў (2005).

У 1843 г. вядома як фальварак у складзе маёнтка Сігневічы, належаў Рамуальду Нейгоф-Лею, які пабудаваў

драўляны дом з мансардай (у сав. час перабудаваны). Быў закладзены парк. У канцы 19 ст. пад назвай Марвіль у Равяціцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. памешчыку разам з іншымі пунктамі належалі 3582 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў фальварку 3 двары, 36 жыхароў. На 1905 г. — фальварак Моравіль, альбо Лубкі, 38 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. — у складзе Польшчы. На 1924 г. фальварак у Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. 1 будынак, 8 жыхароў. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. маёнтак у Сігневіцкім с/с, 2 двары, 8 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. тут была створана Сігневіцкая МТС (у 1957 пераўтворана ў машынна-меліярацыйную станцыю, з 1961 будаўніча-мантажнае ўпраўленне, з 1981 ПМК-54 трэста «Брэстводбуд»). Паводле перапісу 1959 г. — пасёлак ММС, 13 будынкаў, 30 гаспадарак, 127 жыхароў, перапісу 1970 г. — 335 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд, да якой прымыкаюць 2 кароткія завулкі з зах. боку, у паўн. частцы яшчэ адна кароткая вуліца з усх. боку.

**МАР'ЯНАВА** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 9 км ад Бярозы, 13 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 28 двароў, 40 жыхароў (2005).

У 1864 г. ў Сігневіцкай воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ. пад назвай Мар'янаполь. У 1890 г. в. Мар'ямполь, альбо Навасёлкі, у Равяціцкай вол. У 1905 г. 178 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. в. Мар'яполь (Навасёлкі) у Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 37 будынкаў, 154 жыхары. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ва Углянскім, з 23.5.1940 г. — у Сігневіцкім с/с, 41 двор, 251 жыхар. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 56 гаспадарак, 206 жыхароў, у 1970 г. — 202 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з Пн на ПдЗ, двухбакова забудаванай.

**МАСТЫКІ** — вёска ў Стрыгінскім с/с, за 25 км ад Бярозы, 31 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 107 двароў, 190 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 31 двор, 166 жыхароў. У 1905 г. 182 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з лютага 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. — у складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Касаўскага пав. Палескага ваяв., 38 будынкаў, 230 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Высокаўскім с/с, 53 двары, 311 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 7 жыхароў. З 1954 г. ў Перасудавіцкім с/с (з 1977 Высокаўскі). Паводле перапісу 1959 г. 15 гаспадарак, 55 жыхароў. 27.11. 1962 г. вёскі Мастыкі і Алісец (у 1940 — 23 гаспадаркі, 140 жыхароў, у 1959 — 11 гаспадарак, 52 жыхары) аб'яднаны ў адзіную Мастыкі. Паводле перапісу 1970 г. 630 жыхароў. З 26.2.2002 г. вёска ў складзе Стрыгінскага с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, з двухбаковай няшчыльнай забудовай, арыентаванай з З на ПдУ, да якой у зах. частцы прымыкае больш кароткая вуліца, арыентаваная з Пд на ПнУ, а таксама з адасобленых участкаў забудовы.

**МАЦВЕЕВІЧЫ**, Вялікія Мацвеевічы — вёска ў Міжлескім с/с, за 14 км ад Бярозы, 20 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 16 двароў, 22 жыхары (2005).

У канцы 19 ст. — Вялікія Мацвеевічы ў Мацвеевіцкай вол. Пружанскага



пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. сяло, у якім царкве належала 41 дзес. зямлі, і маёнткі Вялікія і Малыя Мацвеевічы ва ўладанні Мар'і Казакевіч. Памешчыцы належала 2311 дзес. зямлі. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп.—жн. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. вёска — цэнтр Мацвеевіцкай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 22 будынкі, 123 жыхары, в. Малыя Мацвеевічы (14 будынкаў, 90 жыхароў). 5.1.1926 г. Мацвеевіцкая гміна перайменавана ў Міжлескую (цэнтр гміны перанесены ў Міжлессе).

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Міжлескім с/с, 22 двары, 147 жыхароў. Малыя Мацвеевічы знаходзіліся ў Машковіцкім с/с, у 1940 г. 24 двары, 99 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. в. Малыя Мацвеевічы ў Міжлескім с/с. У кастр. 1949 г. ў в. Вялікія Мацвеевічы быў арганізаваны калгас імя Будзённага, які ў лютым 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Міжлессе). Паводле перапісу 1970 г. — Вялікія Мацвеевічы, 66 жыхароў, Малыя Мацвеевічы — 60 жыхароў. Рашэннем аблвыканкома ад 4.9.1972 г. в. Малыя Мацвеевічы, якая фактычна злілася з в. Вялікія Мацвеевічы, выключана з рэестра.

**МАШКОВІЧЫ** — вёска ў Здзітаўскім с/с, за 14 км ад Бярозы, 20 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 61 двор, 108 жыхароў (2005).

У 1864 г. — вёска ў Сігневіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Равяціцкай вол., 53 двары, 330 жыхароў, дзейнічалі капліца, хлебазапасны магазін. Аднайменны фальварак (3 двары, 46 жыхароў) паблізу вёскі знаходзіўся ва ўладанні Рамуальда Нейгоф-Лея. У 1905 г. ў вёсцы 332 жыхары, у маёнтку 53 жыхары. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. — ў складзе Польшчы. У1924 г. ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. — вёска і фальварак, разам 25 будынкаў, 157 жыхароў. З 1926 г. ў Міжлескай (б. Мацвеевіцкай), з 1932 г.—у Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска, цэнтр Машковіцкага с/с , 71 двор, 305 жыхароў, калонія, у якой 21 двор, 101 жыхар. У сельсавеце ў той час дзейнічалі 2 пач. школы, чырвоны вугал, хатачытальня, магазін. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. жыхары вёсак Дзягелец, Машковічы, Шылінок, Шылін былі аб'яднаны ў калгас імя Свярдлова, у 1959 г. далучаны да саўгаса «Прамень», з 1963 г. вёска ў племсаўгасе «Земляроб». 16.7.1954 г. Машковіцкі с/с быў скасаваны, тэр. і населеныя пункты далучаны да Міжлескага с/с. Паводле перапісу 1959 г. (разам з навакольнымі хутарамі) — 90 будынкаў, 90 гаспадарак, 338 жыхароў. З 1960 г. ў складзе Углянскага (з 18.1.1988 Здзітаўскі) с/с. Паводле перапісу 1970 г. 411 жыхароў, комплексная брыгада племсаўгаса. Планіровачна складаецца з крыху дугападобнай, двухбакова шчыльна забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У, да якой у цэнтры прымыкае другая, арыентаваная з Пн на Пд, і з асобных участкаў забудовы (вакол вёскі).

**МІНКІ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 15 км ад Бярозы, 12 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 45 двароў, 67 жыхароў (2005).

Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд, да яе ў паўн. частцы з зах. боку прымыкае кароткая вуліца, арыентаваная з З на У.

**МІХАЛІНАК** — вёска ў Міжлескім с/с, у калгасе «Новы шлях», за 24 км ад Бярозы, 25 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 41 двор, 60 жыхароў (2005).

У 1886 г. — хутар у Мацвеевіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ.,

існаваў цагельны з-д. У 1890 г. — фальварк Міхалінок, адно з уладанняў Мар'і Казакевіч. У1905 г. ў Чарнякоўскай вол. фальварак Міхалін, 28 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 установлена сав. ўлада). З 1921 г. — ў складзе Польшчы, у 1924 г. в. Міхалін у Мацвеевіцкай (з 1926 Міжлеская) гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 14 будынкаў, 90 жыхароў. У 1925 г. партызаны спалілі Міхалінскі лесазавод фірмы «Агрумарыя». З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Міжлескім с/с, 35 двароў, 117 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 5 воінаў-землякоў. У кастр. 1940 г. ў вёсках Міхалінок і Чарнечына быў арганізаваны калгас імя Калініна, які ў лютым 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Новы шлях», у сваю чаргу ў 1987 г. далучанага да калгаса «Чырвоны сцяг». Паводле перапісу 1959 г. сяло (15 гаспадарак, 64 жыхары), вёска (20 гаспадарак, 61 жыхар) і хутар (18 гаспадарак, 63 жыхары). Паводле перапісу 1970 г. 189 жыхароў. У 1972 г. в. Чарнечына (98 жыхароў у 1970) злілася з вёскай Міхалін і была знята з уліку.

**МІХАЛКІ** — вёска ў Боркаўскім с/с, за 24 км ад Бярозы, 22 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 36 двароў, 73 жыхары (2005).

Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд, якую перасякаюць з У на З дзве кароткія вуліцы, злучаныя з зах. боку завулкам.

**МІХНАВІЧЫ** — вёска ў Нарутавіцкім с/с, за 22 км ад Бярозы, 17 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 25 двароў, 47 жыхароў (2005).

У1864 г. вёска ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол., пазначана пад назвай Міхневічы, 36 двароў, 266 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 297 жыхароў. З 1925 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 установлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 16 будынкаў, 74 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Нарутавіцкім с/с, 44 двары, 257 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 8 жыхароў, на фронце загінулі 11 воінаў-землякоў. З 1954 г. ў Блудзенскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 24 гаспадаркі, 88 жыхароў. З 1964 г. ў Восаўскім с/с (з 1977 Нарутавіцкі). Паводле перапісу 1970 г. 183 жыхары, у калгасе «Кастрычнік».

Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на Пд. Да яе з усх. боку прымыкаюць 2 завулкі.

**МОРМАЖАВА**, М о р м а ж а ў — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 7,5 км ад Бярозы, 13,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 69 двароў, 185 жыхароў (2005).

Існуюць дзве версіі паходжання назвы. Згодна з першай, назва вёскі пайшла ад польскага слова «мормуль», г.зн. «балота». Згодна з другой, паводле мясц. падання, па імю пана Мормажава. Вядома з 15 ст., калі паміж Мормажавам і Сяльцом адбылася бітва адной з феад. войнаў у Рэчы Паспалітай. У 1895г. каля вёскі яшчэ можна было бачыць рэдуты для гармат. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1905 г. вёска ў Сялецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 213 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, якія спалілі вёску, жыхары падаліся ў бежанцы. З 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. акупіравана войскамі Польшчы (у ліп. 1920 установлена сав. ўлада). З 1921 г. — у складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 12 будынкаў, 70 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Сакалоўскім с/с, 21 двор, 150 жыхароў.



У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі праз вёску ажыццяўлялася сувязь падпольшчыкаў Бярозы з атрадамі партыз. брыгады імя Панамарэнкі. Адсюль партызаны атрадаў імя Дзімітрава і імя Гастэлы выходзілі на дыверсійныя аперацыі. Гітлераўцы схапілі членаў сямей партызан з вёскі Мормажава і расстралялі. 7 воінаў, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў на тэр. раёна ў гады вайны, і 9 мірных жыхароў — ахвяр фаш. тэрору, пахаваны на могілках, дзе ў 1966 г. насыпаны курган. Таксама за 7 км на ПнЗ ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны 16 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. На фронце ў 1941—44 гг. загінула 5 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 23 гаспадаркі, 89 жыхароў. З 1960 г. ў Самойлавіцкім с/с (у 1964 перайменаваны ў Бярозаўскі). Паводле перапісу 1970 г. 146 жыхароў, ферма племсаўгаса «Прамень». З 1983 г. ў вопытным рыбгасе «Сялец». 21.11.1983 г. далучана в. Пабежына Сялецкага с/с.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 2,5 км ад Бярозы, 7 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 74 двары, 200 жыхароў (2005).

У 1890 г. ў Картузскабярозаўскай воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 266 жыхароў, хлебазапасны магазін. Непадалёку ад вёскі дзейнічаў цагельны з-д, пры якім жылі 8 чал. у 1 доме. У 1905 г. ў вёсцы 271 жыхар, на цагельным з-дзе 11 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы, з 1932 г. ў Сялецкай гміне. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ва Углянскім с/с, 61 двор, 343 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. — 64 гаспадаркі, 245 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Бярозаўскім с/с, 172 жыхары, ферма; племсаўгас «Прамень».

Планіровачна складаецца з прамалінейнай двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, якая ў паўд. частцы заканчваецца Т-падобнай развілкай.

**НАРУТАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Нарутавіцкага с/с, за 18 км на ПнЗ ад Бярозы, 12 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 116 двароў, 324 жыхары (2005).

У 1864 г. ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол., 17 двароў, 119 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзіліся в. Крываблоты 1-я і выселак Нарутавічы (Мільковічы), у якім было 14 двароў, 87 жыхароў, працаваў піцейны дом. Другі выселак вёскі з 37 дварамі і 42 жыхарамі меў самастойную назву Сендзеўцы. Непадалёку ад вёскі было паселішча Нарутавічы (Гулі) з 22 дварамі і 113 жыхарамі, межавала з маёнткам Каты. У 1905 г. ў вёсцы 389 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 13 будынкаў, 74 жыхары.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Нарутавіцкім с/с, 67 двароў, 360 жыхароў. У сельсавеце ў той час дзейнічалі 4 школы, магазін. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры абароне і вызваленні сельсавета загінулі 2 чал. На фронце ў Вял. Айч. вайну — 44 воіны-землякі Нарутавіцкага с/с. У 1949 г. ў навакольных вёсках былі арганізаваны 6 малых калгасаў, якія потым зліліся ў калгас «Ніва» з цэнтрам у Нарутавічах 16.7. 1954 г. Нарутавіцкі с/с быў далучаны да Блудзенскага. Паводле перапісу 1959 г. 13 гаспадарак, 39 жыхароў, калгас імя Суворава. З 1964 г. ў Восаўскім с/с, які 21.11.1977 г. перайменаваны ў Нарутавіцкі. Паводле перапісу 1970 г. 239 жыхароў.

Дзейнічаюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. 21.11.1983 г. далучана в. Касілавічы. У 1980-я г. вёска — цэнтр калгаса «Кастрычнік».

**НІВІШЧЫ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 12 км ад Бярозы, 7,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 17 двароў, 24 жыхары (2005).

Вядомы ў сярэдзіне 19 ст., калі 3.3. 1861 г. сяляне вёскі адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці і аб'явілі аб непадпарадкаванні ўладзе, частка сялян была арыштавана і змешчана ў Пружанскую турму. У 1864 г. — пад назвай Нівішча ў Блудзенскай воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. ў Картузскабярозаўскай вол., вёска і маёнтак Навішчы. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 144 жыхары, хлебазапасны магазін. Маёнтак ва ўладанні Сцяпана Сямашкі, непадалёку б. карчма (3 двары, 4 жыхары). У 1905 г. ў Бярозаўскай вол., у вёсцы 170 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У вёсцы дзейнічала ячэйка КПЗБ.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Кабакоўскім с/с, 44 двары, 211 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 1 жыхара вёскі, на фронце загінулі 7 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 44 гаспадаркі, 160 жыхароў. З 14.4. 1964 г. ў Блудзенскім с/с (1.8.1964 перайменаваны ў Першамайскі). Паводле перапісу 1970 г. 120 жыхароў, у саўгасе «Бярозаўскі».

**НІВЫ** — вёска ў Белаазерскім с/с, за 27 км ад Бярозы, 2 км ад чыг. ст. Белаазерск. 274 двары, 628 жыхароў (2005).

Вядомы ў сярэдзіне 19 ст. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Пескаўскай вол., 89 двароў, 520 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін і кузня. У маёнтку Нівы, які належаў Пуслоўскаму (1 вярста ў бок Ярцавіч), 19 жыхароў жылі на 4 дварах. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшы. У 1924 г. ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., фальварак (3 будынкі, 40 жыхароў) і вёска (132 будынкі, 659 жыхароў).

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Альшэўскім с/с , 139 двароў, 861 жыхар. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, ад іх рук загінулі 7 жыхароў вёскі. Пасля вызвалення 30.3.1946 г. ворагамі сав. ўлады забіты 5 сав. актывістаў, у 1968 г. на іх магіле быў пастаўлены абеліск. З 1954 г. ў Ніўкаўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 187 гаспадарак, 763 жыхары. З 12.1.1960 г. ў Белаазерскім сельскім (з 25.6.1960 пасялковым) савеце. З 22.1.1963 г. ў складзе Здітаўскага с/с, з 7.10.1968 г. ў Белаазерскім пас. Савеце. Паводле перапісу 1970 г. 1089 жыхароў, ДРЭС. З 15.9.1971 г. ў Белаазерскім с/с.

**НІЎКІ** — вёска ў Балаазерскім с/с, за 28 км ад Бярозы, 1 км ад чыг. ст. Белаазерск. 71 двор, 189 жыхароў (2005).

У 1554 г. ў «Рэвізіі пушч і пераходаў звярыных...» упамінаецца с. Ніўскае Здзітаўскай пушчы ВКЛ (верагодна, сучасныя Ніўкі ці Нівы) «з людзьмі яго міласці Пана Астафія Воловіча і паноў Протасовічаў». Паводле перапісу 1897 г. ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., вёска (28 двароў, 207 жыхароў) і фальварак ва ўладанні Пуслоўскага (1 двор, 4 жыхары). Паблізу вёскі знаходзіўся цагляны з-д, на якім жылі 3 чал. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., фальварак і вёска, разам 44 будынкі, 251 жыхар.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Альшэўскім с/с, 57 двароў, 297 жыхароў. Пачалі здабываць торф. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны ў 1945 г. працаваў цагельны з-д. З 16.7.1954 г. сельсавет перайменаваны ў



Ніўкаўскі, цэнтр яго перанесены ў в. Ніўкі. Паводле перапісу 1959 г. 88 гаспадарак, 349 жыхароў. 12.1.1960 г. сельсавет ліквідаваны, вёска перададзена ў Белаазерскі сельскі (з 25.6.1960 пасялковы) савет. З 22.1. 1963 г. ў складзе Здзітаўскага с/с, з 7.10.1968 г. ў Белаазерскім пас. Савеце. Паводле перапісу 1970 г. 293 жыхары, з 15.9.1971 г. ў Белаазерскім с/с. Цэнтр саўгаса «Белаазерскі».

**НОВАЕ** – вёска ў Стрыгінскім с/с, за 11 км ад Бярозы, 17 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 107 двароў, 212 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 53 двары, 309 жыхароў, дзейнічала кузня. У 1905 г. 341 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. – войскамі Польшчы (у ліп. 1920 была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. пад назвай Новы ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 79 будынкаў, 391 жыхар. У 1920-я г. ў вёсцы была створана ячэйка КПЗБ.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Совінскім с/с, 96 двароў, 547 жыхароў. У 1941–44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 9 жыхароў вёскі. На фронце загінулі 25 воінаў-землякоў. У 1949 г. быў створаны калгас «Савецкая Беларусь», 25.7.1951 г. ён увайшоў у склад калгаса імя Кірава (цэнтр – в. Стрыгінь). З 16.7.1954 г. ў Стрыгінскім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. 86 гаспадарак, 351 жыхар, 1970 г. – 596 жыхароў, у калгасе імя Кірава. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, арыентаваных з Пн наПд, іх (з З на У) перасякаюць альбо злучаюць некалькі правулкаў.

**ОСАЎЦЫ,** В о с а ў ц ы – вёска ў Нарутавіцкім с/с, за 9 км ад Бярозы, 6 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 79 двароў, 167 жыхароў (2005).

У 1864 г. вёска вядома ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. 17.6.1880 г. пажар ад маланкі знішчыў у вёсцы 57 сял. дамоў з гасп. пабудовамі, страты склалі 26100 руб. У 1886 г. – 49 двароў, 574 жыхары, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол., 108 двароў, 745 жыхароў, нар. міністэрскае вучылішча, драўляны хлебазапасны магазін, піцейны дом; у выселку 7 двароў, 38 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіліся сядзібы Казіміра Макоўскага, Міхаіла і Івана Яльцовых. У 1905 г. 846 жыхароў. З 1915 г. акупіравана ням. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. – войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. – ў складзе Польшчы, у 1924 г. аколіца Осаўскія ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 8 будынкаў, 38 жыхароў. У 1924 г. быў створаны Блудзенскі падрайком КПЗБ у складзе Осаўскай, Ціхнаўскай, Гораўскай і Блудзенскай арг-цый (сакратар В.С.Васілеўскі). У сярэдзіне 1920-х г. у вёсцы ўзнікла камсамольская арг-цыя.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Блудзенскім с/с, 126 двароў, 602 жыхары, створаны першы ў раёне калгас «Світанне», які аб'яднаў 126 гаспадарак (кіраўнік В.Н.Скробат). Напярэдадні вайны тут была раскватаравана вайск. часць. У 1941–44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. ў вёску ўварваліся карнікі. Яны схапілі 73 мірных жыхароў, у тым ліку членаў 14 сямей сав. актывістаў – арганізатараў калгаса, адвезлі ў Бярозу і расстралялі на тэр. колішняга картэзіянскага кляштара. У 1963 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фаш. тэрору ў вёсцы пастаўлены абеліск. 12.7.1944 г. ў баях супраць нямецка-фаш. захопнікаў загінулі разведчыкі яфрэйтар І.К.Колчан і П.У.Мамаенка (па іншых звестках – І.К.Калган і П.У.Маменка), у 1948 г. на іх магіле пастаўлены абеліск. Ад рук акупантаў загінулі 63 жыхары вёскі. Паводле перапісу 1959 г. – 36 гаспадарак, 137 жыхароў, дом калгасніка. З 1964 г. ў Осаўскім с/с. Паводле перапісу 1970 г. 461 жыхар, з

7.2.1972 г. была выключана з рэестра населеных пунктаў в.Осаўскія, насельніцтва якой перaселена ў в. Осаўцы. Планіровачна сучасная вёска складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з Пд на ПнУ, да яе з усх. боку прымыкаюць 2 паралельныя вуліцы, арыентаваныя з З на У.

**ПАДКРАІЧЫ** — вёска ў Малецкім с/с, за 22 км ад Бярозы, 21 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 204 двары, 531 жыхар (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага. У 1716 г. ў складзе войтаўства Кабацкага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. вёска ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. — 48 двароў, 295 жыхароў, дзейнічалі царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У 1905 г. 300 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 29 будынкаў, 130 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Падкрайчаўскага с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 20 жыхароў, на фронце загінулі 14 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці 114 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і партызана і 2 стэлы, на якіх выбіты імёны тых, хто загінуў. Перад помнікам запалены вечны агонь. У вёсцы пахаваны 100 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў у 1941 і 1944 гг., у тым ліку воіны 205-й матарызаванай дывізіі 4-й арміі Зах. фронту. У 1965 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск. 15.12.1949 г. створаны калгас. З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім р-не. 21.1.1961 г. Падкрайчаўскі с/с скасаваны, вёска далучана да Малецкага с/с. Паводле перапісу 1970 г. 379 жыхароў, цэнтр калгаса «Прагрэс». Школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, магазіны.

**ПАДОССЕ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 9 км ад Бярозы, 13 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 97 двароў, 176 жыхароў (2005).

Да 1843 г. вёска ўваходзіла ў склад маёнтка Сігневічы, які належаў жонцы ген. Блышынскага, з 2.4.1843 г. ўласнасць Рамуальда Нейгоф-Лея. У 1864 г. ў Сігневіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. — вёска ў Равяціцкай вол., 104 двары, 533 жыхары. Дзейнічалі хлебазапасны магазін і кузня. Побач з вёскай сядзіба ва ўладанні Маліноўскага і Амельні, 2 двары, 10 жыхароў. У 1905 г. ў П. 600 жыхароў, за 3 вярсты маёнтак (17 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска Углянскага с/с, 136 двароў, 705 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 9 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 121 гаспадарка, 461 жыхар. У 1970 г. ў Бярозаўскім с/с, у саўгасе «Прамень», 450 жыхароў.

**ПАНАСАВІЧЫ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 22,5 км ад Бярозы, 22 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 52 двары, 99 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 27 двароў, 156 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы, у Насоўскай, з 1926 г. — у Сялецкай гміне. З 1939 г. ў



БССР. З 1940 г. вёска ў Сашыцкім с/с, 36 двароў, 210 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 4 жыхароў, на фронце загінулі 7 воінаў-землякоў. З 1954 г. ў Сялецкім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. — 49 гаспадарак, 206 жыхароў, 1970 г. — у калгасе «Усход», 188 жыхароў. 7.2.1972 г. была выключана з рэестра в. Ракавічы (у 1940 — 17 двароў, 85 жыхароў, у 1959 — 20 будынкаў, 24 гаспадаркі, 106 жыхароў, у 1970 — 104 жыхары), якая злілася з в. Панасавічы.

**ПАРОСЛАВА** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 6 км ад Бярозы, 9 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 21 двор, 45 жыхароў (2005).

У 1716 г. ў складзе войтаўства Блудзенскага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. ў Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Картузскабярозаўскай вол., 258 жыхароў. У 1905 г. 263 жыхары. З 1915 акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Пружанскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, у Бяроза-Картузскай, з 1932 г. ў Сялецкай гмінах.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. ў Бярозаўскім с/с. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. ў племсаўгасе «Прамень». Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У.

**ПАСТАЛОВА** — вёска ў Малецкім с/с, за 18 км ад Бярозы, 17 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 39 двароў, 75 жыхароў (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага, працаваў каралеўскі вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Равяціцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 56 двароў, 321 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — в. Пастолава, 321 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. — у складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 31 будынак, 136 жыхароў, з 1932 г. ў Малецкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 15 воінаў-землякоў. З 14.4. 1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. ў саўгасе «Прагрэс», 222 жыхары. Планіровачна складаецца з двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У, якую ў зах. частцы перасякае аўтадарога, ва ўсходняй да яе прымыкае завулак.

**ПАЎЛАВІЧЫ** — вёска ў Малецкім с/с, за 23,5 км ад Бярозы, 20 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 47 двароў, 78 жыхароў (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. ў Кобрынскай эканоміі, у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, падаравана Кацярынай II нашчадкам ген.-фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1864 г. вёска ў Малецкай воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. побач з вёскай фальварак Паўловічы, які ўваходзіў у маёнтак Габрыелін і належаў памешчыку Аляксею Бажанаву. Паводле перапісу 1897 г. — 58 двароў, 367 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін і ветраны млын; фальварак (2 двары, 14 жыхароў) знаходзіўся ва ўладанні Бажанавай; у б. карчме (у яе ж уладанні) 1 двор, 10 жыхароў. У 1905 г. — у вёсцы 313, у фальварку 4 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малевіцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 21 будынак, 96 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш захопнікамі. На фронце загінулі 8 воінаўземлякоў. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі пахаваны 6 сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. З 14.4.1960 г. сельсавет у Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 278 жыхароў, у саўгасе «Малеч» (у 1979—90 імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на У (з выхадам да чыг. паўстанка Паўлавічы), да якой пад вострым вуглом прымыкае другая вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ.

**ПЕРАСУДАВІЧЫ** — вёска ў Стрыгінскім с/с, за 18 км ад Бярозы, 24 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 105 двароў, 181 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. — у Пескаўскай вол., 58 двароў, 299 жыхароў, хлебазапасны магазін і кузня. У 1905 г. 351 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 70 будынкаў, 376 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Высокаўскім с/с, 83 двары, 615 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 3 жыхары вёскі. 22.9.1943 г. пры выкананні баявога задання кінуўся з мінай пад варожы цягнік ураджэнец вёскі А.В.Васілеўскі, партызан атрада імя Калініна; яго імем названа вуліца. 16.7. 1954 г. сельсавет перайменаваны ў Перасудавіцкі (адначасова перанесены ў Перасудавічы). Паводле перапісу 1959 г. сяло, 58 гаспадарак, 220 жыхароў, 1970 г. — 653 жыхары. 21.11.1977 г. Перасудавіцкі с/с перайменаваны ў Высокаўскі, цэнтр перанесены ў в. Высокае. У 1980-я г. ў саўгасе «Белаазерскі». З 26.2.2002 г. вёска ў складзе Стрыгінскага с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на Пд, да яе ў паўд. частцы з усх. боку прымыкае яшчэ адна вуліца, арыентаваная з З на ПнУ, да якой прылягаюць некалькі адасобленых участкаў забудовы.

**ПЕРШАМАЙСКАЯ** (да 1964 — Блудзень) — вёска, цэнтр Першамайскага с/с, за 6 км ад Бярозы, 9 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская на лініі Брэст—Баранавічы. 825 двароў, 1846 жыхароў (2005).

У 1563 г. ўзгадваюцца Вялікі Блудзень і Малы Блудзень у Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага. Першыя звесткі пра Блудзень як уладанне адносяцца да 1590 г., калі каралева Ганна Ягелонская (удава караля Стафана Баторыя) падаравала Блудзень канцлеру ВКЛ Льву Сапегу. У 1645 г. Блудаўскае (Блудзенскае) староства належала Ізабэле Хадкевіч. У 16—17 ст. у Берасцейскім пав. Брэсцкага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. З 1716 г. ў Блудзенскім старостве. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1856 г. ўласнасць Іосіфа Здзітоўскага, 703 рэвізскія душы. 3.3. 1861 г. ў Блудзені адбыліся сял. хваляванні, частка сялян была арыштавана і адпраўлена ў Пружанскую турму. У 1864 г. сяло ў Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Пажар 10.5.1884 г. поўнасцю знішчыў 145 дамоў, 245 свірнаў і 365 хлявоў, страты склалі 36 тыс. руб. Вёска — радзіма бел. сав. гісторыка, прафесара, даследчыка бел. кнігадрукавання В.Дружчыца (1886—1937), у гонар яго на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1886 г. сяло, у якім працавалі вінакурны і цагельны з-ды, саладзільня, праваслаўная царква, школа, крама, 3 піцейныя дамы, заезны дом, 73 двары, 716 жыхароў.

У 1890 г. Блудзень — сяло, пасёлак, маёнтак (уласнасць Соф'і Здзіхоўскай);



побач 131 дзес. царкоўнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. — у Картузскабярозаўскай вол., 137 двароў, 865 жыхароў, хлебазапасны магазін, побач знаходзілася чыг. ст. Бяроза. На сядзібе свяшчэнніка ў сяле былі 2 царквы, 11 двароў з 40 жыхарамі. У маёнтку ва ўладанні Грамніцкай 6 двароў і 76 жыхароў, працаваў вінакурны з-д. У вартавым доме побач з сялом — 1 двор, 4 жыхары. У 1905 г. ў сяле 1424 жыхары, у маёнтку 14 жыхароў, дарожная будка з 5 жыхарамі. На працягу 1905 г. адбываліся сял. хваляванні з эканам. патрабаваннямі, сяляне самавольна рубілі лес. У 1915 г. пры адыходзе рас. войск здарыўся пажар. Акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы, у Бяроза-Картузскай гміне, з 1932 г. ў Сялецкай. У 1920-я г. створаны Блудзенскі падрайком КПЗБ (1924) у складзе Восаўскай, Ціханаўскай, Горацкай і Блудзенскай арг-цый (сакратар В.С.Васілеўскі), гурток «Грамады», камсамольская арг-цыя (1924), падпольны райком камсамола некаторы час базіраваўся ў Блудзені. Дзейнасцю Бярозаўскага падп. райкома кіраваў жыхар Блудзеня Васіль Ясінскі. У гонар удзельніка рэв. руху ў Зах. Беларусі на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка, адна з вуліц названа яго іменем, у 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1930 г. працавала нар. школа.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. цэнтр Блудзенскага с/с. У 1940 г. — вёска (324 двары, 1704 жыхары) і былы маёнтак (2 двары, 10 жыхароў). Былі адкрыты ўрачэбны ўчастак, клуб. У сельсавеце ў той час налічваліся няпоўная сярэдняя і 3 пачатковыя школы, 2 калгасы; крэйдавая ф-ка, маслазавод, хата-чытальня, магазін, кааперацыя, чырвоны куток, пажарная ахова. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 53 жыхары вёскі. З фронту не вярнуўся 31 воін-зямляк. Захопнікі часткова спалілі вёску. У гады вайны з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. дзейнічала камсамольскае падполле (кіруючае ядро — С.П.Ручыц, У.К.Саўчук, В.М.Галенка). Летам 1943 г. ў арг-цыю ўваходзіў 21 чал. Многія патрыёты загінулі ў барацьбе з ворагам і пахаваны на чыг. ст. Бяроза-Картузская, дзе на ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У вёсцы пахаваны 66 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць ням.-фаш. захопнікаў каля вёсак Першамайская і Жычын. У 1956 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са схіленным сцягам. З 1944 г. працаваў механічны млын, з 1945 г. — газагенератар, майстэрня па вырабе вазоў, у 1948 г. — кузня. Паводле перапісу 1959 г. 41 гаспадарка, 156 жыхароў. З 1.8.1964 г. в. Блудзень перайменавана ў Першамайск (8.8.1964 г. Блудзенскі с/с — у Першамайскі). Паводле перапісу 1970 г. 2220 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, клуб, б-ка, Дом чыгуначнікаў, аптэка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 8 магазінаў. Забудова вёскі выцягнута з ПдЗ на У уздоўж паўд. боку чыгункі.

**ПЕСКІ** — вёска, цэнтр Пескаўскага с/с, за 23 км ад Бярозы, 15 км ад чыг. ст. Бронная Гара, 5 км ад чыг. ст. Белаазерск. 816 двароў, 2266 жыхароў (2005). (Гл. таксама артыкул *Старыя Пескі*).

Вёска ўзнікла як Нова-Пескі з пашырэннем в. Пескі (пазней Старыя Пескі) у пач. 19 ст. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. і з цягам часу стала галоўнай. У 1827 г. ў ёй была пабудавана Троіцкая царква, помнік нар. драўлянага дойлідства (захавалася). У 1863 г. жыхары прымалі ўдзел у паўстанні супраць царызму, 9 мая тут адбыліся сутыкненні паўстанцаў з войскамі. У 1886 г. в. Нова-Пескі (Косценева) у Пескаўскай вол., 25 двароў, 298 жыхароў, валасное праўленне.

У 1890 г. вёска, цэнтр Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ.,

у воласці 52 паселішчы, 9270 душ, 710 двароў. Паводле перапісу 1897 г. в. Нова-Пескі (Косценева), 65 двароў, 365 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын, а таксама в. Нова-Пескі з 2 дварамі і 10 жыхарамі, якія межавалі з сядзібай, у якой знаходзілася вал. праўленне, а таксама сядзібай ва ўладанні Шымеля Белавіцкага (1 двор, 7 жыхароў). У 1905 г. ў в. Нова-Пескі 403 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 86 будынкаў, 433 жыхары. 25.3.1933 г. ў ёй польскай дэфензівай быў па-зверску забіты член КПЗБ, удзельнік рэвалюцыйна-вызв. руху ў Зах. Беларусі С.М.Лушча. На ўшанаванне памяці земляка ў 1967 г. на будынку сярэдняй школы была ўстаноўлена мемарыяльная дошка.



*Пайночная брама сядзібы графоў Пуслоўскіх у в. Пескі.*



*С.І.Любарскі.*

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Пескаўскага с/с, 122 двары, 649 жыхароў. У сельсавеце ў той час дзейнічалі 3 школы, спіртавы з-д, паравы і ветраны млыны, амбулаторыя, хата-чытальня, пошта, бальніца, медпункт, магазін. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі пахаваны 42 воіны і партызаны, у тым ліку партызаны брыгад «Савецкая Беларусь», імя Дзяржынскага і імя Свярдлова, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў каля вёсак Спорава і Новыя Пескі. Акупанты загубілі 8 жыхароў. У гонар земляка С.І.Любарскага, ген.-лейтэнанта, які загінуў у Германіі 16.4. 1945 г., каля будынка сельсавета пастаўлены абеліск. У 1945 г. працавала рыбная гаспадарка «Якубава». У 1949 г. ворагамі сав. улады быў забіты адзін з арганізатараў калгаса «Новае жыццё» А.А.Бранчык, на яго магіле пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 122 гаспадаркі, 462 жыхары. У 1965 г. быў створаны саўгас «Пескаўскі» (цэнтр — в. Новыя Пескі). Паводле перапісу 1970 г. 616 жыхароў. 16.3.1987 г. вёскі Старыя Пескі і Новыя Пескі былі аб'яднаны ў адну. У сучаснай вёсцы дзейнічаюць сярэдняя і базавая школы, Дом культуры, амбулаторыя, магазіны.

**ПЕШКІ** — вёска ў Боркаўскім с/с, за 24,5 км ад Бярозы, 29,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 80 двароў, 157 жыхароў (2005).

У 1864 г. вёска ў Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 288 жыхароў, піцейны дом. У 1905 г. 303 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Чарнякаўскай гміны Палескага ваяв. Польшчы, з 1926 г. ў Міжлескай (б. Мацвеевіцкай), з 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Пешкаўскім с/с, 96 двароў, 404 жыхары. У сельсавеце ў той час дзейнічалі 2 пач. школы. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 мірных жыхароў вёскі расстраляны фашыстамі ў крас. 1944 г. ў Бярозе. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 9 воінаў-землякоў. 16.7. 1954 г. сельсавет перайменаваны ў Боркаўскі (цэнтр перанесены ў в. Боркі). Паводле перапісу 1959 г. — вёска (78 гаспадарак, 259 жыхароў) і хутар (5 гаспадарак, 16 жыхароў). У 1970 г. ў калгасе «Боркі», 371 жыхар, ферма. Радзіма бел. пісьменніцы Р.А.Баравіковай. Планіровачна складаецца з арыентаванай з ПнЗ на У вуліцы (у зах. і цэнтр.



частках забудова двухбаковая), да якой у цэнтры з паўд. боку прымыкае яшчэ адна вуліца, арыентаваная з Пн на Пд.

**ПЛЯХАЎШЧЫНА** — вёска ў Нарутавіцкім с/с, за 14 км ад Бярозы, 8 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 68 двароў, 144 жыхары (2005).

У 1864 г. ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Сялецкай вол., 101 двор, 662 жыхары, хлебазапасны магазін і піцейны дом. У 1905 г. 710 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. — ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска (пад назвай Плехаўшчызна) у Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 27 будынкаў, 123 жыхары.

З 1939 г. ў БССР, у 1940 г. вёска спачатку ў Сялецкім, з 23.6.1940 г. ў Нарутавіцкім с/с. У 1940 г. 107 двароў, 556 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 10 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Блудзенскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 12 гаспадарак, 43 жыхары. З 1964 г. ў Восаўскім с/с (21.11.1977 сельсавет перайменаваны ў Нарутавіцкі). Паводле перапісу 1970 г. — у калгасе «Кастрычнік», 322 жыхары.

Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнУ наПд, паралельна якой (у цэнтр. частцы, з зах. боку) праходзіць яшчэ адна больш кароткая вуліца.

**ПУЗІ** — вёска ў Стрыгінскім с/с, за 25 км ад Бярозы, 31км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 44 двары, 70 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 45 двароў, 282 жыхары. У 1905 г. 300 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 44 будынкі, 274 жыхары.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Высокаўскім с/с, 58 двароў, 337 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 6 жыхароў. З 1954 г. ў Перасудавіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. — сяло (34 гаспадаркі, 165 жыхароў) і хутар (7 гаспадарак, 30 жыхароў). Паводле перапісу 1970 г. — у саўгасе «Белаазерскі», 289 жыхароў. У 1977 г. сельсавет перайменаваны ў Высокаўскі. З 26.2.2002 г. ў Стрыгінскім с/с.

**ПЯСЧАНКА** — вёска ў Здзітаўскім с/с, за 9 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 39 двароў, 66 жыхароў (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага. У 1716 г. ў складзе войтаўства Блудзенскага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1874 г. ў Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. ў Бярозаўскай вол., 24 двары, 233 жыхары, школа, 2 піцейныя дамы. Паводле перапісу 1897 г. ў Картуз-Бярозскай вол., 55 двароў, 337 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзілася сядзіба ва ўладанні мешчаніна Антона Занозінскага. У 1905 г. 366 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы, з 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска Углянскага с/с, 22 двары, 416 жыхароў.У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. жыхары вёсак Здзітава, Угляны і Пясчанка былі аб'яднаны ў калгас імя Молатава, які ў 1959 г. далучаны да саўгаса «Прамень». Паводле перапісаў 1959 г. — 97 гаспадарак, 348 жыхароў, 1970 г. — 267 жыхароў. З



*Р.А.Баравікова.*

18.1.1988 г. ў Здзітаўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на Пд, забудова двухбаковая, рэдкая, у паўд. частцы ўшчыльную падыходзіць да в. Шылін.

**ПЯСЧАНКА** — вёска ў Першамайскім с/с, за 18 км ад Бярозы, 13 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 13 двароў, 20 жыхароў (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Кабацкага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. вёска ў Бярозаўскай вол., 366 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. 8 будынкаў, 65 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Кабакоўскім с/с, 41 двор, 416 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 5 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 2 воіны-землякі. Паводле перапісу 1959 г. 34 гаспадаркі, 151 жыхар. З 14.4.1964 г. ў Блудзенскім с/с (перайменаваны ў Першамайскі 1.8.1964). Паводле перапісу 1970 г. — у саўгасе «Бярозаўскі», 140 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пн на ПдУ.

**РАГАЧЫ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 23 км ад Бярозы, 24 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 11 двароў, 15 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. в. Рэгачы ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 18 двароў, 125 жыхароў. Каля вёскі знаходзілася лясная кантора, пры ёй 1 двор, 8 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Наскоўскай гміны Палескага ваяв. Польшчы, з 1926 г. ў Сялецкай гміне.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Сашыцкім с/с, 39 двароў, 174 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 6 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 6 воінаў-землякоў. З 1954 г. ў Сялецкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 29 гаспадарак, 89 жыхароў, у 1970 г. — у калгасе «Усход», 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, і асобных участкаў забудовы.

**РЫГАЛІ** — вёска ў Малецкім с/с, за 20 км ад Бярозы, 19 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 15 двароў, 27 жыхароў (2005).

У 1563 г. пад назвай Падальшанец у Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Малецкага. У1864 г. вёска ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска пазначана як Рэгалі. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 113 жыхароў. У 1905 г. в. Рыгалі, 111 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 7 будынкаў, 34 жыхары.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 5 воінаў-землякоў. З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім раёне. Паводле перапісу 1970 г. ў саўгасе «Прагрэс», 68 жыхароў.

**РЭЧЫЦА**, Р а ч ы ц а — вёска ў Сакалоўскім с/с, за 114 км ад Бярозы, 55 км ад чыг. ст. Бронная Гара. 135 двароў, 313 жыхароў (2005).

Узгадваецца ў 1959 г. ў «Рэвізіі пушчаў і пераходаў звярыных» ВКЛ каля Здзітаўскай пушчы як урочышча Рэчыцы, дзе «людзей дзве службы». У канцы 19 ст. ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу



1897 г. 67 двароў, 390 жыхароў, вёска межавала з сядзібай казённага лясного аб'ездчыка. Пры вёсцы працавала карчма (2 двары, 8 жыхароў), побач былі 2 казённыя старажоўкі: у першай — 2 двары, 5 жыхароў, у другой — 3 двары, 8 жыхароў. Урочышча належала памешчыцы Буслоўскай, у ім меўся 1 дом з 2 жыхарамі. У 1905 г. ў вёсцы 461 жыхар, у адной лясной старожцы — 11, у другой — 4 жыхары, у рыбацкай старожцы 3 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 84 будынкі, 431 жыхар.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Сакалоўскага с/с, 138 двароў, 603 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 20 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 13 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. — 157 гаспадарак, 578 жыхароў, у 1970 г. — у калгасе «33-я гадавіна Кастрычніка», 645 жыхароў, пач. школа, клуб. Планіровачна складаецца з 3 паралельных вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдУ, злучаных у цэнтр. і паўн. частках 2 кароткімі вуліцамі, паўд.-зах. частка прымыкае ад чыг. лініі Бронная Гара—Белаазерск, частка забудовы пераходзіць за чыгунку.

**РАВЯЦІЧЫ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Бярозы, 13 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 1 км ад шашы Брэст—Мінск. 287 двароў, 809 жыхароў (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. ў Кобрынскай эканоміі, Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага, тут працаваў каралеўскі вадзяны млын. У канцы 16 ст. — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. Брэсцкага ваяв. ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1856 г. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. У 1881 г. цэнтр Равяціцкай вол., 23 двары, валаснoe праўленне, царква, карчма, кузня. У 1885 г. было адкрыта нар. вучылішча ў прыватным доме. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 69 двароў, 430 жыхароў, царква, нар. вучылішча, валаснoe праўленне, хлебазапасны магазін, кузня, крама, піцейны дом. Каля сяла сядзіба, 2 двары, 20 жыхароў. У 1905 г. 480 жыхароў. Многія вяскоўцы ў 1900-я г. ад'язджалі на заробкі ў Амерыку і Канаду. У 1914 г. з пачаткам 1-й сусветнай вайны значная частка вяскоўцаў эвакуіравалася ў глыб Расіі. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. вёска, цэнтр Равяціцкай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 56 будынкаў, 237 жыхароў. 27.2.1932 г. Равяціцкая гміна скасавана, вёска далучана да Сігневіцкай. У 1920-я г. была створана ячэйка КПЗБ (арганізатар Ф.Руднік), у 1930-я г., калі памешчык Нейгоф-Лей прадаў лес каля вёскі англійскай фірме, адбываліся забастоўкі.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска, цэнтр Равяціцкага с/с, 90 двароў, 505 жыхароў. Быў створаны калгас «Запаветы Леніна», першапачаткова з 20 гаспадарак. У сельсавеце ў той час дзейнічалі 4 пач. школы, млын, магазін, вёска не мела тэлеф. сувязі. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 7 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 16 воінаў-землякоў. У брацкай магіле пахаваны сав. воіны, партызаны і мірныя жыхары, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (у 1967 на магіле пастаўлены абеліск). 10.1.1948 г. быў адноўлены створаны перад вайной калгас «Запаветы Леніна». 16.7.1954 г. Равяціцкі і Сігневіцкі сельсаветы аб'яднаны ў адзіны Сігневіцкі. Паводле перапісу 1959 г. 139 гаспадарак, 505 жыхароў. У 1970 г. 596 жыхароў. Сярэдняя школа, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін.

**САБАЛІ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 18 км ад Бярозы, 16 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 79 двароў, 130 жыхароў (2005).

У 1563 г. вёска ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1863 г. тут каля вёскі ішлі баі паміж паўстанцамі і карнымі атрадамі. Ад тых падзей урочышча каля Сабалёў атрымала назву Маскалі. Забітыя паўстанцы былі пахаваны на месцы бою ў адной брацкай магіле. (У час 1-й сусетнай вайны і наступных падзей магіла інсургентаў была забыта, у 1928 выпадкова знойдзена, у 1929 польскія ўлады ўстанавілі драўляны крыж і надмагільныя пліты, якія ў 1939 былі знішчаны. У час 2-й сусветнай вайны мясц. жыхары ўстанавілі новы крыж, асвячоны ксяндзом з Сігневіч. У пач. 1990-х г. жыхар Л.В.Кугач вырабіў з жал. труб новы крыж.) Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Равяціцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 61 двор, 365 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 395 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 54 будынкі, 254 жыхары. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Равяціцкім с/с, 87 двароў, 469 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 12 воінаў-землякоў. З 1954 г. ў Сігневіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 118 гаспадарак, 430 жыхароў, 1970 г. — у калгасе «Запаветы Леніна», 460 жыхароў. Забудова вёскі нагадвае трохпрамянёвую зорку (вуліцы разыходзяцца ад цэнтра вёскі на ПнЗ, ПнУ і ПдУ, арыентаваныя на ПнЗ і ПнУ робяць далей правы паварот пад прамым вуглом; арыентаваная на ПдУ вуліца — прамая, да яе прымыкае з правага боку завулак, да якога яшчэ адзін завулак, паралельны вуліцы).

**САКАЛОВА** — вёска, цэнтр Сакалоўскага с/с, за 11 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бронная Гара. 286 двароў, 704 жыхары (2005).

У 1593 г. маёнтак Сакалова ў Слонімскім пав., выкуплены Янам Жарноўскім у папярэдняга гаспадара Івана Адрынца. Сярод збудаванняў гасп. двара адзначаліся дом жылы, піўніца, сырніца, пякарня, 3 хлявы, гумно, калодзеж. Маёнтку належалі 14 сял. дамоў, 15 гаспадарак і вольны баярын «Грышко Лебедзь», які не плаціў чынш і не працаваў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. У 1820-я г. пабудавана царква Маці Божай, помнік нар. драўлянага дойлідства (захавалася). У 1886 г. — сяло ў Пескаўскай вол., 28 двароў, 325 жыхароў. Піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. — 94 двары, 532 жыхары, дзейнічалі прыпісная царква і хлебазапасны магазін. Побач з вёскай выселак — 13 двароў, 80 жыхароў; дзярж. лясная варта ва ўрочышчы — 1 дом, 3 жыхары. У 1905 г. ў вёсцы — 587, у выселку — 112 жыхароў. З 1915 г. Сакалова акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав., 115 будынкаў, 582 жыхары, таксама з'явілася вёска Новае Сакалова, 21 будынак, 95 жыхароў. Потым вёскі зліліся. У гонар актыўнага ўдзельніка рэв. руху ў Зах. Беларусі, потым першага старшыні мясц. калгаса Сцяпана Аляксеевіча Труцько яго імем у вёсцы названа вуліца.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска, цэнтр Сакалоўскага с/с, 170 двароў, 780 жыхароў, дзейнічалі лесапільны і смалакурны з-ды, лазня, хата-чытальня, клуб, чырвоны вугал, магазін, пошта, у сельсавеце працавалі 2 пач. школы. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941—42 гг. загублены гітлераўцамі 11 жыхароў вёскі, пахаваны на



могілках. У 1952 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Акупанты загубілі 14 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 27 воінаў-землякоў. У 1949 г. пры зліцці трох калгасаў быў арганізаваны калгас «33-я гадавіна Кастрычніка» (у 1990-я г. перайменаваны ў калгас «Журавінка» з цэнтр. сядзібай у Сокалаве). Паводле перапісу 1959 г. пазначана як сяло, 234 гаспадаркі, 871 жыхар. Паводле перапісу 1970 г. — 980 жыхароў, фельч-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з крыху дугападобнай (выгнутай на Пн) вуліцы, арыентаванай з З на У, яе ў цэнтры перасякае другая вуліца, арыентаваная з Пн на Пд. Побач участак забудовы, утвораны 2 паралельнымі вуліцамі, які злучаны з зах. часткай першай вуліцы і з паўн. часткай — другой.

**САСНОЎКА** — вёска ў Малецкім с/с, за 23 км ад Бярозы, 17 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 29 двароў, 54 жыхары (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. ў Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Кабацкага. У 1716 г. ў складзе войтаўства Блудзенскага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1864 г. ў Малецкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 287 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1905 г. 348 жыхароў. З 1915 г. Сасноўка акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Малевіцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 4 будынкі, 21 жыхар.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 10 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 9 воінаў-землякоў. З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. — 161 жыхар, у саўгасе «Малеч» (з 1979 імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з З на У, у цэнтры з паўд. боку да яе прымыкае завулак.

**САШЫЦА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 16,5 км ад Бярозы, 13,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 108 двароў, 188 жыхароў (2005).

У 1864 г. ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. ў Сялецкай вол., 56 двароў, 597 жыхароў, школа, піцейны дом. 13.7.1894 г. пажарам у вёсцы былі знішчаны 56 сял. дамоў з маёмасцю, страта склала 25 295 руб. Паводле перапісу 1897 г. ў Сашыцы 131 двор, 820 жыхароў, дзейнічалі нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом, кузня. Выселкі вёскі мелі самастойныя назвы — Бродкі (1 двор, 9 жыхароў) і Сакалова (4 двары, 15 жыхароў). У 1905 г. 961 жыхар. 8.12.1901 г. нарадзіўся І.М.Хвядчэня, удзельнік рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. 11.5.1933 г. па-зверску забіты польскай дэфензівай. У Бярозе яго імем названа вуліца, у вёсцы пастаўлены помнік. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 69 будынкаў, 452 жыхары. У сярэдзіне 1920-х г. створаны камсамольская арг-цыя, ячэйка КПЗБ (з 1924 уваходзіла ў Сялецкі падрайком; сакратар — Гаворка). На ўшанаванне памяці аднавяскоўца, удзельніка рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, сакратара Сашыцкага падп. падрайкома КПЗБ М.М.Скробата на доме, дзе ён жыў, у 1976 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска, цэнтр Сашыцкага с/с, 178 двароў, 902 жыхары. У сельсавеце ў той час налічваліся 3 пачатковыя, 1 няпоўная сярэдняя школы, хата-чытальня, магазін, вёска не мела телеф. сувязі. Створаны кал-

гас «Чырвоная звязда», які аб'яднаў 23 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 0,3 км на Пн ад вёскі пахаваны 60 партызан і мірных жыхароў, расстраляных ням.-фаш. захопнікамі. У 1958 г. на магіле партызан і ахвяр фашызму быў пастаўлены абеліск. Акупанты загубілі ў вёсцы 55 жыхароў, на фронце загінулі 24 воіны-землякі. У г. Бяроза ў 1942 г. быў пазверску закатаваны гітлераўцамі юны партызан Саша Здановіч. На будынку Сялецкай школы, у якой ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка. У Сашыцы, на месцы, дзе жыла сям'я Здановічаў, устаноўлены мемарыяльны знак у памяць аб Лявону Раманавічу Здановічу, першым сакратары Сашыцкага с/с і арганізатары партыз. барацьбы з захопнікамі, які загінуў у 1945 г. ў барацьбе з ворагамі сав. ўлады. У 1978 г. на месцы яго дома пастаўлена стэла. З 1954 г. вёска ў Сялецкім с/с. Паводле перапісу 1970 г. 651 жыхар. У 1977 г. на ўшанаванне памяці І.М.Хвадчэні і М.М.Скробата пастаўлены абеліск і 2 стэлы з барэльефамі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на ПдУ, абодва канцы якой — дарожныя развілкі.

**СВАДЗЬБІЧЫ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 19 км ад Бярозы, 17 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 26 двароў, 38 жыхароў (2005).

У 1838 г. вядомы ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., калі належалі П.Вітаноўскаму. У 1856 г. памешчыку належала 81 рэвізская душа. 3.3.1861 г. жыхары вёскі адмовіліся выконваць павіннасці і аб'явілі аб непадпарадкаванні ўладзе, частка сялян была арыштавана і напраўлена ў Пружанскую турму. У 1864 г. ў Сігневіцкай вол. У 1886 г. — Свадзьбічы Казны ў Равяціцкай вол., паштовая станцыя. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 177 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку Сігізмунда Шамяцілы 15 двароў, 21 жыхар. У выселку пры б. паштовай станцыі 1 двор, 12 жыхароў. У 1905 г. 242 жыхары, на станцыі (за 1 вярсту ад вёскі) 15 жыхароў. На працягу 1905 г. адбываліся сял. хваляванні з эканам. патрабаваннямі і самавольная высечка лесу. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 14 будынкаў, 78 жыхароў, у фальварку 1 будынак, 5 жыхароў. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Равяціцкім с/с, 52 двары, 271 жыхар. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 6 воінаў-землякоў. Пасля вызвалення вёскі ў 1944 г. працаваў млын. З 1954 г. ў Сігневіцкім с/с. У 1959 г. 27 гаспадарак, 112 жыхароў. У 1970 г. ў калгасе «Запаветы Леніна», 162 жыхары, у 1980-я г. вяскоўцы працавалі ў калгасе. Радзіма бел. пісьменніка В.Сахарчука (н. ў 1953). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У, у зах. частцы (з паўд. боку) да яе прымыкае завулак.

**СВЕТАЧ** ( да 1964 Горач) — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 17 км ад Бярозы, 12 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 193 двары, 467 жыхароў (2005).

У 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага. У канцы 16 ст. — дзярж. ўласнасць у Берасцейскім пав. У 1716 г. ў складзе войтаўства Блудзенскага Блудзенскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. — Горач у Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Картуз-Бярозскай вол., 78 двароў, 454 жыхары, хлебазапасны магазін, малочная крама. У 1905 г. 495 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920



устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне. У вёсцы была створана ячэйка КПЗБ, якая ў 1924 г. ўвайшла ў склад Блудзенскага падрайкома (сакратар В.С.Васілеўскі).

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Углянскага с/с, 97 двароў, 625 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 9 жыхароў, на фронце загінулі 18 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 99 гаспадарак, 394 жыхары. 30.7.1964. г перайменавана ў в. Светач. У 1970 г. ў Бярозаўскім с/с, у племсаўгасе «Прамень», 660 жыхароў.

**СЕЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 6 км ад Бярозы, 11 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 85 двароў, 158 жыхароў (2005).

Вядома ў 18 ст. як маёнтак Сейлаўшчына ў Брэсцкім ваяв., які ротмістр Пётра Сербіеўскі завяшчаў кляштару картэзіянцаў у Бярозе. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. ў Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. пад назвай Селаўшчызна ў Сялецкай вол., 32 двары, 214 жыхароў, хлебазапасны магазін. Вёска межавала з выселкам (1 двор, 5 жыхароў) і сядзібай (2 двары, 34 жыхары) той жа назвы, а таксама з вёскай (8 двароў, 52 жыхары, хлебазапасны магазін) і аколіцай (17 двароў, 106 жыхароў) Лазова. У 1905 г. чыг. будка Селаўшчына з 4 жыхарамі адносілася да Бярозаўскай воласці. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Самойлавіцкім с/с, 54 двары, 295 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 6 воінаў-землякоў. У 1959 г. — 75 гаспадарак, 249 жыхароў. З 1964 г. ў Бярозаўскім с/с (цэнтр — г. Бяроза). Паводле перапісу 1970 г. 314 жыхароў, ферма. 21.5.1984 г. выключана з рэестра в. Лазова (у 1940 у ёй 42 двары, 182 жыхары, у 1959—30 гаспадарак, 103 жыхары, у 1970 — у саўгасе «Прамень», 122 жыхары), паколькі злілася з сучаснай вёскай.

**СІГНЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Сігневіцкага с/с, на левым беразе канала Вінец. За 15 км ад Бярозы, 15 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, на аўтадарозе Бяроза—Антопаль. 190 двароў, 396 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. — шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. «Зямля ў Сігневічах» узгадваецца ў Метрыцы ВКЛ за 1520 г. У 1526 г. было пацверджана права на маёнтак «Сігневічы» «старостине Ломъзеньской пани Павловой Берестьской Томиле». У 1532 г. паводле прывілеяў караля Сігізмунда I ад Шчастны Крупскай перайшло новаму ўладальніку Фларыяну Радагосцкаму, у 2-й пал. 16 ст. ва ўладаннях Вішэнскіх, у 1577 г. — маёмасць Станіслава Малахоўскага, потым маёнткам валодалі Вештарты-Гашэі, князі Шуйскія. Жонка Адама Шуйскага Марыя (Марыянна) Халецкая атрымала ад мужа Сігневічы ў свае ўладанні. Па звестках гісторыкаў Насецкага і Балінскага, аднаму з продкаў Фадзея Касцюшкі Казімір Ягеловіч падарыў фальварак Сігневічы з 2 вёскамі. Ад яго і пайшоў род Сігневіцкіх-Касцюшак. Караль Аляксандр Касцюшка да гэтага ўладання далучыў яшчэ 2 вёскі (Ленявічы і Ступічава). Усё гэта перайшло потым да Эстэкаў, якія знаходзіліся ў сваяўстве з Касцюшкамі. У 18 ст. М.Халецкая, а таксама яе другі муж Юзаф Прозар валодалі Сігневічамі. У 1785 г. ўзвялі мураваны касцёл на месцы старога драўлянага, вядомага з 17 ст. Пасля рэстаўрацыі ў 1848 г. вядомы як Пакроўская царква, помнік архітэктуры з элементамі барока (захавалася). Па загаду гаспадароў мастак Францішак Смуглевіч напісаў карціну «Сям'я Прозараў», пад якой быў змешчаны

тэкст Францішка Карпінскага ў памяць памерлага Ю.Прозара (захоўваецца ў Нац. музеі ў Варшаве). У якасці пасагу Сігневічы пасля 1788 г. перайшлі за дачкой Юзафа генералу Блышынскаму.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1838 г. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., належалі памешчыцы Прозаравай. З крас. 1843 г. ва ўладанні графа Рамуальда Нейгоф-Лея; маёнтак, у склад якога да канца 19 ст. ўваходзілі фальваркі Машковічы, Марывіль, Маліннік, Падхлябань, Пяцелева. Да сядзібы гаспадароў адносіліся драўляны дом на муравaным фундаменце (згарэў у 1914, потым аднoўлены, перабудаваны, захаваўся), 3 свірны, сарай для экіпажа, стайня, ляднік, камора, вяндлярня, жывёльны двор, пуня, кузня, млын-вятрак. У сярэдзіне 19 ст. быў закладзены парк. 3.3.1861 г. сяляне вёскі адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці і аб'явілі аб непадпарадкаванні ўладзе, частка сялян была арыштавана і змешчана ў Пружанскую турму. У 1864 г. ў Сігневіцкай вол. У 1886 г. — Сігневічы (Чыгірны), сяло ў Равяціцкай вол., 54 двары, 522 жыхары, касцёл, крама, піцейны дом. Таксама в. Сігневічы ў той жа воласці, у якой дзейнічалі вінакурны з-д, крама, піцейны дом.

У 1890 г. — с. Сігневічы (Чычірын), маёнтак Сігневічы ва ўладанні Рамуальда Нейгоф-Лея, таксама пасёлак. Паводле перапісу 1897 г. — у сяле 107 двароў, 619 жыхароў, дзейнічалі касцёл (пры ім дом з 8 жыхарамі), хлебазапасны магазін, крама, піцейны дом; у маёнтку 5 двароў, 40 жыхароў. У 1905 г. — у сяле 493, у маёнтку 51 жыхар. На працягу 1905 г. адбываліся сял. хваляванні з эканам. патрабаваннямі. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 установлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. ў Равяціцкай гміне Пружанскага пав. — вёска (98 будынкаў, 468 жыхароў) і фальварак (2 будынкі, 26 жыхароў). У 1920-я г. былі створаны ячэйка КПЗБ, гурток «Грамады». У 1932 г. адбылася забастоўка возчыкаў лесу. З 27.2.1932 г. цэнтр Сігневіцкай гміны.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска, цэнтр Сігневіцкага с/с, 115 двароў, 651 жыхар, адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. У сельсавеце дзейнічалі 2 школы, 3 чырвоныя куткі, хата-чытальня, медпункт, магазін. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 46 аднавяскоўцаў-воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла. У снеж. 1943 г. партыз. брыгада «За Радзіму» імя А.К.Флегантава ў час рэйду затрымалася ў Сігневіцах і знішчыла некалькі паліцэйскіх участкаў у Бярозаўскім р-не. У гонар гэтых падзей на будынку клуба была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1948 г. ў вёсцы створаны калгас «Перамога», пасля яго ўзбуйнення — цэнтр. сядзіба калгаса. У 1950 г. створана Сігневіцкая МТС (гл. артыкул пра в. Маравіль). Паводле перапісу 1959 г. 137 гаспадарак, 471 жыхар, у 1970 г. 492 жыхары. 4.9.1972 г. выключана з рэестра населеных пунктаў в. Крэчат, якая злілася з в. Сігневічы. У 1940 г. было 45 двароў, 235 жыхароў, у 1959 г. — 59 гаспадарак, 224 жыхары, у 1970 г. — 237 жыхароў. Лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання, Дом культуры, аддз. сувязі,



*Касцёл (1795) у в. Сігневічы.*



сярэдняя школа, бальніца (на 35 ложкаў), паліклініка.

Планіровачна складаецца з дугападобнай (выгнутай на Пд), двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У, да якой прымыкаюць (з паўд. боку) 2 вуліцы, сыходзячыся ў трохкутнік, а таксама некалькі завулкаў.

**СМАЛЯРКА** — вёска ў Сакалоўскім с/с, за 7 км ад Бярозы, 10 км ад чыг. ст. Бронная Гара. 20 двароў, 42 жыхары (2005).

У 1-й пал. 19 ст. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губерні. У 1863 г. жыхары вёскі прымалі ўдзел у паўстанні супраць царызму. 13 чэрв. тут адбыліся сутыкненні паўстанцаў з царскімі войскамі. Паводле перапісу 1897 г. ў Бярозаўскай вол., 12 двароў, 78 жыхароў. Непадалёку была лясная казённая варта 3-га Слонімскага лясніцтва, 1 двор, 8 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 86 жыхароў, у старожцы 7 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Сакалоўскага с/с, 21 двор, 123 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. гітлераўцы стварылі тут «фабрыку смерці», расстраляўшы каля 3 тыс. сав. грамадзян. Паводле перапісу 1970 г. — у калгасе «33-я гадавіна Кастрычніка», 138 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на Пд.

**СОВІНА** — вёска ў Стрыгінскім с/с, за 12 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 90 двароў, 184 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска пад назвай Совін у Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 44 двары, 276 жыхароў. У 1905 г. 276 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 57 будынкаў, 316 жыхароў. У 1920-я г. створана ячэйка КПЗБ.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. в. Совін, цэнтр Совінскага с/с, 76 двароў, 447 жыхароў. У сельсавеце 484 двары, 2939 жыхароў, ён аб'яднаў 4 населеныя пункты, у якіх дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня, клуб, лазня, магазін. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 15 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 10 воінаў-землякоў. У 1949 г. створаны калгас «За ўладу Саветаў», які ў 1951 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Кірава з цэнтрам у в. Стрыгань. З 1954 г. ў Стрыгінскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. — Совіна, 107 гаспадарак, 483 жыхары. У 1970 г. 621 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (пераважна з аднабаковай забудовай), арыентаванай з Пн на Пд, да яе ў паўд. частцы прымыкаюць з усх. боку 2 кароткія паралельныя вуліцы, злучаныя завулкам, арыентаваныя з З на У; яшчэ адна вуліца, арыентаваная з З на ПнУ, прымыкае з усх. боку да цэнтр. часткі.

**СПОРАВА** — вёска, цэнтр Спораўскага с/с, каля возера Спораўскае, за 20 км ад Бярозы, 3 км ад чыг. ст. Белаазерск. 452 двары, 1277 жыхароў (2005).

На З ад вёскі знаходзіцца стаянка-1 (арх.), якая адносіцца да эпохі неаліту (3-е тыс. да н.э.) За 2,5 —3 км на ПдЗ ад вёскі — Стаянка-2 (арх.) адносіцца да нёманскай культуры. Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. На картах 16—17 ст. воз. Спораўскае называлі Салман (1540), Салмація, Салмаціка (1606). Вёска ўзгадваецца пры апісанні мяжы Здзітаўскай пушчы ў «Рэвізіі пушчаў і пераходаў звярыных...» у 1552 г. як маёнтак Васіля Тышкевіча. Потым належала роду Шырмаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 18 ст. адным з продкаў Шырмаў, пінскім старостам, быў пабудаваны сядзібны дом (існаваў да 1939) і флігель, які служыў для слуг і прыёму гасцей. Сюды пад паліцэйскі надзор пас-




ля разгрому т-ва філарэтаў быў напраўлены Міхал Шырма (н. ў 1803); яго сябра, польскі паэт Юльян Корсак, наведваў Спорава. У 1865 г. маёнтак Спорава складаўся з аднайменнай вёскі (53 двары) і пас. Дзмітрычы (3 двары). Уся маёмасць Шырмаў у Пескайскай вол. складала 17,5 тыс. дзес. Паводле выкупных актаў 1861 г. ў маёнтку 235 сялян, 89 батракоў мужчын і 59 жанчын, 56 двароў. У 1868 г. — сяло ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ., 55 двароў, 605 жыхароў, праваслаўная царква (да 1866 прыходская, пасля прыпісная да Здзітаўскай), карчма, вучылішча (аддзяленне Здзітаўскага нар. вучылішча), пры якім існаваў хор хлопчыкаў. Возера належала памешчыку, і сяляне атрымлівалі дазвол на лоўлю рыбы за працу на карысць памешчыка. Палескі краязнаўца Ф.Стаўровіч надрукаваў у 1868 г. ў «Віленскім зборніку» нарыс «Село Спорово». У 1870 г. у Пескаўскай вол. У 1886 г. 54 двары, 621 жыхар, праваслаўная царква, крама, піцейны дом, ветраны млын. Паводле перапісу 1897 г. — 126 двароў, 766 жыхароў, прыпісная царква, царк.-прыходская школа граматы, хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом. На зямлі, якая належала памешчыку Шырме, знаходзіліся 14 сядзіб, 106 жыхароў. У карыстанні Шырмы былі фальварак з 1 будынкам і 4 жыхарамі і сядзіба з 3 дварамі і 7 жыхарамі. У 1905 г. ў вёсцы 969, у маёнтку 11 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., фальварак і вёска, разам 198 будынкаў, 1148 жыхароў. У 1920-я г. ў Спораўскім маёнтку налічвалася 9 тыс. га зямлі.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Здзітаўскага с/с, 306 двароў, 1564 жыхары, арганізавана рыбная арцель. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі, у лясах, у раёне воз. Спораўскае, знаходзілася гал. база Брэсцкага падп. абкома КП(б)Б, які дзейнічаў з крас. 1943 г. да вызвалення Брэсцкай вобл. ад ням.-фаш. акупантаў у ліп. 1944 г. Сакратары абкома С.І.Сікорскі, І.І.Баброў (загінуў у 1.11.1943), члены абкома (з 24.6.1943) В.Ф.Калібераў, С.П.Пяцяруха, А.І.Федасюк (да 30.3.1944). Друкаваны орган падп. абкома — газ. «Зара» (рэдактар В.Ф.Калібераў, выходзіла з мая 1943). У 1960 г. ў гонар Брэсцкага падп. абкома КП(б)Б у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У вёсцы пахаваны 14 партызан брыгады «Савецкая Беларусь», якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у 1943—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана. У памяць аб месцы дыслакацыі на тэр. Спораўскіх балот штаба партыз. брыгады «Савецкая Беларусь» (камандзір М.У.Бабкоў, камісар А.І.Маслаў) у 1981 г. на будынку школы была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Акупанты загубілі 38 жыхароў вёскі, на фронце загінуў 71 воін-зямляк. 31.3.1944 г. каля в. Батарэя загінуў камандзір атрада імя Пажарскага А.І.Калупаеў, яго імем названа вуліца ў Спораве. У гонар аднаго з арганізатараў і ўдзельнікаў партыз. руху на Брэстчыне П.В.Пранягіна таксама названа вуліца. У крас. 1950 г. ў вёсцы створаны калгас імя Булганіна, у 1957 г. ён увайшоў у склад саўгаса «Белаазерскі» (пасля яго ўзбуйнення ў 1965 вяскоўцы працавалі ў саўгасе «Пескаўскі»). Паводле перапісу 1959 г. 367 гаспадарак, 1649 жыхароў. У 1970 г. — 1930 жыхароў. У 1977 г. пры сярэдняй школе засн. грамадскі музей баявой і прац. славы. 1.8.1983 г. быў створаны саўгас (з крас. 1991 калгас) «Спорава» з цэнтрам у вёсцы. 18.1.1988 г. Здзітаўскі с/с перайменаваны ў Спораўскі, Спорава стала цэнтрам сельсавета. У 1996 г. тут праходзіў абласны фестываль «Спораўскія жарты». Сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад, Дом культуры, гандл. цэнтр, амбулаторыя.



**СТАРЫЯ ПЕСКІ** — былая вёска ў Пескаўскім с/с, на беразе воз. Чорнае, злілася з вёскай Новыя Пескі.

Маёнтак Пескі вядомы з пач. 16 ст., калі ім валодаў Аляксандр Ягелончык, ад якога перайшоў ва ўласнасць Дзмітрыя Кіяніна, потым яго нашчадкам. Якуб Пуслоўскі выкупіў частку маёнтка ў Рагінскіх, другую частку яго жонка Барбара атрымала ў спадчыну. Такім чынам, маёнтак Пескі быў з 18 ст. да 1939 г. фамільнай рэзідэнцыяй сям'і Пуслоўскіх. Заснавальнікам рэзідэнцыі лічыцца Казімір Міхал Пуслоўскі. У канцы 18 ст. былі пабудаваны палац (знішчаны пажарам у 1843), стайня, перабудаваная ў 1-й пал. 19 ст. пад сядзібны дом (захаваўся). Каля сядзібнага дома знаходзіліся 2 брамы, бровар, іншыя гасп. пабудовы, быў закладзены парк. Славуты мастак 19 ст. Н.Орда адлюстраваў маёнтак у акварэлі. Пры маёнтку ў канцы 19 ст. існавала аранжарэя «Павільён руж» у стылі класіцызму. Пісьменнік Ю.Нямцэвіч у 1819 г. наведаў Пескі і пакінуў аб іх добрыя ўспаміны. У 19 ст. Пескамі валодалі Францішак і Войцех Пуслоўскія, граф Францішак Ксаверы Пуслоўскі, маршалак віленскі, які служыў пэўны час пры амбасадзе Расіі ў Парыжы і Пескі наведваў рэдка. Яго сын Уладзіслаў, ажаніўшыся з князёўнай Друцкай-Любецкай, перанёс сваю рэзідэнцыю з Пескаў у Альбярцін разам з багатай б-кай, сямейным архівам і калекцыяй карцін. У 1827 г. пабудавана драўляная Троіцкая царква — помнік архітэктуры класіцызму (захавалася). У 1863 г. ў «Павільён руж» былі звезены іконы з ліквідаванага касцёла ў в. Альшэва. У 1862 г. ў спецыяльным будынку, узведзеным сялянамі, адкрыта нар. вучылішча, якому належала 1 дзес. зямлі (у 1891 згарэла і нанава пабудавана, у 1895 — 32 вучні, з 1892 г. мелася б-ка з 63 назвамі і 507 экзэмплярамі кніг, у 1899 будынак зноў перабудаваны). У 1870 г. ў маёнтку Пескі 8839 дзес. зямлі зручнай і 2800 дзес. няўдобіц. У 1886 г. Пескі — сяло ў Пескаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 46 двароў, 938 жыхароў, царква, школа, піцейны дом. За 2 вярсты ад сяла размяшчаўся маёнтак Пескі, дзе знаходзіліся капліца, вінакурны з-д, кузня, конны і ветраны млыны. Пажар 2.11.1891 г. знішчыў у сяле 46 дамоў з гасп. пабудовамі і нар. вучылішча, страты склалі 10 305 руб.

27.12.1896 г. тут нарадзіўся сав. ваен. дзеяч, генерал-лейт. С.І.Любарскі (нач. штаба 3-й гв. арміі, загінуў 16.4.1945 у Германіі, пахаваны ў Львове). Яго імем названа вуліца ў Бярозе, у вёсцы (каля будынка сельсавета), на ўшанаванне памяці С.І.Любарскага ў 1980 г. пастаўлена стэла. Паводле перапісу 1897 г. сяло пры Хрыскім воз., цэнтр воласці, 148 двароў, 867 жыхароў, царква, нар. вучылішча ў доме свяшчэнніка, хлебазапасны магазін, 2 кузні, піцейны дом, працаваў фельчар. Частка сяла мела асобную назву — царк. пагост Пескі, 2 двары, 11 жыхароў. Сяло межавала з сядзібай ва ўладанні памешчыка Пуслоўскага, у якой працаваў вінакурны з-д і меліся асобныя будынкі на зямлі памешчыка (8 двароў з 39 жыхарамі), 5 двароў з 24 жыхарамі, 1 двор з 2 жыхарамі, 1 двор з 6 жыхарамі. У яго ж уладанні рыбная прыстань (1 двор, 12 жыхароў), якая знаходзілася паміж маёнткамі Пескі і фальваркам Чашнікі. У 1905 г. ў сяле 1083 жыхары, у маёнтку 46 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., калонія і вёска, разам 238 будынкаў, 1319 жыхароў. У маёнтку размяшчалася аддз. дэфензівы (палітычнай паліцыі). У 1920-я г. ў сяле створаны гурток Бел. сялянска-работніцкай грамады. Апошнія гаспадары Пескаў Францішак Пуслоўскі і яго сын Ксаверы ў 1939 г. выехалі за мяжу. У 1930-я г. працавалі магазін, царква, польская 7-гадовая школа, капліца (узарвана ў 1939).

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска Пескаўскага с/с, 394 двары, 2094 жыхары; у маёнтку Пескі — 30 двароў, 149 жыхароў, спіртавы з-д, у фальварку — 6 будынкаў, 95 жыхароў. Адкрыты спачатку фельч.-акушэрскі пункт, на базе якога створана бальніца на 15 ложкаў, клуб. У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. акупанты расстралялі 15 мірных жыхароў. У 1975 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

У гады вайны каля вёскі ў лесе базіраваліся Бярозаўскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, рэдакцыя друкаванага органа падп. райкома КП(б)Б — газ. «Пламя» (выдавалася са студз. 1944, рэдактары А.С.Фацік, П.І. Братанаў), партыз. атрады імя С.М.Будзённага, імя М.І.Капшына, імя В.П. Чкалава, № 345 і № 347 Брэсцкага партыз. злучэння. Бярозаўскі падп. райком КП(б)Б дзейнічаў з снеж.1943 г. да ліп. 1944 г. Сакратары С.А.Яроцкі (да 10.6. 1944), В.М.Яроцкі (з 10.6.1944 г). Бярозаўскі падп. райком ЛКСМБ дзейнічаў з вер. 1943 г. да ліп. 1944 г. Сакратары П.К.Каламійцаў, Ф.І.Савін (да 22.11. 1943), С.А.Мядзведзь (Мядзведзеў, з 22.11.1943). Пры атрадах імя Калініна, 345-м і 347-м былі сямейныя лагеры, працавалі «лясныя школы». У 1975 г. ў гонар падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і партызан пастаўлена стэла. Пры абароне і вызваленні в. Пескі загінулі 19 чал., пахаваны ў вёсцы. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 54 воіны-землякі, жыхары і ўраджэнцы сельсавета. У 1955 г. адкрыта сярэдняя школа. У 1967 г. на будынку школы ўсталявана мемарыяльная дошка ў гонар дзеяча рэв. камуністычнага руху 1920-х г. Сцяпана Лушчы. Паводле перапісу 1959 г. ў Старых Песках 352 гаспадаркі, 1361 жыхар. У 1970 г. — 2461 жыхар. У 1975 г. працавалі 3 школы: пач. (40 вучняў), 8-гадовая (225 вучняў) і сярэдняя (422 вучні).

У 1980-я г. Старыя Пескі зліліся з Новымі Пескамі, 16.3.1987 г. былі выключаны з рэестра населеных пунктаў. У гэтай частцы аб'яднанай вёскі дзейнічаюць базавая школа, з-д па адкорме жывёлы, турбаза.

**СТАЎКІ** — вёска ў Міжлескім с/с, за 24 км ад Бярозы, 25 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 43 двары, 89 жыхароў (2005).

У 1864 г. ў Мацвеевіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав., побач маёнтак Ставы памешчыка Васіля Растоўскага. У 1905 г. ў Чарнякоўскай вол.: вёска (400 жыхароў, 49 вёрст ад павятовага цэнтра), маёнтак (11 жыхароў, 52 вярсты ад павятовага цэнтра) і паселішча Ставы (10 жыхароў, 52 вярсты ад павятовага цэнтра). З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Чарнякоўскай гміне Палескага ваяв. З 1926 г. ў Міжлескай (б. Мацвеевіцкай), з 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Міжлескім с/с, 60 двароў, 306 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 14 жыхароў, на фронце загінулі 8 воінаў-землякоў. У кастр. 1949 г. ў вёсцы быў арганізаваны калгас «32-я гадавіна Кастрычніка», які ў лютым 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Новы шлях» (у 1987 далучаны да калгаса «Чырвоны сцяг» з цэнтрам у в. Міжлессе). Паводле перапісу 1970 г. 281 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з Пд на ПнУ, да якой з З прымыкаюць 2 завулкі.

**СТРЫГІНЬ** — вёска, цэнтр Стрыгінскага с/с, за 8 км ад Бярозы, 14 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 337 двароў, 767 жыхароў (2005).

У пачатку 19 ст. — вёска ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ., у 1817 г. была пабудавана драўляная царква Іаана Бага-



слова, помнік нар. дойлідства, побач з царквой — званіца на 2 слупах (захаваліся). У 1886 г. — сяло ў Пескаўскай вол., 52 двары, 598 жыхароў, царква, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г.—вёска, 145 двароў, 943 жыхары, царква на могілках, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа граматы, кузня, 2 ветраныя млыны. Побач з вёскай сядзіба (1 двор, 9 жыхароў). У 1905 г. ў вёсцы 1058, у сядзібе 5 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 183 будынкі, 1016 жыхароў. У 1920-я г. была створана ячэйка КПЗБ.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Совінскім с/с, 246 двароў, 1495 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У паветраным баі супраць акупантаў 24.6.1941 г. загінуў намеснік камандзіра эскадрыллі 96-га бамбардзіровачнага авіяпалка А.В.Пятроў. Пахаваны на вясковых могілках, дзе ў 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск партыз. атрадам № 112 (камандзір А.П.Чарткоў). У снеж. 1942 г. быў разгромлены паліцэйскі ўчастак. 2—16.7. 1944 г. тут знаходзіўся камандны пункт 48-й гв. стралк. дывізіі, адкуль камандзір дывізіі Г.М.Корчыкаў кіраваў баямі па вызваленні Бярозы. У памяць аб гэтым на будынку Дома культуры была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Акупанты загубілі 15 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 53 воіны-землякі. На ўшанаванне памяці 114 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў вайну, каля могілак пастаўлены ў 1985 г. помнік. У вер. 1949 г. быў створаны калгас імя Кірава (у 1951 значна ўзбуйнены, у 1960 аб'ядноўваў 4 населеныя пункты, 599 двароў). З 16.7. 1954 г. — цэнтр Стрыгінскага с/с і калгаса імя Кірава. Паводле перапісу 1959 г. 240 гаспадарак, 986 жыхароў. У 1970 г. 1436 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, Дом культуры.

**СУДЗІЛАВІЧЫ** — вёска ў Міжлескім с/с, за 24 км ад Бярозы, 25 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 117 двароў, 302 жыхары (2005).

У 1864 г. вёска ў Мацвеевіцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 59 двароў, 228 жыхароў, у фальварку (уласнасць Мар'і Казакевіч) 2 двары, 18 жыхароў. У 1905 г. — вёска ў Чарнякоўскай вол., 281 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп.1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. вёска ў Мацвеевіцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 68 будынкаў, 353 жыхары. У 1926 г. гміна перайменавана ў Міжлескую.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Міжлескім с/с, 87 двароў, 315 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 4 жыхароў вёскі. З фронту не вярнуліся 11 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці 32 воінаў-аднавяскоўцаў і 24 ахвяр фашызму ў 1985 г. быў пастаўлены помнік. У кастр. 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў лютым 1950 г. быў значна ўзбуйнены (у 1960 уключаў 5 вёсак, 398 двароў; у 1987 далучаны да калгаса «Чырвоны сцяг» з цэнтрам у в. Міжлессе). Паводле перапісу 1959 г. 40 гаспадарак, 180 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 442 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з У на ПдЗ, да якой прымыкаюць з паўн. боку 2 участкі забудовы і шэраг адасобленых домаўладанняў.

**СЯЛЕЦ** — вёска, цэнтр Сялецкага с/с, за 12 км ад Бярозы, 9 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 398 двароў, 985 жыхароў (2005).

Вядомы з 14 ст. У 1397 г. вял. кн. Вітаўт падараваў назаўсёды Сялец Гіяцынту Ланевічу. У часы кн. Вітаўта тут было дазволена сяліцца яўрэям, на Пд ад аднайменнага гіст. цэнтра з'явілася кампактная калонія яўрэяў (гэтае месца дагэтуль наз. Фурштат, ад яўр. vor-





stadt перад горадам), а з паўн. боку, на другім беразе ракі Башта, пасяліліся звычайныя селяне. У 1471 г. цэнтр Сялецкай вол. Слонімскага (з 1521 г. Кобрынскага) пав., існавала уніяцкая царква (згарэла ў 1915), адкрыты касцёл, разбураны ў час падаўлення паўстання К.Каліноўскага (на яго месцы ўзведзена Успенская царква, якая будавалася ў 1863–70). У 1522 г. каралева Бона атрымала ад караля Жыгімонта прывілей «на таргі ў кожную нядзелю і карчму ў мястэчку Сялец». Потым Сялец атрымаў правы горада. У 16 ст. вядомы паштовы тракт з Пружан у Сялец, а адна з вуліц у Пружанах названа Сялецкай.

У 1450-я г. пабудаваны замак, які пазней атрымаў назву Сялецкі палац. У 1570 г. кароль Жыгімонт I аддаў Сялец Ганне Кішка з Радзівілаў, якая вышла замуж за Крыштофа Садоўскага і запісала яму маёнтак, потым ён перайшоў ва ўладанне Радзівілаў. У канцы 16 ст. адносіўся да Берасцейскага пав. Брэсцкага ваяв. У 1-й пал. 17 ст. падчас Рэфармацыі, праз дзейнасць Радзівілаў нядоўга існаваў кальвінскі збор. У 1733 г. каля Сяльца адбылася бітва войска караля Аўгуста III з атрадамі Ашмянскай канфедэрацыі пад камандаваннем С.Ляшчынскага. Ваяры Ляшчынскага былі разгромлены, некалькі будынкаў (у тым ліку палац каралевы Боны) згарэлі.

Вадасховішча Сялец.



Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1824 г. — мястэчка ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., 100 сялянскіх і 25 яўр. дамоў, 2 царквы, ф-ка, рынак, 7 піцейных дамоў, 299 жыхароў мяшчан і сялян і 327 яўрэяў. У маёнтку Сялец існаваў шпіталь графа Замойскага. На 1833 г. — 963 жыхары, 2 драўляныя царквы, 180 драўляных дамоў, 2 ф-кі (4 наёмныя рабочыя), 8 лавак, 21 піцейны дом. У 1839 г. тут нарадзіўся вядомы вучоны-медык А.Акінчыц (удзельнік нац.-вызв. паўстання 1863). У 1856 г. Сялец належаў графіні Замойскай. У 1864 г. ў мястэчку 249 жыхароў мяшчан і яўрэяў. З 1865 г. дзейнічала мужчынская школа. У 1870 г. пабудавана з цэглы Успенская царква, помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. У 1879 г. маёнтак перайшоў ва ўласнасць рода Гольчаў. У 1886 г. мястэчка, 114 двароў, 1370 жыхароў і 903 мяшчаніны, валасное праўленне, 2 праваслаўныя царквы, сінагога, 2 яўр. малітоўныя дамы, багадзельня, школа, корпус крам. За вярсту ад мяст. Леснічоўка дзейнічалі лесапільны з-д і мыза. У в. Сялец вінакурны з-д і з-д па вырабе костнай мукі, 2 піцейныя дамы.

У 1890 г. цэнтр Сялецкай вол., у якой налічвалася 49 паселішчаў, 582 двары, 4971 жыхар, 200 несялянскіх дамоў. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 136 мяшчанскіх і 281 сял. дом, 919 мяшчан і 1614 сялян; мураваная і драўляная праваслаўныя цэрквы, каталіцкая капліца, 2 яўр. малітоўныя дамы, сінагога, лячэбніца (у час 1-й сусветнай вайны згарэла), прыходскае вучылішча, нар. жаночае вучылішча (па іншых звестках — міністэрскае вучылішча для дзяўчынак, адкрыта ў 1893), валасное праўленне, хлебазапасны магазін, паравы млын, 21 крама, 5 піцейных дамоў. У год праводзілася 8 кірмашоў. Побач з мястэчкам знаходзіліся 2 сядзібы, якія належалі Сігізмунду Гольчу. У 1905 г. ў мястэчку 3827 жыхароў, у маёнтку 38 жыхароў. У 1908 г. пачалося будаўніцтва







*Успенская царква (1863–70) ў в. Сялец.*

*Аляксееўскі касцёл (1912) у в.Сялец.*

новага каталіцкага касцёла (першае набажэнства праведзена ў 1912, названы ў гонар царэвіча Аляксееўскім, помнік архітэктуры неаготыкі, захаваўся). З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. мястэчка, цэнтр Сялецкай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 171 будынак, 997 жыхароў; у фальварку 1 будынак, 21 жыхар. У 1930-я г. працавалі прыватны доктар, нар. школа. У 1924 г. створаны Сялецкі падрайком у складзе Сашыцкага і Сялецкага гурткоў КПЗБ.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. мястэчка, цэнтр Сялецкага с/с, 415 двароў, 1888 жыхароў. Адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. У сельсавеце ў той час дзейнічалі паравы і ветраны млыны, пошта, медпункт, 4 пач., 1 няпоўная сярэдняя школы, хата-чытальня, магазін. Вёска не была тэлефанавана. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны разбурана снарадам сінагога. Пры вызваленні вёскі і іншых населеных пунктаў сельсавета ад ням.-фаш. захопнікаў у ліп.1944 г. загінулі 129 воінаў, у тым ліку воіны 174-га стралк. палка. Пахаваны ў брацкай магіле, у 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам. Імёнамі радавых І.Д.Беліка і А.М.Новікава, якія гераічна загінулі пры вызваленні тэр. раёна, названы вуліцы ў вёсцы. За 5—6 км на Пн і ПнЗ ад вёскі ва ўрочышчы Гута-Міхалін у гады вайны дыслацыраваўся партыз. атрад імя Гастэлы (камандзіры Р.Кандрацьеў, А.Дз.Масквін, М.А.Чэкан, камісар Ц.І.Саўчанка) брыгады імя П.К.Панамарэнкі. Ва ўрочышчах Цёмны Груд і Стублы размяшчаліся сямейныя лагеры. У 1975 г. ў гонар партызан устаноўлена мемарыяльная дошка. У Бярозе быў па-зверску закатаваны юны партызан атрада імя Г.Дзімітрава партыз. брыгады імя П.К.Панамарэнкі Саша Здановіч, у памяць аб земляку-патрыёце з в. Сашыца на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. За гады вайны загінулі 47 жыхароў вёскі на акупіраванай тэрыторыі. Паводле дадзеных 1973 г., ням.-фаш. захопнікі спалілі палавіну вёскі, расстралялі 115 мірных жыхароў. На фронце загінуў 61 жыхар і

ўраджэнец Сялецкага с/с. Пасля вайны працавалі (з 1948 у прыстасаваным будынку гміны) 7-гадовая (з 1950 сярэдняя) школа, бальніца.

30.9.1949 г. быў створаны мясц. калгас. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 371 гаспадарка, 1196 жыхароў, у 1960 г. ў калгасе імя Леніна. Паводле перапісу 1970 г. 1160 жыхароў, праўленне калгаса «Усход». У 1973 г. працавалі камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 1985 г. пры школе адкрыты грамадскі музей баявой і прац. славы. Радзіма бел. пісьменнікаў В.П.Спрынчука (н. 7.12.1949), А.Разанава (н. 5.12.1947), драматурга М.Арахоўскага (1950—97). Захаваліся будынкі парафіяльнага касцёла (1912), Успенская царква (1870). У 1971 г. ва ўрочышчы Буслаўка насыпаны курган Славы на месцы бою сав. воінаў з фашыстамі ў ліп. 1944 г. Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца (на 35 ложкаў), паштовае аддз., магазіны.

**УГЛЯНЫ** — вёска ў Здзітаўскім с/с, за 6,5 км ад Бярозы, 12,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 58 двароў, 133 жыхары (2005).

Вядомы ў 16 ст. ў складзе войтаўства Блудзенскага. Паводле перапісу 1897 г. — у Картузскабярозаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., у вёсцы 712 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 733 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне. У 1920-я г. былі створаны ячэйка КПЗБ і гурток «Грамады».

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска, цэнтр Углянскага с/с, 158 двароў, 824 жыхары, пачалося здабыванне торфу. У сельсавеце ў той час дзейнічалі 2 пач. школы, магазін. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. жыхары вёсак Здзітава, Угляны і Пясчанка былі аб'яднаны ў калгас імя Молатава, які ў 1959 г. далучаны да саўгаса «Прамень». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 88 гаспадарак, 323 жыхары. У 1970 г. 310 жыхароў. У 1978 г. цэнтр Углянскага с/с перанесены ў Здзітава, 18.1.1988 г. сельсавет перайменаваны ў Здзітаўскі. У 1980-я г. вёска ў складзе саўгаса «Земляроб». Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пд на ПнУ, у паўн.частцы з усх. боку да яе прымыкае кароткая вуліца.

**УТРАНЫ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 23 км ад Бярозы, 20 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 14 двароў, 23 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Носкаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 29 двароў, 148 жыхароў. У 1905 г. ў Сялецкай вол., 165 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Сашыцкім с/с, 34 двары, 163 жыхары.У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 2 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Сялецкім с/с. Паводле перапісу 1970 г. 118 жыхароў, у калгасе «Усход». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з рэдкай двухбаковай забудовай, арыентаванай з ПнЗ на У.

**ХОЙНІКІ** — вёска ў Малецкім с/с, за 22 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 50 гаспадарак, 94 жыхары (2005).

У 1856 г. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., належала нашчадкам Мікалая Дашкевіча, 75 рэвізскіх душ. 3.3.1861 г. сяляне вёскі адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці і аб'явілі аб непадпарадкаванні ўладам, частка сялян была арыштавана і змешчана ў Пружанскую турму. У 1864 г. ў Малецкай вол. У 1886 г. ў вёсцы дзейнічалі капліца, віна-



курны з-д, ветраны млын. У 1890 г. Хойніцкаму сял. т-ву належалі 303 дзес. зямлі, маёнтак Хойнікі знаходзіўся ва ўладанні памешчыка Рычарда Карыбут-Дашкевіча, якому разам з урочышчам Рудкі належала 700 дзес. зямлі, другі аднайменны маёнтак (147 дзес. зямлі) належаў памешчыку Заблудоўскаму. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Хойнікі (другая назва Хойныцке) 50 двароў, 308 жыхароў, хлебазапасны магазін. У маёнтку ва ўладанні Валянціны Штэр знаходзіліся 2 двары, 23 жыхары, дзейнічалі капліца і вінакурны з-д, у б. карчме ў яе ж уладанні 1 двор, 7 жыхароў. У 1905 г. — у вёсцы 323, у маёнтку — 98 жыхароў. На працягу 1905 г. адбываліся сял. хваляванні з эканам. патрабаваннямі, сяляне самавольна высякалі лес.

З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада ). З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Малецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. Вёскі Хойнікі 1-я (26 будынкаў, 139 жыхароў) і Хойнікі 2-я (23 будынкі, 110 жыхароў). У сярэдзіне 1920-х г. створана падп. камсамольская арг-цыя.

З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 18 жыхароў. З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 256 жыхароў, у саўгасе «Малеч» (у 1970—90 імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пд на ПнУ.

**ХОМІЧЫ** — вёска ў Бярозаўскім с/с, за 5 км ад Бярозы, 9 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 69 двароў, 132 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Картузскабярозаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 26 двароў, 172 жыхары; у палявой сторожцы 1 двор, 4 жыхары. У 1905 г. 211 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1932 г. ў Сялецкай гміне. У вёсцы дзейнічаў з-д па вырабе крэйды.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Самойлавіцкім с/с, 40 двароў, 215 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 воіны-земляκі. Паводле перапісу 1959 г. 44 гаспадаркі, 236 жыхароў, на крэйдавым з-дзе — 8 гаспадарак, 27 жыхароў. У 1964 г. ў Бярозаўскім с/с. Паводле перапісу 1970 г. 309 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з двухбаковай забудовай, арыентаванай з ПнУ на З, да зах. часткі прымыкае адасоблены ўчастак забудовы.

**ХРЫСЫ**, Х р ы с о — вёска ў Белаазерскім с/с, за 33 км ад Бярозы, 6 км ад чыг. ст. Белаазерск. 280 двароў, 671 жыхар (2005).

Узгадваецца ў 1559 г. як с. Хрысы ва ўладанні Валахоўскай каля Здзітаўскай пушчы ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у 2-й пал. 19 ст. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. У 1867 г. — вёска, пазначаная як Хрыскі. Паводле перапісу 1897 г. вёска пры Хрыскім возеры ў Пескаўскай вол., 106 двароў, 682 жыхары, дзейнічалі царк.-прыходская школа граматы, хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом. У 1905 г. 736 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 была ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. в. Хрыса ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 141 будынак, 788 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. в. Хрысо ў Альшэўскім с/с, 188 двароў, 1050 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За гады вайны загінулі 16 жыхароў на акупіраванай тэрыторыі. З 1954 г. ў Ніўкаўскім с/с. Паводле

перапісу 1959 г. 141 гаспадарка, 717 жыхароў. З 12.1.1960 г. ў Белаазерскім с/с (з 25.6.1960 пасялковым) савеце. З 22.1. 1963 г. ў Здзітаўскім с/с. З 7.10.1968 г. зноў у складзе Белаазерскага пас. Савета. Паводле перапісу 1970 г. 1354 жыхары, з 15.9.1971 г. ў Белаазерскім с/с.

**ЦІХНЫ** — вёска ў Першамайскім с/с, за 9,5 км ад Бярозы, 4 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 98 двароў, 178 жыхароў (2005).


*І.І.Валасевіч.*

Вядомы як Ціхновічы ў 1563 г. ў Пружанскім пав. Кобрынскай эканоміі, у Дабучынскай вол., у абшары двара Блудзенскага і войтаўства Блудзенскага. У 1864 г. — в. Ціхнекі, у Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. — Ціхны, у Картузскабярозаўскай вол.; маёнтак Ціхны ва ўладанні Соф'і Здзіхоўскай. Паводле перапісу 1897 г. —82 двары, 433 жыхары, хлебазапасны магазін; у сядзібе ва ўладанні Соф'і Грамніцкай — 3 двары і 17 жыхароў. У 1905 г. — у вёсцы 501, у фальварку 71 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 і з жн. 1920 — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бяроза-Картузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне. Была створана Ціханаўская арг-цыя КПЗБ, у 1924 г. ўвайшла ў Блудзенскі падрайком (сакратар В.С.Васілеўскі).

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Блудзенскім с/с, 145 двароў, 705 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 6 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 11 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 19 гаспадарак, 68 жыхароў. З 1964 г. ў Першамайскім с/с. Паводле перапісу 1970 г. — у саўгасе «Бярозаўскі», 481 жыхар. Радзіма Героя Сав. Саюза І.І.Валасевіча (1909—1941). Планіровачна складаецца з двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У, ва ўсх. частцы з Пн на Пд яе перасякае кароткая вуліца.

**ЧАРНІЧНАЕ** — вёска ў Малецкім с/с, за 27 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 14 двароў, 24 жыхары (2005).

У1856 г. вёска пад назвай Чарнічне ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., памешчыку Феліксу Сарніцкаму у ёй належала 1 рэвізская душа, 2 жыхары былі вольныя. Паводле перапісу 1897 г. в. Чарнічнае ў Сялецкай вол., 11 двароў, 84 жыхары, хлебазапасны магазін. Каля вёскі знаходзіліся аднайменныя маёнткі ва ўладанні Якава Аспіркі (1 двор, 7 жыхароў), Уладзіслава Маркава-Ёдкі (1 двор, 5 жыхароў), Канстанцыі Чарніцкай (1 двор, 7 жыхароў), Багуслава Ількоўскага (2 двары, 6 жыхароў). У аколіцы жылі 58 чал. у 8 дварах. Вёска межавала з в. Лагісы (10 двароў, 57 жыхароў) і маёнткам Чарнякі, або Лагісы (2 двары, 3 жыхары). У 1905 г. ў вёсцы 96 жыхароў; у аколіцы 107 жыхароў; у маёнтку 8 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. аколіца, в. Чарнічнае ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 32 будынкі, 160 жыхароў, з 5.3.1932 г. ў Малецкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Малецкім с/с Пружанскага р-на. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 8 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 6 воінаў-землякоў. З 14.4.1960 г. ў Бярозаўскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. ў саўгасе «Малеч» (у 1979—90 імя 60-годдзя Кампартыі Беларусі), 124 жыхары.

**ЧАРНЯКАВА** — вёска ў Боркаўскім с/с, за 28 км ад Бярозы, 32,5 км ад чыг. ст.Бяроза-Картузская. 5 двароў, 7 жыхароў.

Вядома з пач. 19 ст. ў Пружанскім пав. Гродненскай губ. У 1825 г. ў ёй пабудавана з дрэва (як касцёл), у 1864 г. ашалявана і накрыта гонтай царква. У 1868 г. зроблены іканастас і прыбудава-



ны тамбур, з гэтага часу вядома як Мікалаеўская царква, помнік традыц. драўлянага дойлідства (захавалася), у 1990-я г. рэканструявана. У 1886 г. — вёска ў Чарнякоўскай вол., валаснoe праўленне, царква, конны млын. У 1890 г. — сяло, у якім царкве належалі 39 дес. зямлі, і маёнткі ва ўладанні Ганны Мікуліч (разам з іншымі паселішчамі памешчыцы належалі 1478 дес. землі) і Ігнація Шеміёта (разам з іншымі пунктамі 2421 дзес. землі). Паводле перапісу 1897 г. ў сяле царква, нар. вучылішча, валаснoe праўленне, піцейны дом. Сядзіба Чарнякава складалася з 1 двара з 10 жыхарамі, у сядзібе Яўрука ва ўладанні Камілы Мукашэвіч было 2 двары і 23 жыхары, у сядзібе Ганны Мікульскай — 8 двароў і 27 жыхароў. У 1905 г. — у сяле 298 жыхароў, у маёнтку 8 жыхароў, у выселку Чарнічна (або Ражон) — 65 жыхароў. З 1925 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. — цэнтр Чарнякоўскай гміны ў складзе Палескага ваяв. Польшы, 5.1.1926 г. гміна скасавана, вёска далучана да Равяціцкай гміны, з 1932 г. ў Сігневіцкай. У 1930-я г. ў вёсцы працавала нар. школа.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. калонія Чарнякаў у Пешкаўскім с/с, 9 двароў, 35 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 воіны-землякі. З 16.7.1954 г. ў Боркаўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 17 гаспадарак, 51 жыхар. У 1970 г. — у саўгасе «Боркі», 24 жыхары.

**ШЛЯХ-ПУШЧА** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 22 км ад Бярозы, 27 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 47 двароў, 78 жыхароў (2005).

У 1890 г. ў Равяціцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ.; маёнтак Пад'яблань, альбо Шляхецкая Пушча, належаў памешчыку Францу Здзітавецкаму. Паводле перапісу 1897 г. — паселішча Шляхецкая Пушча (Лескі) ва ўладанні Коласавых і Вайніловіча (2 двары, 13 жыхароў), пас. Шляхецкая Пушча (Сукатка) ва ўладанні Аніхімоўскіх (2 двары, 10 жыхароў), сядзіба Шляхецкая Пушча (ці ўрочышча Крушынка) ва ўладанні Уладзіслава Кромніцкага, 1 двор, 8 жыхароў. У 1905 г. ў паселішчы Шляхецкая Пушча (або Сукатка) — 15 жыхароў, ва ўрочышчы Пад'яблань — 9 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. фальварак Шляхецкая Пушча (Шляхецкія) у Равяціцкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 3 будынкі, 15 жыхароў. З 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Шляхецкая Пушча і хутар Пад'яблань у Сігневіцкім с/с, 53 двары, 204 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Мічурына, які ў студз. 1951 г. ўвайшоў у калгас імя Панамарэнкі (з 1958 «Рассвет»). Паводле перапісаў 1959 г. на хутары Пад'яблань 5 гаспадарак, 11 жыхароў (перасяліліся ў вёску). Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 216 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на У, да ўсх. часткі яе з паўн. боку прымыкае завулак.

**ШЫЛІН** — вёска ў Здзітаўскім с/с, за 10,5 км ад Бярозы, 16,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 121̣2 двароў, 264 жыхары (2005).

У 16 ст. вёска ў складзе войтаўства Блудзенскага. У 1864 г. пад назвай Шыліны ў Блудзенскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. — вёска і пасёлак Шылін у Картузскабярозаўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 79 двароў, 482 жыхары, кузня, у б. карчме 1 двор і 6 жыхароў, побач сядзіба ва ўладанні Пагодзіна. У 1905 г. — вёска, 460 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920




устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Бярозакартузскай гміны Палескага ваяв. Польшчы, з 1932 г. ў Сігневіцкай гміне.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска ў Машковіцкім с/с, 130 двароў, 657 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 1 км на ўсход ад вёскі ў 18 брацкіх магілах пахаваны 8 афіцэраў, 177 сяржантаў і салдат 20-й страл. дывізіі 28-й арміі 1-га Бел. фронту, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні Бярозаўскага р-на ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1966 г. ў цэнтры могілак пастаўлены абеліск. У 1949 г. жыхары вёсак Дзягелец, Машковічы, Шылінок, Шылін былі аб'яднаны ў калгас імя Свярдлова, які ў сак. 1959 г. далучаны да саўгаса «Прамень». З 1954 г. ў Міжлескім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 107 гаспадарак, 380 жыхароў. З 1960 г. вёска ў складзе Углянскага с/с. З 1963 г. ў саўгасе «Земляроб». Паводле перапісу 1970 г. 627 жыхароў, ферма. З 18.1.1988 г. ў Здзітаўскім с/с. Дзейнічала сярэдняя школа, пры якой з 1972 г. існуе грамадскі музей баявой і прац. славы. Планіровачна складаецца з дугападобнай двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на ПдУ, ад цэнтр. часткі якой адыходзіць на ПнЗ яшчэ адна вуліца (сыходзячыся з в. Пясчанка).

**ШЫЛІНОК** — вёска ў Здзітаўскім с/с, за 13 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 72 двары, 128 жыхароў (2005).


*Брацкія могілкі ў в. Шылін.*

Вядомы ў 1678 г., калі віцебскі стольнік Андрэй Нямцевіч завяшчаў куплены ім фальварак Шылінок з в. Ястрэм картэзіянскаму кляштару Картуз-Бярозы пры ўмове, што труна з яго целам будзе ўстаноўлена ў капліцы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1864 г. ў Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. Шылінок — вёска і фальварак (ва ўладанні Ганны Мікульскай). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 35 двароў, 228 жыхароў, хлебазапасны магазін, у фальварку Мікульскай 2 двары, 36 жыхароў. У 1905 г. — у вёсцы 243 , у маёнтку 22 жыхары. У 1915 г. акупіраваны герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Машковіцкім с/с вёскі Шылінок (73 двары, 385 жыхароў) і Новы Шылінок (4 двары, 21 жыхар). У 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. разам з жыхарамі вёсак Дзягелец, Машковічы, Шылін вяскоўцы былі аб'яднаны ў калгас імя Свярдлова. З 1954 г. ў Міжлескім с/с. З сак. 1959 г. ў саўгасе «Прамень». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 74 гаспадаркі, 277 жыхароў, на хутары Новы Шылінок 16 гаспадарак, 60 жыхароў. З 1960 г. вёска ў складзе Углянскага с/с. Паводле перапісу 1970 г. — 437 жыхароў, паляводчая брыгада племсаўгаса «Земляроб». З 18.1.1988 г. ў Здзітаўскім с/с. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, арыентаваных з З на ПнУ, злучаных правулкам, якія прымыкаюць усх. часткай да трэцяй вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на Пд, і асобных адасобленых участкаў забудовы.

**ЯРЦАВІЧЫ** — вёска ў Пескаўскім с/с, за 26 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бронная Гара. 141 двор, 373 жыхары (2005).



У 1967 г. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Пескаўскай вол., у вёсцы 55 двароў, 344 жыхары. З вёскай межавалі карчма, сядзібы Арка Бляхара (1 двор, 2 жыхары), Івана Памярніцкага, Майсея Бірточыка і Андрэя Самуты (1 двор, 21 жыхар) на зямлі памешчыка Пуслоўскага; у лясной варце Пуслоўскага непадалёку ад вёскі знаходзіўся 1 двор з 7 жыхарамі. У 1905 г. ў вёсцы 400 жыхароў, у леснічоўцы 8 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. ў Пескаўскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., вёска і леснічоўка, разам 82 будынкі, 484 жыхары.

З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска Пескаўскага с/с, 113 двароў, 770 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце ў Вял. Айч. вайну загінулі 15 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. 98 гаспадарак, 459 жыхароў. У 1970 г. 934 жыхары, ферма саўгаса «Пескаўскі».

**ЯСТРАБЕЛЬ** — вёска ў Сігневіцкім с/с, за 21,5 км ад Бярозы, 26,5 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская, 202 двары, 443 жыхары (2005).

У канцы 16 ст. вядома пад назвай Ястрабль як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. У 1678 г. — в. Астрэм, належала разам з Шылінком віцебскаму стольніку Андрэю Урсіну, які завяшчаў яе на карысць кляштара картэзіянцаў Картуз-Бярозы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. 3.3.1861 г. сяляне вёскі адмовіліся выконваць інвентарныя павіннасці і аб'явілі аб непадпарадкаванні ўладам, частка сялян была арыштавана і змешчана ў Пружанскую турму. У 1864 г. вядома пад назвай Ястрамбель, у Чарнякоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, побач маёнтак ва ўладанні Ганны Мікульскай. Паводле перапісу 1897 г. — 75 двароў, 471 жыхар, хлебазапасны магазін; ва ўладаннях Валенсы Мікульскага працавала карчма. Да сядзібы Мікульскага адносілася 12 двароў з 78 жыхарамі. У 1905 г. — у вёсцы 495, у маёнтку 72 жыхары. З 1915г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 г. ўстаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Чарнякоўскай гміны Палескага ваяв. Польшчы. З 1926 г. ў Міжлескай (б. Мацвеевіцкай) гміне, з 1932 г. ў Сігневіцкай.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Сігневіцкім с/с, 138 двароў, 541 жыхар. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 5 жыхароў вёскі, на фронце загінулі 13 воінаў-землякоў, чыя памяць ушанавана стэлай, пастаўленай у 1985 г. У кастр. 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Панамарэнкі, у студз. 1951 г. значна ўзбуйнены, у 1958 г. перайменаваны ў калгас «Світанак», вёска — цэнтр калгаса. Паводле перапісу 1959 г. 130 гаспадарак, 386 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 456 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса. Вёска Алясец, у якой у 1940 г. было 4 двары, 26 жыхароў, у 1959 г. 63 гаспадаркі, 201 жыхар, у 1970 г. — 24 жыхары, злілася з в. Ястрабель і 4.9.1972 г. была выключана з рэестра населеных пунктаў. Дзейнічаюць школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. Аснову забудовы складаюць 2 паралельныя, шчыльна двухбакова забудаваныя вуліцы, арыентаваныя з Пд на ПнУ.

**ЯСЯВІЧЫ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 21 км ад Бярозы, 18 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская. 22 двары, 29 жыхароў (2005).

У 1864 г. — у Сашыцкай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. — в. Ясевічы ў Сялецкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 45 двароў, 301 жыхар, хлебазапасны магазін, кузня. Вёска межавала з аднайменным фальваркам Сігізмунда Гольчы (2 двары, 28 жыха-

роў) і маёнткамі Казіміра Чахоўскага (1 двор, 5 жыхароў), Віктара Вальтэры (2 двары, 6 жыхароў, сядзібай Лайзера Энельбаума (1 двор, 6 жыхароў). У 1905 г. ў вёсцы 239, у маёнтку 5 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, з 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — войскамі Польшчы (у ліп. 1920 устаноўлена сав. ўлада). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. ў Сялецкай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв.; вёска (54 будынкі, 81 жыхар), фальварак (1 будынак, 2 жыхары) і фальварак Ясявічы Малыя (1 будынак, 9 жыхароў), якія потым зліліся.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Сашыцкім с/с, 59 двароў, 198 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 4 жыхары вёскі, з фронту не вярнуліся 6 воінаў-землякоў. З 1954 г. ў Сялецкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 66 гаспадарак, 227 жыхароў. У 1970 г. 219 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 1, спр. 215; воп. 5, св. 184, спр. 2308; ф. 1290, воп. 11, спр. 544.
Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 254, воп. 1, спр. 295, 347, 389, 1319, 1321, 5989, 5992; воп. 5, корп. 198, спр. 2243; Справочник административно-территориального деления Брестской области в границах 1921—1939 гг. (машинопись).
Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, ф. 1, воп. 2, спр. 506; воп. 5, св. 80, спр. 1658; воп. 19, спр. 1557; воп. 20, спр. 226; воп. 27, спр. 252; ф. 44, воп. 1, спр. 108.
Обзор Гродненской губернии. Гродно, 1884.
Волости и важнейшие поселения России. СПб., 1886.
Волости и гмины: Гродненская губерния. СПб., 1890.
Список землевладений в Гродненской губернии. Гродно, 1890.
Гродненская губерния: Список населенных пунктов на 1905 г. Гродно, 1905.
Skorowidz miejscowosci Rzeczypospolitej Polskij. Warszawa, 1924.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 2, 5, 7, 10. Мн., 1970—73.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл., Мн., 1984.
Память: Ист.-докум. хроника Березовского р-на. Мн., 1987.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мн., 1993; Т. 3. Мн., 1996.
Бярозаўшчына — наша бацькаўшчына. Бяроза, 1997.
Березовский район: бизнес-справ. Береза, 1998.
Народная трыбуна. 1998. 30 мая.
Рэвізія Кобрынскай эканоміі праз каралеўскага рэвізора Дзмітрыя Сапегу ў 1563 г. // Гістарычная брама. 1998. № 6 (10).
Літаратурныя мясціны Беларусі. Кн. 1. Мн., 2000.
Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў. Мн., 2005.
Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2005.
М.Ф.Спірыдонаў. Беларусь у канцы XVI ст.; Берасцейскі павет у канцы XVI ст. (карта) // Атлас гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да нашых дзён: (Дадат. да 6-томнай «Энцыкл. гісторыі Беларусі»). Мн. 2004.
Гістарычная брама. 1997. № 1—2; 1998. № 1; 2002. № 1—2.


ГАНЦАВІЧЫ
МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
КЛЕЦКІ РАЁН
ЛЯХАВІЦКІ РАЁН
ІВАЦЭВІЦКІ Р-Н
ПІНСКІ РАЁН
ЛУНІНЕЦКІ РАЁН
САЛІГОРСКІ Р-Н
Крышылавічы
Вострай
Гута
Кукава-Бор
Нач
Лактышы
вдсх. Лактышы
вдсх. Любашава
Дубнякі
Перадзел
Кукава
Ясянец
Клецк
Баранавічы
Ляхавічы
Сукач
Любашава
Мал. Кругавічы
Мельнікі
Агарэвічы
Шашкі
Вял. Кругавічы
Ельня
Калонія
Нов. Агарэвічы
Красынічы
Боркі
Ганцавічы
Будча
Пярэвалакі
Слуцк
Чудзін
Дзяніскавічы
Палонь
Радзялавічы
Хатынічы
Люсіна
Макава
Яловая
Пінск
Лінск
Малькавічы
Задуб'е
Лунінец
52°50'
52°40'
52°30'
26°15'
26°30'
26°45'
27°00'
Маштаб 1:440 000



# ГАНЦАВІЦКІ РАЁН

Размешчаны на ПнУ Брэсцкай вобл. Цэнтр — г. Ганцавічы. Мяжуе на З з Баранавіцкім і Івацэвіцкім, на Пд — з Пінскім, на У — з Лунінецкім р-намі Брэсцкай, на Пн — з Клецкім р-нам Мінскай абласцей. Пл. 1685 км², насельніцтва 35,5 тыс. чал. (2000). Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Пінскай вобл., 12.10.1940 г. падзелены на 12 сельсаветаў: Агарэвіцкі, Ганцавіцкі, Дзяніскавіцкі, Круговіцкі, Кукаўскі, Лактышскі, Люсінскі, Малькавіцкі, Навасёлкаўскі, Рожанскі, Хатыніцкі, Чудзінскі. З 8.1.1954 г. ў складзе Брэсцкай вобласці. 16.7.1954 г. скасаваны Круговіцкі, Кукаўскі, Чудзінскі сельсаветы, Ганцавіцкі перайменаваны ў Любашаўскі, Лактышскі ў Нацкі, Навасёлкаўскі ў Свяціцкі (22.4.1957 перададзены ў Ляхавіцкі р-н); 22.12.1959 г. Рожанскі перайменаваны ў Чудзінскі с/с. 25.12. 1962 г. раён скасаваны, усе сельсаветы (акрамя Малькаўскага) і г.п. Ганцавічы перададзены ў Ляхавіцкі, Малькаўскі с/с — у Лунінецкі р-н. 30.7.1966 г. раён адноўлены. Уключае г. Ганцавічы і 36 сельскіх населеных пунктаў, падзяляецца на 8 сельсаветаў: Агарэвіцкі, Дзяніскавіцкі, Любашаўскі, Люсінскі, Малькавіцкі, Нацкі, Хатыніцкі, Чудзінскі. Гарадское насельніцтва 41,4%. Сярэдняя шчыльнасць — 21 чал. на 1 км².

Праз раён праходзяць чыгунка Баранавічы—Лунінец, аўтадарогі Клецк—Ганцавічы—Лунінец, Ганцавічы—Пінск.

Раён размешчаны ў паўд.-ўсх. частцы Прыпяцкага Палесся. Паверхня — пласкахвалістая раўнінная. Пераважаюць вышыні 150—160 м. Найвышэйшы пункт (195,8 м) знаходзіцца на Пн раёна каля в. Шашкі. З карысных выкапняў ёсць торф (4 радовішчы з запасам 28,3 млн. тон), будаўнічыя пяскі, гліны (5 радовішчаў). Найбольшая рака — Лань з прытокамі Нача, Цна, Бобрык (усе — левыя прытокі Прыпяці). На Лані створана вадасховішча Лактышы. Ганцавіцкі раён — адзін з найбольш лясістых раёнаў Брэсцкай вобл. Лясы займаюць 53% тэрыторыі. Пад балотамі 13,2 тыс. га. Найбольшыя балотныя масівы — Падвялікі Мох, Пусташ-Дабралуцкае, Галь, Пятрова Паляна, Саніта. У раёне створаны гідралагічны заказнік Падвялікі Мох, частка тэрыторыі раёна ўваходзіць у гідралагічны заказнік «Выганашчанскае». Біялагічныя заказнікі Борскі і Ялоўскі створаны з мэтай захавання ў прыродным стане месцаў росту журавін.

Агульная плошча с.-г. угоддзяў 50,4 тыс. га (у тым ліку асушаных 39,1 тыс.). У эканоміцы раёна пераважае с.-г. вытворчасць. Асн. яе галіна — мясамалочная жывёлагадоўля. Пашыраны пасевы збожжавых і кармавых культур, бульбы. Прамысловасць прадстаўлена прадпрыемствамі будаўнічых матэрыялаў і харч. прам-сці. Працуе рыбгас «Лактышы».

На тэрыторыі раёна выяўлены помнікі археалогіі — курганныя могільнікі ў вёсках Агарэвічы, Дзяніскавічы, Малыя Круговічы, Малькавічы, Ясянец. Захаваліся помнікі архітэктуры: сядзіба 2-й пал. 19 ст. ў в. Агарэвічы, цэрквы Юр'еўская (1896) у в. Будча, Георгіеўская канца 19 ст. ў в. Вялікія Круговічы, Успенская 2-й пал. 19 ст. ў в. Хатынічы, Юр'еўская (1876) у в. Чудзін і іншыя.

Касцёл у г. Ганцавічы.



**ГАНЦАВІЧЫ** — горад, цэнтр Ганцавіцкага р-на. Размешчаны на правым беразе р. Цна (прыток Прыпяці), за 246 км на ПнУ ад Брэста. Чыг. станцыя на лініі Лунінец—Баранавічы. Аўтадарогамі Ганцавічы звязаны з Клецкам, Лунінцом, Лагішынам. 14 722 жыхары (2005).

Узнікненне і развіццё Ганцавіч было звязана з будаўніцтвам у 2-й пал. 19 ст. чыг. лініі Лунінец—Вільня, рух паяздоў па якой пачаўся ў 1884 г., тады ж была заснавана чыг. ст. Ганцавічы (назва дадзена ад наймення суседняй вёскі). Каля станцыі пачало фарміравацца паселішча. У канцы 19 — пач. 20 ст. тут працавалі паштовае аддз., лесапільня, смалакурня, шкляны з-д В.Краеўскага і І.Столя, на якім выраблялі аконнае, люстраное, т.зв. бемскае (багемскае), шкло. На пач. 20 ст. чыг. станцыя адгружала штогод каля 130 тыс. пудоў лясных грузаў. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. тут вялі прапаганду, распаўсюджвалі нелегальную л-ру члены Лідскай арг-цыі РСДРП. У 1909 г. чыг. ст. Ганцавічы налічвала 48 двароў і 376 жыхароў (разам з пасадам), належала да Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У гэтым жа годзе са ст. Ганцавічы было адпраўлена больш за 45 тыс. пудоў шкляных вырабаў.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. У лютым 1918 г. Ганцавічы былі акупіраваны герм. войскамі, у сак. 1919 г. — буржуазнай Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў снеж. 1918 — сак. 1919 гг. і ў ліп.—жн. 1920 г. Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 18.3.1921 г. Ганцавічы ў складзе Польшчы. Паводле перапісу 30.9.1921 г. Ганцавічы — мястэчка Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 193 дамы, 1015 жыхароў (496 мужчын і 519 жанчын). У сак.—крас. 1933 г. тут адбылася забастоўка грузчыкаў лесу. Дзейнічала ячэйка КПЗБ. У 1935 г. 2300 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. — гар. пасёлак, цэнтр Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. налічвалася 490 двароў, 2690 жыхароў, працавалі лесазавод, млын, электрастанцыя, шавецкая, кравецкая, мэблевая, абозная, смалярная майстэрні, стружачны з-д, кінатэатр, бальніца, амбулаторыя, няпоўная сярэдняя школа, 2 сталовыя. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. Ганцавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На тэр. раёна дзейнічалі Ганцавіцкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады — імя Леніна, імя Панамарэнкі, 12-я кавалерыйская імя Сталіна. Вызвалены

Кастрычніцкая плошча ў г. Ганцавічы.









*Абеліск на кургане Славы ў г. Ганцавічы.*

*Ціханаўскі сабор у г. Ганцавічы. 2000 г.*

7.7.1944 г. войскамі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту і партызанамі брыгады імя Леніна Пінскага злучэння ў ходзе Бел. аперацыі 1944 г. З 8.1.1954 г. Ганцавічы — цэнтр раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 3448 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў складзе Ляхавіцкага р-на, з 30.7.1966 г. зноў цэнтр раёна. Паводле перапісу 1970 г. 4882 жыхары. З 6.12.1973 г. — горад. У 1998 г. 16,1 тыс. чал.

У горадзе працуюць камбінат панельнага домабудавання, скургалантарэйны, кансервава-агароднінасушыльны камбінаты, хлебазавод і маслазавод, леспрамгас, лясгас, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва. Дзейнічаюць Дом быту, Дом сувязі, Дом культуры, кінатэатр, гасцініца, 2 б-кі (адна з іх дзіцячая), Дом піянераў і школьнікаў, вузел сувязі, 2 аддз. сувязі, Дом рамёстваў, метэаралагічная і санітарна-эпідэміялагічная станцыі, бальніца, паліклініка, гімназія, 3 сярэднія агульнаадукац., музычная і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, дапаможная школа-інтэрнат, сярэдняе прафес.-тэхн. вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, 9 дзіцячых дашкольных устаноў, міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат, шэраг магазінаў і спарт. пляцовак. Выдаецца раённая газ. «Савецкае Палессе». Царква, касцёл, малітоўны дом.

На тэрыторыі Ганцавіч брацкая магіла 88 сав. воінаў і 99 партызан, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. акупантамі ў Вял. Айч. вайну (помнік устаноўлены ў 1956); магіла мірных жыхароў, загубленых гітлераўцамі ў 1942 г. (надмагілле ўстаноўлена ў 1964). На паўд. ускраіне горада, ва ўрочышчы Горкі ў 1967 г. насыпаны курган на ўшанаванне памяці 8 тыс. жыхароў Ганцавіцкага р-на, якіх загубілі ням.-фаш. захопнікі, і 844 землякоў — воінаў Сав. Арміі і партызан, што загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. На вяршыні кургана ўстаноўлены 14-метровы абеліск. На гар. могілках пахаваны Герой Сацыяліст. Працы В.П.Шапавал (1936—94).

Зона адпачынку знаходзіцца на З ад горада ў хваёвым бару каля р. Цна і ва ўрочышчы Горкі на паўд. ускраіне Ганцавіч. Ганцавічы — радзіма бел. пісьменніка А.Каждуба (н. ў 1952).

**АГАРЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр Агарэвіцкага с/с, за 7 км на У ад горада і чыг. ст. Ганцавічы на лініі Лунінец—Бара-

*Будоўля царквы ў в. Агарэвічы (2005).*



навічы, транспартныя сувязі на аўтадарозе Ганцавічы—Сіняўка—Клецк. 531 двор, 1338 жыхароў (2005).

Паводле мясц. падання, першапачатковая назва Пагарэвічы (г.зн. пабудаваная пагарэльцамі). Упершыню ўзгадваецца ў 1473 г. як сяленне Клецкай вол. Навагародскага ваяв. ВКЛ. У сярэдзіне 16 ст. вял. кн. Казімір аддаў сяло Ёдку Неміровічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1816 г. аднайменныя вёска і маёнтак Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ.; у вёсцы каля 20 жыхароў, драўляная Варварынская царква. Да 1845 г. вёска з'яўлялася цэнтрам праваслаўнага прыхода, потым была аднесена да Круговіцкага прыхода. У 1886 г. сяло, 26 двароў, 408 жыхароў, праваслаўная царква. Побач знаходзіўся маёнтак Агарэвічы. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 118 двароў, 687 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, піцейны дом, капліца, 2 крамы. У маёнтку (13 жыхароў) працаваў лесапільны з-д. У пачатку 20 ст. Агарэвічы ўяўлялі сабой буйную вёску, якая мела 121 двор, каля 640 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся аднайменны маёнтак (9 жыхароў).

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада, у лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. З 1921 г. ў складзе Польшчы, калонія Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 174 дамы, 980 жыхароў (з іх 964 праваслаўныя беларусы), і фальварак (6 будынкаў, 59 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР, вёска. У 1940 г. 201 двор, 1520 жыхароў, працавалі смалакурны з-д, няпоўная сярэдняя школа, у б. маёнтку створаны саўгас «Агарэвічы». З 12.10.1940 г. цэнтр Агарэвіцкага с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.7.1941 г. да 7.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях, памерлі ад ран ці прапалі без вестак 55 вяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 417 гаспадарак, 1502 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 1638 жыхароў.

У вёсцы знаходзяцца выканком сельсавета, майстэрні, ветэрынарны пункт, млын, сярэдняя школа, Дом культуры, кінастацыянар, урачэбная амбулаторыя, царква, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат, дзіцячыя яслі-сад, гандл. цэнтр. У цэнтры вёскі помнік — стэла з гарэльефнай выявай салдата

*Сядзібны дом у в. Агарэвічы (2-я пал. 19 ст.).*





(скульптар А.Я.Шушкоў, 1966) у памяць аб сав. воінах і партызанах, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну. Захавалася б. панская сядзіба, пабудаваная ў 2-й пал. 19 ст., у цэнтры вёскі, уключае драўляны сядзібны аднапавярховы дом, парк з садам і сажалкамі, гасп. пабудовы (мураваныя стайня і гумно). Сядзіба з'яўляецца помнікам эклектычнай архітэктуры 19 ст. Каля Агарэвічаў (3 км на У, ва ўрочышчы Юліна) ёсць археал. помнік — курган 11 ст., належаў дрыгавічам. Раней тут было 15 курганоў. Выявіў помнік у 1951 г. Б.В.Міралюбаў, даследаваннямі займаліся таксама Ю.В. Кухарэнка і М.Ф.Гурын. Знойдзеныя матэрыялы захоўваюцца ў Бел. музеі Палесся ў Пінску.

На тэр. Агарэвіцкага с/с існуюць вёскі: Агарэвічы, Вялікія Круговічы, Дубнякі, Калонія, Красынічы, Кукава, Новыя Агарэвічы, Перадзел, Шашкі.

**БОРКІ** — вёска ў складзе Любашаўскага с/с, за 7 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ганцавічы на лініі Лунінец—Баранавічы. 150 двароў, 302 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Хатыніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 17 двароў, 271 жыхар, працаваў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 43 двары, 328 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Хатыніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 69 дамоў, 407 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 1940 г. вёска Агарэвіцкага (з 1954 Любашаўскі) с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 158 двароў, 587 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12.7.1942 г. фаш. карнікі спалілі ў Борках 8 двароў і загубілі 61 жыхара. На франтах вайны загінулі, прапалі без вестак ці памерлі ад ран 20 воінаў-аднавяскоўцаў. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. У вёсцы базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-



*Фрагмент парку ў в. Агарэвічы.*

акушэрскі пункт, магазін. Аснову забудовы складаюць 2 паралельныя вуліцы рознай даўжыні, арыентаваныя з ПнУ на Пд, злучаныя ў паўн. частцы вуліцай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, у скверы, знаходзіцца курган на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны, і аднавяскоўцаў, загубленых ням.-фаш. карнікамі ў 1942 г. Курган насыпаны ў 1967 г., на яго вяршыні ўстаноўлены абеліск з мемарыяльным надпісам. Побач з Боркамі размяшчаец-



*Курган каля в. Агарэвічы.*

ца н.-д. база «Журавінка» Батанічнага саду Нац. акадэміі навук Беларусі.

**БУДЧА** — вёска ў складзе Чудзінскага с/с, за 30 км на У ад горада і чыг. ст. Ганцавічы на лініі Лунінец—Баранавічы. 410 двароў, 899 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. як паселішча ў шляхецкай уласнасці ў Навагародскім ваяв. ВКЛ. У 19 — пач. 20 ст. сяло Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1886 г. 47 двароў, 458 жыхароў, царква. У 1896 г. пабудавана новая драўляная царква. Паводле перапісу 1897 г. — 94 двары, 619 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. — 106 двароў, больш як 700 жыхароў, царква і земскае нар. вучылішча.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв., 174 дамы, 957 жыхароў (з іх 951 праваслаўны). З 1939 г. ў складзе БССР, з 1940 г. вёска ў Чудзінскім с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 320 двароў, 1321 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у ваколіцах вёскі дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. На фронце і ў партызанах загінулі ў баях ці прапалі без вестак, памерлі ад ран 73 воіны-аднавяскоўцы. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1959 г. ў Борках 1460 жыхароў. У 1970 г. 1479 жыхароў.

У вёсцы працуюць комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячы сад, гандл. цэнтр. У цэнтры вёскі помнік — скульптура воіна на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Пастаўлены ў 1962 г. У цэнтры вёскі таксама знаходзіцца Юр'еўская царква, пабудаваная з дрэва ў 1896 г., помнік нар. драўлянага дойлідства. Паўн. частка забудовы выходзіць да р. Лань, паўд. — да аўтадарогі Чудзін—Агарэвічы. Аснову забудовы складаюць 3 паралельныя вуліцы, арыентаваныя з Пд на ПнУ (рознай даўжыні, 2 з іх на Пд змыкаюцца), злучаныя ў цэнтры і паўн. частцы вуліцамі, арыентаванымі з ПнЗ на У.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Нацкім с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы на лініі Лунінец—Баранавічы, на правым беразе р. Нача. 169 двароў, 455 жыхароў (2005).

У пачатку 19 ст. Востраў узгадваецца ў дакументах (рэвізскіх казках) як невялікае сяло, якое належала памешчыкам Абуховічам. Паводле перапісу 1897 г. вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 59 двароў, 389 жыхароў, працавалі піцейны дом, хлебазапасны магазін.

З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 84 дамы, 459 жыхароў (з іх 454 беларусы, усе праваслаўныя). З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. вёска ў складзе Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лактышаўскім с/с (з 1954 Нацкі). У 1940 г. 113 двароў, 684 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Побач з вёскай дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінска-

*Юр'еўская царква ў в. Будча.*





га злучэння; з фронту не вярнуліся 57 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 508 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 406 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячыя яслі-сад. У 1973 г. ўстаноўлены помнік (скульптура сав. воіна) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, арыентаваных з З на У (загіб адной з іх ва ўсх. частцы на Пн перасякае другую), перасечаных у зах. частцы трэцяй вуліцай, арыентаванай з ПнЗ на Пд.

Вёска — радзіма бел. пісьменнікаў М.М.Рудакоўскага (1936—91; яго імя прысвоена мясц. школе, створаны музей М.Рудакоўскага) і М.Ф.Дубянецкага (1927—90), а таксама філосафа С.Ф. Дубянецкага (н. 1940, жыве і працуе ў Мінску).

**ВЯЛІКІЯ КРУГОВІЧЫ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 14 км ад горада і чыг. ст. Ганцавічы на лініі Лунінец—Баранавічы, на аўтадарозе Чудзін—Ганцавічы. 360 двароў, 878 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як с. Круговічы ў складзе ВКЛ, з 1569 г. — Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі; сяло, цэнтр воласці Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Абуховічаў. У 1816 г. каля 20 двароў. У 1869 г. было адчынена нар. вучылішча. Сяло з'яўлялася цэнтрам Круговіцкага праваслаўнага прыхода, які ўключаў сучасныя вёскі — Агарэвічы, Гута, Ганцавічы, Любашава, Малыя Круговічы і Вялікія Круговічы, налічваў каля 1800 вернікаў. Пераважная большасць прыхаджан — сяляне-хлебаробы. Многія з іх займаліся таксама калёсным промыслам (выраблялі калёсы на продаж). Круговіцкай царкве належала больш за 30 дзес. зямлі (у тым ліку сядзібнай 1 дзес., ворыва — 19, пад лесам — 12, сенакоснай — 3 дзес.). У 1886 г. ў сяле 28 двароў, 231 жыхар, дзейнічалі нар. вучылішча (48 вучняў, з якіх толькі 4 дзяўчынкі), валаснoе праўленне, царква, капліца. У 1886/87 навуч. г. на ўтрыманне Круговіцкага вучылішча было выдзелена 69 руб. з казны і 478 руб. ад грамадства. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 95 двароў, 549 жыхароў, дзейнічалі вал. праўленне, царква, капліца, нар. вучылішча, бальніца. У канцы 19 ст. была пабудавана новая драўляная царква, якая захавалася да цяперашняга часу. У 1909 г. 92 двары, каля 520 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. З сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 116 дамоў, 667 жыхароў (у тым ліку 623 праваслаўных, 645 беларусаў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Круговіцкага с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 162 двары, 1902 жыхары, працавалі МТС, млын, няпоўная сярэдняя школа, сельпо, амбулаторыя, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Побач з ёю дзейнічалі партызаны



*Ваколіцы в. Вялікія Круговічы.*




брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., 16.7. 1954 г. Круговіцкі с/с скасаваны, вёска ўвайшла ў склад Агарэвіцкага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 1073 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 312 гаспадарак, 1033 жыхары, цэнтр калгаса «Сцяг Леніна». У вёсцы — лясніцтва, цагельны з-д, сярэдняя школа, урачэбная амбулаторыя, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, Георгіеўская праваслаўная царква — помнік драўлянага нар. дойлідства канца 19 ст. Гіст. помнікі — скульптура салдата (устаноўлена ў 1957) на брацкай магіле 4 сав. воінаў і партызан; помнік на ўшанаванне памяці 75 землякоў (устаноўлены ў 1974), якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў у 1941—45 гг. Вёска выцягнута з З на У, да ўсх. часткі прымыкае значны ўчастак забудовы з Пд, зах. — адасоблена. На Пд і Пн ад вёскі ёсць адасобленыя ўчасткі забудовы і асобныя двары. Каля вёскі размешчана Круговіцкае радовішча цагельных глін.

**ГАНЦАВІЧЫ** — вёска ў складзе Любашаўскага с/с, за 3 км ад горада і чыг. ст. Ганцавічы. 369 двароў, 964 жыхары (2005).

У 19 — пач. 20 ст. вёска Круговіцкай вол. і Круговіцкага праваслаўнага прыхода Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1857 г. 250 жыхароў, ва ўладанні памешчыкаў Чапскіх, якім належаў і маёнтак непадалёку ад вёскі. Развіццю вёскі і росту яе насельніцтва садзейнічала адкрыццё ў 1884 г. руху чыг. лініі Лунінец—Вільна. Чыгунка пралягла праз вёску, за 3 км на Пн ад яе была заснавана чыг. ст. Ганцавічы. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 633 жыхары. У 1909 г. 108 двароў, 638 жыхароў; у маёнтку Ганцавічы — 1 гаспадарка, 12 жыхароў. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, з сак. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з жн. 1920 г. — польскімі войскамі (у пач. 1919 і ў ліп.—жн. 1920 была адноўлена сав. ўлада).


*Георгіеўская царква ў в. Вялікія Круговічы.*

З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 118 дамоў, 606 жыхароў (у тым ліку 558 праваслаўных, 48 католікаў, 553 беларусы, 52 палякі). З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 182 двары, 1305 жыхароў, працавала школа. З 15.1.1940 г. вёска ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Ганцавіцкага с/с. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. акупіравана гітлераўцамі; у барацьбе з ням.-фаш. акупантамі ў 1941—45 гг. загінулі 35 землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Любашаўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. У 1970 г. 1280 жыхароў. У Ганцавічах дзейнічаюць ветэрынарны пункт, пральня, магазін, гандл. цэнтр, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, кінастацыянар, аддзяленне сувязі, чыг. паўстанак Рассвет на лініі Лунінец—Баранавічы. У цэнтры вёскі ў 1973 г. ўстаноўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айч. вайну. Забудову вёскі, выцягнутую з ПнЗ на ПдУ, з ПнУ абмяжоўвае р. Цна, з ПдЗ чыгунка, частка забудовы пераходзіць за чыгунку і потым за аўтадарогу Лунінец—Ганцавічы, паўн.-зах. ўскраіна набліжаецца да г. Ганцавічы.

**ГУТА** — вёска ў складзе Нацкага с/с, за 23 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг.



ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 59 двароў, 90 жыхароў (2005).

У пачатку 19 ст. невялікае сяло Слуцкага пав. Мінскай губ., належала памешчыкам Абуховічам. У 1816 г. 10 двароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав., 31 двор, 206 жыхароў, працаваў піцейны дом. У 1909 г. вёска, 37 двароў, 229 жыхароў. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. Акупіравана герм. войскамі ў лютым 1918 г., польскімі — з сак. 1919 г. (сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 і ў ліп.—жн. 1920). З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 46 дамоў, 277 жыхароў (з іх 2 палякі-католікі, 1 беларус-католік, астатнія — беларусы-праваслаўныя). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лактышскім (з 1954 Нацкі). У 1940 г. 73 двары, 684 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у баях на франтах вайны загінулі 3 вяскоўцы, 4 жыхары прапалі без вестак. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў Гуце 453 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. — 329 жыхароў. У вёсцы працуюць крама, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з 3 паралельных прамалінейных вуліц, арыентаваных з З на У, злучаных 2 кароткімі вуліцамі ў цэнтр. і ў зах. частках.

Вёска — радзіма бел. пісьменнікаў І.А.Кірэйчыка і У. Марука.

**ДЗЯНІСКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дзяніскавіцкага с/с, за 25 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ганцавічы. 758 двароў, 1486 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст., узгадваюцца ў 1473 г. як прыватнае сяло ў складзе Трокскага ваяв. ВКЛ, з 1569 г. ў Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, сяло Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў. У 1839 г. на сродкі прыхаджан і кн. Льва Радзівіла была пабудавана з дрэва Петрапаўлаўская царква. Сяло з'яўлялася цэнтрам праваслаўнага прыхода (у 1879 каля 1100 прыхаджан). У 1886 г. 40 двароў, 560 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква і капліца. Паводле перапісу 1897 г. ў Дзяніскавічах было 143 двары, 1006 жыхароў, меліся царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін і піцейны дом. У 1909 г. ў сяле 184 двары, 1120 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, 3 двары, 30 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Круговіцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 259 дамоў, 1392 жыхары. Каля вёскі знаходзілася аднайменнае лясніцтва, 6 дамоў, 37 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 231 двор, 1226 жыхароў, створаны калгас. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. працавалі лесапільны з-д, млын, сельпо, няпоўная сярэдняя школа, быў створаны калгас.

У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. Дзяніскавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 127 вяскоўцаў загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі ў 1941—45 гг., у наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгад імя Леніна, імя Панамарэнкі, 12-й кавалерыйскай імя Сталіна, а ў вёсцы — падп. камсамольская арг-цыя. У лютым 1944 г. партызаны гэтых брыгад разграмілі ў Дзяніскавічах варожы гарнізон, спалілі лесазавод, дэпо з рамонтнымі майстэрнямі і 4 паравозы. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — вёскі Дзяніскавічы 1-я (1119 жыхароў) і Дзяніскавічы 2-я (1154 жыхары), р.п. Дзяніскавічы (111 жыхароў). З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 3197 жыхароў. У 1971 г. ў вёсцы 927 гаспадарак, 3469 жыхароў.

У Дзяніскавічах працуюць выканком сельсавета і сядзіба СВК «Верасок», ветэрынарны пункт, лясніцтва, млын, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, смалакурны з-д, бальніца, аптэка, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, шэраг магазінаў. Забудова вёскі выцягнута з Пн на Пд. Каля Дома культуры, у скверы, насыпаны курган (1964) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На яго вяршыні ўстаноўлены абеліск. У цэнтры вёскі, каля Дома культуры, знаходзіцца брацкая магіла 15 сав. воінаў і партызан. У ліку пахаваных — партызаны брыгад імя Леніна, імя Панамарэнкі, 12-й кавалерыйскай імя Сталіна, якія загінулі ў лютым 1944 г. пры разгроме гітлераўскага гарнізона ў Дзяніскавічах, і воіны 19-й механізаванай брыгады 1-га механізаванага корпуса 1-га Бел. фронту, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі ад ням.-фаш. акупантаў. У 1957 г. на брацкай магіле сав. воінаў і партызан устаноўлены помнік — скульптура воіна. Каля вёскі таксама размешчаны 3 археал. помнікі — курганныя могільнікі. Могільнік-1 знаходзіцца за 4 км ад вёскі, справа ад дарогі да в. Нач. Мясцовыя яго назвы Капцы, Швецкія магілы. Налічвае больш за 20 насыпаў. Выявіў у 1952 г. Б.В.Міралюбаў, абследаваў у 1965 г. П.Ф.Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. Могільнік можа быць аднесены да пахавання дрыгавічоў 11—13 ст. Могільнік-2 размешчаны за 5 км ад вёскі, ва ўрочышчы Смалярна, справа ад дарогі да в. Вялікія Круговічы. Мае 28 курганоў. Абследавалі П.Лысенка (1965), М.Ф.Гурын (1981). Раскопкі не праводзіліся. Могільнік-3 знаходзіцца за 3 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Варанец. Мясц. назва — Швецкія капцы, мае 22 насыпы. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М.Ф.Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

Вёска — радзіма беларускага вучонага-генетыка І.А.Гардзея (н. 1938).

Да 1965 г. ў склад сельсавета ўваходзілі таксама вёскі Дзяніскавічы 2-я і Дзяніскавічы 3-я (далучаны да в. Дзяніскавічы, да 1962 наз. Еськавічы).

**ДУБНЯКІ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 9 двароў, 12 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. — фальварак Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 2 двары, 12 жыхароў. У пач. 1920-х г. пад назвай Дубнякі былі вядомы 2 паселішчы — калонія і фальварак Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. ў калоніі налічвалася 12 дамоў, 66 жыхароў, у фальварку — 1 дом, 23 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, вёска, з 15.1. 1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. ў Д. 187 жыхароў. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. У 1970 г. 136 жыхароў, магазін. У 1965 г. на магіле невядомага партызана, які загінуў у баі з ням.-фаш. акупантамі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлены абеліск. Забудова рэдкая, бессістэмная, уздоўж прасёлачнай дарогі (часткова ў лесе).

**ЕЛЬНЯ** — вёска ў складзе Любашаўскага с/с, за 2,5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ганцавічы. 58 двароў, 122 жыхары (2005).

У 1567 г. ўзгадваецца як сяло ў Навагародскім пав. ў перапісе войска Літоўскага. У 1684 г. ў запісах Берасцейскага гродскага суда. У 1909 г. засценак Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 11 двароў, 65 жыхароў. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — польскімі. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 14 дамоў, 92 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. вёска ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з



канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны прапалі без вестак 2 вяскоўцы. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.6.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 184 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з З на У, да якой ва ўсх. частцы з Пд прымыкае кароткая вуліца.

**ЗАДУБ'Е** — вёска ў складзе Малькавіцкага с/с, за 34 км на Пд ад раённага цэнтра Ганцавічы, за 10 км ад чыг. ст. Малькавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 174 двары, 386 жыхароў (2005).

У 19 — пач. 20 ст. вёска ў Дабраслаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў Задуб'і налічвалася 58 двароў, 333 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска і фальварак Дабраслаўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., разам у вёсцы і фальварку 85 дамоў, 479 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. У 1940 г. вёска, 166 двароў, 492 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ці прапалі без вестак 27 жыхароў вёскі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы амаль поўнасцю спалілі вёску, знішчыўшы 149 двароў, і загубілі 48 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена, ахвяры фашызму ўвекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 801 жыхар. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Лунінецкім р-не. У 1970 г. 866 жыхароў.

У вёсцы дзейнічаюць клуб, магазін, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, базавая школа, аддз. сувязі. У цэнтры Задуб'я каля будынка клуба ў 1967 г. пастаўлены абеліск на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны ці былі закатаваны акупантамі. Планіровачна складаецца з арыентаванай з ПдЗ на У (крыху выгнутай у сярэдзіне на Пн) вуліцы, якую перасякаюць 2 дугападобныя (выгнутыя да цэнтра вёскі) вуліцы, да іх прымыкаюць шэраг завулкаў і адасобленых участкаў забудовы.

**КАЛОНІЯ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 9 км на У ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 41 двор, 102 жыхары (2005).

У 1909 г. маёнтак Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 1 двор, 4 жыхары. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 24 дамы, 156 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. вёска ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Карнікі спалілі ў вёсцы 14 двароў. На франтах вайны загінулі 2 вяскоўцы, 2 жыхары вёскі памерлі ад ран. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 331 жыхар. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 197 жыхароў. Забудова рэдкая, бессістэмная, выцягнутая з З на У.

**КРАСЫНІЧЫ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 12 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы. 50 двароў, 111 жыхароў (2005).

У пачатку 19 ст. Красынічы — вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць Свяжынскіх. У 1916 г. 6 двароў. Паводле перапісу 1897 г. — маёнтак той жа воласці і павета, 1 гаспадарка, 5 жыхароў. У 1909 г. — маёнтак, 2 двары, 8 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, калонія Круговіцкай гміны Лунінецкага павета Палескага ваяв., 7 дамоў, 44 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. вёска ў Ганцавіцкім

р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны ў баях загінуў 1 вясковец, 1 жыхар прапаў без вестак. У наваколлі Красынічаў супраць акупантаў дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 242 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 236 жыхароў. У вёсцы размешчаны аддз. сувязі і магазін. За 7 км ад вёскі, ва ўрочышчы Чмелішча, знаходзіцца брацкая магіла партызан брыгады імя Леніна. У ёй пахаваны партызаны В.П.Засімовіч і В.М.Уласовіч, якія загінулі тут у няроўным баі з гітлераўцамі ў 1943 г. У 1964 г. на магіле ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

**КРЫШЫЛАВІЧЫ** — вёска ў складзе Нацкага с/с, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы), на левым беразе р. Нача. 40 двароў, 58 жыхароў (2005).

У 19 — пач. 20 ст. Крышылавічы — вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць Абуховічаў. Паводле перапісу 1897 г. — 37 двароў, 312 жыхароў, піцейны дом. У 1909 г. — 49 двароў, каля 350 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 61 дом, 381 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У навакольных лясах супраць акупантаў дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. На франтах вайны загінулі ў баях, памерлі ад ран ці прапалі без вестак 13 аднавяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 232 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. — 287 жыхароў, магазін і аддз. сувязі. Забудова рэдкая, выцягнутая з ПдУ на ПнЗ. Каля вёскі знаходзіцца радовішча цагельных глін.

**КУКАВА** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, на аўтадарозе Ганцавічы—Клецк, за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 196 двароў, 564 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. Кукава — маёнтак Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 3 двары, 27 жыхароў. У 1909 г. ў маёнтку 2 двары, 19 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада, у лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, калонія Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 97 дамоў, 631 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР, вёска, працавалі школа, млын. З 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр Кукаўскага с/с. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях, памерлі ад ран ці прапалі без вестак 12 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7. 1954 г. Кукаўскі с/с скасаваны, вёска ў Агарэвіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 590 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 477 жыхароў. У вёсцы ветэрынарны пункт, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, Дом культуры, магазін. У цэнтры вёскі, у скверы, размешчаны помнік — на насыпаным земляным кургане скульптурная кампазіцыя: салдат і партызан са зброяй у руках на чатырохгранным пастаменце, на фасаднай плоскасці якога 2 мемарыяльныя дошкі з імёнамі больш як 60 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік устаноўлены ў 1975 г. (скульптар Н.Т.Палякоў). Забудова вёскі раздзелена аўтадарогай Ганцавічы—Клецк на дзве часткі: заходнюю ўтвараюць 2 паралельныя вуліцы, арыентаваныя з Пд на ПнЗ, усходняя ўяўляе сабой прамалінейную, двухбакова забудаваную вуліцу, арыентаваную з З на У.



**КУКАВА-БОР** — вёска ў складзе Нацкага с/с, за 17 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 53 двары, 96 жыхароў (2005).

У пачатку 20 ст. ў Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. з назвай Бор былі вядомы 2 урочышчы, адно з якіх належала Абуховічам, другое — Радзівілам. У абодвух урочышчах у 1909 г. было 3 двары, 97 жыхароў. Пазней іх пачалі лічыць за адно паселішча, якое сталі называць Кукава-Бор. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, асада Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 3 двары, 22 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. вёска ў складзе Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лактышскім (з 1954 Нацкі) с/с. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. Кукава-Бор акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях, прапалі без вестак ці памерлі ад ран 5 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. Кукава-Бор — хутары, 405 жыхароў. З 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. вёска, 361 жыхар. У вёсцы клуб, аддз. сувязі, магазін. Аснову забудовы складаюць 2 прамалінейныя, двухбакова забудаваныя вуліцы; адна з іх арыентавана з ПнЗ на ПдУ (з ПнЗ і З да яе прымыкае шэраг адасобленых участкаў забудовы), яе паўд.-ўсх. канец перасякае другая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ.

**ЛАКТЫШЫ** — вёска ў складзе Нацкага с/с, на левым беразе р. Лань, каля вадасховішча Лактышы, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 283 двары, 586 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц Лактышы вядомы з 16 ст. як сяленне ў Навагарודскім ваяв. ВКЛ (у 1941 быў знойдзены скарб, які налічваў больш за 7 тыс. манет, схаваных у 1660-я г.). У 1792 г. тут была пабудавана драўляная Мікалаеўская царква на месцы ранейшай, якая спарахнела. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. Лактышы ў складзе Рас. імперыі, сяло Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў. У 1864 г. пабудавана новая Мікалаеўская царква, таксама з дрэва (старая была разабрана). У 1879 г. сяло з'яўлялася цэнтрам праваслаўнага прыхода, у якім налічвалася каля 1780 прыхаджан (сярод іх — мужчынскага полу 872 душы, жаночага — 905 душ). Амаль усе прыхаджане адносіліся да сял. саслоўя, займаліся сельскай гаспадаркай; сярод прыхаджан пісьменных было не больш 4%. Лактышанскай прыходскай царкве ў той час належала каля 40 дзес. зямлі. У 1886 г. — 51 двор, 518 жыхароў, дзейнічала праваслаўная прыходская царква, працаваў вадзяны млын на р. Нача. Паводле перапісу 1897 г. — сяло, 111 двароў, 851 жыхар, працавалі царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 128 двароў, 885 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 182 дамы, 1091 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. вёска ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. З 12.10. 1940 г. цэнтр Лактышоўскага с/с. У 1940 г. ў вёсцы 225 гаспадарак, 1901 жыхар, працавала няпоўная сярэдняя школа, быў праведзены тэлефон. У Вял. Айч.



*Званіца царквы ў в. Лактышы.*

вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. Лактышы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; у наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады імя У.І.Леніна Пінскага злучэння. У сак. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. Пасля вайны Лактышы былі адноўлены. На франтах вайны загінулі ў баях, прапалі без вестак ці памерлі ад ран 60 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. Лактышоўскі с/с перайменаваны ў Нацкі (цэнтр сельсавета перанесены ў в. Нач). Паводле перапісу 1959 г. 1247 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 1099 жыхароў. У вёсцы рыбгас «Лактышы», базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, магазін; музей сав. разведчыка П.Зуйкевіча. Планіровачна складаецца з двух буйных участкаў забудовы, адзін з іх разгорнуты ад цэнтра вёскі на ПдЗ, другі — на Пд і ПдУ.

**ЛІПСК** — вёска ў складзе Малькавіцкага с/с, за 34 км на ПдУ ад г. Ганцавічы, за 9 км ад чыг. ст. Малькавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 134 двары, 303 жыхары (2005).

Узгадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1564 г. як сяло ў Навагародскім ваяв. ВКЛ, ва ўласнасці каталіцкай царквы. На пач. 20 ст. Ліпск — вёска прыхода Лунінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. ў Малькавіцкім праваслаўным прыходзе, у 1909 г. 30 двароў, 240 жыхароў. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска Лунінецкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. — 45 дамоў, 300 жыхароў (усе праваслаўныя, усе беларусы).

З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1. 1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. Ліпск акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны ў баях загінулі ці прапалі без вестак 12 аднавяскоўцаў. У наваколлі вёскі супраць гітлераўцаў дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы налічвалася 646 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Лунінецкім р-не. Паводле перапісу насельніцтва 1970 г. 808 жыхароў. У вёсцы аддз. сувязі, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, магазін. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1973 г. ўстаноўлены помнік — скульптура воіна.

**ЛЮБАШАВА** — вёска, цэнтр Любашаўскага с/с, за 3 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы), каля Любашаўскага вадасховішча. 435 двароў, 1041 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц Любашава вядома з 16 ст. як прыватнае сяло ў складзе ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, сяло (у іншых крыніцах — вёска) Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1816 г. вёска, 23 двары, уласнасць Свяжынскіх. У 1879 г. дзейнічала праваслаўная Варварынская драўляная царква. У 1884 г. Любашава — вёска пры паштовым тракце Клецк—Пінск, 22 двары, працавала конная паштовая станцыя. Непадалёку ад вёскі ў гэты ж час знаходзіўся аднайменны фальварак, які належаў Туманавым. У 1886 г. мястэчка, 137 двароў, 822 жыхары, цэнтр воласці Пінскага пав., 2 царквы, 3 яўр. малітоўныя дамы, школа, паштовая станцыя, 2 цагельні, 14 крам, 3 заезныя дамы. У воласць уваходзілі 36 паселішчаў (662 двары). Паводле перапісу 1897 г. — вёска, 61 двор, 407 жыхароў, хлебазапасны магазін і капліца. У 1909 г. ў вёсцы 75 двароў, 402 жыхары, у фальварку Любашава 1 гаспадарка, 8 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, у сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска Круговіцкай



гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У вер. 1921 г. 108 дамоў, 668 жыхароў. Фальварак Любашава налічваў 5 пабудоў, 41 жыхара. З 1939 г. ў складзе БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ганцавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. Любашава — цэнтр Любашоўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1077 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 1181 жыхар. У 1972 г. 298 гаспадарак, 1155 жыхароў. На тэр. вёскі працуюць выканком сельсавета, базавая школа, млын, лясніцтва, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 магазіны. У цэнтры вёскі каля Дома культуры знаходзіцца помнік — скульптура воіна (устаноўлена ў 1973) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць гітлераўцаў у Вял. Айч. вайну. На тэр. Любашоўскага с/с вёскі: Любашава, Боркі, Ганцавічы, Ельня, Сукач. Да 1975 г. існаваў хутар Карчомка, да 1976 г. — хутары Гута і Пасекі, з канца 1990-х г. — в. Кругліца.

**ЛЮСІНА** — вёска, цэнтр Люсінскага с/с. Размешчана па абодва бакі аўтадарогі і чыгункі Ганцавічы—Лунінец, за 16 км на ПдУ ад г. Ганцавічы, за 11 км ад чыг. ст. Малькавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 564 двары, 1581 жыхар (2005).

Вядома з 16 ст. як сяло ў Навагародскім ваяв. ВКЛ. У 19 — пач. 20 ст. сяло (вёска ў іншых крыніцах) Хатыніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Належала Патоцкім. У 1886 г. сяло, 51 двор, 594 жыхары, дзейнічала праваслаўная царква, прыпісаная да Малькавіцкага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. — 57 двароў, 594 жыхары, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1902—04 гг. у Люсіне жыў і працаваў будучы класік бел. л-ры Якуб Колас (К.М.Міцкевіч), які прыехаў сюды пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Малады настаўнік клапаціўся аб тым, каб усе сял. дзеці вучыліся ў школе. Ён часта гутарыў з мясц. сялянамі, цікавіўся іх жыццём, бытам і патрэбамі, чытаў лекцыі для сялян. У Люсіне Якуб Колас пачаў пісаць першую частку сваёй трылогіі «На ростанях» — аўтабіяграфічную аповесць «У палескай глушы», у якой яскрава і праўдзіва адлюстраваў жыццё і быт сялян Люсіна. У аповесці Люсіна падаецца пад назвай Цельшына. У 1909 г. сяло налічвала 152 двары, 1009 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Хатыніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 190 дамоў, 1029 жыхароў. Побач з вёскай знаходзілася калонія Люсіна, 2 дамы, 25 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. вёска, 374 двары, 1664 жыхары, няпоўная сярэдняя школа. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі Люсіна дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. На франтах вайны ў баях загінулі, прапалі без вестак ці памерлі ад ран 7 аднавяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1077 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 1181 жыхар. У 1972 г. 451 гаспадарка, 1751 жыхар. На тэр. вёскі размешчаны выканком сельсавета, ветэрынарны пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, лясніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, музей Я.Коласа, дзіцячыя яслі-сад, 3 магазіны, прыпынак «Якуба Коласа» на чыг. лініі Лунінец—Баранавічы (прыпынак Люсіна знаходзіцца за 3 км ад яго ў бок Ганцавіч).

У цэнтры Люсіна, у скверы, знаходзіцца помнік (абеліск на кургане) на ўшанаванне памяці 99 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну. Помнік узведзены ў 1967 г. Будынак мясц. школы ў 1966 г. адзначаны мемарыяльнай дошкай з нагоды жыцця і працы ў Люсіне класіка бел. л-ры Якуба Коласа. На тэр. Люсінскага с/с вёскі: Люсіна, Макава, Палонь.

**МАКАВА** — вёска ў складзе Люсінскага с/с, за 20 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 97 двароў, 245 жыхароў (2005).

У 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Малькавіцкага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. — вёска Хатыніцкай вол. Пінскага пав., 9 двароў, 155 жыхароў. У пач. 20 ст. Макава — вёска Хатыніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., Малькавіцкага праваслаўнага прыхода, у 1909 г. 31 двор, 230 жыхароў. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. Макава акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Хатыніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 42 дамы, 249 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1. 1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Люсінскім с/с, 60 двароў, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У яе наваколлі дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. У вер. 1943 г. акупанты спалілі вёску і загубілі 3 яе жыхароў. На франтах вайны загінулі ў баях, прапалі без вестак ці памерлі ад ран 10 воінаў-землякоў. Пасля вайны Макава было адноўлена. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 487 жыхароў. З 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу насельніцтва 1970 г. 472 жыхары. У вёсцы базавая школа, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з арыентаванай з У на ПнЗ крыху дугападобнай вуліцы, ад цэнтра якой на Пд адыходзіць кароткая вуліца, да якой з У прымыкае завулак, паралельны асн. вуліцы.

На мясц. могілках знаходзяцца 2 брацкія магілы сав. партызан (у адной магіле пахаваны 2, у другой — 3 партызаны) брыгады імя Леніна Пінскага партыз. злучэння, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў у 1944 г. На абедзвюх магілах у 1967 г. ўстаноўлены абеліскі.

**МАЛЫЯ КРУГОВІЧЫ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 15 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы).

У 19 — пач. 20 ст. вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1816 г. 12 двароў, уласнасць памешчыкаў Абуховічаў. Вёска ўваходзіла ў склад Круговіцкага праваслаўнага прыхода (з цэнтрам у Вялікіх Круговічах). Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 397 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 66 двароў, 424 жыхары. Побач знаходзіўся маёнтак Круговічы. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, в. Малыя Круговічы (86 дамоў, 543 жыхары) і фальварак Круговічы (5 дамоў, 26 жыхароў), у Круговіцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв.

З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1. 1940 г. вёска ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Агарэвіцкім с/с. У 1940 г. 144 двары, 765 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; супраць ворагаў у яе наваколлі дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна. На франтах вайны загінулі ў баях, прапалі без вестак ці памерлі ад ран 46 воінаў-землякоў. У 1949 г. быў створаны калгас. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 913 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 740 жыхароў. У вёсцы базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, ма-



газін. Аснову забудовы складае прамалінейная, двухбакова забудаваная вуліца, арыентаваная з Пн на Пд, на У ад яе праходзіць паралельная, больш кароткая вуліца, на З і Пд шэраг адасобленых участкаў забудовы.

Каля вёскі знаходзяцца археал. помнікі – тры курганныя могільнікі. Могільнік-1 размешчаны за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Машукоўшчына. Мае 12 курганоў. Выявіў у 1929 г. С.Пшэварскі, абследавалі ў 1955 г. Ю.В.Кухарэнка, Б.В.Міралюбаў, у 1965 г. – П.Ф.Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. Могільнік-2 размешчаны за 2,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Боркі. Мясцовая назва – Швецкія капцы. Мае 27 курганоў. Выявіў у 1929 г. С.Пшэварскі, абследавалі ў 1955 г. Ю.В.Кухарэнка, Б.В.Міралюбаў; былі раскапаны 3 курганы. Абследавалі П.Ф.Лысенка (1965), В.Б.Караткевіч (1970), М.Ф.Гурын (1981). Могільнік належаў славянскім плямёнам 11–13 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Бел. дзярж. музеі Палесся ў Пінску. Курганны могільнік-3 размешчаны за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Бортнае.

Вёска – радзіма поўнага кавалера ордэна Прац. Славы І.І.Равінскага (н. ў 1943) і бел. пісьменніка В.І.Гардзея (н. 1946).

**МАЛЬКАВІЧЫ** – вёска, цэнтр Малькавіцкага с/с, на аўтадарозе Ганцавічы–Лунінец, за 26 км на ПдУ ад раённага цэнтра Ганцавічы. Чыг. станцыя на лініі Лунінец–Баранавічы. 586 двароў, 1456 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. як сяло ў шляхецкай уласнасці ў Навагародскім ваяв. ВКЛ. У пач. 19 ст. – сяло Хатыніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1835 г. тут дзейнічала праваслаўная царква. У 1879 г. – цэнтр праваслаўнага прыхода, да якога былі прыпісаны, апрача Малькавіч, суседнія вёскі Люсіна і Ліпск. Прыход налічваў 1100 вернікаў (548 душ мужчынскага, 552 – жаночага полу). Амаль для кожнай сям'і былі ўласцівы такія промыслы, як ткацтва, прадзенне, збор грыбоў, ягад, лоўля рыбы і ракаў, якімі была багата тутэйшая мясцовасць. Малькавіцкай царкве ў 1879 г. належала каля 50 дзес. зямлі, у тым ліку 2,5 дзес. прысядзібнай, 30 ворнай, 13 сенакоснай. 30.12.1884 г. пачаўся рух на лініі Вільня–Лунінец, працавала чыг. станцыя. На пач. 20 ст. былі вядомы сяло і чыг. ст. Малькавічы на лініі Лунінец–Баранавічы (пры станцыі 3 двары, 59 жыхароў). Са ст. Малькавічы штогод адпраўлялася каля 100 тыс. пудоў лясных грузаў. Чыгунка садзейнічала развіццю сяла, росту яго насельніцтва.

У ліст. 1917 г. была ўстаноўлена сав. ўлада. У 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, з сак. 1919 г. – войскамі Польшчы. У пач. 1919 г. і ліп.–жн. 1920 г. аднаўлялася сав. ўлада. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы. На вер. 1921 г. пад назвай Малькавічы ў Хатыніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. існавалі тры самастойныя населеныя пункты: вёска (167 дамоў, 883 жыхары), калонія (18 дамоў, 105 жыхароў) і фальварак (1 дом, 6 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР, вёска. У 1940 г. – 320 двароў, 2186 жыхароў, працавалі лесапільны з-д, амбулаторыя, радзільны дом, аддз. сувязі, няпоўная сярэдняя школа. З 12.10.1940 г. Малькавічы – цэнтр Малькавіцкага с/с Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10.8. 1941 г. каля чыг. станцыі гітлераўскімі карнікамі былі расстраляны актывісты



*Царква ў в. Малькавічы.*

сельсавета: А.Ф.Дворак, А.Ф. і М.Ф. Лянкевічы, А.Н.Мыслівец, М.К.Страх, Л.П. Якубук. У студз. 1944 г. ў раёне Малькавіч партыз. брыгада імя Леніна Пінскага злучэння вяла баі з карнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — вёска (997 жыхароў) і пасёлак (1002 жыхары). З 25.12.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Лунінецкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 1235 жыхароў, у пасёлку — 935. У 1972 г. ў вёсцы 305 гаспадарак, 1304 жыхары. Пазней пасёлак зліўся з вёскай. Забудова вёскі нагадвае ў плане вялікую дугу — яе паўн. частка (б. пасёлак), арыентаваная з ПнЗ на У, раскінулася па абодва бакі чыгункі (і чыг. станцыі), зах. ускраінай выходзячы за аўтадарогу Ганцавічы—Лунінец; усх. частка, выцягнутая з Пн на Пд, на Пд зноў пераходзіць чыгунку і шашу, за якой адасоблена раскінулася паўд.-зах. частка, арыентаваная сваёй асн. вуліцай з У на ПдЗ.

На тэр. вёскі знаходзяцца выканком сельсавета, ветэрынарны пункт, млын, лясніцтва, сталярны і дрэваапрацоўчы цэхі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, чыг. ст. Малькавічы, 2 клубы, б-ка, сярэдняя школа, бальніца, аптэка, царква, малітоўны дом, 5 магазінаў, дзіцячыя яслі-сад, помнікі гісторыі — абеліск на магіле 6 сав. актывістаў, якіх загубілі ням.-фаш. акупанты 10.8.1941 г.; у цэнтры вёскі — абеліск землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (абодва абеліскі ўстаноўлены ў 1965 г.). За 1 км на ПнУ ад вёскі, па дарозе на Ліпск, ва ўрочышчы Града знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, які мае 5 насыпаў. Яго выявіў у 1960 г. Ю.В.Кухарэнка. Курганны могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 10—13 ст. Раскапаны адзін курган, у якім знойдзены літы сярэбраны і шкляны браслеты, бронзавае вісочнае кальцо з падвескамі і 2 гліняныя пласціны. Знаходкі захоўваюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Другі археал. помнік — курганны могільнік ёсць ва ўрочышчы Нежыбока, за 8 км на ПнУ ад вёскі, каля дарогі на Ліпск. Ён мае 3 насыпы. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М.Ф.Гурын. Раскопкі не праводзіліся. На тэр. Малькавіцкага с/с знаходзяцца вёскі: Малькавічы, Ліпск, Задуб'е. Да 1973 г. існаваў хутар Запропасць, да 1975 г. — хутар Рубань.

**МЕЛЬНІКІ** — вёска ў складзе Нацкага с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы, за 2 км ад вадасховішча Лактышы. 98 двароў, 184 жыхары (2005).

У 1816 г. маёнтак Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Абуховічаў. У 1885 г. вёска той жа воласці і павета, 11 жыхароў, працаваў вадзяны млын. Адносілася да Круговіцкага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 29 двароў, 214 жыхароў. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 51 дом, 242 жыхары.

З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лактышоўскім (з 1954 Нацкі) с/с. У 1940 г. 40 двароў, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у яе наваколлі дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. На франтах вайны загінулі ў баях ці прапалі без вестак 13 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 521 жыхар. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 513 жыхароў. У вёсцы магазін, базавая школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва.

**НАЧ** — вёска, цэнтр Нацкага с/с, за 28 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ганцавічы, на правым беразе р. Лань. 135 двароў, 350 жыхароў (2005). Назва паселішча ўтворана ад назвы р. Нача, на якой яно было калісьці заснавана.



У пачатку 19 ст. вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Абуховічаў. У 1816 г. 14 двароў. У 1879 г. тут дзейнічала капліца, прыпісаная да Круговіцкага праваслаўнага прыхода. У 1885 г. ў вёсцы 11 двароў. Побач знаходзіліся аднайменныя фальварак і засценак. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 24 двары, 164 жыхары, працавалі капліца, хлебазапасны магазін, вадзяны млын.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 г. і ліп.—жн. 1920 г. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 263 жыхары. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны фальварак, 9 дамоў, 63 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лактышоўскім с/с. У 1940 г. 75 двароў, 479 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях ці прапалі без вестак 9 вяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. цэнтр Лактышоўскага с/с быў перанесены ў Нач, а сельсавет перайменаваны ў Нацкі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы налічвалася 443 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 383 жыхары. На тэр. вёскі млын, ветэрынарны пункт, некалькі магазінаў, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа. Аснову забудовы ўтвараюць 2 паралельныя прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з У на З.

У цэнтры вёскі размешчаны помнік — скульптура жанчыны ў жалобе (устаноўлена ў 1967) на ўшанаванне памяці 125 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну. На тэр. Нацкага с/с знаходзяцца наступныя вёскі: Нач, Востраў, Ґута, Крышылавічы, Кукава-Бор, Лактышы, Мельнікі, Ясянец. Да 1946 г. існавалі хутары Лахоўшчына і Валокі.

**НОВЫЯ АГАРЭВІЧЫ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 10 км на У ад горада і чыг. ст. Ганцавічы. 56 двароў, 147 жыхароў (2005).

На пачатку 20 ст. вёска ў Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 13 двароў, 89 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, у вер. 1921 г. вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 25 дамоў, 148 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Агарэвіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях ці прапалі без вестак 4 вяскоўцы. У 1950 г. да Новых Агарэвічаў была далучана суседняя в. Свержань. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 221 жыхар. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 215 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой прымыкаюць 2 завулкі.

**ПАЛОНЬ** — вёска ў складзе Люсінскага с/с, за 12 км ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 91 двор, 336 жыхароў (2005).

У 1921 г. Палонь — асада ў Хатыніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 1 дом, 10 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Люсінскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. Палонь акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны у баях з ворагамі загінулі 6 вяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 198 жыхароў. З 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 339 жыхароў. На тэр. вёскі знаходзяцца школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ПЕРАДЗЕЛ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 14 км на ПнУ ад горада

і чыг. ст. Ганцавічы. 36 двароў, 62 жыхары (2005).

У пачатку 20 ст. — фальварак Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., у 1909 г. 104 жыхары. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 г. і ліп.—жн. 1920 г. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, у вер. 1921 г. — калонія Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 71 дом, 437 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Агарэвіцкім с/с. У 1940 г. 92 двары, 526 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях ці прапалі без вестак 11 вяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 307 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 241 жыхар. На тэр. вёскі аддзяленне сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з моцна выцягнутай зігзагападобнай вуліцы з рэдкай двухбаковай забудовай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ПЯРЭВАЛАКІ** — вёска ў складзе Чудзінскага с/с, за 45 км на У ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Баранавічы—Лунінец). 33 двары, 79 жыхароў (2005).

З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценкі Пярэвалкі 1-я і Пярэвалкі 2-я Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Чудзінскім с/с. У 1940 г. 71 двор, 329 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1 воін-зямляк памёр ад ран. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., у 1954—59 гг. у Рожанскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 218 жыхароў. З 25.12. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 280 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 моцна адасобленых участкаў забудовы, адзін уяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з Пд на ПнЗ, другі — вуліцу, арыентаваную з З на ПнУ, якая пасля таго, як да яе з ПнЗ прымыкае завулак, паварочвае на ПдУ.

**РАЗДЗЯЛАВІЧЫ** — вёска ў складзе Хатыніцкага с/с, за 27 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ганцавічы, на р. Бобрык (прыток р. Лань) і аўтадарозе Выганашчы—Люсіна, каля Раздзялавіцкага вадасховішча. 537 двароў, 1636 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц Раздзялавічы вядомы з 16 ст. як сяло ў Новагародскім ваяв. ВКЛ. У 1589 г. кн. М.К.Радзівіл падараваў вёску нясвіжскім езуітам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі; сяло (ці паводле іншых крыніц вёска) Хатыніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў, потым Патоцкіх. У 1886 г. сяло, 29 двароў, 314 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква, прыпісаная да Хатыніцкага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 34 двары, 574 жыхары, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом.

З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Хатыніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 109 дамоў, 488 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хатыніцкім с/с. У 1940 г. — 188 двароў, 873 жыхары, створаны калгас «17 Верасня». У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопніакамі. На франтах вайны загінулі ў баях з ворагам ці прапалі без вестак 23 воіны-землякі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 688 жыхароў. У 1962—66 гг. у Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 1420 жыхароў. У вёсцы сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, млын, ветэрынарны пункт, школа верхавой язды. Аснову забудовы складае пра-



малінейная, двухбакова забудаваная вуліца, арыентаваная з З на У, да яе ў цэнтры з паўн. боку прымыкаюць 2 вуліцы (арыентаваныя з Пд на ПнУ і з ПдЗ на ПнУ), а таксама некалькі завулкаў і адасобленых участкаў забудовы.

Каля Раздзялавічаў 2 помнікі Вял. Айч. вайны — абеліск на брацкай магіле 4 сав. лётчыкаў, якія загінулі ў паветраным баі ў 1941 г., і абеліск на брацкай магіле 2 сав. воінаў і 5 мірных жыхароў, што загінулі ад рук акупантаў. Абодва абеліскі ўстаноўлены ў 1975 г.

**СУКАЧ** — вёска ў складзе Любашаўскага с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 44 двары, 85 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. — вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1890 г. 4 двары. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 82 жыхары. У пач. 20 ст. засценак той самай воласці і павета, у 1909 г. 15 двароў, 65 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 23 дамы, 136 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. вёска ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ганцавіцкім (з 1954 Любашаўскі) с/с. У 1940 г. 43 двары, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 168 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 211 жыхароў. Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай (выгнутай на ПнУ), пераважна аднабакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на З, да якой у цэнтры з ПдЗ прымыкае кароткая вуліца.

**ХАТЫНІЧЫ** — вёска, цэнтр Хатыніцкага с/с, на аўтадарозе Ганцавічы—Лагішын, за 17 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 1018 гаспадарак, 2632 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц Хатынічы вядомы з 16 ст., сяло ў Навагародскім ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, сяло, цэнтр воласці і праваслаўнага прыхода Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Патоцкіх. У 1863 г. адчынена нар. вучылішча. У 1879 г. ў Хатыніцкім прыходзе каля 1600 прыхаджан. Да яго былі прыпісаны, апрача Хатынічаў, в. Боркі, с. Раздзялавічы і некаторыя дробныя населеныя пункты. Апрача земляробства і жывёлагадоўлі, многія мясц. жыхары займаліся пчалярствам. У 1897 г. тутэйшая царква мела каля 40 дзес. зямлі, у тым ліку ворыўнай 19, сенакоснай 5 дзес. Пры царкве ў гэты час працавала школа царк. граматы. У 1886 г. сяло, 95 двароў, 884 жыхары, 2 праваслаўныя царквы, нар. вучылішча (39 вучняў, з іх толькі 3 дзяўчынкі). Паводле перапісу 1897 г. — 96 двароў, 1363 жыхары, праваслаўная царква, валасное праўленне, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом. У 1909 г. ў Хатынічах было 250 двароў і 1746 жыхароў. Побач з сялом размяшчаўся маёнтак Хатынічы, 1 гаспадарка, 25 жыхароў.

З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 271 дом, 1428 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10. 1940 г. — цэнтр сельсавета Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. 645 двароў, 2405 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 8.7.1944 г. вёска была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 31 жыхара. На франтах вайны 45 вяскоўцаў загінулі ў баях з ворагамі ці прапалі без вестак і памерлі ад ран. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. вёска налічвала 1652 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 2808 жыхароў. На тэр. вёскі знаходзяцца выканком сельсавета, млын, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, ветэрынарны пункт, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячыя яслі-сад, некалькі магазінаў.

У цэнтры вёскі — брацкая магіла 18 сав. воінаў і 3 партызан, якія загінулі ў пачатку ліп. 1944 г. пры вызваленні Хатынічаў і Раздзялавічаў ад ням.-фаш. акупантаў. На брацкай магіле ў 1957 г. ўстаноўлены помнік — скульптура воіна. У цэнтры вёскі таксама знаходзіцца драўляная Успенская царква, пабудаваная ў 2-й пал. 19 ст., — помнік нар. дойлідства з элементамі неарускага стылю. На тэр. Хатыніцкага с/с існуюць вёскі: Хатынічы, Раздзялавічы, Яловая.

**ЧУДЗІН** — вёска, цэнтр Чудзінскага с/с і калгаса «Зара», за 40 км на У ад горада і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы), на правым беразе р. Лань, на аўтадарозе Ганцавічы—Чырвоная Слабада.

Вядомы з 16 ст. як сяло ў Навагародскім ваяв. ВКЛ. У 19 — пач. 20 ст. Чудзін — сяло (паводле іншых крыніц — вёска), у Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1867 г. пабудавана з дрэва праваслаўная Юр'еўская царква, якая захавалася да нашага часу. У 1886 г. сяло, 39 двароў, 349 жыхароў, царква. У канцы 19 ст. ў Чудзіне жыў і працаваў вядомы фалькларыст і этнограф А.С. Сержпутоўскі. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 87 двароў, 698 жыхароў. У 1909 г. 118 двароў, 787 жыхароў

У ліст. 1919 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 г. і ліп.—жн. 1920 г. З сак. 1921 г. Чудзін у складзе Польшчы, вёска Чучавіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 182 дамы, 994 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. ў вёсцы 269 двароў, 1146 жыхароў, створаны калгас, працавалі няпоўная сярэдняя школа, сельпо, тэлефон, фельчарскі пункт. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у лясах каля Чудзіна базіраваліся Ганцавіцкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгада імя Леніна Пінскага злучэння. Партызаны брыгады разграмілі ў вёсцы гітлераўскі гарнізон. 14.10. 1942 г. акупанты спалілі 204 двары і загубілі 16 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. Чудзінскі с/с скасаваны, тэр. яго далучана да Рожанскага с/с, 22.12. 1959 г. цэнтр сельсавета перанесены ў Чудзін, сельсавет перайменаваны ў Чудзінскі (у 1964 Рожанскі с/с быў адноўлены ў ранейшых межах у складзе Любанскага р-на, з 1965 — у Салігорскім р-не). Паводле перапісу 1959 г. 1663 жыхары. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу насельніцтва 1970 г. 1918 жыхароў.

У Чудзіне размешчаны выканком сельсавета, млын, ветэрынарны пункт, лясніцтва, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячыя яслі-сад, некалькі магазінаў.

У цэнтры вёскі ў 1971 г. ўстаноўлены помнік — скульптурная кампазіцыя на ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На мясцовых могілках знаходзіцца брацкая магіла 6 партызан. У 1965 г. на брацкай магіле партызан устаноўлена мемарыяльнае надмагілле. За 4 км на Пд ад Чудзіна, каля дарогі на Вялікія Чучэвічы, ёсць магіла ахвяр фашызму. У ёй пахаваны 10 вясковых актывістаў, у тым ліку старшыня кал-

*Юр'еўская царква ў в. Чудзін.*





гаса Ф.А.Захарэня, якіх расстралялі ням.-фаш. акупанты ў 1941 г. У 1967 г. на магіле ахвяр фашызму насыпаны курган памяці, у яго падножжы ўстаноўлены абеліск, на якім выбіты імёны тых, хто загінуў. На будынку выканкома Чудзінскага с/с у 1977 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар Ганцавіцкіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады імя Леніна. На могілках знаходзіцца драўляная царква — помнік нар. дойлідства Палесся 19 ст. Вёска — радзіма бел. паэта Алеся (Аляксандра Канстанцінавіча) Касько (н. ў 1951).

На тэр. Чудзінскага с/с існуюць вёскі: Чудзін, Будча, Пярэвалакі.

**ШАШКІ** — вёска ў складзе Агарэвіцкага с/с, за 12 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 89 двароў, 163 жыхары (2005).

У 19 — пач. 20 ст. вёска ў Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1816 г. 5 двароў, уласнасць памешчыкаў Абуховічаў. Шашкі адносіліся да Круговіцкага праваслаўнага прыхода. У 1890 г. 12 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 164 жыхары. У 1909 г. 27 двароў, 1890 жыхароў.

У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым 1918 г. акупіравана герм. войскамі, з сак. 1919 г. — войскамі Польшчы. Сав. ўлада аднаўлялася ў пач. 1919 г. і ў ліп.—жн. 1920 г. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 44 дамы, 243 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Агарэвіцкім с/с. У 1940 г. 84 двары, 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. вёска была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях ці прапалі без вестак 16 воінаў-землякоў. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 512 жыхароў. З 25.12. 1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 502 жыхары. Клуб, аддз. сувязі, магазін. Аснову забудовы складаюць 2 паралельныя прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПнУ на Пд, яшчэ адна вуліца перасякае іх пад прамым вуглом у паўн. частцы; да іх прымыкае шэраг адасобленых домаўладанняў.

**ЯЛОВАЯ** — вёска ў складзе Хатыніцкага с/с, за 26 км на ПдЗ ад раённага цэнтра г. Ганцавічы, за 19 км ад чыг. ст. Малькавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы), на аўтадарозе Ганцавічы—Лагішын. 33 двары, 56 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. — урочышча Хатыніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 3 двары, 28 жыхароў. У 1909 г. 1 двор, 8 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, калонія Хатыніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 11 дамоў, 63 жыхары.

З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хатыніцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ў баях з ворагамі ці прапалі без вестак 3 вяскоўцы. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 144 жыхары. Лясніцтва і магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з Пн на Пд, з Пд да яе прымыкае завулак, арыентаваны на ПдЗ.

**ЯСЯНЕЦ** — вёска ў складзе Нацкага с/с, за 20 км на ПнУ ад раённага цэн-



*Капліца на могілках у в. Ясянец.*

тра і чыг. ст. Ганцавічы (на лініі Лунінец—Баранавічы). 14 двароў, 36 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. — вёска Круговіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 5 двароў, 32 жыхары, капліца. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Круговіцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., у вер. 1921 г. 15 дамоў, 101 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл., у Лактышоўскім (з 1954 Нацкі) с/с. У 1940 г. 19 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 7.7. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 66 жыхароў. З 25.12.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Ляхавіцкім р-не. Паводле перапісу 1970 г. 93 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай, двухбакова забудаванай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на Пд, і шэрагу адасобленых домаўладанняў.

За 1 км на Пд ад вёскі ў лесе, па абодва бакі дарогі на Вялікія Круговічы, знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, які мае больш за 100 насыпаў. Выявіў і раскапаў 3 курганы ў 1955 г. Б.В.Міралюбаў, у 1961 г. П.Ф.Лысенка раскапаў яшчэ 9 насыпаў. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Бел. дзярж. музеі Палесся ў Пінску. Могільнік датуецца 11—13 ст., належаў дрыгавічам.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2239; ф. 30, воп. 5, спр. 6753; воп. 9, спр. 2378, 2387, 2401.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 9, спр. 239—240.
Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 1558, воп. 1, спр. 223—224.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1328, 1336.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Вып. 6. Мн., 1879.
Архивы Виленской археографической комиссии. Т. 24. Вильна, 1897.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Skorowidz miejscowoыsci Rzeszypospolitej Polskiej. Warszawa, 1924. T. VIII.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1. Мн., 1985; Т. 2. Мн., 1987.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.



БЯРОЗАЎСКІ РАЁН
БІЯЛАГІЧНЫ ЗАКАЗНІК СПОРАЎСКІ
Спораўскае
Ясельда
Нов. Цемра
Ражок
Дубавая
Буды
Менявеж
Бобкі
Дзеткавічы
Лавы
Залессе
Мосткі
Рашын
Дзерайная
Каты
Сукачы
Зёлава
Імянін
Заніўе
Брэст
Кобрын
Антопаль
Губерня
Гарыцы
Першамайск
Падлессе
Вулька
Свеклічы
Корсунь
Татарнавічы
Хамічыцы
Галоўчыцы
Асіпавічы
Дзятлавічы
Навасёлкі
Ямнік
Галік
Маркавічы
Чарнеевічы
Жабер
Старамлыны
Заяленне
Какорыца
Хомск
52°20'
Леснікі
Скрыпалі
Пярэспа
Заточча
Бездзеж
Гнілец
Закляценне
Нямержа
Асаўляны
Застаўе
Гошава
Дубраўкі
Заверша
Мікіцк
Усходы
Сіманавічы
Тыневічы
Аляксеевічы
Крамно
Белая
Татар'я
Сукі
Субаты
Ласінцы
Вулька
Салава
Белінок
Пацы
Цыбкі
Брадок
Дымск
Брашэвічы
Навікі
Равіны
Дробаты
Сорацні
Гумнішча
Завялёўе
Сірэнеўка
Залужжа
Вавулічы
Віры
Вулька
Сёманаўшчына
Юзэфіны
Місаўцы
Толкава
ДРАГІЧЫН
Скібічы
Гутава
Піганавічы
Арловічы
Драгічын
Нагор'е
Ліпнікі
Заплессе
Пярковічы
52°10'
Літоўск
Дуброва
Агдэмер
Гомель
Дубавое
Пігасы
Валавель
Вулька-Радавецкая
Ляжыткавічы
Папіна
Людзвінава
Заказель
Карлавічы
Каралін
Ялач
Язвіны
Новая Папіна
Залаўе
Гута
Красцінава
Сулічава
Вулька-Папінская
Марцінова
Васаўцы
Селішча
Ляхавічы
Кублік
Белін
Адамкава
Зарэчка
Белінок
Пухавая
Вялікі Лес
Хідры
Малінаўка
Залессе
52°00'
Кобрын
Ражное
Гаравіца
Сварынь
Радастава
25°15'
Маштаб 1:300 000
ВАЛЫНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
25°00'
УКРАІНА
ІВАНАЎСКІ РАЁН

# ДРАГІЧЫНСКІ РАЁН

Размешчаны на Пд Брэсцкай вобл. Плошча 1,9 тыс. км², насельніцтва 48,2 тыс. чалавек (2005). Цэнтр — г. Драгічын. Паўночная частка раёна месціцца ў межах Прыпяцкага Палесся, паўднёвая — Брэсцкага Палесся. Працякае р. Ясельда з прытокамі Ласінцы, Плёса; Дняпроўска-Бугскі і Белаазерскі каналы. У межах раёна Галоўчыцкае і інш. вадасховішчы, часткова азёры Спораўскае і Белае. Пад лесам 23% тэрыторыі. У раёне размешчаны дзярж. біялагічныя заказнікі Радастаўскі, Званец, часткова Спораўскі. Праходзяць чыг. і аўтадарога Брэст—Гомель.

Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Пінскай вобл. 12.10.1940 г. быў падзелены на 20 сельсаветаў Агдэмерскі, Асавецкі, Бездзежскі, Белінскі, Брашэвіцкі, Вавуліцкі, Валавельскі, Вулькаўскі, Гошаўскі, Жаберскі, Застаўскі, Каралінскі, Ліпнікаўскі, Літоўскі, Ляхавіцкі, Нямержаўскі (Немяржанскі), Папінскі, Сохаўскі, Старасельскі, Хомскі. Першапачаткова тэр. раёна складала 1193,8 км², уваходзіла 126 населеных пунктаў, 9693 гаспадаркі, у т.л. 4840 хутароў, 55 020 жыхароў. У Драгічыне — 3125 жыхароў, 742 жылыя дамы. Прамысловасць раёна налічвала 22 прадпрыемствы, у большасці дробныя. Больш значныя: маслабойны, вінзавод, валюшна-лямцавы з-д, электрастанцыя (35 кВт), бальніца, паштовае і тэлегр. аддзяленні, друкарня. Працавалі 68 школ, у т.л. 4 у Драгічыне.



*Водападзел на Дняпроўска-Бугскім канале ў Драгічынскім раёне.*

У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў раёне каля 6,3 тыс. чал. На тэрыторыі раёна змагаліся з ворагам партыз. брыгады 150-я імя Ф.М. Языковіча, імя Молатава, імя Свярдлова, «Савецкая Беларусь», асобныя партыз. атрады імя Шчорса, імя Будзённага, імя Катоўскага, імя Кірава, спецгрупа «Іскра». Вызвалены раён 17.7.1944 г. войскамі 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе Бел. аперацыі 1944 г.



*Ручнік з Драгічынскага раёна. 1980-я г.*



*Драгічынскі раённы музей партызанскай славы імя Д.К.Удовікава.*



*Драгічынскі Дом культуры.*



*У цэху прадпрыемства «Экзон».*

З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. 8.8. 1959 г. да раёна далучаны Галоўчыцкі, Дзеткавіцкі, Імянінскі, Першамайскі сельсаветы, г.п. Антопаль скасаванага Антопальскага р-на і Радастаўскі с/с Дзівінскага р-на. У снежні 1962 г. — студзені 1965 г. ў складзе раёна былі г. Іванава і 15 сельсаветаў Іванаўскага р-на. У 1959 г. ў раёне было каля 40 тыс. жыхароў.

На 1.1.2005 г. ў Драгічынскім р-не 135 населеных пунктаў, у т.л. г. Драгічын, г.п. Антопаль, 14 сельсаветаў: Асавецкі, Бездзежскі, Брашэвіцкі, Вулькаўскі, Галоўчыцкі, Гутаўскі, Дзеткавіцкі, Драгічынскі, Закозельскі, Імянінскі, Немяржанскі, Папінскі, Радастаўскі, Хомскі. Мяжуе на Пдз Украінай, на У з Іванаўскім, на Пн — з Бярозаўскім, на З — з Кобрынскім раёнамі.



*На прадпрыемстве «Экзон-глюкоза».*

Галіны с.-г. вытворчасці: малочна-мясная, жывёлагадоўля, ільнаводства, буракаводства, пасевы збожжавых і бульбы. Працуюць 15 с.-г. вытворчых кааператываў (СВК), племзавод «Закозельскі», адкрытае акц. т-ва «Драгічынскі райаграсэрвіс». Прадпрыемствы металаапрацоўкі і харчовай прам-сці: рэсп. унітарныя «Экзон» і «Экзон-глюкоза», адкрытыя акц. т-вы «Драгічынскі камбікормавы завод» і «Драгічынскі трактарарамонтны завод», сумеснае прадпрыемства «Фрост і К», Драгічынскі лясгас. У раёне 22 сярэднія, 11 базавых, 3 пачатковыя, 2 школы-інтэрната, 25 дашкольных устаноў, 2 муз. і 2 дзіцячыя школы мастацтва, 42 клубныя ўстановы, 51 б-ка, 4 бальніцы, 5 амбулаторый, 25 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Музеі народнай творчасці «Бездзежскі фартушок» у в. Бездзеж і партызанскай славы ў Драгічыне. У раёне: брацкія магілы сав. воінаў, партызан у вёсках Гаравіца, Зарэчка, Сварынь і інш.; курганы памяці ў вёсках Брашэвічы, Перкавічы, магілы ахвяр фашызму ў вёсках Гаравіца, Гутава, Закозель, Першамайск, Усходы, Хомск і інш., помнікі партызанам у в. Зарэчка, ахвярам фашызму ў вёсках Галік, Сорацні. Археал. помнікі каля чыг. ст. Драгічын, у вёсках Белянок, Брашэвічы,







*Драгічынская раённая спартакіяда-2006.*

*Свята «Раённыя дажынкі-2005».*

Какорыца, Сіманавічы, Старамлыны і інш. Помнікі архітэктуры: цэрвы — Міхайлаўская (Восаўцы, 18 ст.), Троіцкая (Бездзеж, 18 ст.), Юр'еўская (Валавель, 18 ст.), Пакроўская (Субаты, 18 ст.); царква Раства Багародзіцы (Вавулічы, 18 ст.), Троіцкая (Зёлава, 19 ст.), Успенская (Ласніцы, 19 ст.), царква Багародзіцы (Ляхавічы, 19 ст.), Пакроўская (Папіна, 19 ст.), Ушэсця (Брашэвічы, пач. 20 ст.). Рэшткі замка Вішнявецкіх пач. 17 — 18 ст. ў в. Жабер; сядзібы 19 ст. ў вёсках Закозель, Перкавічы. Мемарыяльная калона ў в. Бездзеж у гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

Карысныя выкапні: 4 радовішчы торфу, 3 радовішчы цагельнай сыравіны, мелу (Бездзеж), будаўнічых пяскоў. Асн. лясныя масівы на Пд і У раёна. Глебы дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-балотныя, тарфяна-балотныя нізінныя.

**ДРАГІЧЫН** — горад, цэнтр Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл. За 110 км на У ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст — Гомель), на аўтадарозе Брэст—Пінск. 15,1 тыс. жыхароў (2005).

Бескурганны могільнік 4—2 вв. да н.э. за 2 км на ПнЗ ад чыг. станцыі сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Паводле У.Ф.Ісаенкі старажытнае паселішча эпохі Кіеўскай Русі ўзнікла ў 12 ст. ў 14 — 1-й пал. 15 ст. ў складзе Здзітаўскай вол. Кобрынскага княства ВКЛ, гаспадарская ўласнасць. Да сярэдзіны 17 ст. ўпамінаецца пад назвай Давячоравічы, вёска, сяло. Упершыню ўзгадваецца ў



*Паромная пераправа на Дняпроўска-Бугскім канале.*

1452 г. ў даравальнай грамаце вял. князя літ. Казіміра Ягайлавіча пінскаму намесніку, кн. Юрыю Нарымунтавічу, у вотчыну якому была перададзена частка Здзітаўскай вол., у т.л. сяло Давячоравічы. У 1-й пал. 16 ст. ў Кужалічынскім войтаўстве, у складзе Пінскага княства (староства), уласнасць каралевы Боны. З 16 ст. дзейнічалі праваслаўныя Ільінская, Мікалаеўская, Прачысценская і Прэсвятой Багародзіцы цэрквы, Праабражэнскі праваслаўны манастыр, да-




*Народны хор работнікаў культуры «Жывіца».*


*Уезд у г. Драгічын.*

кументы якога былі страчаны ў час ваенных дзеянняў 1657 г. ў Забугскай частцы знаходзілася Спаская царква. Пад 1542 г. упамінаецца царква Святой Тройцы, якая размяшчалася ў прадмесці Драгічына і ў 1563 г. па распараджэнні караля Жыгімонта II Аўгуста была надзелена зямлёй, а таксама дзесяцінай з прыбыткаў вёсак Хролавічы і Сіневіцы. З 1659 г. пры гэтай царкве быў жаночы манастыр. У 2-й пал. 16 ст. ў ходзе валочнай памеры «зямля гэтага сяла памерана і сахой паразганяна на валокі ў тры палі на марг(оў) 10... з якой чынш мае быць з 1556 года». З 1623 г. мястэчка ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, цэнтр Давячоравіцкай вол., уласнасць ваяводы ВКЛ Льва Сапегі. Ураднік яго Ян Уладзіслаў Нявельскі па даручэнні ваяводы заснаваў тут Багародзіцкую царкву. Давячоравіцкія жыхары ахвяравалі ёй дом і зямлю з агародамі. Цэнтрам мястэчка была плошча з гандл. радамі і адыходзячымі ад яе вуліцамі Пінскай, Хомскай, Пярковіцкай і інш. З 1655 г. ўпамінаецца пад афіц. назвай Драгічын (Дарагічын). У 1749 г. пінскім маршалкам Міхалам Ажэшкам тут засн. Францысканскі манастыр, пабудаваны касцёл (драўляны, пазней мураваны). Драгічын стаў цэнтрам рымска-каталіцкай парафіі (у 1781 налічвала 510 парафіян), скасаванай у 1838 г. З апошняй чвэрці 18 ст. цэнтр Драгічынскага графства. У інвентары 1778 г. названы горадам, меў ратушу, уласны герб. У графстве лічылася 256 сял. дамоў, 1422 жыхары, 49 яўр. гаспадарак. У горадзе з прадмесцямі было 86 сял. дамоў, 500 жыхароў, 43 яўр. гаспадаркі, 3 вуліцы. Мяркуецца, што ўсяго насельніцтва ў горадзе і прадмесцях было каля 785 чалавек, з іх хрысціян каля 540, яўрэяў каля 245; манастыр, царква, сінагога, касцёл, 12 бровараў, 5 корчмаў, лазня, уладанне А.Астроўскага.

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, мястэчка, цэнтр Драгічынскай вол. Кобрынскага пав. ў Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 1849 г. 98 дамоў, 167 жыхароў, паштовая станцыя (на тракце Кобрын—Пінск). У 1-й пал. 19 ст. маслабойня, 2 гарбарныя з-ды. У 1862 г. заснавана аднакласнае нар. вучылішча (з 1911 — двухкласнае). У 1863 г. падчас паўстання ў мястэчку дзейнічалі ваенна-паліцэйскае ўпраўленне і сялянскія караулы самааховы. У 1878 г. было 1476 жыхароў, у т.л. 1300 яўрэяў і 176 хрысціян. У 1882 г. праз Драгічын пракладзена чыг. лінія Пінск—Жабінка Палескіх чыгунак, што спрыяльна адбілася на росце

*Вуліца Леніна ў г. Драгічын.*









*Цэнтральная вуліца г. Драгічын.*

*Будынак Драгічынскага райвыканкома.*

мястэчка. У 1886 г. 1535 жыхароў, валасное праўленне, царква, школа, гандл. рады, 5 піцейных дамоў, кірмаш, аптэка, у прыгарадзе — вінзавод, ветраны і конны млыны. У 1897 г. было 280 дамоў (140 жылых), 2258 жыхароў, царк.-прыходская школа, 2 нар. вучылішчы, сельская лячэбніца. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў Драгічыне 2 маслабойні, завод па ачыстцы мелу, ф-ка саламяных капелюшоў, 7 мукамольняў (усяго 36 рабочых), паштова-тэлегр. аддзяленне, двухкласнае нар. вучылішча (108 вучняў у 1915, абслугоўвала 17 вёсак воласці, мела ўласную б-ку ў 1807 тамоў кніг). У 1915—18 гг. акупіраваны германскімі, у 1919 г. — польскімі войскамі. 25.7.1920 г. Чырвоная Армія вызваліла Драгічын, але ў хуткім часе ім зноў авалодалі палякі. З ліст. 1920 г. цэнтр Драгічынскага павета і гміны ў Палескім ваяв. Польшчы.

У 1921 г. ў мястэчку налічвалася 242 дамы, 1987 жыхароў, у т.л. 353 праваслаўных, дзейнічала павятовае праўленне, паштовае агенцтва, касцёл, гарадскі сад, чыг. станцыя на лініі Брэст—Мікашэвічы, праводзіўся штомесячны кірмаш. У 1935 г. каля 2,5 тыс. жыхароў, электрастанцыя, гміннае зернясховішча, павятовая бальніца, некалькі гасцініц, парафіяльны касцёл, чыг. прыпынак Драгічын—Палескі, да якога вялі 2 брукаваныя вуліцы. З 1924 г. дзейнічаў падп. райком КПЗБ, барацьбу з акупацыйнымі ўладамі вёў партыз. атрад на чале з сакратаром Брэсцкага акруговага к-та КПЗБ І.П.Тарасюком. У 1934 г. тут адбыўся суд над 29 членамі КПЗБ. З 4.12.1939 г. цэнтр воласці і павета Пінскай вобл. БССР, 414 дамоў, 3125 жыхароў. З 15.1.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр Драгічынскага р-на, 750 дамоў, 4202 жыхары, электрастанцыя, 4 млыны, маслазавод, 2 сталярныя, механічная, швейная, абутковая арцелі, МТС (засн. 15.1.1940), 7-гадовая школа, кінатэатр,



*Выгляд г. Драгічын з боку вадасховішча.*



*Будынак сярэдняй школы № 2 г. Драгічын.*



*Будынак гімназіі ў г. Драгічын.*



*Забудова г. Драгічын.*



*Чыгуначны вакзал у г. Драгічын.*

б-ка, бальніца, радзільны дом, амбулаторыя, ветпункт, пошта, тэлеграф, 9 магазінаў і крам, выдавалася газ. «Чырвоная зара». У Вял. Айч. вайну 25.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. адбываліся масавыя расстрэлы жыхароў горада. Вызвалены 17.7.1944 г. войскамі 212-й стралк. дывізіі 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе Люблін—Брэсцкай наступальнай аперацыі. Пасля вызвалення горада ў яго цэнтры і на ўскраінах былі выяўлены месцы пахаванняў больш за 4 тыс. мірных жыхароў, закатаваных фашыстамі і іх памагатымі ў гады акупацыі. Карныя акцыі праводзілі ням. гарнізон і паліцэйская ўправа ў Драгічыне. У баях за вызваленне горада загінулі 275 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкіх магілах у гарадскім скверы па вул. Леніна і на могілках). 62 жыхары загінулі на фронце.

У 1950 г. заснавана школа механізацыі сельскай гаспадаркі, з 1953 г. СПТВ-29. У 1959 г. было 3,5 тыс. жыхароў. З



*Святкаванне Дня горада ў Драгічыне 16.7. 2005.*



*Царква ў г. Драгічын.*







*Гарадскі фантан у Драгічыне.*

*Цэнтральная плошча. Драгічын.*





*Будынак Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва ў Драгічыне.*

*У цэху прадпрыемства «Фрост».*

10.11.1967 г. горад. У 1965 г. пачаў працаваць трактарарамонтны, у 1973 г. — камбікормавы з-ды. У 1971 г. 7,1 тыс. жыхароў. У 1970-я г. да Драгічына далучаны вёскі Зарэчка, Стараселле. Шашой Брэст—Мінск падзяляецца на паўн. і паўдн. часткі. У 1971 г. Брэсцкі філіял ін-та «Белдзяржпраект» распрацаваў першы генеральны план горада. У цэнтры горада ўзведзены мураваныя адм., гандлёвыя і шматпавярховыя жылыя дамы. Пераважная ж частка Драгічына занята індывідуальнай драўлянай аднапавярховай забудовай. Генпланам 1982 г. развіццё горада прадугледжана ў паўн.-зах. кірунку. У 1989 г. 13 тыс. жыхароў.

У Драгічыне прадпрыемствы машынабудавання (трактарарамонтны з-д), будаўнічых матэрыялаў, харчовай (камбікормавы з-д, сумеснае прадпрыемства «Фрост і К» — вытворца мінеральнай вады), фармацэўтычнай (рэсп. унітарныя прадпрыемствы «Экзон» і «Экзон-Глюкоза») галін прам-сці. Лясгас. Дзейніча-



*Народны калектыў «Купалінка» Драгічынскага раёна.*

юць аграрна-вытворчы прафесійны ліцэй, гімназія, 2 сярэднія школы, дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі, школа мастацтваў, 4 дзіцячых сада, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, сацыяльна-пед. цэнтр з дзіцячым сац. прытулкам, цэнтр пазашкольнай работы, Дом культуры, маладзёжны цэнтр, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца, паліклініка, 4 аптэкі, тэрытарыяльны цэнтр сац. абароны насельніцтва, 2 басейна, гасцініца, камбінат быт. абслугоўвання, пошта, тэлеграф. Музей партыз. славы імя Дз.К.Удовікава, 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, мемарыяльная дошка І.П.Тарасюку, помнік В.З.Харужай. Вядзецца мясцовае радыёвяшчанне, выдаецца раённая газета «Драгічынскі веснік». Радзіма ген.-маёра В.М.Лучыца, бел. мастакоў У.У.Кожуха і П.С. Мысліўца, засл. работніка культуры Беларусі Т.В.Здзітаўскай. У склад Драгічынскага с/с уваходзілі: да 1942 г. — в. Астрыўкі (спалена ням. карнікамі, не адрадзілася), да 1959 г. — в. Чарнопаль, да 1970-х г. — вёскі Зарэчка, Пікачы, Саха, Стараселле (не існуюць).



*Свята «Дажынкі-2004» у Драгічыне.*



*Конкурс прыгажосці ў Драгічынскім Доме культуры.*

**АГДЭМЕР** — вёска ў Гутаўскім с/с, у складзе СВК «Гутава». За 11 км ад Драгічына, 121 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Снітава (на лініі Брэст—Гомель). 123 гаспадаркі, 218 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1630 г. пад назвай И д е м е р, у 1770 — Г д е м е р. У 1857 г. ў Варацэвіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр Агдэмерскай сельскай грамады, 369 рэвізскіх душ, якія адносіліся да маёнткаў Агдэмер (Куроўскай), Астраўкі (Рудольфа Тарноўскага), Падвінчэ (Антона Дубянецкага), Гута (Івана Дубянецкага), Керэнувак (Антона Залеўскага), Гасуўка (Крэстнікавай), Агдэмер (Заблоцкага). У 1890 г. сельская грамада мела 687 дзес. зямлі, з іх 370 дзес. прыдатнай. Маёнткі Астраўкі, Агдэмер і ўрочышча Завадзічы, якія належалі А. Малькоўскаму, адпаведна 583 і 437 дзес. зямлі. Пры в. Агдэмер розным уласнікам належала яшчэ 128 дзес. прыдатнай і 85 дзес. непрыдатнай зямлі. У 1905 г. вёска, 573 жыхары, працавала пач. вучылішча. У 1921—39 гг. вёска ў Варацэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 79 двароў, 286 жыхароў, з іх 244 праваслаўных. З 4.12.1939 г. ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл. БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Драгічынскага раёна Пінскай вобл., 131 двор, 1007 жыхароў, пач. школа, торфазавод. У сельсавеце было 340 двароў, 2110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 34 землякі вёскі, 17 з іх не вярнуліся з фронту.

У 1949 г. створаны калгас імя Чкалава (старшыня М.М.Шпак). У 1954 г. Аг-



дэмерскі с/с ліквідаваны. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска ў складзе Гутаўскага с/с, 525 жыхароў; у 1970 г. 448 жыхароў; у 1995 г. 135 двароў, 254 жыхары. Размешчаны магазін, клуб.

**АДАМАВА** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 14 км на ПдУ ад Драгічына, км ад Брэста, 128 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 67 двароў, 139 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. ў 1858 г. вёска ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр сельскай грамады, 208 рэвізскіх душ, якія належалі часткова маёнтку Адамава (151 рэвізская душа) памешчыка Канстанціна Крашэўскага і маёнтку Пухавая (57 душ) памешчыцы Юліі Клімашэўскай. У 1890 г. грамада мела 256 дзес. угоддзяў, з іх 177 дзес. прыдатных; у маёнтку Адамава Вольгі Аліфер — 500 дзес. угоддзяў. У 1905 г. вёска, 280 жыхароў і маёнтак Адамава — 10 жыхароў. У 1921 — 39 гг. у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. вёска Адамава, 38 двароў, 132 жыхары, і фальварак Адамова — 4 жыхары. З 4.12.1939 г. ў Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. БССР, вёска, 335 жыхароў, пач. школа; калонія Адамава, 39 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Белінскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 19 землякоў вёскі, з іх 14 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1959 г. ў Асавецкім с/с Драгічынскага раёна. У 1960 г. вёска, 317 жыхароў, у 1970 г. 376 жыхароў; у 1995 г. 75 двароў, 182 жыхары. Размешчаны жывёлагадоўчая ферма, магазін, б-ка.

**АЛЯКСЕЕВІЧЫ** — вёска ў Немяржанскім с/с, цэнтр СВК «Аляксеевічы-Агра». За 19 км на ПнЗ ад Драгічына, 106 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 259 гаспадарак, 625 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1783 г. ў складзе Брашэвіцкай вол., частка жыхароў — «баяры». У 1858 г. вёска, у Імянінскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр сельскай грамады, 262 рэвізскія душы дзярж. сялян, раней падданых Тараканскага манастыра. У вёсцы праўленне Імянінскай вол. У 1886 г. вёска, 28 двароў, 377 жыхароў, валаснное праўленне Імянінскай вол., ветраны млын. У 1890 г. сельская грамада (вёскі Аляксеевічы, Барукі) мела 686 дзес. угоддзяў, з іх 283 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 580 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Імянінскай гміны Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. вёска, 38 двароў, 244 жыхары, з іх 235 праваслаўных. З 4.12. 1939 г. ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл. БССР, 96 двароў, 615 жыхароў, школа. З 15.1. 1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Драгічынскага раёна Пінскай, з 1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну загінулі 35 землякоў вёскі, з іх 32 на фронце. У 1960 г. вёска ў Немяржанскім с/с, 267 жыхароў. У 1969 г. 138 двароў, 456 жыхароў, цэнтр калгаса «30 гадоў БССР». У 1995 г. 254 двары, 658 жыхароў. Размешчаны базавая школа, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, лазня. Помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**АНТОПАЛЬ** — гарадскі пасёлак у Драгічынскім р-не, цэнтр Антопальскага пас. Савета. За 28 км на З ад Драгічына, 127 км ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Кобрын—Драгічын. 270 двароў, 2080 жыхароў (2005).



*Капліца ў в. Агдэмер.*



Забудова г.п. Антопаль.



Малітоўны дом у г.п. Антопаль.

У пісьмовых крыніцах на пач. 18 ст. згадваецца з двайной назвай: Прышыхаты і Антопаль — сяленне каля тракту з Кобрына ў Пінск. З 1703 г. мястэчка ў Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1731 г. мястэчку дадзены прывілей на правядзенне 3 штогадовых кірмашоў. У сярэдзіне 18 ст. ў мястэчку згадваюцца манастыр базыльянаў, сінагога. У 1773 г. тут існавала сярэдняя публічная школа (калегіум) з ухілам на вывучэнне рыторыкі.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губ. У 1858 г. цэнтр воласці Кобрынскага пав., была паштовая станцыя пры тракце з Кобрына ў Пінск. У 1860 г. 1563 жыхары, дзейнічалі гарбарныя прадпрыемствы, маслабойні, 4 медзеапрацоўчыя майстэрні. У 1854 г. пабудавана праваслаўная Васкрасенская царква, якая стала цэнтрам Антопальскага благачыння. У яго складзе было 11 прыходаў (16 204 прыхаджан); каталіцкая капліца Гарадзецкай парафіі, касцёл (пабудаваны ў 1838). У 1862 г. заснавана нар. вучылішча. Побач з мястэчкам быў маёнтак Антопаль, уласнасць графа Казіміра Ажароўскага, 228 рэвізскіх душ сялян. Падчас паўстання 1863—64 гг. у маёнтку Ажароўскага захоўваўся склад зброі для паўстанцаў, харчовая база. У крас. 1863 г. уладамі тут былі створаны і дзейнічалі ўзброеныя каравулы з адстаўных салдат і сялян. У 1882 г. пабудавана чыгунка Пінск—Жабінка, што спрыяла ажыўленню гандлю і гаспадарчага жыцця мястэчка. У 1886 г. ў мястэчку 22 двары, 363 жыхары-сяляне, 4305 мяшчан, валаснoe праўленне, 2 праваслаўныя царквы, капліца, сінагога (адна з найбольш старажытных у Беларусі), 5 яўр. малітоўных дамоў, школа, 42 крамы, 3 заезныя двары, 6 піцейных дамоў. У маёнтку дзейнічалі маслабойня, ветраны і конны млыны. Актывізавалася вінакурэнне. У абход закона аб акцызах мяшчане-яўрэі стваралі падпольныя вінакурныя з-ды. Паводле матэрыялаў суда (1885—88) гаспадары аднаго завода ў Антопалі пакараны штрафам у 2565 руб. 33 кап., выплацілі акцызу на 176 руб. 89 кап. На пач. 1890-х г. маёнтак і 8 яго фальваркаў належалі Брэвернам.

Царква ў г.п. Антопаль.



У 1897 г. тут 1262 дамы, 3867 жыхароў, нар. вучылішча, праведзена 10 кірмашоў (у 1881 толькі 2). На пач. 20 ст. ў мястэчку 5235 жыхароў, у маёнтку — 18. Працавалі паштова-тэлегр. аддзяленне,



царк.-прыходская, пач. школы. У 1910 г. адчынена лячэбніца на 10 ложкаў. У 1905 г. маёнтак Антопаль (памешчыцы Войтам) быў выкуплены Пазямельным сял. банкам, на яго землях праведзена шырокая меліярацыя (1908—12) і створаны 182 сял. хутары. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў Антопалі сукнавальня, смалакурня, 2 маслабойні, 6 мукамольняў. У 1915 г. акупіраваны германскімі, у 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 306 двароў, 2206 жыхароў, у т.л. 1792 яўрэі. У 1931 г. названы горадам, 2206 жыхароў, паштовае аддз., касцёл, праваслаўная царква, чыг. станцыя на лініі Брэст—Мікашэвічы, штотыднёвыя таргі. У гміне было 2073 двары, 11 006 жыхароў.

З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, у 1940—59 гг. цэнтр Антопальскага раёна Брэсцкай вобл. На тэрыторыі Антопальскага пас. Савета ў 1940 г. было 446 прыватных двароў, 3325 жыхароў, у т.л. рабочых — 86, сялян — 890, рамеснікаў — 216; 3 млыны, кафляны і газіраванай вады з-ды, электрастанцыя, 2 хлебапякарні. Працавалі транспартная, шавецкая і кравецкая арцелі; 2 няпоўныя сярэднія школы (893 вучні), дзіцячы сад, бальніца, аптэка, амбулаторыя, зубны кабінет, Дом культуры, б-ка, паштовае аддзяленне.

У Вял. Айч. вайну фашысты знішчылі ў раёне 4390 жыхароў, з іх 2,5 тыс. ў лагеры смерці. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1959 г. ў г.п.Антопаль 2260 жыхароў, у 1969 г. — 5900; у 1995 г. — 940 двароў, 2422 жыхары. У гар. пасёлку размешчаны ватнапрадзільная ф-ка, ільнонасенная станцыя, паліклініка, бальніца, зубапратэзная паліклініка, жаночая і дзіцячая кансультацыі, сярэдняя школа, дапаможная школа-інтэрнат, аптэка, аддз. сувязі, муз. школа, 2 б-кі, дом быту, Дом культуры, дзіцячы сад, аддз. Беларусбанка, лясніцтва, турбаза. Брацкая магіла чырвонаармейцаў і паўстанцаў; брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; магіла сав. актывістаў; Васкрасенская царква, касцёл, гандлёвыя рады (19 ст.).



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў г.п. Антопаль.*

**АРЛОВІЧЫ** — вёска ў Закозельскім с/с, у складзе дзяржаўнага унітарнага вытворчага прадпрыемства «Племзавод Закозельскі». За 13 км на З ад Драгічына, 142 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 48 гаспадарак, 113 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1628 і 1698 гг. У 1860-я г. вёска і маёнтак (Гарлавічы) у Пярковіцкай, потым Валавельскай валасцях Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У вёсцы 129 рэвізскіх душ, адносілася да маёнтка Гарлавічы, які належаў Феліксу Выславуху (206 рэвізскіх душ). Падчас паўстання 1863—64 гг. у маёнтку захоўваўся склад зброі для паўстанцаў. У 1905 г. ў в. Гарлавічы 205 жыхароў, у маёнтку 42 жыхары; у выселку Гарлавічы 14 жыхароў; была пач. школа. У 1921—39 гг. у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. Вёска і фальварак Орлавічы. У 1921 г. ў вёсцы было 14 двароў, 92 жыхары; у фальварку 2 два-

ры, 17 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл. БССР, у Валавельскай вол.: маёнтак Орлавічы — 3 двары, 12 жыхароў, вёска Орлавічы — 38 двароў, 170 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Літоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну 5 землякоў загінулі на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл.; у 1970 г. 153 жыхары, у 1995 г. 63 двары, 154 жыхары. Размешчаны крама, лазня.

**АСАЎЛЯНЫ** — вёска ў Вулькаўскім с/с, у складзе СВК «Лошна». За 12 км на ПнЗ ад Драгічына, 122 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. ў 1858 г. вёска ў Імянінскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 153 рэвізскія душы дзярж. сялян, раней падданых Тараканскага манастыра. У 1905 г. было 285 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Пльшчы, у Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 52 двары, 133 жыхары (праваслаўныя). З 4.12.1939 г. ў БССР, у Хомскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 57 двароў, 246 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну часткова спалена ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 8 землякоў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. было 163 жыхары, у 1970 г. — 162, у 1995 г. — 30 двароў, 56 жыхароў.

*Мемарыяльная калона канца 18 ст. ў в. Бездзеж.*



**АСІПАВІЧЫ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, цэнтр СВК «Асіпавічы». За 31 км на ПдЗ ад Драгічына, 136 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 186 гаспадарак, 489 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Упамінаюцца ў 1546 г. ў апісанні мяжы паміж ВКЛ і Каронай Польскай, сяло ў Кобрынскім пав., уласнасць «пана Андрэя доктара». У 1783 г. ў складзе Галоўчыцкага ключа, у Берасцейскім пав. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, у Антопальскай вол. Кобрынскага пав., цэнтр сельскай грамады, 399 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1886 г. 44 двары, 559 жыхароў, піцейны дом. У 1905 г. было 926 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1921 — 39 гг. у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Кобрынскім пав. Брэсцкай вобл., з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, з 1954 г. ў Галоўчыцкім с/с. У 1940 г. было 833 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 53 жыхары вёскі, 45 з іх на фронце. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1960 г. было 573, у 1970 г. 680 жыхароў, цэнтр калгаса імя К.Маркса. У 1995 г. 205 двароў, 525 жыхароў.

Размешчаны сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, магазін, лазня. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**БЕЗДЗЕЖ** — вёска, цэнтр Бездзежскага с/с і СВК «Бездзеж-Агра». За 20 км на ПнУ ад Драгічына, 137 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 479 гаспадарак, 1220 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 15 ст. як «воласць Бездзеж» у складзе Здзітаўскай вол., гаспадарская ўлас-





*Маладая ў вясельным касцюме і жанчыны ў святочных строях. Вёска Бездзеж. 1930-я г.*

насць. У 1409 г. вял. князь літ. Вітаўт перадаў Бездзежскую вол. касцёлу Маці Божай у Новых Троках. У 1495 г. Бездзеж згадваецца ў даравальнай грамаце Мінскай княгіні Мар'і Сямёнавай Александровічавай (удавы князя Сямёна Алелькавіча) і яе сына кн. Васіля Сямёнавіча Пінскага намесніку пінскаму Фурсу Іванавічу. У дакументах за 1517—18 гг. згадваецца маёнтак Бездзеж — уласнасць канонікаў касцёла ў Троках, яго межы і «добры», якімі раней валодалі тут уладары пінскія. У 1561—66 гг. Бездзеж атрымаў правы мястэчка. У 1622 г. згадваецца царква. Да 1744 г. была створана рымска-каталіцкая парафія, якая ў 1781 г. налічвала 510 парафіян. 8.9.1771 г. каля Бездзежа адбыўся цяжкі бой войск барскіх канфедэратаў на чале з вял. гетманам літ. М.К.Агінскім і атрадам рускіх войск на чале з ген. А.А.Албішавым, у якім апошні быў разбіты. У 1784 г. пабудавана Троіцкая царква. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, мястэчка ў Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1806 г. цэнтр Бездзежскага ключа, называўся горадам. У 1820 г. ўзведзены касцёл. У 1825 г. адчынена нар. вучылішча, якое знаходзілася ў распалажэнні Віленскага ун-та. У 1817 г. заснавана прыходскае вучылішча. Паводле рэвізіі 1857 г. цэнтр сельскай грамады, 785 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1886 г. — цэнтр воласці, мястэчка, 121 двор, 1116 жыхароў, 2 царквы, школа, пастаялы двор, 2 лаўкі. Цэнтр Бездзежскага благачыння, у якім у 1857 г. налічвалася 12 прыходаў, 16 488 праваслаўных прыхаджан. У 1905 г. сяло, 1360 жыхароў, працавала царк.-прыходская школа. У 1915—18 гг. акупіраваны германскімі, у 1919—20 гг. польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскім пав. Палескага ваяв.; цэнтр Бездзежскай гміны. У 1921 г. 254 двары, 1248 жыхароў, у т.л. 1113 праваслаўных. На пач. 1930-х г. працавалі паштовае агенцтва, прадпрыемства па здабычы і вырабе мелу, у гміне быў 2001 двор, 10881 жыхар. З 4.12.1939 г. цэнтр воласці ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл. БССР, 365 двароў, млын (6 рабочых), школа, кааператыў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 73 жыхары, з іх 56 не вярнуліся з фронту. У 1959 г. ў вёсцы 1638 жыхароў; у 1970 г. 479 двароў, 1780 жыхароў, цэнтр калгаса «Новы шлях». Працавалі атэлье райкамбіната быт. абслугоўвання, бальніца, аптэка, сярэдняя

*Царква ў в. Бездзеж.*








*Музей «Бездзежскі фартушок».*



*Экспазіцыя музея «Бездзежскі фартушок».*

школа. У 1995 г. 495 гаспадарак, 1142 жыхары.

Размешчаны сярэдняя школа, участковая ўрачэбная амбулаторыя, муз. школа, лазнева-пральны камбінат, 3 магазіны, кафэ, аддз. сувязі, аддз. Беларусбанка, Дом культуры, б-ка; касцёл, Троіцкая царква. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, на могілках мемарыяльная калона ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Радзіма доктара медыцынскіх навук, праф. У.П.Пратасевіча.

**БЕЛАЯ** — вёска ў Бездзежскім с/с, у складзе СВК «Белы-Груд». За 20 км на ПнУ ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 61 гаспадарка, 144 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст., у 1783 г. вёска ў складзе Бездзежскага ключа ў Берасцейскім ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай, з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав., адносілася да Мікіцкай сельскай грамады, 113 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 136 жыхароў. У 1921—39 гг. у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 42 двары, 223 жыхары. З 1925 г. дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. У 1930-я г. 42 двары, працавала пач. школа. З 4.12.1939 г. ў Бездзежскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. БССР, 48 двароў, 283 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Вавуліцкім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 19 жыхароў, 16 з іх не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Драгічынскім р-не. У 1960 г. 321 жыхар, у 1970 г. 298 жыхароў, у 1995 г. 65 двароў, 140 жыхароў.

**БЕЛІН** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 19 км на Пд ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на паўд. беразе Дняпроўска-Бугскага канала. 130 двароў, 365 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з канца 15 ст., у складзе маёнткаў пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай Александровічавай, у Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1522 г. згадваецца ў даравальным запісе князя пінскага Фёдара Іванавіча Яраславіча сабору св. Дзмітрыя ў Пінску (дань і плацяжы яму ад «болінцаў»). У 1555 г. ўпамінаецца ў грамаце каралевы Боны Мацею Вайцяховічу, сяло ў Пінскім старостве. З 1565 г. ў Пінскім пав. Брасцейскага ваяв. ВКЛ.

У 1811 г. 29 двароў, 83 жыхары мужчынскага полу, уладанне графа Хадкевіча. У 1826—50 гг. у маёнтку дзейнічала суконная ф-ка. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, у Асавецкай вол. Кобрынскага пав., цэнтр сельскай грамады, 218 рэвізскіх душ, падданых маёнтка Белін памешчыка Калікста Ажэшкі. У 1863 г. ўладамі створаны вясковы каравул самааховы супраць паўстанцаў. 6.5.1863 г. каля вёскі адбыўся бой атрада Р.Траўгута з атрадам царскіх войск. У 1890 г. вёска ў Белінкаўскай сельскай грамадзе,



489 дзес. угоддзяў, з іх 242 дзес. прыдатныя. У маёнтку Белін К.Ажэшкі — 3935 дзес. угоддзяў. У 1905 г. — 390, у маёнтку — 40 жыхароў. У 1921—39 гг. у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. вёска, 35 двароў, 251 жыхар; фальварак Белін — 27 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. БССР; вёска Белін, 90 двароў, 530 жыхароў; калонія Белін — 146 двароў, 640 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. да 2.6.1959 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну ў лютым—сак. 1944 г. каля вёскі вялі жорсткія баі з варожай групоўкай атрады партыз. брыгады імя Молатава Пінскага партыз. злучэння (камандзір брыгады М.І.Герасімаў). У вайну загінулі 23 жыхары вёскі, з іх 12 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1959 г. ў Асавецкім с/с. У 1953 г. адчынена сярэдняя школа. У 1960 г. 491 жыхар; у 1970 г. 158 двароў, 544 жыхары, цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». У 1995 г. 126 двароў, 374 жыхары. Размешчаны сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, магазін, 2 камерцыйныя крамы. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**БЕЛІНОК** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 20 км на Пд ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 71 гаспадарка, 140 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1-й пал. 16 ст. Упамінаецца ў 1546 г. ў апісанні межаў ВКЛ з Каронай Польскай пад назвай Белін 2-і. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав., цэнтр Белінкоўскай сельскай грамады, 118 рэвізскіх душ (з часткай сяла Асаўцы) дзярж. сялян. У 1890 г. сельская грамада мела 486 дзес. угоддзяў, з іх 210 дзес. прыдатных. У 1905 г. ў вёсцы 306 жыхароў, у казённай стражы Белінок — 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 57 двароў, 344 жыхары, з якіх 328 праваслаўных. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1940 г. ў Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. ў Белінскім с/с Драгічынскага раёна, вёска, 69 двароў, 325 жыхароў. У Вял. Айч. вайну спалена ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 11 землякоў, 8 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Асавецкім с/с. У 1960 г. 603 жыхары; у 1970 г. было 377 жыхароў; у 1995 г. 73 двары, 208 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін.

**БЕЛЯНОК** — вёска ў Вулькаўскім с/с, у складзе СВК «Лошна». За 9 км на ПнЗ ад Драгічына, 119 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 49 гаспадарак, 110 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Брашэвіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе Ласінскай сельскай грамады, 165 рэвізскіх душ дзярж. сялян, раней — падданых Тараканскага манастыра. У 1890 г. вёска мела 345 дзес. угоддзяў, з іх 163 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 365 жыхароў. У 1921—39 гг. у Брашэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. вёска, 44 двары, 188 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Брашэвіцкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., вёска, 73 двары, 312 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Вулькаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 жыхароў вёскі, з іх 3 не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, 272 жыхары, у 1970 г. 273 жыхары, у 1995 г. 67 двароў, 155 жыхароў. Размешчана малочнатаварная ферма. Каля вёскі курганны могільнік дрыгавічоў 9—13 ст.

**БОБКІ** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 38 км на ПнЗ ад Драгічына, 148 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).




У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Іласкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 6 двароў, 26 жыхароў. У 1930-я г. 10 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 49 жыхароў, у 1970 г. 38 жыхароў, у 1995 г. 7 двароў, 10 жыхароў.

**БРАДОК** — вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 21 км на ПнЗ ад Драгічына, 135 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 23 гаспадаркі, 43 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. ў 1858 г. вёска ў Імянінскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр сельскай грамады, 123 рэвізскія душы дзярж. сялян, якія з 2-й пал. 19 ст. з'яўляліся падданымі Тараканскага манастыра. У 1890 г. грамада мела 266 дзес. зямлі, з іх 134 дзес. прыдатнай. У 1905 г. 239 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 13 двароў, 63 жыхары. У 1939 г. 37 двароў, 185 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Імянінскім с/с Антопальскага раёна Брэсцкай вобл., 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 6 землякоў. У 1959 г. — 149, у 1970 г. 130 жыхароў, у 1995 г. 28 двароў, 53 жыхары.

**БРАШЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета і СВК «Брашэвічы». За 13 км на ПнЗ ад Драгічына, 123 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 377 гаспадарак, 995 жыхароў (2005).

Каля вёскі ёсць 2 курганы эпохі Кіеўскай Русі, якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1-й пал. 15 ст. як вёска ў Кобрынскай вол. Кобрынскага княства, уласнасць кн. Сямёна Раманавіча. Пасля 1435 г. ў складзе гаспадарскіх валасцей вял. князя літ. Жыгімонта Кейстутавіча ў 16—17 ст. ў складзе Бародзіцкай вол. Кобрынскага пав. ВКЛ. У 1554 г. ўладальнік воласці, каралеўскі падчашы Станіслаў Кезгайла за даўгі прадаў воласць епіскапу луцкаму і берасцейскаму Валяр'яну Пратасевічу за паўтары тысячы коп грошаў літоўскіх. У 1559 г. Пратасевіч запісаў гэту воласць і ў яе складзе фальварак Брашэвічы віленскаму капітулу. У 1558 г. было 16 дымоў, даходы ад сяла складалі 11 коп, 44 грошы літоўскія. У 17 ст. быў касцёл, зруйнаваны ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. У 1723 і 1747 гг. у пісьмовых крыніцах упамінаецца Брашэвіцкі ключ, у 1783 г. — царква, касцёл. У 1829 г. двор Брашэвічы з фальваркамі, 409 валок зямлі, 2507 падданых, чынш з якіх складаў 6575 сярэбраных рублёў. У 1838 г. 303 дымы, 2919 душ сялян, 362 валокі зямлі, бровар, вятрак.

У 1858 г. ў маёнтку 264 рэвізскія душы, цэнтр сельскай грамады і воласці ў Кобрынскім пав. У 1861 г. адчынена нар. вучылішча. У 1886 г. 32 двары, 346 жыхароў, царква, школа. У 1905 г. сяло і дзярж. маёнтак, 599 жыхароў; пач. школа. У пачатку 20 ст. ў цэнтры вёскі пабудавана мураваная Ушэсцеўская царква. У 1908 г. адкрыта бясплатная бібліятэка. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Драгічынскім пав., Палескага ваяв. У 1921 г. вёска і леснічоўка,



*Вальера для плямістага аленя ў Брашэвіцкім лясніцтве.*



41 двор, 677 жыхароў. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З канца 1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав., вёска, цэнтр воласці, 630 жыхароў, 112 двароў, 7-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, паравы млын, аддз. сувязі. З 12.10.1940 г. цэнтр Брашэвіцкага с/с. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. партызаны разграмілі створаны акупантамі ў вёсцы паліцэйскі ўчастак. 20 вяскоўцаў загубілі ням. карнікі, 28 аднавяскоўцаў не вярнуліся з фронту.

У 1949 г. створаны калгас імя Калініна (старшыня І.Д.Куксіч). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. — 356, у 1970 г. 1056 жыхароў, у 1995 г. 401 двор, 1072 жыхары. У 1963 г. далучана в. Шарыевічы, у 1992 г. — в. Плішчыцы. Размешчаны лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны пункт, 3 магазіны, аддз. сувязі, філіял Драгічынскай муз. школы, Дом культуры, б-ка, лазня; царква Ушэсця (пач. 20 ст.), курган Памяці землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**БУДЫ** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 35 км на ПнЗ ад Драгічына, 148 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 20 ст. У 1905 г. лясная стража ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав., 1 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, частка в. Палюшчын Ілоскай гміны. У 1930-я г. 16 двароў, працавала школа. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 жыхароў вёскі, з іх 4 на фронце. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 97 жыхароў. У 1970 г. 105 жыхароў, у 1995 г. 24 двары, 43 жыхары.

**ВАВУЛІЧЫ** — вёска ў Гутаўскім с/с, у складзе СВК «Гутава». За 17,5 км на ПнУ ад Драгічына, 126 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Снітава (на лініі Брэст—Гомель). 85 гаспадарак, 182 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. ў 1452 г. ўпамінаюцца ў даравальным запісе вял. князя літ. Казіміра Ягайлавіча. Пад 1507 г. пазначана ў даравальнай грамаце кн. Ф.І.Яраславіча і яго жонкі Алены баярыну Д.І.Арцішчэвічу. У 1577 г. згадваецца ў грамаце вял. князя літ. Жыгімонта І Старога, сяло ў Пінскім старостве. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1607 г. сяло ў Пінскім пав., уласнасць Яўстафія Валовіча. У 1631 г. згадваецца царква (перабудавана ў 1737 і 1845) З 1735 г. ў складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 19 — 1-й пал. 20 ст. вёска складалася з некалькіх частак: Зацэдкаўцы, Касьянаўцы, Лычкаўцы Бездзежскай вол., Куляшоўцы Драгічынскай вол. У 1858 г. ў Лычкаўцах 190 рэвізскіх душ дзярж. сялян, царква, нар. вучылішча, у Куляшоўцах 78 рэвізскіх душ дзярж. сялян, царква, нар. вучылішча; фальварак Вавулічы К.Ажэшкі, у складзе маёнтка Заказель. У 1886 г. ў сяле 30 двароў, 240 жыхароў, царква; у Куляшоўцах 12 двароў, 89 жыхароў. У 1905 г. с. Зацэркаўцы, 114 жыхароў; с. Вавулічы (Касьянаўцы), 156 жыхароў; маёнтак Вавулічы (Лычкаўцы), 24 жыхары; в. Куляшоўцы, 124 жыхары, была пач. школа. У 1921—39 гг. у складзе



*Царква ў в. Вавулічы.*

Польшчы, у Бездзежскай і Драгічынскай (Куляшоўцы) гмінах Драгічынскага пав. Палескага ваяводства. У 1921 г. ў в. Вавулічы 46 двароў, 248 жыхароў; у фальварку Вавулічы 13 жыхароў, у в. Куляшоўцы 18 двароў, 105 жыхароў. У 1930-я г. ў в. Вавулічы 46 двароў, у в. Лычкоўцы — 26 двароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Бездзежскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобласці. У в. Вавулічы 418 жыхароў, магазін; у в. Куляшоўцы 182 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вол., з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета, вёска і маёнтак, 84 двары, 435 жыхароў, працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1942 г. партызаны разграмілі створаны ў вёсцы ням.-фаш. акупантамі паліцэйскі ўчастак. Загінулі 27 жыхароў, з іх 20 не вярнуліся з фронту. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоная зара» (старшыня С.Карнейчык). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Тутаўскім с/с, 554 жыхары. У 1970 г. 460 жыхароў; у 1995 г. 104 двары, 237 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, магазін, базавая школа. Царква Раства Багародзіцы (1737).

**ВАЛАВЕЛЬ** — вёска ў Закозельскім с/с, у складзе дзяржаўнага унітарнага вытворчага прадпрыемства «Племзавод «Закозельскі». За 16 км на ПдЗ ад Драгічына, 142 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 234 гаспадаркі, 484 жыхары (2005).

*Царква ў в. Валавель.*



Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Да 1519 г. паселішча ў Кобрынскім княстве. Упамінаецца ў 1546 г. ў апісанні мяжы ВКЛ і Кароны Польскай, сяло ў Кобрынскім пав., уласнасць памешчыка Гаўрылы Мархоткі. У 1766 г. пабудавана Юр'еўская царква. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. сяло, цэнтр сельскай грамады і воласці ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Закозель Калікста Ажэшкі, 552 рэвізскія душы дзярж. сялян, царква. У 1868 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 сёлы Новы Валавель і Стары Валавель, 55 двароў, 683 жыхары, царк.-прыходская школа, піцейны дом. У 1890 г. сяло Стары Валавель, цэнтр сельскай грамады; в. Новы Валавель. Грамада мела 1065 жыхароў, с. Валавель — 997 жыхароў, фальварак Валавель — 63 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны ў Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 88 двароў, 574 жыхары; у фальварку 2 двары, 23 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, цэнтр воласці ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл.: сяло і калонія Валавель, 268 двароў, 1344 жыхары. Працавала малочная арцель, 7-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, паравы млын. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета, дзейнічаў калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну загінулі 38 землякоў, 28 з іх не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Літоўскім с/с. У 1960 вёска, 842 жыхары. У 1970 г. 1078 жыхароў, вёска ў Закозельскім с/с; у 1995 г. 258 двароў, 575 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, яслі-сад, амбулаторыя, лазнева-пральны камбінат, комплексны прыёмны пункт, магазін, лазня. Георгіеўская царква (дзеючая). Радзіма засл. артыста Беларусі У.А.Мішчанчука.



**ВІРЫ** — вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 21 км на ПнЗ ад Драгічына, 131 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 29 двароў, 67 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1762 г. ўрочышча на землях Тараканскага манастыра. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, у складзе Уліцкай сельскай грамады Імянінскай вол. Кобрынскага пав., 110 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 215 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР, 43 двары, 238 жыхароў, школа. З 12.10.1940 г. ў Першамайскім с/с Антопальскага раёна. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 землякоў, з іх 10 на фронце. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не, 227 жыхароў; у 1970 г. 185 жыхароў; у 1995 г. 42 двары, 82 жыхары. Працуе магазін.

**ВОСАЎЦЫ**, Асаўцы — вёска, цэнтр сельсавета і СВК «Асавецкі». За 14 км на ПнУ ад Драгічына, 124 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 280 двароў, 716 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1628 г., у 1674 г. згадваецца царква. У 1780 г. на ўсх. ускраіне вёскі пабудавана драўляная Міхайлаўская царква. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1831 г. ўпамінаецца маёнтак Асаўцы ў сувязі з рэквізіцыямі на Кобрыншчыне паўстанцаў атрада Пуслоўскага. У 1858 г. сяло, цэнтр сельскай грамады і валасці ў Кобрынскім пав. Адносілася да маёнтка Асаўцы памешчыка Валяр'яна Гутоўскага. У сяле 277 рэвізскіх душ, валаснoе праўленне, царква, нар. вучылішча. Сяло мела прыселкі: Якубаўцы — 77 рэвізскіх душ дзярж. сялян, Феліцыянава — 22 рэвізскія душы. У 1886 г. разам з вёскамі Феліцыянава і Якубоўцы мела 47 двароў, 547 жыхароў. У 1890 г. сяло Асаўцы мела 779 дзес. угоддзяў; маёнтак Асаўцы з урочышчам Старамец Мікалая Гутоўскага — 548 дзес. угоддзяў; частка маёнтка Асаўцы Антона Гутоўскага — 498 дзес. угоддзяў. У 1905 г. ў сяле было 566 жыхароў; у маёнтку Асаўцы — 18 жыхароў; працавала пач. вучылішча. У 1921—39 гг. у Польшчы, цэнтр гміны ў Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 56 двароў, 260 жыхароў, з якіх 228 праваслаўных. У 1935 г. да яе далучаны вёскі Феліцыянава, Якубаўцы. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска, цэнтр Асавецкай вол. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім раёне, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У 1939 г. вёска і калонія Асаўцы, 157 двароў, 755 жыхароў. Працавалі малочная арцель (3 рабочыя), паравы млын (2 рабочыя), школа, аддз. сувязі, створаны калгас «Ленінскі шлях». У Вял. Айч. вайну ў лютым—сак. 1944 г. партыз. злучэнні Пінскай і Брэсцкай абласцей вялі на тэр. сельсавета цяжкія баі з варожай групоўкай за Дняпроўска-Бугскі канал і гэтым забяспечылі поспех наступаючым войскам 70-й арміі. У вайну загінулі 52 землякі вёскі, 33 з іх не вярнуліся з фронту.

У 1949 г. аднавіў працу калгас «Ленінскі шлях» (старшыня П.С.Вашчэжык). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, 916 жыхароў; у 1970 г. 998



*Царква ў в. Восаўцы.*

жыхароў, цэнтр калгаса імя XX з'езда КПСС; у 1995 г. 272 двары, 697 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, сельскі Дом культуры, філіял Беларусбанка, машынны двор, 3 жывёлагадоўчыя фермы, магазін, 2 камерцыйныя крамы, б-ка, курган Памяці землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Міхайлаўская царква. Радзіма бел. пісьменніка М.М.Трафімчука.

**ВУЛЬКА** — вёска ў Антопальскім пас. Савеце, у складзе СВК «Асіпавічы». За 22 км на З ад Драгічына, 133 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 38 гаспадарак, 77 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1629 г. як Волька. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. 101 рэвізская душа дзярж. сялян, вёска ў складзе Заніўеўскай сельскай грамады Антопальскай вол., адносілася да маёнтка Антопаль Казіміра Ажароўскага, на пач. 1890-х гг. — Сафіі фон Брэверн. У 1905 г. ў вёсцы 263 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 14 двароў, 70 жыхароў (праваслаўных). У 1930-я г. — 34 двары. З 1939 г. ў БССР. У 1940—59 гг. у Першамайскім с/с Антопальскага раёна Брэсцкай вобл. У 1940 г. было 179 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 2 жыхары вёскі не вярнуліся з фронту. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не, потым Антопальскім пассавеце. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 160 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Антопальскім пассавеце, 189 жыхароў. У 1995 г. 59 двароў, 93 жыхары. Размешчаны магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ВУЛЬКА** — вёска, цэнтр Вулькаўскага с/с і СВК «Лошна». За 8 км на Пн ад Драгічына, 118 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 150 двароў, 390 жыхароў (2005).

Паводле археал. матэрыялаў паселішча вельмі старажытнае. Ва ўрочышчы Гара, што на Пд ад вёскі, ля вытоку рэчкі Ласінцы, была стаянка каменнага і бронзавага вякоў і селішча ранняга жал. веку (не захаваліся). Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 2-й пал. 17 ст. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, уласнасць падкаморыя Пінскага пав., каралеўскага ротмістра Яна Караля Дольскага, у складзе яго Хомскага маёнтка. Згадваецца ў 1663 г. ў сувязі з «наездам» і рабункамі маёнтка жаўнерамі харугвы мазырскага падкаморыя Абуховіча. У 1793 г. вёска ў складзе Хомскага графства (Вулька Сіманаўская), 62 дамы, 421 жыхар. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска Волька, цэнтр Волянскай сельскай грамады, у складзе маёнтка Хомск памешчыкаў Пуслоўскіх; у Хомскай вол. Кобрынскага пав., 293 рэвізскія душы. У 1890 г. вёска Вулька, сельская грамада мела 710 дзес. угоддзяў зямлі, з іх 237 дзес. прыдатнай. У 1905 г. было 693 жыхары. У 1-ю сусветную вайну спалена. У 1921 — 39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска Вулька, 50 двароў, 309 жыхароў (праваслаўных). З 1939 г. ў БССР, вёска ў Хомскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 170 двароў, 813 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Драгічынскім р-не. З 12.10. 1940 г. цэнтр Вулькаўскага с/с, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 32 землякі, 18 з іх не вярнуліся з фронту. У 1949 г. створаны калгас імя А.В.Суворава (старшыня В.Р.Крук). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 361 жыхар. У 1970 г. 520 жыхароў; у 1995 г. 172 двары, 419 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, фельч.-акушэрскі пункт, машынны двор, аддз. сувязі, сельскі клуб, б-ка, 2 магазіны, лазня.

**ВУЛЬКА** — вёска ў Брашэвіцкім с/с, у складзе СВК «Брашэвічы». За 12 км на З ад Драгічына, 126 км ад Брэста, 6 км



ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 21 гаспадарка, 33 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 1662 г. ўпамінаецца як сяло ў Брэсцкім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў маёнтку Гарловічы памешчыка Віславуха, цэнтр Вулькаўскай сельскай грамады ў Пярковіцкай вол., 97 рэвізскіх душ. У 1905 г. 191 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Брашэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 10 двароў, 51 жыхар. З 1939 г. ў БССР, вёска Драгічынскага пав. Пінскай вобл. У 1939 г. было 30 двароў, 158 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Брашэвіцкім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з фронту не вярнуліся 8 жыхароў вёскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 92 жыхары; у 1970 г. 140 жыхароў; у 1995 г. 24 двары, 560 жыхароў.

**ВУЛЬКА ПАПІНСКАЯ** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 13 км на Пд ад Драгічына, 122 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 123 двары, 286 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 19 ст. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ.; адносілася да маёнтка Папіна памешчыка Івана Жука, 297 рэвізскіх душ. У час паўстання 1863 г. ў вёсцы дзейнічаў атрад самаабароны з варожа настроеных да паўстанцаў сялян. У 1905 г. было 640 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 23 двары, 272 жыхары, у 1930-я г. 102 двары. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобласці. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Папіскім с/с, 137 двароў, 582 жыхары. У 1940 г. 120 двароў, 598 жыхароў, пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1944 г. ням.-фаш. захопнікамі спалена 116 двароў, загублена 5 жыхароў. З фронту не вярнуліся 7 землякоў. З 1954 г. вёска ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 482 жыхары; у 1970 г. 509 жыхароў; у 1995 г. 148 двароў, 307 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін.



*Прыдарожны крыж у в. Вулька-Радавецкая.*

**ВУЛЬКА РАДАВЕЦКАЯ** — вёска ў Закозельскім с/с, цэнтр СВК «Радавецкі». За 12 км на ПдЗ ад Драгічына, 108 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 121 гаспадарка, 364 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 1625 г. маёнтак і двор Рудковічы, с. Волька ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Ёжы Цярлецкага. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе Валавельскай сельскай грамады і воласці, у Кобрынскім пав. Адносілася да маёнтка Грудковічы памешчыка Платона Русецкага, 207 рэвізскіх душ. У 1890 г. Вулькаўская сельская грамада мела 475 дзес. угоддзяў, з іх 202 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 432 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 13 двароў, 72 жыхары (праваслаўныя). З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл.; вёска Вулька, 74 двары, 339 жыхароў. З 15.1. 1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Каралінскім с/с. У Вял. Айч.

вайну загінулі 25 землякоў вёскі, з іх 9 не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Папінскім с/с, 352 жыхары. У 1970 г. 111 двароў, 328 жыхароў, цэнтр калгаса імя Леніна, 8-гадовая школа, аддз. сувязі. У 1995 г. 110 двароў, 353 жыхары. Размешчаны базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, клуб, лазня.

**ВЯЛІКІ ЛЕС** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Зарэчка». За 23,5 км на ПдЗ ад Драгічына, 131 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 62 двары, 159 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Згадваецца ў 1546 г. ў апісанні паўд. мяжы ВКЛ з Каронай Польскай, урочышча Вялікі Лес на землях гаспадарчых с. Белін у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У 1905 г. фальварак і ўрочышча, 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1930-я г. вядомы пад назвай Ляхавічы-2. З 1939 г. ў БССР, калонія ў Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 93 двары, 495 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Папінскім с/с Драгічынскага раёна. У 1940 г. 58 двароў, 291 жыхар, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 г. спалена ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 30 жыхароў. У баях з ворагам загінулі 16 землякоў-воінаў і партызан. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. — 223, у 1970 г. 249 жыхароў; у 1995 г. 73 двары, 189 жыхароў, пач. школа. Размешчаны малочнатаварная ферма, Дом сацыяльных паслуг, магазін, лазня.

**ГАЛІК** — вёска ў Галоўчынскім с/с, у складзе СВК «Асіпавічы». За 24 км на ПдЗ ад Драгічына, 145 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 7 двароў, 9 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Валавельскай вол., у складзе Ямніцкай сельскай грамады, у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка Людзвінава памешчыка Калікста Ажэшкі, 26 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 52 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 10 двароў, 65 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл.; вёска ў Валавельскай вол., 15 двароў, 123 жыхары, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 123 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 19 двароў, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. спалена ням.-фаш. захопнікамі, былі расстраляны 22 жыхары. У 1960 г. вёска, 81 жыхар, у 1970 г. 66 жыхароў, у 1995 г. 7 двароў, 17 жыхароў. Помнік ахвярам фашызму на паўн. ускраіне вёскі каля Дняпроўска-Бугскага канала.

**ГАЛОЎЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр сельсавета і СВК «Прыазерскі». За 19 км на ПдЗ ад Драгічына, 138 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 250 гаспадарак, 519 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. Да пач. 15 ст. сяло ў Кобрынскім княстве, з 1519 г. ў Кобрынскім пав. Падляшскага, потым Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1546 г. згадваецца ў апісанні мяжы паміж ВКЛ і Каронай Польскай, сяло ў Кобрынскім пав., прыватная ўласнасць. У 1783 г. цэнтр Галоўчыцкага ключа ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. сяло ў Антопальскай вол. Кобрынскага пав., цэнтр сельскай грамады, 386 рэвізскіх душ дзярж. сялян, царква, вучылішча. У 1886 г. сяло, 79 двароў, 1007 жыхароў, царква, школа, піцейны дом. У 1905 г. было 1613 жыхароў, школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 97 двароў, 694 жыхары, з якіх 676 праваслаўных. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Кобрынскім пав. Брэсцкай вобл. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сель-



савета, вёска, 1431 жыхар. У Вял. Айч. вайну загінулі 77 землякоў, 64 з іх не вярнуліся з фронту. У 1948 г. арганізаваны калгас. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, цэнтр сельсавета, 1133 жыхары; у 1970 г. цэнтр калгаса імя Чкалава, 399 двароў, 1342 жыхары. У 1995 г. 321 двор, 718 жыхароў.

Размешчаны базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, філіял Беларусбанка, камбінат быт. абслугоўвання, комплексны прыёмны пункт, магазін, клуб, б-ка. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; помнік В.П. Чкалаву. Царква. Радзіма доктара фізіка-матэматычных навук А.С.Краўчука, бел. пісьменніка М.В.Панасюка.

**ГАРАВІЦА** — вёска ў Радастаўскім с/с, у складзе СВК «Радастаўскі». За 36 км на ПдЗ ад Драгічына, 146 км ад Брэста, 43 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 73 двары, 177 жыхароў (2005).

У 1921 г. вёска і хутар у Лёлікаўскай гміне Камень-Кашырскага пав., 18 двароў, 111 жыхароў. У 1930-я г. 18 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Радастаўскім с/с, 40 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў 1942 г. расстралялі 30 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 39 сав. воінаў і партызан, на франтах загінулі 9 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобл. У 1960 г. 478 жыхароў; у 1970 г. 422 жыхары; у 1995 г. 76 двароў, 228 жыхароў, пач. школа, участковая бальніца. Размешчаны Белаазерскае лясніцтва, механізаваная ўстаноўка водазабеспячальнай сістэмы, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; магіла ахвяр фашызму.

**ГАРЫЦЫ** — вёска ў Антопальскім пас. Савеце, у складзе СВК «Асіпавічы». За 24 км на З ад Драгічына, 131 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 78 гаспадарак, 161 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1890 г. фальварак Гарыца ў складзе маёнтка Антопаль Сафіі фон Брэверн. У 1905 г. ферма таго ж маёнтка, у Антопальскай вол. Кобрынскага пав. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 14 двароў, 70 жыхароў; у 1930-я г. — 34 двары. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Першамайскім с/с Антопальскага раёна, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з фронту не вярнуліся 6 жыхароў. У 1959 г. ў складзе Драгічынскага раёна, 301 жыхар. У 1970 г. 324 жыхары; у 1995 г. 94 двары, 191 жыхар. Размешчаны магазін, клуб, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ГНІЛЕЦ** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 17 км на Пн ад Драгічына, 127 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 67 гаспадарак, 124 жыхары (2005).

У 1905 г. фальварак у Хомскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 15 двароў, 91 жыхар. З 1939 г. ў БССР, у Хомскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 76 двароў, 434 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Хомскім с/с. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 10 землякоў, 5 з іх не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Дра-



*Царква ў в. Галоўчыцы.*





гічынскім р-не Брэсцкай вобл. У 1959 г. 236 жыхароў, у 1970 г. 415 жыхароў; у 1995 г. 78 двароў, 199 жыхароў. Да 2004 г. ў складзе калгаса імя Кірава. Працуе магазін.

**ГОШАВА** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 13 км на Пн ад Драгічына, 123 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 151 гаспадарка, 293 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1793 г. вёска ў складзе Хомскага графства ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв., 46 дамоў, 326 жыхароў. Побач з вёскай быў аднайменны фальварак. Сяляне мелі 11 валок, 24 моргі надзельнай зямлі, з якіх плацілі чыншу 279 злотых, 21 грош. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хомскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе Хомскага маёнтка Пуслоўскіх, 245 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. ў Імянінскай вол., у в. Гошава — 522, у фальварку — 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1940 г. ў Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска ў Хомскай гміне, 98 двароў, 604 жыхары, з якіх 598 праваслаўных, дзейнічала падпольная арг-цыя КПЗБ. З 1939 г. ў БССР, у Хомскай вол. Драгічынскага пав. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10. 1940 г. да 1959 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 174 двары, 942 жыхары, цагляны завод, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 53 землякі, з іх 34 не вярнуліся з фронту. У 1949 г. створаны калгас імя Варашылава (старшыня П.В.Валошка). З 1959 г. ў Хомскім с/с Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл., 446 жыхароў. У 1970 г. 748 жыхароў; у 1995 г. 175 двароў, 404 жыхары. Да 2004 г. ў калгасе імя Кірава. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін, клуб, аддз. сувязі. Магіла партызана П.Г.Сахашчыка.

**ГУБЕРНЯ** — вёска ў Антопальскім пас. Савеце, у складзе СВК «Асіпавічы». За 29 км на ПдЗ ад Драгічына, 128 км ад Брэста, 0,5 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 186 гаспадарак, 570 жыхароў (2005).

У 1905 г. фальварак маёнтка Антопаль, у Антопальскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 27 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., калонія, 17 двароў, 128 жыхароў. У 1930-я г. — 35 двароў. З 1939 г. ў БССР. У 1940—59 гг. у Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 1940 г. ў Першамайскім с/с, налічвалася 35 двароў. У Вял. Айч. вайну ад рук ням.-фаш. карнікаў загінулі 2 жыхары, 9 аднавяскоўцаў не вярнуліся з фронту. У 1948 г. арганізаваны калгас. З 1959 г. ў Першамайскім с/с Драгічынскага раёна, 174 жыхары. У 1970 г. вёска ў Антопальскім пас. Савеце, 279 жыхароў. У 1995 г. 169 двароў, 476 жыхароў. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ГУМНІШЧЫ** — вёска ў Брашэвіцкім с/с, у складзе СВК «Брашэвічы». За 16 км на ПнЗ ад Драгічына, 126 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 58 гаспадарак, 115 жыхароў (2005).

Паводле некаторых звестак, вёска існавала ўжо ў 16 ст. У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1783 г. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска Гумнічыцы, цэнтр сельскай грамады ў Брашэвіцкай вол. Кобрынскага пав. Знаходзілася ў складзе падушнага дзярж. маёнтка Брашэвічы, 171 рэвізская душа. У 1890 г. сельская грамада мела 376 дзес. зямлі, з іх 204 дзес. прыдатнай. У 1905 г. 495 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Брашэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 31 двор, 188 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, вёска ў Брашэвіцкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 326 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Брашэвіцкім с/с Драгічынскага раёна Пінскай, з 1959 г. Брэсцкай абласцей. У 1940 г. 62 двары, 326 жыхароў. Працава-



ла пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінуў 21 зямляк вёскі, з іх 15 не вярнуліся з фронту. У 1959 г. 386 жыхароў; у 1970 г. 346 жыхароў; у 1995 г. 72 двары, 143 жыхары. Працуе магазін.

**ГУТА** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Асавецкі». За 17 км на ПдУ ад Драгічына, 127 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 49 двароў, 101 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1798 г. фальварак. У 1858 г. вёска ў Варацэвіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Разам з часткай вёскі Крысцінава было 209 рэвізскіх душ дзярж. сялян, адносілася да маёнтка Гута памешчыцы Феліцыі Мацэевічавай. У 1890 г. ў Гуцкай 1-й сельскай грамадзе, разам з в. Крысцінава мела 324 дзес. угоддзяў, з іх 293 дзес. прыдатныя. У 1905 г. ў в. Гута 400 жыхароў; у маёнтку Гута — 19 жыхароў; у фальварку Гута-Маргі — 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў Варацэвіцкай гміне: в. Гута — 51 двор, 160 жыхароў; калонія Гута — 4 двары, 29 жыхароў; фальварак Гута — 3 двары, 10 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Асавецкім с/с, вёска і калонія Гута, 70 двароў, 360 жыхароў, працавала пач. школа, створаны калгас імя Молатава. У Вял. Айч. вайну загінулі 18 землякоў, 13 з іх на фронце. У 1959 г. 313 жыхароў; у 1970 г. 295 жыхароў; у 1995 г. 55 двароў, 102 жыхары. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін.

**ГУТАВА** — вёска, цэнтр Гутаўскага с/с і СВК «Гутава», філіяла Брэсцкай абласной базы «Белбакалея». За 14 км на У ад Драгічына, 124 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Снітава (на лініі Брэст—Гомель). 197 гаспадарак, 469 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. На пачатку 16 ст. сяло ў Пінскім княстве. Згадваецца ў 1502 г. ў даравальным запісе пінскага кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча і княгіні Алены сабору святога Дзмітрыя ў Пінску: «...гутаўляне з Пінскай зямлі...» павінны штогод даваць царкве 80 коп грошаў. У 16—18 ст. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У 1712 г. згадваецца царква. У 1858 г. сяло Гутава, у Варацэвіцкай вол. Кобрынскага пав., цэнтр сельскай грамады, 435 рэвізскіх душ дзярж. сялян, царква, нар. вучылішча. У 1886 г. 46 двароў, 513 жыхароў. У 1905 г. было 787 жыхароў, царква, прыходская школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Варацэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 74 двары, 332 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. ў Агдэмерскім с/с, вёска, 171 двор, 781 жыхар, пач. школа, спажывецкі кааператыў. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ням. акупанты расстралялі 45 вяскоўцаў, на фронце загінуў 21 чалавек. З 16.7.1954 г. цэнтр Гутаўскага с/с Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл. У 1960 г. было 802 жыхары; у 1970 г. 672 жыхары, цэнтр калгаса «Сцяг Леніна». У 1995 г. 196 двароў, 499 жыхароў.

Размешчаны сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, 2 магазіны, аддз. Беларусбанка, сельскі Дом культуры, б-ка. Магіла ахвяр фашызму, помнік партызанам. Радзіма бел. паэта М.М.Федзюковіча (1943), бел. пісьменніцы і перакладчыцы А.К.Кабаковіч-Тычына.

**ДЗЕРАЎНАЯ** — вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 24 км на ПнЗ ад Драгічына, 134 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Дзераўная—Брашэвічы. 150 гаспадарак, 302 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., вёска ў Берасцейскім пав. ВКЛ. Пад 1556 г. пазначана ў актах Слонімскага земскага суда. У канцы 18 ст. ў Кобрынскім пав. ВКЛ. У 1740 г. пабуда-

вана царква. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1858 г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав., у складзе маёнтка Дзераўная памешчыкаў Завадскіх. У сяле 407 рэвізскіх душ. У 1886 г. ў сяле 56 двароў, 577 жыхароў, праваслаўная царква, школа, піцейны дом. У 1890 г. сельская грамада мела 1046 дзес. угоддзяў, з іх 438 дзес. прыдатнай зямлі, царкоўнаму прычту належалі 62 дзес. угоддзяў. У складзе маёнткаў Міхала Завадскага Стары і Новы Двор згадваецца фальварак Дзераўная. У 1905 г. сяло Дзераўная, 974 жыхары; 2 маёнткі Дзераўная, 42 жыхары. У 1921—39 гг. у Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. У 1921 г. ў в. Дзераўная 59 двароў, 325 жыхароў, з якіх 321 праваслаўны; у фальварку — 6 двароў, 86 жыхароў. У 1930-я г. 176 двароў. З 1939 г. ў Кобрынскім пав. Брэсцкай вобл. З 15.1. 1940 г. ў Антопальскім р-не, з 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета: вёска — 777 жыхароў; калонія Дзераўная — 131 жыхар; маёнтак Дзераўная — 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 50 землякоў вёскі, з іх 39 на фронце. З 1954 г. ў Імянінскім с/с, з 1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1960 г. вёскі Дзераўная — 543, Новая Дзераўная — 93 жыхары. У 1970 г. вёска Дзераўная, 654 жыхары. У 1995 г. 177 двароў, 355 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, базавая школа, сельскі Дом культуры. Брацкая магіла воінаў і партызан, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма ген.-маёра Я.І.Лагадзюка.

**ДЗЕТКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета і СВК «Агра-Дзеткавічы». За 35 км на ПнЗ ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 225 гаспадарак, 546 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як сяленне Дзедкавічы ў Берасцейскім пав. Трокскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1714 г. згадваецца царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. сяло ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав., 380 рэвізскіх душ (сельская грамада Дзеткавіцкая-1 і Дзеткавіцкая-2). Маёнтак Дзеткавічы (Дзядкавічы) належаў Густаву Радавіцкаму. У 1886 г. сяло Дзятковічы, 52 двары, 534 жыхары, праваслаўная царква, піцейны дом. У 1905 г. ў сяле 912 жыхароў, царк.-прыходская школа; у маёнтку 39 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 103 двары, 514 жыхароў, з якіх 506 праваслаўных. У 1930-я г. 135 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 32 землякі, 29 з іх на фронце. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 675 жыхароў, у 1970 г. 211 двароў, 698 жыхароў, цэнтр калгаса імя Энгельса. У 1995 г. 252 двары, 563 жыхары. Размешчаны сярэдняя школа, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, аддз. Беларусбанка, магазін, сельскі Дом культуры, б-ка. Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Пакроўская царква (1740).



*Капліца на могілках у в. Дзеткавічы.*



**ДЗЯТЛАВІЧЫ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, у складзе СВК «Прыазерскі». За 23 км на ПдЗ ад Драгічына, 143 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Галоўчыцы—Літоўск. 41 гаспадарка, 111 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Валавельскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Закозель Калікста Ажэшкі, 112 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. грамада мела 271 дзес. угоддзяў, з іх 71 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 246 жыхароў, у фальварку — 8. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 20 двароў, 144 жыхары, з якіх 143 праваслаўныя. З 1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл. З 15.1. 1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Галоўчыцкім с/с, вёска, 273 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 жыхароў вёскі — воінаў і партызан. У 1947 г. арганізаваны калгас. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобл., вёска. У 1960 г. 288 жыхароў; у 1970 г. 312 жыхароў; у 1995 г. 59 двароў, 129 жыхароў. Размешчаны магазін.

**ДРОБАТЫ** — вёска ў Гутаўскім с/с, у складзе СВК «Гутава». За 16 км на ПнУ ад Драгічына, 123 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Снітава (на лініі Брэст—Гомель). 73 гаспадаркі, 136 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1783 г. вёска ў складзе Дробацкага ключа, у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе Крамноўскай сельскай грамады, 112 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. пас. Дробаты, розным землеўласнікам належалі 57 дзес. зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 148 жыхароў, у пас. Дробаты 46 жыхароў; на ферме Дробаты 17 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 51 двор, 29 жыхароў. У 1930-я г. 13 двароў, 52 жыхары. З 1939 г. ў БССР; з 12.10.1940 г. ў Вавуліцкім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл., 70 двароў, 377 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 26 землякоў, 14 з іх на фронце, у чэрв. 1944 г. ням.-фаш. службы спалілі 67 двароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Гутаўскім с/с. У 1960 г. 368 жыхароў; у 1970 г. 488 жыхароў; у 1995 г. 101 двор, 199 жыхароў. Размешчаны магазін.

**ДУБАВАЯ** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 41 км на ПнЗ ад Драгічына, 151 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 45 гаспадарак, 88 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. ў 1860-я г. ў складзе Палюшынскай сельскай грамады Іласкай вол. Кобрынскага пав., 101 рэвізская душа дзярж. сялян (разам з в. Палюшыны Лавы), у складзе маёнтка Палюшын памешчыка Радзевіча. У 1905 г. 79 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 3 двары, 10 жыхароў. У 1930-я г. 24 двары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 95 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 7 землякоў вёскі, 5 з іх на фронце.



*Царква ў в. Дзеткавічы.*

З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 194 жыхары. У 1970 г. 214 жыхароў; у 1995 г. 56 двароў, 109 жыхароў.

**ДУБАВОЕ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 5 км на Пд ад Драгічына, 115 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 22 гаспадаркі, 50 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 20 ст. У 1905 г. фальварак у Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., хутар, 147 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Старасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 жыхары, з якіх 1 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1965 г. ў Драгічынскім с/с. У 1960 г. хутар, 71 жыхар, у 1970 г. 85 жыхароў, у 1995 г. 21 двор, 48 жыхароў.

**ДУБРАЎКІ** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 15 км ад Драгічына, 125 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 37 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1858 г. вёска ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе Затоцкай сельскай грамады, 192 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1905 г. вёска, 350 жыхароў. У 1921 — 39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 76 двароў, 370 жыхароў (праваслаўных). У 1924 г. дзейнічала ячэйка КПЗБ (кіраўнік В.С.Страпка). З 1939 г. ў БССР, у Бездзежскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 102 двары, 502 жыхары, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заслаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну 11 землякоў вёскі не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Хомскім с/с Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл., 349 жыхароў. У 1970 г. 375 жыхароў; у 1995 г. 56 двароў, 123 жыхары. Да 2004 г. ў складзе калгаса імя Кірава. Размешчаны магазін, ферма па адкорме буйной рагатай жывёлы.

**ДУБРОВА** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 2 км на Пд ад Драгічына, 111 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 91 гаспадарка, 245 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1905 г. ўрочышча ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 48 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. калонія Дубрава, 7 двароў, 33 жыхары; засценак Дубрава — 7 двароў, 32 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. ў Старасельскім с/с. У 1939 г. калонія Дуброва, 119 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 13 землякоў, 8 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1965 г. ў Драгічынскім с/с. У 1960 г. вёска, 158 жыхароў; у 1970 г. 186 жыхароў; у 1995 г. 72 двары, 187 жыхароў.

**ДЫМСК** — вёска ў Брашэвіцкім с/с, у складзе СВК «Брашэвічы». За 15 км на ПнЗ ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 8,5 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. Да сярэдзіны 19 ст. ў Пярковіцкай, потым Брашэвіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў складзе Дымскага маёнтка памешчыка Русецкага, 27 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. маёнтак Дымск-Брашэвічы Сігізмунда Русецкага, 170 дзес. угоддзяў, з іх 123 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. ў в. Дымск-Брашэвічы 98 жыхароў; у маёнтку 18 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Брашэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 9 двароў, 83 жыхары, з якіх 81 праваслаўны. З 1939 г. ў БССР, у Брашэвіцкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 24



дворы, 130 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Брашэвіцкім с/с Драгічынскага раёна. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 землякоў, 4 з іх не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. было 67 жыхароў; у 1970 г. 38 жыхароў; у 1995 г. 7 двароў, 14 жыхароў.

**ЖАБЕР** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 22 км на Пн ад Драгічына, 122 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), каля р. Ясельда. 66 гаспадарак, 120 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 14 ст. У 14 — 1-й палове 15 ст. вёска ў складзе Здзітаўскай вол. ВКЛ, уласнасць вял. князя літоўскага, затым Непрашэвічаў-Валовічаў. Упамінаецца ў 1518 г. ў справе аб памежных спрэчках пінскага кн. Фёдара Іванавіча Яраслāвіча з трокскімі памешчыкамі. У канцы 16 — пач. 17 ст. тут быў замак князёў Вішнявецкіх, разбураны ў 1706 г. войскамі Карла XII. У 1793 г. згадваецца ў складзе Хомскага графства, была карчма, 4 млыны. Паводле інвентару за 1793 г. фальварак, 22 двары, 154 жыхары. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хомскай вол. Кобрынскага пав., адносілася да маёнтка Хомск Пуслоўскіх, 264 рэвізскія душы. У 1905 г. 374 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага павета. У 1921 г. 27 двароў, 176 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, вёска ў Хомскай вол. Драгічынскага павета, 96 двароў, 476 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Драгічынскага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 15 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска ў Хомскім с/с, 255 жыхароў; у 1970 г. 444 жыхары; у 1995 г. 90 двароў, 209 жыхароў. Да 2004 г. ў складзе калгаса імя Кірава. Размешчаны малочнатаварная ферма, Дом сацыяльных паслуг, магазін, б-ка.



*Праваслаўная царква ў в. Заверша.*

**ЗАВЕРША** — вёска ў Бездзежскім с/с, у складзе СВК «Белы Груд». За 20 км на ПнУ ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 150 гаспадарак, 392 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1518 г. згадваецца «востраў Заверша» сярод угоддзяў с. Бездзеж у сувязі са спрэчкай паміж князем пінскім Ф.І.Яраславічам і католікамі Трокскага касцёла Маці Божай. У 1783 г. вёска Заверша ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе Мікіцкай грамады Бездзежскай вол., 230 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. было 386 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 96 двароў, 471 жыхар. З 4.12.1939 г. ў БССР, Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Застаўскім с/с Драгічынскага раёна, 108 двароў, 615 жыхароў. Працавала няпоўная сярэдняя школа, цагельня, выраблялі куфры.


*Рэшткі сядзібы 19 ст. ў в. Закозель.*

У Вял. Айч. вайну загінулі 43 жыхары вёскі, з іх 24 не вярнуліся з фронту. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Бездзежскім с/с. У 1959 г. было 600 жыхароў; у 1970 г. 178 двароў, 661 жыхар, працавалі 8-гадовая школа, аддз. сувязі, праўленне калгаса імя Дзімітрава. У 1995 г. 165 двароў, 426 жыхароў. Размешчаны базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, магазін, Дом культуры, б-ка. Курган памяці ў гонар землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнік Г.М.Дзімітраву. Радзіма акадэміка Акадэміі навук Беларусі М.К. Юскаўца.

**ЗАВЯЛЁЎЕ** — вёска ў Брашэвіцкім с/с, у складзе СВК «Брашэвічы». За 9 км на ПнЗ ад Драгічына, 119 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 160 гаспадарак, 410 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1783 г. згадваецца ў складзе Брашэвіцкай вол., уласнасць каталіцкай царквы, адносілася да Брашэвіцкай рымска-каталіцкай парафіі. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Брашэвіцкай вол., у складзе маёнтка Брашэвічы, 315 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 675 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Брашэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г., 57 двароў, 297 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, вёска ў Брашэвіцкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 141 двор, 833 жыхары, працавала школа. З 12.10.1940 г. ў Брашэвіцкім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну загінуў 21 зямляк, з іх 17 не вярнуліся з фронту. У 1949 г. створаны калгас. У 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска, 410 жыхароў; у 1970 г. 644 жыхары; у 1995 г. 185 двароў, 502 жыхары, была пач. школа. Да 2004 г. ў складзе калгаса імя Калініна. Размешчаны магазін, клуб, б-ка.

*Капліца-пахавальня ў в. Закозель.*



**ЗАКЛЯЦЕННЕ** — вёска ў Бездзежскім с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 18 км на ПнУ ад Драгічына, 128 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 94 гаспадаркі, 206 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 2-й палове 16 ст. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1783 г. вёска ў складзе Бездзежскага маёнтка (ключа). З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав., у складзе Застаўскай сельскай грамады, 201 рэвізская душа дзярж. сялян. У 1905 г. было 406 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 79 двароў, 355 жыхароў, з якіх 290 праваслаўных. З 4.12. 1939 г. ў БССР, у вёсцы было 495 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Застаўскім с/с







*Аграгарадок «Закозельскі».*

*У в. Закозель.*

Драгічынскага раёна Пінскай вобл. Працаваў цагляны з-д. У Вял. Айч. вайну загінулі 32 жыхары, з іх 22 не вярнуліся з фронту. У 1949 г. створаны калгас «Бальшавік» (старшыня П.П.Мартыновіч.) З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Бездзежскім с/с. У 1959 г. — 442, у 1970 г. 492 жыхары, у складзе калгаса «Новы шлях». У 1995 г. 110 двароў, 269 жыхароў. Працавала пач. школа. Брацкая магіла партызан, якія загінулі ў баі з ням.-фаш. захопнікамі ў 1944 г.

**ЗАКОЗЕЛЬ** — вёска, цэнтр Закозельскага с/с і дзяржаўнага унітарнага вытворчага прадпрыемства «Племзавод Закозельскі». За 13 км на ПдЗ ад Драгічына, 123 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Нагор'е (на лініі Брэст—Гомель). 280 гаспадарак, 744 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. маёнтак Заказелле ў Валавельскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., уласнасць К.Ажэшкі. У 1886 г. хутар Закозель, вінзавод, ветраны млын. У 1890 г. ў маёнтку К.Ажэшкі налічвалася 8081 дзес. угоддзяў, у яго складзе было 6 фальваркаў. У 1905 г. маёнтак, 180 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. фальварак Закозелы, 14 двароў, 423 жыхары, з якіх 132 праваслаўныя. У 1930-я г. 10 двароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Валавельскім с/с, 10 двароў, 55 жыхароў, вінзавод (6 рабочых), паравы млын (12 рабочых). У Вял. Айч. вайну тут знаходзіўся ням. гарнізон, разгромлены партызанамі ў 1942 і 1943 гг. У вайну загінулі 11 воінаў і партызан-ураджэнцаў вёскі. У 1945 г. аднавіў працу спіртзавод. З 1954 г. ў Літоўскім с/с Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл., пасёлак. У 1960 г. 243 жыхары; у 1970 г. 461 жыхар, цэнтр саўгаса «Закозельскі». З 21.12.1970 г. цэнтр Закозельскага с/с. У 1979 г. далучана в. Гурка. У 1995 г. 310 двароў, 732 жыхары. Размешчаны аддз. сувязі, аддз. Беларусбанка, клуб, б-ка, 2 магазіны, 2 камерцыйныя крамы. Магіла ахвяр фашызму, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, мемарыяльная дошка партызанам атрадаў імя А.В.Суворава і М.Ц.Шыша Пінскага партыз. злучэння, якія ў 1942 — 43 гг. тройчы знішчалі тут фаш. гарнізоны. Сядзіба Э.Ажэшкі (19 ст.).

**ЗАЛАЎЕ** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Зарэчча». За 12 км на Пд ад Драгічына, 122 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель).

У 1930-я г. ў Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. З 1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., 3 двары. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. хутар у Драгічынскім р-не, у Папінскім с/с, 113 жыхароў; у 1970 г. 54 жыхары; у 1995 г. 3 двары, 3 жыхары.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы».

За 36 км на ПнЗ ад Драгічына, 146 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 42 гаспадаркі, 64 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. ў 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Траццякі памешчыка Асухоўскага, 142 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. грамада мела 352 дзес. угоддзяў, з іх 113 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 292 жыхары. У 1921 — 39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. У 1921 г. 30 двароў, 175 жыхароў, з якіх 174 праваслаўныя. У 1930-я г. 41 двор. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 13 землякоў вёскі, з якіх 12 на фронце. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім раёне. У 1960 г. 243, у 1970 г. 196 жыхароў; у 1995 г. 47 двароў, 87 жыхароў.

**ЗАЛУЖЖА** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Ліпніцкі». За 6 км на Пн ад Драгічына, 116 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 197 двароў, 320 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., у 1554 г. згадваецца ўрочышча ў Барадзіцкай воласці. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губ. У 1858 г. ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав.: маёнтак Залужжа Рэгіны Рушчыц; в. Залужжа ў маёнтку Саха Людвіга Выславуха — 64 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. вёска ў Равінскай сельскай грамадзе Драгічынскай вол.; частка маёнтка Равіны-Залужжа памешчыцы Рушчыц. У 1905 г. вёска Залужжа — 119 жыхароў; маёнтак Залужжа — 20 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 23 двары, 147 жыхароў; фальварак — 7 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, вёска, 35 двароў, 249 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 19 землякоў вёскі, 18 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1965 г. ў Драгічынскім с/с. У 1960 г. 184 жыхары; у 1970 г. 188 жыхароў, в. Залужжа злілася з в. Саха. У 1995 г. 129 двароў, 351 жыхар, 8-гадовая школа. Размешчаны базавая школа, б-ка, магазін.

**ЗАНІЎЕ** — вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 25 км на ПнЗ ад Драгічына, 135 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), 2 км ад аўтадарогі Драгічын—Кобрын. 65 гаспадарак, 106 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. ў 1774 г. згадваецца пад назвамі Заніўе і Стары Зёлаў, вёска ў Берасцейскім пав. ВКЛ, з 1791 г. ў Кобрынскім пав. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Антопальскай вол., у складзе маёнтка Антопаль графа Казіміра Ажароўскага, 228 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 354 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 43 двары, 203 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Кобрынскім пав. Брэсцкай вобл. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не, з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Заніўеўскага с/с. У 1940 г. 512 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 25 землякоў, 17 з іх не вярнуліся з фронту. У 1948 г. арганізаваны калгас. У 1959 г. хутар Заніўе ў Імянінскім с/с Драгічынскага раёна. У 1960 г. 347 жыхароў. У 1970 г. 325 жыхароў; у 1995 г. 85 двароў, 161 жыхар. Размешчаны малочнатаварная ферма, Дом сацыяльных паслуг, клуб, б-ка, магазін.

**ЗАПЛЕССЕ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Ліпніцкі». За 7 км на У ад Драгічына, 117 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі



Брэст—Гомель). 107 двароў, 237 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1630 г. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ.: в. Заплессе, 70 рэвізскіх душ — у складзе маёнтка Балкуны памешчыка Севярына Ляжэнскага (115 душ). У 1890 г. вёска, цэнтр Заплескай сельскай грамады Драгічынскай вол. Грамада мела 531 дзес. угоддзяў, з іх 340 дзес. прыдатных. У 1905 г. 357 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 24 двары, 182 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав., з 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с. У 1939 г. вёска, 85 двароў, 452 жыхары, пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну каля вёскі савецкія воіны 25.6.1941 г. вялі цяжкія баі з ням.-фаш. захопнікамі, стрымліваючы іх рух на Пінск. У гады вайны загінулі 8 землякоў вёскі, з іх 4 не вярнуліся з фронту. З 1960 г. ў Старасельскім, з 1965 г. ў Драгічынскім с/с Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, 431 жыхар; у 1970 г. 397 жыхароў; у 1995 г. 111 двароў, 269 жыхароў, пач. школа. Размешчаны магазін. Помнік сав. воінам, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў.

**ЗАРЭЧКА** — вёска ў Папінскім с/с, цэнтральная сядзіба СВК «Зарэчка». За 16 км на Пд ад Драгічына, 122 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 258 двароў, 758 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1778 г. ўваходзіла ў склад Драгічынскага графства. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. сяло ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Ляхавічы памешчыка Георгія Шэмета, 321 рэвізская душа дзярж. сялян. У 1886 г. вёска, 40 двароў, 547 жыхароў, піцейны дом. У 1905 г. вёска, 764 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 175 двароў, 867 жыхароў, з якіх 842 праваслаўныя. З 1939 г. ў БССР, 224 двары, 900 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Папінскім с/с Драгічынскага раёна Пінскай, з 1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну ў лютым—сак. 1944 г. партызаны брыгады імя Молатава Пінскага партыз. злучэння вялі ў раёне вёскі цяжкія баі з варожай групоўкай, якая імкнулся авалодаць Дняпроўска-Бугскім каналам і затрымаць наступленне войск 70-й арміі 2-га Бел. фронту. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 29 землякоў. У 1959 г. вёска і хутар, 1268 жыхароў; у 1970 г. вёска, цэнтр калгаса «Дружба», 1159 жыхароў; у 1995 г. 290 двароў, 916 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, малочнатаварная ферма, машынны двор, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, магазін, 2 прыватныя крамы, клуб, лазня. Помнік партызанам і брацкая магіла партызан, загінуўшых у барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў.

**ЗАСТАЎ'Е** — вёска ў Бездзежскім с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 19 км на ПнУ ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Драгічын (на лі-

*Краявід каля в. Зарэчка.*



ніі Брэст—Гомель). 126 гаспадарак, 283 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1518 г. ўпамінаецца як «поле Застаў'е» сярод угоддзяў с. Бездзеж пры разглядзе скаргі пінскага кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча на канонікаў трокскага касцёла. У 1783 г. вёска Бездзежскага ключа ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр Заслаўскай сельскай грамады Бездзежскай вол., 303 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1873 г. заснаваны цагельны з-д (3 рабочыя). У 1890 г. сельская грамада мела 648 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 598 жыхароў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 122 двары, 563 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Застаўскага с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У 1940 г. 830 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 35 жыхароў, з іх 25 не вярнуліся з фронту. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Бездзежскім с/с. У 1959 г. 651 жыхар; у 1970 г. 628 жыхароў, вёска ўваходзіла ў склад калгаса «Новы шлях», працавала 8-гадовая школа. У 1995 г. 138 гаспадарак, 341 жыхар. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін, б-ка.



*Капліца ў в. Застаўе.*

**ЗАТОЧЧА** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 19 км на ПнУ ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 104 гаспадаркі, 193 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1518 г. згадваецца ў справе аб памежнай спрэчцы пінскага кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча з трокскімі канонікамі як «востраў Падточча». У 1785 г. ў складзе Бездзежскага ключа Заточча Вялікае і Заточча Малое. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 263 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. сяляне мелі 574 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 626 жыхароў, у т.л. ў Заточчы Вялікім — 389, у Заточчы Малым 237 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 90 двароў, 453 жыхары (праваслаўныя). З 1939 г. ў складзе БССР, у Хомскай вол. Драгічынскага пав., 659 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. вёска ў Хомскім с/с. З 1954 г. ў Брэсцкай вобласці. У 1939 г. 145 двароў, 659 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска спалена ням.-фаш. захопнікамі. У баях з ворагам загінулі 27 жыхароў, з іх 26 не вярнуліся з фронту. У 1959 г. было 323 жыхары; у 1970 г. 590 жыхароў; у 1995 г. 12 двароў, 290 жыхароў. Да 2004 г. вёска ў складзе калгаса імя Кірава. Размешчаны магазін.

**ЗАЯЛЕННЕ** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 19 км на Пн ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 40 гаспадарак, 71 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1793 г. ў складзе Хомскага графства ў Кобрынскім пав. Берасцейскага



ваяв., 22 двары, 137 жыхароў. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хомскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе Хомскага маёнтка Пуслоўскіх, 151 рэвізская душа дзярж. сялян. Сяляне грамады мелі ў 1890 г. 194 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 346 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 27 двароў, 123 жыхары (праваслаўныя). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Жаберскім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл., 61 двор, 320 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 7 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Хомскім с/с Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл. У 1959 г. 67 жыхароў; у 1970 г. 210 жыхароў; у 1995 г. 54 двары, 136 жыхароў. Да 2004 г. вёска ў складзе калгаса імя Кірава.

**ЗЁЛАВА** — вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 28 км на ПнЗ ад Драгічына, 138 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 72 двары, 156 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Згадваецца ў 1583 г. ў судовай справе, уласнасць Кендзяроўскага, маёнтак у Берасцейскім пав. ВКЛ. На пачатку 18 ст. ўпамінаецца Зелаўскае староства, у 1789 г. Зелаўскі ключ, у 1790 г. была царква. З 1795 г. ў Рас. імперыі, Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. сяло Зёлава, цэнтр воласці і сельскай грамады ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., 173 рэвізскія душы дзярж. сялян, царква; маёнтак Зёлава памешчыцы Марыі Туткевіч, 711 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1862 г. створана нар. вучылішча. У 1886 г. ў сяле 21 двор, 292 жыхары, піцейны дом, хутар Зелава, 2 ветраныя млыны, вінны склад. У 1890 г. сялянская грамада с. Зёлава мела 419 дзес. угоддзяў, царкоўнаму прычту належала 56 дзес. зямлі. Маёнтак Зёлава памешчыцы Марыі Далгарукавай налічваў 1805 дзес. угоддзяў, быў вінзавод. У 1905 г. ў сяле — 454, у маёнтку 96 жыхароў. Працавалі царк.-прыходская і пач. школы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Кобрынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 53 двары, 254 жыхары, з якіх 198 праваслаўных. З 1939 г. ў БССР, у Кобрынскім пав. Брэсцкай вобл., цэнтр воласці, 108 двароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Заніўеўскім с/с, 475 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 17 землякоў вёскі, з іх 12 на фронце. У 1948 г. арганізаваны калгас. З 1954 г. вёска ў Імянінскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1959 г. 354 жыхары; у 1970 г. 919 жыхароў; у 1995 г. 89 двароў, 20 жыхароў. Размешчана малочнатаварная ферма, магазін, клуб, б-ка, Троіцкая царква (1842).

**ІМЯНІН** — вёска, цэнтр сельсавета і СВК «Імянінскі». За 23 км на ПнЗ ад Драгічына, 128 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 277 двароў, 667 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., паселішча Таракань у Бародзіцкай вол. Трокскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Кезгайлаў. У 1517 г. згадваецца маёнтак Таракань, уласнасць Агапіі Пясачынскай, якая сваім запісам падаравала маёнтак «шаноўнаму айцу Іосіфу Солтану, Мітрапаліту кіеўскаму» з умовай, што тут будуць пабудаваны Троіцкая царква і манастыр. У 1554 г. згадваецца в. Таракань у складзе Бародзіцкай вол., уласнасць падчашага Станіслава Кезгайлы, у акце продажу ім воласці за даўгі князю луцкаму і берасцейскаму епіскапу Валяр'яну Пратасевічу. У 1559 г. ўпамінаецца ў рэестры каралеўскіх пушчаў. У 1558 г. сяло Таракань, 26 дамоў, даходы з яго складалі 19 коп, 34 грошы літоўскія, уласнасць Віленскага капітула. У 17 — 1-й пал. 19 ст. ў Тараканскім манастыры знаходзілася сядзіба — рэзідэнцыя протаархімандрыта каталіцкага ордэна



*Малады сад у СВК «Імянінскі».*

базыльян. Манастыр меў буйныя зямельныя ўладанні і хутка ператварыўся ва ўплывовы цэнтр уніяцтва і барацьбы з праваслаўем на тэр. Беларусі. На рубяжы 16—17 ст. пры манастыры заснавана школа, у апошняй трэці 18 ст. — бібліятэка. У першай чвэрці 18 ст. Таракань згадваецца як цэнтр Тараканскага ключа (1723). У 1780 г. пабудавана Богаяўленская царква «...иждивением пинского и туровского униатского епископа Гедеона Дашкевича». З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. Да 1839 г. манастыр належаў уніятам і меў маёнткі Таракань, Чыкін, Лысінцы, у якіх было 250 двароў, 1911 душ сялян, каля 275 валок зямлі (5376 дзес.). Да 1841 г. ўз'яднаны з праваслаўнай царквой, маёнткі паступілі ў казну. У 1846 г. адчынена царк. вучылішча. У 1858 г. вёска Імяніны, цэнтр воласці і сельскай грамады ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., 298 рэвізскіх душ дзярж. сялян, царква. У 1890 г. сельская грамада мела 86 дзес. угоддзяў, з іх 450 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. вёска Імянін, цэнтр Імянінскай вол., 805 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 71 двор, 325 жыхароў, з якіх 303 праваслаўныя; асада Тараканы, 6 жыхароў. У 1920—30-я г. існавала сельскагаспадарчая школа. З 4.12.1939 г. ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл. БССР, вёска ў Брашэвіцкай вол., 132 двары, 663 жыхары, няпоўная сярэдняя школа. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Заніўеўскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 57 землякоў вёскі, з іх 45 на фронце. У 1948 г. арганізаваны калгас. З 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета, з 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1959 г. далучана в. Уліца. У 1960 г. вёска, 933 жыхары. У 1970 г. цэнтр калгаса «Радзіма», 919 жыхароў; у 1995 г. 315 двароў, 776 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, сярэдняя школа, філіял Антопальскай муз. школы, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, сельскі Дом культуры, машынны двор, 5 магазінаў. Брацкія магілы партызан, сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у 1944 г., магілы І.П.Тарасюка і У.І.Давідовіча — удзельнікаў нацыянальна-вызв. руху ў Заходняй Беларусі. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**КАКОРЫЦА** — вёска ў Бездзежскім с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 26 км на ПнУ ад Драгічына, 136 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 102 гаспадаркі, 184 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц Какорыца вядома з 16 ст. Пад 1558 г. пазначана ў пацвярджальнай грамаце Жыгімонта І Старога Марціну Шырме на валоданне дварышчам Какорчынскім. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 165 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 386 жыхароў, у т.л. вёскі Какорыца Вялікая — 218 жыхароў, Какорыца Малая — 108, Какорыца-Герод — 60 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 71 двор, 446 жыхароў, з якіх 443 праваслаўныя. З 4.12.1939 г. ў Драгічынскім пав. БССР, вёска ў Бездзежскай вол., 89 двароў, 553 жыхары, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бездзежскім с/с.



У Вял. Айч. вайну загінуў 21 зямляк вёскі, 19 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобласці. У 1970 г. 701 жыхар; у 1995 г. 127 двароў, 300 жыхароў. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**КАРАЛІН** — вёска ў Закозельскім с/с, у складзе СВК «Радавецкі». За 15 км на ПдЗ ад Драгічына, 125 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 39 двароў, 94 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Валавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 130 рэвізскіх душ дзярж. сялян, адносілася да маёнтка Грудкавічы памешчыка Платона Русецкага, цэнтр сельскай грамады, якая ў 1890 г. мела 306 дзес. угоддзяў. У 1905 г. вёска, 27 жыхароў; выселак Каралін — 18 жыхароў, у вёсцы адбылося выступленне сялян супраць памешчыка. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 24 двары, 177 жыхароў. У 1930-я г. 47 двароў. З 1925 г. дзейнічала падпольная ячэйка КПЗБ (старшыня А.Б.Ігнацкі). З 4.12.1939 г. ў БССР, у Валавельскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., вёска, 280 жыхароў, магазін. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 56 двароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну вёска спалена ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 17 вяскоўцаў, з іх 15 на фронце. З 1954 г. ў Папінскім с/с Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл. У 1960 г. 265 жыхароў; у 1970 г. 241 жыхар; у 1995 г. 54 двары, 100 жыхароў. Размешчаны магазін, лазня.

**КАРЛАВІЧЫ** — вёска ў Закозельскім с/с, цэнтр СВК «Радавецкі». За 15 км на Пд З ад Драгічына, 125 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як дварышча с. Літоўскае ў Бародзіцкай вол. Да 1554 г. належала Кезгайлам, з 1558 г. Віленскаму капітулу. У 1558 г. ў інвентары Бародзіцкай вол. ўпамінаецца Карлаўшчына — «зямля... таго сяла Літоўскага», з якой давалі «па тры вядры мёду і ўсе іншыя платы». У 1558 г. тут 3 дамы, якія плацілі чыншу 3 капы і адзін грош літоўскі. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1890 г. фальварак у маёнтку Закозель Калікста Ажэшкі. У 1905 г. фальварак у Валавельскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 60 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. фальварак, 3 двары, 31 жыхар. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., калонія Карлавічы, 27 двароў, 127 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Каралінскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 землякі вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Папінскім с/с, 132 жыхары. У 1970 г. 85 жыхароў; у 1995 г. 18 двароў, 37 жыхароў.

**КАТЫ** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 31 км на ПнЗ ад Драгічына, 141 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 28 гаспадарак, 41 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пачатку 20 ст. ў 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Зёлаўскай гміне Драгічынскага пав., 13 двароў, 54 жыхары. У 1930-я г. 24 двары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 жыхароў, з іх 5 на фронце. З 8.8.1959 г. ў складзе Драгічынскага раёна. У 1959 г. 145 жыхароў; у 1970 г. 134 жыхары; у 1995 г. 29 двароў, 58 жыхароў.

**КОРСУНЬ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, у складзе СВК «Прыазерскі». За 18 км на З ад Драгічына, 136 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 124 двары, 333 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1749 г. маёнтак у Берасцейскім ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, маёнтак у Пярковіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У вёсцы ў складзе маёнтка Корсунц 187 рэвізскіх душ дзярж. сялян; у маёнтку Корсунц Казіміра Ягміна — 444 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. вёска Корсунь, цэнтр сельскай грамады, 379 дзес. угоддзяў, з іх 233 дзес. прыдатнай зямлі, акрамя таго, розным уладальнікам належалі 35 дзес. угоддзяў, маёнтку — 1700 дзес. угоддзяў, з іх 405 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. вёска і маёнтак у Валавельскай вол., у вёсцы 403 жыхары, у маёнтку 49 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 14 двароў, 121 жыхар. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Валавельскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл.; вёска Корсунь — 74 двары, 290 жыхароў; калонія Корсунь — 25 двароў, 96 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Галоўчыцкім с/с, вёска — 386 жыхароў; б. маёнтак — 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 15 землякоў, з іх 14 на фронце. З 1959 г. ў Першамайскім с/с Драгічынскага раёна, 216 жыхароў. У 1970 г. ў Антопальскім с/с, 137 двароў, 363 жыхары. Размешчаны пач. школа, клуб, магазін, б-ка. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**КРАМНО** — вёска ў Бездзежскім с/с, у складзе СВК «Белы Груд». За 19 км ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 147 гаспадарак, 314 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1783 г. ўпамінаецца ў інвентары Дробацкага ключа. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. цэнтр сельскай грамады ў Бездзежскай вол., 285 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. грамада мела 702 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 456 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 109 двароў, 543 жыхары. У 1930-я г. 124 двары. Вёска вядома вырабам куфраў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Вавуліцкім с/с, 120 двароў, 672 жыхары, 2 бетонныя з-ды (6 рабочых), на якіх выраблялі чарапіцу і кругі для калодзежаў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 29 жыхароў, з іх 23 не вярнуліся з фронту. У 1949 г. створаны калгас «Савецкая Беларусь» (старшыня А.К.Білевіч). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Гутаўскім с/с, 772 жыхары. У 1970 г. вёска ў Бездзежскім с/с, 804 жыхары; у 1995 г. 167 двароў, 392 жыхары.

**КРАСЦІНАВА** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 20 км на Пд У ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 39 двароў, 71 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Варацэвіцкай вол., цэнтр сельскай грамады ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка Красцінава памешчыка Гаспера Клімашэўскага, 113 рэвізскіх душ дзярж. сялян. Частка вёскі знаходзілася ў межах Гуцкай сельскай грамады Варацэвіцкай вол. У 1890 г. маёнтак Красцінава належаў Ганне Пятроўскай, меў 276 дзес. угоддзяў. У 1905 г. ў вёсцы 265 жыхароў, у маёнтку 13 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Варацэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 46 двароў, 165 жыхароў; фальварак, 13 жыхароў. З 4.12. 1939 г. ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл., 58 двароў, 315 жыхароў. З 15.12. 1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Асавецкім с/с. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 13 землякоў. У



1960 г. 296 жыхароў; у 1970 г. 259 жыхароў; у 1995 г. 52 двары, 106 жыхароў. Размешчаны ферма буйной рагатай жывёлы, магазін.

**КУБЛІК** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 18 км на Пд ад Драгічына, 128 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 113 гаспадарак, 262 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых звестак вёска ўзнікла ў перыяд будаўніцтва Дняпроўска-Бугскага канала (1775—1848). У 1858 г. сяло, цэнтр сельскай грамады Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Ляхавічы памешчыка Георгія Шэмета. У 1886 г. 41 двор, 530 жыхароў. У 1905 г. вёска, 760 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 56 двароў, 211 жыхароў, з якіх 210 праваслаўных. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., 156 двароў, 850 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Папінскім с/с. У Вял. Айч. вайну ў жніўні 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 132 двары, загубілі 17 жыхароў, у лютым—сак. 1944 г. каля вёскі адбываліся жорсткія баі партызан брыгады імя Молатава Пінскага партыз. злучэння з варожай групоўкай за Дняпроўска-Бугскі канал. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 30 землякоў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 756 жыхароў; у 1970 г. 582 жыхары; у 1995 г. 42 двары, 322 жыхары. Размешчаны малочнатаварная ферма, аддз. сувязі, магазін.

**ЛАВЫ** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 42 км на ПнЗ ад Драгічына, 152 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Драгічынскага пав. ВКЛ. Паводле інвентару 1591 г. 16 дымоў, 9 валок зямлі і 10 валок незанятых. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Іласкай вол. Кобрынскага пав., у складзе маёнтка Палюшын памешчыка Радзевіча, 101 рэвізская душа дзярж. сялян (разам з вёскамі Дубавая і Лавы). У 1905 г. стража Лавы, 5 жыхароў і хутар Лавы-Данкі, 34 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 3 двары, 20 жыхароў. У 1930-я г. 6 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліпені 1944 г. вёска спалена ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 3 жыхары вёскі, з іх 2 на фронце. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 45 жыхароў. У 1970 г. 46 жыхароў; у 1995 г. 4 двары, 7 жыхароў.

**ЛАСІНЦЫ** — вёска ў Вулькаўскім с/с, у складзе СВК «Лошна». За 11 км на ПнЗ ад Драгічына, 120 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 85 гаспадарак, 181 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 16—18 ст. паселішча ў складзе ўладанняў Тараканскага манастыра. Упамінаецца ў 1517 г. ў даравальным запісе Агапіі Песачынскай мітрапаліту кіеўскаму Іосіфу Солтану як сяло яе маёнткаў, у Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1762 г. фальварак Ласінцы. На пач. 19 ст. пабудавана драўляная Успенская царква. У 1858 г. вёска Лосінцы, цэнтр сельскай грамады ў Брашэвіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 213 рэвізскіх душ дзярж. сялян, якія да 1842 г. з'яўляліся падданымі Тараканскага манастыра. У 1886 г. сяло, 29 двароў, 270 жыхароў, праваслаўная царква, піцейны дом. У 1890 г. сяло, 415 дзес. угоддзяў, з іх 188 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. вёска, 339 жыхароў, пач. вучылішча; маёнтак Ласінцы — 15 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Брашэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палеска-

га ваяв. У 1921 г. вёска, 57 двароў, 255 жыхароў (праваслаўных); фальварак Ласінцы — 5 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Брашэвіцкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., вёска, 80 двароў, 391 жыхар, працавала школа. З 15.1. 1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Вулькаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 13 землякоў, з іх 8 на фронце. У 1949 г. створаны калгас «Полымя» (старшыня В.А.Піцуха). У 1950 г. было 120 двароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 335 жыхароў; у 1970 г. 417 жыхароў; у 1995 г. 107 двароў, 229 жыхароў, пач. школа. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін, лазня. Магіла сав. воіна, які загінуў у 1944 г. Помнік архітэктуры — Успенская царква (пач. 19 ст.).

**ЛЕСНІКІ** — вёска ў Немяржанскім с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 20 км на ПнЗ ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 93 гаспадаркі, 171 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў 1905 г. ў Хомскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., вёска, 168 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 31 двор, 171 жыхар. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска ў Хомскай вол., 31 двор, 141 жыхар. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Немяржанскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 30 землякоў, 20 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 157 жыхароў; у 1970 г. 158 жыхароў; у 1995 г. 117 двароў, 232 жыхары. У 1977 г. далучана в. Сукачы.

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Ліпніцкі». За 4 км на У ад Драгічына, 115 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Брэст—Пінск. 306 гаспадарак, 818 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1778 г. вёска, прадмесце г. Драгічын, у межах Драгічынскага графства, 70 сял. дамоў, 357 жыхароў, яўр. гаспадарка, карчма. У 1792 г. пабудавана Успенская царква. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав. вёскі: Ліпнікі, у складзе маёнтка Южэфіны Фрыдрыха Кюна — 134 рэвізскія душы дзярж. сялян; Ліпнікі, адносілася да маёнтка Гаеўка памешчыцы Крэсцінавай — 102 рэвізскія душы дзярж. сялян; Ліпнікі, дзярж. маёмасць — 31 рэвізская душа дзярж. сялян; царква, нар. вучылішча. У 1886 г. сяло Ліпнікі, 31 двор, 332 жыхары, царква, піцейны дом. У 1905 г. 468 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 270 жыхароў, з якіх 268 праваслаўных. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 109 двароў, 797 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Ліпніцкага с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 17 землякоў вёскі, з іх 14 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 86 двароў. З 1960 г. ў Старасельскім, з 1965 г. ў Драгічынскім сельсаветах. У 1970 г. 181 двор, 515 жыхароў; у 1995 г. 301 двор, 859 жыхароў. У 1970-х г. далучана в. Пікачы. Размешчаны сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, камерцыйная крама, бар, плавальны басейн. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЛІТОЎСК** — вёска ў Закозельскім с/с, у складзе дзяржаўнага унітарнага вытворчага прадпрыемства «Племзавод Закозельскі». За 12 км на ПдЗ ад Драгічына, 134 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 137 гаспадарак, 343 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 16 ст. як сяленне Літоўскае ў Трокскім ваяв. ВКЛ, уласнасць каталіцкай



царквы. У 16—17 ст. сяло ў Бародзіцкай вол. Берасцейскага пав. Упамінаецца ў 1554 г. ў Пісцовай кнізе Пінскага і Клецкага княстваў. Паводле інвентару Бародзіцкай вол. за 1558 г. сяло Літоўскае, 14 дамоў, даходы з яго складалі 8 коп 19 грошаў літоўскіх. У 1720—40-х гг. згадваецца Літоўскі ключ. З 1791 г. 2 вёскі Літоўск у Пярковіцкай вол. Кобрынскага пав., адносіліся: 1-я да маёнтка Стэфант памешчыка Фелікса Ягміна, 2-я да маёнтка Зёлаў памешчыцы Туткевіч; усяго 296 рэвізскіх душ дзярж. сялян. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1890 г. ў Валавельскай вол., вёскі Літоўск-Вялікі і Літоўск-Малы, у Літоўскай сельскай грамадзе, 494 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. вёска Літоўск у Валавельскай вол., 580 жыхароў, пач. школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 27 двароў, 168 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., 118 двароў, 582 жыхары, пач. школа, аддз. сувязі. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. да 12.12.1970 г. цэнтр Літоўскага с/с. Створаны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну загінулі 22 землякі вёскі, 19 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 405, у 1970 г. 429 жыхароў. З 12.12.1970 г. ў Закозельскім с/с. У 1995 г. 151 двор, 354 жыхары. Размешчаны пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сельскі Дом культуры, б-ка, лазня, загатоўчы ларок.

**ЛЮДЗВІНОВА** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 14 км на Пд ад Драгічына, 124 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 53 гаспадаркі, 105 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. маёнтак Людзвінова ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., уласнасць Пятра Ажэшкі. Тут у 1858—64 гг. жыла і працавала польская пісьменніца Эліза Ажэшка (Паўлоўская), жонка Пятра Ажэшкі, якая ў 1862 г. арганізавала тут пач. школу. Пад яе ўплывам маёнтак Людзвінова стаў адным з арганізацыйных цэнтраў паўстання 1863—64 гг. на Берасцейшчыне, апорнай базай для паўстанцаў атрада Рамуальда Траўгута. У 1864 г. маёнтак быў канфіскаваны ў казну, пісьменніца з'ехала ў бацькоўскі маёнтак Мілкаўшчыну каля Гродна. У 1905 г. 40 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. фальварак, 7 двароў, 68 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл. БССР, калонія Людзвінова, 223 жыхары, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 вяскоўцаў. У 1949 г. створаны кал-





*Мемарыяльны знак на месцы сядзібы ў в. Людзвінова, дзе ў 1858—64 гг. пражывала Э.Ажэшка.*

гас «17 Верасня» (старшыня А.Федзюковіч). З 1954 г. ў Брэсцкай вобласці. У 1959 г. хутар у Папінскім с/с, 268 жыхароў. У 1970 г. вёска, 278 жыхароў; у 1995 г. 67 двароў, 151 жыхар. Размешчаны малочнатаварная ферма, Дом сацыяльных паслуг, магазін, клуб.

**ЛЯЖЫТКАВІЧЫ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Ліпніцкі». За 9 км на Пд У ад Драгічына, 120 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 32 двары, 53 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., прадмесці Драгічына: в. Ляжыткавічы ў складзе маёнтка Вінча Станіслава Ідорскага — 58 рэвізскіх душ дзярж. сялян, царква; в. Ляжыткавічы, казённая ўласнасць — 37 рэвізскіх душ дзярж. сялян; в. Ляжыткавічы, казённая ўласнасць — 7 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. вёска, 162 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 7 двароў, 38 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 45 двароў, 174 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі на фронце 3 землякі вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1960 г. ў Старасельскім, з 1965 г. ў Драгічынскім сельсаветах. У 1960 г. было 170 жыхароў; у 1970 г. — 149 жыхароў; у 1995 г. 40 двароў, 81 жыхар. Працуе магазін. Радзіма доктара медыцынскіх навук, праф. І.П.Данілава.

**ЛЯХАВІЧЫ** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 16 км на Пд ад Драгічына, 126 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). На левым беразе Дняпроўска-Бугскага канала. 68 гаспадарак, 142 жыхары (2005).

Паводле археал. матэрыялаў паселішча ўзнікла ў бронзавым веку. Згодна з пісьмовымі крыніцамі вядома з 15 ст. Упамінаецца ў 1492 г. ў даравальнай грамаце княгіні Марыі Сямёнавай Александровічавай пану Міхну Сенкавічу Пачапаўскаму, сяло ў Пінскім княстве. Паводле граматы вял. князя літ. Жыгімонта І Старога Івану Палазовічу ў 1522 г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. маёнтак Ляхавічы памешчыка Шэмета ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав. У 1886 г. згадваюцца пагост Ляхавічы, праваслаўная царква; у 1890 г. сяло Ляхавічы, царква мела 35 дзес. угоддзяў; маёнтак Ляхавічы з урочышчам Карагодышы належаў княгіні Марыі Друцкай-Любецкай — 5632 дзес. угоддзяў. У 1905 г. ў маёнтку 36 жыхароў, у пасяленні Ляхавічы 14 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў Асавецкай гміне, 2 калоніі Ляхавічы, 56 двароў, 389 жыхароў, з якіх 322 праваслаўныя; фальварак Ляхавічы — 4 двары, 37 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў Драгічынскім пав. Пінскай вобл. БССР, з 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. вёска Ляхавічы-1 — цэнтр сельсавета. У 1939 г. калонія Ляхавічы-1, было 69 двароў, 370 жыхароў. У калоніі Ляхавічы-2 было 93 двары, 495 жыхароў, прыстань на Дняпроўска-Бугскім канале, пач. школа,



*Царква ў в. Ляхавічы.*



урачэбны пункт. У Вял. Айч. вайну каля вёскі на Дняпроўска-Бугскім канале 19.6. 1943 г. партызаны вывелі са строю Ляхавіцкі гідравузел. У лютым 1944 г. партызаны вялі тут цяжкія баі супраць ням. войск, частка вёскі была спалена ням.-фаш. захопнікамі; загінулі 18 жыхароў. У 1949 г. створаны калгас «Новае жыццё» (старшыня М.Карпук). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 2.6.1959 г. ў Папінскім с/с, 310 жыхароў. У 1970 г. вёска Ляхавічы, 311 жыхароў; у 1995 г. 72 двары, 175 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, магазін, б-ка, царква Багародзіцы (2-я пал. 19 ст.). Радзіма дзярж. дзеяча Беларусі В.С.Капітана.

**МАЛІНАЎКА** – вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Асавецкі». За 23 км на Пд ад Драгічына, 133 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст–Гомель). 97 гаспадарак, 187 жыхароў (2005).

Вёска ўзнікла ў 1920–30-я г. на месцы былой калоніі Белін. У 1939 г. ў Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., калонія Белін, 146 двароў, 640 жыхароў. У Вял. Айч. вайну частка вёскі спалена, 12 вяскоўцаў загублены ням.-фаш. карнікамі, 26 загінулі на фронце. У 1970 г. вёска ў Асавецкім с/с, 686 жыхароў. У 1995 г. 114 двароў, 311 жыхароў, 8-гадовая школа. Размешчаны магазін, клуб, б-ка. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў.

**МАРКАВІЧЫ** – вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 21 км на Пн ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст–Гомель). 74 гаспадаркі, 155 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хомскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка Чарнеевічы памешчыка Зіялкоўскага, 173 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. сяляне грамады мелі 387 дзес.



*Дняпроўска-Бугскі канал каля в. Ляхавічы.*

зямлі, з іх 258 дзес. прыдатнай. У 1905 г. было 336 жыхароў, пач. школа. У 1921–39 гг. ў складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 74 двары, 386 жыхароў, з якіх 364 праваслаўныя. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска ў Хомскай вол., 97 двароў, 508 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не. З 12.10.1940 г. да 1954 г. ў Жаберскім с/с. У Вял. Айч. вайну ў барацьбе з ворагам загінулі 8 землякоў, з іх 7 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобласці. У 1959 г. 250 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Немяржанскім с/с, цэнтр саўгаса «Маркавічы», 369 жыхароў, 8-гадовая школа. У 1995 г. 84 двары, 258 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, б-ка, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**МАРЦІНОВА** – вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 13 км на Пд ад Драгічына, 121 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст–Гомель). 6 двароў, 7 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1886 г. хутар у Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. фальварак, 16 жыхароў. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 7 жыхароў. У 1926 г. заснаваны лесапільны з-д. У 1930-я г. 11 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Папінскім с/с Драгічынскага раёна Пінскай, з 1954 г. Брэсцкай абласцей. У

1960 г. хутар, 108 жыхароў; у 1970 г. 54 жыхары; у 1995 г. 9 двароў, 12 жыхароў.

**МЕНЯВЕЖ** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 39 км на ПнЗ ад Драгічына, 149 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 45 двароў, 68 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Дзераўная памешчыкаў Заварскіх, 144 жыхары. У 1890 г. грамада мела 353 дзес. угоддзяў, з іх 177 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. ў вёсцы — 310, у фальварку 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 21 двор, 156 жыхароў. У 1930-я г. 47 двароў, пач. школа. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 9 землякоў, 7 з іх на фронце. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 263 жыхары. У 1970 г. 256 жыхароў; у 1995 г. 56 двароў, 92 жыхары.

**МІКІЦК** — вёска ў Бездзежскім с/с, у складзе СВК «Белы Груд». За 22 км на ПнУ ад Драгічына, 134 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 82 гаспадаркі, 174 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1783 г. згадваецца ў інвентары Бездзежскага ключа. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Бездзежскай вол., 226 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. было 336 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 57 двароў, 312 жыхароў, дзейнічала падпольная ячэйка КПЗБ. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Бездзежскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. ў Бездзежскім с/с Драгічынскага раёна, працаваў цагляны з-д, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 39 землякоў, 19 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 499 жыхароў; у 1970 г. 404 жыхары; у 1995 г. 84 двары, 239 жыхароў. Размешчаны магазін, бібліятэка-музей. Вясковы фальклорна-этнаграфічны калектыў «Крынічанька» ўдастоены звання «народны».

**МІСАЎЦЫ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе адкрытага акц. т-ва «Драгічын райаграсэрвіс». За 6 км на Пн ад Драгічына, 117 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 21 гаспадарка, 43 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў апісанні межаў Драгічынскага графства ў 1778 г.: вёска, 5 сял. гаспадарак, 30 жыхароў. З 1791 г. ў Кобрынскім павеце. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерні. У 1858 г. ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав., вёскі — прадмесці г. Драгічын: Місаўцы ў складзе маёнтка Саха памешчыка Выславуха — 7 рэвізскіх душ дзярж. сялян; Місаўцы — уласнасць памешчыка Стоша, 18 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. згадваюцца вёскі: Місаўцы ў Ліпніцкай сельскай грамадзе, 601 дзес. угоддзяў; маёнтак Місаўцы памешчыка Мацвея Валанеевіча — 283 дзес. угоддзяў; маёнтак Ліпнікі-Місаўцы Міхаля Стоша — 48 дзес. угоддзяў. У 1905 г. вёска Місаўцы — 73 жыхары; у маёнтку 50 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 6 двароў, 25 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., вёска, 33 двары, 220 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 3 землякі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл.; з 1960 г. ў Старасельскім, з 1965 г. ў Драгічынскім сельсаветах. У 1960 г. 141 жыхар; у



1970 г. 110 жыхароў; у 1995 г. 26 двароў, 59 жыхароў.

**МОСТКІ** – вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 26 км на ПнЗ ад Драгічына, 136 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст–Гомель). 60 гаспадарак, 111 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав., у складзе маёнтка Дзераўная памешчыкаў Завадскіх, 169 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 361 жыхар. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 24 двары, 145 жыхароў (праваслаўных), У 1930-я г. 72 двары. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Дзераўнянскім с/с, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 30 жыхароў, 18 з іх не вярнуліся з фронту. З 16.7. 1954 г. ў Імянінскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1959 г. 298 жыхароў; у 1970 г. 278 жыхароў; у 1995 г. 72 двары, 132 жыхары. Размешчаны жывёлагадоўчая ферма, магазін.

**НАВАСЁЛКІ** – вёска ў Галоўчыцкім с/с, цэнтр СВК «Асіпавічы». За 34 км на Пд З ад Драгічына, 139 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст–Гомель). 56 гаспадарак, 122 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў складзе Асіпавіцкай сельскай грамады, у Антопальскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 73 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1905 г. вёска, 272 жыхары. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 13 двароў, 81 жыхар. У 1930-я г. 39 двароў, пач. школа. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 205 жыхароў. У 1941 г. 41 двор, 166 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. акупанты ў крас. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 13 жыхароў, 5 землякоў загінулі на фронце. З 1954 г. вёска ў Галоўчыцкім с/с, з 1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобл. У 1960 г. 169 жыхароў; у 1970 г. 274 жыхары; у 1995 г. 66 двароў, 144 жыхары. Размешчаны магазін, б-ка.

**НАВІКІ** – вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 5 км на Пн ад Драгічына, 115 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст–Гомель). 16 двароў, 20 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1778 г. згадваюцца ў апісанні межаў Драгічынскага графства, вёска – прадмесце Драгічына, 12 сял. двароў, 53 жыхары, была карчма. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав., цэнтр сельскай грамады, 82 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1905 г. было 126 жыхароў. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 21 двор, 147 жыхароў. З 4.12. 1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска ў Драгічынскай вол., 30 двароў, 177 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Старасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 10 землякоў, з іх 6 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл.; з 1965 г. ў Драгічынскім с/с. У 1960 г. было 137 жыхароў; у 1970 г. 110 жыхароў; у 1995 г. 25 двароў, 39 жыхароў.

**НАГОР'Е** – вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 8 км на З ад Драгічына, 119 км ад Брэста. 190 двароў, 527 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. У 1858 г. вёска Нагуры, цэнтр сельскай грамады ў Пярковіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Хлявішча памешчыка Віктара Выславуха, 150 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. ў Валавельскай вол., вёска Нагор'е – 301 жыхар; 2 пасёлкі Нагор'е – 12 жыхароў; выселак







*На могілках у в. Новая Папіна.*



*Школа ў в. Новая Папіна.*

Нагор'е — 11 жыхароў; чыг. ст. Нагор'е — 28 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска Нагорцы, 21 двор, 132 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, сяло Нагор'е ў Валавельскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 57 двароў, 303 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Літоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 13 землякоў, 9 з іх не вярнуліся з фронту. У 1960 г. 179 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Закозельскім с/с, 401 жыхар. У 1995 г. 155 двароў, 478 жыхароў. Размешчаны камбікормавы з-д, філіял Беларусбанка, аддз. сувязі, 2 магазіны, кафэ, чыг. ст. Драгічын.

**НОВАЯ ПАПІНА** — вёска, цэнтр Папінскага с/с і СВК «Пенякова». За 9 км на Пд ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Драгічын—Дзівін. 306 двароў, 942 жыхары (2005).

Вёска ўзнікла ў 1930-я г. на месцы б. калоніі Папіна, якая была перайменавана ў в. Новая Папіна. У 1939 г. ў калоніі Папіна 119 двароў, 595 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з фронту не вярнуліся 7 землякоў. У 1950 г. створана Акцябрская МТС. У 1970 г. вёска Новая Папіна, 541 жыхар. У 1995 г. 292 двары, 984 жыхары. Размешчаны сярэдняя школа, амбулаторыя, аддз. сувязі, філіял Беларусбанка, дзіцячы сад, 3 магазіны, сталовая, лясніцтва, малочнатаварная ферма, машынны двор, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, лазня, сельскі Дом культуры. Магіла ахвяр фашызму, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**НОВАЯ ЦЕМРА** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 39 км на ПнЗ ад Драгічына, 149 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 18 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1793 г. згадваецца як урочышча ў межах Хомскага графства Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1890 г. хутар Цемра ў складзе маёнтка памешчыка Андрэя Лук'яненкі; пушча Цемра, уласнасць Ганны Цімафеевай у Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав. У 1905 г. пасёлак Цемра Старая, 151 жыхар; два фальваркі Цемра — 13 і 9 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска Цемра, фальварак Цемра і фальварак Грацցякі, усяго 24 двары, 162 жыхары, з якіх 153 праваслаўныя. У 1930-я г. ў в. Новая Цемра 11 дамоў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 жыхары, з іх 2 на фронце. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 91 жыхар. У 1970 г. 117 жыхароў; у 1995 г. 22 двары, 36 жыхароў.

**НЯМЕРЖА** — вёска, цэнтр Немяржанскага с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 16 км на ПнЗ ад Драгічына,







*Могілкі ў в. Новая Папіна.*

*Царква ў в. Новая Папіна.*

147 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), каля аўтадарогі Драгічын—Бяроза. 140 двароў, 365 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 20 ст. Вёска ўзнікла ў 1907 г. на месцы б. фальварка Акропна, што знаходзіўся ў Хомскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Была заселена выхадцамі з паўн. ваколіц Белавежскай пушчы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў Хомскай гміне, вёска, 35 двароў, 68 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска, 38 двароў, 209 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Немяржанскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 24 жыхары, 21 з іх не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў вёсцы — 163; у 1970 г. 160 жыхароў. У 1976 г. ў яе склад уключаны вёскі Акропна і Бурмакі. У 1995 г. 146 двароў, 380 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сельскі Дом культуры, б-ка, 3 магазіны, лазня. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПАДЛЕССЕ** — вёска ў Антопальскім пас. Савеце, у складзе СВК «Асіпавічы». За 30 км ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 45 гаспадарак, 96 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Антопальскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Антопаль Казіміра Ажароўскага, 233 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. фальварак таго ж маёнтка Сафіі фон Брэверн, вёска, сяляне мелі 460,5 дзес. угоддзяў, з іх 285 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. ў вёсцы — 580, у фальварку — 19 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 40 двароў, 229 жыхароў, з якіх 226 праваслаўных. У 1930-я г. 95 двароў. З 1939 г. ў БССР. У 1940—59 гг. у Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., у Першамайскім с/с. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары не вярнуліся з фронту. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1959 г. 294 жыхары; у 1970 г. вёска ў Антопальскім пас. Савеце, 237 жыхароў; у 1995 г. 65 двароў,

131 жыхар. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПАПІНА** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 9 км на Пн ад Драгічына, 118 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Драгічын—Дзівін. 57 гаспадарак, 138 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяло ў Пінскім княстве, у складзе Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1522 г. ўпамінаецца ў даравальнай грамаце вял. князя літ. Жыгімонта І Старога Івану Палазовічу на ўваходы ў каралеўскую пушчу. З 1795 г. ў Рас. імперыі, сяло ў Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1810 г. пабудавана Праабражэнская царква (у 1831 згадваецца як уніяцкая). У 1830-я г. побач з вёскай быў маёнтак Папіна памешчыка Жука. Пад час паўстання 1830—31 гг. тут знаходзілі прытулак і падтрымку паўстанцы з атрада Ціта Пуслоўскага. У 1858 г. сяло Папіна ў Асавецкай вол., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Папіна Івана Жука, 188 рэвізскіх душ дзярж. сялян, царква, нар. вучылішча. У 1886 г. ў маёнтку былі вінзавод, саладоўня, конны і ветраны млыны. У 1905 г. ў сяле 386 жыхароў, царк.-прыходская школа, у маёнтку 56 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска Папіна, 16 двароў, 149 жыхароў; фальварак Папіна, 8 двароў, 106 жыхароў. У 1922 г. пабудаваны мураваны касцёл. З 4.12. 1939 г. ў БССР, у Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. З 15.1. 1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Папінскім с/с, у складзе калгаса імя Калініна, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 22 жыхары, 17 з іх не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 719 жыхароў; у 1970 г. 235 жыхароў; у 1995 г. 73 двары, 169 жыхароў. Размешчаны магазін.

**ПАЦЫ** — вёска ў Брашэвіцкім с/с, у складзе СВК «Брашэвічы». За 17 км на ПнЗ ад Драгічына, 128 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Імянінскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у складзе Брадоцкай сельскай грамады, 103 рэвізскія душы дзярж. сялян, раней падданых Тараканскага манастыра. У 1905 г. 238 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 21 двор, 101 жыхар (праваслаўныя). З 1939 г. ў БССР, вёска ў Брашэвіцкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Драгічынскім р-не, 109 двароў, 214 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 16 жыхароў, 12 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска ў Брашэвіцкім с/с, 163 жыхары. У 1970 г. 159 жыхароў; у 1995 г. 34 двары, 70 жыхароў.

**ПЕРШАМАЙСК** — вёска ў Антопальскім пас. Савеце, у складзе СВК «Асіпавічы». За 25 км на З ад Драгічына, 130 км ад Брэста, 3,5 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 72 гаспадаркі, 181 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як в. Прышыхасты ў Кобрынскім княстве ВКЛ. Каля 1460 г. кобрынскі кн. Сямён Раманавіч запісаў вёску «свайму баярыну Данілу». У 1509 г. запіс пацвердзіў яго сыну Есю Данілавічу вял. князь літ. Жыгімонт І Стары. У 2-й пал. 16 ст. маёнтак заселены цяглымі і чыншавымі сялянамі. У 1589 г. вёска ў Берасцейскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, сяляне павінны былі «з валокі 2 дні паншчыны на тыдзень, чыншу 30 грошаў, 1 дзень талокаў у год, жыта 1 бочку і інш. дзякла». На пач. 18 ст. паселішча вядома пад назвай: Прышыхасты і Антопаль, маёнтак у Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. У 1720-я г. паселішча афіцыйна падзелена на мяст. Антопаль і в. Прышыхасты.

З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з



1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Антопаль графа Казіміра Ажароўскага, 128 рэвізскіх душ дзярж. сялян, цэнтр сельскай грамады ў Антопальскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 439 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 41 двор, 255 жыхароў, з якіх 234 праваслаўныя. У 1930-я г. 77 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., в. Першамайск — цэнтр сельсавета, 345 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 32 жыхары, з іх 6 не вярнуліся з фронту. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не, з 1960 г. ў Антопальскім пас. Савеце. У 1950 г. 225 жыхароў; у 1970 г. 246 жыхароў; у 1995 г. 56 двароў, 205 жыхароў. Размешчаны магазін. Магіла ахвяр фашызму, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну — за 0,8 км на Пн ад вёскі пахаваны больш за 4 тыс. жыхароў з розных месц Беларусі, расстраляных тут ням.-фаш. акупантамі.

**ПІГАНАВІЧЫ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, у складзе СВК «Прыазерскі». За 4 км на З ад Драгічына, 140 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 80 двароў, 198 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. Упамінаюцца ў 1694 г. ў Берасцейскім пав. ВКЛ. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Пярковіцкай вол. Кобрынскага пав., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Корсуні памешчыка Казіміра Ягміна, 257 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. вёска ў Валавельскай вол., 504 дзес. угоддзяў, з іх 343 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 515 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 34 двары, 192 жыхары, з якіх 176 праваслаўных. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., 107 двароў, 566 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Першамайскім с/с. Працаваў калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну ў партыз. барацьбе і на фронце загінулі 24 жыхары. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 176 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Антопальскім пас. Савеце, 415 жыхароў. У 1995 г. вёска ў Галоўчыцкім с/с, 101 двор, 210 жыхароў. Размешчаны магазін.

**ПІГАСЫ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Ліпніцкі». За 7 км на ПдУ ад Драгічына, 118 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 68 гаспадарак, 139 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў 1777 г. ў Радагашчанскай вол. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Драгічынскай вол., цэнтр сельскай грамады, 231 рэвізская душа дзярж. сялян. У 1890 г. грамада мела 1094 дзес. угоддзяў, з іх 596 дзес. прыдатных. У 1905 г. было 438 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 32 двары, 130 жыхароў, з якіх 124 праваслаўныя. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл. З 15.1. 1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с. У 1939 г. 93 двары, 686 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі на фронце 10 землякоў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1960 г. вёска ў Старасельскім с/с, 395 жыхароў. З 1965 г. ў Драгічынскім с/с. У 1970 г. 342 жыхары; у 1995 г. 93 двары, 161 жыхар. Размешчаны магазін, бібліятэка.

**ПУХАВАЯ** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 21 км на ПнУ ад Драгічына, 131 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. маёнтак у Асавецкай вол.

Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., уласнасць Юліі Клімашэўскай. У 1905 г. ў маёнтку 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 3 двары, 16 жыхароў. З 4.12. 1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., калонія, 10 двароў, 84 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Белінскім, Асавецкім сельсаветах Драгічынскага раёна. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, 71 жыхар; у 1970 г. 82 жыхары; у 1995 г. 15 двароў, 28 жыхароў.

**ПЯРКОВІЧЫ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 9 км на З ад Драгічына, 119 км ад Брэста, 1 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 183 гаспадаркі, 583 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. У канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. ў складзе Здзітаўскай вол. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1944 г. ўпамінаецца ў лісце вял. князя літ. Аляксандра, у якім пацвержаны правы Андрэевічаў на валоданне іх спадчыннымі маёнткамі ў Пінскім княстве. Да сярэдзіны 17 ст. ў складзе Брашэвіцкага ключа ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1860-я г. ў Пярковіцкай (цэнтр — в. Краўцы), затым у Валавельскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ.: вёска і маёнтак Пярковічы, уласнасць памешчыка Антона Выслявуха. У пач. 19 ст. на ўсходняй ускраіне ўзведзена сядзіба, якая складалася з двухпавярховага сядзібнага дома, царквы, пейзажнага парка і штучных вадаёмаў. У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча. Пад час паўстання 1863—64 гг. у маёнтку захоўваўся склад зброі для паўстанцаў. У 1890 г. сяло Пярковічы, царква, якой належала 41 дзес. угоддзяў, у маёнтку 582 дзес. угоддзяў. У 1905 г. пагост Пярковічы, 5 жыхароў; маёнтак Пярковічы, 55 жыхароў. У пагосце працавала пач. школа. У 1908 г. на сродкі фонду рус. кнігавыдаўца Ф.Ф.Паўленкава ў вёсцы адчынена бясплатная нар. б-ка. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., вёска і фальварак. У 1921 г. ў вёсцы было 9 двароў, 92 жыхары, у фальварку — 4 двары, 21 жыхар, з якіх 13 праваслаўных. З 4.12.1940 г. ў БССР, у Валавельскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл.: вёска і маёнтак Пярковічы, 47 двароў, 411 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Літоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну ў партыз. барацьбе і на фронце загінуў 21 зямляк вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, 485 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Закозельскім с/с, 832 жыхары; у 1995 г. 193 двары, 633 жыхары.

Размешчаны сярэдняя школа, санаторна-лясная школа-інтэрнат, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сельскі Дом культуры, б-ка. Курган памяці на ўшанаванне землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; сядзіба (19 ст.).

**ПЯРЭСПА** — вёска ў Немяржанскім с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 14 км на ПнЗ ад Драгічына, 124 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 51 гаспадарка, 80 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. Упамінаюцца ў 1663 г. як сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, уласнасць падкаморыя Пінскага пав., каралеўскага ротмістра Яна Караля Дольскага. У канцы 18 ст. вёска ў складзе Хомскага графства. Паводле інвентару 1793 г. ў вёсцы было 11 двароў, 64 жыхары. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1860-я г. 127 рэвізскіх душ дзярж. сялян, належалі да маёнтка Хомск памешчыка Сігізмунда Пуслоўскага. У 1905 г. 274 жыхары. У 1-ю сусветную вайну вёска спалена. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палеска-



га ваяв. У 1921 г. вёска, 39 двароў, 221 жыхар, з якіх 202 праваслаўныя. З 4.12.1940 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска, 58 двароў, 329 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Немяржанскім с/с, пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 землякоў вёскі, з іх 9 на фронце. У 1960 г. — 353, у 1970 г. — 346 жыхароў; у 1995 г. 77 двароў, 131 жыхар. Размешчаны магазін.

**РАВІНЫ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе адкрытага акц. т-ва «Драгічынскі райаграсэрвіс». За 8 км на ПнУ ад Драгічына, 118 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 194 гаспадаркі, 471 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Згадваецца ў 1776 і 1778 гг. у складзе Драгічынскага графства, сяло і маёнтак Равіны. У 1778 г. ў сяле 24 двары, 161 жыхар; карчма. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. ўпамінаюцца маёнтак Равіны Осіпа Бугскага, 207 рэвізскіх душ дзярж. сялян; маёнтак Равіны Іосіфа Куржанецкага, якому ў прадмесцях Драгічына належалі 460 рэвізскіх душ дзярж. сялян; маёнтак Равіны Паўла Юр'евіча, якому ў в. Равіны належалі 35 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. цэнтр Равінскай сельскай грамады, якая мела 478 дзес. угоддзяў, з іх 293 дзес. прыдатныя. У в. Равіны 66 дзес. угоддзяў. Згадваюцца маёнтак Святынак-Равіны Сцяпана Кандрашчука, 351 дзес. угоддзяў; маёнтак Равіны-Залужжа нашчадкаў Рэгіны Рушчыц, 82 дзес.; маёнтак Равіны-Драгічын Андрэя Спірыдонава, 1812 дзес. угоддзяў; маёнтак Равіны Віталя Юр'евіча, 62 дзес. угоддзяў; пас. Равіны, у якім розных землеўладальнікам належалі 80 дзес. угоддзяў. У 1905 г. ў в. Равіны 455 жыхароў; маёнтак Равіны-Залужжа — 15 жыхароў; маёнтак Равіны — 107 жыхароў; маёнтак Равіны-Драгічын — 14 жыхароў. Працавала пач. школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай вол. Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Дзейнічала падпольная ячэйка КПЗБ, некаторы час у вёсцы размяшчаўся Драгічынскі падп. райком КПЗБ. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска, 106 двароў, 675 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 27 землякоў вёскі, 15 з іх на фронце. У 1947 г. вёска электрыфікавана. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1960 г. ў Старасельскім, з 1965 г. ў Драгічынскім сельсаветах. У 1960 г. 663 жыхары; у 1970 г. цэнтр калгаса «Праўда», 660 жыхароў; у 1995 г. 199 двароў, 590 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сельскі Дом культуры, б-ка, 2 магазны, 2 камерцыйныя крамы. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**РАДАСТАВА** — вёска, цэнтр Радастаўскага с/с і СВК «Радастаўскі». За 40 км на Пд З ад Драгічына, 150 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). Аўтадарога злучае вёску з г. Драгічын. На Пд ад вёскі Радастаўкі біялагічны заказнік. 550 гаспадарак, 1491 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст., паселішча ў Хомскай зямлі. У 1546 г. ў апісанні мяжы ВКЛ і Кароны Польскай згадваецца с. Радастава ў Раценскім пав. ў складзе Холмскай зямлі



*Царква ў в. Радастава.*

Кароны Польскай. У канцы 16 ст. сяло, уласнасць праваслаўнай царквы. У 1600 г. атрымала статус мястэчка. У 1737 г. згадваецца царква. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1862 г. ў цэнтры вёскі пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Кобрынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 203 двары, 1149 жыхароў, з якіх 1128 праваслаўных. У 1930-я г. было 246 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Радастаўскага с/с, сяло, 360 двароў, 2138 жыхароў. Працавалі лясніцтва, смалакурны завод, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў сак. 1943 г. партызаны разграмілі гарнізон, які ням.-фаш. акупанты заснавалі ў вёсцы; загінуў 81 жыхар вёскі, з іх 63 не вярнуліся з фронту. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобласці. У 1960 г. вёска, 1644 жыхары. У 1970 г. 2174 жыхары, цэнтр калгаса «Чырвоны партызан». У 1995 г. 549 двароў, 1793 жыхары. Размешчаны сярэдняя школа, аддз. сувязі, філіял Беларусбанка, участковая бальніца, 3 магазіны, камерцыйная крама, сельскі Дом культуры, б-ка, сталовая, лазня. Пакроўская царква (1862).

**РАЖНОЕ** — вёска ў Радастаўскім с/с, у складзе СВК «Радастаўскі». За 44 км на Пд З ад Драгічына, 154 км ад Брэста, 51 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). На Пд мяжуе з Радастаўскім біялагічным заказнікам. 64 двары, 156 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1956—58 гг. з сселеных хутароў Заваёва, Коззе, Паляна, Ражны, Таўсціца, Чарэмш і інш. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобл., у Радастаўскім с/с. У 1960 г. 167 жыхароў; у 1970 г. 290 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны партызан». У 1995 г. 72 двары, 235 жыхароў, пач. школа. Размешчаны магазін.

**РАЖОК** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 38 км на ПнЗ ад Драгічына, 148 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 30 гаспадарак, 67 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. маёнтак памешчыка Радавіцкага ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав. У 1905 г. маёнтак, 17 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. У 1921 г. фальварак. У 1930-я г. 19 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 103 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 2 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не, 90 жыхароў. У 1970 г. 142 жыхары; у 1995 г. 36 двароў, 70 жыхароў. Радзіма ген.-маёра В.В.Дунца.

**РАШЫН** — вёска ў Дзеткавіцкім с/с, у складзе СВК «Агра-Дзеткавічы». За 32 км на ПнЗ ад Драгічына, 142 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 33 гаспадаркі, 59 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Упамінаюцца ў 1588, 1634, 1640 гг., была царква. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав., у складзе маёнтка Зёлава памешчыцы Марыі Далгарукавай, 133 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1905 г. 343 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 21 двор, 93 жыхары. У 1930-я г. 31 двор. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 13 землякоў, з іх 10 на фронце. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобл., 140 жыхароў. У 1970 г. 152 жыхары; у 1995 г. 35 двароў, 71 жыхар.

**САЛАВА** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе адкрытага акц. т-ва «Драгічынскі райаграсэрвіс». За 7 км на Пн



ад Драгічына, 117 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Драгічын—Хомск. 89 двароў, 201 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў 1778 г. ў інвентары Драгічынскага графства, вёска, 11 двароў, 55 жыхароў. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Драгічынскай вол., у складзе маёнтка Аўстраўкі памешчыка Осіпа Багурскага, 150 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. вёска, 290 жыхароў, пач. школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 18 двароў, 148 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., вёска, 64 двары, 449 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с, пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну загінулі 9 землякоў вёскі, з іх 8 на фронце. У 1960 г. было 355 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Драгічынскім с/с, 352 жыхары. У 1995 г. 91 двор, 221 жыхар. Размешчаны базавая школа, Дом сацыяльных паслуг, магазін, клуб, б-ка.

**СВАРЫНЬ** — вёска ў Радастаўскім с/с, у складзе СВК «Радастаўскі». За 33 км на Пд З ад Драгічына, 141 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 279 гаспадарак, 730 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Сварычавічы ў Пінскім пав. ВКЛ. У 1531 г. пазначана ў даравальным лісце каралевы Боны. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска ў Лёлікаўскай гміне Камень-Кашырскага пав. Палескага ваяв., 151 дом, 823 жыхары, з якіх 779 праваслаўных. У 1930-я г. 140 дамоў. З 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Радастаўскім с/с, вёска, 118 двароў, 979 жыхароў. У 1941 г. ў вёсцы 209 двароў, 1309 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну да лета 1943 г. стала цэнтрам партыз. зоны на тэр. ад Дняпроўска-Бугскага канала да райцэнтраў Любышова і Камень-Кашырскі на Украіне. Тут базіраваліся буйныя сілы партызан Брэсцкага і Пінскага партыз. злучэнняў, партыз. сямейны лагер. З вер. 1943 г. пачаў дзейнічаць буйны партыз. аэрадром, у будаўніцтве якога з пачатку жніўня прымалі ўдзел жыхары вёсак Радастаўскага с/с. Праз аэрадром партызаны атрымалі 20 тон боепрыпасаў і ўзрыўчаткі, 800 адзінак узбраення. У крас. 1943 г. фашысты спалілі ў вёсцы 199 двароў, загубілі 118 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 86 сав. воінаў і партызан, 44 вяскоўцы загінулі на фронце. З 8.8.1959 г. ў Драгічынскім р-не Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, 873 жыхары. У 1970 г. 1528 жыхароў; у 1925 г. 303 двары, 970 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, аддз. сувязі, сельскі клуб, б-ка, 2 магазіны, камерцыйная крама, лазня, малітоўны дом баптыстаў. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, мемарыяльная дошка партызанам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СВЕКЛІЧЫ** — вёска ў Антопальскім пас. Савеце, у складзе СВК «Асіпавічы». За 29 км на З ад Драгічына, 133 км ад Брэста, 6,5 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 62 гаспадаркі, 133 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў дакументах у 1766 г. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Антопальскай вол., у маёнтку Антопаль графа Казіміра Ажароўскага, цэнтр сельскай грамады, 123 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. ў складзе Падлескай сельскай грамады Антопальскай вол., уласнасць сялян, 284 дзес. зямлі, з іх 151 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 376 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гмі-

не Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 44 двары, 216 жыхароў, з якіх 215 праваслаўных. У 1930-я г. 60 двароў. З 1939 г. ў БССР. У 1940—59 гг. у Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў Першамайскім с/с, 305 двароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 9 жыхароў, з іх 8 не вярнуліся з фронту. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не, вёска ў Першамайскім с/с, 203 жыхары. У 1970 г. вёска ў Антопальскім пас. Савеце, 299 жыхароў. У 1995 г. 99 двароў, 181 жыхар. Размешчаны магазін, клуб; помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Закозельскім с/с, у складзе СВК «Радавецкі». За 22 км на Пд З ад Драгічына, 134 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 20 гаспадарак, 34 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1890 г. маёнтак памешчыка Іллі Гарбарука ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 400 дзес. угоддзяў. У 1905 г. маёнтак, 12 жыхароў; пасяленне «Плаціна Селішча», 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1930-я г. 2 двары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл. калонія Селішча, 40 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Ляхавіцкім с/с Драгічынскага раёна. У Вял. Айч. вайну 19.6. 1943 г. партызаны вывелі са строю Селішчанскі гідравузел на Дняпроўска-Бугскім канале. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Папінскім с/с, 172 жыхары. У 1970 г. 170 жыхароў; у 1995 г. 32 двары, 57 жыхароў. Размешчаны Дом сацыяльных паслуг.

**СЁМАНАЎШЧЫНА** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 5 км на ПнЗ ад Драгічына, 115 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 111 двароў, 303 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1778 г. паселішча ў Драгічынскім графстве. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, прадмесце г. Драгічын у Драгічынскай вол. Кобрынскага пав., 127 жыхароў, падданых маёнтка Броннае Баляслава Жука. У 1890 г. вёска ў складзе Старасельскай грамады. У 1905 г. 956 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 8 двароў, 153 жыхары. З 4.12. 1939 г. ў БССР, у Драгічынскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., вёска, 64 двары, 417 жыхароў. З 1941 г. ў былым маёнтку Броннае каля Сёманаўшчыны размяшчалася Драгічынская МТС. У Вял. Айч. вайну загінулі 10 землякоў вёскі, 8 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска, 290 жыхароў. З 1965 г. ў Драгічынскім с/с. У 1970 г. 351 жыхар; у 1995 г. 128 двароў, 367 жыхароў. Размешчаны магазін.

**СІМАНАВІЧЫ** — вёска ў Вулькаўскім с/с, у складзе СВК «Лошна». За 11 км на Пн ад Драгічына, 121 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 165 гаспадарак, 315 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як паселішча ў Здзітаўскай вол. Кобрынскага княства ВКЛ. У 1452 г. вял. князь літ. Казімір Ягайлавіч перадаў частку воласці пінскаму кн. Юрыю Сямёнавічу, у т.л. «Симоновское пустое дворищо». У 16 ст. ў складзе Барадзіцкай вол., якая да 1554 г. належала Кезгайлам. У 1554 г. падчашы ВКЛ Станіслаў Кезгайла за даўгі прадаў воласць епіскапу луцкаму і берасцейскаму Валяр'яну Пратасевічу і «...вёскі гэтай воласці... Сіманавічы...». У 1558 г. ў вёсцы 7 дымоў, даходы з яе складалі 4 капы і 24 грошы літоўскія. У 1559 г. Пратасевіч запісаў воласць Віленскаму капітулу. У 1561 г. згадваецца с. Сіманавічы ў Пінскім старостве, уласнасць каталіцкай царквы. У 17 ст. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., уласнасць падкамо-



рыя пінскага Яна Караля Дольскага. У апошняй чвэрці 18 ст. ў Хомскім графстве. У 1793 г. паводле інвентару Хомскага графства 116 двароў, 622 жыхары. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. Сіманавічы-1 у Брашэвіцкай вол., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Хомск памешчыка Пуслоўскага, 571 жыхар; в. Сіманавічы-2 той жа воласці, у Ласінскай сельскай грамадзе, 113 рэвізскіх душ дзярж. сялян, былых падданых маёнтка Тараканы бызыліянскага манастыра. У 1886 г. 82 двары, 992 жыхары. У 1905 г. 1481 жыхар, пач. школа. У 1-ю сусветную вайну вёска часткова спалена. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Брашэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 279 двароў, 973 жыхары, з якіх 879 праваслаўных. У 1920-я г. 294 двары, 1472 жыхары. З 1939 г. ў БССР, у Хомскай вол. Кобрынскага пав., 304 двары, 1409 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Вулькаўскім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну вёска амаль цалкам спалена ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 59 жыхароў вёскі, з іх 35 на фронце. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны Араты». З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска ў Вулькаўскім с/с, 434 жыхары. У 1970 г. 874 жыхары; у 1995 г. 214 двароў, 407 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, сярэдняя школа, магазін, б-ка. Курган памяці на ўшанаванне савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма засл. работніка культуры Беларусі Д.М.Раманюка.

**СІРЭНЕЎКА** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 3 км на Пн ад Драгічына, 113 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 93 двары, 290 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1960-я г. ў час ліквідацыі хутароў і інш. дробных паселішчаў. Першымі перасяленцамі былі жыхары б. калоніі Равіны (у 1959 у Старасельскім с/с, 128 жыхароў). У 1970 г. в. Сірэнеўка ў Драгічынскім с/с, 183 жыхары, пач. школа. У 1995 г. 86 двароў, 251 жыхар. Размешчаны клуб, магазін.

**СКІБІЧЫ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе СВК «Ліпніцкі». За 10 км на У ад Драгічына, 119 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 23 двары, 46 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў дакументах за 1769 г. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Драгічынскай вол., 96 рэвізскіх душ дзярж. сялян, адносілася да маёнткаў Балкуны Пятра Крашэўскага і Скібічы — сумеснага ўладання Коразавай, Пясецкіх, Яцынічаў; таксама в. Скібічы ў Бездзежскай сельскай грамадзе — 23 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1905 г. 181 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 15 двароў, 96 жыхароў, з якіх 77 праваслаўных. У 1930-х г. 28 двароў. З 4.12. 1939 г. ў БССР, у Драгічынскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 43 двары, 272 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с Драгічынскага раёна. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну загінулі 5 землякоў — воінаў і партызан. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 167 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Драгічынскім с/с, 143 жыхары; у 1995 г. 34 двары, 63 жыхары. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы С.П. Ільючык.

**СКРЫПЯЛІ** — вёска ў Немяржанскім с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 18 км ад Драгічына, 128 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 29 гаспадарак, 42 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоў-

скай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Імянінскай вол. Кобрынскага пав., у складзе Падрэцкай сельскай грамады, 113 рэвізскіх душ дзярж. сялян, раней падданых Тараканскага манастыра. У 1905 г. 227 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 78 двароў, 445 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У 1939 г. было 52 двары, 240 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. вёска ў Немяржанскім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну загінулі 15 землякоў вёскі, 12 з іх на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 184 жыхары; у 1970 г. 163 жыхары; у 1995 г. 45 двароў, 65 жыхароў.

**СОРАЦНІ** — вёска ў Гутаўскім с/с, у складзе СВК «Гутава». За 19 км на ПнУ ад Драгічына, 127 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Снітава (на лініі Брэст—Гомель). 82 гаспадаркі, 166 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў 1783 г. як вёска ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., у складзе Бездзежскага ключа. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. цэнтр сельскай грамады ў Бездзежскай вол., 235 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 364 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 78 двароў, 445 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вавуліцкім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл., 102 двары, 558 жыхароў. У 1941 г. 83 двары, 317 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1943 г. ням.-фаш. захопнікамі спалена 79 двароў, знішчана 142 жыхары; на франтах вайны загінулі 10 вяскоўцаў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Гутаўскім с/с, 506 жыхароў. У 1970 г. 437 жыхароў; у 1995 г. 98 двароў, 230 жыхароў, пач. школа. Размешчаны магазін, клуб, помнік ахвярам фашызму.

**СТАРАМЛЫНЫ** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 20 км на Пн ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), каля р. Ясельда. 35 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

Гарадзішча 11—13 вв. за 0,3 км на Пд ад вёскі і селішча жалезнага веку на паўн. ускраіне вёскі сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. ў 1793 г. вёска ў Хомскім графстве, у Берасцейскім ваяв., 8 двароў, 45 жыхароў. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. ў Хомскай вол. Кобрынскага пав.: вёска Старамлыны-1 у складзе Заяленскай сельскай грамады, адносілася да маёнтка Хомск Пуслоўскіх, 76 жыхароў; Старамлыны-2 у Гошаўскай 2-й сельскай грамадзе, адносілася да Стрыгінскага падушнага маёнтка, 36 жыхароў. У 1905 г. ў в. Старамлыны-1 194 жыхары, у в. Старамлыны-2 81 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 20 двароў, 149 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Хомскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., вёскі Старамлыны-1 і Старамлыны-2, 70 двароў, 323 жыхары. З 5.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хомскім с/с. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 12 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. ў в. Старамлыны-1 137 жыхароў, у в. Старамлыны-2 130 жыхароў. У 1970 г. в. Старамлыны, 207 жыхароў; у 1995 г. 44 двары, 95 жыхароў. Да 2004 г. ў складзе калгаса імя Кірава. Размешчаны гандл. крама.

**СУБАТЫ** — вёска ў Брашэвіцкім с/с, у складзе СВК «Брашэвічы». За 18 км на ПнЗ ад Драгічына, 137 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 59 гаспадарак, 131 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вёска была вядома з 16 ст. пад назвамі 2-і Таракань, Малы Таракань, Чыкін у Трокскім



ваяв. ВКЛ. Пад назвай Субаты вядома з апошняй чвэрці 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1797 г. пабудавана праваслаўная царква Раства Багародзіцы. У 1858 г. сяло ў Імянінскай вол. Кобрынскага пав., у складзе Брадоцкай сельскай грамады, 161 рэвізская душа дзярж. сялян, раней падданых Тараканскага манастыра. У 1886 г. 15 двароў, 173 жыхары, царква, школа. У 1905 г. 342 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 18 двароў, 105 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, у Імянінскай вол. Драгічынскага пав., 52 двары, 300 жыхароў, працавала школа. З 12.10.1940 г. ў Драгічынскім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну загінулі 17 землякоў, 14 з іх на фронце. У 1949 г. створаны калгас імя Мічурына (старшыня М.Т.Кісель). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска ў Брашэвіцкім с/с, 292 жыхары. У 1970 г. 268 жыхароў; у 1995 г. 68 двароў, 153 жыхары. Размешчаны базавая школа, магазін, лазня.

**СУКАЧЫ** — вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 27 км на ПнЗ ад Драгічына, 137 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 50 гаспадарак, 103 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., як вёска ў Берасцейскім павеце ВКЛ. З 1793 г. ў Хомскім графстве. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Зёлаўскай вол. Кобрынскага пав., у складзе маёнтка Зёлава памешчыцы Туткевіч, 145 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. грамада мела 652 дзес. угоддзяў. У 1905 г. 374 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Зёлаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 34 двары, 162 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Кобрынскім пав. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзераўноўскім с/с, 391 жыхар. У Вял. Айч. вайну загінуў 21 жыхар вёскі, 20 з іх не вярнуліся з фронту. У 1948 г. арганізаваны калгас «Серп і молат». З 1954 г. вёска ў складзе Імянінскага с/с Антопальскага, з 1959 г. Драгічынскага раёнаў. У 1960 г. 315 жыхароў. У 1970 г. 273 жыхары; у 1995 г. 82 двары, 160 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін.

**СУЛІЧАВА** — вёска ў Закозельскім с/с, у складзе СВК «Радавецкі». За 20 км на Пд З ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 207 двароў, 342 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Упамінаюцца ў 1546 г. ў апісанні мяжы ВКЛ з Каронай Польскай, сяло ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв., уласнасць Паўла Біюціўскага, у складзе Бародзіцкай воласці. Паводле інвентару воласці з 1558 г. гаспадары дамоў у Сулічаве плацілі чыншу 18 грошаў літоўскіх. З 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Закозель Калікста Ажэшкі, цэнтр сельскай грамады ў Валавельскай вол. Кобрынскага пав., 405 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1886 г. вёска, 45 двароў, 581 жыхар, школа, царква, піцейны дом. У 1890 г. грамада мела 928 дзес. угоддзяў, з іх 397 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. вёска Сулічава — 867 жыхароў, пач. школа; выселак Сулічава — 109 жыхароў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 124 двары, 785 жыхароў, з якіх 771 праваслаўны. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска, 210 двароў, 1065 жыхароў, пач. школа. З 15.1.1940 г. ў Каралінскім с/с. У 1941 г. было 278 двароў, 989 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 ням.-фаш. захопнікамі

спалена 75 двароў, загублены 103 жыхары. На фронце загінулі 46 землякоў вёскі. У 1949 г. створаны калгас «Перамога» (старшыня І.Голуб). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў Папінскім с/с, 961 жыхар; у 1970 г. 1057 жыхароў; у 1995 г. 249 двароў, 538 жыхароў. Размешчаны базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сельскі Дом культуры, б-ка, магазін, лазня.

**СУТКІ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе адкрытага акц. т-ва «Драгічынскі аграсэрвіс». За 9 км на Пн ад Драгічына, 119 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 68 гаспадарак, 146 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў 1778 г. ў складзе Драгічынскага графства, 9 двароў, 50 жыхароў, была карчма. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Драгічынскай вол., у складзе Салаўскай сельскай грамады, 75 рэвізскіх душ дзярж. сялян, адносілася да маёнтка Астраўкі памешчыка Осіпа Багурскага. У 1905 г. 171 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 13 двароў, 89 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 38 двароў, 281 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Сохаўскім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну загінулі 15 жыхароў, з іх 8 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска ў Ліпніцкім с/с, 167 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Драгічынскім с/с, 274 жыхары; у 1995 г. 74 двары, 185 жыхароў. Размешчаны магазін.

**ТАТАРНАВІЧЫ** — вёска ў Антопальскім пас. Савеце, у складзе СВК «Асіпавічы». За 30 км на З ад Драгічына, 134 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 35 гаспадарак, 67 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Упамінаюцца ў 1546 г. ў апісанні межаў ВКЛ з Каронай Польскай, сяло ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1791 г. ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Антопальскай вол. Кобрынскага пав., цэнтр сельскай грамады, 158 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. вёска ў Асіпаўскай сельскай грамадзе Антопальскай вол. У 1905 г. было 353 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 29 двароў, 188 жыхароў; у 1930-я г. — 73 двары. З 1939 г. ў БССР. У 1940—59 гг. у Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска ў Асіпавіцкім с/с, 322 жыхары. У Вял. Айч. вайну 4 жыхары не вярнуліся з фронту. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не, у Першамайскім с/с, 178 жыхароў. У 1970 г. ў Антопальскім пас. Савеце, 269 жыхароў. У 1995 г. 72 двары, 110 жыхароў.

**ТАТАР'Я** — вёска ў Імянінскім с/с, у складзе СВК «Імянінскі». За 19 км на ПнЗ ад Драгічына, 129 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Дзераўная—Брашэвічы. 52 гаспадаркі, 121 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., у Зёлаўскай вол., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Зёлава памешчыцы Туткевіч, 186 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. было 356 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Зёлаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 18 двароў, 106 жыхароў. У 1930 г. 55 двароў, 258 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Брашэвіцкім с/с Антопальскага раёна Брэсцкай вобл., 258 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 10 землякоў вёскі. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не, 186 жыхароў. У 1995 г. 58 двароў, 121 жыхар. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін.

**ТОЛКАВА** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, у складзе СВК «Прыазерскі». За



21 км на З ад Драгічына, 138 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 86 двароў, 181 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц паселішча вядома з 16 ст. У 1636 г. згадваецца фальварак Толкава ў складзе маёнтка Брашэвічы, уласнасць Віленскай каталіцкай капітулы з 1559 г., калі маёнтак быў ахвяраваны капітуле епіскапам Валяр'янам Пратасевічам. У 1636 г. фальварак, 49 дамоў. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Антопальскай вол. Кобрынскага пав., 445 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1886 г. вёска, 48 двароў, 669 жыхароў. У 1890 г. грамада мела 1075 дзес. угоддзяў, з іх 526 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 1005 жыхароў, царк.-прыходская школа; у маёнтку 11 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 33 двары, 230 жыхароў; у 1930-я г. 140 двароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Кобрынскім пав. Брэсцкай вобл. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Першамайскім с/с, 727 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 27 землякоў, з іх 24 не вярнуліся з фронту. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не, з 1960 г. ў Антопальскім пассавеце. У 1960 г. 489 жыхароў; у 1970 г. 527 жыхароў; у 1995 г. 121 двор, 233 жыхары. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, базавая школа, аддз. сувязі, магазін, б-ка.

**ТЫНЕВІЧЫ** — вёска ў Немяржанскім с/с, у складзе СВК «Аляксеевічы-Агра». За 20 км на ПнЗ ад Драгічына, 133 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 54 гаспадаркі, 123 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1558 г. частка с. Таракань-Тынаўскае ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1783 г. ў складзе Брашэвіцкай вол., частка жыхароў — «баяры». З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Імянінскай вол. Кобрынскага пав., 170 рэвізскіх душ дзяржаўных (б. царкоўных) сялян. У 1890 г. сяляне вёскі мелі 458 дзес. угоддзяў, з іх 224 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 348 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 3 двары, 22 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска ў Брашэвіцкай вол., 57 двароў, 277 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Немяржанскім с/с. У 1941 г. 59 двароў, 321 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1944 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі 55 двароў, загубілі 8 жыхароў. Не вярнуліся з фронту 12 землякоў вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 222 жыхары; у 1970 г. 208 жыхароў; у 1995 г. 65 двароў, 133 жыхары. Размешчаны магазін, лазня.

**УСХОДЫ** — вёска ў Немяржанскім с/с, у складзе СВК «Бездзеж-Агра». За 17 км на ПнУ ад Драгічына, 127 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Упамінаюцца ў 1762 г., урочышча на землях Тараканскага манастыра. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска Усходы ў Хомскай вол. Кобрынскага пав., у складзе Бурманскай сельскай грамады, адносілася да маёнтка Хомск памешчыка Пуслоўскага, 44 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1905 г. 123 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 22 двары, 94 жыхары. З 4.12.1939 г. ў БССР, 25 двароў, 150 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Немяржанскім с/с Драгічынскага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну 23.8.1942 г. вёска была спалена, фашысты расстралялі тут 25 мірных жыхароў. На фронце загінулі 3 зем-

лякі. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоныя Усходы» (старшыня В.М.Барышчык). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 105 жыхароў; у 1970 г. 88 жыхароў; у 1995 г. 26 двароў, 37 жыхароў. Магіла ахвяр фашызму.

**ХАМІЧЫЦЫ** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, у складзе СВК «Асіпавічы». За 35 км на З ад Драгічына, 123 км ад Брэста, 4,5 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 36 гаспадарак, 55 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Упершыню згадваецца ў 1577 і ў 1589 гг. у складзе ўгоддзяў с. Прышыхасты (цяпер в. Першамайск). У канцы 17 ст. вёска ў складзе маёнтка Прышыхасты, уласнасць Уладзіслава Прышыхасцкага. Пасля яго смерці ў 1703 г. прададзена маршалку ВКЛ Марціну Дамініку Валовічу за 5 тыс. злотых (разам з в. Худлін). З 1791 г. ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Антопальскай вол., цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Антопаль графа Казіміра Ажароўскага, 130 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. ўласнасць сельскай грамады, якая мела 511,5 дзес. зямлі, з іх 212 дзес. прыдатнай. У 1905 г. 432 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Антопальскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 36 двароў, 156 жыхароў, У 1930-я г. 63 двары, пач. школа. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Асіпавіцкім с/с Антопальскага раёна Брэсцкай вобл., 335 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 14 землякоў, 12 з іх не вярнуліся з фронту. З 1959 г. ў Драгічынскім р-не. У 1960 г. вёска ў Галоўчыцкім с/с, 261 жыхар. У 1970 г. 255 жыхароў; у 1995 г. 47 двароў, 88 жыхароў.

**ХІДРЫ** — вёска ў Папінскім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 22 км на Пд ад Драгічына, 132 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), каля Зуброўскага канала. 43 гаспадаркі, 89 жыхароў (2005).

Заснавана выхадцамі з в. Дружылавічы Іванаўскага раёна. Спачатку існавала ў выглядзе хутароў. У 1930-я г. частка в. Ляхавічы-2. У 1940 г. было 57 двароў, 183 жыхары, пач. школа. У Вял. Айч. вайну каля вёскі размяшчаўся партыз. лагер. Ням.-фаш. захопнікі ў лютым 1944 г. спалілі 51 двор, загубілі 13 мірных жыхароў, 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1959 г. хутар у Папінскім с/с, 205 жыхароў. У 1970 г. вёска, 260 жыхароў; у 1995 г. 50 двароў, 116 жыхароў. Размешчаны малочнатаварная ферма, магазін.

**ХОМСК** — вёска, цэнтр сельсавета і СВК «Хомскі». За 18 км на Пн ад Драгічына, 128 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), на аўтадарозе Драгічын—Белаазерск. 404 гаспадаркі, 1199 жыхароў (2005).

За 3 км на ПнУ ад вёскі ва ўрочышчы Гарадок археолагамі выяўлена стараж. паселішча на тэрыторыі Драгічыншчыны. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Упамінаюцца ў 1518 г. ў справе аб межавых спрэчках пінскага кн. Фёдара Яраславіча з канонікамі трокскімі, уласнасць Станіслава НарушэвічаВаладковіча, вёска ў Здзітаўскай вол. У 1551—52 гг. атрымаў правы мястэчка, у Пінскім пав., прыватная ўласнасць. Падчас антыфеадальнай вайны 1648—51 гг. у мястэчку размяшчаўся буйны гарнізон войск ВКЛ, з сярэдзіны 17 ст. мястэчка належала Нарушэвічам, Дольскім, Вішнявецкім, Агінскім, Пуслоўскім. У 17—18 ст. існаваў базыльянскі манастыр. Паводле інвентару 1793 г. названы горадам, цэнтр Хомскага графства, у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., 110 двароў, 570 жыхароў, царква, карчма. Графства ўключала горад (або мястэчка) Хомск, 4 фальваркі, 10 вёсак. Па нядзелях адбываліся таргі. Частка даходу горада знаходзілася ў арэндзе, з якой — 5 тыс. 200 злотых, даніны — 1700 злотых і 93 грошы. Апрача таго, сяляне давалі дзякла,



адбывалі паншчыну (600 дзён на год). З 1791 г. ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ., мястэчка, цэнтр воласці. У 1798 г. заснавана суконная мануфактура, уласнасць Вандаліка Пуслоўскага. У 1828 г. на ёй працавалі 550 чал. (прыгонныя сяляне і вольнанаёмныя рабочыя). Прадпрыемства пастаўляла арміі салдацкае сукно, частка прадукцыі збывалася на рынкі Пецярбурга, Рыгі, Вільні і інш. У 1829 г. на ўсерасійскай выстаўцы ў Пецярбургу мануфактура адзначана малым залатым медалём. У 1858 г. мястэчка, цэнтр сельскай грамады і воласці, 244 двары, 1256 жыхароў, царква, цагельны, 2 маслабойныя, 2 гарбарныя з-ды. У 1861 г. адчынена нар. вучылішча. У 1878 г. 1425 жыхароў, у т.л. 983 яўрэі. У 1879 г. адчынена паштовая станцыя. У 1887 г. 2090 жыхароў. У 1890 г. ў маёнтку С.Пуслоўскага 6 фальваркаў, 4 урочышчы пл. 6290 дзес. угоддзяў, у сельскай грамадзе — 774 дзес., з іх 379 дзес. прыдатнай. На пач. 20 ст. значнае гандлёвае мястэчка, 2648 жыхароў, працаваў фельчарскі пункт. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны ў Драгічынскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 276 двароў, 1679 жыхароў. У 1929—33 гг. дзейнічаў падпольны райком КПЗБ. У 1931 г. 1638 жыхароў, паштовае агенцтва, праваслаўная царква, сінагога. У 1930-я г. 415 двароў. З 1939 г. ў БССР, вёска, працавалі прадпрыемствы (арцелі) па вырабе валёнак (пімакатны з-д, 5 рабочых), скур (аўчын, 8 чал.), па пашыву шуб. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У 1940 г. 386 двароў, 2530 жыхароў, працавалі 7-гадовая школа, цагельня, 3 паравыя млыны, бальніца, аддз. сувязі. У Вял. Айч. вайну ў Хомскім с/с дзейнічала партыз. брыгада імя Свярдлова, якая разграміла ў Хомску паліцэйскі гарнізон. У ліп. 1943 г. карнікі спалілі 470 двароў, расстралялі 1760 чал. З



*Царква ў в. Хомск.*

фронту не вярнуліся 23 жыхары. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. вёска, цэнтр сельсавета, 769 жыхароў. У 1970 г. 748 жыхароў; у 1995 г. 455 двароў, 1347 жыхароў. Да 2004 г. цэнтр калгаса імя Кірава. Размешчаны каўбасны цэх, свінагадоўчы комплекс, прадпрыемства па вытворчасці мінеральнай вады «Фрост і К», сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, філіял Драгічынскай муз. школы, амбулаторыя, гандл. цэнтр, сталовая, лазнева-пральны камбінат, комплексны прыёмны пункт быт. паслуг, аддз. Беларусбанка, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка. У цэнтры і на паўн. ускраіне вёскі магілы ахвяр фашызму, расстраляных у Вял. Айч. вайну. Радзіма контр-адмірала І.Д.Сніткі, доктара медыцынскіх навук А.Ф.Рылюка, засл. работніка культуры Беларусі П.В.Ельца.

**ЦЫБКІ** — вёска ў Брашэвіцкім с/с, у складзе СВК «Брашэвічы». За 14 км на ПнЗ ад Драгічына, 124 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 27 гаспадарак, 55 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 20 ст. Пасёлак у Зёлаўскай вол. Кобрын-

скага пав. Гродзенскай губ., 106 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Імянінскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 18 двароў, 90 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, вёска ў Брашэвіцкай вол., 38 двароў, 214 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Брашэвіцкім с/с Драгічынскага раёна Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 11 землякоў вёскі. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны сцяг» (старшыня І.Я.Барысюк). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 172 жыхары; у 1970 г. 164 жыхары; у 1995 г. 40 двароў, 76 жыхароў. Размешчаны сельскі клуб, б-ка.

**ЧАРНЕВІЧЫ** — вёска ў Хомскім с/с, у складзе СВК «Хомскі». За 23 км на Пн ад Драгічына, 131 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель), за 1 км ад р. Ясельда. 34 гаспадаркі, 50 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. У 1-й пал. 15 ст. вёска ў Кобрынскай вол. Кобрынскага княства, уласнасць кн. Сямёна Раманавіча. Пасля 1435 г. ў складзе гаспадарскіх валасцей вял. князя літ. Жыгімонта Кейстутавіча. У 16 ст. ў складзе Бародзіцкай вол. Кобрынскага пав. ВКЛ. У 1558 г. 8 дымоў, даходы ад сяла складалі 6 коп і адзін грош літоўскі. З 1554 г. ўласнасць луцкага і берасцейскага епіскапа Валяр'яна Пратасевіча, які ў 1559 г. запісаў Бародзіцкую вол. Віленскаму капітулу. Сяляне адносіліся да асадных (чыншавых) і плацілі з валокі 87 грошаў літоўскіх (1580). На пач. 1780-х г. сяло ў Брашэвіцкай вол., частка жыхароў названа «баярамі». З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Падрэцкай сельскай грамадзе Імянінскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 109 рэвізскіх душ дзярж. сялян, раней падданых Тараканскага манастыра. У 1905 г. ў вёсцы 420 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хомскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 81 двор, 403 жыхары. З 1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл., вёска ў Хомскай вол., 434 жыхары. З 12.10. 1940 г. ў Жаберскім с/с Драгічынскага раёна. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 15 землякоў вёскі. З 1954 г. ў Хомскім с/с Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл. У 1959 г. было 289 жыхароў. У 1970 г. ў Немяржанскім с/с, 269 жыхароў; у 1995 г. 45 двароў, 102 жыхары.

**ЮЗЭФІНЫ** — вёска ў Драгічынскім с/с, у складзе адкрытага акц. т-ва «Драгічынскі аграсэрвіс». За 9 км на ПнУ ад Драгічына, 119 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 35 гаспадарак, 83 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. маёнтак, уласнасць Фрыдрыха Кюна, у Драгічынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. маёнтак Юзэфін-Заманілаў памешчыка Міхаіла Арцыбашава, 481 дзес. угоддзяў. У 1905 г. ў маёнтку было 18 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Драгічынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., калонія Юзэфін. У 1921 г. 11 двароў, 47 жыхароў. З 4.12.1940 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ліпніцкім с/с, 25 двароў, 128 жыхароў. У 1960 г. 157 жыхароў. З 1965 г. ў Драгічынскім с/с. У 1970 г. 154 жыхары; у 1995 г. 37 двароў, 83 жыхары. Размешчана лясніцтва.

**ЯЗВІНЫ** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 10 км на Пд У ад Драгічына, 120 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 35 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1563 г. значная частка вясковых зямель была перададзена Грушаўскай царкве. У 1750 г. пабудаваны мураваны Святадухаўскі касцёл. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска ў Асавецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ.,



цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Станіслава Віктара Гаўрылкевіча і маёнтка Вінча Мікалая Даноўскага і Анэлі Корчыцавай, 186 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1890 г. ў сялян вёскі было 249 дзес. угоддзяў, з іх 135 дзес. прыдатнай зямлі. У 1905 г. 324 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 46 двароў, 223 жыхары. Дзейнічала падпольная ячэйка КПЗБ. У 1930-я г. 54 двары. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Драгічынскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асавецкім с/с, 65 двароў, 335 жыхароў, створаны калгас «Чырвоны сцяг». У Вял. Айч. вайну загінулі 12 жыхароў, з іх 10 на фронце. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. было 319 жыхароў; у 1970 г. 376 жыхароў; у 1995 г. 37 двароў, 78 жыхароў. Размешчаны ферма па адкорме буйной рагатай жывёлы, магазін.

**ЯЛАЧ** — вёска ў Асавецкім с/с, у складзе СВК «Пенякова». За 8 км на Пд У ад Драгічына, 118 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Драгічын (на лініі Брэст—Гомель). 122 гаспадаркі, 238 жыхароў (2005).

Курган на паўн. ускраіне вёскі сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 1664 г. ўпамінаецца пад назвай Елочье, паселішча ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., у 1665 г. — Заелочье. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. У 1858 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Асавецкай вол., у складзе маёнтка Людзвінова Пятра Ажэшкі, 347 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1905 г. 656 жыхароў, працавалі пач. школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 59 двароў, 309 жыхароў, з якіх 299 праваслаўных. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Асавецкай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 125 двароў, 685 жыхароў, школа. З 15.1.1940 г. ў Драгічынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асавецкім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 23 землякі вёскі, з іх 20 не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 671 жыхар; у 1970 г. 532 жыхары; у 1995 г. 143 двары, 284 жыхары. Размешчаны малочнатаварная ферма, аддз. сувязі, Дом сацыяльных паслуг, магазін, б-ка.

**ЯМНІК** — вёска ў Галоўчыцкім с/с, у складзе СВК «Асіпавічы». За 34 км на Пд З ад Драгічына, 143 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель). 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1858 г. вёска ў Валавельскай вобл., цэнтр гміны ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Людзвінава Калікста Ажэшкі, 54 рэвізскія душы дзярж. сялян. У 1890 г. разам з в. Галік мела 13 дзес. угоддзяў. У 1905 г. 127 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Валавельскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 16 двароў, 74 жыхары. У 1930-я г. 25 двароў. З 4.12.1939 г. ў БССР, у Валавельскай вол. Драгічынскага пав. Пінскай вобл., 28 двароў, 187 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну 25.6.1942 г. партызаны каля вёскі на Дняпроўска-Бугскім канале разграмілі атрад фашыстаў, спалілі баржу. Ням.-фаш. акупанты ў крас. 1943 г. спалілі 28 двароў, загубілі 18 жыхароў; на франтах вайны загінулі 6 землякоў. У 1960 г. 95 жыхароў; у 1970 г. 139 жыхароў; у 1995 г. 14 двароў, 27 жыхароў.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2124, л. 3, 14; спр. 2306, л. 6—7; спр. 2329, л. 9—11, 14; ф. 4п, воп. 5, спр. 2126, л. 8, 68, 69, 71, 79—80, 82, 85—86; спр. 2146, л. 68; спр. 2240, л. 40; спр. 2242, л. 70— 71; спр. 2306, л. 6, 11, 23; спр. 2312, л. 2,7, 30; спр. 6763, л. 6, 13; ф. 30, воп. 5, спр. 2126, л. 7, 68, 70; спр. 6753, л. 2, 4, 38—39, 41; спр. 6760, л. 23; спр. 6763, л. 34—35, 38—39; воп. 9, спр. 2387, л. 29—35.
Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1741, інв. 32, воп. 1; інв. 50, воп. 1.
Акты Виленской археографической комиссии. Т. 8—38. Вильна, 1875—1914.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 1. Вильна, 1867.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 4. Мн., 1979.
Бобровский П. Материалы для географии и статистики России: Гродненская губерния. Ч. 2. СПб., 1863.
Виленский временник. Кн. 5. Ч. 2. Вильна, 1913.
Волович Г.Б. Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. Вильна, 1867.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах Т. 1. Мн., 1936.
Грушевский А.С. Пинское Полесье. XIV—XVI вв.: Исторические очерки. Киев, 1903.
«Запаветы Леніна», 26 студз. 1984 г.
Литовская метрика. Книга публичных дел. Пг., 1915.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі, 1941—44. Мн., 1995.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1875 год. Вильна, 1875.
Памяць: Драгічынскі р-н. Мн., 1997.
Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостой Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 гг. Вильна, 1884.
Русская историческая библиотека. Т. 27. СПб., 1910.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Сообщения Советского Информбюро. Т. 7. М., 1945.
Список землевладельцев Гродненской губернии. Гродно, 1890.
Списки волостей, обществ и селений Гродненской губернии. Гродно, 1870.
Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII ст. Мн., 1978.
Указатель населенным местностям Гродненской губернии. Гродно, 1905.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—3. Мн., 1993—96.




Маштаб 1:250 000



Уезд у г. Жабінка.

# ЖАБІНКАЎСКІ РАЁН

Утвораны 15.1.1940 г. на З Брэсцкай вобл. У склад раёна 12.10.1940 г. ўвайшлі 13 сельсаветаў: Азяцкі, Глыбоцкі, Жабінкаўскі, Рагазнянскі, Радваніцкі, Сакалоўскі, Старасельскі, Стрыганецкі, Сцяброўскі, Сцяпанкаўскі, Сяхновіцкі, Чыжэўшчынскі, Якаўчыцкі. 8.8.1959 г. скасаваны, яго тэр. перададзена Брэсцкаму, Камянецкаму і Кобрынскаму раёнам. 30.7.1966 г. адноўлены. На 1.1.2005 г. ў раёне 98 населеных пунктаў, 8 сельсаветаў: Азяцкі, Жабінкаўскі, Крыўлянскі, Ленінскі, Ракітніцкі, Сцяпанкаўскі, Хмелеўскі, Якаўчыцкі. Пл. 0,7 тыс. км$^2$. Насельніцтва 25,1 тыс. чалавек. Сярэдняя шчыльнасць складае 36,6 чал. на 1 км$^2$. Цэнтр — г. Жабінка. Паўн. частка раёна размешчана ў межах Прыбугскай раўніны, цэнтр. і паўд. часткі займае Брэсцкае Палессе. Сярэдняя тэмпература паветра ў студзені -4,5 °С, у ліпені 18,8 °С. У цэнтр. частцы раёна з У на ПдЗ працякае р. Мухавец з прытокамі Рыта, Трасцяніца, Асіпоўка, Палахва і Жабінка. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя. 58,1% мінеральных глеб супясчаныя, 36,7% пясчаныя і 5,2% суглінкавыя. Якасць ворных зямель складае 40 балаў, кармавых угоддзяў — 22, усіх сельгасугоддзяў — 33 балы. Пад лесам 17% тэр. раёна. Карысныя выкапні складаюцца з Гута-Асоўскага радовішча торфу (10,7 млн. т), радовішча будаўнічых пяскоў Булькова (6,1 млн. м$^3$). Сельская гаспадарка спецыялізуецца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, свінагадоўлі. Вырошчваюць буракі, лён, збожжавыя і бульбу. Прадпрыемствы харчовай (мясныя і хлебабулачныя вырабы, цукар, безалкагольныя напіткі), цукровы з-д, паліўнай (торфабрыкет), будматэрыялаў і камбікормавай прам-сці. Па тэр. раёна праходзяць чыгункі Брэст—Мінск, Брэст—Гомель, аўтадарогі на Брэст, Кобрын, Камянец; нафтаправод «Дружба», транзітныя газаправоды. У 2005 г. ў раёне 9 сярэдніх, 3 базавыя, 4 пачатковыя, муз. школы, 3 садкі-школы, 12 дашкольных устаноў, 22 клубы, 25 б-к, 2 бальніцы, 13 фельч.-акушэрскіх пунктаў, санаторый «Буг». Выдаецца газ. «Сельская праўда».






Будынак чыгуначнага вакзала ў г. Жабінка.



*Помнік польскім партызанам у г. Жабінка.*

**ЖАБІНКА** — горад (з 1970) раённага падпарадкавання, цэнтр Жабінкаўскага р-на, сельсавета і унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі». Размешчаны пры ўпадзенні р. Жабінка ў Мухавец, за 30 км на ПнУ ад Брэста, 324 км ад Мінска, чыг. вузел — лініі на Брэст, Лунінец, Баранавічы. Аўтадарогамі звязаны з Кобрынам, Брэстам і Камянцом. 12,7 тыс. жыхароў (2005). У канцы 18 — пач. 19 ст. хутар у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У апошняй чвэрці 19 ст. каля Жабінкі прайшла чыгунка Масква—Брэст (уведзена ў пастаянную эксплуатацыю 28.11.1871). Пачала дзейнічаць чыг. ст. Жабінка. Побач узнік пасёлак, які значна вырас у 1882 г. пасля будаўніцтва ўчастка Палескіх чыгунак Жабінка—Пінск (135 вёрст, адкрыты 9.11.1882). У 1885 г. пабудавана праваслаўная драўляная Пакроўская царква. У 1892 г. 30 двароў, 282 жыхары, 6 крам, гасцініца, пошта, 3 карчмы, царква. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 332 жыхары. Яўр. насельніцтва складала звыш 40%. У 1902 г. Жабінка ўключана ў межы яўр. аселасці. У пач. 20 ст. ў Жабінцы створаны першыя прам. прадпрыемствы: нафтавы склад для продажу газы, паравы млын, суконная майстэрня і тартак. У 1888—1905 гг. пракладзены тракт Федзькавічы—Жабінка—Камянец. Дзейнічаў Кобрынскі камітэт Усерас. саюза чыгуначнікаў. 15-га дня кожнага месяца праходзілі кірмашы. У 1914 г. ўзведзены касцёл паводле праекта губ. архітэктара Данцова. У час 1-й сусветнай вайны Жабінка акупіравана ў 1915—18 гг. герм., у 1919—20 гг. польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, мястэчка і чыг. станцыя ў Збіражскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 74 двары, 610 жыхароў. З 23.3.1928 г. мястэчка — цэнтр асобнай Жабінкаўскай гміны. У 1933 г. паліцыя ўчыніла жорсткую расправу над жыхарамі, якія адстойвалі свае сервітут-



*Панарама г. Жабінка.*



*Новая лінія на Жабінкаўскім цукровым заводзе.*







Камбікормавы завод у г. Жабінка.

Жабінкаўскія яблыкі.

ныя правы. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр Жабінкаўскага р-на. У 1940 г. 230 двароў, 1830 жыхароў. Працавалі 2 лесапільныя з-ды, 3 млыны, невялікая электрастанцыя пры млыне, 3 хлебапякарні, 7-гадовая школа, агітпункт, Народны дом, пошта, тэлеграф, амбулаторыя, аптэка, ветпункт. З 23.6. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 21.7.1944 г. ў ходзе Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944 г. часцямі 28-й арміі 1-га Бел. фронту. У баях за горад загінулі 249 сав. воінаў і партызан. З 1944 г. пачала выходзіць раённая газ. «Ленінскі пуць». З 16.4.1952 г. гар. пасёлак. З 1956 г. дзейнічае сярэдняя школа. Паводле перапісу 1959 г. 4595 жыхароў. У 1963 г. пасля будаўніцтва цукровага з-да Жабінка пачала хутка разрастацца, да яе сталі далучацца навакольныя вёскі, у тым ліку Абрамавічы, Галінава, Жабіначка, Мышчыцы. У 1969 г. 6,7 тыс. жыхароў. З 23.12.1970 г. горад. У 1989 г. 11,5 тыс. жыхароў. Сучасны горад развіваецца ўздоўж чыгункі, якая падзяляе яго на 2 часткі: паўднёвую (жылую) і паўночную (прамысловую). Арх.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Кірава, Свабоды, Шашэйная, Піянерская, Камсамольская. У цэнтр. частцы вуліцы Кірава размешчаны будынкі адм.-грамадскіх і культ.-асветніцкіх устаноў: райвыканкома, Дома культуры, кінатэатра «Юбілейны», камбіната быт. абслугоўвання, рэстарана «Вясёлка». Да вуліцы Кірава прымыкае мікраараён, які забудоўваецца сучаснымі дамамі. Працуюць 3 сярэднія муз. школы, спецыяльная школа-інтэрнат для дзяцей з пашкоджаннямі зроку, Школа мастацтваў (з 2005), Цэнтр выхаваўчай работы, 5 дашкольных устаноў, 3 б-кі, аддз. сувязі, бальніца, паліклініка, аптэкі. У 1965 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Па вуліцы Камсамольскай размешчана Пакроўская

Пакроўская царква ў г. Жабінка (1885).

Забудова вуліцы Кірава ў г. Жабінка.









*На гарадскім свяце «Дажынкі-2004».*

*Свята «Зажынкі» ў в. Азяты.*

царква — помнік архітэктуры эклектыкі з выкарыстаннем утрыраваных форм класіцызму рэтраспектыўна-рускага стылю. У цэнтры горада — брацкая магіла сав. воінаў і партызан (1975) і помнік воінам-інтэрнацыяналістам (2002). Помнік землякам па вуліцы Калгаснай і падпольшчыкам па вуліцы Бадзяя. Каля гар. могілак магіла ахвяр фашызму (1956) з адноўленай у 1993 скульптурнай групай. Помнік польскім партызанам (1993), забітым у 1943 г., і невядомаму лётчыку, збітаму ў пач. вайны.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 45 км ад Брэста. 50 гаспадарак, 91 жыхар (2005).

Назва вёскі паходзіць ад сац. групы збяднелых сялян, якая склалася ў 16 ст. Паселішча ўзнікла з перасяленцаў агароднікаў з Вяжэцкага двара. Агароднікі атрымлівалі вельмі дробныя надзелы зямлі і былі прыпісаны да работ у маёнтку. У 1557 г. ўваходзілі ў склад Кобрынскай эканоміі. Паводле рэвізіі 1563 г. ў сяле 10 гаспадарак. У 1757 г. ў складзе Вяжэцкага ключа Кобрынскай эканоміі. У 19 ст. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад вотчыннага маёнтка Вежкі, які размяшчаўся за $^1/_4$ вярсты ад вёскі. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы 12 двароў, 77 жыхароў. Належала памешчыцы Тадоры Лабаноўскай. У 1866 г. 106 жыхароў. Цэнтр Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. З 1870-х г. двойчы на год у Агародніках ладзіліся кірмашы. Дзейнічала царква (з 17 ст. называлася Вяжэцкая). Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 180 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня. У 1905 г. 193 жыхары, у Прускай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Прускую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 22 двары, 126 жыхароў. З 1939 г. ў складзе

*Сустрэча благадатнага агню 1.9.2005 г. ў г. Жабінка.*

*На гарадскім свяце.*







БССР. У Вял. Айч. вайну загінулі 42 землякі. З 1959 г. ў Крыўлянскім с/с, 197 жыхароў. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 194 жыхары. У складзе с.-г. прадпрыемства «Вазнясенскі» (цэнтр — в. Вежкі). У 1990—97 гг. ў Агародніках адноўлена царква, 7.11.1997 г. асвячоная мітрапалітам Філарэтам. Каля вёскі брацкая магіла сав. лётчыкаў.

**АЗЯТЫ** — вёска, цэнтр Азяцкага с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 38 км ад Брэста. 226 гаспадарак, 596 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах вядомы як сяленне з 16 ст., шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім пав. ВКЛ. У 1516 г. ўпамінаецца ў прывілеі вял. князя літ. Жыгімонта I Старога, паводле якога Сідар Гайка атрымаў надзел зямлі ў Азятах. Уваходзіла ў Берасцейскае староства ВКЛ. У 1555 г. згодна з прывілеем караля Жыгімонта II Аўгуста праваслаўная Мікалаеўская царква перадавалася Яну Гайку ў забеспячэнне. У 1566 г. ў Азятах 58 валок зямлі, адносілася да Старасельскага войтаўства Палескай вол. Паводле дазволу караля Яна III Сабескага ў 1674 г. створана Азяцкае староства. У сярэдзіне 18 ст. адасобіліся маёнткі Азяты Вялікія, Азяты Засаднікі, Азяты Малыя. У 1795 г. ва ўладанні французскага эмігранта графа Луі дэ Паліньяка, 674 жыхары. У 19 ст. сяло, цэнтр Азяцкага графства ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Маёнтак складаўся з фальварка Азяты і вёсак Бараны і Забалаць. Паводле інвентару 1846 г. ўласнасць памешчыкаў Паўла Шапятоўскага і Вікенція Верашчакі, якія мелі тут 2000 дзес. зямлі. Сялянам належала 478 дзес. зямлі. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмнай сял. хаце, у 1886 г. для яго пабудавана асобнае памяшканне. У 1870 г. цэнтр сельскай грамады і Азяцкай вол. Кобрынскага пав. У 1867—70 гг.



*Пераможца конкурсу «Міс Жабінка 2005».*



*На «Дажынках-2004» у г. Жабінка.*



*Выступленне дзіцячага ансамбля «Карунaчкі» гарадскога Дома культуры.*



*Мікалаеўская царква (1870) у в. Азяты.*

узведзенана новая драўляная праваслаўная Мікалаеўская царква. У 1880 г. 71 двор, 630 жыхароў. Тут размяшчалася валаснoe праўленне, царк.-прыходская школа, піцейны дом. У 1905 г. ў сяле 518 жыхароў, у маёнтках Азяты Каралеўскія Выганоўскіх — 3 і Малыя Азяты Задарноўскіх — 55 жыхароў. У 1921 г. далучаны да Польшчы, цэнтр Азяцкай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. сяло, 66 двароў, 301 жыхар, у 1935 г. — 583 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 723 жыхары. З 12.10.1940 г. цэнтр Азяцкага с/с Жабінкаўскага р-на. У сак. 1940 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавала бальніца. У Вял. Айч. вайну дзейнічаў ням.-фаш. гарнізон, які 25.5. 1943 г. разграмілі партызаны. У сак. 1944 г. гітлераўцы расстралялі 16 вяскоўцаў. 18 жыхароў загінулі на фронце, 9 прапалі без вестак. З 8.8.1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7.1966 г. зноў у Жабінкаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 621 жыхар. У 1970 г. 542 жыхары. Цэнтр унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты». Працуюць сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя і муз. школы, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, ашчадны банк. На ПдУ вёскі размешчана Мікалаеўская царква — помнік нар. дойлідства. На могілках — магіла ахвяр фашызму. Радзіма этнографа, гісторыка і фальклварыста Ю.Ф.Крачкоўскага (яго імем названа вуліца).

*Школа мастацтваў у г. Жабінка.*



**АЛІЗАРАЎ СТАЎ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 35 км ад Брэста. 33 гаспадаркі, 59 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як каралеўская ўласнасць. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1577 г. як с. Алізараў Стаў, яно было месцам, дзе адбываліся традыцыйныя копы (сходы). У 1589 г. тут адбыўся сход, на які з'ехаліся сяляне з навакольных вёсак. У 1678 г. ў суседняй в. Вістычы пабудаваны кляштар каталіцкага манаскага ордэна цыстэрцыянцаў, філіял якога размяшчаўся ў Алізаравым Ставе. У 1787 г. сяло адносілася да маёнтка Аранёва. У 19 ст. цэнтр маёнтка (казённая ўласнасць у Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав.). У склад маёнтка ўваходзілі 4 вёскі: Алізараў Стаў, Канатопы, Падрэчча, Сенькавічы. У 1865 г. 120 рэвізскіх душ. У 1869 г. цэнтр сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 163 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма. Непадалёку ад вёскі размяшчаліся 2 аднайменных выселкі, 3 двары, 25 жыхароў. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. 256 жыхароў. У 1921 г. вёска далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 13 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 2 аднавяскоўцы загінулі на фронце і 1 прапаў без вестак. У 1948—50 гг. ар-





ганізавана калект. гаспадарка, якая ў 1959 г. аб'яднаецца з другімі пад назвай «Іскра» (з 1963 калгас «Усход»). Паводле перапісу 1959 г. 133 жыхары. У 1970 г. 126 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі).

**АРЭПІЧЫ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 50 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па мясцовай, затым аўтадарозе Жабінка—Камянец. 113 гаспадарак, 272 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваюцца 25.4.1509 г. ў прывілеі Жыгімонта І Старога, у якім паведамлялася, што намеснік берасцейскі С.Осцікавіч адсудзіў у паноў Каранеўскіх в. Арэпічы і далучыў яе да велікакняжацкіх зямель. Як сяло згадваецца ў 1577 г. ў час валочнай памеры, цэнтр Арэпіцкага войтаўства ў Камянецкім старостве ВКЛ. Вяскоўцы ўдзельнічалі ў копных судах; так, у 1631 г. былі на капе каля Вяжэцкага моста. З 17 ст. існуе праваслаўная Пакроўская царква (перабудавана ў 1721). У 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Антанін. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1866 г. 31 двор, 316 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1905 г. ў Жыцінскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., 463 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Жыцінскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 14 двароў, 52 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну 14 жыхароў загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. Пры вызваленні вёскі ў ліп. 1944 г. загінуў старшы лейтэнант Ф.Я.Рацюк. У 1947 г. створана с.-г. арцель «30 гадоў Савецкай Беларусі». У 1948 г. арцель увайшла ў калгас, які з 1950 г. называўся імя Леніна, з 1960 г. — «Расія», з 1966 г. — «Перамога». Паводле перапісу 1959 г. 309 жыхароў. У 1970 г. 269 жыхароў. Цэнтр унітарнага с.-г. прадпрыемства «Арэпічы». Працуе магазін, школа-сад, б-ка, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання. Помнік землякам (1990). У школе музей першага дырэктара Брэсцкай рус. гімназіі і Арэпіцкай сярэдняй школы Ц.К.Лася. Радзіма архітэктара Р.Р.Будзько.

**БАБРЫ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 37 км ад Брэста. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як велікакняжацкае ўладанне ў Кобрынскай эканоміі. Узнік-

*Помнік удзельніку вайны ў Афганістане В.М. Дудару ў в. Арэпічы.*



*Р.Р.Будзько.*

*Музей першага дырэктара Брэсцкай рускай гімназіі і сярэдняй школы імя Ц.К.Лася ў в. Арэпічы.*




*В.В.Вашчук.*

ла каля ўзбярэжжа з бабровымі ўгоддзямі. У 19 ст. цэнтр маёнтка, праз які працякала суднаходная р. Мухавец. Маёмасць памешчыкаў Савіцкіх. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 94 сял. душы. Паводле інвентару 1846 г. 5 двароў, 29 жыхароў. Уласнасць памешчыка, тытулярнага саветніка Фелікса Савіцкага. У 1866 г. цэнтр Баброўскай сельскай грамады, 69 жыхароў. У 1905 г. ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 77 жыхароў. Непадалёку ад вёскі размяшчаўся маёнтак, 18 жыхароў. З 1921 г. ў Польшчы, уваходзіла ў Прускую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 5 двароў, 25 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў Мацiевiцкiм с/с, 76 жыхароў. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 38 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Якаўчыцы» (цэнтр — в. Вялікія Якаўчыцы). Каля вёскі — чыг. прыпынак «Бабры».

**БАГДАНЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Жабінкі, 17 км ад Брэста. 28 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

У 19 ст. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Частка вёскі ўваходзіла ў склад маёнтка Янаполь (ён жа Анаполь). Паводле інвентару 1846 г. 11 двароў, 83 жыхары. Маёмасць памешчыка калежскага асэсара Івана Відацкага. У 1870 г. адносілася да Мышчыцкай сельскай грамады. 2-я частка вёскі (75 былых дзярж. сялян) стварылі Багданаўскую сельскую грамаду, у якую ўвайшлі б. казённыя сяляне 6 навакольных вёсак. У 1905 г. вёска ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 417 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 18 двароў, 117 жыхароў. У 1935 г. 67 двароў, 376 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска, 380 жыхароў, у Чыжэўшчынскім с/с. У Вял. Айч. вайну 4 жыхары загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. З 1944 г. працавала пач. школа. У 1959 г. ў вёсцы 268 жыхароў. У 1970 г. ў Рагазнянскім (271 жыхар), з 25.1.1971 г. — у Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі).

**БАГДЗЮКІ** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 22 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 17 км ад Брэста. 24 гаспадаркі, 41 жыхар (2005).

Паселішча Багдзюкі ўпамінаецца ў 16 ст. як самая паўд. частка Белавежскай пушчы ВКЛ. Уваходзіла ў Чарнаўчыцкае графства і з'яўлялася паляўнічым угоддзем. У 19 ст. прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Маёмасць графоў Грабоўскіх. Уваходзіла ў Жыцінскую вол. і была цэнтрам сельскай грамады, якой належала 402 дзес. зямлі. У 1905 г. 338 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, у Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 54 двары, 312 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сакалоўскім с/с Жабінкаўскага р-на. Пасля вайны арганізавана калект. гаспадарка, якая ў лютым 1949 г. ўвайшла ў калгас «Сталінскі шлях». З 16.7.1954 г. ў Сацкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 219 жыхароў. У 1962 г. калгас атрымаў назву «Запаветы Ільіча». У 1970 г. 179 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Хмелеўскім с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Падлессе».

**БАГНЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 8 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 36 км ад Брэста. 20 гаспадарак, 39 жыхароў (2005).

Як сяло згадваюцца ў 16 ст. (шляхецкая ўласнасць пана Лаўрына Здзітаўца). У пісьмовых крыніцах упамінаюцца ў крас. 1589 г., калі сяляне Багноў удзельнічалі ў копным судзе. У 19 ст. прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Здзітавец. Паводле інвентару 1846 г. 15 двароў, 107 жыхароў. Маёмасць паме-



шчыка С.Валынцэвіча. У 1870 г. адносілася да Мацівіцкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 122 жыхары, якім належала 136 дзес. зямлі. Працаваў хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 171 жыхар. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 21 двор, 87 жыхароў. У 1935 г. 144 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сяхновіцкім с/с Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну 2 жыхары загінулі на фронце, 1 прапаў без вестак. З 16.7. 1954 г. ў Мацівіцкім с/с. У 1959 г. 123 жыхары. У 1970 г. 86 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Мацівічы» (цэнтр — в. Мацівічы).

**БАЛЯЎШЧЫНА** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 6 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 36 км ад Брэста. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

Вядома з пач. 20 ст. як пасёлак у Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 18 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1935 г. 9 двароў, 62 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сяхновіцкім с/с Жабінкаўскага р-на. З Вял. Айч. вайны не вярнуліся 4 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Мацівіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары. У 1970 г. ў Крыўлянскім с/с, 71 жыхар. У складзе с.-г. прадпрыемства «Мацівічы».

**БАРАНЦЫ** — вёска ў Азяцкім с/с, за 27 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 38 км ад Брэста. 23 гаспадаркі, 34 жыхары (2005).

У 19 ст. прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Утварылася з 14 сем'яў перасяленцаў з в. Бараны, якіх памешчык Міхайла Верашчака перасяліў на новае месца. Першапачаткова называлася Забалацце-Гайкаўка. Уваходзіла ў склад маёнтка Азяты. Паводле інвентару 1846 г. 10 двароў, 95 жыхароў. Маёмасць памешчыка Вікенція Верашчакі. У 1870 г. вяскоўцы адносіліся да Азяцкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 19 двароў, 174 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Азяцкім с/с. У Вял. Айч. вайну 6 жыхароў загінулі на фронце. У 1959 г. арганізаваны калгас. З 1954 г. ў Кобрынскім,




*Помнік на месцы партызанскіх явак каля в. Баранцы.*



*Лаўрэат 1-га фестывалю народнага мастацтва «Беларусь — мая песня» фальклорны калектыў з в. Баранцы.*

з 30.7.1966 г. ў Жабінкаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 353 жыхары. У 1970 г. 239 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты». Працуюць б-ка, клуб з этнаграфічным музейным пакоем. Фальклорны калектыў з Баранцоў у 1998 г. стаў лаўрэатам 1-га фестывалю нар. мастацтва «Беларусь — мая песня». Кіраўнік калектыву С.Р.Карась — вядомая на Брэстчыне каравайніца. Каля вёскі помнік на месцы партыз. явак.

**БАРАНЫ** — вёска ў Азяцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 53 км ад Брэста. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2005).

У 19 ст. прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Азяты. Паводле інвентару 1846 г. 10 двароў, 95 жыхароў. Маёмасць памешчыка Вікенція Верашчакі. У 1870 г. вяскоўцы адносіліся да Бараноўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 128 жыхароў. У 1905 г. ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 250 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 17 двароў, 83 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Азяцкім с/с, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце, адзін прапаў без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас «Світанак». З 8.8.1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7.1966 г. зноў у Жабінкаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 173 жыхары. У 1970 г. 132 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты».

**БАРЗДЗІЛЫ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 51 км ад Брэста. 13 гаспадарак, 31 жыхар (2005).

У 16—17 ст. называлася Чапялі (Чэпелі). У 18 ст. вядома пад назвай Бурдзілы, цэнтр маёнтка ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. Маёнтак складаўся з фальварка Бурдзілы і в. Чаплі. Належаў князям Чартарыйскім. У 19 ст. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. У 1801 г. маёнтак набыў памешчык Іосіф Сержпутоўскі, у 1819 г. ён адышоў да яго сына Сцяпана. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 126 сял. душ. Працавалі конны млын і карчма, якая здавалася ў арэнду за 30 сярэбраных рублёў. Паводле інвентару 1846 г. ў фальварку 14 сял. двароў. У 1860-я г. ўласнасць Дамеляў, пазней — Чарноцкіх. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак, 2 двары, 19 жыхароў. У 1905 г. вёска ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 13 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1939 г. 122 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Глыбоцкім с/с Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну 1 жыхар загінуў на фронце, 1 прапаў без вестак. З 16.7.1954 г. ў Крыўлянскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 121 жыхар. У 1970 г. 91 жыхар. У складзе с-г. прадпрыемства «Вазнясенскі» (цэнтр — в. Вежкі).

**БАЯРЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 42 км ад Брэста. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У 16 ст. згадваюцца як сяло, заселенае баярамі, шляхецкая ўласнасць у Брэсцкім ваяв. ВКЛ. У 1589 г. належала берасцейскаму падстаросце М.Райскаму. У 1631 г. сяло, уладанне Сапегаў, упамінаецца ў сувязі з дзейнасцю копных судоў, калі ў 1631 г. сяляне Баяр і іншых сумежных вёсак з'ехаліся на капу. У 18 ст. належала Каранеўскім і Чартарыйскім. У 19 ст. прыватная ўласнасць у Пружанскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Гарылкі. Маёмасць памешчыкаў Пржыбораў. У 1870 г. вёска (130 рэвізскіх душ) — цэнтр сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 211 жыхароў, 2 ветракі. Побач з вёскай аднайменная сядзіба, 1 двор, 9 жыхароў. У 1905 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав.



Гродзенскай губ., 241 жыхар. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяв.,16 двароў, 190 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Глыбоцкім с/с Жабінкаўскага р-на, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 6 жыхароў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Крыўлянскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 201 жыхар. У 1970 г. 156 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Надзея-Агра» (цэнтр — в. Крыўляны).

**БУЛЬКОВА** — вёска ў Ракітніцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 44 км ад Брэста. 67 гаспадарак, 135 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 16 ст. як сяленне Булкава (Булькоў), шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім ваяв. ВКЛ. У 1538 г. маёмасць Яна Станіслававіча Кішкі. З 17 ст. ўласнасць графаў Масальскіх, мела статус графства. У 1617 г. ў ахвяравальнай грамаце графа А.Масальскага ўпамінаецца праваслаўная царква. 17.9.1794 г. праз вёску праходзілі паўстанцкія войскі К.Сераkоўскага і рас. палкі А.Суворава. У 19 ст. цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Маёмасць графоў Ажароўскіх. У вайну 1812 г. ў маёнтку жыў кіраўнік Заходняй арміі адмірал П.В.Чычагоў, 26—28.9.1812 г. тут размяшчаліся асн. сілы Зах. рас. арміі. З 1812 г. дзейнічала паштовая станцыя (па колькасці коней была адной з буйнейшых у гэтых мясцінах). У 1816 г. ў маёнтку 531 селянін. Уласнасць памешчыцы Ізабелы Райскай. У 1818 г. маёнтак прыйшоў у заняпад і быў закладзены Радзівілам. Складаўся з 4 фальваркаў: Булькова, Стрыганцы, Ляцавец, Задзерць і 10 вёсак. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 1458 рэвізскіх душ, 11 355 дзес. зямлі. У 1844 г. побач з ім прайшла Маскоўска-Варшаўская шаша.

Паводле інвентару 1846 г. 24 двары, 1999 жыхароў. Працавалі вінакурня, мукамольня. На р. Мухавец дзейнічала



*Успенская царква ў в. Булькова.*

пераправа. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. 20 двароў, 248 жыхароў, царква, школа, вятрак, цэнтр праваслаўнага царк. прыхода. У 1896 г. на месцы старой драўлянай праваслаўнай царквы закладзена новая. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 53 двары, 417 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, кузня, вятрак, карчма. Побач сядзіба (142 жыхары), вінакурня, карчма. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 403 жыхары. Непадалёку знаходзіўся маёнтак, у якім было 188 жыхароў. У 1912 г. адкрыта б-ка. У 1921 г. Булькова далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 41 двор, 283 жыхары. У аднайменным фальварку — 5 двароў, 65 жыхароў.

З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10. 1940 г. вёска ў Стрыганецкім с/с Жабінкаўскага р-на, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінула 9 вяскоўцаў, вёска разрабавана і спустошана, разбурана царква. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Свярдлова. Паводле перапісу 1959 г. 315 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Брэсцкім, з

14.4.1960 г. ў Кобрынскім р-нах. З 1960 г. ў саўгасе «Рагазнянскі». З 21.1.1961 г. ў Рагазнянскім с/с. У 1970 г. ў Пятровіцкім с/с, 250 жыхароў. З 1964 г. ў саўгасе «Беларусь», які ў 1999 г. называўся «Ракітніца». У 1990-я г. Успенская царква адноўлена. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ракітніца».

**БУСНІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 15 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 45 км ад Брэста. 97 гаспадарак, 206 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1664 г. пазначаны як сяльцо пры р. Мухавец у Берасцейскім ваяв. ВКЛ. У 19 ст. вёска, прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Ацячызна. У 1870 г. цэнтр сельскай грамады, 275 рэвізскіх душ. У 1860 г. памешчыкам Іванам Бельскім адкрыта школа для сял. дзяцей. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 532 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 496 жыхароў. У 1911 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1914 г. вучыліся 36 вучняў. Існавала б-ка. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 65 двароў, 265 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У час Вял. Айч. вайны ў 1942 г. карнікі расстралялі 49 вяскоўцаў. 17 жыхароў загінулі на фронце, 2 прапалі без вестак. У 1944—77 гг. працавала пач. школа. Паводле перапісу 1959 г. ў Рагазнянскім с/с, 310 жыхароў. У 1970 г. 317 жыхароў. З 25.1.1971 г. ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі). На вясковых могілках магіла ахвяр фашызму.

**ВАНДАЛІН** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец). 10 гаспадарак, 27 жыхароў (2005).

Заснаваны ў 2-й пал. 19 ст. Вандалінам Пржыборам, маёнтак у Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 15 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 23 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1959 г. ў Мацievіцкім с/с, 76 жыхароў. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 56 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Вазнясенскі» (цэнтр. — в. Вежкі).

**ВЕЖКІ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 3 км ад чыг. паўстанка Якаўчыцы (на лініі Брэст—Баранавічы), 50 км ад Брэста. 46 гаспадарак, 142 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах вядомы пад назвай Вяжэцкі Двор, Вежыца, Вяржэцк. У сярэдзіне 15 ст. цэнтр воласці Кобрынскага княства ВКЛ. У 1513—32 гг. належала кобрынскаму дзяржаўцу Вацлаву Касцевічу. У 1549 г. Вяжэцкаму Двару належалі 11 вёсак, 22 валокі зямлі, карчма. Каля Вяжэцкага моста збіраліся судовыя пасяджэнні сялян (копы), на якія з наваколля з'язджаліся сяляне. З 1757 г. цэнтр Вяжэцкага ключа Кобрынскай эканоміі. Паводле рэвізіі 1816 г. ў маёнтку Вежкі 986 сял. душ (мужчын). Належаў памешчыку Іосіфу Ордзе. З 1825 г. паводле рашэння суда частка Вежак — уласнасць памешчыка Фамы Горскага. Маёнтак (442 дзес. зямлі) складаўся з фальварка Вежкі і в. Стаўпы. Паводле рэвізіі 1833 г. 21 селянін, паводле інвентару 1846 г. 35 сялян. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога ў 1864 г. пабудаваны будынак. У 1870 г. цэнтр сельскай грамады, 127 рэвізскіх душ. Маёнтак належаў памешчыку Шпакоўскаму. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 1 двор, 12 жыхароў, царква, нар. вучылішча, карчма. Побач з сядзібай размяшчаўся маёнтак (3 двары, 10 жыхароў). У 1905 г. сяло (48 жыхароў) і 2 маёнткі (23 жыхары) у Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1921 г. ў Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палес-



кага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Глыбоцкім с/с Жабінкаўскага р-на. З 16.7.1954 г. ў Крыўлянскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 83 жыхары. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 60 жыхароў. Цэнтр с.-г. прадпрыемства «Вазнясенскі». Працуюць пач. школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, клуб, магазін.

**ВУЛЬКА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 17 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 47 км ад Брэста. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2005).

З канца 18 ст. маёнтак Маліноўскіх, потым Шуткоўскіх і Скаўронскіх. У 19 ст. вёска — цэнтр вотчыннага маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., які складаўся з фальварка Вулька і аднайменнай вёскі. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 86 рэвізскіх душ. Паводле інвентару 1846 г. 11 двароў, 77 жыхароў. Маёмасць памешчыцы Фларыяны Трэмбіцкай, якой належала 264,5 дзес. зямлі. У 1870 г. ў вёсцы 14 рэвізскіх душ, адносілася да Філіпавіцкай сельскай грамады. Маёнтак належаў памешчыку Скаўронскаму. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у вёсцы — 59, у маёнтку 21 жыхар. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 41 двор, 283 жыхары. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся фальварак (5 двароў, 65 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Рагазнянскім с/с Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну 8 жыхароў загінулі на фронце, 5 прапалі без вестак. У 1970 г. 85 жыхароў. З 25.1.1971 г. ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі).

**ВЯЛІКІЯ СЯХНОВІЧЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 9 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 39 км ад Брэста. 71 гаспадарка, 155 жыхароў (2005).

Вядомы з 15 ст. У 1458 г. Казімір IV Ягелончык узнагародзіў дробнага шляхціча Фёдара Сяхновіцкага вечным правам на маёнтак Сяхновічы з 2 паселішчамі. У 1509 г. Жыгімонт I Стары пацвердзіў урадавым лістом правы сына Фёдара Касцюшкі Сяхновіцкага на Сяхновічы. Касцюшкі-Сяхновіцкія карысталіся ўласным шляхецкім гербам — «Рох-III», у якім на чырвоным полі размяшчаліся 3 сярэбраныя пласціны і лілея. Уваходзілі ў Камянецкі пав. Трокскага ваяв. З 1520 г. сяло ў Падляшскім ваяв. ВКЛ. Сяхновічы ўпамінаюцца ў перапісе войска Літоўскага ў 1528—67 гг. (Касцюшкі выпраўлялі 3 узброеных вершнікаў). У 1566—1795 гг. у Берасцейскім ваяв. У 1727 г. берасцейскі пісар Павел Касцюшка-Сяхновіцкі адрамантаваў царкву, яго сыны вымушаны былі адмовіцца ад часткі ўладанняў на карысць Чартарыйскіх. Другая частка маёнтка адышла берасцейскаму кашталяну Ю.Быстраму. Сяхновічы былі далучаны да Рэчыцкага ключа. У канцы 18 ст. Касцюшкі з'яўляліся толькі арандатарамі. З 1783 г. арандатарам Сяхновіч быў суддзя Залескі, у сям'і якога паміж 1785 і 1789 гг. шмат разоў гасцяваў адстаўны ген. Тадэвуш Касцюшка. З Рэчыцкага ключа маёнтак Сяхновічы перададзены Ф.Ілаковічу.

У 19 ст. сяло ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. ў маёнтку 153 прыгонныя сям'і. У 1861 г. сяло — цэнтр Сяхновіцкай вол. Тут размяшчалася валаснное праўленне. У 1863 г. адкрылася нар. вучылішча (у 1867 перабудавана). У 1870 г. сяло, 100 рэвізскіх душ (мужчын), цэнтр Сяхновіцкай сельскай грамады, у склад якой уваходзілі 4 вёскі. Маёнтак належаў памешчыку Пржыбору. У 1886 г. сяло — цэнтр Сяхновіцкай вол., 10 двароў, 133 жыхары. Тут размяшчаліся праваслаўная царква, валаснное праўленне, карчма. Паводле перапісу 1897 г. 28 двароў, 146 жыхароў. Працаваў крухмальны з-д. У 1905 г. сяло — цэнтр Сяхновіцкай вол.


Помнік землякам у в. Вялікія Якаўчыцы.


Механізатар М.Дз.Місюра з в. Вялікія Якаўчыцы.

Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 189 жыхароў. У 1912 г. адкрыта 2-е Сяхновіцкае нар. вучылішча, у якім вучыліся 39 хлопчыкаў і 29 дзяўчынак. У 1914 г. працавалі мукамольны і крухмальны з-ды. У 1921 г. далучана да Польшчы, цэнтр Сяхновіцкай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 40 двароў, 214 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. — цэнтр Сяхновіцкага с/с Жабінкаўскага р-на, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 7 жыхароў загінулі на фронце, 1 прапаў без вестак. З 16.7.1954 г. ў Мацеевіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 228 жыхароў. У 1970 г. 336 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Мацеевічы». Працуе клуб. У цэнтры вёскі праваслаўная Мікалаеўская царква — архітэктурны помнік нар. дойлідства з рысамі стылю барока. Радзіма брэсцкага епіскапа І.Жалязоўскага.

**ВЯЛІКІЯ ЯКАЎЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Якаўчыцкага с/с, за 9 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 39 км ад Брэста. 127 гаспадарак, 339 жыхароў (2005).

Упамінаюцца ў 16 ст. як сяло пад назвай Якаўчыцы, каралеўская ўласнасць у Вяжэцкай вол. Кобрынскай эканоміі ВКЛ. У 1563 г. сяло ў Кобрынскай эканоміі, 47 валок зямлі. У 1597 г. сяло — цэнтр Якаўчыцкага войтаўства Вяжэцкай вол., 47 валок зямлі. У 19 ст. вёска ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 257 сялянскіх душ. У 1868 г. цэнтр Якаўчыцкай сельскай грамады. У 1880 г. 49 двароў, 534 жыхары. Працавалі школа, кузня. У 1905 г. ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав., 715 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Прускаўскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 66 двароў, 290 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. 12.10.1940 г. засн. Якаўчыцкі с/с (скасаваны 16.7. 1954). У Вял. Айч. вайну 4 жыхары загінулі на фронце, 7 прапалі без вестак, 18 забіты ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. ў Крыўлянскім с/с, 612 жыхароў. З 15.3.1963 г. цэнтр калгаса «Прамень». У 1970 г. 504 жыхары. Цэнтр с.-г. прадпрыемства «Якаўчыцы». Працуюць камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1967 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. Радзіма сав. разведчыка М.М.Шаўчука, паплечніка Героя Сав. Саюза М.І.Кузняцова.

**ВЯРХІ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 17 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 47 км ад Брэста. 46 гаспадарак, 104 жыхары (2005).

Вядомы з 16 ст. як велікакняжацкая ўласнасць у Камянецкім старостве ВКЛ. У пісьмовых крыніцах упамінаюцца ў 1577 г. ў час валочнай памеры. У 17 ст. вёска адносілася да маёнтка Раснай. У канцы 18 ст. ў складзе маёнтка Антанін, уласнасць памешчыцы К.Міхайлавай, потым Іванова. У 19 ст. ў Жыцінскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Цэнтр сельскай грамады. У 1905 г. 617 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Жыцінскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 42 двары, 170 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с Жабінкаўскага р-на, 456 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 6 жыхароў загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. У 1947 г. арганізаваны калгас «Перамога». Паводле перапісу 1959 г. 316 жыхароў. У 1970 г. 231 жыхар. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Арэпічы». У 1965 г. на



ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск.

**ГАРЭЛКІ** – вёска ў Крыўлянскім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст–Лунінец), 34 км ад Брэста. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў (2005).

У 18 ст. фальварак Рэчыцкага ключа князёў Чартарыйскіх. У 19 ст. вёска – цэнтр маёнтка ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., у склад якога ўваходзілі 3 вёскі. Паводле рэвізіі 1833 г. маёнтку належалі 462 прыгонныя селяніны. Паводле інвентару 1846 г. 11 двароў, 146 жыхароў. Маёмасць памешчыка Пржыбора, цэнтр сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 18 двароў, 147 жыхароў, у сядзібе 1 двор, 5 жыхароў. У 1905 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 134 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы. У 1935 г. 21 двор, 108 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Глыбоцкім с/с. У час Вял. Айч. вайны 2 жыхары загінулі на фронце. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Армія». З 16.7.1954 г. ў Крыўлянскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 155 жыхароў. У 1970 г. 150 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Надзея-Агра» (цэнтр – в. Крыўляны).

**ГАТЧА** – хутар у Азяцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст–Лунінец), 51 км ад Брэста. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2005).

Паселішча ўзнікла ў 20 ст. побач з тарфяным з-дам. У 1959 г. 18 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7.1966 г. ў Жабінкаўскім р-нах. У 1970 г. 9 двароў, 32 жыхары. Пасля выпрацоўкі радовішчаў торфу хутаран перасялілі ў пас. Ленінскі, у якім быў пабудаваны новы торфабрыкетны з-д. У 1998 г. 1 двор, 5 жыхароў. На балотах, што ў наваколлях Гатчы, знойдзены залежы бурштыну. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты».

**ГЛЫБОКАЕ** – вёска ў Крыўлянскім с/с, за 17 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст–Лунінец), 47 км ад Брэста. 72 гаспадаркі, 133 жыхары (2005).



*Сядзіба ў в. Глыбокае.*

У 16 ст. вёска, згадвалася як урочышча ў Брэсцкім ваяв. ВКЛ. Уваходзіла ў склад маёнтка Рэчыца. У 17 ст. маёнтак Глыбокае – маёмасць паноў Пацеяў. У 1632 г. ў арэндзе М.Лазаровіча. У 19 ст. вёска – цэнтр маёнтка ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1811 г. 59 прыгонных сялян (мужчын). Маёнтак належаў памешчыку Роту. У 1866 г. 190 жыхароў, цэнтр сельскай грамады. У 1905 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 387 жыхароў. Непадалёку размяшчаўся аднайменны маёнтак, 16 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяв., 29 двароў, 179 жыхароў. У фальварку 2 двары, 24 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. цэнтр Глыбоцкага с/с, 342 жыхары. У 1940 г. арганізаваны калгас «17 Верасня». У Вял. Айч. вайну 9 жыхароў загінулі на фронце, 2 прапалі без вестак, 18 забіты ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Крыўлянскім с/с. У 1959 г. – 386, у 1970 г. 365 жыхароў. Працавалі пач. школа, бальніца. Вёска ўваходзіць у склад с.-г. прадпрыемства «Надзея-Агра» (цэнтр – в. Крыўляны).

**ГОРКІ** – вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 10 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст–Лунінец), 40 км ад Брэста. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска – цэнтр вотчыннага маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай

губ., які складаўся з фальварка Горкі і аднайменнай вёскі. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 44 рэвізскія душы. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы 1 хата, у якой жылі 4 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. хутар, 1 двор, 14 жыхароў. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 11 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, асада ўваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. ў асадзе 3 двары, 16 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. хутар у Сцяпанкаўскім с/с Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1948—50 гг. арганізавана калект. гаспадарка, якая ў 1959 г. аб'ядналася з другімі гаспадаркамі ў адну пад агульнай назвай «Іскра» (з 1963 наз. «Усход»). Паводле перапісаў 1959 г. на хутары — 31, 1970 г. 21 жыхар. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі).

**ГРАБАЎЦЫ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 13 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец). 48 гаспадарак, 107 жыхароў (2005).

Пасля рэформы 1861 г. цэнтр сельскай грамады. У 20 ст. невялікая вёска ў Жыцінскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 250 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Жыцінскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска і 3 фальваркі, 14 двароў, 84 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Сцяпанкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну 2 жыхары загінулі на фронце, 1 прапаў без вестак. У 1948—50 гг. арганізавана калект. гаспадарка, якая ў 1959 г. аб'ядналася з другімі пад назвай «Іскра» (з 1963 наз. «Усход»). Паводле перапісу 1959 г. 148 жыхароў. У 1970 г. 129 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі). Працуе б-ка.

**ГРЫЦЭВІЧЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 37 км ад Брэста. 50 гаспадарак, 117 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як сяло — шляхецкая ўласнасць у Брэсцкім ваяв. ВКЛ. Уваходзіла ў склад маёнтка Здзітава. У 1589 г. маёмасць Рудольфа Рудніцкага. У 1631 г. Яраш і Аляксандр Здзітавецкія перадалі А.Касцюшку, уладальніку Сяхновіцкага маёнтка, грунты Грыцэвіцкія. З гэтага часу маёнткам Грыцэвічы валодалі Касцюшкі. Упамінаюцца Грыцэвічы ў сувязі з дзейнасцю копных судоў. У 1631 г. сяляне з Грыцэвіч і інш. вёсак з'ехаліся на капу. У 19 ст. вёска — прыватная ўланасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Малыя Сяхновічы. У 1817 г. належала Эсткам. У 1866 г. 184 рэвізскія душы. Аносілася да Сяхновіцкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 28 двароў, 205 жыхароў. У 1905 г. 230 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 11 двароў, 48 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сяхновіцкім с/с Жабінкаўскага р-на. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Куйбышава. З 16.7.1954 г. ў Мацievіцкім с/с. У 1959 г. 42 двары, 219 жыхароў. У 1970 г. 141 жыхар. У складзе с.-г. прадпрыемства «Мацievічы».

**ДЗЯГЛІ** — вёска ў Ракітніцкім с/с, за 6 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 27 км ад Брэста. 41 гаспадарка, 72 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Пятровічы. Паводле інвентару 1846 г. 8 двароў, 71 жыхар. Маёмасць памешчыка Івана Дзякаўскага. У 1870 г. вёска адносілася да Федзькавіцкай сельскай грамады, 68 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 136 жыхароў. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гро-



дзенскай губ., 159 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв.,12 двароў, 64 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Рагазнянскім с/с Жабінкаўскага р-на, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 жыхароў. У 1948 г. арганізаваны калгас. Паводле перапісу 1959 г. 170 жыхароў. З 4.1.1965 г. ў Пятровіцкім с/с Брэсцкага, з 30.7.1966 г. Жабінкаўскага р-наў. У 1970 г. 141 жыхар. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ракітніца».

**ДЗЯМЕНІЧЫ** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 14 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка. 94 гаспадаркі, 182 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1492 г. як сяленне ў ВКЛ. У 1567 г. маёнтак Дзяменічы пазначаны ў перапісе войска Літоўскага ВКЛ. Ён павінен быў выдзяляць для літоўскага войска 20 коней. У 17 ст. фальварак у складзе маёнтка Чарнаўчыцы князёў Радзівілаў. У 1650 г. маёмасць графіні Гротэн. Паводле інвентару 1725 г. ў маёнтку 134 двары, 980 сялян. У 19 ст. цэнтр маёнтка ў Турноўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. ў маёнтак уваходзілі 5 вёсак, цэнтр сельскай грамады. Належаў памешчыцы Баярскай, потым Грабоўскім.

У 1905 г. вёска ў Турноўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., 420 жыхароў. Мелася капліца. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Турноўскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 58 двароў, 368 жыхароў. Непадалёку ад вёскі калонія (10 двароў, 68 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сакалоўскім с/с Жабінкаўскага р-на. У 1940 г. 157 двароў, 743 жыхары. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну 6 жыхароў загінулі на фронце, 2 прапалі без вестак. Пасля вайны арганізавана калект. гаспадарка, якая ў лютым 1949 г. ўвайшла ў калгас «Сталінскі шлях». З 16.7.1954 г. ў Сакскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 602 жыхары. У 1962 г. калгас называўся «Запаветы Ільіча». У 1970 г. 516 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Хмелеўскім с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Падлессе». Радзіма сав. ваеннага дзеяча, героя грамадз. вайны камкора М.Я. Германовіча (яго імем названа вуліца ў Жабінцы), праф. С.С.Куцэвіча.

**ЁЖЫКІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 43 км ад Брэста. 21 гаспадарка, 37 жыхароў (2005).

У 17 ст. належала шляхціцам Ерcalled жыковічам (Ежыковічам). У 19 ст. прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., належала памешчыку Гродскаму. У 1870 г. 85 рэвізскіх душ, адносілася да Філіпавіцкай сельскай грамады. У 1897 г. 20 двароў, 125 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. вёска ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 124 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 26 двароў, 87 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1959 г. ў Рагазнянскім с/с, 105 жыхароў. У 1970 г. 94 жыхары. З 25.1.1971 г. ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі).

*Помнік герою грамадзянскай вайны М.Я. Германовічу ў в. Дзяменічы.*



**ЖЫЦІН** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 11 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 39 км ад Брэста. 38 гаспадарак, 94 жыхары (2005).

У 17 ст. вядомы як шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім старостве ВКЛ. У 1629 г. маёмасць берасцейскага кашталяна Андрэя Масальскага. Паводле рэвізіі 1858 г. 60 рэвізскіх душ. У 1868 г. цэнтр сельскай грамады. У пачатку 20 ст. цэнтр Сяхновіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў сяле — 499, у фальварку, які размяшчаўся побач, 48 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 28 двароў, 236 жыхароў. У 1935—75 гг. працавала пач. школа. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Сцяпанкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну 29.10.1942 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі тут сем'і ваеннаслужачых і сав. актывістаў, абрабавалі іх хаты. Сярод забітых 12 жанчын і 21 дзіця. 6 жыхароў загінулі на фронце, 6 прапалі без вестак. У 1948—50 гг. арганізаваны калгас, які ў 1959 г. аб'яднаўся з другімі пад назвай «Іскра» (з 1963 наз. «Усход»). Паводле перапісаў 1959 г. — 278, 1970 г. 208 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр в. Сцяпанкі). За 1,5 км на З ад вёскі, па дарозе на в. Лясоты, на магіле ахвяр фашызму, што загінулі ў час вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



*Я.І.Ушкар.*

**ЗАДЗЕРЦЬ** — вёска ў Ракітніцкім с/с, за 19 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 46 км ад Брэста. 33 гаспадаркі, 64 жыхары (2005).

У 19 ст. фальварак, прыватная ўласнасць графоў Ажароўскіх у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіў у склад маёнтка Булькова. Паводле рэвізіі 1833 г. ў вёсцы 169 рэвізскіх душ. Паводле інвентару 1846 г. фальварак уключаў аднайменную вёску, якая размяшчалася непадалёку ад яго. Належаў графу Канстанціну Ажароўскаму. У 1870 г. 120 рэвізскіх душ. Вёска адносілася да Бульскоўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 223 жыхары. У 1905 г. вёска ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 255 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 24 двары, 134 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Стрыганецкім с/с Жабінкаўскага р-на, 309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 12 жыхароў, 4 прапалі без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Якуба Коласа, працавала пач. школа (1944—50). З 1951 г. ў калгасе імя Свярдлова. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар. З 8.8.1959 г. ў Брэсцкім, з 14.4.1960 г. ў Кобрынскім р-нах. З 1960 г. ў саўгасе «Рагазнянскі», з 1964 г. ў саўгасе «Беларусь», які з 1999 г. называўся «Ракітніца». У 1970 г. 138 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ракітніца».

**ЗАЛУЗЗЕ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 12 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 42 км ад Брэста. 86 гаспадарак, 181 жыхар (2005).

У 18 ст. вядома як ваколіца маёнтка Багуславічы. У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка, які складаўся з аднайменнага фальварка і вёсак Панцюхі і Залуззе, належаў памешчыкам Савіцкім. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 99 сял. душ. Паводле інвентару 1945 г. 4 двары, 30 жыхароў. Уласнасць памешчыка Антона Савіцкага, якому належалі 360 моргаў зямлі. У 1870 г. вёска адносілася да Баброўскай сельскай грамады. У 1905 г. 191 жыхар, у Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Прускаўскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 16 двароў, 99 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 254 жыхары. У 1944—87 гг. у вёсцы працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну 12 жыхароў загінулі на фронце, 3 прапалі



без вестак. Паводле перапісу 1959 г. ў Маціевіцкім с/с, 192 жыхары. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 123 жыхары. У складзе с.-г. прадпрыемства «Якаўчыцы» (цэнтр — в. Вялікія Якаўчыцы). З 1998 дзейнічае сельскі Дом народнай творчасці. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы Ф.К.Валасюка.

**ЗАМОШАНЫ** — вёска ў Ракітніцкім с/с, за 6 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 26 км ад Брэста. 56 гаспадарак, 110 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаюцца ў 17 ст. ў час будаўніцтва Рагазнянскай праваслаўнай царквы. У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Пятровічы. Паводле інвентару 1846 г. 13 двароў, 123 жыхары. Маёмасць памешчыка Івана Дзяконскага. У 1865 г. ў вёсцы 104 рэвізскія душы, адносілася да Дзяглеўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 188 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 219 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 13 двароў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Рагазнянскім с/с Жабінкаўскага р-на, 200 жыхароў. У час Вял. Айч. вайны 3 жыхары загінулі на фронце, 2 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1959 г. — 170, 1970 г. 169 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ракітніца».

**ЗДЗІТАВА** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 3 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 31 км ад Брэста. 93 гаспадаркі, 244 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. як паселішча Здзітаўцы ў Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У афіцыйных дакументах за 1567 г. Здзітава ўпамінаецца ў перапісе войска Літоўскага. У 1593 г. пазначана як маёнтак — шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У



*Мікітаўская царква (пачатак 16 ст.) у в. Здзітава.*

1631 г. маёмасць пана Калечыцкага, цэнтр Здзітаўскага прыхода. У 1687 г. А.Непакайчыцкі адпісаў царкве землі пры ўпадзенні рэчкі Жабінка ў Мухавец. У сярэдзіне 18 ст. маёнтак арандаваў Людвік Касцюшка, бацька ген. Тадэвуша Касцюшкі. У 1787 г. праваслаўная царква перабудавана. У 19 ст. сяло, цэнтр вотчыннага маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1816 г. 250 жыхароў. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 334 рэвізскія душы. У 1846 г. маёмасць памешчыка Казіміра Скаўронскага. Працавала вінакурня. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 9 двароў, 117 жыхароў, вятрак; побач сядзіба — 31 жыхар. У 1905 г. сяло ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 13 жыхароў. Непадалёку ад сяла размяшчаўся маёнтак (61 жыхар). У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 11 двароў, 97 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. У 1948 г. створаны калгас «Новае жыццё». У 1970 г. 212 жыхароў. У 1998 г. 89 двароў, 261 жыхар; клуб, б-ка. У складзе

унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка). На ўскраіне вёскі размешчана драўляная праваслаўная Мікіцкая царква — архітэктурны помнік нар. дойлідства з рысамі стылю барока.

**ЗЕЛЕНКАЎШЧЫЗНА** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 3 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 27 км ад Брэста. 6 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

Маёнтак Здзітавец—Зеленкаўшчызна вядомы з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1605 г. згадваецца ў дэкрэце берасцейскага падкаморнага суда. Паводле інвентару 1770 г. ў склад маёнтка ўваходзілі вёскі Курпічы і Ханькі. У 19 ст. вёска — цэнтр вотчыннага маёнтка Зеленкаўшчызна ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. (уваходзіла толькі в. Курпічы). У 1816 г. ў маёнтку 100 рэвізскіх душ (мужчын). Паводле рэвізіі 1833 г. ў ім 188 рэвізскіх душ, належаў памешчыкам Ляскоўскім. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 160 сялянскіх душ, 462 дзес. зямлі. У 1870 г. уласнасць памешчыцы Ляпарскай. Вёска адносілася да Рудкоўскай сельскай грамады. Паводле перапісаў 1897 г. — 37, у 1905 г. 13 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 1 двор, 11 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 2 жыхары загінулі на фронце, 1 прапаў без вестак. 27.10.1943 г. каля Зеленкаўшчызны ў баі паміж ням.-фаш. захопнікамі і польскімі партызанамі загінулі 9 партызан (пахаваны на могілках у г. Жабінка). У 1970 г. 11 двароў, 34 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка).

**КАНАТОПЫ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 42 км ад Брэста. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У 16 ст. вядомы як сядзіба, шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў інвентары 1604 г. У 1632 г. вёску купіў за 1000 злотых Ян Касцюшка. У 1656 г. ў складзе маёнтка Сяхновічы. У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Шпіталі. Паводле інвентару 1846 г. маёмасць памешчыка Карла Нарбута. У 1858 г. частка вёскі з 71 сялянамі ўваходзіла ў маёнтак Шпіталі, другая частка (48 рэвізскіх душ адносілася да казённага маёнтка Алізараў Стаў. Пасля 1861 г. паводле ўстаўнай граматы 1-я частка вёскі атрымала вольную, 2-я на працягу 10 год павінна была выконваць павіннасці на карысць дзяржавы. У 1897 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 59 двароў, 413 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 236 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 16 двароў, 88 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 1 жыхар загінуў на фронце, 2 прапалі без вестак. З 1944 г. працавала пач. школа. У 1948—50 гг. арганізаваны калгас, які ў 1959 г. аб'яднаўся з другімі пад назвай «Іскра» (з 1963 наз. «Усход»). Паводле перапісу 1959 г. 126 жыхароў. У 1970 г. 93 жыхары. У складзе ўнітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі).

**КАРАНЁВА** — хутар у Крыўлянскім с/с, за 12 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка, 43 км ад Брэста. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

Паселішча вядома з 15 ст. як уладанне Тышковічаў-Каранёўскіх, Мажэйкаў і Пацеяў. Упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца 1.5.1528 г. У 1534 г. першы значны падзел маёнтка, які неўзабаве (з 1577) апынуўся ў супольным уладанні Якрынічаў, Чаплічаў і Сяліцкіх. У 17 ст. ўласнікамі маёнтка былі Каранеўскія, Сапегі, Пацеі і Непакойчыцкія. У канцы 16 — сярэдзіне 17 ст. ў Каранёве пабудаваны замак князёў



Чартарыйскіх (часам наз. Крыўлянскім замкам, разбураны ў 20 ст.). З канца 19 ст. маёнтак Каранёва-Юркаўшчызна ці Красналескі патрапіў да Бабінскіх, меў 138,5 дзес. зямлі.

**КАРДЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 9 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 39 км ад Брэста. 147 гаспадарак, 382 жыхары (2005).

У 19 ст. невялікая вёсачка, прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1811 г. падзелена паміж К.Пржыборам, Я.Тарчэўскім, І.Задарноўскім і Каранёўскімі. У 1813 г. паводле купчай крэпасці ўласнасць памешчыка Антона Ляскоўскага. Адносілася да маёнтка Папротна, які знаходзіўся за 0,25 вярсты ад вёскі. Паводле інвентару 1846 г. 2 двары, 8 жыхароў, маёмасць памешчыка Сцяпана Ляскоўскага. У 1870 г. ў вёсцы 173 рэвізскія душы. З'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 263 жыхары, хлебазапасны магазін, кузня. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 419 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяводства. У 1935 г. 45 двароў, 284 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сяхновіцкім с/с Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Мацiевіцкім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. — 187, 1970 г. 134 жыхары. У складзе с.-г. прадпрыемства «Мацiевічы». На паўд.-зах. ускраіне помнік землякам, расстраляным ням.-фаш. захопнікамі 20.5. 1942 г. Каля фермы «Карды» захаваліся рэшткі старога парка.

**КРЫЎЛЯНЫ** — вёска, цэнтр Крыўлянскага с/с, за 13 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 43 км ад Брэста. 147 гаспадарак, 382 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаюцца ў 1589 г. як сяло, маёмасць Ф.Пацея. У дакументах Крыўляны называліся Крывой вуліцай, адносіліся да Каранёўскага маёнтка. У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1812 г. належала кн. Адаму Чартарыйскаму. У 1833 г. ў складзе маёнтка Гарэлкі. Паводле інвентару 1846 г. 36 двароў, 234 жыхары. Маёмасць памешчыка Пржыбора. У 1866 г. цэнтр Крыўлянскай сельскай грамады, 211 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 51 двор, 340 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня, карчма. Побач з вёскай знаходзіўся выселак, 1 двор, 8 жыхароў, 2 ветракі. У 1905 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 441 жыхар. У 1921 г. далучаны да Польшчы, уваходзілі ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1935 г. 64 двары 369 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Глыбоцкім с/с Жабінкаўскага р-на. У час Вял. Айч. вайны 8 жыхароў загінулі на фронце, 2 прапалі без вестак. З 16.7.1954 г. вёска — цэнтр Крыўлянскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 360 жыхароў. У 1970 г. 289 жыхароў. Цэнтр с.-г. прадпрыемства «Надзея-Агра». Працуюць Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Радзіма дзеяча міжнароднага прафс. руху З.З.Кавальчука.

**КУРПІЧЫ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 3 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 33 км ад Брэста. 48 гаспадарак, 105 жыхароў (2005).

Вядомы з 17 ст. як шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1680 г. маёмасць Я.Непакойчыцкага і С.Бзоўскага. Паводле інвентару 1770 г. вёска ўваходзіла ў маёнтак Здзітавец-Зеленкаўшчызна, належала Касцюшкам, Дзванкоўскім, Ляпарскім. У 19 ст. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Зеленкаўшчызна. Паводле інвентару 1846 г. 19 двароў, 170 жыхароў, маёмасць памешчыкаў Ляскоўскіх. У 1870 г. ў вёсцы 135 жыхароў. У 1897 г. вёска далучана да Мышчыцкай сельскай грамады. У



*Дуб-волат у парку Ацячызна ў пас. Ленінскі.*

1905 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 240 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 14 двароў, 104 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 5 жыхароў загінулі на фронце, 1 памёр ад ран, 3 прапалі без вестак. У 1970 г. 11 двароў, 34 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка).

**ЛЕНІНСКІ** — пасёлак, цэнтр Ленінскага с/с, за 12 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 42 км ад Брэста. 718 гаспадарак, 1777 жыхароў (2005). Пасёлак пачаў забудоўвацца ў 1968 г. каля шашы Масква—Брэст. 25.1.1971 г. перайменаваны ў Ленінскі. Тут размясціліся цэнтр сельсавета і цэнтр. сядзіба с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі». Працуюць торфабрыкетны і спіртавы з-ды, сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад, дзіцячы сацыяльны прытулак (з 2005), фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі, ашчадны банк, камбінат быт. абслугоўвання. У 2005 г. на базе пас. Ленінскі створаны першы на Жабінкаўшчыне аграгарадок. Каля шашы Брэст—Мінск помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У стараж. парку Ацячызна знаходзіцца 600-гадовы дуб.

**ЛІСКІ** — хутар у Азяцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (1998).

Утвораны ў 1920-я г. У Вял. Айч. вайну хутар быў адным з месцаў дыслакацыі партыз. атрада імя М.Чарнака.

**ЛОЙКІ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 39,5 км ад Брэста. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

У 17 ст. згадваюцца як спрэчная зямля Касцюшкаў і Каранёўскіх. У 2-й пал. 18 ст. Касцюшкі перадавалі вёску князям Чартарыйскім. У 19 ст. прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Шпіталі. Паводле інвентару 1846 г. 24 двары, 121 жыхар. Маёмасць памешчыка Карла Нарбута. У 1870 г. 32 рэвізскія душы. Вёска адносілася да Сяхновіцкай сельскай грамады. У 1897 г. 7 двароў, 119 жыхароў, у Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 77 жыхароў. У 1921 г. вёска далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 5 двароў, 22 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. — 49, 1970 г. 28 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі).

**ЛЯСОТЫ** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 14 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 41 км ад Брэста. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У 16 ст. ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. Уваходзілі ў склад маёнтка Чарнаўчыцы. У 1660 г. маёмасць графіні Л.М.Гротэн. У 19 ст. тут жылі аднадворцы. Паводле перапісу 1897 г. ваколі-



ца ў Турноўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., 24 двары, 144 жыхары. У 1905 г. вёска, 361 жыхар. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Турноўскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ваколіца, 22 двары, 120 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Сакалоўскім с/с Жабінкаўскага р-на. У 1940 г. 46 двароў, 412 жыхароў. Пасля вайны арганізаваны калгас, які ў лютым 1949 г. ўвайшоў у калгас «Сталінскі шлях» (у 1962 наз. «Запаветы Ільіча»). З 16.7. 1954 г. вёска ў Сацкім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. — 132, 1970 г. — 98 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Хмелеўскім с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Падлессе».

**МАЖЭЙКІ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 44 км ад Брэста. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2005).

Заснаваны каля сярэдзіны 16 ст. як уласнасць Мажэйкаў. У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Пружанскім пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка Селішча. Паводле інвентару 1846 г. 16 двароў, 123 жыхары, маёмасць памешчыцы Севярыны Верашчакавай. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскай грамады ў Мураўёўскай вол., 171 жыхар. Існавала каталіцкая капліца. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 258 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1905 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 300 жыхароў. У 1910 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1913 г. навучаліся 28 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. У 1921 г. далучана да Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 24 двары, 110 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Глыбоцкім с/с Жабінкаўскага р-на. У час Вял. Айч. вайны 5 жыхароў загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. З 16.7. 1954 г. да 13.10.1961 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. 154 жыхары. У 1970 г. 80 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Надзея-Агра» (цэнтр — в. Крыўляны). Працуюць базавая школа, б-ка.



*Аднаўленая капліца на вясковых могілках у в. Малыя Сяхновічы.*

**МАЛЫЯ СЯХНОВІЧЫ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 37 км ад Брэста. 42 гаспадаркі, 82 жыхары (2005).

Малыя Сяхновічы ўзніклі ў 16 ст. Канчаткова адасобіліся ад Вялікіх Сяхновічаў у 1-й чвэрці 17 ст. Каля 1620 г. ўладар маёнтка Я.Р.Касцюшка заснаваў тут сямейную капліцу, у якой амаль 150 год хавалі яго нашчадкаў. Пасля яго смерці ўладарыў яго сын Стафан (да 1652), які прадаў маёнтак М.Целяціцкаму. З 1656 г. зноў ім валодалі Касцюшкі. У 1775 г. маёнтак адышоў да Ганны Касцюшкі і яе мужа П.Эсткі. У Малых Сахновічах правёў дзіцячыя гады Тадэвуш Касцюшка (некаторыя гісторыкі лічаць, што ён тут нарадзіўся). Сюды ён вярнуўся з ЗША і жыў паміж 1785 і 1789 гг. У канцы 18 ст. адбыўся пажар, які знішчыў сядзібу, капліцу і гасп. пабудовы. 4.2.1817 г. Т.Касцюшка сваім тэстаментам вызваліў сялян з Сяхновічаў ад прыгоннага права. У 19 ст. фаль-

варак — прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., у склад якога ўваходзіла в. Сяхновічы, якая знаходзілася за $^1/_4$ вярсты ад фальварка. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 18 двароў, 156 жыхароў. Маёмасць губернскага сакратара Рамана Эсткі, які меў тут 551 морг зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 146 жыхароў. У 1899 г. пачаў працаваць млын.

У 20 ст. вёска ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1912 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1914 г. навучаліся 64 вучні. У жн. 1915 г. спалена адступаючымі рас. войскамі. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 14 двароў, 97 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце. У 1948—50 гг. арганізаваны калгас, які ў 1959 г. аб'яднаўся з другімі пад назвай «Іскра» (з 1963 наз. «Усход»). Паводле перапісу 1959 г. 155 жыхароў. У 1970 г. 189 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі). Працуе базавая школа. У 1988 г. каля яе будынка пастаўлены помнік Т.Касцюшку (створаны мясц. архітэктарам А.Відоцкай). Захаваліся рэшткі стараж. парку. У 2002 г. ў Сяхновіцкай школе адкрыты мемарыяльны пакой Т.Касцюшкі.

**МАЛЫЯ ЯКАЎЧЫЦЫ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 42 км ад Брэста. 34 гаспадаркі, 74 жыхары (2005).

Заснаваны перасяленцамі з в. Вялікія Якаўчыцы. Першапачаткова ўтварыўся шэраг хутароў, што і было пачаткам новай вёскі. З 12.10.1940 г. ў Глыбоцкім с/с Жабінкаўскага р-на. З 16.7.1954 г. ў Крыўлянскім с/с. У 1998 г. 35 двароў, 80 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Вазнясенскі» (цэнтр — в. Вежкі). На Пд ад вёскі знаходзіцца чыг. прыпынак «Якаўчыцы».

**МАЦІЕВІЧЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 7 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 37 км ад Брэста. 110 гаспадарак, 343 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваюцца ў 16 ст. як уласнасць Бернатовічаў, Фядзюшкаў, Багушэвічаў-Здзітавецкіх. У 1580 г. пазначаны ў актах Брэсцкага гродскага суда як с. Маціевічы. Упамінаюцца Маціевічы і ў сувязі з дзейнасцю копных судоў (у 1631 сяляне з Маціевіч і інш. вёсак з'ехаліся на капу). У 1-й чвэрці 18 ст. Касцюшкамі пабудавана драўляная праваслаўная царква святога Іаана Хрысціцеля. У 19 ст. сяло — прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Плошча. Паводле інвентару 1846 г. 19 двароў, 186 жыхароў, маёмасць памешчыка Трэмбіцкага. У 1863 г. перабудавана праваслаўная царква. У 1866 г. ў сяле налічваліся 172 рэвізскія душы, з'яўлялася цэнтрам Маціевіцкай сельскай грамады. У 1886 г. ў Сяхновіцкай вол., 19 двароў, 224 жыхары. Працавалі піцейны дом, мукамольня А.Адамкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 197 жыхароў, вятрак, царква, хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 212 жыхароў. У 1914 г. працавалі 3 мукамольныя з-ды. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 27 двароў, 120 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. — 250, у 1970 г. 193 жыхары. Цэнтр с.-г. прадпрыемства «Маціевічы». Працуюць базавая школа, б-ка, магазін. На ўсх. ускраіне вёскі на могілках размешчана царква святога Іаана Хрысціцеля — помнік драўлянага нар. дойлідства. На Пд ад вёскі знаходзіцца чыг. прыпынак «Маціевічы».

**МАЦЯСЫ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 48 км ад Брэста. 57 гаспадарак, 128 жыхароў (2005).



Вядомы з 16 ст. як вёска Церабесы ў Кобрынскай эканоміі ВКЛ. У 1698 г. ў Стаўпоўскім войтаўстве, адносілася да Вяжэцкага ключа. У 19 ст. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. Адна частка вёскі ўваходзіла ў склад маёнтка Вежкі, які знаходзіўся за 2,5 вярсты ад вёскі. Паводле інвентару 1845 г. 6 двароў, 61 жыхар. Другая частка (у 1858 124 сял. душы) уваходзіла ў маёнткі Краснік і Франаполь. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 351 жыхар, валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін, кузня. Побач сядзіба ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 1 двор, 8 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы. З'яўлялася цэнтрам Мацясоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 58 двароў, 331 жыхар. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 2 жыхаркі загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. ў Крыўлянскім с/с, 339 жыхароў. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 255 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Вазнясенскі» (цэнтр — в. Вежкі).

**МЕЛЬНІКІ** — хутар у Азяцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 45 км ад Брэста. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

Паселішча згадваецца з 18 ст. У 1794 г. праз яго праходзіў шлях паўстанцкіх войск К.Серакоўскага. У 19 ст. фальварак, у Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., належаў памешчыкам Выганоўскім. У 1905 г. 33 жыхары. У 1921 г. далучаны да Польшчы, уваходзіў у Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 1 двор, 12 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Азяцкім с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты».

**МЕЛЯШЫ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 14 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 44 км ад Брэста. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Жыцін. Паводле рэвізіі 1858 г. налічвалася 60 рэвізскіх душ, маёмасць памешчыка Пфафіуса. У 1870 г. адносілася да Жыцінскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 112 жыхароў. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 14 будынкаў, 70 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну загінулі 2 жыхары. У 1948—50 гг. арганізаваны калгас, які ў 1959 г. аб'яднаўся з другімі пад назвай «Іскра» (з 1963 наз. «Усход»). Паводле перапісу 1959 г. хутар, 31 жыхар. У 1970 г. 43 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі).

**МЫШЧЫЦЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 25 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 55 км ад Брэста. 36 гаспадарак, 65 жыхароў (2005).

Мясцовасць, дзе зараз размешчана вёска, асвойвалася людзьмі з стараж. часоў. За 0,4 км на Пд ад вёскі, побач з могілкамі, на нізкай пойме правага берага р. Трасцяніца, ва ўрочышчы Кружкі, выяўлены курганны могільнік (12 насыпаў). У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., які складаўся з фальварка Мышчыцы і аднайменнай вёскі. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 25 рэвізскіх душ. Паводле інвентару 1846 г. 3 двары, 19 жыхароў. Маёмасць памешчыцы Марыі Пугач, якая мела больш за 79 дзес. зямлі. У 1870 г. 198 рэвізскіх душ, цэнтр сельскай грамады. Маёнтак належаў памешчыку Відацкаму. У 1886 г. 24 двары, 272 жыхары, прыпісная Успенская царква (цяпер не існуе). Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 141 жыхар, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, вятрак, царква. У 1905 г. сяло і 3 маёнткі ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 364 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы,

уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 12 двароў, 66 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 379 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас. З 25.1.1971 г. вёска ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі).

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 37 км ад Брэста. 36 гаспадарак, 107 жыхароў (2005).

Вядомы з 18 ст. як цэнтр маёнтка, якому належалі 2 вёскі — Навасады і Пшанаі. У 1749 г. маёнтак — уласнасць Ю.Непакойчыцкага. У 19 ст. вёска ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыкаў Пржыбораў. У 1866 г. 79 жыхароў. Маёнтак належаў Карлу Пржыбору. Вёска адносілася да Рачкаўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 157 жыхароў, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1905 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 189 жыхароў. Непадалёку знаходзіўся аднайменны маёнтак, у якім было 18 жыхароў. У 1921 г. вёска далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 24 двары, 168 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 3 жыхары, 4 прапалі без вестак. У 1970 г. 11 двароў, 34 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка). Працуе гідравузел № 9.

**НАГАРАНЫ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 6 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 38,5 км ад Брэста. 15 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска, прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Рачкі. Паводле інвентару 1846 г. ў вёсцы 6 двароў, 44 жыхары. Маёмасць памешчыка Юсціяна Седлікоўскага. У 1870 г. 74 рэвізскія душы, уваходзіла ў Рачкаўскую сельскую грамаду. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 117 жыхароў. У 1905 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 34 жыхары. У 1908 г. каля вёскі знаходзілася чыг. будка. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 46 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У час Вял. Айч. вайны 2 жыхары прапалі без вестак. У 1970 г. 73 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка). Каля вёскі знаходзіцца чыг. прыпынак «Нагараны».

**НАЛЕЗНІКІ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 15 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 43 км ад Брэста. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2005).

У канцы 18 ст. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ., прыватная ўласнасць князёў Чартарыйскіх. Уваходзіла ў склад маёнтка Селішча. Паводле інвентару 1846 г. 12 двароў, 109 жыхароў, маёмасць памешчыцы Севярыны Верашчакавай. У 1866 г. ў вёсцы 95 жыхароў. Уваходзіла ў Мураўёўскую вол. і з'яўлялася цэнтрам Налезнянскай сельскай грамады. У 1897 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 22 двары, 137 жыхароў. У 1905 г. 183 жыхары. У 1921 г. вёска далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 8 двароў, 49 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с, 200 жыхароў. У 1947 г. створана с.-г. арцель «Зара», якая ў 1948 г. ўвайшла ў калгас імя Леніна (у 1960 наз. «Расія», з 1966 г. — «Перамога»). Паводле перапісаў 1959 г. — 93, 1970 г. 104 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Арэпічы». Радзіма доктара медыцынскіх навук праф. Р.П.Шораха.

**НОВЫЯ ДВОРЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 4 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі



Брэст—Лунінец), 34 км ад Брэста. 22 гаспадаркі, 52 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваюцца з сярэдзіны 18 ст. У 19 ст. вядомы як фальварак у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., які адносіўся да маёнтка Малыя Сяхновічы. У 1866 г. 124 жыхары, цэнтр сельскай грамады ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. маёнтак, 38 жыхароў. У 1921 г. далучаны да Польшчы, уваходзілі ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў фальварку 9 двароў, 67 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісу 1959 г. 53 жыхары. У 1970 г. 87 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Маціевічы».

**ПАДЛЕССЕ** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 32 км ад Брэста. 147 гаспадарак, 399 жыхароў (2005).

З 17 ст. вядома як фальварак Дземянковічы ў складзе маёнтка Чарнаўчыцы. У 1650 г. маёмасць графіні Л.М.Гротэн. У 18 ст. вёска ўваходзіла ў склад маёнтка Дзяменічы, належала памешчыцы Баярскай. Паводле рэвізіі 1858 г. 420 сял. душ. У 1905 г. ў Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., 784 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Турнянскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 60 двароў, 345 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сакалоўскім с/с Жабінкаўскага р-на. У 1940 г. 132 двары, 921 жыхар, пач. школа. У Вял. Айч. вайну 11 жыхароў загінулі на фронце. Пасля вайны арганізаваны калгас імя Суворава, які ў 1947 г. быў рэарганізаваны ў калгас імя Дзяржынскага, у лютым 1949 г. калгас узбуйніўся і стаў называцца «Сталінскі шлях», з 1962 г. — «Запаветы Ільіча». З 16.7. 1954 г. ў Сацкім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. — 508, 1970 г. 500 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Хмелеўскім с/с. Цэнтр унітарнага с.-г. прадпрыемства «Падлессе». Працуе Дом культуры, б-ка, базавая школа. У 1967 г. на ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у скверы пастаўлены абеліск.

**ПАДРЭЧЧА** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 38 км ад Брэста. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

З пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як маёмасць каталіцкага манаскага ордэна цыстэрцыянцаў. У 18 ст. адносілася да Рэчыцкага ключа, уласнасць князёў Чартарыйскіх. У 19 ст. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Селішчы. Паводле інвентару 1846 г. 3 двары, 22 жыхары, маёмасць памешчыцы Севярыны Верашчакавай. Пасля рэформы 1861 г. падзелена на 2 часткі: адна адышла да Сцяпанкаўскага таварыства Сяхновіцкай вол. (24 жыхары), другая частка ўваходзіла ў казённы маёнтак Алізараў Стаў (64 жыхары). Паводле перапісу 1897 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 12 двароў, 122 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 6 двароў, 34 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с. Паводле перапісаў 1959 г. — 68, 1970 г. 73 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Арэпічы».

**ПАЛЯВАЯ РЭЧЫЦА** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 23 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 53 км ад Брэста. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У 19 ст. вядома як частка маёнтка Рэчыца (цяпер Камянецкі р-н). Пазней далучана да маёнтка Антанін. У 1890 г. ўласнасць памешчыцы Лышчынскай, якая мела 1908 дзес. зямлі. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Жыцінскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 25 двароў, 125 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне





вёскі загінулі 10 сав. воінаў і партызан. У 1947 г. створана с.-г. арцель імя Горкага, якая ў 1948 г. ўвайшла ў калгас (з 1950 наз. імя Леніна, з 1960 — «Расія», з 1966 — «Перамога»). Паводле перапісаў 1959 і 1970 гг. 134 жыхары. У складзе ўнітарнага с.-г. прадпрыемства «Арэпічы». У 1969 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлена стэла.

**ПАНЦЮХІ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 6 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 36 км ад Брэста. 45 гаспадарак, 93 жыхары (2005).

У 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Здзітава. У 1736 г. ўласнасць паноў Скаўронскіх. У 19 ст. прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Здзітава. Паводле інвентару 1846 г. 11 двароў, 112 жыхароў, маёмасць памешчыка Казіміра Скаўронскага. У 1870 г. адносілася да Баброўскай сельскай грамады, 140 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 218 жыхароў. У 1905 г. ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 223 жыхары. У 1921 г. Панцюхі далучаны да Польшчы, уваходзілі ў Прускаўскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 53 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 2 жыхары загінулі на фронце, адзін прапаў без вестак. Паводле перапісу 1959 г. ў Маціевіцкім с/с, 217 жыхароў. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 194 жыхары. У складзе с.-г. прадпрыемства «Якаўчыцы» (цэнтр — в. Вялікія Якаўчыцы).

**ПЕРАЛУМ'Е** — вёска ў Азяцкім с/с, за 24 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 53 км ад Брэста. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2005).

У 20 ст. ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 12 двароў, 74 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Азяцкім с/с. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце, 5 прапалі без вестак, 8 забіты ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новая Ніва». З 8.8. 1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7.1966 г. зноў у Жабінкаўскім р-нах. Паводле перапісаў 1959 г. — 139, 1970 г. 87 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты».

**ПРУСКА** — вёска ў Якаўчыцкім с/с за 10 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 40 км ад Брэста. 61 гаспадарка, 148 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1534 г. ўпамінаецца як маёмасць І.Чахевіча. У сярэдзіне 15 ст. велікакняжацкае ўладанне ў Вяжэцкай вол. Кобрынскага староства. Паводле рэвізіі 1563 г. сяло ў Кобрынскай эканоміі, 50 валок зямлі. Пад 1577 г. пазначана ў актах Брэсцкага гродскага суда. Паводле інвентару Кобрынскага староства 1597 г. сяло ў Якаўчыцкім войтаўстве, 50 валок зямлі. Упамінаецца Пруска ў сувязі з дзейнасцю копных судоў (у 1631 сяляне Прускі і інш. вёсак з'ехаліся на капу). З 1757 г. ў складзе Вяжэцкага ключа Кобрынскай эканоміі. У 19 ст. цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Маёмасць памешчыка Іосіфа Савіцкага, які валодаў 305 дзес. зямлі. Маёнтак складаўся з аднайменных фальварка і вёскі. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 73 рэвізскія душы. Паводле інвентару 1846 г. 9 двароў, 78 жыхароў. У 1870 г. цэнтр воласці, 233 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 327 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. цэнтр Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 372 жыхары. У 1913 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1914 г. вучыліся 47 вучняў. У 1921 г. далучана да Польшчы, цэнтр Прускаўскай



гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 27 двароў, 116 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 11 жыхароў загінулі на фронце і 2 прапалі без вестак. У 1959 г. ў Маціевіцкім с/с, 410 жыхароў. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 410 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Якаўчыцы» (цэнтр — в. Вялікія Якаўчыцы).

**ПШАНАІ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 37 км ад Брэста. 31 гаспадарка, 84 жыхары (2005).

Вядома вёска з 18 ст., уваходзіла ў склад маёнтка Навасады. У 1749 г. уласнасць Ю.Непакойчыцкага. У 19 ст. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., маёмасць памешчыкаў Пржыбораў. У 1870 г. налічваўся 61 прыгонны селянін. Адносілася да Рачкаўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 95 жыхароў. У 1905 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 103 жыхары. 1.10.1908 г. адкрыта нар. вучылішча, для якога ў наступным годзе пабудаваны будынак. У 1921 г. вёска далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 15 двароў, 109 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 1 жыхар загінуў на фронце. У 1950 г. арганізаваны калгас «Свабодная праца». У 1970 г. 106 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка). Працуюць пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Радзіма доктара матэматычных навук, праф. Я.Р.Завулічнага.

**ПЯТРОВІЧЫ** — вёска ў Ракітніцкім с/с, за 10 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 23 км ад Брэста, на шашы Брэст—Мінск. 50 гаспадарак, 114 жыхароў (2005).

Упамінаюцца ў 16 ст. ў Берасцейскім старостве і ваяв. ВКЛ. У 1567 г. згадваюцца ў перапісе войска Літоўскага. Пад 1577 і 1580 гг. ў актах Брэсцкага гродскага суда пазначаны як сяло і маёнтак. У 1632 г. маёнтак Пятровічы, уладанне паноў Залескіх. З 1741 г. уласнасць Дзяконскіх. У 19 ст. вёска пры р. Мухавец, цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. ў маёнтку 112 сял. душ мужчынскага полу, маёмасць памешчыкаў Дзяконскіх. Маёнтак складаўся з 3 фальваркаў: Пятровічы, Каралін, Палубочкі і 6 вёсак. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 623 рэвізскія душы. З 1844 г. пасля пракладкі Маскоўска-Варшаўскай шашы адкрыта паштовая станцыя. Паводле інвентару 1846 г. маёмасць Ажароўскіх, якім належала 1995 дзес. зямлі. Працавалі вінакурня (прыбытак з якой складаў 240 руб.), 4 карчмы. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба і фальварак (98 жыхароў), карчма, б. паштовая станцыя.



*Алені ў Пятровіцкім лесе.*

У 1905 г. вёска ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 104 жыхары. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся аднайменны пасёлак, у якім жылі 16 чал.; на б. паштовай станцыі — 4

жыхары. У 1921 г. вёска далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. ў фальварку 7 двароў, 68 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Стрыганецкім с/с Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1942 г. ням.-фаш. акупанты загубілі 30 жыхароў. У 1950 г. ў вёсцы створана МТС, пабудаваны майстэрня, клуб, жылыя дамы. У 1957 г. МТС рэарганізавана ў РТС, с.-г. тэхніка перададзена калгасам. У сакавіку 1960 г. на базе РТС арганізаваны саўгас «Рагазнянскі», які ў 1964 г. падзяліўся на 2 саўгасы — аднайменны (цэнтр — пас. Ленінскі) і «Беларусь». З гэтага часу цэнтр. сядзіба саўгаса «Беларусь» размясцілася ў Пятровічах. З 4.1.1965 г. цэнтр Пятровіцкага с/с Брэсцкага, з 30.7.1966 г. Жабінкаўскага р-наў. У 1970 г. 100 жыхароў. З студз. 1999 г. цэнтр сельсавета перанесены ў Ракітніцу, адначасова саўгас атрымаў назву «Ракітніца». Працуюць клуб, б-ка, механічная і швейная майстэрні, лясніцтва, аддз. сувязі, магазін. Радзіма паэта А.М.Дзяконскага.

**РАГОЗНА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 10 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 42 км ад Брэста. 67 гаспадарак, 120 жыхароў (2005).

*Помнік прыроды рэспубліканскага значэння — дубу в. Пятровічы.*



У 16 ст. ўпамінаецца як сяло ў Берасцейскім ваяв. ВКЛ. У 1582 г. адносілася да Здзітаўскага маёнтка, уласнасць Сасіна-Калечыцкага. У 18 ст. існавала праваслаўная царква. У 19 ст. маёмасць памешчыкаў Відацкіх. Паводле рэвізіі 1858 г. 155 сял. душ. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1870 г. існавалі праваслаўная царква, карчма, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча. Цэнтр Рагазнянскай вол. і сельскай грамады. У 1880-я г. на месцы старой драўлянай царквы пабудавана новая. У 1886 г. 13 двароў, 195 жыхароў, валасное праўленне, праваслаўная царква, піцейны дом, нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 279 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, вятрак. У 1904 г. пабудаваны спіртзавод. У 1905 г. цэнтр Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 321 жыхар. У 1921 г. далучана да Польшчы, цэнтр Рагазнянскай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 20 двароў, 140 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Рагазнянскага с/с, 294 жыхары. У Вял. Айч. вайну 7 жыхароў загінулі на фронце, адзін прапаў без вестак. У 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі царкву (адноўлена ў 2004). Паводле перапісу 1959 г. 239 жыхароў. У 1970 г. 307 жыхароў. З 25.1.1971 г. ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі). Працуе б-ка, клуб.

**РАКІТНІЦА** — вёска, цэнтр Ракітніцкага с/с, за 13 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 40 км ад Брэста. 255 гаспадарак, 610 жыхароў (2005).

У 16 ст. шляхецкая ўласнасць у Берасцейскім ваяв. ВКЛ. У 1565 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Булькова, якім валодалі Кішкі. З 17 ст. ўласнасць графоў Масальскіх, адносілася да Булькоўскага графства. У 19 ст. вёска ў Кобрынскім



пав. Гродзенскай губ., уласнасць графоў Ажароўскіх. Уваходзіла ў склад маёнтка Булькова. Паводле інвентару 1846 г. 50 двароў, 422 жыхары, маёмасць графа Канстанціна Ажароўскага. У 1877 г. 797 жыхароў. Тут размяшчаліся хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом. Працавала нар. вучылішча. Вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 97 двароў, 610 жыхароў. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 750 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 104 двары, 537 жыхароў.

З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10. 1940 г. ў Стрыганецкім с/с Жабінкаўскага р-на, 600 жыхароў. У Вял. Айч. вайну восенню 1942 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі 36 сямей ваеннаслужачых. 20 жыхароў загінулі на фронце, 11 прапалі без вестак. 15.10.1949 г. арганізаваны калгас імя Някрасава. З 1951 г. вёска ў складзе калгаса імя Свярдлова. З 8.8.1959 г. ў Брэсцкім, з 14.4.1960 г. ў Кобрынскім р-нах. З 1960 г. ў саўгасе «Рагазнянскі», з 1964 г. ў саўгасе «Беларусь». З 4.1.1965 г. вёска ў Пятровіцкім с/с Брэсцкага, з 30.7.1966 г. Жабінкаўскага р-наў. У 1970 г. 505 жыхароў. У 1999 г. саўгас «Беларусь» перайменаваны ў саўгас «Ракітніца» (з 1999 — цэнтр саўгаса). У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ракітніца». Працуюць філіял Брэсцкага радыётрансляцыйнага тэлевізійнага цэнтра, сярэдняя школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання. У 1967 г. ў калгасным садзе ў гонар 82 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. У 1987 г. на гэтым месцы за 0,6 км ад шашы Брэст—Мінск насыпаны курган Памяці.

**РАЧКІ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 7 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 23 км ад Брэста. 48 гаспадарак, 116 жыхароў (2005).

У 19 ст. цэнтр вотчыннага маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., які належаў памешчыку Юсціяну Седлікоўскаму. У склад маёнтка ўваходзіла 5 вёсак. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 151 рэвізская душа. Паводле інвентару 1846 г. ў маёнтку 157 сял. душ, 198 дзес. зямлі; хлебазапасны магазін, карчма. У вёсцы 19 двароў, 81 жыхар. У 1870 г. маёнтак належаў памешчыцы Патулавай і памешчыку Седлікоўскаму. Вёска з'яўлялася цэнтрам Рачкаўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 341 жыхар. У 1905 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 499 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся аднайменны пасёлак (84 жыхары). У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 44 двары, 66 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1959 г. ў в. Рачкі 245 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 227 жыхароў. З 1999 г. вёска перададзена з Хмелеўскага ў Жабінкаўскі с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка). У 2005 г. на могілках пастаўлены помнік сав. воінам.

**РУДКА** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 23 км ад Брэста. 23 гаспадаркі, 74 жыхары (2005).

Упамінаецца з 17 ст. ў інвентарах Кобрынска-Брэсцкай эканоміі. У 18 ст. цэнтр Рудскай губ., у склад якой уваходзілі 10 ключоў, горад і 32 вёскі. У 19 ст. цэнтр маёнтка, прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Сакі. Паводле рэвізіі 1858 г. 86 сялянскіх душ. У 1870 г. маёнтак уласнасць памешчыкаў Сцяпана Задарноўскага і малалетняга Карла Пржыбора. Уваходзіла ў Сакалоўскую сельскую грамаду. Паводле перапісу

1897 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 23 двары, 181 жыхар, хлебазапасны магазін, вятрак. Побач сядзіба (16 жыхароў). У 1905 г. 73 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 17 двароў, 75 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сакалоўскім с/с Жабінкаўскага р-на. У 1940 г. 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 8 жыхароў загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт». З 16.7.1954 г. вёска ў Сацкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар. З 1963 г. ў калгасе «Радзіма», які абслугоўвала Сяхновіцкая МТС. У 1970 г. 80 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Хмелеўскім с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Хмелева».

**САКАЛОВА** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец) 27 км ад Брэста. 75 гаспадарак, 178 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяленне ў Берасцейскім пав. ВКЛ. Пад 1631 г. ў актах Брэсцкага гродскага суда пазначана як маёнтак — шляхецкая ўласнасць пана Хадкоўскага. У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., маёмасць памешчыкаў Франкоўскіх. Маёнтак складаўся з аднайменнай вёскі і в. Селішчы. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 440 рэвізскіх душ. Паводле інвентару 1846 г. 41 двор, 359 жыхароў. Уласнасць памешчыкаў Юльяна і Уладзіслава Франкоўскіх, якія мелі тут 472 дзес. зямлі. Архітэктурная забудова маёнтка складалася з панскага дома і гасп. пабудоў. У маёнтку меўся конны млын, лядпік, хлебазапасны магазін. Пры ўездзе ў вёску размяшчалася карчма. У 1870 г. цэнтр Сакалоўскай сельскай грамады, 166 сялян. Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 439 жыхароў, хлебазапасны магазін, вінная лаўка. У 1899 г. працавалі 3 млыны, мукамольны з-д. У 1902 г. адкрыта нар. вучылішча.

У 1905 г. вёска ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 535 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. 48 двароў, 228 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Сакалоўскага с/с Жабінкаўскага р-на, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 14 жыхароў загінулі на фронце, 6 прапалі без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас «II з'езд ВЛКСМ». 16.7.1954 г. тэр. сельсавета далучана да Сацкага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 257 жыхароў. Калгас абслугоўвала Сяхновіцкая МТС. З 1963 г. ў калгасе «Радзіма». У 1970 г. 282 жыхары, з 3.7.1972 г. ў Хмелеўскім с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Хмелева». Працуюць пач. школа, аддз. сувязі, праўленне рыбгага «Сакалова».

**САКІ** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 21 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Жабінка—Чарнаўчыцы. 64 гаспадаркі, 170 жыхароў (2005).

Згадваюцца ў 17 ст. ў інвентарах Кобрынска-Брэсцкай эканоміі. У 19 ст. цэнтр маёнтка, прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Уваходзілі ў склад маёнтка Сакі. Паводле рэвізіі 1858 г. 234 сял. душы, маёмасць памешчыкаў Задарноўскіх. У 1870 г. маёнтак уласнасць памешчыкаў Сцяпана Задарноўскага і малалетняга Карла Пржыбора. Сяло — цэнтр Сацкай сельскай грамады. Тут размяшчалася праваслаўная царква. У 1886 г. 22 двары, 290 жыхароў, 2 ветракі. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 52 двары, 394 жыхары. У 1905 г. вёска і маёнтак, 473 жыхары. У 1908 г. адкрыта нар. вучылішча, з 1912 г. бібліятэка. У 1921 г. вёска, 50 двароў, 281 жыхар. У 1940 г. 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 11 жы-



шароў загінулі на фронце, 4 прапалі без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Калініна, які абслугоўвала Сяхновіцкая МТС. З 16.7.1954 г. да 3.7.1972 г. цэнтр Сацкага с/с Жабінкаўскага, з 8.8.1959 г. Камянецкага, з 4.1.1965 г. Брэсцкага, з 30.7.1966 г. Жабінкаўскага р-наў у Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 235 жыхароў. У 1960 г. праваслаўная царква знята з уліку і разабрана. З 1963 г. ў калгасе «Радзіма». У 1970 г. 244 жыхары. З 3.7.1972 г. сельсавет перайменаваны ў Хмелеўскі. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Хмелева». Працуюць пач. школа, клуб, магазін. На вясковых могілках магіла сав. воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні Сакаў.

**САЛЕЙКІ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 25 км ад Брэста. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

Заснаваны ў 1-й пал. 19 ст. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. беглымі сялянамі на землях маёнтка Непакойчыцы паводле загаду І.Райскага. У 1870 г. 61 селянін лічыўся дзяржаўным. Вёска адносілася да Харытонаўскай сельскай грамады. У 1905 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 86 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 50 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 1 жыхар загінуў на фронце. У 1970 г. 56 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка).

**СВІШЧЫ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 23 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 54 км ад Брэста. 21 гаспадарка, 37 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнткаКівацічы, уладанне Багуслаўскіх. Паводле рэвізіі 1858 г. ў вёсцы 183 сялянскія душы. У 1869 г. цэнтр сельскай грамады. У 1886 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав., 34 двары, 377 жыхароў, касцёл, піцейны дом, школа. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 448 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, кузня. Побач сядзіба (1 двор, 5 жыхароў). У 1905 г. вёска ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 412 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, у Пружанскім пав. Палескага ваяв., 25 двароў 147 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1939 г. 463 жыхары. У Вял. Айч. вайну 5 жыхароў загінулі на фронце, 4 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1959 г. ў Крыўлянскім с/с, 271 жыхар. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 166 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Вазнясенскі» (цэнтр — в. Вежкі).

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Хмелеўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 26 км ад Брэста. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2005).

У 18 ст. фальварак Рэчыцкага ключа князёў Чартарыйскіх. У 19 ст. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Сакалова. Паводле інвентару 1846 г. 11 двароў, 97 жыхароў, маёмасць памешчыкаў Юльяна і Уладзіслава Франкоўскіх. У 1870 г. 104 рэвізскія душы, вёска адносілася да Сакалоўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 18 двароў, 174 жыхары. У 1905 г. 199 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 14 двароў, 66 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сакалоўскім с/с Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну 6 жыхароў загінулі на фронце, адзін прапаў без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна». З 16.7.1954 г. вёска ў Сацкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 69 чалавек. З 1963 г. ў калгасе «Радзіма», які





абслугоўвала Сяхновіцкая МТС. У 1970 г. 105 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Хмелеўскім с/с. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Хмелева».

**СЕЛІШЧЫ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 13 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 45 км ад Брэста. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У 17 ст. вядомы як шляхецкая ўласнасць. У 2-й пал. 17 ст. маёмасць Касцюшкаў. У 19 ст. вёска пры р. Мухавец — цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., які належаў памешчыцы Севярыне Верашчакавай. Маёнтак складаўся з фальварка і 5 вёсак. Паводле рэвізіі 1833 г. ў маёнтку 494 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 18 двароў, 174 жыхары. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 199 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 14 двароў, 66 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Сцяпанкаўскім с/с. У 1947 г. створана с.-г. арцель «Звязда», якая ў 1948 г. ўвайшла ў калгас (з 1950 наз. імя Леніна, з 1960 — «Расія», з 1966 «Перамога»). Паводле перапісаў 1959 г. — 69 жыхароў, 1970 г. 36 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Арэпічы» (цэнтр — в. Арэпічы).

*Помнік М.М.Чарнаку ў в. Старое Сяло.*



**СЕМЕНАЎЦЫ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 9 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка, 39 км ад Брэста. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005).

Вядомы з 2-й пал. 16 ст. як сяло Судзіна. Да канца 18 ст. ўваходзіла ў маёнтак Каранёва. У 1787 г. згадваюцца як вёска за 2,5 валокамі зямлі. З 1-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Малыя Сяхновічы, належала Эсткам. У 1858 г. цэнтр самастойнай сельскай грамады, якая з пачатку рэформы 1861 г. ўвайшла ў склад Сяхновіцкай грамады. У 1897 г. 118 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы. З 1928 г. ўваходзіла ў Жабінкаўскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1935 г. 95 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1969 г. 66 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Мацієвічы».

**СЕНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 4 км Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 34 км ад Брэста. 31 гаспадарка, 52 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Сенькава ў Кобрынскім пав. ВКЛ. Пад 1631 г. пазначаны ў дакументах як уласнасць Касцюшкаў, далучаны да Сяхновіцкага маёнтка. У 19 ст. вёска, прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Плошча. Паводле інвентару 1846 г. 11 двароў, 109 жыхароў, маёмасць памешчыка Трэмбіцкага. У 1870 г. 106 рэвізскіх душ, адносілася да Мацієвіцкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 175 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 212 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 12 двароў, 65 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце, адзін прапаў без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 163, 1970 г. 141 жыхар. У скла-





*Помнік на партызанскіх могілках каля в. Старое Сяло.*

дзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка).

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Азяцкім с/с, за 22 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец). 224 гаспадаркі, 509 жыхароў (2005).

Да часу захаваўся курганны могільнік (3,5 км на Пд ад вёскі), які сведчыць пра засяленне гэтых мясцін з глыбокай старажытнасці.

У 16 ст. сяло, дзяржаўная ўласнасць у Берасцейскім старостве ВКЛ. У 1566 г. цэнтр Старасельскага войтаўства Палескай вол. У 1756 г. Аўгуст III перадаў сяло, 17 валок зямлі К.Ляпарскаму. З 1795 г. ва ўладанні дэ Паліньяка, 622 жыхары. У 19 ст. вёска, цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1816 г. ў маёнтку 52 сял. душы (мужчыны). Паводле рэвізіі 1833 г. ў ім 674 рэвізскія душы, 1996 дзес. зямлі. Складаўся з гаспадарскага дома і гасп. пабудоў. Паводле інвентару 1846 г. 90 двароў, 652 жыхары. У 1870 г. належаў памешчыцы Мілачэўскай. Вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады, адносілася да Азяцкай вол. У 1886 г. сяло, 71 двор, 630 жыхароў. У маёнтку працавалі кузня, ветраны млын, цагельня, мукамольня.

У 1905 г. сяло ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 836 жыхароў. У 1911 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1914 г. вучыліся 40 вучняў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 41 двор, 275 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Старасельскага с/с Жабінкаўскага р-на. У пачатку Вял. Айч. вайны ў чэрв. 1941 г. ў Старасельскім лесе створаны партыз. атрад, які ў маі 1943 г. названы ў імя Чарнака. 4.8.1943 г. ў вёсцы адбыўся бой партыз. атрадаў імя Шчорса і М.Чарнака з ням.-фаш. захопнікамі. 25 жыхароў загінулі на фронце, 12 прапалі без вестак. У 1948 г. арганізаваны калгас. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, далучаны да Азяцкага с/с. З 8.8. 1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7.1966 г. зноў у Жабінкаўскім р-не. Паводле перапісаў 1959 г. — 865, 1970 г. 882 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты» (цэнтр — в. Азяты). Працуюць базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання. Радзіма М.М.Чарнака, аднаго з арганізатараў партыз. руху на Брэстчыне. У скверы яму пастаўлены помнік, у школе дзейнічае музей атрада імя Чарнака. Помнік на брацкай магіле партызанам (1968), у Старасельскім лесе так званы «Шалаш» каля дуба Чарнака.

**СТАЎПЫ** — вёска ў Якаўчыцкім с/с, за 15 км ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 45 км ад Брэста. 49 гаспадарак, 114 жыхароў (2005).

У 16 ст. ўпамінаюцца як сяло — вялікакняжацкае ўладанне ў Кобрынскім

*Сустрэча былых партызан у в. Старое Сяло.*



старостве ВКЛ. Паводле інвентару Кобрынскай эканоміі 1597 г. сяло ў Вяжэцкай вол. З 1757 г. ў складзе Вяжэцкага ключа Кобрынскай губ. Упамінаецца ў сувязі з дзейнасцю копных судоў, у 1631 г. сяляне з Стаўпоў і інш. вёсак з'ехаліся на капу. У 18 ст. адносілася да Веткаўскага ключа. У 19 ст. ў Пружанскім пав. Гродзенскай губ. Вёска ўваходзіла ў склад вотчыннага маёнтка Вежкі. У 1825 г. паводле рашэння суда ўласнасць памешчыка Фамы Горскага. Паводле інвентару 1846 г. 4 двары, 37 жыхароў. Кожны сял. двор меў 13 дзес. зямлі, у тым ліку больш за 9 дзес. раллі. У 1870 г. вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 289 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, вятрак. У 1905 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 412 жыхароў. У 1921 г. Стаўпы далучаны да Польшчы, уваходзілі ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяв., 37 двароў, 170 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, у Якаўчыцкім с/с, 342 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 жыхары, адзін прапаў без вестак. Паводле перапісу 1959 г. ў Крыўлянскім с/с, 308 чалавек. У 1970 г. ў Якаўчыцкім с/с, 231 жыхар. У складзе с.-г. прадпрыемства «Вазнясенскі» (цэнтр — в. Вежкі).



Р.М.Бензярук.

**СТРЫГАНЕЦ** — вёска ў Ракітніцкім с/с, за 16 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 43 км ад Брэста. 120 гаспадарак, 267 жыхароў (2005).

У1772 і 1794 гг. праз вёску праходзілі палкі на чале з А.В.Суворавым. У 19 ст. фальварак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., прыватная ўласнасць графоў Ажароўскіх. Фальварак уваходзіў у склад маёнтка Булькова. Паводле інвентару 1846 г. ў фальварак уваходзілі 2 вёскі (398 прыгонных сялян), маёмасць графоў Станіслава, Казіміра Канстанціна Ажароўскіх. У 1877 г. з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады, фальваркам Стрыганец валодалі Ганецкія. Паводле перапісу 1897 г. 43 двары, 290 жыхароў. Побач быў хутар, 38 жыхароў. У 1905 г. вёска і пасёлак (635 жыхароў) у Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1911 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1914 г. вучыліся 35 вучняў. У 1921 г. вёска далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г. 54 двары, 296 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Стрыганецкага с/с Жабінскаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну 22 жыхары загінулі на фронце, 4 прапалі без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас «За ўладу Саветаў», з 1951 г. ў калгасе імя Свярдлова. З 8.8.1959 г. ў Брэсцкім, з 14.4. 1960 г. ў Кобрынскім р-нах. З 1960 г. ў саўгасе «Рагазнянскі». 21.1.1961 г. сельсавет ліквідаваны, яго тэрыторыя далучана да Рагазнянскага с/с. З 4.1. 1965 г. ў Пятровіцкім с/с Брэсцкага, з 30.7. 1966 г. Жабінкаўскага р-наў. У 1970 г. 490 жыхароў. З 1964 г. ў саўгасе «Беларусь», які ў 1999 г. перайменаваны ў саўгас «Ракітніца». У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ракітніца».

**СТРЫГАНЕЦКІЯ БУСНІ** — хутар у Ракітніцкім с/с, за 17 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 44 км ад Брэста. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2005). У пачатку 20 ст. жыхары в. Бусні праз сельскі банк купілі зямлю паміж Стрыганцом і Амялінкай. Новыя паселішчы сталі зваць Пакупчынамі, Бусніямі і Амялінкай (апошняе знікла ў 1958). У канцы 1980-х г. хутар атрымаў афіцыйна назву Стрыганіцкія Бусні (у памяць пра паходжанне першапасяленцаў). У 1998 г. 11 двароў, 19 жыхароў. Радзіма бел. пісьменніка Р.М.Бензерука.

**СЦЯБРОВА** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 27 км ад Брэста. 110 гаспадарак, 289 жыхароў (2005).



Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Берасцейскім пав. ВКЛ. Пад 1577 г. ў актах Брэсцкага гар. суда пазначана як с. Стаброў. У 19 ст. прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Непакойчыцы. Паводле інвентару 1846 г. 46 двароў, 375 жыхароў, маёмасць малалетніх памешчыкаў Райскіх. У 1886 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав., 45 двароў, 552 жыхары. Вёска з'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 594 жыхары, хлебазапасны магазін, вятрак, кузня, вінная лаўка. У 1905 г. ў Збіражскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 699 жыхароў. У 1912 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1914 г. навучаліся 36 хлопчыкаў. У 1912 г. пры ім працавала б-ка (245 кніг і 10 навуч. дапаможнікаў). У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Збіражскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 53 двары, 313 жыхароў. У 1922 г. ў вёсцы створана падп. партыйная ячэйка. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Жабінкаўскага р-на, працавала пач. школа. У час Вял. Айч. вайны 27.10. 1942 г. ням.-фаш. карнікі расстралялі 73 мірных жыхароў — членаў сямей Сав. ваеннаслужачых. 14 жыхароў загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. З 16.7. 1954 г. цэнтр Сцяброўскага с/с Жабінкаўскага р-на, з 8.8.1959 г. ў Камянецкім, з 30.7. 1966 г. ў Жабінкаўскім р-нах. У 1963 г. ва ўрочышчы Лысая Гара пабудаваны Жабінкаўскі цукровы з-д. У 1998 г. 265 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка).

**СЦЯПАНКІ** — вёска, цэнтр Сцяпанкаўскага с/с, за 11 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 36 км ад Брэста, каля аўтадарогі Жабінка—Камянец. 104 гаспадаркі, 261 жыхар (2005).

У 16 ст. ўпамінаюцца як сяло ў Берасцейскім старостве ВКЛ. У 1589 г. супольная маёмасць падстаросты берасцейскага М.Райскага, Ф.Радзецкага і М.Яцыніча. У 1619 г. згадваецца праваслаўная царква. У 17 ст. Сцяпанкі адносіліся да маёнткаў Непакойчыцы і Сяхновічы. Уладанне паноў Целяціцкіх, ад якіх 5.7.1656 г. Зофія Муралеўская атрымала правы на Сцяпанкі, у наступным годзе ўступіла вёску свайму пляменніку А.Я.Касцюшку. У 1780 г. існавала драўляная праваслаўная Міхайлаўская царква. У 19 ст. ўласнасць у Кобрынскім



*Помнік на магіле жыхароў спаленай у час Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкімі захопнікамі в. Драмлёва на могілках у в. Сцяпанкі.*



*Мемарыяльны комплекс на месцы спаленай в. Драмлёва.*



*Міхайлаўская царква (18 ст.) у в. Сцяпанкі.*

пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Шпіталі. Паводле інвентару 1846 г. 28 двароў, 290 жыхароў, маёмасць памешчыка Карла Нарбута. Працавалі вінакурня, карчма. У 1858 г. Міхайлаўская царква капітальна адрамантавана. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча, дзе працавала б-ка. У 1870 г. 328 рэвізскіх душ, цэнтр сельскай грамады. У 1880 г. 28 двароў, 420 жыхароў. Тут размяшчаліся Сяхновіцкае валасное праўленне, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, ветраны млын. За 4 вярсты знаходзіўся пагост Сяхновічы і праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 432 жыхары, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, царква, Сяхновіцкае валаснoе праўленне. У 1902 г. да царквы прыбудавана званіца. У 1905 г. ў Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 551 жыхар. У 1914 г. працавалі нар. вучылішча, у якім вучыліся 100 вучняў, б-ка, сяло далучана да Польшчы, уваходзіла ў Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 53 двары, 313 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Вясной 1940 г. жыхарамі вёсак Сцяпанкі і Шпіталі арганізаваны адзін з першых у Брэсцкай вобл. калгасаў. З 12.10.1940 г. цэнтр Сцяпанкаўскага с/с. У 1940 г. 61 двор, 244 жыхары. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну 3 жыхары загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. Паводле перапісаў 1959 г. — 208, 1970 г. 211 жыхароў. Цэнтр унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі». Працуюць магазін, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, медпункт, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання. У цэнтры вёскі размешчана праваслаўная Міхайлаўская царква — помнік нар. дойлідства з рысамі стылю барока. На вясковых могілках пахаваны жыхары в. Драмлёва, якія былі спалены ням.-фаш. захопнікамі 11.9.1942 г. У 1982 г. на месцы спаленай вёскі (за 1 км ад Сцяпанак) адкрыты мемарыяльны комплекс «Драмлёва».

**СЫЧОВА** — вёска ў Азяцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 51 км ад Брэста. 44 гаспадаркі, 81 жыхар (2005).

У 19 ст. ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. называлася Азятамі-Сычэва, 51 двор, 410 жыхароў. У 1905 г. ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 395 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 32 двары, 232 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Азяцкім с/с. У Вял. Айч. вайну 8 жыхароў загінулі на фронце, адзін прапаў без вестак. У 1944—77 гг. працавала пач. школа. У 1949 г. арганізаваны калгас «Ураджай». З 8.8.1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7.1966 г. зноў у Жабінкаўскім р-не. Паводле перапісаў 1959 г. — 301, 1970 г. 268 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты». Побач з вёскай размешчаны ўчастак торфабрыкетнага з-да.

**ТАМАШКІ** — вёска ў Азяцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 55 км ад Брэста. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2005).

Вядомы з 18 ст. У 19 ст. фальварак у Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., адносіўся да маёнтка Янопаль. У 1890 г. маёмасць памешчыка Івана Відацкага. У 1905 г. ў фальварку 110 жыхароў. У 1921 г. далучаны да Польшчы, уваходзіў у Азяцкую гміну Кобрынска-



га пав. Палескага ваяв., 6 двароў, 43 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 1 жыхар загінуў на фронце і 4 прапалі без вестак. З 8.8. 1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7.1966 г. зноў у Жабінкаўскім р-не. Паводле перапісу 1959 г. 112 чалавек. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты».

**ФЕДЗЬКАВІЧЫ** — вёска ў Ракітніцкім с/с, за 6 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка. 116 гаспадарак, 225 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як маёнтак у Берасцейскім старостве ВКЛ. З 1577 г. маёмасць Багушэвічаў. Уваходзілі ў склад Здзітаўца, зваліся Багушэвічамі—Федзькавічамі. 2.9.1700 г. пазначаны ў ліку сяленняў Рагазнянскага царк. прыхода. У 19 ст. называліся Хведкавічы, цэнтр маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. ў вёсцы налічвалася 5 дымоў, 4 сял. душы мужчынскага полу. Маёмасць памешчыкаў Зданскіх. У 1866 г. вёска, цэнтр сельскай грамады, 236 рэвізскіх душ. У 1888—1905 гг. пабудавана дарога Янава—Федзькавічы—Камянец, якая каля Федзькавіч злучылася з Маскоўска-Брэсцкай шашою. У 1905 г. вёска ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 463 жыхары. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 34 двары, 194 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Рагазнянскім с/с Жабінкаўскага р-на, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 7 жыхароў загінула на фронце, 3 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1959 г. 381 жыхар. З 4.1.1965 г. ў Пятровіцкім с/с Брэсцкага, з 30.7. 1966 г. Жабінкаўскага р-наў. У 1970 г. 422 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ракітніца». Працуе аўтобусная станцыя. У цэнтры вёскі, на шашы Брэст—Мінск, помнік сав. воінам. Радзіма Героя Сацыяліст. працы, спецыяліста ў галіне нафтавай геалогіі, акадэміка АН СССР А.А.Трафімука.

**ФІЛІПАВІЧЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 12 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), за 44 км ад Брэста. 46 гаспадарак, 77 жыхароў (2005).

Выяўленае археал. гарадзішча 2-й пал. 1-га ст. н.э. сведчыць пра засяленне гэтай мясцовасці ў глыбокай старажытнасці. У 16 ст. валоданне Пацеяў і Старавольскіх.

У 19 ст. прыватная ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Здзітава. Паводле інвентару 1846 г. 11 двароў, 90 жыхароў, маёмасць памешчыка Казіміра Скаўронскага. У 1870 г. 108 рэвізскіх душ. З'яўлялася цэнтрам сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 149 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 188 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 28 двароў, 143 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 6 жыхароў загінула на фронце, адзін прапаў без вестак. Паводле перапісу 1959 г. ў Рагазнянскім с/с, 229 жыхароў. У 1970 г. 217 жыхароў. З 25.1.1971 г. ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі).



*Помнік на магіле паэта В.У.Гадулькі ў в. Федзькавічы.*








*Помнік на магіле ахвяр фашызму каля в. Хадасы.*

*Брама Спаса-Праабражэнскага мужчынскага манастыра ў в. Хмелева.*

**ХАДАСЫ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 18 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка, 51 км ад Брэста. 29 гаспадарак, 55 жыхароў (2005).

Выяўлены за 0,5 км ад вёскі археал. могільнік сведчыць пра засяленне гэтай мясцовасці з старажытнасці У 18 ст. ўласнасць Нестаровічаў, потым Ляскоўскіх. З 1866 г. вёска ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав., 95 жыхароў. Належаў Самойлавай і Балабушэўскай. Паводле перапісу 1897 г. 188 жыхароў. У 1921 г. далучаны да Польшчы. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну каля вёскі існавала гета, якое восенню 1942 г. было знішчана ням.-фаш. захопнікамі. Астанкі 196 яўрэяў у 2004 г. перапахаваны, на месцы расстрэлу пастаўлены помнік. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі).

**ХАНЬКІ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 11 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 41 км ад Брэста. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваюцца з 2-й пал. 16 ст. як вёска ў Берасцейскім ваяв. ВКЛ. У 17 ст. ўласнасць Касцюшкаў. У 18 ст. ў складзе маёнтка Здзітавец—Зеленкаўшчызна. У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Пружанскім пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад маёнтка Германы. Паводле інвентару 1846 г. 4 двары, 20 жыхароў, маёмасць памешчыка Стражынскага. З'яўлялася цэнтрам сельскай грамады ў Мураўёўскай вол. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 43 жыхары, вятрак, побач фальварак 1 двор, 8 жыхароў. У 1905 г. вёска ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 80 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяв. 10 двароў, 68 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. Паводле перапісу 1959 г. — 64, 1970 г. 55 жыхароў. У складзе с.-г. прадпрыемства «Надзея-Агра» (цэнтр — в. Крыўляны).

**ХМЕЛЕВА** — цэнтр Хмелеўскага с/с, за 11 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 24 км ад Брэста. 157 гаспадарак, 370 жыхароў (2005).

Згадваецца ў 16 ст. як маёнтак у Берасцейскім старостве і пав. ВКЛ. У 1565 г. ўпамінаецца ў попісе войска Літоўскага, уладанне Марціна Хмялеўскага. У 1612 г. ўласнасць А.М.Каханіка-Хмялеўскага. Мелася карчма. У 1660 г. ў складзе маёнтка Чарнаўчыцы, які належаў графіне Л.М.Гротэн. У 1725 г. засн. Спаса-Праабражэнская царква. У 1771—74 гг. па фундацыі кн. А.Чартарыйскага адрамантавана. У 19 ст. сяло ў Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Чарнаўчыцы. Паводле 1858 г. сяло, 369 сял. душ. Працавала нар. вучылішча, у якім навучаліся 94 хлопчыкі. У 1869 г. маёнтак належаў графіне Грабоўскай. Цэнтр Хмелеўскай сельскай грамады, якой належала каля 1000







*Свята ў в. Хмелева.*

*Спаса-Праабражэнская царква ў в. Хмелева.*

дзес. зямлі. У 1905 г. сяло ў Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., 830 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Турнянскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 65 двароў, 395 жыхароў.

З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10. 1940 г. ў Сакалоўскім с/с Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну 18 жыхароў загінулі на фронце, 2 прапалі без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Суворава. З 16.10.1954 г. вёска ў Сацкім с/с. У сак. 1958 г. пачалася яе электрыфікацыя. Паводле перапісу 1959 г. 561 жыхар. З 1963 г. ў калгасе «Радзіма», які абслугоўвала Сяхновіцкая МТС. У 1970 г. 577 жыхароў. З 3.7. 1972 г. цэнтр Хмелеўскага с/с. Цэнтр унітарнага с.-г. прадпрыемства «Хмелева». Працуюць Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання, ашчадны банк. У 1990 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 2000 г. на базе Спаса-Праабражэнскага прыхода засн. мужчынская пустынь, пазней ператвораная ў праваслаўны манастыр. Радзіма бел. паэта, члена Саюза пісьменнікаў І.Арабейкі.

**ХМЯЛЁЎКА** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 8 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец). 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска і хутар у Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. вёска і хутар (141 жыхар). У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Турнянскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. калонія (6 двароў, 18 жыхароў). З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Сцяпанкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну 1 жыхар загінуў на фронце, 1 прапаў без вестак. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары. У 1970 г. 36 жыхароў. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі).

**ЦЕЛЯКІ** — вёска ў Азяцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 51 км ад Брэста. 22 гаспадаркі, 34 жыхары (2005).





*Помнік салдатам А.В. Суворава ў в. Чыжэўшчына.*

*Капліца каля в. Чыжэўшчына ў гонар Крупчыцкай бітвы 1794 г. Асвячона 23.9.2004 г.*

Упамінаюцца ў 16 ст. У 1794 г. праз яго праходзіў шлях паўстанцкіх войск К.Серакоўскага. У 19 ст. вёска ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентару 1846 г. вёска ўваходзіла ў склад маёнтка Янаполь. 12 двароў, 96 жыхароў. Уласнасць памешчыка Івана Відацкага. Паводле рэвізіі 1858 г. 126 сялянскіх душ. У 1870 г. маёнтак належаў памешчыкам Відацкаму і Катовічу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 30 двароў, 191 жыхар. У 1905 г. ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 836 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 27 двароў, 114 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 1940 г. ў складзе Жабінкаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну 5 жыхароў загінулі на фронце, 7 прапалі без вестак. У 1949 г. арганізаваны калгас «Праца». З 8.8. 1959 г. ў Кобрынскім, з 30.7. 1966 г. зноў у Жабінкаўскім р-не. Паводле перапісаў 1959 г. — 234, 1970 г. 163 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Азяты».

**ЧЫЖЭЎШЧЫНА** — вёска ў Ленінскім с/с, за 20 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 51 км ад Брэста. 131 гаспадарка, 245 жыхароў (2005).

У 17 ст. на паўд. ускраіне вёскі быў узведзены манастыр. У 1701 г. манахі ордэна кармелітаў паводле фундацыі Несторовічаў пабудавалі касцёл Бязгрэшнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У 19 ст. вёска, казённая ўласнасць у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1858 г. 102 рэвізскія душы, уваходзіла ў Багданоўскую сельскую грамаду. У 1866 г. касцёл забраны пад праваслаўную царкву. У 1894 г. з цэглы і бутавага каменю пабудавана праваслаўная Уладзімірская царква. Храм — помнік у гонар перамогі 17.9.1794 г. рус. войска пад камандаваннем А.В.Суворава над войскам ген. К.Серакоўскага. Каля Чыжэўшчыны (гістарычных Крупчыцаў) адбылася самая буйная на бел. землях бітва часоў Касцюшкаўскага паўстання 1794 г. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 275 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ва-



яв., 28 двароў, 143 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Чыжэўшчынскага с/с, 256 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 30.9.1943 г. гітлераўцы расстралялі 9 жыхароў. 17 жыхароў загінулі на фронце, 3 прапалі без вестак. У 1959 г. 97 жыхароў. У 1970 г. ў Рагазнянскім с/с, 183 жыхары, з 25.1.1971 г. ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі). 23.9. 2004 г. ў цэнтры вёскі пабудавана і асвечана Крупчыцкая капліца ў гонар воінаў, якія загінулі ў час паўстання 1794 г.

**ШАДЗІ** — вёска ў Крыўлянскім с/с, за 11 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 43 км ад Брэста. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Пружанскім пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка Германы. У 1811 г. 35 рэвізскіх душ, маёмасць памешчыка Стражынскага. Пасля рэформы 1861 г. адносілася да Горманаўскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 104 жыхары. У 1905 г. ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 125 чалавек. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Мацясоўскую гміну Пружанскага пав. Палескага ваяв., 7 двароў, 38 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Крыўлянскім с/с. У Вял. Айч. вайну 2 жыхары загінулі на фронце, адзін прапаў без вестак. У 1959 г. — 78, у 1970 г. 56 жыхароў. Вёска ў складзе с.-г. прадпрыемства «Надзея-Агра» (цэнтр — в. Крыўляны).

**ШАЛУХІ** — вёска ў Ленінскім с/с, за 6 км ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 44 км км ад Брэста. 15 гаспадарак, 49 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. пад назвай Шалухі-Здзітавец. У 19 ст. ваколіца ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў ваколіцы 95 жыхароў. Непадалёку ад ваколіцы размяшчаўся хутар, 6 жыхароў. У 1905 г. ў ваколіцы 7 жыхароў. У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 13 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 2 жыхары загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 87, у 1970 г. 69 жыхароў. З 25.1.1971 г. ў Ленінскім с/с. У складзе с.-г. прадпрыемства «Рагазнянскі» (цэнтр — пас. Ленінскі).



*Пасол ЗША Дж.Крол і амерыканскія кадэты каля капліцы ў гонар Крупчыцкай бітвы 1794 г. ў в. Чыжэўшчына. 2006 г.*

**ШПІТАЛІ** — вёска ў Сцяпанкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 36 км ад Брэста, каля аўтадарогі Жабінка—Камянец. 50 гаспадарак, 134 жыхары (2005).

Паселішча ўзнікла ў 2-й пал. 17 ст. на месцы шпіталя, які існаваў на сродкі ордэна цыстэрцыянцаў з в. Алізараў Стаў. Уласнасць Пацеяў. У 1730 г. ўладальнікамі становяцца Янушкевічы. У 19 ст. вёска — цэнтр маёнтка ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., уласнасць Чартарыйскіх. Паводле рэвізіі 1816 г. ў маён-



*Помнік на магіле І.Дз. Філіпука ў в. Шчэглікі.*

тку 123 сял. душы (мужчыны). У 1847 г. маёмасць памешчыкаў Нарбутаў. Маёнтак складаўся з 2 фальваркаў: Шпіталі і Сяхновічы, у якія ўваходзілі вёскі Канатопы, Сцяпанкі і Лойкі; працавалі 2 карчмы, конны млын, паравая вінакурня, цукровая ф-ка. Архітэктурная забудова маёнтка складалася з панскага дома і гасп. пабудоў (кузня, малатарня, ляднік, валоўня і інш.). Належаў памешчыку Карлу Нарбуту, які меў тут больш 2047,55 дзес. зямлі. У 1870 г. маёнтак — уласнасць памешчыка Валяцкага. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба (35 жыхароў) і хутар (3 жыхары). У 1905 г. маёнтак у Сяхновіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 101 жыхар. У 1921 г. фальварак далучаны да Польшчы, уваходзіў у Сяхновіцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 2 двары, 18 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У сак. 1940 г. арганізаваны калгас імя Молатава. Паводле перапісу 1959 г. 61 жыхар. У 1970 г. 73 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Шпіталі» (цэнтр — в. Сцяпанкі).

**ШЧЭГЛІКІ** — вёска ў Жабінкаўскім с/с, за 2 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Жабінка (на лініі Брэст—Лунінец), 32 км ад Брэста. 103 гаспадаркі, 254 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска — прыватная ўласнасць у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Пятровічы. Паводле інвентару 1846 г. 13 двароў, 134 жыхары, маёмасць памешчыка Івана Дзяконскага. У 1870 г. 111 рэвізскіх душ. Вёска адносілася да Дзягельскай сельскай грамады. Каля шашы Камянец—Федзькавічы размяшчаўся прыдарожны дом №1. Паводле перапісу 1897 г. 30 двароў, 227 жыхароў. У 1905 г. ў Рагазнянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 223 жыхары. Непадалёку размяшчалася шашэйная будка (12 жыхароў). У 1921 г. далучана да Польшчы, уваходзіла ў Рагазнянскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 29 двароў, 165 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну 6 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. — 274, у 1970 г. 374 жыхары. У складзе унітарнага с.-г. прадпрыемства «Жабінкаўскі» (цэнтр — г. Жабінка). Радзіма дзеяча рэв. і нацыянальна-вызв. руху ў Заходняй Беларусі І.Дз. Філіпука.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 573, воп. 1, спр. 14; ф. 2, воп. 1, спр. 3017; ф. 93, воп.1, спр. 542; ф. 1482, воп. 1, спр. 7, 32; воп. 4, спр. 1; ф. 2059, воп. 1, спр. 3099; воп. 4, спр. 6. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6753, 6763; воп. 9, спр. 34, 2387.



Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 4, воп. 5, спр. 2124; ф. 14, воп. 1, спр. 222; ф. 30, воп. 9, спр. 2387; ф. 96, воп. 1, спр. 215, ф. 694, воп. 2, спр. 2909, 2912; ф. 1705, воп. 1, спр. 8—9, 42, 53—54, 58—60, 72, 87; ф. 1741, воп. 1, спр. 1, 32, 37—38, 40, 44, 46, 49, 51; ф. 1752, воп. 1, спр. 11; ф. 1928, воп. 1, спр. 37, 49.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, ф. 1, воп. 1, спр. 198, 238, 893, 1201, 1459; воп. 2, спр. 98, 178, 589, 946; воп. 3, спр. 58; воп. 6, спр. 1282; воп. 10, спр. 90; воп. 12, спр. 123; воп. 13, спр. 1346; воп. 15, спр. 1182; воп. 19, спр. 1364; воп. 20, спр. 21; воп. 29, спр. 134; воп. 34, спр. 3104; ф. 2, воп. 3, спр. 152; воп. 10, спр. 1744; воп. 14, спр. 676; воп. 19, спр. 1219; воп. 20, спр. 2376; воп. 33, спр. 3221; ф. 8, воп. 1, спр. 11; воп. 2, спр. 1487, 1570; ф. 10, воп. 2, спр. 22, 190; воп. 15, спр. 124; воп. 17, спр. 672, 704; ф. 11, воп. 1, спр. 548; ф. 12, воп. 1, спр. 1203; ф. 14, воп. 1, спр. 74, 87, 97, 213, 243, 413, 419; воп. 2, спр. 46 , 49; воп. 3, спр. 58; ф. 27, воп. 1, спр. 225; ф. 96, воп. 1, спр. 5, 13, 22, 58, 108, 169, 291, 442, 447, 504, 557, 769, 775, 956, 1018, 1059, 1143, 1154; ф. 489, воп. 1, спр. 4; ф. 714, воп. 3, спр. 18; ф. 841, воп. 1, спр. 60; ф. 929, воп. 1, спр. 3; ф. 1062, воп. 1, спр. 2; ф. 1143, воп. 1, спр. 111.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 536, 540.

Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба: Гродненская губ. Ч. 1—2. СПб., 1863. Городские поселения Российской империи. СПб., 1863.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Список о составе волостей и сельских обществ Гродненской губернии. Гродно, 1870.

Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 2—6. Вильна, 1867—72.

Горбачевский Н. Каталог древним актовым книгам губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской, также книгам некоторых судов губерний Могилевской и Смоленской, хранящихся ныне в Центральном архиве в Вильне. Вильна, 1867.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Т. 6. Вильна, 1869.

Акты Брестского и Гродненского городских судов... Вильна, 1871.

Акты Брестского земского суда. Т. 5. Вильна, 1876.

Рэвізія Кобрынскай эканоміі. Вільна, 1876.

Диков П. Список землевладений в Гродненской губернии. Гродно, 1890.

Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895.

Документы Московского архива. Т. 1. М., 1897.

Памятная книжка Гродненской губернии за 1899 год. Гродно, 1898.

Указатель населенным местностям Гродненской губернии с относящимися к ним необходимыми сведениями. Гродно, 1905.

Памятная книжка Гродненской губернии на 1907 г. Гродно, 1907. Литовская метрика. Ч. 1. СПб., 1910.

Памятная книжка Гродненской губернии на 1914 г. Гродно, 1913.

Памятная книжка Гродненской губернии на 1915 г. Гродно, 1914.

Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Выпуск 10, Вильна, 1913.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1893.

Документы и материалы по истории Белоруссии (1795—1917). Т. 3. Мн., 1953.

Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Мн., 1960.

Полное собрание русских летописей. Т. 2. М.; Л., 1961.

Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.

Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии: 1860—1900. Мн., 1978.

Поболь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Мн., 1979.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941–1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1990.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Мн., 1993.
Бензярук А.Р. Наш край – Жабінкаўшчына. Брэст, 1996.
Памяць: Жабінкаўскі р-н. Мн., 1999.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Жабінкаўскі раён: Даведачна-інфармацыйныя матэрыялы. Жабінка, 2002.
Бензярук А.Р. Касцюшкі-Сяхновіцкія: Гісторыя старадаўняга роду. Брэст, 2006.



# ІВАНАЎСКІ РАЁН

Размешчаны на Пд вобласці. Пл. 1,5 тыс. км$^2$, насельніцтва 48 466 чал. (2005). Цэнтр раёна — г. Іванава. У раёне 102 сельскія населеныя пункты. Адміністрацыйна падзяляецца на 15 сельсаветаў: Адрыжынскі, Бродніцкі, Гарбахскі, Дастоеўскі, Дружылавіцкі, Крытышынскі, Ляскавіцкі, Махроўскі, Моладаўскі, Мотальскі, Опальскі, Псышчаўскі, Рудскі, Сачыўкаўскі, Снітаўскі. Мяжуе на З з Драгічынскім, на ПнЗ — з Бярозаўскім, на Пн — з Івацэвіцкім, на У — з Пінскім р-намі Брэсцкай вобл., на Пд — з Украінай.

Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Пінскай вобл., 12.10.1940 г. быў падзелены на 19 сельсаветаў (Адрыжынскі, Варацэвіцкі, Гарбахскі, Глінненскі, Дзедавіцкі, Дружылавіцкі, Застружскі, Крытышынскі, Ляскавіцкі, Ляхавіцкі, Магільнянскі, Махроўскі, Моладаўскі, Опальскі, Псышчаўскі, Рудскі, Сочаўскі, Стрэльненскі, Тышкавіцкі). З 8.1.1954 г. ў складзе Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. Варацэвіцкі, Ляхавіцкі, Сочаўскі сельсаветы скасаваны, Дзедавіцкі перайменаваны ў Мотальскі; 14.10.1957 г. далучаны Бродніцкі і Крочаўскі са складу Жабчыцкага р-на; 26.2.1958 г. Застружскі с/с перайменаваны ў Дастоеўскі; 9.3.1959 г. скасаваны Кротаўскі і Тышкавіцкі. 25.12. 1962 г. раён скасаваны, тэрыторыя перададзена Драгічынскаму і Пінскаму (Бродніцкі с/с і шэраг вёсак Дастоеўскага) р-нам, адноўлены 6.1.1965 г. ў сучасных межах. У 1970 г. Магільнянскі с/с перайменаваны ў Снічаўскі. У 1982 г. Глінненскі с/с перайменаваны ў Залядынскі, у 1986 г. скасаваны. У 2000 г. Стрэльненскі с/с перайменаваны ў Сачыўкаўскі.

Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Брэст—Гомель і аўтадарогі Брэст—Гомель, Мікашэвічы—Салігорск, на Пінск, Ганцавічы. Паўн. і паўд. часткі тэрыторыі знаходзяцца на зах. ускраіне Прыпяцкага Палесся. На Пд цячэ р. Піна з прытокамі Няслуха і Піліпаўка, на Пн — р. Ясельда. Праходзіць Дняпроўска-Бугскі канал, пракладзены меліярацыйныя каналы Завішчанскі, Заазерскі, Залядынскі, Моладаўскі, Ясельдаўскі. У Іванаўскім р-не азёры Акуніна, Безыменнае, Завішчанскае, Мотальскае, Мульнае, Пясчанае, Скупое, вадасховішчы Джыдзінне, Крытышын, Ляскавічы, Рудск, Гнеўчыцы і інш. На тэрыторыі раёна часткова знаходзяцца біялагічны заказнік рэсп. значэння Спораўскі, створаны заказнікі мясц. значэння Аброва і Завышанскі. Праходзіць нафтаправод «Дружба». У раёне дзейнічаюць гімназія, 23 сярэднія, 9 базавых, 20 пач. школ, 5 школ мастацтваў, харэаграфічная, спарт. школы. Створана школа бондарства, працуюць 46 клубаў, 53 бібліятэкі. У в. Моталь працуе Музей нар. творчасці, у в. Дастоева — літаратурна-краязнаўчы музей рус. пісьменніка Ф.М.Дастаеўскага, продкі якога, мяркуюць, паходзяць з гэтай вёскі. Захаваліся Крыжаўзвіжанскія цэрквы 19 ст. ў вёсках Бродніца і Варацэвічы, царква Параскевы Пятніцы (1802) у в. Гнеўчыцы, Мікалаеўская царква (1777) у в. Дружылавічы, Прачысценская царква (пабудавана да 1783) і сялянскі двор з незвязанымі пабудовамі (1920) у в. Ляскавічы, царква Ушэсця 19 ст. ў в. Ляхавічы, Пет-

*Уезд у г. Іванава.*

рапаўлаўская царква (1792) у в. Махро, царква 19 ст. і капліца пачатку 20 ст. ў в. Моладава, Праабражэнская царква (1888) у в. Моталь, царква Параскевы Пятніцы (2-я пал. 18 ст.) у в. Опаль, Успенская царква (19 ст.) у в. Рудск, царква Аляксандра Неўскага (1800) у в. Стрэльна. Захаваліся двары аднараднага пагоннага тыпу на адной сядзібе пачатку 20 ст. ў в. Шчакоцк. Вёска Моталь — вядомы цэнтр вырабу ручнікоў і кажухоў. У в. Варацэвічы нарадзіўся вядомы бел. і польскі мастак-графік, кампазітар 19 ст. Напалеон Орда. На тэр. раёна выяўлены стаянкі эпохі неаліту і бронзы ў вёсках Моталь, Опаль, Тышкавічы, якія з'яўляюцца археал. помнікамі.

**ІВАНАВА** — горад, цэнтр Іванаўскага р-на, на р. Самаронка (Самараўка). За 132 км на У ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі на лініі Брэст—Лунінец, аўтобусная станцыя. У межы Іванава ўвайшлі вёскі Астравок, Магільна, Накла. Насельніцтва — 16 645 жыхароў (2005).

Вядома, што ў 14 ст. на месцы сучаснага горада знаходзілася вёсачка Порхава (Порхаў). У 1423 г. вял. кн. Вітаўт падараваў яе Луцкаму кафедральнаму касцёлу. У гонар свайго імя ў 1465 г. епіскап луцкі Ян Ласковіч назваў Порхава горадам Янава. У 1497 г. літоўскі кн. Аляксандр Ягелончык дазволіў пра-

*Пакроўская царква ў г. Іванава.*





водзіць у горадзе 3 кірмашы ў год. Луцкія епіскапы ператварылі Янава ў сваю другую рэзідэнцыю. У 1525 г. здарыўся вял. пажар, які прычыніў значную школу, пажар 1575 г. поўнасцю знішчыў гарадок. Жыхары перасяліліся ў навакольныя вёскі, а рэзідэнцыя епіскапа на доўгі час прыйшла ў запусценне. Пасля 1529 г. з Пінскага княства перайшло ў склад Пінскага пав. Трокскага ваяв. У ВКЛ, паводле звестак Віленскага зборніка, мястэчка было спачатку сталовай маёмасцю польскіх каралёў, потым знаходзілася ва ўладанні Шуйскіх, Ажэшкаў, Дмухоўскіх і Кружэцкіх. У час вайны 1654—67 гг. разам з казакамі мясц. жыхары ў 1657 г. прымалі ўдзел у налёце на Янава, дзе быў схоплены і забіты езуіт Андрэй Баболя, пасланы з Пінскай езуіцкай калегіі весці прапаганду каталіцызму сярод мясц. насельніцтва. За актыўную місіянерскую дзейнасць Андрэй Баболя прызнаны пінскім апосталам, залічаны ў 1853 г. папай рымскім Піем IX у лік святых. У гонар Баболі на цэнтр. плошчы Янава быў пастаўлены каменны слуп, да якога прыходзілі паломнікі. У час той вайны мястэчка і



наваколле таксама былі разрабаваны ў 1661 і 1666 гг.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, мястэчка ў Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ., з 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У ліп. 1812 г. захоплена французскімі войскамі. У паласе Антопаль—Драгічын—Іванава—Пінск дзейнічаў рускі спец. атрад ген.-маёра А.П.Мялесіна. Паводле рэвізіі 1816 г. Янаў з навакольнымі вёскамі належаў Ганне Аржэшкавай, але знаходзіўся ў закладзе ў Здзяхоўскага, мелася 920 душ мужчынскага полу. У 1848 г. пабудаваны касцёл, засн. Францішкам Паўлам, сябрам цара Мікалая I, які падарыў касцёлу абраз святой Кацярыны (вісеў у бакавым алтары). У 1-й пал. 19 ст. Янава разам з вёскамі Накла і Магільна ўваходзіла ў склад маёнтка Магільна, які належаў І.І.Дмахоўскаму. Ва ўласнасці памешчыка было 1310 рэвізскіх душ, з іх цяглых сялян 1256 душ, агароднікаў — 59, дваровых людзей 38 душ. У 1840-я г. сяляне маёнтка Магільна падалі скаргу гродзенскаму губернатару на памешчыка, які, на іх погляд, патрабаваў адбыцця вышэйвызначанай паншчыны інвентаром. Каля 50 сялян паказалі ў час следства, што Дмахоўскі жорстка біў іх і караў.

Пасля адмены прыгону ў 1861 г. ў Янаве былі раскватараваны казакі 31-га Данскога палка дзеля падаўлення сял. хваляванняў у мястэчку і ваколіцах. У 1866 г. ў Янаве 809 жыхароў, маёнтак знаходзіўся ва ўладанні памешчыка Іосіфа Куранецкага (Куржанецкага), працавалі нар. вучылішча, касцёл, царква. У 1869 г. — драўляная праваслаўная царква (пабудавана ў 1667), мураваны рымска-каталіцкі касцёл, каменны слуп у гонар А.Баболі, станавая кватэра, валаснос праўленне, аптэка, 144 двары з 364 рэвізскімі душамі мужчынскага полу хрысціян і 156 двароў з 300 душамі мужчынскага полу яўрэяў. У 1868 г. купец Іосіф Лейзар Валавельскі заснаваў дробны вінакурны з-д (размяшчаўся ў аднапавярховым будынку, абсталяваны паравой машынай, працавалі 6 чал.), яму ж належалі цагельня (5 рабочых) і гарбарны з-д (3 рабочыя). Працавалі таксама цагельня Гінзберга (чэрв.—жн. 1868), гарэлачны з-д Абрама Іцке, гарбарны з-д Іцака Гарбара (1 рабочы). Вялікія страты мястэчку наносілі пажары: у 1870 г. згарэлі 85, у 1871 г. — 141 дом, у 1879 г. — 91 яўрэйскі і 35 сял. дамоў, валасная ўправа і аптэка.

У 1862—84 гг. будавалася чыгунка Брэст—Пінск—Гомель, якая прайшла за 1 км ад мястэчка, была пабудавана невял. станцыя (цяпер Янаў-Палескі) з драўляным вакзалам, складскімі памяшканнямі, рамонтнымі майстэрнямі. Станцыйны пасёлак у хуткім часе зліўся з мястэчкам. У 1882 г. існавала штатнае нар. вучылішча (73 вучні); хор вучылішча з 22 хлопчыкаў лічыўся лепшым сельскім хорам павета. У 1885 г. ў мястэчку, цэнтры воласці, 148 двароў, 2437 жыхароў, валасное праўленне, праваслаўная царква, касцёл, капліца, 4 яўр. школы, 6 піцейных дамоў, гарбарны і вінакурны з-ды, праводзіліся кірмашы. У 1886 г. 15 сялян і 80 яўрэяў Янава былі заняты рознымі рамёствамі, у ім працавалі 2 хлеўнікі, 3 булачнікі, 5 млынароў, 5 мяснікоў, 10 краўцоў, 2 майстры галаўных убораў, 15 шаўцоў, гарбар, 6 муляраў (печнікоў), 2 сталяры, 10 цесляроў,



*Касцёл у г. Іванава. 1848 г.*



*Брацкая магіла супрацоўнікаў міліцыі ў г. Іванава.*



*Помнік землякам у г. Іванава.*

3 кавалі, слесар, 2 шклабойшчыкі, цагельшчык, гадзіннікавы майстар, 4 музыканты, 2 цырульнікі, пераплётчык, 2 чысцільшчыкі дымоў. Дмахоўскі меў 900 авечак, з якіх за год меў 30 пудоў воўны. У 1890 г. ў воласці налічвалася 6071 дзес. сялянскай зямлі, 18 паселішчаў, 462 сял. двары, 4218 душ, 218 несялянскіх двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Янаве 3041 жыхар, 2768 будынкаў, у тым ліку 715 жылых дамоў (па іншых звестках — 724 дамы, у т.л. 9 мураваных, 2035 гасп. пабудоў, царк.-прыходская школа), суканавальная ф-ка, гарбарны і цагельны з-ды, маслабойня, 5 млыноў, нар. вучылішча. У 1905 г. Янава — мястэчка Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 378 двароў, 2939 жыхароў; 144 двары хрысціян (364 мужчыны) і 156 двароў яўрэяў (300 мужчын). У мястэчку было 7 млыноў, 5 лазняў, аптэка, школа, мураваная праваслаўная царква неарускага стылю (пабудавана ў пач. 20 ст., захавалася), касцёл, 4 яўр. малітоўныя школы, 5 піцейных дамоў, штогод праводзіліся 5 кірмашоў. Амаль усе крамы ў Янаве былі яўрэйскімі. У снеж. 1905 г. ў маёнтку адбыліся сял. хваляванні з эканам. патрабаваннямі. У 1914 г. 2959 жыхароў (1688 мужчын, 1271 жанчына), працавалі 11 дробных прам. прадпрыемстваў. У 1915—18 гг. мястэчка акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. Сав. ўлада на кароткі тэрмін была ўсталявана ў ліп.—жн. 1920 г. З 1921 г. ў складзе Польшчы, мястэчка Драгічынскага пав. Палескага ваяв., цэнтр Янаўскай гміны. У 1924 г. 482 будынкі, 3068 жыхароў, з іх 1859 яўрэяў, 521 беларус, 190 рускіх, 289 палякаў. У 1920-я г. мястэчка ўваходзіла ў лік самых «нядобранадзейных населеных месцаў», тут існавалі ячэйкі КПЗБ (сакратар Шмуль Эльстэр) і КСМЗБ; падпольны райком, якому ў 1928 г. было падпарадкавана 28 ячэек, у 1933 г. ён ахопліваў Адрыжынскую, Янаўскую, Асавецкую гміны. У 1933 г. пры маторным млыне Хаіма Памяранца пачала дзейнічаць электрастанцыя (2 работнікі, у 1937 меўся газагенератар магутнасцю 80 к.с., які сілкаваў электрагенератар магутнасцю 57 кВт, ток пастыпаў спажыўцам у вёсках Ляскавічы, Магільна, Астравок; праіснавала да 1943), працавалі 4 млыны. У 1935 г. ў Янаве 3500 жыхароў, гміннае праў-



ленне, паштова-тэлегр. праўленне, паліцэйскі пастарунак, некалькі прыватных гасцініц, лесапільны з-д «Горбур» (працаваў з 2-й пал. 1920-х г., 95 рабочых у 1934; у студз. 1927, маі 1930, сак. 1934, у кастр. 1937 тут адбыліся забастоўкі), паравы млын «Горбур». Дзейнічала польская школа (7 класаў з 1930, 470 вучняў у 1934). 21.9.1939 г. ў Янава ўвайшла Чырвоная Армія.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 463 двары, 4918 жыхароў. Працавалі бальніца (на 50 ложкаў), радзільны дом (на 20 месцаў), паліклініка з 4 кабінетамі, пошта, 20 тэлефонаў, 3 тэлегр. апараты. Дзейнічалі 7-гадовая бел., рус. і яўр. школы. Напярэдадні вайны ў мястэчку пражывалі 5558 (па іншых звестках 6517) чал., працавалі электрастанцыя, электрамлын, 3 паравыя млыны, лесапільны з-д, бетонная вытв-сць (3 устаноўкі, 13 працаўнікоў), малочны кааператыў (4 працаўнікі), гарбарны з-д, пякарня (6 працаўнікоў), у маёнтку Навашыцы дзейнічаў вінакурны з-д. 27.6.1941 г. Іванава было акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Вызвалена 16.7.1944 г. ў ходзе Беларускай аперацыі. Пры вызваленні Іванава загінулі 34 воіны, якія пахаваны на тэр. горада, у гонар воінаў-вызваліцеляў і партызан, што дзейнічалі на тэр. раёна, устаноўлена ў 1965 г. мемарыяльная дошка. У брацкай магіле сав. воінаў і партызан пахаваны 28 чал., якія загінулі ў 1944 г. У 1946 г. ў брацкую магілу ў Іванаве былі перанесены астанкі воінаў і партызан, пахаваных у вёсках Ляскавічы, Магільна, Рудск, Снітава, у 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. На ўшанаванне памяці землякоў у 1967 г. ў горадзе пастаўлены помнік. У гады акупацыі ў цэнтры Іванава было створана гета (расстрэлы праходзілі ва ўрочышчы Баравіца). 26.9.1942 г. гітлераўцы знішчылі 2 тыс. яўрэяў. У 8 брацкіх магілах ваеннапалонных пахаваны больш



*Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан у г. Іванава.*

за 1000 чал., абеліск пастаўлены ў 1968 г. За гады вайны ў горадзе былі разбураны і спалены 365 жылых, 40 гасп. будынкаў. Ад рук акупантаў загінулі 3297 жыхароў, вывезены ў Германію 19 жыхароў, не вярнуліся з фронту ці прапалі без вестак 168 землякоў, у партыз. атрадах і падполлі — 7 чал. У час акупацыі ў горадзе была створана патрыятычная падп. арг-цыя. Пасля вызвалення на тэр. раёна ад рук баевікоў з Арганізацыі ўкр. нацыяналістаў (АУН) у 1944—50 гг. загінулі 45 чал., у т.л. ў Іванаве 8 супрацоўнікаў раённага аддзела міліцыі (пахаваныя ў брацкай магіле, помнік устаноўлены ў 1980, мемарыяльная дошка ў 1968). З 1944 г. выходзіла раённая газ. («Сталинский путь» (з 1954 — «Сталінскі шлях», у 1956—62 — «Камуніст», з крас. 1965 — «Чырвоная звязда»).

У 1946 г. ў Іванаве было 2279 жыхароў (у параўнанні з даваенным становішчам зменшылася больш чым у 2 разы), працавалі 7-гадовая школа, бальніца. У 1946/47 навуч. г. ў раёне дзейнічала 51 пач. школа (з іх 29 у наёмных памяшканнях) і 9 сямігадовых. У 1950-я г. ў Іванаве быў узведзены новы будынак школы, на 1961 г. — сярэдняя школа з вытв. навучаннем, 952 вучні. У будынку таксама працавалі школа рабочай моладзі і Магільнянская 7-гадовая школа (154 вучні). З 31.7.1949 г. ў горадзе існаваў калгас імя Крупскай, які 6.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Маладая гвардыя» (з цэнтрам у в. Магільна), 21.3.1977 г. іванаўская брыгада была далучана да калгаса імя Горкага Ляскавіцкага с/с. У


*Помнік Напалеону Ордзе ў г. Іванава. 1997 г.*

1954 г. адкрыта міжраённая інкубатарная станцыя. У 1960 г. здадзены ў эксплуатацыю новы двухпавярховы цагляны корпус бальніцы (у ім размяшчаліся хірургічнае аддз., адкрытае ў 1951, радзільнае і гінекалагічнае аддзяленні), у 1962 г. яшчэ адзін корпус (тэрапеўтычнае і дзіцячае аддзяленні), агульная колькасць ложкаў вырасла да 150. Паводле перапісу 1959 г. ў Іванаве было 3900 жыхароў. У 1962—65 гг. у складзе Драгічынскага р-на. Пастановай Вярх. Савета БССР ад 6.1.1965 г. адноўлены Іванаўскі р-н, у раённым цэнтры ў 1969 г. налічвалася 4400 жыхароў.

З 11.3.1971 г. — горад. У 1986 г. ў раён былі пераселены 202 жыхары з забруджаных радыяцыяй пасля чарнобыльскай трагедыі мясцін, у тым ліку ў Іванаве атрымалі жыллё 39 сямей. У 1989 г. даў першую прадукцыю соладавы з-д (магутнасць 80 тыс. т соладу ў год), у 1993 г. таксама працавалі заводы па вытв-сці масла і сухога малака, кансервавы, санітарна-тэхн. загатовак, жалезабетонных вырабаў, хлебны цэх камбіната каап. прам-сці, міжраённае аграпрамысловае аб'яднанне, птушкаплемрэпрадуктарная гаспадарка, будаўнічыя арг-цыі, 3 сярэднія, муз., дзіцяча-юнацкая спарт. школы, 6 дашкольных устаноў, 3 б-кі, Дом творчасці дзяцей і юнацтва, паліклініка, аптэка. У 1997 г. раённая бальніца атрымала новы 4-павярховы корпус і асобны будынак для рэанімацыйнага аддзялення. Сёння ў Іванаве працуюць маслазавод, кансервавы завод, прадпрыемствы «Марыля», «Белсолад», «Месакан», будаўнічыя арг-цыі, 4 сярэднія школы, дашкольныя ўстановы, бібліятэкі, бальніца, дзейнічаюць царква і малітоўны дом.

Маюць званне народных харавая капэла пры Цэнтры культуры і нар. рамёстваў (з 1985, створана ў 1983), хор Дома культуры (з 1986, створаны ў 1972), аркестр нар. інструментаў Іванаўскага цэнтра культуры і нар. традыцый (з 1990, створаны ў 1979), квінтэт «Дыямент» пры дзіцячай школе мастацтваў (з 1995, калектыў выконвае творы земляка, самадзейнага кампазітара і педагога Валянціна Перапёлкіна). Знакамітыя на тэр. Заходняга Палесся іванаўскія ручнікі. Радзіма паэта Морыса Вінчэўскага (пісаў на ідыш і па-англійску, жыў у Амерыцы), Героя Сав. Саюза М.М.Кольчака (1905—19). На тэр. горада шэраг помнікаў, у т.л. ўстаноўлены ў 1998 г. помнік мастаку і кампазітару Напалеону Ордзе, ураджэнцу в. Варацэвічы.

**АБРОВА** — вёска ў Бродніцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Іванава, 12 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 36 гаспадарак, 69 жыхароў (2005).

Паводле спісу 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., адносілася да маёнтка Абравок, ва ўласнасці Горніча. У 1889 г. маёнтак Аброў у Дубайскай вол., ва ўладанні памешчыка І.Э.Горніча. У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 124 жыхары, у маёнтку 2 двары, 8 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., потым польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у складзе Бродніцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., у фальварку 2 будынкі, 22



жыхары, у вёсцы 29 будынкаў, 138 жыхароў. У 1935 г. ў вёсцы 120 жыхароў, у маёнтку Аброва — 24, у фальварку — 38. На 1938 г. тут 53 двары, 364 жыхары. У 1937 г. ў прыстасаваным будынку дзейнічала школа.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Бродніцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 54 двары, 305 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 15 жыхароў вёскі. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім, у 1962—65 гг. у Пінскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. — 242 жыхары, пач. школа (40 вучняў у 1961). Паводле перапісу 1979 г. — 159 жыхароў, крама. 12.1.1950 г. ў вёсцы быў створаны калгас імя Хрушчова, які 11.11.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Васілеўскага (з цэнтрам у в. Якша), з 9.8.1958 г. вёска ў калгасе імя Дзяржынскага, з 1963 г. ў калгасе «Камсамолец», з 1965 г. ў саўгасе «Бродніцкі» (з цэнтрам у в. Брадніца), з 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Брoдніца».

**АГОВА** — вёска ў Ляскавіцкім с/с, цэнтр СВК «Ляхавічы». За 7 км на У ад Іванава, 9 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі, 8 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 130 гаспадарак, 302 жыхары (2005).

У дакументах упершыню згадваецца ў 1506 г. Паводле інвентару 1774 г. фальварак, які ўваходзіў у маёнтак Дубой Пінскага пав. і належаў пінскім езуітам. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол., у складзе маёнтка Агова, які належаў памешчыку Аніхімоўскаму. У 1909 г. вёска, 86 двароў, 567 жыхароў, і маёнтак той жа назвы, 1 двор, 19 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм. войскамі. У пач. 1919 г. ўстаноўлена сав. ўлада, з сак. 1919 г. акупіравана польскімі войскамі. З 1921



*Помнік землякам у в. Агова.*

г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У 1920-я г. ў вёсцы працаваў малочны кааператыў. Некаторыя жыхары ўваходзілі ў Оўзіцкую падп. арг-цыю КПЗБ, з кастр. 1927 г. ў вёсцы размяшчаўся райком КПЗБ імя Красіна (з мая 1930 у в. Равінцы). У 1929 г. 168 жыхароў. У 1935 г. ў вёсцы 355 жыхароў, у маёнтку — 14, потым зліліся. У 1938 г. 136 двароў, 692 жыхары.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. — вёска ў Ляхавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 204 двары, 903 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 3 жыхары, на франтах у 1939—45 гг. — 18 чал. На ўшанаванне памяці 92 жыхароў вёсак Агова, Баравая, Ляхавічы, Гаравата, Навалучкі — ахвяр фаш. тэрору ў 1967 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск, з 1946 г. дзейнічала 7-гадовая школа. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ляскавіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Агова 615 жыхароў, у в. Агова Калонія 53 жыхары. У пабудаваным у 1939 г. будынку дзейнічала школа (у 1961 7-гадовая, 101 вучань). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не.

Паводле перапісу 1979 г. 409 жыхароў. У 1949 г. ў вёсцы і аднайменнай калоніі былі створаны калгасы «Запаветы Ільіча» і «Звязда». 17.8.1950 г. яны аб'яднаны з калгасам «Сталінскі шлях» (в. Ляхавічы) у адзіны — «Запаветы Ільіча», 27.11.1957 г. перайменаваны ў «Шлях Леніна», да 1960 г. Агова — цэнтр калгаса. З 2003 г. цэнтр СВП «Ляхавічы». Філіял Брэсцкай ф-кі сувеніраў (з 1978), базавая школа, клуб, бібліятэка, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, помнік землякам — ахвярам фаш. тэрору. Вядомы від нар. творчасці «агоўская размалёўка» — традыцыйнае аздабленне алейнымі фарбамі мэблі, дываноў, шкляных пано — «карцінак», рамак для фотаздымкаў, а таксама «агоўскія куфры» — промысел, які ўзнік у пач. 20 ст. і росквіту дасягнуў у 1950-я г.

**АДРЫЖЫН** — цэнтр Адрыжынскага с/с і СВК «Кастрычнік-Агра». За 28 км на Пд ад Іванава і чыг. ст. Янаў-Палескі. 319 гаспадарак, 879 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. У 1557 г. як прыватная вёска, якая належала служылым людзям — шляхцічам, уваходзіла ў склад Пінскага пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. ў маёнтку і вёсцы, якія належалі памешчыкам Мікалаю і Антаніне Талубеевым, было 186 «душ мужчынскага полу».

Паводле інвентароў 1846—48 гг. — фальварак і вёска, аднайменныя з маёнткам, у які яны ўваходзілі, належалі памешчыку Іпаліту Талубееву. У складзе маёнтка таксама хутары Званіеш і Майданаў. У вёсцы працавалі карчма, валавы млын, малатарня, вінакурня, з-ды рагатай жывёлы і конскі, палатняная ф-ка для ўласных запатрабаванняў, смалакурня. Згодна з інвентарамі частка вёскі належала да буйнога маёнтка Баландзічы ва ўладанні памешчыка Яраслава Андржэйковіча, 746 рэвізскіх душ. У 1866 г. маёнтак ва ўладанні Іпаліта Талубеева і сяло — цэнтр Адрыжынскай вол., у сяле валаснае праўленне, сельскае прыходскае вучылішча, у 1882 г. штатнае нар. вучылішча (52 вучні). У 1885 г. ў сяле 33 двары, 353 жыхары, валаснае праўленне, праваслаўная царква, школа, 2 крамы, піцейны дом, вінакурны з-д, саладоўня, ветраны млын. У 1890 г. ў Адрыжынскай вол., 9527 дзес. сялянскай зямлі, 34 паселішчы, 679 сял. двароў (4852 налічныя душы), 56 несялянскіх. У 1904 г. сяло, побач маёнтак Адрыжын ва ўладанні Зінаіды Оцель і Лідзіі Прозаравай. У 1905 г. ў сяле — 794, у маёнтку 21 жыхар.



*Помнік землякам у в. Адрыжын.*

У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, на 1924 г. у Драгічынскім пав. Палескага ваяв., цэнтр Адрыжынскай гміны, у вёсцы і фальварку разам 75 будынкаў, 382 жыхары. У гміне налічвалася 1085 будынкаў, 5712 жыхароў. У Адрыжыне дзейнічала школа (102 вучні ў 1934).

З 1939 г. ў БССР, у 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., цэнтр Адрыжынскага с/с, 113 двароў, 565 жыхароў. Працавалі 2 млыны (2 рабочыя) і бетонаўстаноўка (4 рабочыя), пач. рус. школа, каап. гандлёвы пункт, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У сельсавеце ў 1940 г. налічвалася 11 081 га зямлі, 889 двароў, з іх — 565 хутарскіх, 4723 жыхары, большая частка насельніцтва — беларусы (9221 чал.), нязначная — яўрэі (62 чал.) і палякі (329 чал.), працавалі 2 газагенератарныя млыны, маслазавод, рыбацкая арцель (30 рыбакоў), бальні-



ца (20 ложкаў), амбулаторыя, няпоўная сярэдняя школа, 4 пач. школы, хата-чытальня, аддз. сувязі. У 1941—44 гг. вёска акупіравана ням. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У маі 1943 г. фаш. карнікі знішчылі ўсе 113 двароў, загубілі 78 жыхароў. На ўшанаванне памяці 280 жыхароў вёсак Адрыжынскага с/с, якія загінулі ў гады вайны, пастаўлены ў 1967 г. помнік (у 1990 ён перанесены ад б. будынка сельсавета ў цэнтр вёскі, на бераг воз. Пясчанае). Ад рук бандытаў у 1944—47 гг. загінулі 7 работнікаў сельсавета, 1 жыхар вёскі. З 8.1.1954 г. вёска ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 367 жыхароў. У 1960 г. на базе фельч.-акушэрскага пункта створана ўчастковая бальніца. У 1961 г. пабудавана 8-гадовая школа (у 1961 — 171 вучань). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У сельсавеце было 3636 жыхароў. Паводле перапісу 1979 г. 827 жыхароў. У 1980 г. ў межы Адрыжына ўключана в. Уласаўцы 1-я. 10.8.1950 г. ў вёсцы сельгасарцель імя Панамарэнкі, якая 28.1.1952 г. ўвайшла ў склад калгаса імя Калініна (в. Адрыжын стала яго цэнтрам). 18.2.1963 г. калгас перайменаваны ў «Кастрычнік». З 3.6.2003 г. вёска — цэнтр СВК «Кастрычнік-Агра». Сярэдняя школа, дзіцячы сад, сельская б-ца, аптэка, ветучастак, Дом культуры, б-ка, муз. школа, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, магазін. Дзейнічае царква, пабудаваная ў 1990-я г. Захаваліся асобныя пабудовы Забудылля — хутара ў Адрыжынскім с/с паміж вёскамі Адрыжын і Страмец.

**АПАДЫШЧА** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 36 км на ПдЗ ад Іванава, 36 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 76 гаспадарак, 170 жыхароў (2005).

Вёска ўтворана з навакольных хутароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, на 1924 г. калонія ў Адрыжынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 20 будынкаў, 156 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, на 1940 г. калонія ў Адрыжынскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 12 двароў, 117 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, ад рук акупантаў загінуў 1 жыхар вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 21 воін-зямляк. У 1945—51 гг. былі забіты 8 чал., савецкія актывісты і члены іх сем'яў, пахаваныя ў адзінай магіле, абеліск на ёй устаноўлены ў 1975 г. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 185 жыхароў, 7-гадовая школа (91 вучань у 1961). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 481 жыхар. З 10.8.1950 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Хрушчова (цэнтр — в. Падышча), які 28.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Адрыжын, з 1963 — калгас «Кастрычнік»), з 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Кастрычнік-Агра». Базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін.

**АСАЎНІЦА** — вёска ў Моладаўскім с/с. За 24 км на Пн ад Іванава, 26 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 161 гаспадарка, 280 жыхароў (2005).

Вядома з 1495 г., лічылася княжацкай. Тут пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю. Згодна з пісцовай кнігай у 1554 г. сяло, якое ўваходзіла ў склад Дружылаўскага двара. У 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1807 г. маёнтак Асаўніцы, 109 дымоў, 29 валок зямлі, хлеў, бровар. У 1866 г. в. Асаўніцы ў маёнтку памешчыка Іосіфа Карэнецкага (Замошва) у Асаўніцкай вол. У 1885 г. вёска — цэнтр Асаўніцкай вол., 55 двароў, 473 жыхары, валасное праўленне, піцейны дом. У 1905 г. ў вёсцы — 730, у маёнтку 25 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., потым польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у 1924 г. ў Мотальскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 126 будынкаў, 469 жыхароў. Працавала школа (у 1934 — 80 вучняў).

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска Асавіца ў Моладаўскім с/с Іванаўс-



*Камень з надпісам каля в. Асаўніца.*

кага р-на Пінскай вобл., 170 двароў, 888 жыхароў, працавала пач. рус. школа, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У 1941—44 гг. акупіравана ням. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 18 жыхароў вёскі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 37 воінаў-землякоў. У 1990 г. побач з вёскай на магіле, у якой пахаваны мірныя жыхары яўр. нацыянальнасці з в. Моталь, расстраляныя акупантамі ў жн. 1941 г., устаноўлены мемарыяльны знак. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 912 жыхароў, у 7-гадовай школе ў 1961 г. навучаліся 127 вучняў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 288 жыхароў. 23.12.1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Маяк рэвалюцыі», які 11.12.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Сталіна (з цэнтрам у в. Моладаў), 19.6.1960 г. перайменаваны ў «Моладава», з 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Моладава». Базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**АСТРАВОК** — былая вёска ў Ляскавіцкім с/с.

Вядомы на 1866 г. ва ўладанні памешчыцы Паўліны Вайцяхоўскай у Янаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў Іванаўскай вол., у вёсцы — 235, у маёнтку 30 жыхароў. У 1914 г. маёнтак Астравок належаў Юльяну Багурскаму, потым Барысу Мікалаевічу Палеалогу, камергеру царскага двара і томскаму губернатару. Драўляны дом памешчыка разрабаваны ў час вайны. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, з 1939 г. ў БССР. На 12.10. 1940 г. ў Ляскавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 63 двары, 258 жыхароў (у вёсцы і б. маёнтку). На хутары Астравок, жыхары якога потым перасяліліся ў вёску, 21 жыхар. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала патрыят. падп. арганізацыя. Ад рук акупантаў загінулі 9 жыхароў вёскі, на франтах у 1939—45 гг. 6 воінаў-землякоў. У 1950 г. ў вёсцы быў створаны калгас «Праўда». З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 1930 г. ў прыстасаваным памяшканні працавала пач. школа, на 1961 г. — 14 вучняў. У 1970 г. вёска ўключана ў межы Іванава.

**АТОЛЧЫЦЫ** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 28 км на ПнУ ад Іванава, 28,5 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 15 гаспадарак, 35 жыхароў (2005).

Назва вёскі паходзіць ад старажытнабел. слова «атолец» — талае, цёплае, прагрэтае сонцам месца. Паводле гіст. дакументаў вядома з 17 ст. як маёнтак, які ў 1659 г. быў разрабаваны казакамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1-й пал. 19 ст. вёска Парэцкай вол. Пінскага павета Мінскай губ. Належала памешчыцы Араноўскай. На 1885 г. лічылася фальваркам. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 26 двароў, 176 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы разам з маёнткам 210 жыхароў, 38 двароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, на 1924 г. у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 42 будынкі, 224 жыхары, у фальварку 3 будынкі, 18 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Кротаўскім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 56 двароў, 276 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 5 воінаў-землякоў. З 8.1.1954



г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не, з 9.3.1959 г. ў Дастоеўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 294 жыхары. У 1962—65 гг. ў Драгічынскім р-не. 6.10.1948 г. ў вёсцы створаны калгас «Іскра», які 2.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» (з цэнтрам у в. Кротава, у 1957 — імя Чапаева), з 1958 г. ў калгасе «Чырвоная звязда» (з цэнтрам у в. Дастоева). З 1961 г. вёска ў калгасе «Світанне» (з 25.12.1962 «Савецкі», з цэнтрам у в. Кротава, пасля 1980 — у в. Скорацічы).

**БАЛАНДЗІЧЫ** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 24 км на Пд ад Іванава, 23 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 151 гаспадарка, 311 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. Згодна з пісцовай кнігай у 1555 г. належала Ставецкаму двару ў Пінскім пав. Упамінаецца таксама ў «Рэестры лясных пушчаў», у 1559 г. ў складзе Пінскага пав. Трокскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Па рэвізіі 1816 г. вёска належала памешчыку, ген. Івану Андржэйковічу, разам з іншымі вёскамі ў маёнтку 196 душ мужчынскага полу.

Згодна з інвентарамі 1845—48 гг. вёска ў маёнтку, які належаў Яраславу Андржэйковічу. Усяго ў маёнтку было 11 490 дзес. зямлі і ўключаў фальварак Баландзічы, 4 вёскі — Баландзічы і Адрыжын Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., Махро і Вулька Махрэнская, хутар Увашчын Пінскага пав. Мінскай губ. Усяго 102 двары, 746 рэвізскіх душ (мужчын — 373, жанчын — 373). У маёнтку Баландзічы 4 карчмы, з іх 2 знаходзіліся па тракце, адна ў в. Баландзічы; 2 сельскіх хлебазапасных магазіны. У 1852 г. ў Баландзічах нарадзілася Марыя Яраславаўна Андраковіч-Бутаўт, жывапісец, якая працавала ў галіне гіст. карціны, жанравага, рэлігійнага і партрэтнага жывапісу. Жыхары вёскі прымалі ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. У 1866 г. вёска ў Адрыжынскай вол., маёнтак Ніжнія Баландзічы памешчыка Яраслава Андржэйковіча канфіскаваны ў казну. У 1905 г. ў Адрыжынскай вол., у вёсцы — 579, у маёнтку 13 жыхароў. У 1914 г. 668 чал. дарослага насельніцтва (у т.л. 332 мужчыны, 336 жанчын), з якіх пісьменных — 12, дзяцей школьнага ўзросту — 95, з іх навучаліся ў школе 32. Нар. вучылішча (у асобным памяшканні з 1911). З 1915 г. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Адрыжынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 109 будынкаў, 645 жыхароў, у фальварку 2 будынкі, 17 жыхароў. У 1934 г. ў фальварку і вёсцы працавалі асобныя школы, у фальварку навучаліся 14 дзяцей, у вёсцы — 84.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёскі Баландзічы 1-я і Баландзічы 2-я ў Адрыжынскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл. На 12.10.1940 г. 193 двары, 1000 жыхароў, працавала пач. рус. школа, у былым маёнтку Баландзічы 6 двароў, 39 жыхароў. Каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У 1941—44 гг. Баландзічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, уваходзілі ў рэйхскамісарыят «Украіна». З 1943 г. да сакавіка 1944 г. вёска ўваходзіла ў аб'яднаны падп. бел.-укр. сельсавет, які ахопліваў вёскі Баландзічы, Вулька, Краснае, Махро, Хамічава (Беларусь), Дольск, Нігавішчы, Омыт (Украіна), старшыня выканкома — М.К.Каначук. Ад рук акупантаў загінуў 1 жыхар, на франтах у 1939—45 гг. 45 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 243 жыхары, у прыстасаваным будынку дзейнічала школа (у 1961 — 7-гадовая, 126 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 768 жыхароў. З 9.9.1950 г. вяскоўцы разам з жыхарамі навакольных хутароў Дварышча, Запрудскае, Ламаны, Лясок, Млыны, Паліток і інш. працавалі ў калгасе імя Дзімітрава, які пазней увайшоў у склад калгаса імя Калініна (з цэнтрам

у в. Адрыжын, з 1963 «Кастрычнік»). З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Кастрычнік-Агра». Базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**БАРАВАЯ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с. За 11 км на ПнУ ад Іванава, 14 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 29 гаспадарак, 44 жыхары (2005).

Паводле інвентару 1845 г. вёска пад назвай Баравая ў маёнтку Навашыцы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., належала памешчыку Віктару Ордзе; у вёсцы 8 двароў, 59 рэвізскіх душ, карчма. У 1866 г. уладанне Вітольда Орды ў Асаўніцкай вол. У 1905 г. 125 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 17 будынкаў, 103 жыхары. З 1928 г. вёска Баравая ў Парэчыцкай гміне Пінскага павета. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. — вёска ў Ляхавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 32 двары, 175 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Ад рук акупантаў загінулі 10 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 15 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Ляскавіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 209 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 29.12.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас імя Дзяржынскага, які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Сталінскі шлях» (з цэнтрам у в. Ляхавічы), з 1959 г. ў калгасе «Шлях Леніна» (з цэнтрам у в. Агова, пасля 1960 цэнтр — в. Ляхавічы). З 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Ляхавічы» (з цэнтрам у в. Агова). Магазін.

**БЕРАЗЛЯНЫ** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 10 км на Пн ад Іванава, за 12,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 81 гаспадарка, 129 жыхароў (2005).

У 1866 г. вёска, маёмасць дзярж. казны, у Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 394 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 63 будынкі, 336 жыхароў. Працавала школа, у 1934 г. — 84 вучні. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Сачыўкаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 83 двары, 490 жыхароў, працавала пач. рус. школа, была вытв-сць бетону (6 рабочых). У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Спалена 5 будынкаў, у тым ліку жылых — 1, гасп. — 4. Ад рук акупантаў загінулі 8 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 30 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Стрэльненскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 472 жыхары, дзейнічала пач. школа ў прыстасаваным будынку, на 1961 г. — 38 вучняў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 346 жыхароў. З 31.1.1949 г. вёска ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Сачыўкі), у 1960 г. перайменаваны ў калгас «Іскра», у 1963 г. — у калгас «Дружба». З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Бакунава». Клуб, б-ка, 2 магазіны. З 6.9.2000 г. ў Сачыўкаўскім с/с.

**БОШНЯ** — вёска ў Крытышынскім с/с. За 16 км на Пд ад Іванава, за 13,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска пад назвай Бошна. На 1866 г. у ведамстве дзярж. маёмасці ў Адрыжынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 23 будынкі, 152 жыхары (з іх 150 — палякі). З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Крытышынскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 32 двары, 170 жыхароў, пач. рус. школа. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Частка жыхароў



пасля вайны выехала ў Польшчу. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў, участковая бальніца. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 60 жыхароў. 3.9.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас імя Шверніка, які 4.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «70-годдзе Сталіна» (з цэнтрам у в. Гнеўчыцы; у 1960 перайменаваны ў калгас «Беларусь»). З 1980 г. ў калгасе імя Машэрава (з цэнтрам ў в. Крытышын), з 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Машэраўскі».

**БРОДНІЦА** — вёска, цэнтр Бродніцкага с/с і СВП «Бродніца». За 12 км на У ад Іванава, 3 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 245 гаспадарак, 570 жыхароў (2005).

У дакументах згадваецца ў 1507 г. У 1554 г. тут былі двары-хутары Івана Хвіцко, Мачко Кунэўча, Андрэя Шымановіча, Івана Дземяновіча. Згодна з пісцовай кнігай у 1555 г. Бродніца належала Ставецкаму двару ў Пінскім пав., 16 гаспадарак. Па адзін бок вуліцы знаходзіліся дамы, па другі гумны. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. сяло лічылася княжацкім. Тут пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю, быў створаны фальварак. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Уладальнік Бродніцы кн. Альбрыхт Станіслаў Радзівіл у 1658 г. (ці раней) падараваў сяло езуітам. Паводле інвентару 1774 г. фальварак уваходзіў у маёнтак Дубай Пінскага пав. і належаў пінскім езуітам. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. У 1861 г. ў Бродніцы нарадзіўся жывапісец Францішак Бруздовіч, які ў 1898 г. ўдзельнічаў у размалёўцы касцёла ў Кельцах (Польшча), выканаў шэраг насценных замалёвак у касцёлах Нясвіжа і в. Цімкавічы (Капыльскі р-н, 1906—08), Мінска (1911). Крыжаўзвіжанская царква — прыклад драўлянага дойлідства з элементамі архітэктуры позняга класіцызму, пабудавана ў 1865 г. з дрэва (захавалася). Нар. вучылішча (адкрыта ў 1865, на 1882 — 110 вучняў). У 1870 г. сяло ў маёнтку Дубай.

На 1885 г. — сяло ў Дубайскай вол., 27 двароў, 233 жыхары, валасное праўленне, праваслаўная царква, школа. Побач з вёскай аднайменны фальварак, уласнасць памешчыка Пятра Даманоўскага. У 1890 г. ў Дубаўскай вол. налічвалася 114 несялянскіх двароў, 15 344 дзес. сял. зямлі, 30 паселішчаў, у якіх 752 двары і 9678 душ. 14.12.1905 г. сяляне Бродніцы і суседняй в. Рылавічы аб'явілі забастоўку, спалілі паравы млын і малатарню, потым у лесе маёнтка Дубай учынілі самавольную рубку леса. У 1906 г. ў маёнтку Бродніца таксама адбылася забастоўка. У 1909 г. ў маёнтку 1 двор, 64 жыхары, у сяле 53 двары, 467 жыхароў, на хутары той жа назвы 2 двары, 6 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. вёска — цэнтр Бродніцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 60 будынкаў, 327 жыхароў, у фальварку 3 будынкі, 41 жыхар. Пазней населеныя пункты зліліся ў адзін. У 1935 г. ў вёсцы 334 жыхары, у маёнтку — 42. У 1938 г. 96 двароў, 530 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. сяло, цэнтр Бродніцкага с/с Жабчыцкага р-на



*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Бродніца.*




Пінскай вобл., 124 двары, 604 жыхары, спіртзавод (70 рабочых), медпункт. У склад сельсавета ўваходзілі 7 паселішчаў з насельніцтвам 3567 жыхароў (па іншых звестках — 3798), дзейнічалі 6 пач., 1 няпоўная сярэдняя школы, клуб. У 1941—44 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 3 жыхары вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 11 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў у 1968 г. пастаўлены помнік. З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім, у 1962—65 гг. у Пінскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 701 жыхар (у сельсавеце тады былі 23 населеныя пункты з насельніцтвам 5888 жыхароў). Паводле перапісу 1979 г. ў вёсцы 630 жыхароў. У чэрв. 1945 г. створаны калгас імя Чапаева, які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Маленкова, Бродніца стала цэнтрам аб'яднанай гаспадаркі, у 1957 г. перайменаванай у «Запаветы Ільіча». 20.4.1965 г. калгас быў рэарганізаваны ў саўгас «Бродніцкі». У 2003 г. на базе саўгаса створана СВП «Бродніца». У 1960-я г. на базе фельч.-акушэрскага пункта адкрыта ўчастковая бальніца, дзейнічала пач. школа (у 1961 — 54 вучні). Крухмальны з-д (засн. ў 1907 як спіртзавод), лясніцтва, пач. школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, аптэка, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, сталовая, 3 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, дзейнічае царква.

**БУСА** — вёска ў Моладаўскім с/с. За 25 км на Пн ад Іванава, 28,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 112 гаспадарак, 200 жыхароў (2005).

На 1866 г. вёска ў Асаўніцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў маёнтак Моладаў, які належаў Скірмунтам. У 1905 г. ў вёсцы 256 жыхароў, варта з 6 чалавек. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Мотальскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 59 будынкаў, 355 жыхароў. Школа, у 1934 г. — 82 вучні.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Моладаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 80 двароў, 506 жыхароў (па інш. звестках 87 двароў, 391 жыхар), працавала пач. рус. школа. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У крас. 1944 г. карнікі знішчылі 87 двароў, загубілі 12 жыхароў. Ад рук акупантаў загінулі яшчэ 7 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 29 воінаў-землякоў. У 1946 г. быў пабудаваны мост на р. Ясельда, у 1950 г. вёска радыёфікавана. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 477 жыхароў, у 1958 г. будынак школы (у 1961 7-гадовая, 76 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 453 жыхары. 2.3.1950 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Вярх. Савета СССР, які 28.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Сталіна (з цэнтрам у в. Моладава), у 1960 г. перайменаваны ў «Моладава». З 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Моладава». 11.11.1950 г. пры трагічных абставінах у час пажару ў клубе загінулі 68 вяскоўцаў. Базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін.

**ВАРАЦЭВІЧЫ** — вёска ў Снітаўскім с/с. За 12 км на ПдЗ ад Іванава, 6 км да чыг. ст. Снітава. 212 гаспадарак, 461 жыхар (2005).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1497 г. З 1528 г. — уладанне Яна і Станіслава Юркевічаў-Ільінічаў, з 1552 г. сяло ўваходзіла ў склад Дружылавіцкага двара. У грамаце вял. князя літоўскага былі адзначаны яго межы — «па правую руку ўваход у пушчу — сходная зямля з людзьмі яго каралеўскай міласці сяла Варацэвіцкага і сяла Снітаўскага». У канцы 16 ст. ў складзе Пінскага пав. Трокскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. З канца 17 ст. Варацэвічы ва ўладанні сямейства Ордаў.



Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У радавым маёнтку Варацэвічы нарадзіўся мастак і музыкант, кампазітар і публіцыст Напалеон Орда (1807—83). Удзельнічаў у паўстанні 1830—31 гг., за што радавы маёнтак канфіскаваны ў 1835 г. на карысць дзяржавы і перададзены ў пажыццёвае ўладанне яго маці Юзафіне (Жазэфіне) Бутрымовіч (памерла ў 1859). Паводле інвентароў 1846—48 гг. у маёнтак Варацэвічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. ўваходзілі сяло той жа назвы, в. Гарбаха, хутары Міхалін і Гарбашка; усяго зямлі ў маёнтку на 1846 г. было 2656 дзес. У сяле Варацэвічы 48 двароў, 442 жыхары, карчма. Пасля 1859 г. Напалеон Орда арандаваў 3 фермы, на якія было падзелена яго ўладанне, залажыў у Варацэвічах фабрыку с.-г. машын, правёў меліярацыю, разводзіў пародзістую жывёлу. У 1872 г. падараваў мясц. царкве ікону з дароўным надпісам (захавалася). Розныя віды сядзібы Варацэвічы і наваколля адлюстраваны ў малюнках мастака (памёр у Варшаве, цела перавезена ў Варацэвічы і пахавана ў радавым склепе). У 1863 г. было пабудавана асобнае памяшканне для нар. вучылішча (у 1882 — 65 вучняў, у 1914 — 78). На 1886 г. сяло — цэнтр Варацэвіцкай вол., 77 двароў, 824 жыхары, валаснос праўленне, 2 праваслаўныя царквы, школа, 2 ветраныя млыны, 2 піцейныя дамы, 2 кірмашы ў год. У канцы 19 ст. пабудавана Крыжаўзвіжанская царква (захавалася), помнік архітэктуры неарускага стылю. Працавалі 6 ткачоў, цагельнік (пячнік), майстар па колах. У 1890 г. ў Варацэвіцкай вол. 6654 дзес. сялянскай зямлі, 25 паселішчаў, 441 двор, 5493 жыхары, 52 несялянскія двары. У 1905 г. ў сяле — 1110, у маёнтку 30 жыхароў. У 1914 г. 1166 жыхароў (547 мужчын, 619 жанчын).

У 1915—18 гг. сяло акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскімі. На кароткі час у ліп. 1920 г. была ўсталявана сав. ўлада (старшыня рэўкома І.С.Парасевіч). З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. цэнтр Варацэвіцкай гміны Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы і фальварку разам 161 будынак, 752 жыхары, школа (169 вучняў у 1934). У 1920-я г. існавала ячэйка КПЗБ (сакратар Мікалай Божка, таксама ўваходзілі Мікалай Гарупіч, Рыгор Ержын).

З 1939 г. ў БССР, на 12.10.1940 г. вёска і б. маёнтак — цэнтр Варацэвіцкага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 274 двары, 1704 жыхары, працавала пач. рус. школа, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу, устаноўлена тэлеф. сувязь з райцэнтрам. У сельсавеце працавалі няпоўная сярэдняя школа, 2 пач. школы, пошта. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Ад рук акупантаў загінулі 49 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 62 воіны-земляікі. На ўшанаванне памяці 54 аднавяскоўцаў — чырвонаармейцаў і партызан, якія загінулі ў вайну, у 1967 г. ўстаноўлены помнік (у 1990 рэканструяваны). Пасля вызвалення ў 1946 г. 1325 жыхароў. У 1944—45 гг. адноўлены б. торфазавод «Агдэмер» пад назвай торфапрадпрыемства «Варацэвічы», пабудавана вузкакалейка. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. сельсавет скасаваны, яго тэр. далучана да Гарбах-



*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Варацэвічы.*



*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Варацэвічы.*

скага с/с. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 10.8.1970 г. в. Варацэвічы была перададзена ў Магільнянскі (Магільнаўскі) с/с, які 16.11.1970 г. перайменаваны ў Снітаўскі. Паводле перапісу 1979 г. 347 жыхароў. З 5.9.1949 г. вяскоўцы разам з жыхарамі навакольных хутароў Міхалін, Падгорбай, Дубоўка, Аліўка, Крыўча, Чырвоны Двор, Падбалоцце працавалі ў калгасе імя Малянкова, які 26.6.1957 г. перайменаваны ў калгас «Праўда», 13.2.1962 г. — у калгас імя Крупскай. З 1977 г. ў складзе калгаса «Маладая гвардыя» (з цэнтрам у в. Снітава), з 2003 г. вёска ва ўгоддзях «Снітаваагра». Сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддз. сувязі, 2 магазіны, дзейнічае царква.

**ВАРТЫЦК** — вёска ў Псышчаўскім с/с. За 22 км на ПнЗ ад Іванава, 25 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 140 гаспадарак, 319 жыхароў (2005).

Згадваецца ў 1835 г. як фальварак Варатыцк у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., 37 дымоў. На 1886 г. вёска ў Дружылавіцкай вол. У 1905 г. тут 894 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 86 будынкаў, 496 жыхароў. У 1920-я г. існавала ячэйка КПЗБ (сакратар Захар Дудзік, потым Сямён Новік).

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Псышчаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 109 двароў, 685 жыхароў, 15.4.1940 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які аб'яднаў 89 гаспадарак. Існавала камсамольская арг-цыя, дзейнічала пач. школа. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У чэрв. 1943 г. фаш. карнікі знішчылі 108 двароў, загубілі 82 жыхароў. У партызанах і падполлі загінулі 3 вяскоўцы, ахвярамі фаш. тэрору сталі яшчэ 46 мірных жыхароў, на франтах 2-й сусветнай вайны 1939—45 гг. загінулі 24 воіны-землякі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў у 1964 г. ўзведзены абеліск. Пасля вызвалення Вартыцка ад фаш. акупантаў антысав. падполлем забіты 1 жыхар. З 1944 г. ў двух прыстасаваных карпусах працавала школа (на 1961 — пачатковая, 66 вучняў). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 576 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 560 жыхароў. 1.11.1949 г. аднавіў дзейнасць калгас імя Варашылава, які 23.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Леніна (з цэнтрам у в. Псышчава), 14.2.1963 г. перайменавана ў калгас «За мір». З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Прыясельны». Базавая школа, б-ка, магазін.

**ВЕРАМЕЕЎЦЫ** — былая вёска, увайшла ў межы в. Сычэва.

Згадваецца ў 1866 г. ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. У 1905 г. 140 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. 37 будынкаў, 191 жыхар. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. у Стрэльненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 40 двароў, 206



жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 9 вяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 28.3.1950 г. ў калгасе імя Кірава (з цэнтрам у в. Панцаўцы, з 7.10.1950 — у в. Сычэва), з 1959 г. ў калгасе «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Новая Стрэльна), з 1962 г. ў калгасе «Іскра» (з 1963 — «Дружба», з цэнтрам у в. Сачыўкі). Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 21.7.1980 г. ўключана ў межы в. Сычэва.

**ВІЛЫ** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 24 км на ПнУ ад Іванава, 24,5 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2005).

У 1909 г. хутар у Парэцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 10 двароў, 46 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. вёска ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 10 будынкаў, 56 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Кротаўскім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 17 двароў, 120 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. З 8.1.1954 г. ў Жабінкаўскім р-не Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не, з 9.3.1959 г. ў Дастоеўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 138 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 22.7.1949 г. вяскоўцы разам з жыхарамі Навасёлак стварылі калгас «Парыжская камуна», які 2.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» (з цэнтрам у в. Кротава), з 1957 г. перайменаваны ў калгас імя Суворава, а ў 1958 г. далучаны да калгаса «Чырвоная звязда» (з цэнтрам у в. Дастоева). З 1961 г. ў складзе калгаса «Світанне» (з цэнтрам у в. Кротава). На 2005 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Агра-Моталь».

**ВІЎНЕВА** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 33 км на Пд ад Іванава, 30 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. На мяжы з Украінай. 50 гаспадарак, 123 жыхары (2005).

На 1924 г. калонія ў Адрыжынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 24 будынкі, 171 жыхар. З 1939 г. ў БССР, у 1940 г. вёска ў Адрыжынскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 25 двароў, 125 жыхароў, працавала пач. рус. школа. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У ліп. 1944 г. карнікі поўнасцю знішчылі вёску, спаліўшы ўсе 25 двароў. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 7 вяскоўцаў. Зноў створана рашэннем Іванаўскага райвыканкома ад 12.8.1957 г. ва ўрочышчы Віўнева ў выніку ссялення навакольных хутароў. Паводле перапісу 1959 г. 192 жыхары. У прыстасаваным будынку пасля вызвалення зноў дзейнічала пач. школа (у 1961 — 46 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 190 жыхароў. З 1957 г. ў складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Адрыжын), у 1963 г. перайменаванага ў «Кастрычнік», з 2003 вёска ва ўгоддзях СВК «Кастрычнік-Агра». Пач. школа, магазін.

**ВУЛЬКА-ДАСТОЕЎСКАЯ** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 20 км на ПнУ ад Іванава, 22 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 62 гаспадаркі, 120 жыхароў (2005).

Згадваецца ў 1648 г., калі сяляне разам з казакамі ўзняліся супраць свайго памешчыка. Войска жорстка расправілася з паўстанцамі. У памяць тых падзей каля в. Вулька ёсць «Казацкая горка». Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. Вёска ў складзе маёнтка Дастоева, які знаходзіўся ва ўладанні Вітольда Орды і яго нашчадкаў да пач. 20 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Парэцкай вол., 28 двароў, 231 жыхар, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзіліся аднайменныя сядзіба ва ўладанні Эдвіна Казлякоўскага (2 двары, 6 жыхароў), фальварак ва ўладанні Ежы Орды

(1 двор, 5 жыхароў) і хутар (1 двор, 3 жыхары, на царк. зямлі). У 1909 г. ў маёнтку 2 двары, 18 жыхароў, у в. Вулька 251 жыхар, 45 двароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 51 будынак, 297 жыхароў, у фальварку 2 будынкі, 12 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Застружскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 57 двароў, 379 жыхароў. 10.7.1940 г. створаны калгас «1 Мая». У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У вёсцы была створана і дзейнічала патрыят. падпольная арг-цыя. Акупанты загубілі 1 жыхара вёскі, 12 воінаў-землякоў загінулі на франтах у 1939—45 гг. Ужо пасля вызвалення быў забіты антысав. падп. групамі «барацьбітоў» 1 жыхар. 12.9.1949 г. мясцовы калгас «1 Мая» аднавіў сваю дзейнасць, 28.8.1950 г. ён увайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» (з цэнтрам у в. Дастоева). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. 26.2.1958 г. Застружскі с/с перайменаваны ў Дастоеўскі. Паводле перапісу 1959 г. 458 жыхароў, у пач. школе ў 1961 г. (у прыстасаваным будынку) — 45 вучняў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У 1975 г. Застружскі с/с перайменаваны ў Дастоеўскі. Паводле перапісу 1979 г. 263 жыхары. З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Дастоева».

**ВУЛЬКА**, В у л ь к а-М а х р о ў с к а я — вёска ў Махроўскім с/с. За 16 км на Пд ад Іванава, 14 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 50 гаспадарак, 105 жыхароў (2005).

У назве адлюстраваны асаблівасці забудовы: вулька — вёска ў адну вуліцу, выселак, слабодка, таму звычайна ўказваецца, ад якой вёскі выселак — Вулька Махроўская. Паводле інвентароў 1845—48 гг. Вулька Махрэнская, вёска ў маёнтку Баландзічы, які ўключаў таксама вёскі Махро і Адрыжын, вёску і фальварак Баландзічы, хутар Увашчын, належаў памешчыку Яраславу Андржэйковічу. У 1848 г. ў в. Вулька Махрэнская 45 рэвізскіх душ, карчма. Паводле спісу 1870 г. вёска ў Махрэнскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уваходзіла ў маёнтак Баландзічы, які быў канфіскаваны ў памешчыка Андржэйковіча. У 1909 г. пад назвай Вулька ў Бродніцкай вол., 25 двароў, 207 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Махроўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 58 двароў, 297 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупанты знішчылі 59 будынкаў, у тым ліку 24 жылых, 35 гасп., ад іх рук загінулі 5 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі 19 воінаў-землякоў. У 1943 г. і да сак. 1944 г. ўваходзіла ў аб'яднаны падп. бел.-ўкр. сельсавет, які ахопліваў вёскі Баландзічы, Вулька, Краснае, Махро, Хамічава (Беларусь), Дольск, Нігавішчы, Омыт (Украіна), старшыня выканкома М.К.Каначук. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 203 жыхары. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 260 жыхароў. З 25.1.1950 г. вяскоўцы разам з жыхарамі вёсак Хамічава, Краснае і хутароў Хамічаўскія і Краснае працавалі ў калгасе імя Мікаяна, які 5.3. 1951 г. быў узбуйнены (цэнтрам стала в. Махро), у 1970 г. перайменаваны ў калгас імя Леніна. З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВП «Баравіца».

**ВЯРХУСЦЕ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с. За 4 км на Пн ад Іванава, 6 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 151 гаспадарка, 396 жыхароў (2005).

У 1866 г. ў Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 477 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921



г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 59 будынкаў, 263 жыхары. Працавала школа, у 1934 г. — 80 вучняў.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Ляскавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 94 двары, 467 жыхароў, працавала пачатковая школа, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 10 воінаў-землякоў, у партызанах 1 жыхар, акупанты загубілі 38 вяскоўцаў. У 1944—45 гг. Вярхусцкая лесадача стала цэнтрам лесанарыхтовак і лесавывазу, ахоплівала Ляскавіцкі, Іванаўскі, Магільнянскі, Стрэльненскі, Сычэўскі, Псышчаўскі, Опальскі сельсаветы. Паводле перапісу 1959 г. 453 жыхары, у прыстасаваным будынку працавала школа (на 1961 — пачатковая, 54 вучні, у будынку таксама дзейнічала 8-гадовая школа сельскай моладзі). З 8.8.1949 г. вёска ў калгасе імя Горкага (з 26.8.1950 цэнтрам калгаса стала в. Ляхавічы), з 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Ляхавічы-Агра». Магазін.

**ГАРАВАТА** — вёска ў Ляскавіцкім с/с. За 10 км на ПнУ ад Іванава, 12 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 52 гаспадаркі, 78 жыхароў (2005).

У 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 57 сялян. У 1889 г. ў Дубайскай вол. У 1909 г. ў Бродніцкай вол., у вёсцы 35 двароў, 298 жыхароў, чыг. раз'езд. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 7 будынкаў, 35 жыхароў. У 1929 г. 61 жыхар, у 1938 г. — 57 двароў, 277 жыхароў. У 1936 г. пабудавана школа.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Ляхавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 57 двароў, 273 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Ад рук акупантаў загінуў 1 жыхар вёскі, у партызанах — 1 жыхар, на франтах у 1939—45 гг. 6 воінаў-землякоў. Пасля вызвалення забіты баевікамі антысав. падполля 1 жыхар. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляскавіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 322 жыхары. У пач. школе ў 1961 г. 22 вучні. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 238 жыхароў. 5.8.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас «Ленінскі камсамол», які 26.8. 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Сталінскі шлях» (з цэнтрам у в. Ляхавічы), з 17.1.1959 г. ў калгасе «Шлях Леніна» (з цэнтрам у в. Агова, пасля 1960 — у в. Ляхавічы). З 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Ляхавічы». Магазін.

**ГАРБАХА** — вёска, цэнтр Гарбахскага с/с і СВП «Гарбаха-агра». За 16 км на ПдЗ ад Іванава, 11 км ад чыг. ст. Снітава. 233 гаспадаркі, 545 жыхароў (2005).

Паводле інвентароў 1846—48 гг. — вёска і хутар у складзе канфіскаванага маёнтка Варацэвічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у карыстанні памешчыцы Жазафіны Орды (да 1859), у вёсцы 89 двароў, на хутары 1 двор. На 1848 г. у вёсцы 354 рэвізскія душы, працавала карчма, на хутары Гарбашка 2 жыхары. Пасля 1861 г. была заснавана цагельня. На 1866 г. вёска ў Варацэвіцкай вол. У 1905 г. ў вёсцы — 911, на цагельным з-дзе 11 жыхароў. Пры падзеле зямлі паміж с. Варацэвічы і в. Гарбаха ў 1912 г. была створана дзяржаўная дача: надзелены зямлёй 174 б. дзяржаўных сялян вёскі, выдзелены зямля для агароднікаў і салдацкія ўчасткі. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Варацэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 74 будынкі, 368 жыхароў. З 20.12.1925 г. ў Асавіцкай гміне. Працавала школа, у 1934 г. — 80 вучняў. З 1939 г. ў БССР, на 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Гарбахскага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 148 двароў, 720

жыхароў, працавала пач. рус. школа. У сельсавеце дзейнічалі 3 цагельні (немеханізаваныя), 3 пач. школы. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У партызанах загінулі 3 жыхары вёскі, акупанты загубілі 10 жыхароў, з франтоў 2-й сусветнай вайны 1939—45 гг. не вярнуліся 29 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці вяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вял. Айч. вайны, у 1969 г. пастаўлены помнік (аўтар І.К.Мельнічук).

З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 379 жыхароў. У сельсавеце налічвалася 40 вёсак і хутароў. У 2 прыстасаваных будынках дзейнічала пач. школа, у 1961 — 77 вучняў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 716 жыхароў. У вёсцы ў 1969 г. пабудаваны магазін. У 1983 г. на магіле Сцяпана Каразея, які загінуў у Афганістане, устаноўлены помнік. У 1986 г. ў вёску перасялены жыхары з мясцін, забруджаных радыяцыяй пасля чарнобыльскай трагедыі. 26.3.1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Наперад да камунізму» (аб'яднаў 24 гаспадаркі), які 10.10.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Молатава (в. Гарбаха стала яго цэнтрам). У калгасе таксама працавалі жыхары навакольных хутароў Вілы, Гора, Грэдка, Быстрыца, Дзідава, Задзвір'е, Замарэцінне, Каза, Скірка, Чарнетын. 26.6. 1957 г. калгас імя Молатава перайменаваны ў калгас «Зара», 28.1. 1959 г. значна ўзбуйнены і 15.2.1963 г. называўся «Праца». З 2003 г. вёска — цэнтр СВП «Гарбаха-Агра». Базавая школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, 3 магазіны, камбінат быт. абслугоўвання.

**ГЛІННА** — вёска ў Гарбахскім с/с. За 17 км на ПдЗ ад Іванава, 14,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 80 гаспадарак, 165 жыхароў (2005).

У дакументах згадваецца ў 1496 г. ў Пінскім княстве Берасцейскага ваяв. У 1517 г. Глінная ўваходзіла ў маёнтак Чарневічы (уладанне Нелюбовічаў). Упамінаецца ў апісанні мяжы паміж ВКЛ і Каронай Польскай у 1546 г. як Гліннае (Гління) Дружылавіцкага двара Пінскага княства. Дзейнічала Прачысценская царква. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. сяло Гліннае лічылася княжацкім, тут пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. Глінненская царква была разрабавана польскімі войскамі ў 1660 г.

У 1775 г. згадваецца ў інвентары Рагадашчаўскага староства, у склад якога ўваходзіла Гліннае, належала пінскаму стольніку Яну Аржэшку. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. вёска належала памешчыцы Любанскай, у ёй налічвалася 199 душ мужчынскага полу. Паводле інвентару 1846 г. вёска і фальварак той жа назвы (разам з в. Жураўка) у маёнтку Глінная Кобрынскага пав. належалі памешчыку Іпаліту Талубееву. Пасля адмены прыгону ў 1861 г. ў вёсцы адбыліся хваляванні (сяляне не хацелі адбываць паншчыну). Над сялянамі была ўчынена расправа, зачыншчыкі арыштаваны. У 1866 г. ўладанне Іпаліта Талубеева, сяло ў Адрыжынскай вол., дзейнічалі царква і вучылішча. У 1885 г. — 16 двароў, 200 жыхароў, праваслаўная царква. У 1905 г. сяло, 455 жыхароў, і маёнтак, 30 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Адрыжынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 83 будынкі, 298 жыхароў, у фальварку 2 будынкі, 24 жыхары. Працавала школа, у 1934 г. — 78 вучняў.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. — вёска, цэнтр Глінненскага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 94 двары, 494 жыхары, працавала пач. рус. школа. У



былым маёнтку Глінная 3 двары, 30 жыхароў. У сельсавеце працавалі 3 пач. школы. У 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупанты загубілі 15 жыхароў, у партызанах загінуў 1 жыхар, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 17 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў у 1968 г. пастаўлены абеліск. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 447 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 4.10.1982 г. Глінненскі с/с перайменаваны ў Залядынскі (цэнтр сельсавета перанесены ў в. Залядынне), у 1986 г. расфарміраваны, вёска далучана да Гарбахскага с/с. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас імя Сталіна, які 21.5.1951 г. ўвайшоў у калгас імя Варашылава (в. Глінна стала яго цэнтрам). У 1961 г. калгас перайменаваны ў «Прагрэс», з 1986 г. вёска ў калгасе «Праца», з 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Гарбаха-Агра». Фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, 2 магазіны.

**ГНЕЎЧЫЦЫ** — вёска ў Крытышынскім с/с. За 15 км на Пд ад Іванава, 3,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 184 гаспадаркі, 410 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1504 г. У 1555 г. сяло ў складзе Дружылавіцкага двара. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. лічылася княжацкім. Тут пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1775 г. ўпамінаецца ў інвентары Рагадашчаўскага староства Пінскага пав., у склад якога тады ўваходзіла і належала пінскаму стольніку Яну Аржэшку. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1802 г. пабудавана драўляная царква Параскевы Пятніцы (захавалася) — помнік архітэктуры, у якім спалучаюцца традыцыі нар. дойлідства з элементамі класіцызму. У 1866 г. сяло ў Адрыжынскай вол., дзейнічалі царква, вучылішча. На 1885 г. 48 двароў, 384 жыхары, праваслаўная царква, 4 ветраныя млыны, піцейны дом. У 1905 г. 689 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 87 будынкаў, 414 жыхароў. Працавала школа, у 1934 г. — 63 вучні.

З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. ў Крытышынскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 160 двароў, 750 жыхароў, працягвала дзейнасць пачатковая, але ўжо рус. школа, быў арганізаваны каап. гандлёвы пункт. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупанты загубілі ў вёсцы 23 мірных жыхароў, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 28 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў у 1966 г. пастаўлены абеліск. У 1946 і 1959 гг. пабудаваны новыя школьныя карпусы, на 1961 г. — 8-гадовая, 147 вучняў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 589 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 640 жыхароў. 18.12.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас «70-годдзе Сталіна», 4.9.1950 г. ўзбуйнены (вёска засталася яго цэнтрам), 9.7.1960 г. перайменаваны ў калгас «Беларусь». З 11.12.1980 г. вёска ў калгасе імя Машэрава (з цэнтрам у в. Крытышын). З 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Машэраўскі». Сярэдняя школа, аптэка, клуб, б-ка, аддз. сувязі, 3 магазіны.

**ДАСТОЕВА** — вёска, цэнтр Дастоеўскага с/с і СВП «Дастоева». За 16 км на ПнУ ад Іванава, 19 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 254 гаспадаркі, 591 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. Згадваецца ў метрыцы ВКЛ за 1473 г.: «...у Дастоева Васіля Еремей,

адзін дым, а Аляксей — то два дыма». У 1506 г. баярын Даніла Іртышч (Ірцішчавіч) атрымаў ад кн. Фёдара Яраслававіча грамату на ўладанне вёскамі Дастоева, Палкацічы паміж рэкамі Піна і Ясельда. Назва в. Дастоева з гэтага часу становіцца радавым прозвішчам продкаў пісьменніка Ф.М.Дастаеўскага; да сярэдзіны 18 ст. вёска знаходзілася ва ўладанні роду. Ёю валодалі ўраднік пінскі Сасін Дастаеўскі, потым падчашы мінскі Бенядзікт Дастаеўскі. У 16 ст. пры Сямёне Дастаеўскім пабудавана Семіонаўская царква (не захавалася). Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. прыватнаўладальніцкая вёска, якая належала служылым людзям — шляхціцам. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1648 г. тут адбылося антыфеад. хваляванне: сяляне разам з казакамі ўзняліся супраць свайго памешчыка Рамана Дастаеўскага, сына Бенядзікта. Маёнтак быў разгромлены, войска жорстка расправілася з паўстанцамі. На ўскраіне вёскі захаваліся могілкі, якія ў памяць тых падзей называюцца ў народзе «казацкімі». Да 1754 г. Дастаеўскія страцілі радавое гняздо, маёнтак належаў Стравінскім, Чапліцам, князям Гедройцам і з пач. 19 ст. — Ордам. Галоўны ўезд у маёнтак у 1754 г. быў афармлены манум. двух'яруснай брамай, якая нагадвала замкавыя вежы. У яе ніжнім ярусе па баках ад праезду размяшчаліся службовыя памяшканні, на верхнім — вял. зала, абкружаная адкрытай балюстраднай галерэяй. Вянчаў браму высокі гонтавы шацёр. У маёнтку былі калодзеж, вял. драўляны дом, хлявы, канюшні, павеці, гумны, адрыны, свірны, бровар, дзе варылі піва, квас, гналі гарэлку. Маёнтак меў значныя зямельныя надзелы, 2 вял. сады, рыбныя сажалкі, млын, карчму і шынок. У канцы 18 ст. пры князях Гедройцах на месцы стараж. храма, які згарэў, пабудавана Ільінская царква (разбурана ў 1970).

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. ў Парэцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1835 г. маёнтак Гедройцаў перайшоў у казну, потым быў куплены Вітольдам Ордай з суседніх Навашыц і перайшоў яго малодшаму сыну Каралю. Устаўная грамата на маёнтак Дастоева складзена 11.8.1862 г., зямельны надзел складаў 14 дзес. 70 сажняў. Выкупны акт на маёнтак Дастоева ад 25.5.1865 г. аб'яўлены сялянам 15.7.1865 г. Згодна з актам у Дастоева 206 рэвізскіх душ, 197 двароў. У 1870 г. сяло ў складзе Дастоеўскага сельскага т-ва, 263 рэвізскія душы. У выкарыстанні памешчыка ў 1889 г. знаходзілася 738 дзес. зямлі. У 1881 г. ў маёнтку 659 дзес. зямлі, 245 жыхароў, Ільінская царква, ф-ка інструментаў і сельгасмашын Якушына. У 1882 г. існавала нар. вучылішча (16 вучняў). У 1885 г. ў сяле Дастоеў 50 двароў,



*Забудова в. Дастоева.*





*Алея Памяці ў в. Дастоева.*

544 жыхары, праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. 84 двары, 705 жыхароў, працавалі прыходская царква, хлебазапасны магазін, крама, піцейны дом. Побач з сялом знаходзіліся дзве сядзібы пад той жа назвай. У першай, пабудаванай на царк. зямлі, жыло 3 чал. ў 1 двары; другая належала Вітольду Ордзе, 1 двор, 4 жыхары. Пры царкве дзейнічала прыходская школа. У 1909 г. ў сяле 686 жыхароў, 128 двароў; у маёнтку 10 жыхароў, 1 двор. У часы 1-й сусветнай вайны да ліп. 1920 г. Парэцкая вол. была перададзена Гродзенскаму пав. Гродзенскай губ. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 124 будынкі, 692 жыхары, з іх 674 праваслаўныя. У 1929 г. ў вёсцы 546 жыхароў, у 1920-я г. працаваў кааператыў «Прадуктовы». Паблізу в. Дастоева знаходзіўся маёнтак Дастоева і в. Вулька-Дастоеўская з маёнткам і хутарам пад той жа назвай.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Застружскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 151 двор, 905 жыхароў, 15.4.1940 г. быў арганізаваны калгас «Чырвоная зорка» (потым «Чырвоная звязда»). У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 2 жыхары вёскі. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». За час вайны быў спалены 101 будынак, у тым ліку 30 жылых, 71 гаспадарчы, загінулі 52 мірныя жыхары — ахвяры тэрору, не вярнуліся з фронту ці прапалі без вестак 46 жыхароў. На ўшанаванне памяці 143 жыхароў вёсак Дастоева, Вулька-Дастоеўская, Заруддзе, Застрожжа, Красіеўка ў 1969 г. пастаўлены абеліск.

У 1954 г. пабудаваны будынак сярэдняй школы, у 1961 г. — 333 вучні. У 1950-я г. дзейнічала хата-чытальня (у 1956 кніжны фонд 1600 кніг, 300 чытачоў). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Дастоеўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Драгічынскім, з 6.1.1965 г. ў Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 923 жыхары. У 1971 г. 241 двор, 988 жыхароў. У 1984 г. ўстаноўлены помнік на магіле Мікалая Якушчыка, які загінуў у Афганістане. У 1993 г. 297 двароў, 806 жыхароў; у 1997 г. 295 двароў, 748 жыхароў. З 2003 г. ў СВК «Дастоева». Размешчаны кансервавы з-д, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аптэка, медпункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, 4 магазіны. У вёсцы створаны школьны музей Ф.М. Дастаеўскага; у 1990-я г. каля школы, якая носіць яго імя, устаноўлены помнік. У 1996 г. пабудавана новая царква на ахвяраванні грамадзян і сродкі калгаса «Чырвоная звязда». Радзіма самадзейнага мастака Анатоля Іосіфавіча Бурака.

**ДЗЕДАВІЧЫ** — былая вёска, увайшла ў межы Моталя.

У 1866 г. ў Асаўніцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., уваходзіла



*Помнік Ф.М.Дастаеўскаму ў в. Дастоева (на заднім плане — Троіцкая царква).*

ў маёнтак Заазер'е, які належаў памешчыку Аніхімоўскаму. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Мотальскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у в. Дзедавічы 76 будынкаў, 385 жыхароў. Працавала школа, у 1935 г. — 175 вучняў. З 1939 г. ў БССР. На 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Дзедавіцкага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 106 двароў, 575 жыхароў, дзейнічала пач. рус. школа. 23.3.1950 г. быў створаны калгас імя Берыі (у ім былі аб'яднаны 62 сял. гаспадаркі), 26.8.1950 г. ён увайшоў у склад калгаса імя Кагановіча (з цэнтрам у в. Моталь). З 26.6.1957 г. вёска ў калгасе «40 гадоў Кастрычніка». З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета перанесены ў в. Моталь, сельсавет перайменаваны ў Мотальскі. Паводле перапісу 1959 г. 510 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 21.7.1980 г. Дзедавічы далучаны да в. Моталь.

**ДРУЖЫЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дружылавіцкага с/с і СВК «Дружылавічы». За 12 км на Пн ад Іванава, 14 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 229 гаспадарак, 618 жыхароў (2005).

Згадваюцца ў 1507 г. ў дароўным запісе кн. Юрыя Сямёнавіча (Пінскага) Дружылавіцкай Мікалаеўскай царкве. Царква таксама мела зямлю ў сёлах Дастоеў і Моталі. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. вёска лічылася княжацкай. Тут пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю. У 1555 г. цэнтр Дружылаўскага двара. У Дружылавіцкі маёнтак у той час уваходзілі Опаль, Дастоева, Моталь і Даверавічы. У 1777 г. пабудавана драўляная Мікалаеўская царква — прыклад традыц. народнага дойлідства (захавалася). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1866 г. сяло, цэнтр Дружылавіцкай вол., дзейнічала царква. У асобным будынку з 1869 г. існавала школа (на 1882 — нар. вучылішча, 60 вучняў, у 1914 — 90 вучняў). На 1885 г. у вёсцы 28 двароў, 280 жыхароў, валаснос праўленне, школа, піцейны дом. У 1890 г. ў Дружылавіцкай вол. налічвалася 12 паселішчаў, 933 сял. двары, 3531 жыхар, 23 несялянскія двары. У 1905 г. ў сяле 570 жыхароў. Захавалася частка пейзажнага парку канца 19 ст. былой сядзібы Карпінскіх. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. цэнтр Дружылавіцкай гміны Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 90 будынкаў, 475 жыхароў. У гміне было 1042 будынкі, 5513 жыхароў. У 1920-я г. вёска ўваходзіла ў лік самых «нядобранадзейных» вёсак, тут існавала ячэйка РКПЗБ (сакратар Піліп Навумавец), КСМЗБ. 17.3.1928 г. Дружылавіцкая гміна скасавана. У 1929 г. працавала чытальня «Просвіта», у 1934 г. — школа (172 вучні).



*Мікалаеўская царква ў в. Дружылавічы.*

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска, цэнтр Дружылавіцкага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 111 двароў, 610 жыхароў, працавала пач. рус. школа, паравы млын (2 рабочыя), існавала вытв-сць бетону (2 рабочыя). У сельсавеце налічвалася 570 двароў, з іх 175 хутарскіх, 3 цагельні, сярэдняя і 3 пач. школы, паштовае агенцтва. У 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час вайны спалены 2 жылыя, 4 гасп. будынкі. Ад рук акупантаў загінулі 8 жыхароў вёскі. На магіле сям'і Навумаўцоў,





*Помнік землякам у в. Дружылавічы.*

расстраляных у 1942 г. за сувязь з партызанамі, устаноўлены помнік. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінуў 31 воін-зямляк.

У 1944—45 гг. Дружылавіцкая лесадача, якая аб'яднала Дружылавіцкі, Моладаўскі, Мотальскі, Тышкавіцкі, Дзедавіцкі сельсаветы, стала цэнтрам лесанарыхтовак і лесавывазу, у 1946 г. ў вёсцы адкрыліся бальніца, медпункт, у канцы 1940-х г. створана МТС. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 533 жыхары (у сельсавеце тады былі аб'яднаны 4 населеныя пункты, 2257 жыхароў). Дзейнічала пач. школа, на 1961 — 50 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У 1969 г. ў сельсавеце 1803 жыхары, у вёсцы пабудаваны магазін. Паводле перапісу 1979 г. 520 жыхароў. У 1986 г. ў яе былі пераселены жыхары з забруджаных пасля чарнобыльскай катастрофы мясцін. Вяскоўцы ў 1949 г. працавалі ў калгасе імя XIX партз'езда, які аб'яднаў 62 гаспадаркі, у студз. 1950 г. ён быў далучаны да калгаса «Бальшавік» (Дружылавічы сталі цэнтрам узбуйненага калгаса), 20.6. 2003 г. калгас пераўтвораны ў СВК «Дружылавічы». Лясніцтва, смалакурны з-д, сярэдняя школа, аптэка, Дом культуры, б-ка, муз. школа, філіял ашчаднага банка, аддз. сувязі, 3 магазіны, дзейнічае царква.

**ЕЎЛАШЫ** — вёска ў Бродніцкім с/с. За 20 км на ПдУ ад Іванава, 5 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 75 гаспадарак, 159 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. Згадваецца ўрочышча, якое ў 1774 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Дубай Пінскага пав. і належала пінскім езуітам. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 369 жыхароў, 63 двары. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 57 будынкаў, 298 жыхароў, з якіх 289 праваслаўных беларусаў. У 1929 г. — 293, у 1935 г. — 308 жыхароў; у 1938 г. 84 двары, 448 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Яечкавіцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 103 двары, 488 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У часы вайны загінулі 7 партызан і падпольшчыкаў, 4 жыхары — ахвяры тэрору, на франтах — 8 жыхароў. З 23.2.1949 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Леніна, які пасля ўзбуйнення 9.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Зара камунізму» з цэнтрам у в. Яечкавічы. Указам Прэзідыума Вярх. Савета СССР за поспехі ў 1981 г. калгас быў узнагароджаны ордэнам Прац. Чырвонага Сцяга. З 28.2.2003 г. ў складзе СВК «Зара-Агра». З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Бродніцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 480 жыхароў. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім, з 25.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 зноў у Іванаўскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 271 жыхар, у 1997 г. — 94 двары, 188 жыхароў, магазін.

**ЖУРАВОК** — вёска ў Гарбахскім с/с. За 20,5 км на ПдЗ ад Іванава, 19 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 65 гаспадарак, 116 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. Паводле інвентару 1846 г. ў складзе маёнтка Глінная Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., належала памешчыку І.Д.Талубееву, 280 рэвізскіх душ. У 1886 г. ў Адрыянскай вол., працаваў кравец. У 1904 г. каля 500, у 1905 г. — 458 жыхароў. У 1915—18 гг. Журавок акупірава-

ны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Палескім ваяв. Некаторыя жыхары вёскі ўваходзілі ў 1920-я г. ў Оўзіцкую падп. арг-цыю КПЗБ. У 1934 г. працавала школа, у якой навучаліся 46 вучняў.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Глінненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 106 двароў, 596 жыхароў, працавала пач. рус. школа, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». За час вайны спалены 20 будынкаў, у тым ліку 10 жылых, 10 гасп., загінулі 1 жыхар — ахвяра тэрору, на франтах — 10 жыхароў. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1955 г. ўзведзены будынак школы (у 1961 — пачатковая, 36 вучняў). Паводле перапісу 1959 г. 505 жыхароў. У 1962—65 гг. — у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 343 жыхары. 4.10.1982 г. Глінненскі с/с быў перайменаваны ў Залядынскі, а ў сярэдзіне 1980-х г. ліквідаваны і вёска далучана да Гарбахскага с/с. У 1950 г. створаны калгас імя Варашылава, у якім былі аб'яднаны 72 сям'і з вёскі, а таксама жыхары хутара Гурскі Мох. 21.5.1951 г. ён увайшоў у склад калгаса імя Варашылава з цэнтрам у в. Глінна, 5.12.1961 г. быў перайменаваны ў «Прагрэс». Пасля яго рэарганізацыі 20.1.1986 г. жыхары вёскі былі далучаны да калгаса «Праца» Гарбахскага с/с, з 2003 г. ў складзе СВК «Гарбаха-Агра». У 1997 г. 83 двары, 152 жыхары, магазін.

**ЗААЗЕР'Е** — былая вёска ў Мотальскім с/с.

У 1866 г. ў Асаўніцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1820—60 гг. належала Аніхімоўскім. У 1886 г. для патрэб насельніцтва ў вёсцы працавалі 2 шаўцы і ткач. У 1905 г. ў вёсцы — 515, у маёнтку 28 жыхароў. Адзін з вяскоўцаў удзельнічаў у руска-японскай вайне і быў узнагароджаны Георгіеўскімі крыжамі. У 1915—18 гг. Заазер'е акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У 1920-я г. ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, існавалі ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. Некаторыя жыхары вёскі былі членамі Оўзіцкай падп. арг-цыі КПЗБ. У 2-й пал. 1930-х г. адкрыта школа. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Дзедавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 120 двароў, 672 жыхары. У б. маёнтку Заазер'е нацыяналізавана 612 га зямлі. З 22.8. 1949 г. вяскоўцы разам з жыхарамі в. Панцавічы працавалі ў створаным калгасе імя Будзённага, які 16.7.1954 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Кагановіча з цэнтрам у г.п. Моталь, 26.6.1957 г. быў перайменаваны ў «40 гадоў Кастрычніка». З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мотальскім с/с. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1959 г. 556 жыхароў. Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 21.7.1978 г. злілася з в. Моталь.

**ЗАВАЯЦІН** — вёска ў Гарбахскім с/с. За 19 км на ПдЗ ад Іванава, 14 км ад чыг. ст. Снітава. 38 гаспадарак, 67 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў пач. 20 ст. У 1905 г. ў маёнтку Заваяцін Адрыжынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 8 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Варацэвіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 4 будынкі, 11 жыхароў. У пач. 1930-х г. у вёсцы налічвалася 60 гаспадарак, 134 жыхары, 351 га зямлі. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Варацэвіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 28 двароў, 165 жыхароў, працавала пач. рус. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». На франтах вайны загінулі ці прапалі без вестак 9 жыхароў вёскі. З 1946 г. ва ўзведзеным будынку дзейнічала школа (у 1961 —пачатковая, 22 вучні). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. вёска далучана



да Гарбахскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. хутар Заваяціна, 151 жыхар. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не.

24.12.1949 г. ў вёсцы створана сельгасарцель «Піянер», якая аб'яднала 21 сял. гаспадарку. 10.10.1950 г. яна ўвайшла ў склад калгаса імя Молатава з цэнтрам у вёсцы Гарбаха, які 26.6.1957 г. атрымаў назву «Зара», а 15.2.1963 г. перайменаваны ў калгас «Праца». З 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Гарбаха-Агра». Паводле перапісу 1979 г. 179 жыхароў, у 1997 г. 44 двары, 94 жыхары, працуе магазін.

**ЗАВІШША**, З а в ы ш ш а — вёска ў Бродніцкім с/с, каля воз. Завышчанскае. За 26 км на ПдУ ад Іванава, 24 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 79 гаспадарак, 226 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 19 ст. як вёска ў Дубайскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., яе ўладальніку памешчыку Ф.Пуслоўскаму ў 1889 г. належалі 40 дзес. зямлі. У 1909 г. маёнтак у Бродніцкай вол., 23 жыхары, 3 двары. У пач. 20 ст. новы ўладальнік В.Пуслоўскі пабудаваў каля воз. Завішчанскае летнюю рэзідэнцыю. Палац у стылі неакласіцызму ўпрыгожвалі стыльная мэбля, творы мастацтва. У комплекс палаца ўваходзілі таксама аднапавярховы будынак для прыслугі, порцік, гараж, парк. У 1915—18 гг. Завішша акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. фальварак у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 1 будынак, 16 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. маёнтак у Яечкавіцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 5 двароў, 23 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, адносіўся да рэйхскамісарыята «Украіна». З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 вёска ў Бродніцкім с/с. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не. У 1962—65 гг. у Пінскім р-не. Паводле перапісу 1959 г. хутар у Бродніцкім с/с, 26 жыхароў. Паводле перапісу 1979 г. вёска, 22 жыхары. У 1997 г. 66 двароў, 194 жыхары. Размешчаны магазін, побач з вёскай знаходзіцца санаторый «Алеся», Завышанскі дрэваапрацоўчы цэх Пінскага лясгаса, аддз. сувязі, база адпачынаку райспажыўсаюза.

**ЗАГУТА** — вёска ў Крытышынскім с/с. За 12 км ад Іванава, 13 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 20 гаспадарак, 39 жыхароў (2005).

Утворана ў 1920-я г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вайны загінулі 7 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору, на франтах — 4 жыхары. 13.12.1942 г. ў вёсцы загінуў сувязны партыз. атрада імя С.Г.Лазо брыгады імя Молатава В.І.Кружалінаў; на ўшанаванне яго памяці на месцы гібелі ў 1977 г. пастаўлены абеліск. Пасля вайны вёска знаходзілася ў Магільнаўскім (Магільнянскім) с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Крытышынскім с/с, 149 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Да 1986 г. існаваў хутар Загута. Паводле перапісу 1979 г. 117 жыхароў. З 2.9.1950 г. вяскоўцы далучаны да калгаса імя Сталіна з цэнтрам у в. Крытышын, які 21.11.1961 г. быў перайменаваны ў калгас «Радзіма», з 30.1.1963 г. ў калгас «Расія». Пасля ўзбуйнення 11.12.1980 г. ў калгасе імя Машэрава, з 10.7.2003 г. ў СВК «Машэраўскі». Магазін.

**ЗАЛЯДЫННЕ** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 26 км на ПдЗ ад Іванава, 24 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 126 гаспадарак, 300 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 19 ст. У 1904 г. ў пас. Залядынне маёнтка Адрыжын Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. было 90 душ. У 1905 г. ўрочышча Адрыжынскай вол., 73 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Адрыжынскай гміне Драгічынскага пав.

Палескага ваяв., 20 будынкаў, 88 жыхароў (праваслаўныя беларусы). У 1934 г. працавала школа, у якой навучаліся 80 вучняў.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Глінненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 28 двароў, 255 жыхароў, працавала пач. руская школа, быў арганізаваны каап. гандл. пункт. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У гады вайны спалена 68 будынкаў, у тым ліку 20 жылых, 48 гасп.; загінулі 2 партызаны і падпольшчыкі, 7 жыхароў — ахвяры тэрору. Побач з вёскай, у лесе, у 1975 г. пастаўлены абеліск на брацкай магіле 4 сав. воінаў і 7 партызан, якія загінулі ў баі супраць акупантаў у 1944 г. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 4.10.1982 г. Глінненскі с/с быў перайменаваны ў Залядынскі і вёска стала яго цэнтрам. З сярэдзіны 1980-х г. у Адрыжынскім с/с. У 1950 г. створаны калгас «Новае жыццё», які 21.5.1951 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Варашылава з цэнтрам у в. Глінна, 5.12.1961 г. перайменаваны ў «Прагрэс». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 115 жыхароў. 6.2.1986 г. вяскоўцы далучаны да калгаса «Кастрычнік» з цэнтрам у в. Адрыжын, з 3.6.2003 г. ў СВК «Кастрычнік-Агра». У 1997 г. 146 двароў, 399 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**ЗАМОШША** — вёска ў Дружылавіцкім с/с. За 16 км на Пн ад Іванава, 18 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 100 гаспадарак, 202 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1-й пал. 19 ст. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1820 г. належала памешчыку Сямашку. 18.5.1861 г. была створана Замошская вол. з 677 душамі сялян з Асаўніцкай і скасаванай Ляскавіцкай валасцей. У 1862 г. ў Асаўніцкай вол. У 1866 г. вёска ў маёнтку памешчыка Іосіфа Каранецкага ў Асаўніцкай вол., дзейнічала царква. У 2-й пал. 19 ст. быў заснаваны цагельны з-д. Для патрэб насельніцтва ў 1886 г. працавалі 2 цесляры і сталяр. У 1905 г. вёска і маёнтак належалі Сямашку, у маёнтку дзейнічаў вінакурны з-д. У 1905 г. адбываліся выпадкі спынення працы і забастоўкі з эканам. патрабаваннямі сялян вёсак Замошша і Смярдзячая. У 1905 г. ў вёсцы — 330, у маёнтку 37 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 57 будынкаў, 295 жыхароў; у фальварку 4 будынкі, 58 жыхароў. У 1920-я г. існавалі ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. 19.3.1929 г. вёска далучана да гміны Моталь. У пабудаваным у 1925 г. будынку працавала школа (у 1934 г. — 83 вучні).

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Дружылавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 107 двароў, 518 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час вайны спалены 3 будынкі, у т.л. 2 жылыя, 1 гасп., загінулі 1 партызан, на франтах — 21 жыхар. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 505 жыхароў, у пач. школе ў 1961 г. навучаліся 48 вучняў. У 1955 г. пабудавана б-ка. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 26.6.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Жданава, які пасля ўзбуйнення ў 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Бальшавік» з цэнтрам у в. Дружылавічы. З 20.6.2003 г. — у СВК «Дружылавічы». Паводле перапісу 1979 г. 357 жыхароў; у 1997 г. 106 двароў, 227 жыхароў. Размешчаны клуб, б-ка, магазін, пач. школа, цагельны з-д.

**ЗАРУДДЗЕ** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 17 км на Пн ад Іванава, 19 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 41 гаспадарка, 73 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. Паводле інвентару 1845 г. — вёска ў маёнтку Навашыцы Кобрынскага пав.



Гродзенскай губ., належала памешчыку В.Ордзе; 209 рэвізскіх душ. У 1848 г. працавала карчма. У 1886 г. вёска ў Асаўніцкай вол., працаваў цясляр. У 1905 г. 305 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1930-я г. ў вёсцы дзейнічала школа (у 1935 — 52 вучні). З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска Заруддзе-2 у Застружскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 61 двор, 228 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У гады вайны спалены 115 будынкаў, у т.л. 39 жылых, 76 гаспадарчых. На франтах вайны загінуў ці прапаў без вестак 21 жыхар. У прыстасаваным у 1946 г. будынку дзейнічала школа (у 1961 — пачатковая, 32 вучні). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 19.11.1957 г. ў Дастоеўскім с/с. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 29.10.1948 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1950 г. аб'яднаў 58 гаспадарак. У кастр. 1950 г. ён увайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» з цэнтрам у в. Дастоева, з 20.6.2003 г. ў СВК «Дастоева». Паводле перапісу 1979 г. 172 жыхары; у 1997 г. — 49 двароў, 87 жыхароў, магазін.

**ЗАРУДДЗЕ** — вёска ў Крытышынскім с/с. За 8 км на Пд ад Іванава, 7 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 34 гаспадаркі, 56 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 14 ст. У 1866 г. вёска ў Янаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у дзярж. уладанні. У 1905 г. ў вёсцы 305 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 13 будынкаў, 89 жыхароў. У прыстасаваным у 1925 г. будынку дзейнічала школа (у 1934 — 52 вучні).

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. — в. Заруддзе-1-е ў Магільнаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 38 двароў, 187 жыхароў. У в. Заруддзе-2-е працавала пач. руская школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У гады вайны спалена 115 будынкаў, у т.л. 39 жылых, 76 гаспадарчых. Загінулі 1 партызан-падпольшчык, на франтах — 12 жыхароў. У 1954 г. вёска ў Крытышынскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 141 жыхар. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 147 жыхароў. 23.8.1949 г. ў в. Заруддзе-1-е створаны калгас «Іскра», які 2.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Сталіна з цэнтрам у в. Крытышын і 21.11.1961 г. быў перайменаваны ў калгас «Радзіма», потым 30.1.1963 г. ў калгас «Расія». Пасля ўзбуйнення 11.12. 1980 г. ў калгасе імя Машэрава. З 10.7. 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Машэраўскі». У 1997 г. — 43 двары, 78 жыхароў. Размешчаны Дом нар. творчасці, магазін. Радзіма вучонага Ф.Л.Займіста.

**ЗАСТРУЖЖА** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 15 км на ПнУ ад Іванава, 16 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 126 гаспадарак, 277 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. Па рэвізіі 1816 г. маёнтак і вёска ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., 176 душ належалі памешчыку Іосіфу Міцэвічу, 93 душы — Антону Гедрайчыцу. У 1845 г. — вёска ў маёнтку Навашыцы; ва ўладанні памешчыка Віктара Орды знаходзіліся 243 рэвізскія душы. У 1848 г. ў вёсцы працавала карчма. У 1866 г. вёска ў Асаўніцкай вол. У 1886 г. працавалі 3 цесляры. У 1905 г. было 390 жыхароў. У часы рэв. хваляванняў у 1907 г. мела месца самавольны выпас жывёлы сялянамі вёсак Застружжа, Баравая, Навалучкі на пашавых угоддзях Навашыцы памешчыка Орды. У 1915—18 гг. вёска акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 76 будынкаў, 460 жыхароў, з якіх 435 праваслаўныя.



*Помнік на месцы расстрэлу 3.11.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі 97 жыхароў в. Застружжа.*

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., цэнтр Застружскага с/с, 97 двароў, 386 жыхароў. Арганізаваны калгас імя 17 Верасня. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У гады вайны спалена 45 будынкаў, у т.л. 15 жылых, 30 гаспадарчых. У час правядзення карнай аперацыі ў ліп. 1944 г. гітлераўцамі знішчана 13 двароў, 103 жыхары. Загінулі 93 жыхары вёскі — ахвяры фаш. тэрору. На ўшанаванне памяці 97 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўцамі 3.11.1942 г., у 1968 г. пастаўлены абеліск, помнік адноўлены ў 1995 г. Пры вызваленні вёскі загінулі 18 воінаў, якія пахаваны на яе тэр. У 1952 г. на брацкай магіле воінаў і партызан пастаўлены абеліск. На франтах вайны загінуў ці прапаў без вестак 21 жыхар. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1956 г. працавала паштовае аддзяленне. З 19.11. 1957 г. ў Дастоеўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 585 жыхароў, у прыстасаваным у 1940 г. будынку дзейнічала школа (у 1961 — пачатковая, 70 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 16.12. 1949 г. аднавіў дзейнасць калгас «17 Верасня», які 28.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» з цэнтрам у в. Дастоева. Паводле перапісу 1979 г. 455 жыхароў; у 1997 г. — 145 двароў, 371 жыхар. З 20.6.2003 г. вёска ў СВК «Дастоева».

**КАЛЕНА** — вёска ў Махроўскім с/с. За 24 км на Пд ад Іванава, 23 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

Вядома ў складзе Польшчы ў 1930-я г. У 1929 г. — 53, у 1935 г. — 45 жыхароў, быў прыстасаваны прыватны будынак пад школу. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Махроўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 18 двароў, 106 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З мая 1943 г. да сак. 1944 г. вёска — месца дзейнасці аб'яднанага бел.-украінскага падп. сельсавета, які ахопліваў вёскі Баландзічы, Вулька, Краснае, Махро, Хамічава (Беларусь), Дольск, Нігавішчы, Омыт (Украіна). У гонар яго дзейнасці ў 1975 г. пастаўлена стэла. На франтах вайны загінулі ці прапалі без вестак 3 жыхары вёскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 100 жыхароў. У пач. школе ў 1961 г. навучаліся 12 вучняў. З 25.12.1962 г. — у Драгічынскім, з 6.1.1965 г. ў Іванаўскім р-нах. З 25.1.1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Мічурына, які 5.3.1951 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Мікаяна з цэнтрам у в. Махро. З 28.1.1970 г. ў калгасе імя Леніна; у пач. 21 ст. далучаны да СВП «Баравіца» з цэнтрам у в. Яечкавічы. Паводле перапісу 1979 г. 45 жыхароў; у 1997 г. — 9 двароў, 18 жыхароў. Размешчаны мытны пагранпераход на бел.-украінскай мяжы.

**КАЛІЛЫ** — вёска ў Дружылавіцкім с/с. За 16 км ад Іванава, 18 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 80 гаспадарак, 150 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з сярэдзіны 19 ст. У 1866 г. вёска ў Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., казённая маёмасць. У 1886 г. вёска ў Мотальскай вол., для патрэб насельніцтва ў ёй працаваў цясляр. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Мотальскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 114 будынкаў, 385 жыхароў. У 1920-я г. ў вёсцы існавалі ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. У 1934 г. працавала школа, у якой навучаліся 110 вучняў. З 1939 г. ў БССР. У 1940



г. вёска ў Дружылавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 135 двароў, 750 жыхароў, дзейнічала пач. руская школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час вайны спалена 10 будынкаў, у т.л. 5 жылых, 5 гасп., загінулі 25 жыхароў вёскі — ахвяры тэрору, на франтах — 48 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 644 жыхары. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 2.7.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Кірава, які пасля ўзбуйнення ў 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Бальшавік» з цэнтрам у в. Дружылавічы. З 20.6.2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Дружылавічы». У 1997 г. 86 двароў, 153 жыхары. Размешчаны клуб, б-ка, магазін.

**КАНАТОП** — вёска ў Рудскім с/с. За 10 км на Пд ад Іванава, 8 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 38 гаспадарак, 191 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. ў Махрэнскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., вёска ўваходзіла ў маёнтак Кружэлічын, які належаў Пуслоўскаму. Было 78 сялян-гаспадароў і аднадворцаў, якія разам з сялянамі навакольных вёсак былі аб'яднаны ў Канатопскае сельскае т-ва. У канцы 19 ст. вёска ў Дубайскай вол., яе ўладальніку памешчыку Ф.Пуслоўскаму ў 1889 г. належалі 285 дзес. зямлі. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 56 будынкаў, 258 жыхароў, з якіх 237 праваслаўных беларусаў. У 1929 г. — 266, у 1935 г. — 352 жыхары; у 1938 г. — 162 двары, 841 жыхар. У прыстасаваным у 1930 г. будынку працавала школа. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Рудскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 84 двары, 439 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 3 партызаны і падпольшчыкі, сярод іх у 1943 г. партызаны атрада імя Сталіна — Т.І.Бажко, М.С.Пастушэнка, на магіле якіх у 1975 г. ўстаноўлены абеліск. Загінулі таксама 5 мірных жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору, на франтах вайны — 11 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 328 жыхароў. У пач. школе ў 1961 г. навучаліся 17 вучняў. З 25.12.1962 г. — у Драгічынскім, з 6.1.1965 г. ў Іванаўскім р-нах. З 22.3.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Перамога», які пасля ўзбуйнення 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» з цэнтрам у в. Франопаль. 18.1.1959 г. ён зліўся з калгасам «Светлы шлях» з цэнтрам ў в. Рудск. У пач. 21 ст. далучаны да СВК «Баравіца» з цэнтрам у в. Яечкавічы. Паводле перапісу 1979 г. 305 жыхароў; у 1997 г. — 89 двароў, 202 жыхары. Размешчаны магазін, б-ка.

**КАРАЛІН** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 26 км на ПнУ ад Іванава, 28 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 37 гаспадарак, 73 жыхары (2005).

Вядомы з сярэдзіны 19 ст. ў Парэцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Сяляне вёскі былі аб'яднаны ў Атолчыцкае сельскае т-ва. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Парэцкай вол., 27 двароў, 157 жыхароў, дзейнічалі прыпісная царква, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Каралінок ва ўладанні памешчыцы Казіміры Імянінскай з 2 дварамі і 11 жыхарамі і сядзібны палац на царк. зямлі з 1 дваром і 3 жыхарамі. Паблізу в. Атолчыцы ва ўладанні Юнкевіч быў фальварак Каралінок памешчыцы Караліны Скірмунт. У 1909 г. ў в. Каралінок 30 двароў, 202 жыхары; у маёнтку 1 двор, 2 жыхары; у фальварку 1 двор, 2 жыхары. У часы 1-й сусветнай вайны да ліп. 1920 г. Парэцкая вол. была перададзена Гродзенскай губ. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. вёска і фальварак пад назвай Каралінок у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У вёсцы





было 36 будынкаў, 193 жыхары (беларусы), з іх 190 праваслаўныя. У фальварку 1 будынак, 6 жыхароў, з якіх 5 католікі-палякі, 1 праваслаўны беларус. У 1929 г. 182 жыхары.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Жабчыцкім р-не Пінскай вобл., у Кротаўскім с/с, 49 двароў, 303 жыхары. У Вял. Айч. вайну 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі ці прапалі без вестак 4 партызаны-падпольшчыкі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 7 жыхароў. З 8.1. 1954 г. вёска ў тым жа р-не Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не, з 9.3.1959 г. ў складзе Дастоеўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 288 жыхароў, у пабудаваным у 1959 г. будынку дзейнічала школа (на 1961 — пачатковая, 54 вучні). З 25.12.1962 г. ў Драгічынскім, з 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 173 жыхары, у 1997 г. — 52 двары, 121 жыхар. З 2.8.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Камунар», які 2.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» з цэнтрам у в. Кротава, 27.11.1957 г. перайменаваны ў калгас імя Чапаева і 31.3. 1958 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» з цэнтрам у в. Дастоева, 31.1.1961г. ўзбуйнены. З гэтага часу жыхары вёскі працавалі ў калгасе «Світанне», 25.12.1962 г. перайменаваны ў «Савецкі» (цэнтрам была спачатку в. Кротава, пасля 1980 — Скарацічы). Магазін.

**КАРСЫНЬ,** К а р с ы н і — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 40 на ПдЗ км ад Іванава, 38 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 92 гаспадаркі, 180 жыхароў (2005).

З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Адрыжынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. вядомы дзве калоніі пад адзінай назвай Карсынне, у першай 9 будынкаў, 68 жыхароў; у другой 1 будынак, 5 жыхароў, таксама ўсе праваслаўныя. У 2-й пал. 1930-х г. у вёсцы адкрыта школа. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска Карсынне ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл. Глінненскім с/с (цэнтр — в. Глінна), 63 двары, 280 жыхароў, працавала пач. руская школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупантамі спалены 52 будынкі, у т.л. 22 жылыя, 30 гаспадарчых. У часы вайны прапаў без вестак 1 жыхар, загінулі 5 жыхароў — ахвяры фаш. тэрору. На франтах у 1939—45 гг. загінулі 20 чал. Пасля вызвалення забіты антысав. падп. групамі 4 жыхары. 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 270 жыхароў, у 1961 г. пабудаваны новы будынак школы (на 1961 — пачатковая, 58 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 4.10.1982 г. Глінненскі с/с быў перайменаваны ў Залядынскі з цэнтрам у в. Залядынне, а ў сярэдзіне 1980-х г. ліквідаваны. Паводле перапісу 1979 г. 471 жыхар, у 1997 г. — 113 двароў, 262 жыхары. З 1950 г. вяскоўцы разам з жыхарамі навакольных хутароў і вёсак працавалі ў калгасе «Новае жыццё» з цэнтрам у в. Залядынне, 21.5.1951 г. ён увайшоў у склад калгаса імя Варашылава з цэнтрам у в. Глінна, 5.12.1961 г. быў перайменаваны ў «Прагрэс». З 20.1.1986 г. вёска ў калгасе «Кастрычнік» Адрыжынскага с/с (з 2003 — СВК «Кастрычнік-Агра»). Базавая школа, магазін.

**КАЦКІ** — вёска ў Бродніцкім с/с і СВП «Бродніца». За 16 км на ПнУ ад Іванава, 10 км ад цэнтра сельсавета, 13 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 21 гаспадарка, 28 жыхароў (2005).

Паводле спісу 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., належала памешчыку Вішнявецкаму. 26 аднадворцаў і сялян-гаспадароў вёскі разам з сялянамі Аброва складалі Аброўскае сельскае т-ва. У 1909 г. вёска (120 жыхароў, 16 двароў) і маёнтак (7 жыхароў, 1 двор). У 1915—18 гг. акупіраваны герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 17 будынкаў, 101 жы-



хар (усе праваслаўныя беларусы), у фальварку 3 будынкі, 22 жыхары, усе католікі-палякі. У 1928 г. ў в. Кацкі — 88, у пас. Кацкі — 14 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Кротаўскім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 21 двор, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 6 жыхароў. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не. У 1962—65 гг. у Пінскім р-не. 9.3.1959 г. сельсавет ліквідаваны. Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Бродніцкім с/с, 178 жыхароў, паводле перапісу 1979 г. — 95 жыхароў, у 1997 г. — 24 двары, 38 жыхароў. Пасля вызвалення з 3.1.1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Кутузава, які 11.11.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Васілеўскага з цэнтрам у в. Якша, з 9.8.1958 г. ў калгасе імя Дзяржынскага, з 18.1.1963 г. да 1965 г. ў калгасе «Камсамолец», потым у саўгасе «Бродніцкі» з цэнтрам у в. Бродніца; у 2003 г. саўгас пераўтвораны ў СВП «Бродніца».

**КЛЕШЧЫ** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 12 км на З ад Іванава, 6 км ад чыг. ст. Снітава. 93 гаспадаркі, 190 жыхароў (2005).

Паводле інвентару 1846 г. вядомы вёска і фальварак з той жа назвай у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., належалі памешчыку Іосіфу Конскаму, 47 рэвізскіх душ (у наяўнасці — 45), з іх працаўнікоў 37. На 1886 г. вёска ў Дружылавіцкай вол., 320 сялян былі аб'яднаны ў Клешчынскім сельскім т-ве, у вёсцы працавала кузня. У 1905 г. 1160 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 113 будынкаў, 463 жыхары. У 1920-я г. ўваходзіла ў пералік самых «нядобрадзейных» вёсак. Некаторыя жыхары былі ў 1920-я г. членамі Оўзіцкай падп. арг-цыі КПЗБ. У 1935 г. ў прыстасаваным будынку працавала школа, у якой навучаліся 74 вучні. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Стрэльненскім с/с (цэнтр — в. Новая Стрэльна), 145 двароў, 648 жыхароў, працавала пач. рус. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вайну загінулі 2 жыхары — ахвяры фаш. тэрору, на франтах у 1939—45 гг. — 25 жыхароў. Пасля вызвалення 2 жыхары забіты ворагамі сав. улады. У 1990 г. на магіле работніка сельсавета Мікалая Парамонавіча Лагодзіча, забітага ў 1946 г., пастаўлены абеліск. У 1950—60-я г. працавала пач. школа (на 1961 — 31 вучань). З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 516 жыхароў. З 6.1.1965 г. сельсавет у Драгічынскім, з 6.1.1965 г. ў Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1979 г. 356 жыхароў. У 1997 г. — 113 двароў, 226 жыхароў. З 6.9.2000 г. ў Сачыўкаўскім с/с. З 28.6.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Калініна, які 23.9.1950 г. быў далучаны да калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Новая Стрэльна). 24.1.1989 г. ён увайшоў у калгас «Сяброўства» («Дружба», цэнтр — в. Сачыўкі), 20.6.2003 г. пераўтвораны ў СВК «Бакунава». Магазін.

**КЛІМЯНЦІНАВА** — вёска ў Гарбахскім с/с. За 20 км на ПдЗ ад Іванава, 15 км ад чыг. ст. Снітава. 76 гаспадарак, 157 жыхароў (2005).

Паводле рэвізіі 1816 г. вёска Клемянцінаў належала памешчыку Зянону Аржэшку і ў ёй было 35 душ мужчынскага полу. Згодна з інвентарамі 1845—48 гг. — вёска і фальварак з той жа назвай у складзе маёнтка Клемянцінава Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. належалі памешчыку Паўлу Аніхімоўскаму. Дзейнічалі карчма, завод буйной рагатай жывёлы, канюшня. Па ўсім маёнтку налічвалася 156 рабочых рэвізскіх душ. На 1866 г. вёска з 162 жыхарамі знаходзілася ва ўладанні нашчадкаў памешчыцы Аніхоўскай. У 1905 г. ў

Асавецкай вол., у вёсцы — 286, у маёнтку 16 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 33 будынкі, 130 жыхароў. Каля вёскі з'явілася яшчэ адна вёска з назвай Клімянцінава Новае, у якой было 26 будынкаў, 124 жыхары, усе праваслаўныя, сярод іх — паводле афіц. дадзеных — 120 беларусаў і 4 палякі. У 1920-я г. Клемянцінава ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, існавалі ячэйкі райкомаў КПЗБ (сакратар Мацкевіч Спірыдон) і КСМЗБ.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. у Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Гарбахскім с/с. У в. Старое Клімянцінава — 63 двары, 237 жыхароў, у в. Новае Клімянцінава — 50 двароў, 256 жыхароў. 10.7.1940 г. ў в. Старое Клімянцінава быў арганізаваны калгас «XVIII партз'езд», працавала пач. рус. школа (з 1946 ў новым прыстасаваным прыватным будынку). У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, уваходзілі ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупанты спалілі 47 будынкаў, у т.л. 22 жылых, 25 гаспадарчых. Ад іх рук загінулі 11 мірных жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. — 22 жыхары. З 8.1.1954 г. вёскі ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў Старым Клімянцінаве 161 жыхар, у Клімянцінаве Новым 230 жыхароў, у пач. школе навучаліся ў 1961 г. 23 вучні. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не, паводле рашэння сельскага выканкома 4.10.1963 г. вёскі Старое і Новае Клімянцінава былі аб'яднаны ў адзіную — Клімянцінава. Паводле перапісу 1979 г. 306 жыхароў, у 1997 г. — 94 двары, 190 жыхароў. У в. Новае Клімянцінава створаны 28.12.1949 г. калгас «Новае жыццё», які ў 1950 г. аб'яднаў 26 сял. гаспадарак, а ў Старым Клімянцінаве аднавіў 30.11.1949 г. сваю дзейнасць калгас «XVIII партз'езд». 10.10.1950 г. жыхары вёсак разам з іншымі аб'яднаны ў адзіны калгас імя Молатава з цэнтрам у в. Гарбаха, 26.6.1957 г. перайменаваны ў «Зара» і 15.2.1963 г. зноў перайменаваны ў калгас «Праца», з 2003 г. СВП «Гарбаха-Агра». Бібліятэка, магазін.

**КРАСІЕЎКА** (да 1960 г. Смярдзячая, Смердзячы) — вёска ў Дастоеўскім с/с, ва ўгоддзях СВК «Дастоева». За 19 км на Пн ад Іванава, 21 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 138 гаспадарак, 266 жыхароў (2005).

Паводле гістарычных крыніц вядома з 1866 г., калі в. Смердзячы знаходзілася ў маёнтку памешчыка Іосіфа Карэнецкага (Замошва) у Асаўніцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. На 1886 г. адзначаецца як в. Смердзяча, у якой працавалі 2 бондары. У 1905 г. тут 485 жыхароў. У 1905 г. мелі месца выпадкі спынення работ і забастоўка з эканам. патрабаваннямі. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 91 будынак, 500 жыхароў. 19.3.1929 г. вёска далучана да Мотальскай гміны. У 1934 г. ў ёй працавала школа, у якой навучаліся 50 вучняў.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска Смердзячы ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Застружскім с/с (цэнтр — в. Застружжа), 133 двары, 681 жыхар, працавала пач. рус. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Спалены 31 будынак, у т.л. 13 жылых, 18 гасп. За часы вайны загінулі 3 партызаны-падпольшчыкі, 7 жыхароў вёскі — ахвяры тэрору, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. — 27 жыхароў. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., у 1955 г. пабудавана хата-чытальня. З 1957 г. ў Дастоеўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. 838 жыхароў, у прыстасаваным у 1950 г. будынку дзейнічала школа (у 1961 7-гадовая, 121 вучань, майстэрні прыстасаваны ў 1956).



Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 30.4.1960 г. в. Смярдзячая перайменавана ў Красіеўку. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 594 жыхары, у 1997 г. — 162 двары, 325 жыхароў. З 4.3.1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «8 Сакавіка», які 28.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» з цэнтрам у в. Дастоева, з 20.6.2003 г. ва ўгоддзях СВК «Дастоева». Пачатковая школа, магазін, медпункт, клуб, б-ка.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Махроўскім с/с. За 18 км ад Іванава, 17 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 26 гаспадарак, 54 жыхары (2005).

Паводле спісу 1870 г. вёска ў Махрэнскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ.; 19 сялян-гаспадароў, якія ўваходзілі ў Хамічаўскае сельскае т-ва. У 1909 г. ва ўрочышчы Краснае Хатычынскай вол., 13 жыхароў, 2 двары. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1929 г. — 72, у 1935 г. — 76 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. — вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Махроўскім с/с. На 1940 г. — 30 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 3 жыхары. У сак. 1944 г. гітлераўцамі расстраляны партызан Р.К.Калодзіч, на магіле якога ўстаноўлены помнік. З 1943 г. да сак. 1944 г. вёска ўваходзіла ў аб'яднаны падп. бел.-ўкраінскі сельсавет, які ахопліваў вёскі Баландзічы, Вулька, Краснае, Махро, Хамічава (Беларусь), Дольск, Нігавішчы, Омыт (Украіна), старшыня выканкома М.К.Каначук. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. на хутары 146 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У 1997 г. — 35 двароў, 63 жыхары. З 25.1.1950 г. вяскоўцы разам з жыхарамі вёсак Хамічава, Вулька Махроўская і хутароў Хамічаўскія і Краснае працавалі ў створаным калгасе імя Мікаяна, які 5.3.1951 г. быў узбуйнены, цэнтрам стала в. Махро, 28.1.1970 г. быў перайменаваны ў калгас імя Леніна, які ў 2003 г. далучаны да СВП «Баравіца». Магазін.

**КРОТАВА** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 22 км на ПнУ ад Іванава, 18,5 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 93 гаспадаркі, 188 жыхароў (2005).

Па дакументах вядома з 1507 г. У сярэдзіне 17 ст. маёнтак і сяло ў Пінскім пав., якім валодала Цярлецкая. На 4 гады ў 1646 г. маёнтак быў здадзены па кантракце ў арэнду Натану Лейзеровічу і Давіду Якубовічу. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай губ., з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. На 1874 г. у вёсцы існавала карчма. Паводле спісу 1870 г. вёска побач з маёнткам Кротава, які належаў Шырме, у ёй налічвалася 38 сялян-уласнікаў і 46 былых дзярж. сялян, якія былі аб'яднаны ў Дастоеўскае сельскае т-ва. Паводле перапісу 1894 г. вёска ў Парэцкай вол., 43 двары, 327 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзіліся 2 сядзібы, першая — уладанне Актавія Шырмы (3 двары, 17 жыхароў), у другой у яго ж уладанні 2 двары, 17 жыхароў, капліца. У 1909 г. ў вёсцы 395 жыхароў, 74 двары, у маёнтку 10 жыхароў, 1 двор. У 1-ю сусветную вайну да ліп. 1920 г. Парэцкая вол. была перададзена Гродзенскай губерні. У 1915—18 гг. акупіравана герм., потым польскімі войскамі. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы было 72 будынкі, 423 жыхары. У фальварку 3 будынкі, 10 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Жабчыцкім р-не Пінскай вобл., цэнтр Кротаўскага с/с, 156 двароў, 637 жыхароў. Тэр. сельсавета складала ў той час 6200 га, у яго склад уваходзілі 10 населеных пунктаў, у якіх было 453 двары, у т.л. 61 хутарскі і 2292 жыхары. У сельсавеце дзейнічалі 3 дробныя кустарныя цагельныя з-ды вытв. магутнасцю 20—30 тыс. штук цэглы ў сезон і 4 пач. шко-

лы. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вайну загінулі 3 жыхары вёскі (ахвяры фаш. тэрору), на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. — 3 жыхары. Пасля вызвалення быў забіты антысавецкімі падп. групамі 1 жыхар. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не. 9.3.1959 г. сельсавет ліквідаваны і вёска ўвайшла ў склад Дастоеўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 650 жыхароў, у прыстасаваных у 1930 і 1948 гг. будынках дзейнічала школа (у 1961 — 7-гадовая, 134 вучні). З 25.12. 1962 г. ў Драгічынскім р-не, у Охаўскім с/с, з 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. ў Дастоеўскім с/с, 404 жыхары. У 1997 г. — 115 двароў, 226 жыхароў. З 17.7.1949 г. жыхары вёскі працавалі ў створаным калгасе «Савецкая Беларусь», які 2.9.1950 г. ўзбуйнены, і вёска засталася цэнтрам калгаса, 27.11.1957 г. перайменаваны ў калгас імя Суворава, які 31.3.1958 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» з цэнтрам у в. Дастоева, 31.1.1961 г. разбуйнены. З гэтага часу жыхары вёскі працавалі ў калгасе «Світанне» (цэнтр — в. Кротава, пасля 1980 — в. Скарацічы), з 25.12.1962 г. перайменаваны ў калгас «Савецкі», у пач. 21 ст. далучаны да СВП « Моталь-Агра». Пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 1995 г. атрымаў званне народнага фальклорны ансамбль «Кротаўскія гармонікі» пры Доме культуры (створаны ў 1990).

**КРЫВІЦА** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Іванава, 18 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 51 гаспадарка, 88 жыхароў (2005).

У 1905 г. вёска з 339 жыхарамі адносілася да Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1915—18 гг. была акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 39 будынкаў, 266 жыхароў, усе праваслаўныя беларусы. У 1920-я г. ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, тут існавалі ячэйкі райкома КПЗБ і райкома КСМЗБ. Некаторыя жыхары ў 1920-я г. былі членамі Оўзіцкай падп. арг-цыі КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Сачыўкаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл. (цэнтр — в. Сачыўка), 57 двароў, 268 жыхароў, працавала пач. рус. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 23 жыхары. У 1948 г. ўзведзены новы будынак школы (на 1961 — пачатковая, 23 вучні). З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, Крывіца далучана да Стрэльненскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 312 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 258 жыхароў. У 1997 г. — 67 двароў, 122 жыхары. З 6.9.2000 г. ў Сачыўкаўскім с/с. З 24.2. 1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Савецкая Армія», які 7.10.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Леніна і цэнтрам калгаса стала в. Сачыўкі, у 1960 г. ён перайменаваны ў «Іскра», у 1963 г. наз. «Дружба», 20.6.2003 г. калгас пераўтвораны ў СВК «Бакунава». Магазін.

**КРЫТЫШЫН** — вёска, цэнтр Крытышынскага с/с і СВК «Машэраўскі». За 11 км на Пд ад Іванава, 9 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 248 гаспадарак, 589 жыхароў (2005).

Вядомы з 1866 г. як вёска ў дзярж. уладанні ў Іванаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., для патрэб насельніцтва працаваў кравец. У 1905 г. ў вёсцы 685 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 84 будынкі, 480 жыхароў. Некаторыя жыхары вёскі ўваходзілі ў 1920-я г. ў Оўзіцкую падп. арг-цыю КПЗБ. У 1934 г. працавала школа, у якой навучаліся 146 вучняў. З







*Брацкая магіла партызан ў в. Крытышын.*

*Помнік землякам у в. Крытышын.*

1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., цэнтр Крытышынскага с/с, 162 двары, 715 жыхароў, працавала пач. рус. школа. Каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У сельсавеце ў той час налічваліся 5258 га зямлі, 380 двароў, з іх — 150 хутарскіх, большасць насельніцтва складалі беларусы, працавалі 3 пач. школы. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У гады вайны была створана і дзейнічала патрыят. падп. арг-цыя. Акупанты спалілі 124 будынкі, у т.л. 44 жылыя, 80 гасп., ад іх рук загінулі 2 партызаны-падпольшчыкі, 21 мірны жыхар вёскі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 26 жыхароў. Памяць аб партызанах і ахвярах вайны захоўваецца ў шэрагу помнікаў.

У 1960 г. на брацкай магіле партызан атрада імя С.Г.Лазо брыгады В.М.Молатава — В.С.Мельнічук, Я.П.Мельнічук і сувязнога В.І.Кужалінава, якія загінулі ў баі супраць захопнікаў у 1942 г., пастаўлены ў 1960 г. абеліск. У 1968 г. на магіле ахвяр фашызму, дзе пахаваны члены сям'і партыз. сувязнога С.В.Гайдукевіча (жонка і трое дзяцей), расстраляныя фашыстамі 4.3.1943 г., пастаўлены абеліск. У 1974 г. на магіле настаўніцы Маланні Андрэеўны Бабіч, расстралянай фашыстамі ў 1942 г., пастаўлена стэла. На ўшанаванне памяці 97 аднавяскоўцаў, сав. воінаў і партызан, загінуўшых у гады вайны, у 1963 г. пастаўлены ў скверы абеліск. Пасля вызвалення быў забіты антысавецкімі падп. групамі 1 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў сельсавеце (паводле дадзеных 1969) было знішчана акупантамі 56 двароў, 73 жыхары, у Германію ўгнаны 113 жыхароў, з іх 88 вярнуліся, на франтах загінулі 106 чал., у партыз. атрадах і падполлі — 10 чал. (напярэдадні вайны ў сельсавеце 665 двароў, 2654 жыхары). Пасля вызвалення працягвала дзейнасць школа (на 1946/47 навуч. г. 7-гадовая). У 1944—45 гг. цэнтрам лесанарыхтовак і лесавывазу стала Крытышынская лесадача, якая аб'яднала Крытышынскі, Рудскі, Махроўскі, Глінненскі, Варацэвіцкі, Гарбахскі сельсаветы.

З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. У 1956 г. пабудаваны новы

будынак школы (на 1961 — сярэдняя школа, 260 вучняў); пад другі корпус прыстасаваны будынак у 1950 г., пад майстэрні ў 1956 г. Паводле перапісу 1959 г. 398 жыхароў, у сельсавеце тады былі аб'яднаны 33 населеных пункты. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 698 жыхароў, у 1997 г. — 259 двароў, 623 жыхары. 15.4.1947 г. быў створаны калгас імя Сталіна, які 2.9.1950 г. ўзбуйнены, вёска засталася яго цэнтрам. У 1953 г. налічваліся 32 гаспадаркі сялян-аднаасобнікаў. 21.11.1961 г. мясц. калгас перайменаваны ў калгас «Радзіма», 30.1.1963 г. ў калгас «Расія». Пасля ўзбуйнення 11.12.1980 г. вёска стала цэнтрам калгаса імя Машэрава, з 10.7.2003 г. СВК «Машэраўскі». На 1.1.2005 г. ў сельсавеце 765 гаспадарак, 1634 жыхары. Сярэдняя школа, урачэбны і ветэрынарны ўчасткі, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, сталовая, 3 магазіны, дзейнічае малітоўны дом.

**КУЖАЛІЧЫН** — вёска ў Рудскім с/с. За 14 км на Пд ад Іванава, 12 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 7 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1495 г. і ў «Рэестры лясных пушчаў» (1559): «...паміж мястэчка Нобеля і сяла Караля яго міласці Кружалічына...». Згодна з пісцовай кнігай у 1554 г. сяло ў складзе Дружылавіцкага двара. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. лічылася княжацкім: тут пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, з 1801 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. На 1885 г. у Дубайскай вол., сядзіба Кружэлічын, у якой працавалі вінакурны з-д і 2 млыны. Уладальніку вёскі памешчыку Францу Пуслоўскаму ў 1889 г. належалі 15 432 дзес. зямлі. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., фальварак і вёска, якія потым зліліся; 10 будынкаў, 84 жыхары. У 1927 г. быў адкрыты малочны кааператыў. У 1929 г. — 56 жыхароў, у 1935 г. ў вёсцы 43 жыхары, у маёнтку Кружалічын — 41 жыхар. У 1938 г. — 65 двароў, 280 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. вёска Кужэнічын у Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Рудскім с/с (цэнтр — в. Рудск, 47 двароў, 284 жыхары). У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час правядзення карнай аперацыі ў ліст. 1943 г. знішчаны 9 двароў, 24 жыхары (напярэдадні вайны 24 двары, 102 жыхары). На франтах 2-й сусветнай вайны 1939—45 гг. загінуў 1 жыхар. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У 1997 г. — 9 двароў, 21 жыхар. Пасля вайны ў канцы 1940-х г. разам з жыхарамі Рудкаўкі вяскоўцы працавалі ў калгасе «Чырвоная Рудкаўка», які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» з цэнтрам у в. Франопаль, потым з 18.1.1959 г. ў калгасе «Светлы шлях» з цэнтрам у в. Рудск, з 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Баравіца».

**КУЛЯКІ** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 12 км на ПнЗ ад Іванава, 12 км ад чыг. ст. Снітава. 81 гаспадарка, 148 жыхароў (2005).

Вёска вядома з 1866 г. як казённая маёмасць у Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. 226 сялян былі аб'яднаны ў Куляцкае сельскае т-ва. У 1905 г. 622 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Драгічынскім пав., Дружылавіцкай гміне, у вёсцы 89 будынкаў, 451 жыхар.

У 2-й пал. 1930-х г. была адкрыта школа (паводле іншых звестак, у 1920-я г.). З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Сачыўкаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл. (цэнтр — в. Сачыўка, 100 двароў, 720 жыхароў, працавала пач. рус. школа). У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг.



акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы была створана і дзейнічала патрыят. падп. арг-цыя, загінуў 1 партызан-падпольшчык. Акупанты забілі 3 мірных жыхароў. На франтах у 1939—45 гг. загінулі 29 жыхароў. З 21.9.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Дзімітрава, які пасля ўзбуйнення 7.10. 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Леніна і цэнтрам калгаса стала в. Сачыўкі, у 1960 г. ён перайменаваны ў калгас «Іскра», у 1963 г. — у калгас «Сяброўства». 2.6.2003 г. калгас пераўтвораны ў СВК «Бакунава». З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобласці. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, вёска ўвайшла ў склад Стрэльненскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 491 жыхар, у пач. школе ў 1961 г. навучаўся 51 вучань. З 1962—65 гг. — у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 352 жыхары. У 1997 г. — 91 двор, 179 жыхароў. З 6.9.2000 г. ў Сачыўкаўскім с/с.

**ЛУЧКІ** — вёска ў Псышчаўскім с/с. За 22 км на ПнЗ ад Іванава, 24 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 21 гаспадарка, 38 жыхароў (2005).

У 1905 г. вёска ў Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 253 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., потым польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Драгічынскім пав., Дружылавіцкай гміне; у вёсцы 25 будынкаў, 115 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Псышчаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 36 двароў, 210 жыхароў, працавала пачатковая руская школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 1 партызан-падпольшчык, 6 мірных жыхароў; на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. — 8 жыхароў. Пры вызваленні вёскі загінулі 2 воіны і пахаваны на яе тэрыторыі. На магіле М.П.Барскага і І.М.Рамановіча, якія загінулі ў баі пад Дружылавічамі 20.8.1943 г., пастаўлены абеліск. З 1949 г. ў прыстасаваным будынку працавала школа (на 1961 — пачатковая, 42 вучні). З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 240 жыхароў. У 1962—65 гг. — у Драгічынскім раёне. Паводле перапісу 1979 г. — 67 жыхароў, у 1997 г. — 33 двары, 73 жыхары, магазін. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас «Чырвоная звязда», які 23.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Леніна з цэнтрам у в. Псышчава. 14.2. 1963 г. ён перайменаваны ў калгас «За мір», 20.6.2003 г. пераўтвораны ў СВК «Прыясельны».

**ЛЫСУХА** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 11 км на Пн ад Іванава, 12 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

Вядома вёска з 1939 г. ў БССР. У 1940 г. ў Застружскім с/с (цэнтр — в. Застружжа) Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 19 двароў, 95 жыхароў. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 4 жыхары. З 8.1. 1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Дастоеўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 78 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не.

**ЛЮДЗІНАВІЧЫ** — вёска ў Бродніцкім с/с. За 14 км на У ад Іванава, 12 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

Вядомы з пач. 19 ст. пад назвамі Людвінаў, Людвінавічы як радавы маёнтак Аржэшкаў у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1816 г. належаў памешчыку Мікалаю Аржэшку, у ім было 139 душ мужчынскага полу. За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. маёнтак Людвінава секвестраваны 10.12.1865 г. ў яго ўладальніка Пятра Аржэшкі і падлягаў абавязковаму продажу з торгу.

Паводле спісу 1870 г. вёска Людзінавічы ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., побач маёнтак Людзінавічы, які належаў памешчыку Мацееўскаму. У 1909 г. ў в. Людзінавічы 15 двароў, 119 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 6 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у

1919—20 гг.— польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 16 будынкаў, 94 жыхары. У 1935 г. ў вёсцы 199 жыхароў, у маёнтку — 8.

З 1939 г. — ў БССР. На 1940 г. вёска ў Яечкавіцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 31 двор, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінуў 1 мірны жыхар вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. — 5 жыхароў. У прыстасаваным у 1948 г. будынку дзейнічала школа (на 1961 — пачатковая, 16 вучняў). З 8.1. 1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. вёска ў Бродніцкім с/с. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім, з 15.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 181 жыхар, 1979 г. — 47 жыхароў, у 1997 г. 5 двароў, 8 жыхароў. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Вышынскага, які ў 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Зара камунізму», і цэнтрам калгаса стала в. Яечкавічы. З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Зара-Агра».

**ЛЯДАВІЧЫ** — вёска ў Опальскім с/с. За 29 км на ПнЗ ад Іванава, 31 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 240 гаспадарак, 525 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваюцца ў 1556 г. ў складзе Пінскага пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ.

Паводле інвентароў 1845—48 гг. вёска адносілася да маёнтка Опаль і належала памешчыку Карлу Бржэнцкаму. У ёй было 555 рэвізскіх душ. На 1866 г. сяло ў Опальскай вол., 130 двароў, працавалі каваль, 4 цесляры, 2 шаўцы, сталяр, муляр, пячнік, 469 сялян былі аб'яднаны ў Лядавіцкае сельскае т-ва, дзейнічалі царква і вучылішча. У 1890 г. сяло — цэнтр Опальскай вол. У 1905 г. ў Бездзежскай вол., 829 жыхароў. У ліст. 1905 г. сяляне вёсак Опаль і Лядавічы аб'явілі забастоўку і не выйшлі на працу. Вялі барацьбу за ліквідацыю сервітутных правоў памешчыка Яленскага (спрэчка за сенакосныя пашы пачалася ў 1873, працягвалася ў 1881), некалькі сялян вёсак пасля нападу на маёнтак памешчыка былі расстраляны. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл. Опальскім с/с, 225 двароў, 1226 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У 1943 г. гітлераўцамі былі расстраляны ў вёсцы 4 партызаны-падпольшчыкі, на іх магіле ў 1957 г. пастаўлены абеліск. 12.6.1944 г. ў баі з захопнікамі загінуў партызан С.Л.Плаксуноў, у памяць аб якім у 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. За часы вайны ад рук акупантаў загінулі 72 жыхары вёскі, на франтах у 1939—45 гг. — 50 жыхароў. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 1077 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «1 Мая», які аб'яднаў 135 гаспадарак. Адноўлены пасля вайны 13.1.1949 г., 26.8.1950 г. ўзбуйнены і яго цэнтрам стала в. Опаль, з 25.3.1963 г. вядомы пад назвай «Перамога». Напярэдадні ўзбуйнення ў калгасе былі аб'яднаны 73 гаспадаркі.

У 1955 г. пабудавана бібліятэка, у прыстасаваным будынку да 1918 г. дзейнічала школа з 273 вучнямі на 1961 г., працавалі асобныя класы школы сельскай моладзі з 33 вучнямі. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 6.1.1965 г. ў Іванаўскім раёне. Паводле перапісу 1979 г. 978 жыхароў, у 1997 г. — 269 двароў, 639 жыхароў. Магазін, ветучастак.

**ЛЯСКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Ляскавіцкага с/с і СВК «Ляхавічы-Агра». За 3 км на Пн ад Іванава, 5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 500 гаспадарак, 1309 жыхароў (2005).



Вядомы ў 1495 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., у 16 ст. ў складзе Пінскага пав. Трокскага ваяв. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. — прыватнаўласніцкая вёска, якая належала служылым людзям — шляхціцам. У 1643 г. ў ёй была заснавана Ляскавіцкая царква, якой належалі 2 моргі зямлі. У 1783 г. пабудавана Прачысценская царква ( помнік манум. драўлянага дойлідства Палесся, захавалася).

З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай губ., з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. На працягу 1-й пал. 19 ст. адначасова належала некалькім уладальнікам, якія хутка змяняліся, але пераважна вёска знаходзілася ва ўладанні роду Ляскоўскіх.

Паводле інвентароў 1845—48 гг. вядомы фальварак і 2 вёскі з той жа назвай, якія ўваходзілі ў маёнтак Ляскова Кобрынскага пав. Памешчык Антон Алдоўскі набыў маёнтак Ляскова Кобрынскага пав. (Лукоўскіх і Аржэшкавай) і аб'яднаў 2 населеныя месцы ў адзінае. У 1945 г. ў маёнтку 6 двароў, 22 рэвізскія душы (мужчын — 13, жанчын — 9). У сялян суседніх вёсак Ляскова і Малышы знаходзіліся 60 дзес., у фальварку Ляскова 99 дзес. зямлі. Плошча маёнтка складала 159 дзес. У сялян сядзібнай і агароднай — 4 дзес., ворнай — 24, сенакоснай — 24 дзес. Паводле інвентару 1848 г. налічвалася 41 душа (24 мужчыны, 17 жанчын). У маёнтку знаходзіўся завод буйной рагатай жывёлы. Пасля адмены прыгону ў 1861 г. ў маёнтку адбыліся хваляванні: сяляне патрабавалі поўнасцю адмяніць згонныя дні. Зачыншчыкі былі арыштаваны, над сялянамі ўчынена расправа. У той час (1861) ва ўладанні памешчыка Уладзіслава Корсака знаходзіўся 71 двор. У яго доме на канспіратыўным сходзе прадстаўнікоў шляхты з удзелам Рамуальда Траўгута была падтрымана думка аб неабходнасці рэв. паўстання. На 1866 г. вядомы як сяло ў Іванаўскай вол., у якім для патрэб насельніцтва і таргоў працавалі 6 ганчароў; маёнтак быў канфіскаваны ў казну, 563 жыхары Ляскавіч аб'яднаны ў Ляскавіцкае сельскае т-ва. У 1885 г. ў сяле было 70 двароў, 649 жыхароў, працавалі праваслаўная царква і піцейны дом. У 1905 г. ў сяле — 921, у маёнтку 32 жыхары. У 1915—18 гг. яны акупіраваны герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У 1930-я г. ў доме святара працавала школа, на 1934 г. — 162 вучні. У школах Ляскавіцкага прыхода навучанне вялося на ўкр. мове. У 1920-я г. Ляскавічы ўваходзілі ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, існавалі ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. У 1930-я г. тут размяшчаўся Лясны райком.



*Царква Раства Багародзіцы ў в. Ляскавічы. 1713 г.*

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. — вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., цэнтр Ляскавіцкага с/с. У былым маёнтку нацыяналізавана 77 га зямлі. На 1940 г. працавала пач. рус. школа, было 214 двароў, 1257 жыхароў, 1 жыхар вёскі загінуў у сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. У сельсавеце тады налічваўся 371 двор, 1982 жыхары, 4198 га зямлі, працавалі няпоўная сярэдняя і пач. школы. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Створана і дзейнічала патрыят. падп. арг-цыя. Акупанты спалілі 36 будынкаў, у тым ліку 12 жылых, 24 гаспадарчых. За час вайны загінулі 2 партызаны-падпольшчыкі, 7 мірных жыхароў вёскі — ахвяр тэрору. На франтах у 1939—45 гг. — 37 жыхароў. На ўшанаванне памяці 115

жыхароў вёсак Ляскавічы, Шчакоцк, Вярхусце ў 1968 г. пастаўлены помнік (рэканструяваны ў 1989). У 1944 г. пры выкананні службовых абавязкаў загінулі ўпаўнаважаны райкома партыі Васіль Цямчык і міліцыянер Мікалай Уласовіч, на іх магіле ўстаноўлены помнік.

У 1946 г. ў вёсцы 1155 жыхароў. У 1949 г. пачатковая школа была ператворана ў 7-гадовую.

З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. сельсавет узбуйнены. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1143 жыхары. У чатырох прыстасаваных карпусах, а таксама ў асобным будынку, дзейнічала 8-гадовая школа, на 1961 г. — 259 вучняў; у будынках таксама працавала вячэрняя школа сельскай моладзі (73 вучні).

У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 1268 жыхароў, у 1997 г. ў вёсцы 496 двароў, 1303 жыхары. У 1949 г. створаны калгас імя Пушкіна, які пасля ўзбуйнення 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Горкага, 16.5.2003 г. пераўтворанага ў СВК «Ляхавічы-Агра». Лясніцтва, вучэбна-вытв. камбінат, пач. школа, дзіцячы сад, ветлячэбніца, ветаптэка, Дом культуры, бібліятэка, аддз. сувязі, 2 магазіны, філіял ашчаднага банка. Помнік этнаграфіі — сялянскі двор з незвязанымі пабудовамі. Захаваліся фрагменты паркавых алей б. сядзібы. На 1.1.2005 г. ў Ляскавіцкім с/с аб'яднаны 8 населеных месц, 1180 гаспадарак, 2890 жыхароў.

**ЛЯХАВІЧЫ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с. За 7 км на ПнУ ад Іванава, 9 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 190 гаспадарак, 513 жыхароў (2005).

Вядомы з 1515 г. Згодна з пісцовай кнігай у 1554—55 гг. сяло Ляховічэ належала Ставецкаму двару ў Пінскім пав. Сярод уладальнікаў зямлі ў 1552—55 гг. быў і зямянін пінскі Іван Дастаеўскі (Данілевіч), адзін з пачынальнікаў роду вядомага пісьменніка, потым пінскі суддзя Бенядзікт Дастаеўскі. У 1517 г. сын слугі Фурса Іванавіча, служэбніка кн. Фёдара, атрымаў 5 дварышчаў у розных населеных месцах, у тым ліку і ў Ляхавічах. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. сяло лічылася княжацкім: у ім пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1760 г. на месцы б. замка Міхаіл Масальскі пабудаваў вял. дом, які не захаваўся, але вядомы па рысунку К.Горскага.

З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай губ. (з 1797 у Літоўскай). З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. У 1818 г. пабудаваны будынак царквы Ушэсця (захаваўся). Па рэвізіі 1816 г. маёнтак Ляхавічэ з вёскамі належаў памешчыцы Крутыцкай, ва ўладанні якой знаходзіліся 197 душ мужчынскага полу. З сярэдзіны 19 ст. Ляхавічамі валодалі Орды, спачатку Вітольд, потым яго сын Станіслаў (памёр у 1916), які перадаў вёску нашчадку-сыну, таксама Станіславу. Паводле спіса 1870 г. сяло ў складзе маёнтка Ляхавічы, які належаў Ордзе. У ім налічваліся 101 селянін-гаспадар, якія ўваходзілі ў Ляхавіцкае сельскае т-ва. На 1885 г. — сяло ў Дубайскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у якім 23 двары, 289 жыхароў, дзейнічалі царква праваслаўная, капліца, ветраны млын. Каля сяла было новае паселішча. На 1889 г. у Малых Ляхавічах памешчыцы Бальбіне Будзіцкай належалі 130 дзес. зямлі. У асобным памяшканні, пабудаваным за кошт земства, з 1907 г. дзейнічала нар. вучылішча (з 1914 — двухкамплектнае, 71 вучань). У 1905 г. ў Асавецкай вол., у маёнтку жылі 36 жыхароў, плаціна з 14 жыхарамі.

У 1909 г. сяло ў Бродніцкай вол., 55 двароў, 535 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. вёска, фальварак — у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У вёсцы было 65 будынкаў, 387 жыхароў. У фальварку 6 будынкаў,



64 жыхары, на станцыі 3 будынкі, 29 жыхароў. У 1929 г. 254 жыхары. У 1935 г. ў Ляхавічах 341 жыхар, у Малых Ляхавічах — 25, у маёнтку Ляхавічы — 13 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёскі ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл. У вёсцы Вялікія Ляхавічы, цэнтры сельсавета, 115 двароў, 588 жыхароў, у Малых Ляхавічах 9 двароў, 50 жыхароў. Ляхавіцкі с/с у той час аб'яднаў 428 сял. двароў, з іх 50 хутарскіх, працавалі 3 пач. школы, сувязь з цэнтрам ажыццяўлялася па вузкакалейцы. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, уваходзілі ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупанты спалілі 20 будынкаў, у тым ліку 5 жылых, 15 гаспадарчых. У час вайны загінулі ў партызанах і падполлі 2 вяскоўцы, забіты гітлераўцамі 13 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі 18 воінаў-землякоў. Пасля вызвалення з пачатку 1949/50 навуч. г. пачатковая школаператворана ў 7-гадовую. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. Ляхавіцкі і Ляскавіцкі сельсаветы аб'яднаны ў адзіны Ляскавіцкі з цэнтрам у в. Ляскавічы. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 661 жыхар. У прыстасаваным у 1929 г. будынку дзейнічала школа з 162 вучнямі ў 1961 г. З 25.12.1962 г. яна ў Драгічынскім, з 6.1.1965 г. ў Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1979 г. 593 жыхары, у 1997 г. — 207 двароў, 537 жыхароў. З 1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Сталінскі шлях». Напярэдадні ўзбуйнення 26.8.1950 г., калі цэнтрам стала в. Агова, ён аб'ядноўваў 44 гаспадаркі; у 1959 г. перайменаваны ў «Шлях Леніна», пасля 1960 г. цэнтрам калгаса зноў стала в. Ляхавічы. Сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, дзейнічаюць царква і малітоўны дом. З 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Ляхавічы» (цэнтр — в. Ляскавічы).

**МАГІЛЬНА** — вёска, якая не існуе; уключана ў межы Іванава.

Вёска згадваецца ў «Спрэчках за памежныя землі» (1518), а з Магільнай пані Туравай чалавек Грынь Дабрыніч сказаў: «Мы пры князю Юрыі тут у аблаву хадзілі». Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. — Магільна — прыватнаўладальніцкая вёска, якая належала служылым людзям — шляхціцам. У канцы 16 ст. знаходзілася ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У час вайны ў 1661 г. была разбурана. У пачатку 18 ст. маёнтак Марыны Палубінскай з роду Ястшэмбец. У 1-й пал. 19 ст. ўладальнікамі былі Цешы, у 1859 г. дачка Цешы Іда, потым яе сын Віктар Ян Людовік Канткоўскі (1863—1921), пасля яго смерці дачка Соф'я (1895—1957) і сын Віктар (1898—1968). Да 1915 г. панская сядзіба складалася з вял. аднапавярховага дома, знішчанага ў час 1-й сусветнай вайны, пасля вайны пад жыллё быў прыстасаваны будынак фальварка. У 1932 г. ўзведзены новы дом з мансардай на 12 пакояў у традыцыях вясковых сядзіб, у канцы 1930-х г. Віктар Канткоўскі пабудаваў у парку яшчэ адзін дом у памешчыцкім стылі, закладзены сад з аранжарэяй, дзе вырошчваліся ружы розных гатункаў.

З 1795 г. ў складзе Расійскай імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ., з 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1-й палове 19 ст. ў склад маёнтка Магільна ўваходзілі мяст. Янава, вёскі Накла і Магільна. У дарэформенны перыяд маёнтак Магільна належаў памешчыку Дмахоўскаму, у ім быў засн. вінакурны з-д. Ва ўласнасці памешчыка ў маёнтку знаходзіліся 1350 рэвізскіх душ (677 мужчынскага і 673 жаночага полу). З іх дваровых людзей 38. На 1866 г. вёска ў Іванаўскай вол., для патрэб насельніцтва працаваў цагельны з-д, побач маёнтак ужо ва ўладанні памешчыка Іосіфа Курэнецкага (Куржэнецкага), 377 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы — 702, у маёнтку 48 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., потым польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1920 г.

вёска ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, існавала ячэйка райкома КПЗБ (райкома КСМЗБ).

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска — цэнтр Магільнаўскага (Магільнянскага) с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 171 двор, 630 жыхароў. У сельскім савеце у той час налічваліся 659 двароў, з іх 135 хутарскіх. У былым маёнтку Магільна працавалі МТС, б-ка, дзейнічалі няпоўная сярэдняя і пач. школы, частка дзяцей з паселішчаў сельсавета наведвала Іванаўскую школу, былі выяўлены залежы торфу. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 45 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—1945 гг. — 33 воіны-землякі. З 8.1.1954 г. вёска ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 917 жыхароў, у сельсавеце тады былі аб'яднаны 14 населеных пунктаў з насельніцтвам 2981 чалавек. У 1958 г. ўзведзены будынак школы (у 1961 — 7-гадовая, 154 вучні). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 16.11.1970 г. Магільнянскі с/с перайменаваны ў Снітаўскі і цэнтр перанесены ў в. Снітава. У 1970 г. вёска ўвайшла ў межы Іванава. З 1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Маладая гвардыя», які 6.9.1950 г. быў узбуйнены, і Магільна засталося яго цэнтрам (21.3. 1977 пасля ўзбуйнення калгаса цэнтрам стала в. Снітава).

**МАРАЗЫ** — вёска ў Крытышынскім с/с. За 12 км на Пд ад Іванава, 2,5 км ад цэнтра сельсавета, за 10 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

Паводле гіст. дакументаў вядомы з сярэдзіны 19 ст. На 1866 г. вёска дзярж. маёмасці ў Адрыжынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 34 вяскоўцы ўваходзілі ў Гнеўчыцкае сельскае т-ва. У 1905 г. ў вёсцы 120 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Драгічынскім пав., Янаўскай гміне, 10 будынкаў, 51 жыхар, усе праваслаўныя. З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., Крытышынскім с/с, 26 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 5 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 8 жыхароў. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 111 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 14 жыхароў, у 1997 г. — 2 двары, 4 жыхары.

Разам з жыхарамі Радоўні з 1949 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Варашылава, які 2.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Сталіна (з цэнтрам у в. Крытышын), 21.11.1961 г. перайменаванага ў калгас «Радзіма», 30.1.1963 г. ў калгас «Расія». Пасля ўзбуйнення 11.12.1980 г. ў калгасе імя Машэрава, з 10.7.2003 г. ва ўгоддзях СВК «Машэраўскі».

**МАХРО** — вёска, цэнтр Махроўскага с/с. За 19 км на Пд ад Іванава, 17 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 466 гаспадарак, 1235 жыхароў (2005).

Вядома з 18 ст. У 1792 г. ў ёй узведзены будынак Петрапаўлаўскай царквы, прыклад перапрацоўкі ў драўляным дойлідстве мураванай архітэктуры стылю барока (захавалася). З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. Паводле інвентароў 1845—48 гг. вёска ў маёнтку Баландзічы, які належаў памешчыку, губ. сакратару Яраславу Андржэйковічу. Працавала карчма.

Паводле перапісу 1870 г. сяло — цэнтр Махрэнскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Сяло ўваходзіла ў маёнтак Баландзічы, які быў канфіскаваны ў памешчыка Андржэйковіча. Тут знаходзіліся валаснoе праўленне і праваслаўная царква, на 1882 г. існавала штатнае нар. вучылішча з 12 вучнямі. У 1885 г. сяло ў Дубайскай вол., 52 двары, 460 жыхароў, царква, школа, паштовая станцыя, заезны двор. У 1889 г. новаму ўладальніку



маёнтка Махро дваранiну Фёдару Дэвель належалі 1608 дзес. зямлі. У 1904 г. разам з в. Кужэчын (Кружалiчын на 1885) каля 900 жыхароў. У 1909 г. ў Бродніцкай вол., у сяле 953 жыхары, 133 двары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1929 г. 625 жыхароў. У 1935 г. ў вёсцы — 712, у маёнтку Махро — 4 жыхары.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска — цэнтр Махроўскага с/с у Іванаўскім р-не Пінскай вобл., 299 двароў, 1644 жыхары. У сельсавеце ў той час налічвалася 506 двароў, з іх 140 хутарскіх, працавалі 2 пач. школы. Вузкакалейка звязвала вёску з райцэнтрам. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час вайны спалены 72 будынкі, у тым ліку 22 жылыя, 50 гасп. У барацьбе з акупантамі загінулі ў партызанах 2 жыхары вёскі. У 1944 г. загублена гітлераўцамі сав. актывістка В.І.Самуйлік, на магіле якой ў 1965 г. пастаўлены абеліск. Надпіс на абеліску ўшаноўвае таксама памяць 9 іншых сав. патрыётаў, якія загінулі ў барацьбе з ворагам. Пры вызваленні вёскі загінулі 9 сав. воінаў і пахаваны на яе тэрыторыі. У 1953 г. на іх магіле ўзведзены абеліск. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 69 жыхароў. На ўшанаванне памяці 105 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў гады вайны, у 1967 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны забіты антысавецкімі падп. групамі 4 жыхары.

У 1946 г. ў Махро 457 жыхароў, працавала 7-гадовая школа (на 1961 сярэдняя школа без вытв. навучання, 306 вучняў, існавалі вячэрнія класы сельскай моладзі з 33 вучнямі). На мяжы 1940—50-х гг. пачаў дзейнічаць медпункт. У 1954 г. метадам народнай будоўлі ўзведзены будынак сярэдняй школы (2-і корпус быў прыстасаваны ў 1940, 3-і пабудаваны ў 1957), дзейнічала хата-чытальня. З 8.1.1954 г. таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 648 жыхароў, у сельсавеце тады было 55 населеных месцаў з 2867 жыхарамі. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. ў вёсцы 1600 жыхароў. У 1997 г. — 478 двароў, 1334 жыхары. З 1950 г. вяскоўцы, а таксама жыхары хутара Махроўскія працавалі ў створаным калгасе «Чэкіст», які ў 1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Мікаяна, вёска стала яго цэнтрам, 28.1.1970 г. быў перайменаваны ў калгас імя Леніна, з 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВП «Бродніца».

На 1.1.2005 г. ў сельсавеце аб'яднаны 5 вёсак, у якіх 688 гаспадарак і 1717 жыхароў. Сярэдняя школа, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, муз. школа, філіял ашчаднага банка, аддз. сувязі, 4 магазіны, дзейнічаюць царква і малітоўны дом. Радзіма бел. мастака А.В.Кузьміча (н. ў 1945), з 1953 г. жыў самадзейны мастак А.П.Рубановіч (н. ў 1898). У 1995 г. атрымаў званне народнага харавы калектыў Дома культуры (створаны ў 1988).

**МОЛАДАВА** — вёска, цэнтр Моладаўскага с/с і СВК «Моладава». За 20 км ад Іванава і 22 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 396 гаспадарак, 834 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з канца 15 ст., калі належала Войнам, стараж. бел. роду герба Трубы (Тромбы). У 1497 г. Мацвей (адзіны з Войнаў) атрымаў ад пінскага кн. Фёдара Яраслaвіча дварышча ў Моладаве. Потым упамінаецца ў рэвізіі пушч у 1518 г. ўжо як маёмасць Войнаў, у 1539 г. перайшло ва ўладанне сына Мацвея Барыса. У той час у Моладаве меліся палац, млын, царква. У 1933 г. на царкве быў устаноўлены звон, прысвечаны роду Войнаў (захаваўся). У 1990 г. звон пасля рэстаўрацыі вернуты ў Моладаўскую царкву. Пасля смерці Барыса Моладава становіцца маёнткам, што зафіксавана ў метрыцы ВКЛ за 1567 г. Ім валодалі яго сын Сімяон Войнаў, вядомы абаронца праваслаўя, кашталян мсціслаўскі. Пасля 1599 г. ма-


*Царква Ушэсця ў в. Моладава.*

ёнтак атрымлівалі ў спадчыну 5 пакаленняў Войнаў. У канцы 16 ст. Моладава адносілася да Пінскага пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1692 г. дачка пінскага маршалка Элеанора, апошняя з роду Войнаў, пайшла замуж за Казіміра Дамініка Агінскага, ваяводу віленскага, і ўладальнікам маёнтка стаў род Агінскіх.

У 1792—1839 гг. маёнткамі Моладава і Парэчча валодаў род Скірмунтаў. У сярэдзіне 18 ст. ў Моладаве на месцы, дзе раней стаяла царква 16 ст., пабудавана царква Ушэсця — помнік нар. дойлідства (захавалася, перабудавана ў 19 ст.). Па іншых звестках, пабудавана ў 19 ст. У 1775 г. быў узведзены аднапавярховы панскі дом (згарэў у 1840), а ў 1798 г. пад кіраўніцтвам архітэктара Ван Гроса палац. Існавала б-ка на польскай і французскай мовах (да 1910 кніжны фонд — больш за 1000 экз.). Паводле рэвізіі 1816 г. маёнтак Моладаў з вёскамі належаў памешчыку С.Скірмунту, разам 385 душ мужчынскага полу. Пры жыцці Сымон Скірмунт перадаў маёнтак сыну Аляксандру (н. ў 1798 у Моладаве), які арганізаваў тут цукрова-рафінадны з-д, адзін з першых на Беларусі, атрымаў дзярж. патэнт на ўласнае вынаходніцтва апарата з выкарыстаннем пары для паскоранага выпарэння цукровага сіропу. У 1840 г. выраблялася 300 пудоў цукру-рафінаду ў год, працавалі 30 рабочых. Завод закрыты ў 1848 г. У 1836 г. дала першую прадукцыю суконная ф-ка ў Парэччы. У ёй працавалі ад 200 да 440 рабочых. Пры фабрыцы былі пабудаваны 4 дамы з 90 кватэрамі для сямейных і 4 інтэрнаты для несямейных, бальніца на 12 ложкаў, дзейнічала вучылішча. У 1915 г. немцы абсталяванне суконнай ф-кі вывезлі ў Германію. У дарэформенны перыяд у маёнтку засн. таксама вінакурны з-д. На родавым гербе Скірмунтаў адлюстраваны дуб. Тры жалуды на ім сімвалізуюць тры асноўныя галіны роду: моладаўскі, парэцкі і пінскі.

У 1846 г. сядзіба Моладава складала 3 валокі, 3 моргі і 15 прутаў зямлі, мелі-ся палац, драўляны флігель, людская, дом для працаўнікоў, рафінадны з-д, піваварня, дом для майстроў, вінакурня. У гасп. двор уваходзілі хлеў для кароў, 3 хлявы для авечак, скляпок, 3 свірны, канюшня, ляднік, сырнік, кухня і птушнік.

З 1860 г. Моладава належала Генрыху, сыну Аляксандра Скірмунта. Ён арганізаваў школу хатняй гаспадаркі (існавала да пач. 1-й сусветнай вайны). Пасля адмены прыгону ў 1861 г. тут адбыліся сял. хваляванні: сяляне адмовіліся выконваць шарваркі і несці начную варту. Над імі ўчынена расправа. У 1862 г. Моладаўская і Замошская воласці аб'яднаны ў адзіную з валасным праўленнем у сяленні Асаўніцы. У 1864 г. засн. цагельны з-д (па іншых звестках — у 1865, вытворчасць 80 тыс. штук цэглы ў год). На 1866 г. у сяле Моладаў у Асаўніцкай вол., у маёнтку той жа назвы дзейнічала царква. Побач з Моладавым была в. Кучавы, якая значна пазней злілася з ім. З 1875 г. існавала вучылішча (на 1882 — 47 вучняў, з 1888 — у асобным доме, на 1914 — 2-класнае вучылішча, 78 вучняў з 14 вёсак, было наладжана навучанне дзяўчынак рукадзеллю).

Ураджэнка Моладава Марыя Саковіч, член Рускага геагр. т-ва, выдала ў 1888 г. кнігу «Сяляне мястэчка Моталь і іх песні». Апошні ўладальнік маёнтка Генрых Скірмунт (1868—1939) быў вядомым кампазітарам і паэтам. У 1905—08 гг. пабудавана капліца (архітэктар Т.Раствароўскі), якая ўваходзіла ў сядзібна-палацавы ансамбль — помнік ар-



хітэктуры малых форм у стылі неакласіцызму (не захавалася). У 1905 г. ў сяле 1925 жыхароў, у маёнтку — 135, у в. Кучавы 475 жыхароў. 9.12.1905 г. каля 200 сялян запатрабавалі ад памешчыка Скірмунта вярнуць ім захопленыя ў час рэформы 1861 г. каля 50 дзес. ворнай зямлі, даць каля 169 дзес. пашы і 20—30 дзес. лесу, павялічыць заработную плату. Яны спынілі работу і напалі на маёнтак, разграмілі кватэры аканома і гал. вінакура. У сутычцы адзін сялянін быў забіты і некалькі паранены. Забастоўка была спынена пасля прыбыцця кобрынскага ўрадніка. У 1914 г. жыхароў — 3287 мужчын, 3192 жанчыны. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., потым польскімі войскамі. У 1919 і 1920 гг. на кароткі час мясцовасць была занята Чырвонай Арміяй. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Драгічынскім пав., Мотальскай гміне, у вёсцы 209 будынкаў, 991 жыхар, у фальварку 17 будынкаў, 118 жыхароў. У 1920-я г. ўваходзілі ў пералік самых «нядобранадзейных» населеных месц, тут існавалі ячэйкі райкома КПЗБ (сакратар Фадзей Каліноўскі) і райкома КСМЗБ. У 1920-я г. на лесапільні Генрыха Скірмунта працавалі 10 рабочых. У маёнтку памешчыку Г.Скірмунту (па іншых звестках — Канстанціну Скірмунту) у 1928 г. належалі 5462 га зямлі. Дзейнічала школа, у якой у 1934 г. навучаліся 260 вучняў. Старэйшы брат Генрыха Канстанцін Скірмунт (1866—1949) напісаў у 1939 г. «Мае ўспаміны», якія надрукаваны ў 1998 г.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., цэнтр Моладаўскага с/с. У былым маёнтку нацыяналізавана 5432 га зямлі. На 1940 г. — 174 двары, 1412 жыхароў, арганізаваны калгас «Ленінскі шлях» (з 25.4. 1940 калгас імя Молатава), які аб'яднаў 107 гаспадарак, працавалі няпоўная сярэдняя рус. школа, кааператыўны гандл. пункт, у б. маёнтку дзейнічала бальніца. У сельсавеце тады было 552 двары, з іх — 65 хутарскіх, 3554 жыхары, працавалі сметанковы з-д, 2 пач. і няпоўная сярэдняя школы, хата-чытальня, бальніца (20 ложкаў), амбулаторыя. У в. Кучавы налічвалася 128 двароў, 748 жыхароў, у 1940 г. быў арганізаваны калгас імя Сталіна, які аб'яднаў 124 гаспадаркі. Напярэдадні вайны ў Моладаве будаваўся палявы аэрадром, існавала камсамольская арг-цыя. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Тут размяшчаўся ням.-паліцэйскі гарнізон, была створана патрыят. падп. арг-цыя.

У перыяд акупацыі загінулі ў партызанах і падполлі 5 вяскоўцаў, акупанты загубілі ў вёсцы 28 мірных жыхароў, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 76 вяскоўцаў. На ўшанаванне памяці 142 аднавяскоўцаў у 1974 г. быў пастаўлены абеліск. Пры вызваленні вёскі ў 1944 г. загінулі 8 воінаў і пахаваны на яе тэрыторыі. Пасля вайны быў забіты антысавецкімі падп. групамі 1 жыхар. У 1946 г. ў вёсцы 1324 жыхары. На падмурку старой, якая згарэла ў час вайны, пабудавана новая школа ў 1946—47 гг. У 1950 г. вёска радыёфікавана і ў ёй пабудаваны клуб на 400 месцаў. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 1031 жыхар, у сельсавеце было аб'яднана 11 населеных пунктаў з 5248 жыхарамі. У двух карпусах,



*Капліца-пахавальня ў в. Моладава.*

пабудаваных у 1944 і 1958 гг., а таксама ў прыстасаваным у 1961 г. памяшканні дзейнічала школа (у 1961 — 8-гадовая, 385 вучняў; працавалі асобныя класы вячэрняй школы сельскай моладзі з 12 вучнямі).

У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 700, у сельсавеце 1342 жыхары. У 1975 г. ў Моладаве пабудавана школа на 640 месцаў, званне народнага атрымаў вакальны ансамбль Дома культуры «Беларусачка» (створаны ў 1974). У 1986 г. ўстаноўлены помнік на магіле Мікалая Базыліка, які загінуў у Афганістане. У 1980 г. з вёскай Моладава злілася в. Кучавы. У 1997 г. — 437 двароў, 1045 жыхароў. Пасля вызвалення ад ням.-фаш. акупантаў аднавілі сваю дзейнасць 27.8.1949 г. мясцовы калгас імя Молатава і 23.3.1949 г. калгас імя Сталіна ў в. Кучавы (да пачатку наступнага года ён аб'яднаў 24 гаспадаркі, 99 чал., з іх працаздольных — 63; у вёсцы ў той час 624 жыхары). 28.8.1950 г. яны аб'яднаны ў калгас імя Сталіна з цэнтрам у Моладаве, 19.6.1960 г. перайменаваны ў «Моладава». З 10.7.2003 г. пераўтвораны ў СВК «Моладава». На 1.1.2005 г. ў сельсавеце аб'яднаны 4 вёскі, у якіх з 723 гаспадаркі і 1398 жыхароў. Цагельны з-д, сярэдняя школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, муз. школа, аддз. сувязі, кафэ, 4 магазіны, дзейнічае царква. Радзіма бел. навукоўцаў П.І.Брыгадзіна, М.К.Лукашыка, самадзейнага мастака М.С.Налівайкі (н. ў 1949).

**МОТАЛЬ** — вёска, цэнтр Мотальскага с/с і СВК «Агра-Моталь», на р. Ясельда. За 21 км на Пн ад Іванава, 23 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 1739 гаспадарак, 4228 жыхароў (2005).

Паблізу вёскі ў 1962 г. выяўлены У.Ф.Ісаенкам 4 археал. стаянкі: 1-я (за 2,5 км на Пн) адносіцца да 4—3-га тыс. да н.э., 2-я (за 3 км на Пн) датуецца 9—5-м тыс. да н.э., 3-я (за 4 км на Пн) адносіцца да эпохі неаліту, у 4-й (за 3,5 км на ПнЗ) знойдзены прадметы нёманскай



*Вятрак у в. Моталь.*

культуры і ранняга жал. веку. Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з глыбокай старажытнасці. З вусных нар. паданняў і легенд вядома, што ў 13 ст. татары спалілі в. Моталь. Гэта месца доўгі час не засялялася людзьмі. Аб тым, што ў гэтай легендзе ёсць доля праўды, гавораць знаходкі бітага глінянага посуду, жаночыя ўпрыгожанні, галавешкі з былых пабудоў і інш. рэчы, якія адносяцца да 1-й пал. 13 ст.

Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 15 ст., згадваецца ў Літоўскай метрыцы ў 1442 г.: «За панам Даркам 14 чалавек у Мотал і». У 16 ст. знаходзілася ў складзе Пінскага пав. Трокскага ваяв. Да 1554 г. сяло, у якім жылі на цяглай службе каралеўскія сяляне разам з зямянскімі, потым мястэчка з двухгадовай ільготай ад павіннасцей. У той час у Моталі было 5 вуліц, дзейнічалі праваслаўная царква з 2 свяшчэннікамі, гарадскі войт. Па загадзе каралевы Боны пабудаваны палац, руіны якога захоўваліся да 20 ст. Прыслуга была прывезена з Італіі і з часам асімілявалася з мясц. насельніцтвам. У сярэдзіне 16 ст. мястэчка стала адным з цэнтраў рамёстваў



і гандлю, мела гандл. плошчу, 4 царквы, 7 вуліц, 178 сядзібных надзелаў. Паводле запісу рэвізіі 1555 г. аднесена да ліку гарадоў з самакіраваннем. У шматлікіх паданнях сцвярджаецца, што маталяне мелі каралеўскую грамату «на пергаменце», згодна з якой усе землі ў Моталі лічыліся іх уласнасцю, а самі жыхары былі падданымі караля і ў прыгонніцтва не перадаваліся. Гэтыя факты знаходзяць пацвярджэнне ў кнізе ўраджэнкі в. Моладава Марыі Саковіч «Сяляне мястэчка Моталь і іх песні» (1888), дзе адзначаецца, што да царствавання імператрыцы Кацярыны сяляне мястэчка карысталіся правамі мяшчанства, якія ім упершыню даравала каралева Бона. У 17 ст. мястэчка адносілася да Пінскага староства, у ім дзейнічалі царква (адзначаецца таксама і ў сярэдзіне 18 ст.) і касцёл. Адна з легенд сцвярджае, што ў 1706 г. ў час Паўночнай вайны 1700—21 гг. вялікі атрад шведаў спаліў мястэчка і знішчыў большасць жыхароў.

З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі, з 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Маталяне сталі дзярж. сялянамі, некалькі разоў выязджалі ў Пецярбург прасіць вызваліць іх ад падаткаў, але намаганні былі дарэмнымі. У 1798 г. ў Моталі налічваліся 3 шляхецкія двары, 110 яўр., 113 мяшчанскіх, 13 халопскіх. Усяго было праваслаўных 267 душ мужчынскіх і 307 жаночых, яўрэяў 18 душ мужчынскіх і 25 жаночых (масавае засяленне яўрэяў адбылося пазней), працавалі 2 вадзяныя млыны на Ясельдзе.

У ліп. 1841 — лютым 1842 гг. адбыўся напад жыхароў мяст. Моталь на палі маёнтка Заязерска (Заазер'е). Летам 1863 г. пажар знішчыў ледзь не палову Моталя. Пагарэльцам выдзелілі грашовую дапамогу, на якую ў 1887 г. пабудавалі царкву (захавалася). Паводле іншых звестак Праабражэнская царква пабудавана ў 1888 г. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча, з 1872 г. працавала ва ўласным памяшканні (на 1882 — 93 вучні, у 1914 — 72 вучні, мелася бібліятэка з 177 тамоў). На 1866 г. мястэчка ў Дружылавіцкай вол., валасное праўленне, царква, вучылішча. У 1871 г. — 274 двары, 2249 жыхароў. Памешчык маёнтка Заазер'е ў 1880-я г. пабудаваў у цэнтры мястэчка клуню (пазней часткова спалена сялянамі на вогнішчы). На 1885 г. мястэчка — цэнтр Мотальскай вол., 239 двароў, 2294 жыхары, валасное праўленне, 2 царквы праваслаўныя, малітоўны дом, школа, 13 крам, 7 піцейных дамоў, таржок. Для патрэб насельніцтва працавалі 2 булачнікі, 15 краўцоў, 23 сталяры, цагельнік (пячнік), 12 цесляроў, 3 кавалі. У 1890 г. ў Мотальскай вол. налічвалася 7017 дзес. сял. зямлі, у ёй былі аб'яднаны 7 паселішчаў, 459 сял. двароў, 3513 душ у наяўнасці, 186 несялянскіх двароў. У 1905 г. ў мястэчку 4852 жыхары; адбылася забастоўка з нагоды забароны сялянам лавіць рыбу ў мясц. возеры, якое арандавалі ў царквы заазерскі памешчык Югенсон і мясц. багацей па прозвішчу Калодны (была спынена паліцыяй). У 1914 г. 152 двары, жыхароў — 3926 мужчын (па іншых звестках 3126), 3836 жанчын. Сярод іх пісьменных 2818, дзяцей школьнага ўзросту — 429, з іх вучняў — 72. У 1914 г. існавала другое мотальскае вучылішча, якое не мела будынка, у ім навучаліся 69 вучняў. У воласці тады пражывалі 9273 жыхары, з іх праваслаўных — 7762, католікаў — 69, іншых — 1442. У 1915—18 гг. акупірава-



*Будынак Музея народнай творчасці ў в. Моталь.*





*Жанчыны ў традыцыйным народным адзенні (мотальскі строй).*

*Будынак Музея народнай творчасці ў в. Моталь.*

ны герм. , у 1919—20 гг. — польскімі войскамі; быў створаны польскі паліцэйскі пастарунак (участак). З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., цэнтр гміны Драгічынскага пав., у мястэчку 762 будынкі, 4390 жыхароў. У 1920-я г. ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» населеных месцаў, тут існавала ячэйка райкома КПЗБ (сакратар Пётр Мінюк арыштаваны ў 1927, потым Яхім Юхнік) і райком КСМЗБ. Мотальскі падп. райком аб'яднаў Мотальскую і Янаўскую гміны. У школе, якая дзейнічала ў 1934 г., навучаліся 748 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. З 1940 г. гар. пасёлак у Іванаўскім р-не Пінскай вобл., цэнтр Мотальскага с/с, 871 двор, 4275 жыхароў (па іншых звестках — 891 двор, 5550 жыхароў). Каля Моталя былі выяўлены залежы торфу. У сельсавеце ў той час налічвалася 4285 двароў, 873 жыхары, з іх беларусаў — 2252, яўрэяў — 947, апрацоўвалася 4295 га зямлі, працавалі паравы млын, з-д газавых вод, сметанковы і 2 гарбарныя з-ды, каўбасная майстэрня, 2 рыбныя арцелі (50 працаўнікоў), сельпо, 2 няпоўныя сярэднія школы, б-ка, клуб, амбулаторыя, пошта, тэлефон. Паводле нац. складу ў былой воласці (гміне) было 1959 беларусаў, 1 рускі, 11 397 украінцаў, 365 палякаў, 1388 яўрэяў. У Моталі працавалі пякарня, маторны млын (4 працаўнікі), бетонны з-д (7 працаўнікоў), гарбарня (4 працаўнікі), каап. малочнае прадпрыемства (4 працаўнікі). Дзейнічалі няпоўныя сярэднія яўр. і рус. школы, каап. гандлёвы пункт. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінулі 3 жыхары Моталя. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіў у рэйхскамісарыят «Украіна». З чэрв. 1941 г. да 1943 г. дзейнічала патрыят. падп. арг-цыя, якая налічвала больш за 60 членаў (сакратар І.М.Камілец). У канцы жн. 1941 г. падпольшчыкі разгрмілі Мотальскую гміну, у маі 1942 г. сарвалі адпраўку моладзі на катаржныя работы ў Германію. Пасля расстрэлу шэрагу актывістаў у 1942—43 гг. астатнія патрыёты стварылі ядро партыз. атрада імя Я.Г. Макарэвіча брыгады імя Я.М.Свярдлова. У памяць аб дзейнасці падпольшчыкаў на будынку дзіцячай б-кі ў 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Памочнік камісара партыз. атрада імя Я.Г. Макарэвіча брыгады імя Я.М.Свярдлова М.В.Колчан загінуў у 1944 г. ў баі з ворагам і пахаваны на могілках, дзе ў 1961 г. ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

З жн. 1941 г. Моталь стаў месцам расстрэлу мірных жыхароў пераважна яўрэйскай нацыянальнасці. За 1,5 км на У ад в. Асаўніцы ў 1941 г. было расстраляна каля 1400 чал., якія пахаваны ў 4 магілах, на адной з іх устаноўлены мемарыяльны знак. Таксама расстрэлы праходзілі па дарозе Моталь—Калілы ва ўрочышчы Гаі (0,5 км на Пд ад Моталя). Паводле прыблізных падлікаў акупантамі расстраляны ці пахаваны жывымі каля 3 тыс. мірных жыхароў. На яўр. могілках у Моталі выяўлена адна магіла на 50 чал., другая — 37, трэцяя — 37 чал. і шмат іншых. Згодна з даведкамі 2—







*Сярэдняя школа № 2 у в. Моталь.*

*Праабражэнская царква ў в. Моталь. 1888 г.*

3.8.1941 г. карнікі расстралялі прыблізна 2400—2800 чал. яўр. насельніцтва, з іх каля 1 тыс. чалавек прыбыло ў 1939—40 гг. з Польшчы. Астатнія былі маталяне. У час правядзення карнай аперацыі ў крас. 1944 г. гітлераўцамі знішчана 380 двароў, 3120 жыхароў. За гады вайны ў барацьбе з ворагам загінулі 29 партызан і падпольшчыкаў з жыхароў Моталя, забіты акупантамі 42 мірныя жыхары-беларусы, а таксама значная колькасць жыхароў яўр. нацыянальнасці. Пры вызваленні вёскі ў 1944 г. загінулі 5 сав. воінаў, якія пахаваны на яе тэрыторыі, згарэлі 383 дамы. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 190 жыхароў Моталя і вёсак Дзедавічы, Заазер'е, Панцавічы. У брацкай магіле сав. воінаў і партызан пахаваны 23 сав. воіны, у 1955 г. пастаўлены абеліск. Памяць 2185 загінуўшых у час вайны землякоў увекавечана абеліскам і 2 плітамі з іх імёнамі, якія пастаўлены ў 1975 г. Напярэдадні вайны налічвалася 1462 двары, 7960 жыхароў.

Пасля вызвалення ў 1946 г. — 3373 жыхары (да вайны — 4275), з 1944 г. працавалі дзіцячы дом, бальніца, 7-гадовая школа (з 1949/50 навуч. г. — сярэдняя, на 1961 — з вытв. навучаннем, 889 вучняў, працавала ў пабудаваным у 1957 будынку і ў прыстасаваным у 1927 памяшканнні). У 1961 г. дзейнічалі асобныя класы школы сельскай моладзі з 88 вучнямі. У пачатку 1950-х г. дзейнічалі радыёвузел, хата-чытальня, адкрыта ўчастковая бальніца, паштовае аддзяленне. У 1947—50 гг. ад рук ворагаў сав. улады загінулі савецкія актывісты С.А. Мацукевіч, А.А.Леановіч, С.С.Міховіч, на ўшанаванне іх памяці на будынку дзіцячай б-кі ўстаноўлена мемарыяльная дошка. З 8.1.1954 г. ў тым жа р-не Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. Дзедавіцкі с/с перайменаваны ў Мотальскі і яго цэнтрам стаў г.п. Моталь, адначасова перайменаваны ў вёску. Паводле перапісу 1959 г. сяло, 4682 жыхары. Мотальскі с/с тады аб'ядноўваў 4 населеныя пункты, у т.л. Дзедавічы, Заазер'е, Панцавічы (у 1978, 1980 гг. яны ўключаны ў склад Моталя) з 6041 жыхаром. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У 1969 г. ў сельсавеце 7293 жыхары. Паводле перапісу 1979 г. — 5264, у сельсавеце 6962 жыхары. У 1986 г. ў сельсавет перaселены жыхары з мясцін, забруджаных пасля чарнобыльскай трагедыі. На 1997 г. у Моталі 1798 двароў, 4684 жыхары.

У 1949 г. ў Моталі былі створаны два калгасы: імя Кагановіча (у 1950 — 266 гаспадарак) і «17 Верасня» (на 1950 — 227 гаспадарак, у ім таксама працавалі жыхары навакольных хутароў Гусака, Чапыгін, Бутрыманаў). 26.8.1950 г. калгасы былі аб'яднаны ў адзін імя Кагановіча, 16.7.1954 г. ён значна ўзбуйнены і 26.6.1957 г. быў перайменаваны ў «40 гадоў Кастрычніка», 10.7.2003 г. ператтвораны ў СВК «Агра-Моталь». На 1.1. 2005 г. у сельсавеце аб'яднаны 2 населеныя пункты з 2292 гаспадаркамі і 5653 жыхарамі. Станцыя тэхн. абслугоўвання, пякарня, камбінат мастацкіх вырабаў, камбінат каап. прам-сці, бойня, каўбасны цэх, 2 сярэднія школы, вучэбна-

вытв. камбінат, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, ветучастак, Дом культуры, 2 б-кі, школа мастацтваў, музей нар. творчасці, аддзяленне сувязі, 3 кафэ, 10 магазінаў, дзейнічаюць праваслаўная царква і малітоўны дом. Вядомы мотальскі строй — традыцыйны комплекс бел. народнага адзення ў Зах. Палессі, які бытаваў у 19 – 1-й палове 20 ст., а таксама мотальскія кажухі — зімовае нар. адзенне і мотальскія ручнікі (вядомы з канца 18 ст., у 1977 у в. Моталь створаны ткацкі цэх Пінскай ф-кі мастацкіх вырабаў). У 1995 г. тут адкрыты музей нар. творчасці (22 тыс. экспанатаў, разгорнута 8 экспазіцый).

У 1989 г. атрымаў званне народнага фальклорна-этнаграфічны тэатр «Мотальскія суседзі» (створаны ў 1985), у 1995 г. званне народнага прысуджана ансамблю нар. песні «Мужыкі» (створаны ў 1992) і лялечнаму тэатру «Папугай» (працуе з 1989). Радзіма першага прэзідэнта Ізраіля Хаіма Вейцмана, Героя Сацыяліст. Працы П.С.Палто, бел. навукоўца А.М.Мінюка. Пра Моталь выдадзена кніга П.Стасевіча (н. ў Моталі ў 1948) «Вёска над Ясельдай» (Мн., 1991).

**НАВАЛУЧКІ** — вёска ў Ляскавіцкім с/с. За 11 км на ПнУ ад Іванава, 13 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 45 гаспадарак, 86 жыхароў (2005).

Вядомы паводле інвентару 1845 г. ў маёнтку Навашыцы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., вёска належала памешчыку Віктару Ордзе, у ёй мелася 89 рэвізскіх душ, з іх працаўнікоў — 61, 165 моргаў ворнай зямлі, 33 сенакоснай. Паводле рэвізіі 1848 г. адзначаюцца 11 дваровых, 40 мужчынскіх душ, 49 жаночых, сярод пабудоў драўляны дом памешчыка, хлеў, канюшня, амбар, прачкарня, ляднік, 3 хлявы, млын, карчма, вінакурня. У 1866 г. ва ўладанні Вітольда Орды ў Асаўніцкай воласці. У 1886 г. для патрэб насельніцтва працаваў цясляр, у 1905 г. ў вёсцы 275 жыхароў, у 1907 г. меў месца самавольны выган жывёлы сялянамі вёсак Застружжа, Баравая, Навалучкі на пашы Навашыц памешчыка Орды.

У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. У 1920-я г. ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, існавалі ячэйкі райкомаў КПЗБ і КСМЗБ. У 1930-я г. працавала школа, у якой у 1934 г. навучаліся 59 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Застружскім с/с. У ёй 74 двары, 360 жыхароў (па іншых звестках — 51 двор, 151 жыхар), працавалі пач. рус. школа, каап. гандлёвы пункт. У сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. загінуў 1 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі 19 жыхароў вёскі. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобласці. У 1954 г. з Застружскага с/с перададзена ў Ляскавіцкі. Паводле перапісу 1959 г. 307 жыхароў, у 1960 г. пабудавана школа (на 1961 — пачатковая, 34 вучні). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 177 жыхароў, у 1997 г. — 52 двары, 112 жыхароў. Пасля вызвалення з 24.11.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Заслонава, які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Сталінскі шлях» з цэнтрам у в. Ляхавічы, 17.1.1959 г. ўвайшоў у калгас «Шлях Леніна» з цэнтрам у в. Агова, пасля 1960 г. цэнтрам калгаса стала в. Ляхавічы, на 2006 г. ва ўгоддзях СВК «Ляхавічы». Магазін.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Дастоеўскім с/с. За 24 км на ПнУ ад Іванава, 26 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

Паводле гіст. крыніц вядомы з 1870 г. як вёска ў Парэцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Сяляне вёскі адносіліся да маёнтка Атолчыцы, які належаў Араноўскай. 16 рэвізскіх душ вёскі былі аб'яднаны ў Атолчыцкае сельскае т-ва. Па-



водле перапісу 1894 г. вёска і пасёлак. У вёсцы 13 двароў, 77 жыхароў, у пасёлку 2 двары, 12 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Пінскім пав., Парэцкай гміне, у вёсцы 21 будынак, 110 жыхароў. У 1929 г. — 120 жыхароў. У прыстасаваным у 1930 г. будынку дзейнічала школа. З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Кротаўскім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 28 двароў, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 5 жыхароў вёскі.

З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобласці. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не, 9.3.1959 г. далучана да Дастоеўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 201 жыхар, працавала пач. школа (на 1961 — 41 вучань). З 25.12.1962 г. ў Драгічынскім, з 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1979 г. 96 жыхароў, у 1997 г. — 22 двары, 38 жыхароў. З 12.8.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Парыжская камуна», які 2.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» з цэнтрам у в. Кротава, 27.11.1957 г. перайменаваны ў калгас імя Суворава, які 31.3.1958 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» з цэнтрам у в. Дастоева, 31.1.1961 г. разбуйнены. З гэтага часу жыхары вёскі працавалі ў калгасе «Світанне» (цэнтр — в. Кротава). З 25.12.1962 г. ў калгасе «Савецкі». Магазін.

**НАВІНКА** — вёска ў Опальскім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Іванава, 35 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005).

Вядомы як хутар у Глінненскім с/с. Пасёлак торфапрадпрыемства «Гурскі мох» перайменаваны ў в. Навінка Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. З гэтага часу вяскоўцы працавалі ў калгасе «Перамога» з цэнтрам у в. Опаль. На 1997 г. — 6 двароў, 15 жыхароў. У 1950 г. ў калгасе імя Варашылава, потым 21.5.1951 г. ўвайшлі ў склад узбуйненага калгаса імя Варашылава з цэнтрам у в. Глінна, 5.12.1961 г. быў перайменаваны ў «Прагрэс». Пасля яго рэарганізацыі 2.1.1986 г. жыхары вёскі былі далучаны да калгаса «Праца» Гарбахскага с/с.

**НОВЫЯ КЛЁНКІ** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 7 км на З ад Іванава, 5 км ад чыг. ст. Снітава. 45 гаспадарак, 95 жыхароў (2005).

Верагодна, узніклі з пасёлка, які вядомы ў пач. 20 ст. пры в. Клёнкі, а яшчэ раней лічылася фальваркам Клёнкі. У 1905 г. паселішча Іванаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 22 жыхары. Сучасную назву вёска атрымала, калі з 1921 г. ўваходзіла ў склад Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага павета Палескага ваяв. У в. Новыя Клёнкі 29 будынкаў, 133 жыхары. У 1934 г. ў вёсцы Клёнкі працавала школа, у якой 80 вучняў. З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Стрэльненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 73 двары, 318 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 30 мірных жыхароў вёскі. З 1949 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую, з 1956 г. працавала ў новым будынку (на 1961 — 52 вучні). З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. 141 жыхар. У 1997 г. — 57 двароў, 104 жыхары. З 5.4.1948 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Шлях да камунізму», які аб'яднаў у 1950 г. 37 гаспадарак, узбуйнены 23.9.1950 г., у 1962 г. ўвайшоў у калгас «Іскра» (цэнтрам стала в. Сачыўкі), які ў 1963 г. быў перайменаваны ў калгас «Дружба», 20.6. 2003 г. пераўтвораны ў СВК «Бакунава».

**НАКЛА** — былая вёска ў Снітаўскім с/с, увайшла ў межы Іванава.

У 1-й палове 19 ст. ўваходзіла ў склад маёнтка Магільна ў Кобрынскім пав.,



*Параскева-Пятніцкая царква ў в. Опаль. 1794 г.*



*Опальскія сажалкі.*

які належаў прадстаўніку Пінскага межавога апеляцыйнага суда Івану Дмахоўскаму. Цяглых сялянскіх сем'яў, якія мелі поўны надзел зямлі і неслі ўсе павіннасці, у в. Накла ў 1861 г. налічвалася 10. На 1861 г. таксама памешчыку Каржанеўскаму належалі 16 двароў. На 1866 г. у Янаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 168 жыхароў. У 1905 г. ў Іванаўскай вол., 231 жыхар. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Магільнаўскім (Магільнянскім) с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 44 двары, 168 жыхароў. Каля Іванава, вёсак Магільна і Накла былі выяўлены залежы торфу. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 8 жыхароў. З 19.12.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Вышынскага, які 6.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Маладая гвардыя» з цэнтрам у в. Магільна, 21.3.1977 г. пасля яго ўзбуйнення цэнтрам стала в. Снітава. Калгасная брыгада вёскі 22.10.1982 г. была перададзена калгасу «Шлях да камунізму» Стрэльненскага с/с. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў Магільнаўскім с/с, 233 жыхары.

**ОПАЛЬ** — вёска, цэнтр Опальскага с/с. За 28 км на ПнЗ ад Іванава, 30 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 327 гаспадарак, 742 жыхары (2005).

Непадалёку ад вёскі ў 1963 і 1971 гг. У.Ф.Ісаенкам былі выяўлены дзве археал. стаянкі. Стаянка 1 (за 1,5 км на ПнЗ) належыць да свідэрскай культуры і датуецца 9—6-м тыс. да н.э. Стаянка 2 і крамянёвая майстэрня (за 1,5 км на У ад вёскі) адносяцца да макралітычнай культуры (7—6-е тыс. да н.э.). Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах узгадваецца ў 1495 г. ў сувязі з вызначэннем межаў. Паводле прывілеяў княгіні Марыі тады маёнтак Опаль належаў Фуксу Іванавічу, ад якога перайшоў ва ўладанне Венядзікту Фуксу і яго нашчадкам. У 1521 г. ў опальскае уладанне (крыніцу) уваходзілі 12 двароў і некалькі жэрабяў, якія належалі розным уладальнікам (Дрэмлікавы, Святошы, Сапегі, Копаці), але значная частка крыніцы належала ў 1530 г. Міхалу Копаць (Копец). Пасля замужжа яго дачкі Раіны маёнтак пераходзіць да Івана Падубінскага, але хутка зноў вяртаецца да роду Копацей. У 1555 г. ўладальнікамі былі Фёдар, Іван і Васіль Копаці. Опаль адносіўся да Пінскага пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, потым быў ў складзе Пінскага пав. Трокскага ваяв. У сярэдзіне 1550-х г. уваходзіў у склад Дружылаўскага двара, тады гаспадарам яго былі раздадзены 24/16/22 валокі зямлі. У 1567 г. Фёдар Копаць за 3 тыс. коп грошаў прадаў сваю частку старосце браслаўскаму Юрыю Осміку. У 1736 г. гаспадыняй маёнтка была Францішка Залуская з роду Копацей, потым Ігнат і Магдалена Серакоўскія. У 1-й пал. 18 ст. Опаль належаў кн. Міхалу Сервацы Вішнявецкаму (1680—1744), канцлеру



вялікаму літоўскаму. Пры яго жыцці пабудаваны цагляны замак, які служыў летняй рэзідэнцыяй (згарэў у пач. 19 ст.), заснаваны парк. У 2-й палове 18 ст. пабудавана царква Параскевы Пятніцы, прыклад выкарыстання форм мураванай архітэктуры барока ў драўляным дойлідстве (захавалася). Пасля Вішнявецкага ўладальнікамі Опаля былі ваявода трокскі Юзаф Тадевуш Агінскі, у 1780—90 гг. Баржэнцкія (з роду Пулко), ад якіх перайшло ў спадчыну Каралю Баржэнцкаму.

З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай (з 1797 у Літоўскай) губ. З 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1807 г. значыцца як в. Вялікі Опаль, у маёнтак таксама ўваходзіла в. Ладоўцы (Ладовіча), сярод будынкаў уладальнікаў — жылы дом, каморка, склеп, пякарня, бровар, ляднік. Паводле рэвізіі 1816 г., калі маёнтак і вёска належалі памешчыку Карлу (Каралю) Міхайлавічу Баржніцкаму (Баржэнцкаму), у вёсцы былі 534 душы мужчынскага полу, вольных людзей — 2. Паводле інвентароў 1845—48 гг. у маёнтку Опаль 513 рэвізскіх душ, 168 двароў (сямей). Па ўсім паселішчы Опаль (у маёнтак таксама ўваходзіла в. Лядавічы) рэвізскіх душ 1223 (у наяўнасці 708), з іх працаўнікоў 562. Сярод іх праваслаўных 1197 чал., католікаў — 23. Дачка Караля Тэрэза ў сярэдзіне 19 ст. выйшла замуж за магната Казіміра Ігнація Яленскага. Пасля яго смерці спадчына перайшла да яго адзінага сына Юзафа (1868—1922). Па іншых звестках — сыну Іосіфу Сігізмунду.

Пасля пажару ад маёнтка засталіся толькі 2 флігелі, адзін з якіх быў перабсталяваны пад жылы дом, дзе жылі Баржэнцкія, а потым Яленскія. У дарэформенны перыяд у маёнтку, калі ён належаў памешчыцы Яленскай, засн. вінакурны з-д, на ім працавалі 7 чал. (выпрацоўвалі 12 348 вёдзер спірту ў год). Завод размяшчаўся ў двухпавярховым будынку з каменнай пабудовай, меліся паравая машына, 2 вадзяныя рухавікі, апарат сістэмы «Галя», халадзільнік, печ, лакаматыў, горан, 20 чаноў і 2 кубы. 4.7.1861 г. ў вёсцы адбыліся сял. хваляванні, некалькі зачыншчыкаў былі пакараны розгамі. На 1866 г. вёска — цэнтр Опальскай вол., 127 двароў, для патрэб насельніцтва працавалі 4 цесляры, шавец, кравец, пячнік (муляр), каваль. У 1878 г. заснаваны цагельны з-д, на якім выраблялася 96 тыс. шт. цэглы ў год. На 1882 г. існавала штатнае нар. вучылішча з 56 вучнямі. У 1914 г. вучылішча ўжо ахоплівала 3 вёскі, але не мела асобнага будынка, у ім навучаліся 33 вучні. На 1885 г. Опаль — сяло, цэнтр Опальскай вол., разам з Лядавічамі 115 двароў, 1582 жыхары, валаснoе праўленне, 2 царквы праваслаўныя, школа, 2 піцейныя дамы. У сядзібе Опаль дзейнічаў вінакурны з-д у дзвюх вёсках, у в. Козел працаваў цагельны з-д. У 1905 г. ў Бездзежскай вол. У вёсцы 976 жыхароў, у маёнтку — 130.

У ліст. 1905 г. сяляне вёсак Опаль і Лядавічы (больш за 200 чал.) аб'явілі забастоўку і не выйшлі на працу, вялі барацьбу за ліквідацыю сервітутных правоў памешчыка К.І.Яленскага (спрэчка за сенакосныя пашы пачалася ў 1873, працягвалася ў 1881). У маёнтак былі ўведзены войскі, некалькі сялян вёсак былі расстраляны пасля нападу на сядзібу памешчыка. У 1914 г. 2369 жыхароў



*Курган Памяці ў в. Опаль.*



*Магіла ахвяр фашызму ў в. Опаль.*

(1156 мужчын, 1213 жанчыны), у маёнтку Опаль 3500 га зямлі. Апошнімі ўладальнікамі Опаля ў 19 ст. былі Залескія герба Любіч.

У пачатку 20 ст. Опальскі двор лічыўся вял. гаспадарчым комплексам, у які ўваходзілі фальварачныя будынкі — дом эканамічны, млын, валоўня, бровар з саладоўняй, сельскі магазін, ляднік, лямус, пякарня, гумны, аборы. У сядзібе захаваліся агароды (сады), адзін з якіх наз. «пасекай», працавала карчма. На месцы б. «замка» ўсталявана скульптура Маці Божай. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., у 1919—20 гг. польскімі войскамі. У час вайны сядзіба разрабавана, згарэла ў час 2-й сусветнай вайны. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У маёнтку Опаль памешчыку Казіміру Яленскаму ў 1928 г. належалі 4559 га зямлі. У 1931 г. частку Опаля набыў Каленік Калянковіч. У 1925—34 гг. былі выкапаны 8 вадаёмаў (сажалак). У 1939 г. ў маёнтку 2500 га зямлі.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска і былы маёнтак у Іванаўскім р-не Пінскай вобл., цэнтр Опальскага с/с, 236 двароў, 1298 жыхароў. На вінакурным з-дзе ў былым маёнтку працавалі 6 чал., якія выраблялі 20 000 л спірту ў сезон (запасы напярэдадні вайны 48 000 л), дзейнічала рыбная гаспадарка. У сельсавеце было 510 двароў, 2076 жыхароў, дзейнічала няпоўная сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У вёсцы размяшчаўся ням.-паліцэйскі гарнізон. У вайну загінулі ад рук акупантаў 14 мірных жыхароў вёскі, у партызанах — 1 вясковец. На магіле 18 мірных сав. грамадзян, расстраляных акупантамі за 0,2 км ад вёскі, у 1956 г. пастаўлены абеліск. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 53 жыхары. На ўшанаванне памяці 141 земляка — воінаў і партызан, якія загінулі ў гады вайны, насыпаны ў 1967 г. курган Памяці. На вяршыні яго ўзведзены абеліск (рэканструяваны ў 1992). Пасля вызвалення забіты антысав. падпольнымі групамі 5 жыхароў. У час Вял. Айч. вайны ў сельсавеце (па дадзеных 1969) знішчаны 263 двары, 41 жыхар, у Германію ўгнаны 6 жыхароў, з іх 4 вярнуліся, на франтах загінулі 98 чал., у партыз. атрадах і падполлі — 5 чал.

У 1946 г. ў вёсцы 1186 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 1254 жыхары, у сельсавеце былі аб'яднаны 3 населеныя пункты з 2686 жыхарамі. У 1956 г. працавала паштовае аддз., у прыстасаваным у 1928 г. будынку дзейнічала школа (на 1961 — пач., 101 вучань). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У 1969 г. ў сельсавеце 2743 жыхары. Паводле перапісу 1979 г. — 1149 жыхароў, у сельсавеце 2503 жыхары. На 1997 г. — 355 двароў, 836 жыхароў.

З 1.1.1949 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе «Радзіма», які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «1 Мая», вёска засталася яго цэнтрам, з 25.3.1963 г. вядомы пад назвай «Перамога». У 1953 г. ў сельсавеце налічваліся 3 гаспадаркі сялян-аднаасобнікаў. Сярэдняя школа,



дзіцячы сад, сельская ўрачэбная амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, 3 магазіны, кафэ, комплексны прыёмны пункт камбіната быт. абслугоўвання, дзейнічае царква. У 1997 г. званне народнага атрымаў фальклорны ансамбль «Панёвы» Дома культуры (створаны ў 1991). Радзіма бел. дзярж. дзеяча П.У.Шыпука.

**ОЎЗІЧЫ** — вёска ў Гарбахскім с/с. За 23 км на ПдЗ ад Іванава, за 17 км ад чыг. ст. Снітава. 96 гаспадарак, 184 жыхары (2005).

Згодна з рэвізіяй 1816 г. вёска Оўзычэ вядома ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., належала памешчыку Феліксу Аржэшку, у ёй былі 123 душы мужчынскага полу. Жыхары вёскі прымалі ўдзел у паўстанні 1863 г.: тут знаходзіўся гал. склад ваеннага рыштунку паўстанцаў атрада Р.Нарбута. На 1866 г. 236 жыхароў вёскі ўваходзілі ў Оўзіцкае сельскае т-ва, а вёска — ва ўладанні памешчыка Браніслава Аржэшкі. У 1905 г. ў Асавецкай вол.; у вёсцы 536 жыхароў, у маёнтку — 14, плаціна, на якой жылі 18 чалавек. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., потым польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. У вёсцы было 38 будынкаў, 180 жыхароў, у фальварку 4 будынкі, 55 жыхароў. У 1920-я г. вёска ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, тут існавалі ячэйка райкома КПЗБ (сакратары — Шыла Якаў, Насульчык Мікалай, Насульчык Мацвей) і райком КСМЗБ. Таксама Янаўскі (б. Лясны) райком КПЗБ размяшчаўся ў вёсцы і быў разгромлены ў маі 1927 г.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Гарбахскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл. 137 двароў, 552 жыхары. 1.7.1940 г. быў арганізаваны калгас «Серп і молат», працавала пач. руская школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». За гады вайны спалены (разам з хутарамі) 146 будынкаў, у тым ліку 62 жылыя, 84 гаспадарчыя. 31.1.1943 г. захопнікі знішчылі 60 жыхароў вёскі — жанчын, дзяцей, старых. На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1972 г. на будынку фельч.-акушэрскага пункта ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У часы вайны загінулі ці прапалі без вестак 5 партызан і падпольшчыкаў і 58 жыхароў вёскі — ахвяр тэрору, на франтах у 1939—45 гг. — 23 жыхары. У 1985 г. пастаўлены помнік у выглядзе штыка 64 загінуўшым землякам. Пасля вызвалення быў забіты антысавецкімі падп. групамі 1 жыхар. У 1951 г. дзейнічала хата-чытальня. З 3.8.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 538 жыхароў, у 1961 г. ўзведзены будынак школы (у той час 7-гадовая, 96 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 411 жыхароў, у 1997 г. 107 двароў, 245 жыхароў. 22.8.1949 г. аднавіў сваю дзейнасць калгас «Серп і молат», у якім таксама працавалі жыхары хутара Уласенка і в. Смольнікі. 28.1.1959 г. калгас увайшоў у склад калгаса «Зара» з цэнтрам у вёсцы Гарбаха і 15.2.1963 г. быў перайменаваны ў калгас «Праца». На 2005 г. ва ўгоддзях СВК «Гарбаха-агра». Базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Радзіма Героя Сав. Саюза М.Д.Шылы (1920—98).

**ПАДЫШЧА** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 31 км на Пд ад Іванава, 25 км ад цэнтра сельсавета, за 29 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 102 гаспадаркі, 218 жыхароў (2005).

На 1924 г. вядома калонія Падышча ў Адрыжынскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, тут 37 будынкаў, 118 жыхароў. З 1939 г. — у БССР. У 1940 г. — 37 жыхароў, арганізаваны каап. гандлёвы пункт. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 2 жыхары вёскі — ахвяры тэрору, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 12 жыхароў. Пасля вайны адносілася да Адрыжынскага с/с Іванаўскага р-на Пінскай,

з 1954 г. — Брэсцкай абл. Паводле перапісу 1959 г. хутар у Адрыжынскім с/с, 170 жыхароў. У 3 прыватных будынках, прыстасаваных у 1918, 1939 і 1947 гг., і адным асобным памяшканні, прыстасаваным у 1957 г., дзейнічала школа (у 1961 — 7-гадовая, 119 вучняў). Вёска Сухі Бор зліласся з в. Падышча. Паводле перапісу 1979 г. 372 жыхары, у 1997 г. — 118 двароў, 265 жыхароў. З 1.8.1950 г. вяскоўцы разам з жыхарамі навакольных хутароў Сухі Бор, Майдан, урочышча Віўнева і в. Ападышча працавалі ў калгасе імя Хрушчова, які 28.1.1952 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Калініна (з цэнтрам у в. Адрыжын), 18.2.1963 г. перайменаванага ў «Кастрычнік», з 3.6. 2003 СВК «Кастрычнік-агра». Пачатковая школа, магазін.

**ПАНЦАВІЧЫ** — былая вёска, увайшла ў межы Моталя.

Паводле ўстаўной граматы на маёнтак Панцавічы Асаўніцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., складзенай 18.3.1863 г., ён належаў памешчыку Максіму (Максіміліяну) Колбе. Паводле перапісу значыцца мужчын — 64, жанчын — 82. У 1886 г. для патрэб насельніцтва працавалі 2 цесляры. У 1905 г. ў вёсцы — 260, у маёнтку 8 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Палескага ваяв. Польшчы. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. ў Дзедавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 55 двароў, 330 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобласці, 16.7.1954 г. Дзедавіцкі с/с перайменаваны ў Мотальскі з цэнтрам у в. Моталь. Паводле перапісу 1959 г. 293 жыхары. З 25.12.1959 г. ў Драгічынскім, з 6.1.1965 у Іванаўскім р-нах. Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 21.7.1980 г. далучана да в. Моталь. У 1950 г. сяляне вёсак Верамееўцы і Панцавічы аб'ядналіся ў калгас імя Кірава (53 гаспадаркі). Па іншых звестках, разам з жыхарамі в. Заазер'е вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Будзённага (створаны 22.8.1949), 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Кагановіча з цэнтрам у г.п. Моталь, які 26.6.1957 г. быў перайменаваны ў «40 гадоў Кастрычніка».

**ПАНЦАЎЦЫ** — былая вёска, увайшла ў межы в. Сычава.

Згадваецца ў 1866 г. ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Бездзежскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 27 двароў, 153 жыхары. З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Стрэльненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 40 двароў, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі ці прапалі без вестак 7 вяскоўцаў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 408 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. — 374 жыхары. З 28.3.1950 г. вёска ў калгасе імя Кірава (да 7.10.1950 цэнтр калгаса), з 1959 г. ў калгасе «Шлях да камунізму», з 1962 г. ў калгасе «Іскра» (з 1963 — «Дружба»). Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 21.7.1980 г. ўключана ў склад в. Сычэва.

**ПАТАПАВІЧЫ** — вёска ў Бродніцкім с/с і СВК «Зара-агра». За 20 км на ПдУ ад Іванава, 15 км ад цэнтра сельсавета, 13 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 188 гаспадарак, 446 жыхароў (2005).

Паводле гіст. крыніц вядомы з 1554 г. У канцы 16 ст. належалі да Пінскага пав. Трокскага ваяв. ВКЛ і былі ўласнасцю праваслаўнай царквы. З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. Паводле спіса 1870 г. вёска — казённая маёмасць у Бродніцкай воласці 19 былых дзярж. сялян уваходзілі ў Сухаўскае сельскае т-ва. Частка вёскі таксама адносілася да Махрэнскай вол., яе 54 сяляне-гаспадары былі аб'яднаны ў Патапавіцкае сельскае т-ва. На 1885 г. сяло ў Дубайскай вол. пры Піне, у якім было 28 двароў, 322 жыхары, дзейнічала праваслаўная царква. У 1909 г. вёска ў Бродніцкай вол.,

695 жыхароў, 100 двароў. У 1915–18 гг. акупіравана герм., у 1919–20 гг. – польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Пінскім пав., Бродніцкай гміне, у вёсцы 118 будынкаў, 568 жыхароў, з іх 567 праваслаўныя беларусы, 1 яўрэй. У 1929 г. – 547 жыхароў, у 1935 г. – 520, у 1938 г. – 146 двароў, 794 жыхары.

З 1939 г. – у БССР. На 1940 г. сяло ў Яечкавіцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 173 двары, 864 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941–44 гг. акупіравана ням. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час правядзення карнай аперацыі ў ліп. 1944 г. ў сяле знішчаны 164 двары, 5 жыхароў. У вайну загінулі 2 партызаны-падпольшчыкі, 4 мірныя жыхары вёскі, на франтах у 1939–45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 28 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. 16.7.1954 г. вёска перададзена ў Бродніцкі с/с. З 14.10. 1957 г. ў Іванаўскім, з 25.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 681 жыхар, у пабудаваным у 1959 г. будынку дзейнічала школа (у 1961 – 7-гадовая, 154 вучні). Паводле перапісу 1979 г. – 635 жыхароў, у 1997 г. – 213 двароў, 490 жыхароў. З 25.9.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Беларускі партызан», які 9.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Зара камунізму», і цэнтрам калгаса стала в. Яечкавічы. Указам Прэзідыума Вярх. Савета СССР за поспехі ў 1981 г. калгас быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, з 28.2.2003 г. СВК «Зара-агра». Лясніцтва, базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны.

**ПЕРАРУБ** – вёска ў Рудскім с/с, СВП «Баравіца». За 18 км на ПдУ ад Іванава, 9,5 км ад цэнтра сельсавета, 16 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 76 гаспадарак, 157 жыхароў (2005).

Паводле спіса 1870 г. вёска вядома ў Махрэнскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Кружалічын (Кружэлічын), які належаў Пуслоўскаму. У вёсцы налічвалася 50 сялян-гаспадароў, якія ўваходзілі ў Канатопскае сельскае т-ва. У 1909 г. ў Бродніцкай вол., 327 жыхароў, 46 двароў. У 1915–18 гг. акупіравана герм., у 1919–20 гг. – польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Пінскім пав., Бродніцкай гміне, у вёсцы 44 будынкі, 232 жыхары, з іх 229 праваслаўныя беларусы. У 1929 г. – 228, у 1935 г. – 263 жыхары. У 1938 г. – 55 двароў, 323 жыхары.

З 1939 г. – у БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Рудскім с/с, 69 двароў, 360 жыхароў. У час вайны загінулі 2 жыхары вёскі – ахвяры тэрору, на франтах у 1939–45 гг. 7 жыхароў. Пасля вызвалення быў забіты антысавецкімі падп. групамі 1 чалавек. У 1946–47 гг. дзейнічалі 7-гадовая школа, у 1949 г. гідравузел. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 414 жыхароў, у прыстасаваным у 1935 г. будынку працавала школа (на 1961 – пачатковая, 62 вучні). З 25.12.1962 г. – у Драгічынскім, з 6.1.1965 г. ў Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1979 г. – 165 жыхароў, у 1997 г. – 93 двары, 197 жыхароў. З 27.7.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Чкалава, які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» з цэнтрам у в. Франопаль, потым 18.1.1959 г., пасля ўзбуйнення, у калгасе «Светлы шлях» з цэнтрам у в. Рудск, з пачатку 21 ст. далучаны да СВП «Баравіца» з цэнтрам у в. Яечкавічы. Базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы І.А.Паліўкі (1926–75).

**ПОЛКАЦІЧЫ** – вёска ў Дастоеўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Іванава, 28 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 113 гаспадарак, 274 жыхары (2005).

Гістарычны лёс суседніх вёсак Закуццё, Скарацічы і Полкацічы, якія складаюць цяпер адзіны населены пункт, узае-

мазвязаны. Полкацічы вядомы з 1507 г. У 1506 г. баярын Даніла Іртышч (Ірцішчавіч) ад кн. Фёдара Яраславіча атрымаў грамату на ўладанне вёскамі Дастоева, Полкацічы, паміж рэкамі Піна і Ясельда. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1646 г. Полкацічы належалі Цярлецкай, якая па кантракце здала іх у арэнду на 4 гады Натану Лейзеровічу і Давіду Якубовічу.

З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г., а таксама і в. Скарцічы (Скарацічы, Скурацічы) у складзе Пінскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Палкацічы ў Парэцкай вол., побач маёнтак Полкацічы, які належаў Скірмунту. Жыхары вёсак наведвалі Ахоўскую праваслаўную царкву. Памешчыку Яўгену Скірмунту ў 1889 г. належалі 1044 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1894 г. ў вёсцы 34 двары, 271 жыхар, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Побач з вёскай — пасёлак на зямлі Скірмунта з 3 дварамі і 15 жыхарамі і сядзіба Яўгена Скірмунта з сажалкай, 3 дварамі і 32 жыхарамі. У суседняй в. Скарцічы было 14 двароў, 106 жыхароў, у в. Закуццё і сядзібе, якія належалі Іосіфу Дахтаровічу, жылі 15 чал. у двух дварах. У 1909 г. ў вёсцы 393 жыхары, 52 двары, у маёнтку 5 жыхароў, 1 двор. У часы 1-й сусветнай вайны да ліп. 1920 г. Парэцкая вол. была перададзена Гродзенскай губ. У 1915—18 гг. акупіравана герм., потым польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. вёска ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У вёсцы было 50 будынкаў, 294 жыхары. У фальварку 4 будынкі, 23 жыхары. У 1929 г. — 445 жыхароў, у в. Закуццё — 59 жыхароў, у в. Скарцічы ў той час было 236 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Кротаўскім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 63 двары, 278 жыхароў; у в. Закуцце 17 двароў, 100 жыхароў; у в. Скарцічы 39 двароў, 208 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 7 жыхароў — ахвяры фаш. тэрору, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 11 жыхароў в. Полкацічы. На ўшанаванне памяці 55 жыхароў вёсак Атолчыцы, Вілы, Каралін, Навасёлкі, Полкацічы, якія загінулі ў гады вайны, у 1974 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск.

З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім р-не, 9.3.1959 г. далучана да Дастоеўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 297 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 21.7.1980 г. вёскі Закуцце і Скарцічы зліліся з в. Полкацічы. У 1997 г. — 138 двароў, 384 жыхары. З 24.7.1949 г. сяляне вёскі працавалі ў створаным калгасе «Рассвет камуны», жыхары в. Закуцце з 2.8.1949 г. ў калгасе «Радзіма», Скарацічы з 19.8.1949 г. ў калгасе імя Горкага (паводле перапісу 1959 144 жыхары). 2.9.1950 г. калгасы былі аб'яднаны ў адзіны калгас з цэнтрам ў в. Скарацічы, 27.11.1957 г. ён перайменаваны ў калгас імя Чапаева і 31.3.1958 г. ўвайшоў у склад калгаса «Чырвоная звязда» з цэнтрам у в. Дастоева. Пасля разузбуйнення 31.1.1961 г. жыхары вёсак працавалі ў калгасе «Світанне» (цэнтр — в. Кротава). Потым вёска была цэнтрам калгаса «Савецкі», у 2003 г. вяскоўцы далучаны да СВК «Агра-Моталь» з цэнтрам у Моталі. Базавая школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддзяленне сувязі. Помнік землякам.

**ПСЫШЧАВА** — вёска, цэнтр Псышчаўскага с/с і СВК «Прыясельны». За 18 км на ПнЗ ад Іванава, 20 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 240 гаспадарак, 588 жыхароў (2005).

У 1866 г. вёска (казённая маёмасць) у Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. ў Мотальскай вол., працавала кузня. У 1905 г. — 528 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Мотальскай гміне Драгічынскага пав.



Палескага ваяв., у вёсцы 105 будынкаў, 468 жыхароў, працавала школа, у 1934 г. яе наведвалі 140 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска — цэнтр Псышчаўскага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл. У ёй было 130 двароў, 666 жыхароў, працавала пач. рус. школа, дзейнічаў каап. гандлёвы пункт, напярэдадні вайны створаны калгас імя Калініна. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У чэрв. 1943 г. карнікі знішчылі ў Псышчаве 113 двароў, загубілі 65 жыхароў. У магіле ахвяр фашызму пахаваны 33 жыхары вёскі, абеліск пастаўлены ў 1964 г. У партызанах загінулі 3 жыхары вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 24 воіны-землякі. На ўшанаванне памяці 263 землякоў — ураджэнцаў і жыхароў сельсавета, якія загінулі ў час вайны, узведзены ў 1967 г. абеліск (рэканструяваны ў 1985). Пасля вызвалення быў забіты антысав. баевікамі 1 жыхар вёскі. У 1946 г. адкрыты спажывецкае т-ва, зоаветучастак, у 1949 г. пачаў працаваць медпункт.

З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 531 жыхар (у сельсавеце 8 вёсак, 2832 жыхары). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 351 жыхар. У 1980 г. ў межы Псышчава ўвайшлі вёскі Закалле (200 жыхароў) і Пнюхі (82). 23.9.1949 г. быў адноўлены калгас імя Калініна, 23.9.1950 г. ён увайшоў у склад калгаса імя Леніна (Псышчава стала цэнтрам калгаса). 14.2.1963 г. перайменаваны ў калгас «За мір». З 20.6.2003 г. Псышчава — цэнтр СВК «Прыясельны». Сярэдняя школа, урачэбна-амбулаторны ўчастак, Дом культуры, б-ка, філіял ашчаднага банка, аддз. сувязі, 4 магазіны.

**ПЯСЧАНКА** — вёска ў Моладаўскім с/с. За 22 км на ПнУ ад Іванава, 24 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 54 гаспадаркі, 84 жыхары (2005).

Утворана рашэннем Іванаўскага райвыканкома ад 2.8.1957 г. ў Ляскавіцкім с/с шляхам ссялення навакольных хутароў ва ўрочышча Пясчанка. Паводле перапісу 1959 г. — 130 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. З 1957 г. жыхары вёскі працавалі ў калгасе імя Сталіна (з цэнтрам у в. Моладаў), у 1960 г. перайменаваны ў «Моладава». З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Моладава». Магазін.

**ПЯТРОВІЧЫ** — вёска ў Бродніцкім с/с. За 18 км на У ад Іванава, за 3 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 51 гаспадарка, 106 жыхароў (2005).

Паводле інвентару 1774 г. вёска ў маёнтку Дубай Пінскага пав., належала пінскім езуітам. У вёсцы было 16 двароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентару 1846 г. — фальварак і вёска ў складзе маёнтка Пятровічы памешчыка Фелікса Блоцкага. У 1870 г. вёска ў маёнтку Дубай Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 45 двароў, 361 жыхар. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 42 будынкі, 202 жыхары. У 1938 г. — 61 двор, 319 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. 12.10.1940 г. вёска ў Бродніцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 81 двор, 383 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У партызанах загінуў 1 жыхар вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 10 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 14.10.1957 г. ў Іванаўскім (у 1962—65 у Пінскім) р-не. Дзейнічала пач. школа (у 1961 — 31 вучань). Паводле перапісу 1959 г. — 368, у 1979 г. — 635 жыхароў. 7.7.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас імя Дзімітрава, які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Маленкова (з цэнтрам у в. Бродні-

ца), у 1957 г. перайменаванага ў «Запаветы Ільіча». З 1965 г. вёска ў саўгасе «Бродніцкі», з 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Бродніца».

**ПЯШКОВА** — вёска ў Рудскім с/с. За 13 км на ПдУ ад Іванава, 11 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 56 гаспадарак, 96 жыхароў (2005).

У 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., часткова знаходзілася ў дзярж. маёмасці, часткова ва ўладаннях памешчыкаў Банклеўскага і Куржанецкага. У 1889 г. ў Дубайскай вол., побач маёнтак Эміліі Куржанецкай. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага павета Палескага ваяв., у в. Пяшкова 47 будынкаў, 247 жыхароў, у фальварку Пяшкова 1 будынак, 9 жыхароў, у фальварку Горка-Пяшкоўская 1 будынак, 5 жыхароў. У 1935 г. ў в. Пяшкова 288 жыхароў, у аднайменным фальварку — 40, у фальварку Горка-Пяшкоўская — 2 жыхары (пазней зліліся). У 1938 г. — 117 двароў, 818 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Рудскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 101 двор, 502 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 3 жыхары вёскі, у партызанах — 2 жыхары, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 24 воіны-землякі. 29.7.1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Краіна Саветаў», які 20.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Светлы шлях» (з цэнтрам у в. Рудск). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 442 жыхары, у 1958 г. пабудавана пач. школа, у 1961 г. — 28 вучняў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 139 жыхароў. На 2005 г. вёска ва ўгоддзях СВП «Баравіца». Магазін.

**РАГАДАШЧ** — вёска ў Крытышынскім с/с. За 15 км на ПдЗ ад Іванава, 13 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 116 гаспадарак, 235 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц у 16 ст. вёска ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1775 г. вёска, цэнтр Рагадошчкага староства, уладанне стольніка Пінскага пав. Яна Аржэшкі, 38 дымоў і 222 жыхары, у Рагадошцкі маёнтак тады ўваходзілі таксама вёскі Глінна, Навінкі, Гнеўчыцы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай , з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. На 1866 г. значыцца як в. Рагадошчы ў Адрыянскай (па іншых звестках, Адрыжынскай) вол. ў ведамстве дзярж. маёмасці. У 1905 г. ў вёсцы 537 жыхароў, плаціна, пры якой жылі 10 чалавек. У 1914—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. вёска ў складзе Адрыянскай гміны Драгічынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. Працавала школа, у 1934 г. — 99 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. — вёска ў Глінненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 128 двароў, 714 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Карнікі спалілі ў вёсцы 7 жылых, 18 гасп. будынкаў. Ад рук акупантаў загінулі 5 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. 26 воінаў-землякоў. Пасля вызвалення забіты баевікамі антысав. падполля 1 жыхар вёскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1954 г. вёска з Глінненскага с/с была перададзена ў Крытышынскі. Паводле перапісу 1959 г. — 379 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 485 жыхароў. 21.12.1949 г. створана сельгасарцель імя Жданава, якая аб'ядноўвала ў 1950 г. 32 сялянскія гаспадаркі, 4.9.1950 г. арцель увайшла ў склад калгаса «70-годдзе Сталіна» (з цэнтрам у в. Гнеўчыцы), у 1960 г. перайменавана ў калгас «Беларусь». З 11.12.1980 г. вёска ў калгасе імя Машэрава (з цэнтрам у в. Крытышын), з 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Машэраўскі». Клуб, магазін, б-ка, помнік археалогіі — кур-



ганны могільнік (даследаваў у 1960 Ю.А.Кухарэнка).

**РАДАЎНЯ** — вёска ў Крытышынскім с/с. За 8 км на Пд ад Іванава, 6 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 145 гаспадарак, 175 жыхароў (2005).

У 1863 г. ў вёсцы 40 двароў, уваходзіла ў маёнтак Радаўня, які належаў памешчыку Пятру Манькевічу. У 1866 г. ў Янаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 593 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 24 будынкі, 167 жыхароў. Працавала школа, у 1934 г. — 116 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Магільнянскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 127 двароў, 490 жыхароў. Працавала пач. рус. школа, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 11 жыхароў вёскі, у партызанах — 1 жыхар, на франтах у 1939—45 гг. 23 воіны-землякі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1954 г. вёска з Магільнянскага с/с перададзена ў Крытышынскі. Паводле перапісу 1959 г. — 575 жыхароў. У 1958 г. пабудаваны новы будынак школы (на 1961 — пачатковая, 42 вучні). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. У 1963 г. ў вёску пераселены жыхары б. хутара Радаўня. Паводле перапісу 1979 г. — 467 жыхароў. 22.8.1949 г. быў створаны калгас імя Варашылава, які 2.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Сталіна (з цэнтрам у в. Крытышын), у 1961 г. перайменаванага ў калгас «Радзіма», у 1963 г. — «Расія». З 11.12.1980 г. вёска ў калгасе імя Машэрава, з 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Машэраўскі». Клуб, б-ка, магазін.

**РУДКАЎКА** — вёска ў Рудскім с/с. За 15 км на ПдУ ад Іванава, 13 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 34 гаспадаркі, 63 жыхары (2005).

У канцы 16 ст. вядома як в. Рудкаўка ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1870 г. ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. як казённая маёмасць, 29 двароў. У 1909 г. вёска ў Бродніцкай вол., 35 двароў, 211 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 29 будынкаў, 160 жыхароў. У 1935 г. — 488 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Рудскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 64 двары, 328 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 2 жыхароў, у партызанах загінуў 1 жыхар, на франтах у 1939—45 гг. 7 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 249 жыхароў (пад назвай Рудаўка). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 24.12.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас «Чырвоная Рудаўка», які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Савецкая Беларусь» (з цэнтрам у в. Франопаль), з 1959 г. вёска ў калгасе «Светлы шлях» (з цэнтрам у в. Рудск). На 2005 г. ва ўгоддзях СВП «Баравіца» (з цэнтрам у в. Яечкавічы).

**РУДСК** — вёска, цэнтр Рудскага с/с. За 8 км на Пд ад Іванава, 6 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 265 гаспадарак, 794 жыхары (2005).

У 1870 г. вёска ў складзе маёнтка Рудск ва ўладанні памешчыка Аляксандра Чэхаўскага адносілася да Бродніц-



*Помнік землякам у в. Рудск.*



*Брацкая магіла грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці, загубленых фашыстамі ва ўрочышчы Рудскі Лес.*

кай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. На 1885 г. сяло ў Дубайскай вол., 23 двары, 231 жыхар, дзейнічала праваслаўная царква. У 1909 г. ў Бродніцкай вол., у вёсцы 62 двары, 340 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 7 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 47 будынкаў, 231 жыхар, у фальварку 1 будынак, 4 жыхары. Працавала школа, у 1934 г. — 169 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Рудскага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 90 двароў, 480 жыхароў. У сельсавеце ў той час працавалі млын, 6 пач. школ, сувязь з райцэнтрам ажыццяўлялася па вузкакалейцы. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінуў 1 жыхар вёскі, у партызанах — 2, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 22 жыхары Рудска. На ўшанаванне памяці 84 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў гады вайны, пастаўлены ў 1966 г. помнік (рэканструяваны ў 1990). Пасля вызвалення быў забіты баевікамі антысав. падполля 1 жыхар вёскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 395 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 18.3. 1948 г. ў вёсцы створаны калгас імя Молатава (аб'яднаў 41 гаспадарку), які 20.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Светлы шлях» (Рудск стаў яго цэнтрам). На 2005 г. вёска ва ўгоддзях СВП «Баравіца» (з цэнтрам у в. Яечкавічы). Сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, амбулаторыя, Дом культуры, кафэ, аддз. сувязі, 3 магазіны, філіял ашчаднага банка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання.

**РЫЛАВІЧЫ** — вёска ў Бродніцкім с/с. За 14 км на У ад Іванава, 6 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 178 гаспадарак, 327 жыхароў (2005).

Вядомы ў 16 ст. ў Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ як шляхецкая ўласнасць. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. вёска лічылася княжацкай. Тут пражывалі сяляне, якія плацілі падатак непасрэдна вял. князю. З часоў сярэднявечча вёска вядома як цэнтр бондарства, дзе выраблялісі бочкі для каралеўскага двара. Гэты від рамяства захаваўся да нашага часу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол., уваходзіла ў маёнтак Дубой (паезуіцкі) і належала памешчыку Куржанецкаму. 14.12.1905 г. сяляне Бродніцы і Рылавіч аб'явілі забастоўку, спалілі паравы млын і малатарню, у лесе маёнтка Дубой учынілі самавольную высечку лесу, у 1906 г. правялі забастоўку ў маёнтку Бродніца. У 1909 г. ў Рылавічах 93 двары, 685 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага павета Палескага ваяв., 91 будынак, 474 жыхары. У 1938 г. — 141 двор, 693 жыхары.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Бродніцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 146 двароў, 769 жыхароў (сярод якіх 80 кваліфікаваных бондараў). У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 7 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 28 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім (у 1962—65 у Пінскім) р-не. Паводле перапісу 1959 г. 795 жыхароў, у



2 прыстасаваных будынках дзейнічала школа (на 1961 — пачатковая, 63 вучні). Паводле перапісу 1979 г. — 748 жыхароў. 25.12.1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Маленкова, які 26.8.1950 г. быў узбуйнены (цэнтр — в. Бродніца), у 1957 г. перайменаваны ў «Запаветы Ільіча», у 1965 г. рэарганізаваны ў саўгас «Бродніцкі». З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Бродніца». Базавая школа, клуб, б-ка, магазін.

**САЧЫЎКІ** — вёска, цэнтр Сачыўскага с/с і СВК «Бакунава». За 16 км на ПнЗ ад Іванава, 18 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 137 гаспадарак, 366 жыхароў (2005).

У 1866 г. — вёска (казённая маёмасць) у Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 522 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 84 будынкі, 442 жыхары. Працавала школа, у 1934 г. — 116 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Сачыўскага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 91 двор, 692 жыхары, пач. рус. школа, каап. гандлёвы пункт. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 28 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці 120 жыхароў вёсак Беразляны, Крыніца, Кулякі, Сачыўкі, Сычова, якія загінулі ў гады вайны, у 1972 г. быў пастаўлены помнік (скульптура воіна). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобласці. 16.7.1954 г. Сачыўскі с/с скасаваны і тэр. далучана да Стрэльненскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 505 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 397 жыхароў. Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 6.9.2000 г. Стрэльненскі с/с перайменаваны ў Сачыўкаўскі і вёска стала яго цэнтрам. 31.3. 1950 г. ў вёсцы створаны калгас імя Лысенкі (аб'яднаў 40 сял. гаспадарак), які 7.10.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Леніна (Сачыўкі сталі цэнтрам узбуйненага калгаса), у 1960 г. перайменаванага ў «Іскра», у 1963 г. — у калгас «Дружба». 20.6.2003 г. калгас быў пераўтвораны ў СВК «Бакунава». Сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, школа нар. творчасці, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, магазін.

**СВЯТАПОЛКА** — вёска ў Псышчаўскім с/с. За 19 км на ПнЗ ад Іванава, 21 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 37 гаспадарак, 87 жыхароў (2005).

Вядома на 1866 г. як в. Святапулка (казённая маёмасць) у Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 11 двароў. У 1905 г. вёска Бездзежскай вол., 114 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. — вёска ў Псышчаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 27 двароў, 157 жыхароў. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У паветраным баі над вёскай 5.7.1944 г. загінулі 2 сав. лётчыкі. Абеліск на брацкай магіле лётчыкаў А.Ф.Панкратава і М.М. Разанава пастаўлены ў 1965 г. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 5 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 193 жыхары. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 26.3.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас «Камсамолец» (аб'яднаў 18 гаспадарак), 23.9.1950 г. ён увайшоў у склад калгаса імя Леніна (з цэнтрам у в. Асышчава), у 1963 г. перайменаванага ў калгас «За мір». З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Прыясельны». Магазін, дзейнічае малітоўны дом.

**СМОЛЬНІКІ** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 42 км на ПдЗ ад Іванава, 26 км ад чыг. ст. Снітава. 68 гаспадарак, 157 жыхароў (2005).

Вядомы ў 1-й пал. 19 ст. як хутар Смольнік у маёнтку Баландзічы, які на-

лежаў Яраславу Андржэйковічу, у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1848 г. на хутары знаходзіліся дом для пастухоў, хлебны свіран, стойла для рагатай жывёлы. У 1905 г. хутар у Адрыжынскай вол., 7 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Асавецкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., у фальварку Смольнік 1 будынак, 7 жыхароў. З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. калонія Смольнікі ў Гарбахскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 59 двароў, 302 жыхары. У 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 4 жыхары вёскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 313 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Спачатку вяскоўцы працавалі ў калгасе «Серп і молат», створаным 10.7.1940 г. і адноўленым 22.8.1949 г. (з цэнтрам у Оўзічах). 28.1.1959 г. ён увайшоў у калгас «Зара», у 1963 г. перайменаваны ў калгас «Праца». З 1986 г. вёска ў калгасе «Кастрычнік» Адрыжынскага с/с (з цэнтрам у в. Адрыжын), з 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Кастрычнік-агра». Магазін.

**СНІТАВА** — вёска, цэнтр Снітаўскага с/с і СВК «Снітава-агра». За 8 км на З ад Іванава, 5 км ад чыг. ст. Снітава. 369 гаспадарак, 864 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1522 г. У 1552 г. ў грамаце вял. князя літоўскага азначаецца «па правую руку ўваход у пушчу — сходная зямля з людзьмі яго каралеўскай міласці сяла Варацэвіцкага і сяла Снітаўскага». Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У пачатку 19 ст. пабудавана Успенская царква — помнік архітэктуры, у якім традыцыі нар. дойлідства спалучаюцца з элементамі класіцызму (захавалася). Пасля адмены прыгону ў 1861 г. ў вёсцы адбыліся хваляванні: сяляне суседніх вёсак Снітава і Радаўня не сталі



*Памятны камень каля павароту на в. Снітава.*

адбываць згонныя дні, вызначаныя інвентаром. Зачыншчыкі былі арыштаваны, а над сялянамі ўчынена расправа. У 1866 г. ў Варацэвіцкай вол. ва ўладанні памешчыкаў Івана і Аляксандра Вяржбіцкіх, у маёнтку Замалінна. На 1885 г. — сяло, 89 двароў, 815 жыхароў, праваслаўная царква, ветраны млын, піцейны дом. У 1905 г. ў сяле 1236 жыхароў, на чыг. станцыі 61 жыхар. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., у Варацэвіцкай гміне Драгічынскага пав., у вёсцы 144 будынкі, 611 жыхароў, пры чыг. станцыі 3 будынкі, 28 жыхароў. Некаторыя жыхары вёскі ўваходзілі ў 1920-я г. ў Оўзіцкую падп. арг-цыю КПЗБ, працавала школа на царкоўнай сядзібе, у 1934 г. 176 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Магільнянскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 265 двароў, 1471 жыхар, працавала пач. рус. школа, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загі-



нулі ці прапалі без вестак 47 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці 94 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў гады вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск. За 3 км ад вёскі ва ўрочышчы Мышкі 1.12.1942 г. акупанты знішчылі 39 мірных жыхароў, у тым ліку 18 дзяцей і 11 жанчын. У 1974 г. на ўшанаванне іх памяці на магіле быў пастаўлены абеліск. У 1946 г. — 1383 жыхары. У 1949 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую, з 1958 г. навучанне вялося ў новым будынку, у 1961 г. — 8-гадовая, 193 вучні. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 928 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. 16.11.1970 г. Магілёўскі с/с перайменаваны ў Снітаўскі, цэнтр сельсавета перанесены ў Снітава. Паводле перапісу 1979 г. — 496 жыхароў. 25.12.1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Маяк сацыялізму», які 8.12.1959 г. ўвайшоў у склад калгаса «Маладая гвардыя» (з цэнтрам у в. Магільна; 21.3.1977 цэнтрам стала Снітава). З 10.7.2003 г. вёска — цэнтр СВК «Снітава-агра». Базавая школа, амбулаторыя, аптэка, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, кафэ, 2 магазіны.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 10 км на ПнЗ ад Іванава, 13 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2005).

У 1905 г. вёска ў Драгічынскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Стрэльненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 7 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 116 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 69 жыхароў. У 1997 г. непадалёку ад вёскі хутар Кулякі, 3 двары. З 6.9.2000 г. ў Сачыўкаўскім с/с. З 1951 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Новая Стрэльна),



*Помнік землякам у в. Снітава.*

які 24.1.1989 г. быў далучаны да калгаса «Дружба» (з цэнтрам у в. Сачыўкі). З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Бакунава».

**СТАРЫЯ КЛЁНКІ** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 7 км на З ад Іванава, 5 км ад чыг. ст. Снітава. 61 гаспадарка, 126 жыхароў (2005).

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. З 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. Вёска ў складзе маёнтка Клёнкі, ва ўласнасці памешчыка Андрэя Сулноўскага. Паводле інвентароў 1845—47 гг. — фальварак і вёска з той жа назвай у складзе маёнтка Клёнкі. На 1847 г. у фальварку Клёнкі знаходзіліся конны і ветраны млыны, карчма на паштовай дарозе ў Янава. У вёсцы 24 двары, карчма. 10.12.1865 г. за ўдзел у паўстанні маёнтак Клёнкі быў секвестраваны ў яго ўладальніка памешчыка Аляксандра Сулкоўскага і выстаўлены на таргі. У той час разам з маёнткам Стрэльна ва ўладаннях памешчыка знаходзілася 1220 дзес. зямлі, працавалі 2 карчмы, піваварны з-д і карчма пры ім. У 1905 г. вёска, 401 жыхар, і пасёлак, 122 жыхары (пазней

ператварыўся ў в. Новыя Клёнкі). У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 55 будынкаў, 233 жыхары.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Стрэльненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 47 двароў, 215 жыхароў, працавала пач. рус. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 23 воіны-землякі. За сувязь з партызанамі ў 1943—44 гг. былі расстраляны 6 жыхароў. На іх магілах устаноўлены абеліскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 375 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 233 жыхары. 4.8.1949 г. ў вёсцы быў створаны калгас імя Суворава, які 7.10.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтрам яго стала в. Новая Стрэльна). З 1959 г. вёска ў складзе калгаса «Іскра», у 1963 г. перайменаванага ў калгас «Дружба» (цэнтр — в. Сачыўкі). З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Бакунава». Магазін.

**СТРАМЕЦ** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 23 км на ПдЗ ад Іванава, 20 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 42 гаспадаркі, 72 жыхары (2005).

У 1905 г. маёнтак, 60 жыхароў, у Асавецкай вол. Кобрынскага павета. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. На 1940 г. у Глінненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобласці. 1 ураджэнец вёскі загінуў у сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 2 жыхароў, з фронту не вярнуліся 7 воінаў-землякоў. Пры вызваленні вёскі загінулі 4 воіны, у 1966 г. на магілах пастаўлены абеліскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Глінненскім с/с, 109 жыхароў. У 1957 г. пад пачатковую школу прыстасаваны прыватны будынак, на 1961 г. — 51 вучань. У 1964 г. жыхары б. хутара Страмец переселены ў вёску. Паводле перапісу 1979 г. — 300 жыхароў. З 1982 г. Глінненскі с/с перайменаваны ў Залядынскі, з 1986 г. вёска ў Адрыжынскім с/с. Пасля вайны вёска ў калгасе «Новае жыццё» (з цэнтрам у в. Залядынне), з 21.5.1951 г. ў складзе калгаса імя Варашылава (з цэнтрам у в. Глінна), у 1961 г. перайменаванага ў «Прагрэс». З 1986 г. вёска ў калгасе «Кастрычнік» (з цэнтрам у в. Адрыжын). З 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Кастрычнік-агра». Магазін.

**СТРЭЛЬНА** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 11 км на З ад Іванава, 8 км ад чыг. ст. Снітава. 117 гаспадарак, 255 жыхароў (2005).

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, з 1801 г. ў Кобрынскім павеце Гродзенскай губ. У 1800 г. ў ёй пабудавана царква Аляксандра Неўскага — помнік драўлянага дойлідства з элементамі архітэктуры класіцызму і ампіру (перабудавана ў 1920-я г., захавалася). Паводле інвентароў 1945—48 гг. — фальварак і вёска з той жа назвай уваходзілі ў маёнтак Стрэльна, які належаў Андрэю Сулкоўскаму. У вёсцы ў 1845 г. 169 жыхароў. На 1847 г. у фальварку 34 дваровых (з іх 31 працаўнік). Маёнтак Стрэльна (разам з маёнткам Клёнкі) быў секвестраваны ў яго ўладальніка Аляксандра Сулкоўскага 10.12.1865 г. за ўдзел у паўстанні і падлягаў абавязковаму продажу з торгу.

На 1866 г. сяло Стрэльна ў Янаўскай вол., ва ўладанні памешчыка Прасмыцкага. У 1885 г. ў Стрэльне 20 двароў, 180 жыхароў, у 1905 г. — 362 жыхары, у аднайменным пасёлку побач з сялом (пазней в. Новая Стрэльна) 145 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Янаўскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 56 будынкаў, 252 жыхары. Некаторыя жыхары ўваходзілі ў 1920-я г. ў Оўзіцкую





*Музей народнай медыцыны ў в. Стрэльна.*

падп. арг-цыю КПЗБ. Працавала школа, у 1934 г. — 94 вучні.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. ў Стрэльненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., вёскі Новая Стрэльна (цэнтр сельсавета, 35 двароў, 224 жыхары) і Старая Стрэльна (65 двароў, 292 жыхары, пач. рус. школа, каап. гандлёвы пункт, каля вёскі былі выяўлены залежы торфу). У Стрэльненскім с/с у той час дзейнічалі 5 пач. школ. 1 жыхар вёскі загінуў у сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупанты спалілі ў вёсцы 10 жылых, 10 гасп. будынкаў, загубілі 14 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі 14 воінаў-землякоў. За сувязь з партызанамі ў 1942—43 гг. былі расстраляны гітлераўцамі С.З.Перашчук, сям'я Казейкаў. Абеліскі на іх магілах узведзены ў 1990 г. На ўшанаванне памяці 107 землякоў — жыхароў Стрэльны і суседніх вёсак Клешчы, Клёнкі, Стараселле, якія загінулі ў гады вайны, быў узведзены ў 1971 г. помнік. Пасля вызвалення дзейнічала 7-гадовая школа ў прыстасаваным будынку (дадаткова пад школу прыстасаваны будынкі ў 1957, 1961, на 1961 — 144 вучні).

З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Старая Стрэльна — 249 жыхароў, у в. Новая Стрэльна — 229 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. ў Новай Стрэльне — 221 жыхар, у Старой Стрэльне — 385 жыхароў. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1983 г. в Старая Стрэльна далучана да Новай Стрэльны, в. Новая Стрэльна перайменавана ў в. Стрэльна. Па рашэнні Брэсцкага аблвыканкома ад 6.9. 2000 г. цэнтр сельсавета перанесены ў в. Сачыўкі і сельсавет перайменаваны ў Сачыўкаўскі.

24.2.1949 г. ў Новай Стрэльне створаны калгас «Новае жыццё» (аб'яднаў 35 гаспадарак), 27.3.1949 г. ў Старой Стрэльне створаны калгас «Палеская праўда». 23.9.1950 г. жыхары вёсак у адзіным калгасе «Шлях да камунізму» (з цэнтрам у в. Новая Стрэльна), з 1989 г. ў «Дружбе» (з цэнтрам у в. Сачыўкі). З 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Бакунава». Сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, філіял ашчаднага банка, 2 магазіны. У 1990 г. адкрыты музей нар. медыцыны.

**СУЛАВЫ** — вёска ў Бродніцкім с/с. За 16 км на У ад Іванава, 9 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 38 гаспадарак, 56 жыхароў (2005).

У 1870 г. ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у маёнтку Сулавы, які належаў Будзіцкаму. Сяляне вёскі 18.12.1905 г. ўчынілі забастоўку, хваляванні былі падаўлены з дапамогай ваеннай сілы. У 1909 г. ў вёсцы 30 двароў, 199 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 7 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 35 будынкаў, 208 жыхароў, у фальварку 1 будынак, 7 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Бродніцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 63 двары, 349 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Акупанты загубілі 3 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 12 воінаў-землякоў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл.

З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім (у 1962—65 у Пінскім) р-не. Паводле перапісу 1959 г. — 379 жыхароў, у 1979 г. — 203 жыхары. З 9.9.1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Ільіча, які 11.11.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Васілеўскага (з цэнтрам у в. Якша), з 9.8.1958 г. вёска ў калгасе імя Дзяржынскага, з 1963 г. ў калгасе «Камсамолец», з 1965 г. ў саўгасе «Бродніцкі» (з цэнтрам у в. Бродніца). З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВП «Бродніца». Магазін.

**СУХОЕ** — вёска ў Рудскім с/с. За 9 км на ПдУ ад Іванава, 7,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 224 гаспадаркі, 515 жыхароў (2005).

Згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1520 г. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. вёска належала служылым людзям — шляхціцам. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у 1870 г. ў Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 124 двары, 887 жыхароў, чыг. раз'езд. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., пад назвай Сушэ, 121 будынак, 602 жыхары. У 1929 г. — 181 двор, 1030 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Рудскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 223 двары, 892 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 41 мірнага жыхара, у партызанах загінулі 4 жыхары, на фронце — 18 воінаў-землякоў. У 1946 г. — 1033 жыхары. У 1949 г. пач. школа была пераўтворана ў 7-гадовую, на 1961 г. — 8-гадовая (201 вучань) і вячэрняя школа сельскай моладзі (15 вучняў). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 1038 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 366 жыхароў. 12.8.1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Светлы шлях», які 20.9.1950 г. быў узбуйнены (яго цэнтрам стала в. Рудск). На 2005 г. вёска ва ўгоддзях СВП «Баравіца» (з цэнтрам у в. Яечкавічы). Базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, дзейнічае малітоўны дом.

**СЫЧЭВА** — вёска ў Сачыўкаўскім с/с. За 17 км на ПнЗ ад Іванава, 14 км ад чыг. ст. Снітава. 151 гаспадарка, 274 жыхары (2005).

У 1866 г. ў Бездзежскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 35 двароў. У 1905 г. — 318 жыхароў, у в. Верамееўка 140 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Стрэльненскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 80 двароў, 374 жыхары, працавала пач. рус. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 9 жыхароў вёскі. У 1951 г. ў Сычэве дзейнічала хата-чытальня, працавала ў 3 прыстасаваных будынках школа, на 1961 г. — 7-гадовая, 116 вучняў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 460 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 658 жыхароў. Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома ад 21.7.1980 г. вёскі Верамееўцы і Панцаўцы ўвайшлі ў склад в. Сычэва. З 25.1. 1950 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Васілеўскага, а жыхары вёсак Панцаўцы і Верамееўцы ў калгасе імя Кірава (цэнтр — в. Панцаўцы). 7.10.1950 г. калгас быў далучаны да калгаса імя Кірава (цэнтрам якога стала в. Сычэва). 20.1. 1959 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Новая Стрэльна), у 1962 г. вёска перададзена ў калгас «Іскра», у 1963 г. перайменаваны ў калгас «Дружба» (цэнтр — в. Сачыўкі). З 6.9.2000 г. вёска ў Сачыўкаўскім с/с. З 2003 г. — ва ўгоддзях СВК «Бакунава». Базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін.

**ТРУДАВАЯ** — вёска ў Снітаўскім с/с. За 12 км на З ад Іванава, 2 км ад чыг.



ст. Снітава. 125 гаспадарак, 279 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1944 г. як пасёлак торфазавода «Агдэмер». Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. пасёлак перайменаваны ў в. Трудавая.

У 1944—45 гг. торфазавод «Агдэмер» існаваў пад назвай торфапрадпрыемства «Варацэвічы». На мяжы 1940—50-х гг. быў узбуйнены, пабудавана вузкакалейка, адкрыты ашчадны банк. У 1960-я г. на базе фельч.-акушэрскага пункта адкрыта ўчастковая бальніца. У прыстасаваным будынку пры з-дзе дзейнічала пач. школа (на 1961 — 62 вучні). Паводле перапісу 1959 г. пасёлак адносіўся да Магільнаўскага с/с Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл., 538 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Драгічынскім, з 6.1.1970 г. зноў у Іванаўскім р-нах. З 16.11.1970 г. ў Снітаўскім с/с. Паводле перапісу 1979 г. — 197 жыхароў. З 25.12.1949 г. вяскоўцы разам з жыхарамі Снітава і хутара Мошкі працавалі ў калгасе «Маяк сацыялізму», які 6.9.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «Маладая гвардыя» (з цэнтрам у в. Магільна, з 21.3.1977 — у в. Снітава). З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Снітава-агра». Клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**ТРЫЛІСКІ** — вёска ў Дружылавіцкім с/с. За 14,5 км на Пн ад Іванава, 16,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 85 гаспадарак, 151 жыхар (2005).

У 1866 г. ў Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., казённая маёмасць. У 1905 г. — 855 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Дружылавіцкай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 109 будынкаў, 401 жыхар. У 1920-я г. вёска ўваходзіла ў лік самых «нядобранадзейных» вёсак, існавала ячэйка райкома КПЗБ (сакратары — Ігнат Блізнюк, Сямён Казак). Тут у 1925—29 гг. размяшчаўся падп. райком КПЗБ. У 1926 г. на кароткі час была адчынена б-ка.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Дружылавіцкім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 141 двор, 920 жыхароў. 10.7.1940 г. быў створаны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У гады вайны спалены 3 жылыя, 17 гасп. будынкаў. Ад рук акупантаў загінулі 34 жыхары вёскі. На магілах сямей Гетманчукоў, Еўтухаў, расстраляных фашыстамі ў 1943 г., устаноўлены помнік. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 25 воінаў-землякоў, у партызанах — 1 жыхар вёскі. Пасля вызвалення забіты баевікамі антысав. падполля 6 жыхароў. Працавала 7-гадовая школа, у 1950-я г. была адкрыта ўчастковая бальніца. 7.3.1949 г. аднавіў сваю дзейнасць калгас «Бальшавік», які да 1950 г. аб'яднаў 80 сямей (пасля ўзбуйнення ў 1950 цэнтрам калгаса стала в. Дружылавічы).

З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 575 жыхароў, у трох прыстасаваных будынках дзейнічала школа, на 1961 г. 8-гадовая, 152 вучні, пры школе працавалі асобныя класы вячэрняй школы сельскай моладзі (30 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 348 жыхароў. З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Дружылавічы». Б-ка, магазін.

**ТУЛЯЦІЧЫ** — вёска ў Опальскім с/с. За 33 км на ПнЗ ад Іванава, 27 км ад чыг. ст. Снітава. 78 гаспадарак, 174 жыхары (2005).

У 1866 г. ў Опальскай вол. ў маёнтку з той жа назвай у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ., 15 двароў. На 1905 г. у Бездзежскай вол., 2 аднайменныя вёскі побач улічваліся як самастойныя, у адной было 38, у другой — 258 жыхароў. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, 36 двароў, 146 жыхароў, і фальварак, 3 двары, 12 жыхароў (1921).





З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска Туляцічы і б. маёнтак Туляцін у Опальскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 49 двароў, 271 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 2 жыхароў, у партызанах загінуў 1 жыхар, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. — 14 воінаў-землякоў. З 29.7.1949 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе «Серп і молат», які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса «1 Мая» (з цэнтрам у в. Опаль), у 1963 г. перайменаванага ў калгас «Перамога». З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. — 355 жыхароў, дзейнічала школа, на 1961 г. пачатковая, 36 вучняў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 355 жыхароў. Клуб, б-ка, магазін.

**ТЫШКАВІЧЫ** — вёска ў Motaльскім с/с. За 28 км на ПнЗ ад Іванава, 30 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 553 гаспадаркі, 1425 жыхароў (2005).

За 1 км ад вёскі знаходзяцца 2 археал. стаянкі, якія выявіў у 1962 г., даследаваў у 1971 г. У.Ф.Ісаенка. Стаянка-1 адносіцца да нёманскай культуры, стаянка-2 — да неаліту і бронзавага веку. Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін з далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц Тышкевічы вядомы з 1520 г. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. вёска, якая належала служылым людзям — шляхціцам, у Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ.

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, з 1801 г. ў Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. згадваецца ў дакументах 1833 г. як фальварак. На 1866 г. вёска ў Дружылавіцкай вол. У 1905 г. вёска ў Мотальскай вол., 652 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. ў Мотальскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 180 будынкаў, 1019 жыхароў. Працавала школа, у 1934 г. — 275 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска — цэнтр Тышкавіцкага с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 255 двароў, 1456 жыхароў, працавала пач. рус. школа, каап. гандлёвы пункт. Каля вёскі былі выяўлены залежы торфу. У сельсавеце з пл. 3079 га знаходзіўся толькі 1 населены пункт. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі ў вёсцы 38 мірных жыхароў, у партызанах загінулі 5 жыхароў, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі 56 воінаў-землякоў. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, загінуўшых у гады вайны, у 1974 г. пастаўлены помнік землякам. У 1949 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую, на 1961 г. — 256 вучняў, дзейнічалі асобныя класы вячэрняй школы сельскай моладзі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобласці. Тышкавіцкі с/с скасаваны, 9.3.1959 г. тэрыторыя далучана да Моладаўскага с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1612 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 1698 жыхароў.

З 29.12.1949 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Свярдлова, які 4.2.1958 г. быў далучаны да калгаса імя Сталіна (з цэнтрам у в. Моладаў). З 31.5.1961 г. вёска ў калгасе «XXII партз'езд» (цэнтр гаспадаркі). На аснове калгаса 29.8.1987 г. быў створаны саўгас імя І.А.Паліўкі. З 2003 г. ва ўгоддзях СВК «Агра-Моталь». Сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, аддз. сувязі, 3 магазіны, амбулаторыя.

**УЛАСАЎЦЫ** — вёска ў Адрыжынскім с/с. За 26 км на Пд ад Іванава, 24 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 66 гаспадарак, 126 жыхароў (2005).

У 1848 г. вёска Уласаўцы, альбо Адрыжын, уваходзіла ў маёнтак Адрыжын Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., які належаў памешчыку Іпаліту Талубееву; у ёй налічвалася 251 рэвізская душа, працавала карчма. У 1905 г. ў Адрыжынскай вол., у вёсцы 618 жыхароў, у 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Адрыжынскай гміне



Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 44 будынкі, 217 жыхароў. У 2-й пал. 1930-х г. была адкрыта школа.

З 1939 г. — у БССР. У 1940 г. вёска ў Адрыжынскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 225 двароў, 1489 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 2 жыхароў вёскі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі 42 воіны-землякі. У 1946 г. ў вёсцы 1239 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. была ўтворана в. Уласаўцы 2-я. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Уласаўцы 2-я — 62 жыхары, у в. Уласаўцы 1-я — 279 жыхароў. У 5 прыстасаваных у 1949 і 1959—60 гг. будынках дзейнічала школа, у 1961 г. — 7-гадовая, 75 вучняў. У 1962—65 гг. вёскі ў Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. ў в. Уласаўцы 1-я — 432 жыхары, Уласаўцы 2-я — 346 жыхароў. Рашэннем Брэсцкага аблвыканкома Уласаўцы 1-я далучаны да в. Адрыжын, Уласаўцы 2-я Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 28.1.1983 г. перайменаваны ў в. Уласаўцы.

31.10.1950 г. ў вёсцы створаны калгас імя Калініна, 28.1.1952 г. калгас быў узбуйнены (цэнтрам стала в. Адрыжын), у 1963 г. перайменаваны ў «Кастрычнік». З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Кастрычнік-агра». Б-ка, магазін, школа.

**УПІРАВА** — вёска ў Псычаўскім с/с. За 21 км на Пн ад Іванава, 23 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 145 гаспадарак, 325 жыхароў (2005).

У 1866 г. вёска ў Дружылавіцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. вёска ў Мотальскай вол. У 1905 г. — 664 жыхары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., з 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Мотальскай гміне Драгічынскага пав. Палескага ваяв., 85 будынкаў, 475 жыхароў. У 1920-я г. ўваходзіла ў пералік самых «нядобранадзейных» вёсак, існавалі ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. Працавала школа, у 1934 г. — 200 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 12.10.1940 г. вёска ў Псышчаўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 169 двароў, 861 жыхар. 15.4.1940 г. арганізаваны калгас імя Леніна, які аб'ядноўваў 167 гаспадарак. Дзейнічаў цагельны з-д, працавалі пач. рус. школа, каап. гандлёвы пункт. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У 1941 г. ў баі з акупантамі загінуў супрацоўнік міліцыі І.А.Панькоўскі, на магіле якога ў 1980 г. ўстаноўлены помнік. У час правядзення карнай аперацыі ў чэрв. 1943 г. знішчаны акупантамі 135 двароў, загублены 83 жыхары. У партызанах загінулі 3 жыхары, ахвярамі фаш. тэрору сталі яшчэ 55 жыхароў вёскі, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі 23 воіны-землякі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вол. Паводле перапісу 1959 г. — 779 жыхароў, у трох прыстасаваных у 1940, 1947, 1948 гг. будынках дзейнічала школа, у 1961 г. 7-гадовая, 107 вучняў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 544 жыхары. 21.9.1949 г. аднавіў сваю дзейнасць калгас імя Леніна (пасля ўзбуйнення 23.9. 1950 цэнтрам калгаса стала в. Псышчава), у 1963 г. перайменаваны ў калгас «За мір». З 2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Прыясельны». Б-ка, магазін.

**ФРАНОПАЛЬ** — вёска ў Рудскім с/с. За 12 км на Пд ад Іванава, 10 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 60 гаспадарак, 106 жыхароў (2005).

Паводле спіса 1870 г. вёска ў Махрэнскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уваходзіла ў маёнтак Кружэлічын, які належаў Пуслоўскаму. У 1909 г. ў Бродніцкай вол., у вёсцы 305 жыхароў, 43 двары. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв. Пінскім пав. Бродніцкай гміне, у вёсцы 33 будынкі, 138 жыхароў, усе праваслаўныя беларусы. У 1929 г. — 124 жыхары, у 1935 г. — 209 жыхароў, у 1938 г. — 56 двароў, 261 жыхар. Праца-

вала школа, у якой на 1934 г. навучаліся 87 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Рудскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 64 двары, 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вайну загінуў 1 мірны жыхар вёскі (ахвяра фаш. тэрору), на франтах у 1939—45 гг. — 11 жыхароў, пры вызваленні — 2 сав. воіны, якія пахаваны на тэр. вёскі. Ад рук ворагаў сав. улады 8.12.1945 г. загінулі сав. воіны В.Н.Карташоў і Я.Р.Крылоў, на брацкай магіле якіх у 1967 г. ўстаноўлены помнік. У 1955 г. пабудавана хата-чытальня, працавала школа (на 1961 — 7-гадовая, 122 вучні) у 3 прыстасаваных будынках, з 1948 г. — з вучэбнымі майстэрнямі. З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 325 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 123 жыхары, у 1997 г. — 60 двароў, 139 жыхароў.

З 4.11.1948 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Савецкая Беларусь», які да ўзбуйнення 26.8.1950 г. аб'яднаў 38 гаспадарак. Вёска засталася цэнтрам узбуйненага калгаса, які 18.1. 1959 г. ўвайшоў у калгас «Светлы шлях» з цэнтрам у в. Рудск. З 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Баравіца». Магазін.

**ХАМІЧАВА** — вёска ў Махроўскім с/с. За 17,5 км на Пд ад Іванава, 15,5 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 137 гаспадарак, 306 жыхароў (2005).

Паводле спіса 1870 г. вёска ў Махрэнскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 68 сялян-уладальнікаў. У 1909 г. ў Бродніцкай вол., 311 жыхароў, 55 двароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1929 г. — 260, у 1935 г. — 232 жыхары, у 1938 г. — 102 двары, 835 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Махроўскім с/с Іванаўскага р-на Пінскай вобл., 101 двор, 617 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час акупацыі спалены 36 будынкаў, у тым ліку 16 жылых, 20 гаспадарчых. Загінулі 2 партызаны-падпольшчыкі, 3 мірныя жыхары вёскі (ахвяры фаш. тэрору), на франтах у 1939—45 гг. — 25 жыхароў. Пры вызваленні вёскі загінуў 1 сав. воін (імя пакуль не ўстаноўлена) і пахаваны на яе тэр., у 1986 г. на магіле пастаўлены помнік. З 1943 г. да сак. 1944 г. вёска ўваходзіла ў аб'яднаны падп. бел.-украінскі сельсавет, які ахопліваў вёскі Баландзічы, Вулька, Краснае, Махро, Хамічава (Беларусь), Дольск, Нігавішчы, Омыт (Украіна), старшыня выканкома — М.К.Каначук. Пасля вызвалення былі забіты антысав. падп. групамі «барацьбітоў» 2 жыхары. З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. У 1955 г. пабудавана б-ка. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў, у 4 прыстасаваных у 1937, 1939, 1940, 1945 гг. будынках дзейнічала школа (у 1961 7-гадовая, 150 вучняў). У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 534 жыхары, у 1997 г. — 152 двары, 333 жыхары.

З 25.1.1950 г. вяскоўцы разам з жыхарамі вёсак Вулька Махроўская, Краснае і хутароў Хамічаўскія і Краснае працавалі ў створаным калгасе імя Мікаяна, які 5.3.1951 г. быў узбуйнены (цэнтрам стала в. Махро), 28.1.1970 г. перайменаваны ў калгас імя Леніна, у 2003 г. далучаны да СВП «Баравіца» (з цэнтрам у в. Яечкавічы). Базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі, магазін.

**ШЧАКОЦК** — вёска ў Ляскавіцкім с/с. За 7 км на Пн ад Іванава, 4 км ад цэнтра сельсавета, 9 км ад чыг. ст. Янаў-Палескі. 83 гаспадаркі, 162 жыхары (2005).

Згадваецца ў «Спрэчках за памежныя землі» (1518): «І таксама скардзіўся нам князь Фёдар яго міласць на Станіслава Шчакоцкага». У канцы 16 ст. дзярж. ўласнасць у Пінскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. З 1795 г. — у складзе Рас.



імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1801 г. ў складзе Кобрынскага павета Гродзенскай губ. На 1866 г. вёска, казённая маёмасць у Дружылавіцкай вол., 232 селяніны з вёскі ўваходзілі ў Дружылавіцкае сельскае т-ва, для патрэб насельніцтва працаваў сталяр. У 1905 г. 609 жыхароў. У пач. 20 ст. ў цэнтры вёскі пабудавана сядзіба, якая складаецца з двух двароў і адлюстроўвае пашыраны на ПдЗ Беларусі тып пагоннага двара. У 1915—18 гг. была акупіравана герм., у 1919—20 гг. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Палескім ваяв., Драгічынскім пав., Дружылавіцкай гміне, у вёсцы 63 будынкі, 304 жыхары. У 1920-я г. ў пераліку самых «нядобранадзейных» вёсак, некаторыя жыхары вёскі ўваходзілі ў Оўзіцкую падп. арг-цыю КПЗБ. У 1930-я г. працавала школа, якую ў 1934 г. наведвалі 58 вучняў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Іванаўскім р-не Пінскай вобл., у Дружылавіцкім с/с, 76 двароў, 536 жыхароў, працавала пач. руская школа.

У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». Спалена 9 гасп. будынкаў, ад рук акупантаў загінулі 3 жыхары вёскі. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 17 жыхароў. У прыстасаваным у 1946 г. будынку дзейнічала пач. школа (у 1961 — 22 вучні). Са студз. 1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Чырвоны партызан», які пасля ўзбуйнення 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Горкага (цэнтрам калгаса стала в. Ляскавічы), з 16.5.2003 г. вёска ва ўгоддзях СВК «Ляхавічы-агра». З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобл., у 1954 г. з Дружылавіцкага с/с вёска была перададзена ў Ляскавіцкі с/с. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 370 жыхароў. У 1962—65 гг. у Драгічынскім р-не. Паводле перапісу 1979 г. — 299 жыхароў. У 1997 г. — 91 двор, 198 жыхароў.

Пач. школа, клуб, б-ка, магазін, помнік этнаграфіі — двары аднараднага пагоннага тыпу на адной сядзібе (пач. 20 ст.).

**ЮХНАВІЧЫ** — вёска ў Бродніцкім с/с. За 16 км на У ад Іванава, 1 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 99 гаспадарак, 195 жыхароў (2005).

Вядомы паводле гіст. крыніц з 1495 г. пад назвай Дзюхнавічы. У 1774 г. вёска Юхнавічы ўваходзіла ў маёнтак Дубой Пінскага пав., які належаў пінскім езуітам. У ёй было 30 дымоў і 30 гаспадарак. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1797 г. ў Літоўскай губ. З 1802 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ.

Паводле спіса 1870 г. вёска ў маёнтку Дубай Бродніцкай вол. На 1889 г. Юхнавічы ў Дубайскай вол. У 1909 г. ў Бродніцкай вол., у вёсцы 419 жыхароў, 54 двары, на чыг. станцыі 37 жыхароў, 3 двары, у фальварку 15 жыхароў, 1 двор. У 1915—18 гг. акупіраваны герм., у 1919—20 гг. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 63 будынкі, 387 жыхароў, у фальварку 6 будынкаў, 64 жыхары, на станцыі было 3 будынкі, 29 жыхароў. На ст. Юхнавічы з 1924 г. працаваў лесапільны з-д (25 рабочых) магутнасцю 10 тыс. м$^3$ лесу і млын, на якім за год малолі 40 тыс. т зерня. У 1929 г. ў вёсцы 364 жыхары. У 1935 г. ў вёсцы Юхнавічы — 380 чал., у маёнтку — 40, на ст. Юхнавічы — 54, на лесапільным з-дзе — 4 чал. У 1948 г. — 97 двароў, 596 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Бродніцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 177 двароў, 580 жыхароў; у былым маёнтку створана МТС, працавалі млын і лесазавод, на якім было занята 150 рабочых. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час акупацыі загінулі 2 вяскоўцы ў партызанах, забіты акупантамі 22 жыхары вёскі. На франтах у






*Брацкая магіла савецкіх воінаў у в. Юхнавічы.*

1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 10 жыхароў. У памяць ахвяр вайны ўстаноўлены помнік. Пры вызваленні вёскі загінулі 24 воіны і пахаваны на яе тэрыторыі, стэла на іх магіле ўстаноўлена ў 1961 г.

З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім, з 25.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 559 жыхароў, у 1959 г. ўзведзены новы будынак школы (у 1961 — сярэдняя з вытв. навучаннем, 321 вучань). Паводле перапісу 1979 г. — 414 жыхароў, у 1997 — 122 двары, 255 жыхароў. З 1945 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Сталіна, які 26.8.1950 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Маленкова (з цэнтрам у вёсцы Бродніца), 16.8.1957 г. перайменаванага ў «Запаветы Ільіча», 20.4.1965 г. рэарганізаванага ў саўгас (з 2003 — СВК) «Бродніцкі». Помнік ахвярам вайны.

**ЯЕЧКАВІЧЫ**, З а р а н к а — вёска ў Бродніцкім с/с. За 11 км на ПдУ ад Іванава, за 8 км ад чыг. ст. Юхнавічы. 463 гаспадаркі, 1369 жыхароў (2005).

Заранка — другая назва в. Яечкавічы ў 1960-я г., якая не прыжылася. Паводле гіст. крыніц вядома ў 16 ст. Пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. — прыватная вёска, якая належала служылым людзям — шляхціцам. У 1774 г. ўпамінаецца ў апісанні маёнтка Дубай Пінскага пав., які належаў пінскім езуітам. З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі, у Слонімскай (з 1797 г. ў Літоўскай) губ. З 1801 г. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. Паводле спіса 1870 г. вёска ў Бродніцкай вол. У кастр. 1905 г. сяляне на сходзе прынялі пастанову аб заснаванні нар. вучылішча, якое было адкрыта ў канцы года (з 1907 у асобным памяшканні, нар. двухкамплектнае вучылішча, на 1914 — 85 вучняў). У 1909 г. ў вёсцы 419 жыхароў, 65 двароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 89 будынкаў, 448 жыхароў.

З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Жабчыцкім р-не Пінскай вобл., цэнтр Яечкавіцкага с/с, 116 двароў, 640 жыхароў. У сельсавет пл. 6300 га уваходзілі ў той час 5 населеных пунктаў, у якіх было 446 двароў, у т.л. 41 хутарскі, і насельніцтва 2226 чал. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў рэйхскамісарыяце «Украіна». У вайну загінулі 6 жыхароў вёскі (ахвяры фаш. тэррору), 1 вясковец загінуў у партызанах, на франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. — 20 чал. На ўшанаванне памяці 37 загінуўшых землякоў ў 1974 г. пастаўлена скульптура воіна.

З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобласці. 16.7.1954 г. сельсавет ліквідаваны, і вёска перададзена ў Бродніцкі с/с. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім, з 25.12.1961 г. ў Пінскім р-нах. З 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-не. У прыстасаваным у 1959 г. будынку дзейнічала школа (на 1961 г. 8-гадовая, 194 вучні). Паводле перапісу 1959 г. — 651, у 1979 г. — 762 жыхары. З 22.7.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Зара камунізму», які 9.9.1950 г. быў узбуйнены (вёска засталася яго цэнтрам). Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР за поспехі ў 1981 г. калгас быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. З 28.2.2003 г. вёска — цэнтр СВК «Зара-агра».

**ЯКША** — вёска ў Бродніцкім с/с. За 16 км на У ад Іванава, 10 км ад чыг. ст.



Юхнавічы. 78 гаспадарак, 138 жыхароў (2005).

Паводле спіса 1870 г. вёска ў складзе маёнтка Аброва Бродніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. і належала памешчыку Пуслоўскаму, у ёй было 54 сяляніны-гаспадары, якія ўваходзілі ў Якшанскае сельскае т-ва.

У 1909 г. ў вёсцы 323 жыхары, 45 двароў. У 1915—18 гг. акупіравана герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 1924 г. у Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., у вёсцы 57 будынкаў, 333 жыхары. У 1929 г. 299 жыхароў, у 1935 г. — 322, у 1938 г. — 66 двароў, 410 жыхароў. З 1939 г. — у БССР. На 1940 г. вёска ў Бродніцкім с/с Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 92 двары, 574 жыхары (паводле іншых звестак — 75 двароў, 350 жыхароў). У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна». У час правядзення карнай аперацыі ў ліп. 1944 г. знішчаны 68 двароў, 9 жыхароў, паводле іншых звестак — 5 ахвяр тэрору. На франтах 2-й сусветнай вайны ў 1939—45 гг. загінулі ці прапалі без вестак 16 жыхароў.

З 8.1.1954 г. вёска ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Іванаўскім, з 25.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. зноў у Іванаўскім р-нах. Паводле перапісу 1959 г. 416 жыхароў, у прыстасаваным у 1958 г. будынку дзейнічала школа (у 1961 7-гадовая, 115 вучняў). Паводле перапісу 1979 г. — 356 жыхароў, у 1997 г. — 92 двары, 170 жыхароў. З 28.12.1949 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Васілеўскага, які 11.11.1950 г. быў узбуйнены і вёска засталася яго цэнтрам. З 9.8.1958 г. ў калгасе імя Дзяржынскага, з 18.1.1963 г. да 1965 г. ў калгасе «Камсамолец», потым у саўгасе «Бродніцкі» (з цэнтрам у в. Бродніца), з 2003 г. ва ўгоддзях СВП «Бродніца». Пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, аддзяленне сувязі, магазін.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2330—2331, 2338; ф. 30, воп. 5, спр. 6753.

Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 254, воп. 1, спр. 4101, 7273.

Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, ф. 1, воп. 17, спр. 833; воп. 190, спр. 2306; ф. 10, воп. 15, спр. 124; воп. 16, спр. 11; ф. 18, воп. 1, спр. 338; ф. 85, воп. 19, спр. 531; ф. 96, воп. 1, спр. 42, 1004, 1264, 1360; ф. 1143, воп. 1, спр. 99—100, 114, 119.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 536.

Акты, издаваемые Виленской комиссией. Т. 18. Вильна, 1891; Т. 24. Вильна, 1897; Т. 33. Вильна, 1908.

Список населенных мест Минской губернии с указанием волостей, сельских обществ и церковных приходов. Мн., 1870.

Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 гг. Вильна, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. СПб., 1886.

Список землевладельцев Минской губернии: издание Минского губернского статистического комитета. Мн., 1889.

Волости и гмины. Гродненская губерния. СПб., 1890.

Волости и гмины. Минская губерния. СПб., 1890.

Список землевладений Гродненской губернии. Гродно, 1890.

Указатель населенным местностям Гродненской губернии... Гродно, 1905.

Список населенных мест Минской губернии / Автор-сост. В.С.Ярмолович. Мн., 1909.
Skorowidz miejscowosci Rzeczypospolitej Polskij. T. 8. Warszawa, 1924.
Справочник административно-территориального деления Брестской области в границах 1921—1939 гг. (машинопись) // Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 2. Мн., 1987.
Справочник по истории колхозов Ивановского района по состоянию на 1.1.1992 г. // Занальны дзяржаўны архіў у Пінску, № 189.
Памяць: Іванаўскі р-н. Мн., 2000.
Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2005.
Спірыдонаў М.Ф. «Кобрынскі павет у канцы 16 ст.» // Атлас гісторыі Беларусі: Дадат. да 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Мн., 2004.

# ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН

Размешчаны на Пн Брэсцкай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. як Косаўскі р-н з цэнтрам у г. Косава. 20.9.1947 г. перайменаваны ў Івацэвіцкі р-н. 14.10.1957 г. далучана частка скасаванага Быценскага, 8.8.1959 г. частка скасаванага Целяханскага р-наў. 25.12.1962 г. Івацэвіцкі р-н скасаваны, 6.1.1965 г. аднаўлены. Плошча 3 тыс. км$^2$, насельніцтва 65,9 тыс. чал. (2005). Цэнтр — г. Івацэвічы. У раён уваходзяць г. Косава, г.п. Целяханы, 109 сельскіх населеных пунктаў. Адміністрацыйна тэр. раёна падзяляецца на 18 сельсаветаў: Аброўскі, Амяльнянскі, Быценскі, Волькаўскі, Выганашчанскі, Дабромысленскі, Даманаўскі, Жытлінскі, Квасевіцкі, Козіцкі, Косаўскі, Любішчыцкі, Мілейкаўскі, Падстарынскі, Рэчкаўскі, Святавольскі, Стайкаўскі, Яглевіцкі, а таксама Косаўскі гарадскі і Целяханскі пасялковы саветы. Мяжуе на Пд з Іванаўскім і Пінскім, на У — з Ганцавіцкім і Ляхавіцкім, на Пн — з Баранавіцкім, на З — з Пружанскім і Бярозаўскім р-намі. Прахо-



*Івацэвіцкі краявід.*

дзяць чыгунка і аўтадарога Мінск—Брэст, аўтадарогі на Пінск, Ружаны, Слонім, Бярозу, магістральныя газаправоды, у т.л. Таржок—Івацэвічы. Па тэр.



*Возера Выганашчанскае.*



Агінскі канал каля воз. Выганашчанскае.



Выступленне артыстаў Івацэвіцкага Дома культуры ў час святкавання Дня беларускага пісьменства ў г. Камянец. 2005 г.

раёна працякаюць р. Шчара і яе прытокі Мышанка, Грыўда, а таксама рэкі Жыгулянка, Руднянка, Фядоска і інш., знаходзяцца Выганашчанскае, Вулькаўскае, Бабровіцкае, Сомінскае азёры, вадасховішчы Даманаўскае, Аброва, Чамялынскае, Гошча, а таксама асушальныя каналы: Агінскі, Аброўскі, Дняпроўска-Нёманскі, Рудня. У межах раёна размешчаны часткі заказнікаў рэсп. значэння: гідралагічны Выганашчанскае, біялагічны Спораўскі, а таксама заказнікі мясц. значэння: паляўнічая гаспадарка рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Целяханы», Грыўда-Уроч, Вялікі Ямінец. Помнікамі прыроды з'яўляюцца Турнянскія чорныя бярозы, парк Грудопаль у в. Дабромысль, Чыстая Дуброва ў в. Кушняры, насаджэнне карэльскай бярозы ва ўрочышчы Церабеж. У раёне санаторыі «Палессе» і «Сасновы бор».

Каля вёсак Бабровічы, Дабрынёва, Любішчыцы выяўлены стаянкі, каля в. Сенькавічы курганны могільнік, каля Косава — гарадзішча, якія з'яўляюцца помнікамі археалогіі. На тэр. раёна захаваліся ўзоры архітэктуры рознага часу: цэрквы — Міхайлаўская 1860 г. ў в. Аброва; Юр'еўская 1790 г., перабудаваная ў 1904 г., у в. Альба; Успенская 1779 г. ў в. Бусяж; Успенская 2-й пал. 17 ст. і касцёл канца 19 ст. ў в. Быцень, Ільінская 2-й пал. 18 ст. са званіцай 1885 г. ў в. Бялавічы, царква 19 ст. ў в. Вулька-Аброўская, знаходзіцца Прачысценская царква 1925 г. ў в. Глінная, Крыжаўзвіжанская 1838 г., ў в. Гошчава, Мікалаеўская 1874 г. ў в. Дабромысль, Юр'еўская пач. 20 ст. ў в. Ёдчыкі, Пятніцы (Пакроўская) 1733 г. ў в. Чарнаўчыцы, Міхайлаўская царква і званіца 1701 г. ў в. Чэрск, Прачысценская 1793 г. ў в. Шэбрын і іншыя.

На тэрыторыі раёна працуюць прадпрыемствы дрэваапрацоўкі, у ліку якіх адкрытае акц. т-ва «Івацэвічыдрэў», а таксама прадпрыемствы ў г. Косава і г.п. Целяханы, лёгкай (адкрытае акц. т-ва «Квасвіцкая пяро-пуховая фабрыка»),



Будынак райвыканкома ў г. Івацэвічы.



Народны ансамбль «Іванічы» Івацэвіцкага раёна.





Ручнік з Івацэвіцкага раёна.



Скульптурны помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у г. Івацэвічы.

харчовай прам-сці (Івацэвіцкі камбінат каап. прам-сці), паліўна-энергетычнае прадпрыемства «Бярозаўскае», Івацэвіцкі з-д жалезабетонных вырабаў. Дзейнічаюць Івацэвіцкае ПТВ-162 сельскагаспадарчай вытв-сці, ліцэй, 29 сярэдніх, 9 базавых, 3 пач., 3 школы-інтэрнаты, 31 дашкольная ўстанова, 2 Дамы дзіцячай творчасці, 47 клубных устаноў, 7 кінаўстановак, 47 бібліятэк, 5 бальніц на 515 ложкаў, 6 амбулаторый, 32 фельч.-акушэрскія пункты; 41 рэлігійная абшчына. Выдаецца газ. «Івацэвіцкі веснік». 17 самадзейным мастацкім калектывам нададзена званне «народны», у т.л. тэатру Целяханскага Дома культуры, які заснаваны ў 1948 г. Дзейнічаюць доследная база «Майск», рэсп. унітарнае лесагаспадарчае прадпрыемства «Целяханы».

**ІВАЦЭВІЧЫ** — горад, цэнтр раёна Брэсцкай вобл. На правым беразе р. Грыўда, за 135 км на ПнУ ад Брэста. Чыгуначная і аўтобусная станцыі на лініі Брэст—Мінск. 24,2 тыс. жыхароў (2005).

Паводле даследаванняў гісторыка М.Любаўскага, паселішча існавала ў 13—15 ст. ў пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1519 г. ў акце Літоўскай метрыкі аб перадачы гарадзенскім купцам за даўгі маёнтка Івацэвічы, уладання Юндзілаў. Маёнтак Івацэвіцкі двойчы згадваецца пры апісанні граніц пушчаў і пераходаў звярыных ВКЛ, складзеных у 1559 г. У ліст. 1560 г. селянін Станіслаў Белавус спаліў тут лесапільню гаспадара. Сярод уладальнікаў маёнтка Юндзілы, Сапегі, Халецкія і інш. З 2-й пал. 16 ст. ў Слонімскім пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ. Каля 1750 г. пабудаваны мураваны касцёл Узвіжання Святога Крыжа, які ў 1866 г. аддадзены



Чыгуначны вакзал у г. Івацэвічы.



*Плошча Леніна ў г. Івацэвічы.*



*Забудова г. Івацэвічы.*

пад праваслаўную царкву, а ў 1922 г. вернуты каталікам. У канцы 18 ст. ў маёнтку Івацэвічы пабудаваны бровар і смалакурня.

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Слонімскай, з 1796 г. ў Літоўскай, з 1802 г. ў Гродзенскай губ. З пракладкай чыгункі Масква—Брэст (уведзена ў эксплуатацыю 29.11.1871) пачала працаваць чыг. станцыя, побач з маёнткам Івацэвічы ўзнікла невялікае пасяленне, якое з развіццём лесараспрацовак расло. У канцы 19 ст. працавалі бровар, цагельня (200 рабочых на пач. 20 ст.), сукнавальня, вадзяны млын. У 1905 г. вёска і маёнтак у Боркінскай вол. Слонімскага пав., 97 жыхароў.



*Вуліца Леніна ў г. Івацэвічы.*



*Святкаванне Дня Перамогі ў г. Івацэвічы. 2005 г.*

У 1-ю сусветную вайну акупіраваны германскімі войскамі, у 1919—20 гг. — войскамі Польшчы. Савецкая ўлада існавала ў ліп.—жн. 1920 г. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, мястэчка ў Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. — в. Івацэвічы ў Боркі-Гічыцкай гміне, 14 двароў, 78 жыхароў; фальварак, 10 двароў, 151 жыхар; чыг. станцыя, 21 будынак, 144 жыхары. У 1920-я г. на чыг. ст. Івацэвічы жыло 1860 чалавек, знаходзіліся гміннае і паштова-тэлегр. праўленні. Маёнтак і лясы каля Івацэвіч належалі графу Юндзілу. У 1920 г. дзейнічалі лесазавод «Віс», амбулаторыя. У 1935 г. каля 1500 жыхароў. Дзейнічала падп. ячэйка КСМЗБ. У 1929 г. на лесапільным з-дзе Рамболь працавала 48 рабочых. У 1934 г. адбылася забастоўка, баставала 306 рабочых лесапільных з-даў. Іх падтрымалі 150 рабочых, якія працавалі на ўрэгуляванні р. Грыўда. З 1939 г. ў складзе БССР, з 1940 г. ў Косаўскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 600 двароў, 2415 жыхароў, МТС (у аднайменным б. маёнтку), лесазавод, спіртзавод, смалакурня, электрастанцыя, млын, крупарушка, абутковая арцель, 3 хлебапякарні, 7-гадовая школа, аддз. сувязі, бальніца, урачэбны ўчастак, дзіцячы сад. З







Аддзяленне «Беларусбанка» ў г. Івацэвічы.

Будынак пошты ў г. Івацэвічы.

24.6.1941 г. да 12.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У Вял. Айч. вайну загінулі 362 жыхары, з іх не вярнуліся з фронту 215. Значная колькасць ахвяр г. Івацэвічы — жыхары яўр. нацыянальнасці, расстраляныя фашыстамі ў 1942 г. ва ўрочышчы Жвіроўня. Дзейнічала патрыятычная падп. група (кіраўнік Ф.Бяляеў). Вызвалялі Івацэвічы часці 20-га стралк. корпуса 28-й арміі 1-га Бел. фронту з удзелам партызан 8-й партыз. брыгады Брэсцкага партыз. злучэння. У баях за горад загінулі 162 сав. воіны і партызаны (пахаваны ў брацкіх магілах на гар. могілках і ў скверы па вул. Савецкай). У 1948 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск, у 1956 г. помнік — скульптура воіна. У маі 1942 г. гітлераўцамі павешаны сакратар Яглевіцкай падп. камсамольскай арг-цыі партызанскі сувязны В.С.Клютко (пахаваны ў в. Яглевічы). У 1966 г. на месцы загубы В.С.Клютко пастаўлена стэла. М.В.Гойшык, падрыўнік партыз. брыгады імя Ф.Э.Дзяржынскага, 24.4.1944 г. з мінай кінуўся пад эшалон з танкамі, гарматамі і жывой сілай ворага. Юны герой пахаваны на партыз. могілках ва ўрочышчы Гута-Міхалін, пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1 ступені. Імем М.В.Гойшыка названа вуліца ў Івацэвічах, ёсць пакой-музей М.В.Гойшыка (вул. Дзяржынскага, 18). Пры вызваленні Івацэвіч загінуў адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Брэсцкай вобл. К.Дз.Талочка, імем якога таксама названа вуліца ў Івацэвічах.

З 20.9.1947 г. — гар. пасёлак, цэнтр Івацэвіцкага р-на. У 1959 г. — 5,2 тыс. жыхароў. У 1962—65 гг. у Бярозаўскім р-не. З 28.5.1966 г. — горад. У 1961 г. сярэдняя школа, школа рабочай моладзі. У 1971 г. — 8 тыс. жыхароў. У 1984 г. Дом Саветаў, гасцініца, універмаг, рэстаран. Прамысловасць горада была звязана з пераапрацоўкай драўніны і с.-г. сыравіны: вытв. дрэваапрацоўчае аб'яднанне,



Святкаванне Дня Незалежнасці ў г. Івацэвічы. 2005 г.



Лёгкаатлетычны забег па вуліцах Івацэвіч.



*Званы для Кірылаўскай царквы ў г. Івацэвічы.*



*Жанчыны ў святочным адзенні з в. Аброва. 1930-я г.*

з-д жалезабетонных вырабаў, спіртзавод, ільнозавод, маслазавод, хлебакамбінат, леспрамгас, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне сельгастэхнікі, метэастанцыя. Меліся 2 сярэднія школы, школа рабочай моладзі, муз. і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 5 дзіцячых дашкольных устаноў, кінатэатр, Дом культуры, 3 б-кі, бальніца. Выдавалася газ. «Кастрычнік»; дзейнічала зона адпачынку на р. Грыўда.

У 1995 г. 17 тыс. жыхароў, у 1997 г. — 19,7 тыс. Размешчаны прам. прадпрыемствы: вытв. аб'яднанне «Івацэвічыдрэў» спіртзавод, ільнозавод, прыборабудаўнічы і жалезабетонных вырабаў з-ды, малаказавод, камбінаты каап. прам-сці і бытавога абслугоўвання, 2 лясгасы, леспрамгас, райсельгастэхніка, станцыя тэхн. абслугоўвання, будаўнічыя арг-цыі, рамонтна-будаўнічы ўчастак, а таксама метэастанцыя, ліцэй, 3 сярэднія і муз. школы, дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі, 6 дзіцячых садоў, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, Дом дзіцячай творчасці, Дом культуры, 2 б-кі, музей імя Мікалая Гойшыка, тэрытарыяльны цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, кінатэатр, 30 магазінаў, бальніца, 4 паліклінікі, 8 аптэк, камбінат быт. абслугоўвання, гасцініца, аддз. сувязі і інш. Выдаецца газ. «Івацэвіцкі веснік», вядзецца раённае радыёвяшчанне. На двух брацкіх магілах помнікі воінам і партызанам Вял. Айч. вайны. Каля Івацэвіч на шашы Брэст—Мінск помнік піянеру-герою Мікалаю Гойшыку. Абеліск на месцы пакарання смерцю ням.-фаш. акупантамі партыз. сувязнога Віктара Клютко. Помнікі воінам-афганцам, Леніну. Праваслаўная царква. Рэшткі старой каталіцкай капліцы. Чыгунка падзяляе горад на паўночную — жылую і паўднёвую — прамысловую часткі. Забудова ажыццяўляецца па генплану 1968 г. На перакрыжаванні галоўных вуліц склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Жылыя дамы ў цэнтры пераважна мураваныя, шматпавярховыя. Астатняя забудова — драўляная, аднапавярховая.

**АБРОВА** — вёска, цэнтр Аброўскага с/с. За 38 км на ПдУ ад Івацэвіч, 175 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На Пд, У і Пн сетка меліярацыйных каналаў, злучаных з р. Ясельда (прыток Прыпяці). Прасёлачнай дарогай злучана з аў-







*Краявід каля в. Аброва.*

*Міхайлаўская царква ў в. Аброва.*

тадарогай Целяханы—Івацэвічы. 540 гаспадарак, 1262 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ. Згадваецца ў 1556 г. пры апісанні пушчы Гацкай у «Рэвізіі пушчаў і пераходаў звярыных у Вялікім княстве Літоўскім...»: пушча «села Гати» мела ўздоўж чатыры мілі, упоперак тры мілі, межавала з Целяханамі, Абровам, Гнойнам, Любішчыцамі і Свяціцкім возерам (цяпер Выганашчанскае). Згадваецца ў Літоўскай метрыцы ў пач. 16 ст. ў сувязі з пагранічнай спрэчкай паміж жыхарамі вёсак Аброва і Гічыцы Слонімскага пав., было ўладаннем абата Троцкага (1559). У 1559 г. на ўладальніка Аброва — абата Троцкага прыводзілася скарга слонімскіх асочнікаў. У 1754 г. на паўн. ускраіне пабудавана, а ў 1800 г. на сродкі памешчыцы Е.Казлянікавай перабудавана драўляная Узвіжанская царква, якая ўяўляе сабой прамавугольны ў плане асн. аб'ём з трохграннай алтарнай часткай і шатровай вежай-званіцай. У царкве меліся 3-ярусны іканастас (57 абразоў), евангеллі 1774 і 1842 гг. выдання, метрычныя кнігі з 1800 г. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у пач. 19 ст. ў Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1860 г. пабудавана драўляная Міхайлаўская царква — помнік архітэктуры, у якім выкарыстаны традыцыі народнага драўлянага дойлідства. У 1870 г. сяло, уладанне Казлянінава, 192 сяляніны, якія былі прыпісаны да Аброўскага сельскага т-ва. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 969 жыхароў, 163 двары з будынкамі, дзейнічалі царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, піцейны дом; у маёнтку Аброва ва ўладанні Казлянінава 3 жыхары, 2 двары з будынкамі. У 1909 г. ў маёнтку 18 жыхароў, 3 двары; у сяле 1024 жыхары, 198 двароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Святавольскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска і аднайменны фальварак, 140 двароў, 723 жыхары.

З версання 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Аброўскага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 264 двары, 1372 жыхары, працавалі млын, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партызанах загінулі 4 жыхары вёскі, 8 расстраляны фашыстамі. У 1952 г. 319 двароў, 1361 жыхар, вяскоўцы ўваходзілі ў створаны калгас імя Маленкова. У 1954 г. працавалі кузня і хата-чытальня, вялася здабыча торфу, вытв-сць саней і калёс. З 8.1.1954 г. вёска ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. 348 жылых будынкаў, 378 гаспадарак, 1596 жыхароў. З 8.8.1959 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1960 г. было 369 двароў, у 1961 г. дзейнічалі школа сельскай моладзі, 7-гадовая школа (253 вучні), у 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 25.12. 1962 г. вёска ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. 1875 жыхароў, праўленне калгаса; у 1997 г. — 1558 жыхароў, 603 двары; у 2002 г. — 575 гаспадарак, 1371 жыхар. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Каля вёскі выяўлены запасы бурштыну.

Пры школе дзейнічае краязнаўчы музей. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, якая на Пн раздвойваецца. Да галоўнай з У і З далучаюцца кароткія шыротныя вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЗЯРЦО** — вёска ў Падстарынскім с/с, за 4 км на Пн ад райцэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы, каля р. Грыўда. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Брэст—Баранавічы. 61 гаспадарка, 119 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як вёска ў складзе Слонімскага пав. ВКЛ. У 1594 г. належала Сапегам; сяляне вёскі плацілі ўладальніку Івацэвіч Сапегу па адной бочцы аўса, таму што мелі дрэнныя землі. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 19 ст. вёска адносілася да маёнтка Івацэвічы, уваходзіла ў склад Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. вёска Азярцы, 372 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Касаўскім пав. Палескага ваяв. У канцы 1920-х г. ў вёсцы існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Сенькаўскім с/с Касаўскага р-на Брэсцкай вобл., 116 двароў, 412 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 3 жыхары вёскі — ахвяры фаш. тэрору. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму», працавала кузня. З 16.7.1954 г. вёска ў Кушняроўскім с/с. У 1959 г. 402 жыхары. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (27 вучняў, будынак пабудаваны ў 1959). З 25.11.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 362 жыхары. З 1987 г. ў Падстарынскім с/с, 169 жыхароў, 76 двароў. У 2002 г. — 72 гаспадаркі, 143 жыхары. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Вёска — радзіма Героя Сацыялістычнай Працы, брыгадзіра трактарнай брыгады Мікалая Васілевіча Букшты.

*Юр'еўская царква ў в. Альба.*



**АЛЬБА** — вёска ў Квасевіцкім с/с, за 25 км на З ад Івацэвіч, 24 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы, на шашы Косава—Ружаны. 46 гаспадарак, 76 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы ў 17 ст. ў Рэчы Паспалітай. У 1790 г. з дрэва на паўд.-усх. ускраіне вёскі побач з могілкамі пабудавана драўляная Юр'еўская праваслаўная царква (помнік архітэктуры). Званіца прыбудавана ў пач. 20 ст.

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1886 г. працавалі вятрак, конны млын, вінакурня, карчма.У 1890 г. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ., сяло, уладанне Льва Пуслоўскага, 67 дзес. царкоўнай зямлі, 1533 дзес. прыватнай. У 1905 г. ў фальварку Альба 57 жыхароў; у маёнтку 7 жыхароў. У 1909 г. ў Косаўскай вол. Слонімскага пав., царква, нар. вучылішча. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. фальварак у Косаўскай гміне, 2 будынкі, 22 жыхары. У 1930-я г. жыхары былі расселены па хутарах. З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. вёска — цэнтр Альбаўскага (Альбіноўскага) с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 54 двары, 333 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 9 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950-я г. арганізаваны



калгас імя Куйбышава. З 16.7.1954 г. ў Верашкоўскім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 188 жыхароў. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 203 жыхары. З 1980 г. ў складзе Квасевіцкага с/с. У 1997 г. 100 жыхароў, 55 двароў; у 2002 г. — 50 гаспадарак, 90 жыхароў.

**АЛЬШАНІЦА** — вёска ў Квасевіцкім с/с, за 6 км на З ад Косава, 18,5 км ад Івацэвіч, 17 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. На Пд і З меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 55 гаспадарак, 104 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Інвентар Кобрынскага староства 1597 г. сведчыць аб тым, што ў сяле ў гэты час было 30 дымоў. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. Альшаніца — вёска ў складзе маёнтка Косава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага, 188 рэвізскіх душ. Альшаніцкае сельскае т-ва налічвала 119 душ, 78 працаўнікоў, 3 вёскі, 440 дзес. зямлі. У 1905 г. ў вёсцы — 430, на хутары 8 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і асада ў Косаўскай гміне, 32 будынкі, 197 жыхароў, з якіх 181 беларус — праваслаўны, 16 палякаў-католікаў. Пад кіраўніцтвам камуністаў у 1930-я г. сяляне вёскі вялі барацьбу супраць камасацыі (хутарызацыі). Улады вымушаны былі прыслаць у дапамогу каморнікам атрад паліцыі. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. цэнтр Альшаніцкага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., вёска, 92 двары, 479 жыхароў; працавалі пач. школа, хата-чытальня, магазін. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; загінулі 5 жыхароў вёскі, ахвяры фаш. тэрору. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1949 г. створаны калгас. У 1950 г. вёска знаходзілася ў складзе калгаса імя Кагановіча, дзейнічала кузня, праводзіліся лесанарыхтоўкі, працавала вяровачная вытвсць. З 31.3.1959 г. ў складзе Бялавіцкага с/с. У 1959 г. ў вёсцы 370 жыхароў. У 1961—90 гг. працавала пач. школа (будынак прыстасаваны ў 1947). З 25.12. 1962 г. ў Бярозаўскім р-не. З 1964 г. вёска ў складзе Верашкоўскага с/с. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. 319 жыхароў. З 1980 г. ў Квасевіцкім с/с. У 1997 г. — 34 жыхары, 75 двароў; у 2002 г. — 64 гаспадаркі, 120 жыхароў. Планіровачна складаецца з двух (працяглай і кароткай) вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

Каля вёскі выяўлены помнікі археалогіі — два курганныя могільнікі. Могільнік-1 размешчаны на ўсх. ускраіне, справа ад дарогі на Бялавічы. 3 насыпы вышынёю 1,2—2 м, дыяметрам 6—12 м. Выявіў у 1960 г. Ю.В.Кухарэнка, даследаваў у 1970 г. П.Ф.Лысенка. Могільнік-2 знаходзіцца за 0,7 км на У ад вёскі, у лесе, каля дарогі на Бялавічы. 7 авальных курганоў вышынёй 0,7 м, дыяметрам 5—6 м выявіў у 1960 г. Ю.В.Кухарэнка, даследаваў у 1970 г. П.Ф.Лысенка.

**АЛЯКСЕЙКІ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 5 км на З ад райцэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На шашы Івацэвічы—Косава. 56 гаспадарак, 119 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. ў 1870 г. Аляксейкі — цэнтр сельскага т-ва, у Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губерні. Т-ва налічвала 103 душы сялян, якія мелі 365 дзес. зямлі. У 1905 г. Аляксееўка — сяло, 263 жыхары. У 1908 г. дзейнічалі царква, вучылішча. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 25 будынкаў, 108 жыхароў, з іх 107 беларусаў. У 1920-я г. дзейнічала камуністычнае падполле. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў складзе Стайкаўскага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. 76 двароў, 296 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. каля вёскі ішлі баі. Праваслаўная цар-

ква, пабудаваная ў 19 ст., згарэла ў 1941 г. У гады вайны загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім, з 25.12. 1962 г. ў Бярозаўскім р-нах. У 1950 г. вёска ўваходзіла ў склад калгаса «Чырвоны Кастрычнік», 239 жыхароў. У 1961—97 гг. дзейнічала пач. школа, у якой атрымлівалі веды 34 вучні. З 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 235 жыхароў. У 1979 г. — 231 жыхар, працавала ферма. У 1997 г. 61 двор, 140 жыхароў. У 2002 г. 59 гаспадарак, 122 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Працуе магазін.

**АМЯЛЬНАЯ** — вёска, цэнтр Амяльнянскага с/с, за 42 км на ПдУ ад райцэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Аўтадарогай звязана з Івацэвічамі. 173 гаспадаркі, 369 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. Пад 1574 г. у актах Брэсцкага гродскага суда пазначана як маёнтак. У 18 ст. ўладанне царквы, на палетках якой вяскоўцы павінны былі адпрацоўваць па дзевяць дзён з валокі штотыднёва. З 1795 г. ў Рас. імперыі. З пач. 19 ст. ў Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Глінненскага царк. прыхода. У 1876 г. Амяльная — вёска аднайменнага маёнтка, уладанне Шпакоўскага; уваходзіла ў склад Амяльнянскага сельскага т-ва, згодна з рэвізіяй налічвала 209 душ сялян. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 52 двары, 327 жыхароў; дзейнічалі хлебазапасны магазін, карчма. Побач знаходзілася сядзіба маёнтка Цэдорава-Амяльная, уласнасць Шпакоўскіх, 4 двары, 6 жыхароў. У 1909 г. вёска ў Пінскім пав. Святавольскай вол. Мінскай губ., 71 двор, 464 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска Амельна, у Святавольскай гміне, 4 будынкі, 23 жыхары (праваслаўныя беларусы). У фальварку Амяльная-Цэдорава 6 будынкаў, 140 жыхароў (132 праваслаўныя, з іх 131 беларус).

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Коланскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 72 двары, 559 жыхароў, арганізаваны калгас імя Молатава, які аб'яднаў 46 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, спалена карнікамі. Дзейнічала падп. патрыят. група, якая ўваходзіла ў Святавольскі падраённы к-т па барацьбе з фаш. акупантамі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1968 г. ў цэнтры вёскі насыпаны курган. У 1947 г. вёска, 96 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 104 двары, 514 жыхароў; у калгасе імя Молатава. У сярэдзіне 1950-х г. працавала кузня, праводзіліся дабыча торфу, лесанарыхтоўкі, была наладжана вытв-сць калёс і саней, дзейнічала б-ка. У 1958 г. 98 жылых будынкаў, 100 гаспадарак, 458 жыхароў. У 1979 г. — 498 жыхароў. З 17.11.1980 г. вёска — цэнтр Амяльнянскага с/с. У 1997 г. 453 жыхары, 173 двары. У 2002 г. — 170 гаспадарак, 392 жыхары. Размешчаны цагельня, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сярэдняя школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АЎСТО** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 105 км ад райцэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Івацэвічы—Косава. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 17 ст. як паселішча маёнтка Гошчава, калі яго гаспадыня падарыла тут тры валокі зямлі Гошчаўскай царкве. Паводле звестак Дзярж. гіст. архіва Літвы, у Гошчаве да 1794 г. існавала грэка-уніяцкая царква. Пасля закрыцця грэка-уніяцкіх цэркваў у 1839 г. сяляне перайшлі ў пра-



васлаўе, сталі наведваць праваслаўную царкву, пабудаваную на месцы былога касцёла. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 19 ст. Аўсто ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — вёска (198 жыхароў) і маёнтак (9 жыхароў). З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Касаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 30 будынкаў, 170 жыхароў (з якіх 169 праваслаўных беларусаў); асада Аўсто, 1 будынак, 3 жыхары (праваслаўныя беларусы). Жыхар вёскі Міхаіл Еўтух быў забіты польскай паліцыяй 3.2.1927 г. ў час дэманстрацыі ў Косаве. На яго доме ўстаноўлена памятная дошка. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Стайкаўскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. 58 двароў, 253 жыхары. У Вял. Айч. вайну загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. створаны калгас «Савецкая Беларусь», дзейнічала кузня. У 1959 г. 200 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 145 жыхароў; у 1997 г. — 42 жыхары, 28 двароў. У 2002 г. — 17 гаспадарак, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАБРОВІЧЫ** — вёска ў Выганашчанскім с/с, на беразе Бабровіцкага возера. За 44,5 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Целяханы—Івацэвічы. 38 гаспадарак, 81 жыхар (2005).

На паўн.-ўсх. беразе воз. Бабровіцкае (у старажытнасці Вядскае) знаходзіцца археал. стаянка, якую выявіў у 1963 г. і даследаваў у 1971 г. У.Ф.Ісаенка. Датуецца 10—6-м тыс. да н.э. Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў складзе Пінскага пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1561 г. сяло, 42 гаспадаркі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 19 ст. вёска Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1876 г. (уваходзіла ў склад Бабровіцкага сельскага таварыства) 163 рэвізскія душы сялян, дзейнічала царква. Паводле перапісу 1897 г. Бабровічы — сяло пры возеры, 134 будынкі, 846 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова, побач прыватная сядзіба Ф.Пуслоўскага з 5 будынкамі, 28 жыхарамі і карчмой. У 1909 г. сяло, 138 двароў, 914 жыхароў. З 1915 акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Святавольскай гміне, 52 будынкі, 350 жыхароў, з якіх 334 беларусы. У 1920-я г. дзейнічала камуністычнае падполле.

З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Бабровіцкага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 140 двароў, 938 жыхароў, пач. школа, медпункт. У вёсцы быў арганізаваны калгас імя Сталіна, рыбалавецкая арцель «Бабровічы» (26 чалавек). У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўскія карнікі расстралялі і спалілі жывымі 676 вяскоўцаў (устаноўлены імёны толькі 563 жыхароў). Згарэлі ўсе вясковыя пабудовы. У 1953 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ўстаноўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Пасля вайны адноўлена. Восенню 1942 г. знішчана разам з жыхарамі таксама в. Вяда (не існуе, знаходзілася за 4 км ад в. Бабровічы, першыя звесткі пра яе адносяцца да 1433; напярэдадні Вял. Айч. вайны налічвала 217 жыхароў; увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь). На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1965 г. недалёка ад спаленай вёскі пастаўлены абеліск. За 4 км ад вёскі каля воз. Бабровіцкае знаходзілася в. Тупічыцы (вядома з 1552, напярэдадні Вял. Айч. вайны 143 жыхары, 43 двары).

У час правядзення карнай аперацыі 15.9.1942 г. фашысты спалілі вёску, загубілі ўсіх яе жыхароў. Тупічыцы не адрадзіліся. У 1965 г. недалёка ад спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

З 1948 г. ў Выганашчанскім с/с, у складзе калгаса імя Сталіна. У 1951 г. 58 двароў, 294 жыхары. У сярэдзіне 1950-х г. ў Баброўічах працавала кузня, вяліся дабыча торфу і лесанарыхтоўкі, была наладжана вытв-сць калёс і саней, дзейнічаў клуб. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. У 1958 г. — 64 жылыя будынкі, 67 гаспадарак, 301 жыхар, Дом культуры, 8-гадовая школа. У 1979 г. — 189 жыхароў; у 1997 г. — 100 жыхароў, 45 двароў. З 8.8.1959 г. Выганашчанскі с/с знаходзіўся ў Лагішынскім, з 6.1.1962 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 2002 г. ў вёсцы 41 гаспадарка, 88 жыхароў, брыгада калгаса «Радзіма». Размешчаны клуб, помнік ахвярам фашызму. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАРАНЫ** — вёска ў Яглевіцкім с/с, за 2 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Івацэвічы—Жытлін. 99 гаспадарак, 335 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1905 г. — фальварак у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 22 жыхары. З 1915 г. акупіраваны герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — фальварак у Косаўскай гміне, 7 будынкаў, 85 жыхароў, з іх 17 беларусаў, 68 палякаў. 20.12.1925 г. фальварак далучаны да Боркі-Гічыцкай гміны Косаўскага пав. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Яблонскім с/с Косаўскага р-на. У 1940 г. — 19 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. Бараны акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не, з 16.7.1954 г. ў Яглевіцкім с/с. У 1959 г. — 125 жыхароў. З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 107 жыхароў. У 1979 г. — 282 жыхары, лясгас; у 1997 г. — 359 жыхароў, 118 двароў. У 2002 г. — 112 гаспадарак, 335 жыхароў. Дзейнічае лясніцтва. Драўляныя і мураваныя будынкі пастаўлены ўздоўж аўтадарогі.

**БОРКІ** — вёска ў Падстарынскім с/с, за 8 км ад Івацэвіч, 11,5 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Брэст—Баранавічы. 79 гаспадарак, 125 жыхароў (2005).

Паводле даследаванняў М.К.Любаўскага, паселішча існавала ў 13—15 ст. У 1720 г. сяло, арандаванае Сапегам, у якім адбыліся сял. хваляванні. Кіраўнікоў паўстання арыштавалі, паўстанне задушана. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. — цэнтр Боркінскай вол. і сельскага т-ва, у Слонімскім пав. Гродзенскай губ. У таварыстве налічвалася 388 душ сялян-гаспадароў, якія мелі 1680 дзес. зямлі. У 1905 г. Боркі — вёска (531 жыхар), маёнтак (20 жыхароў), лясная старожка (5 жыхароў). У 1909 г. дзейнічала царква. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. ў Боркі-Гічыцкай гміне, 19 будынкаў, 107 жыхароў, з якіх 101 беларус. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Падстарынскім с/с Косаўскага р-на. У 1940 г. — 191 двор, 710 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупантамі знішчана 90 двароў, 57 жыхароў. У 1942 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 19 жыхароў вёскі. З 20.9. 1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе імя Шчорса. З 16.7.1954 г. ў Кушняроўскім с/с. У 1959 г. 461 жыхар. У 1961 г. працавала пач. школа. У 1970 г. 447 жыхароў. З 1987 г. ў Падстарынскім с/с. У 1997 г. 178 жыхароў, 98 двароў. У 2002 г. — 86 гаспадарак, 147 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на



ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БУЛА** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Івацэвіч, 25 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы, на р. Булянка (прыток р. Грыўда). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 64 гаспадаркі, 121 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. Трокскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяводстваў ВКЛ, уласнасць казны. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1886 г. 46 двароў, 430 жыхароў, царква, у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. сяло і пасёлак, 834 жыхары, у Косаўскай вол. Слонімскага пав. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв., 80 двароў, 418 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 223 двары, 969 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў чэрв. 1942 г. спалілі 94 двары і загубілі 50 вяскоўцаў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 1 км на У ад в. Грыўда). Партызаны ў 1942 г. разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Паводле перапісу 1959 г. — 506, 1970 г. 388 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма дзеяча рэв. руху ў Зах. Беларусі М.Т.Анішчыка.

**БУСЯЖ** — вёска, цэнтр Мілейкаўскага с/с. Размешчана на Пн раёна, за 9 км ад Косава, 22 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 77 гаспадарак, 213 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць, у Слонімскім пав. Трокскага, з 1566 г. Берасцейскага ваяводстваў ВКЛ. Пры апісанні Пераналоцкай пушчы (1559 г.) наз. маёнткам пана Юндзіла Бусескі. У паўд.-зах. частцы вёскі ў 1779 г. была пабудавана з каменю Успенская царква — помнік архітэктуры барока. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1870 г. мястэчка, цэнтр казённага маёнтка Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 136 жыхароў, у Бусяжскім сельскім т-ве, дзейнічалі валаснoе праўленне, праваслаўная царква, касцёл. Т-ва налічвала 242 душы, 1312 дзес. ворнай зямлі. У 1886 г. 17 двароў, 187 жыхароў, царква, школа. У 1890 г. сяло, 572 дзес. зямлі. У 1905 г. — сяло (328 жыхароў) і маёнтак (14 жыхароў) у Косаўскай вол. У 1908 г. дзейнічалі царква, нар. вучылішча. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — у Косаўскай гміне: фальварак (2 будынкі, 16 жыхароў, з іх 12 беларусаў); вёска (16 будынкаў, 136 жыхароў); асада Бусяж-2 (1 будынак, 7 жыхароў); асада Бусяж-2 (1 будынак, 9 жыхароў). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Бусяжскага с/с Косаўскага р-на. У 1940 г. 91 двор, 365 жыхароў, магазін, медпункт, пошта, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 4 вяскоўцаў (пахаваны за 3 км на Пн ад вёскі; у 1962 на магіле пастаўлены абеліск). На франтах вайны загінулі 2 жыхары вёскі. З 20.9.1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Новы



*Успенская царква ў в. Бусяж.*


*Крынічка ў в. Быцень.*

шлях», займаліся лесанарыхтоўкамі, дзейнічалі маслабойня, вадзяны млын. У 1959 г. — 179 жыхароў. У 1961 г. сярэдняя школа, 155 вучняў. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 25.12. 1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 165, у 1979 г. — 202 жыхары. У 1980 г. — у складзе калгаса імя Суворава. З 1987 г. вёска ў Мілейкаўскім с/с. У 1997 г. 207 жыхароў, 81 двор. У 2002 г. — 81 гаспадарка, 219 жыхароў. Размешчаны базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, ветэрынарны ўчастак.

**БЫЦЕНЬ** — вёска, цэнтр Быценскага с/с. Размешчана на р. Шчара. За 25 км на ПнУ ад Івацэвіч, 159 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Івацэвічы—Слонім. 876 гаспадарак, 1876 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст., упамінаецца як двор і мястэчка Слонімскага пав. ВКЛ. Належаў Марціну Пяткевічу, князям Сямёну Адзінцэвічу і Фёдару Галаўні, Ярашу Карыцкаму. У 1570 г. налічваў 25 дымоў, уладанне старосты жамойцкага, маршалка земскага ВКЛ Яна Хадкевіча. З 1598 г. ва ўладанні канцлера ВКЛ Л.Сапегі. У 1640 г. ўладальнік Быценя падскарбій ВКЛ Мікалай Трызна перадаў маёнтак і мястэчка ў заклад манастыру базыльян, заснаванаму ў 1607 г. яго бацькам Рыгорам Трызнам. У 1615 г. папа рымскі даў кляштару прывілей на адкрыццё духоўнай школы, у якой потым навучалася шмат дзеячаў уніяцкай царквы. У 1626 г. М.Трызна заснаваў у манастыры шпіталь на 10 месц (існаваў да 1830 г.). Моцна разбураны ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654—57 гг. Тады кляштар даў прытулак базыльянам з Вільні, Полацка, Віцебска, Мінска. Настаяцель Б.Тарлецкі (часовы кіраўнік ордэна) прывёз сюды з Віленскага Троіцкага манастыра цудатворны абраз Маці Божай; тут таксама захоўваўся Жыровіцкі абраз Маці Божай. У 2-й пал. 17 ст. з цэглы пабудавана Успенская царква (захавалася, у царкве ўвасоблены рысы архітэктуры рэнесансу і ранняга барока) намаганнямі ігумена Іосіфа Пяткевіча. У 1710 г. храм асвячоны ў гонар свяшчэннамучаніка Іасафата (уніяцкага архіепіскапа І.Кунцэвіча, забітага пад час паўстання ў Віцебску ў 1623). У 1845 г. пераўтворана ў праваслаўную Успенскую царкву. Паміж 1708 і 1710 гг. вялікую Троіцкую царкву пабудаваў Юзаф Пяткевіч (разбурана ў 1914). Царква ўваходзіла ў комплекс уніяцкага манастыра базыльян. У яе архітэктуры своеасабліва спалучаліся формы каталіцкага і праваслаўнага дойлідства. У 1730—37 гг. ў царкве абсталяваны разны іканастас і 11 алтароў. Да царквы прымыкаў двухпавярховы жылы корпус.

У 1766—1914 гг. ў Быцені працавала суконная ф-ка. У час паўстання 1794 г. разбурана, але пазней адноўлена і знач-

*Пажарная часць у в. Быцень.*





на пашырана (80 рабочых у 1896). У 1783 г. сярод сялян маёнтка Быцень было 78% цяглых двароў, 3% чыншавых, 12% баярскіх і зямянскіх, 2% вольных; з прам. прадпрыемстваў — 1 вінакурнае, 5 мукамольных млыноў, маслабойня і вяндлярня. На прадпрыемствах працавалі наёмныя рабочыя з сялян навакольных вёсак і прыгонныя. Пасля працяглых судовых працэсаў Быцень у 1779 г. перайшоў у валоданне нашчадкам Трызнаў — Тызенгаўзам. Цікавае сведчанне, як шанаваліся маёмасныя правы ў ВКЛ, на прыкладзе Быценя прыводзіцца ў 3-м томе «Живописной России»: «Пасля смерці заснавальніка манастыра Рыгора і сына яго падскарбія Мікалая Трызны, які не пакінуў прамых нашчадкаў, багатымі валасцямі Быценя завалодалі базыльяне...». Пошукі ў актах ды архівах высветлілі, што, сапраўды, Быцень аддадзены быў базыльянам толькі пад заклад. Пачаўся працэс, і ў 1779 г. па рашэнні трыбунала маёнтак быў забраны ў базыльян ды аддадзены законным нашчадкам. У 18 ст. пад час паўстання пад кіраўніцтвам Б.Хмяльніцкага ў Быценскім кляштары хаваліся уніяты з Украіны і іншых месцаў. З 1653 г. ў манастыры знаходзіўся кіраўнік базыльянскага ордэна Бенядзікт Тарлецкі. Тут захоўваліся таксама мошчы старца Сімяона Стаўроўскага, настаяцеля манастыра з 1640 г.

З 1795 г. Быцень у складзе Рас. імперыі, мястэчка Слонімскага пав. У 1816 г. адбылося хваляванне сялян, выкліканае ўціскам адміністрацыі. У прашэнні на імя віленскага ваеннага губернатара сяляне 14 вёсак, якія належалі маёнтку Быцень, пісалі аб сваіх пакутах за спробу паскардзіцца гродзенскаму губернатару і цару на бясчынствы аканома. 12 сялян маёнтка, якія падпісалі скаргу цару, былі арыштаваны і пакараны розгамі. Выступленні сялян таксама адбыліся ў маёнтку Быцень у ліст. 1856 г. (маёнтак належаў графам Патоцкім). Хваляванне ахапіла некалькі вёсак. Сяляне



*Успенская царква ў в. Быцень.*

адмаўляліся прыняць інвентары, у якіх фіксаваўся памер паншчынных павіннасцей і розных плацяжоў; быў забіты земскі спраўнік. Зачыншчыка Кандрата Райку з в. Даманава арыштавалі, але сяляне вызвалілі яго. Для ўспакаення сялян у маёнтак былі ўведзены дзве сотні казакаў, якія заставаліся там на працягу 8 месяцаў. Пасля гэтага ў ліп. 1857 г. сяляне вёсак Гнойна і Даманава (400 душ) адмовіліся выходзіць на паншчыну. У Быцень зноў былі накіраваны войскі — 2 роты салдат. У 1856—58 гг. зноў адбыліся антыфеадальныя выступленні сялян.

У 1858 г. ў мястэчку было 134 двары, 975 жыхароў. У 1861 г. сяляне маёнтка Быцень запатрабавалі пераводу іх у катэгорыю дзяржаўных. Выступленне пашырылася на суседнія вёскі. Для падаўлення сял. бунту былі накіраваны паліцэйскі атрад і казакі. Частка сялян асуджана на катаржныя работы ў Сібір, іншыя здадзены ў рэкруты.

У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1867 г. Быцень — мястэчка, уладанне графоў Патоцкіх, 922 жыхары, з якіх дваран — 11, духоўных асоб — 30, куп-

цоў — 30, сялян, якія выйшлі з-пад прыгоннай залежнасці, — 430, мяшчан — 434; землеўладальнікаў — 45, таргоўцаў — 44, рамеснікаў — 42, краўцоў — 3, шаўцоў — 2, булачнікаў — 2, кавалёў — 3; 4 харчэўні, 8 крам, таргі. У 1870 г. цэнтр сельскага т-ва ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. У таварыстве 668 душ сялян-гаспадароў, якія мелі 1695 дзес. зямлі. У 1870 г. Быцень — мястэчка, цэнтр Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ.; мужчын — 193, жанчын — 219, царква, вучылішча; паліцэйскае ўпраўленне, праваслаўны дэканат, прыстань на рацэ, у канцы чэрвеня праводзіліся ярмаркі. У 1885 г. — мястэчка, прыватнае ўладанне, 2 царквы, кірха, сельская школа, грамадская ўправа (дзейнічала з 1879), валасное праўленне (дзейнічала з 1861), 1281 жыхар. У канцы 19 ст. ў цэнтры вёскі пабудаваны касцёл (з сасновага бруса, помнік нар. драўлянага дойлідства з элементамі неаготыкі). У 1890 г. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ., мястэчка ў Быценскай вол., у Быценскім сельскім т-ве, 1921 дзес. зямлі, царк. прычту належалі 85 дзес. зямлі. Маёнтак Быцень належаў К.Патоцкаму, які меў разам з іншымі населенымі пунктамі 15 976 дзес. зямлі. У 1900 г. адкрылася мукамольнае прадпрыемства, якое мела паравую машыну і давала ў год прадукцыі на 1 тыс. рублёў. У 1905 г. — мястэчка, 2318 жыхароў, у Слонімскім пав. Гродзенскай губ., цэнтр Быценскай вол. У 1909 г. царква, 2 вучылішчы, казённая лаўка, фельчарскі пункт.

У 1-ю сусветную вайну акупіраваны герм., у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Быценскай гміны Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 179 двароў, 1278 жыхароў. З 1939 г. — у БССР. З 1940 г. — пасёлак у Быценскім с/с, цэнтр Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., дзейнічалі пач. школа, амбулаторыя, бальніца, пошта. Працаваў лесапільны з-д, на якім было 130 рабочых. У Быцені арганізавана шавецкая арцель, у якой аб'яднана 29 чал.; 40 чал. у кравецкай арцелі. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 27 жыхароў, ахвяр фаш. тэрору. У 1941 г. і 10.7.1944 г. ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў загінулі 63 воіны; пахаваны ў брацкай магіле сав. воінаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

У 1947 г. — мяст. Быцень, 400 гаспадарак; хутар Блок-Быцень, 1 гаспадарка, 1 жыхар; урочышча Плянт-Быцень, 10 гаспадарак. У 1952 г. — мястэчка, 1875 жыхароў, кузня, вяліся дабыча торфу, лесанарыхтоўкі, у складзе калгаса імя Дзімітрава. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — вёска, 429 жылых будынкаў, 586 гаспадарак, 1958 жыхароў, у калгасе імя Дзімітрава. У 1961 г. — в. Быцень Быценскага с/с, сярэдняя школа з вытв. навучаннем (595 вучняў), вячэрняя школа рабочай моладзі (50 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. 27.11.1962 г. далучаны вёскі Зарэчча, Косіна. У 1963 г. працавала ўчастковая бальніца. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1979 г. ў вёсцы 2373 жыхары. У 1997 — 810 двароў, 1947 жыхароў; у 2002 г. — 805 гаспадарак, 1674 жыхары. Размешчаны камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, цэх камбіната будаўнічых матэрыялаў, сярэдняя агульнаадукац. школа і 8-гадовая школа-інтэрнат, клуб, б-ка, бальніца, паліклініка, аптэка, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, магазіны. Помнік воінам і партызанам Вял. Айч. вайны, брацкая магіла сав. воінаў, помнік Леніну.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка і літаратуразнаўцы Міколы Гошчыка.

**БЫЧ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 5 км на З ад Івацэвіч, 4 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. 35 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

Паводле звестак Дзярж. гіст. архіва Літвы, у Гошчаве да 1794 г. існавала грэка-уніяцкая царква. У яе прыход уваходзілі сяляне вёсак Гошчава, Аўсто, Раз-



меркі, Быч, Воля, Серадова. Царква валодала 5 валокамі зямлі. Пасля закрыцця грэка-уніяцкіх цэркваў у 1839 г. сяляне перайшлі ў праваслаўную веру, сталі наведваць праваслаўную царкву, пабудаваную на месцы б. каталіцкага касцёла. Быч згадваецца ў царк. летапісе 19 ст. як невялікае пасяленне. У 1870 г. ў складзе Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У Бычаўскім сельскім т-ве налічваліся 99 душ, 301 дзес. зямлі. Вёска належала маёнтку Косава памешчыка Вандаліна Пуслоўскага. У 1905 г. — вёска, 316 жыхароў, у Косаўскай вол. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Стайкаўскім с/с Косаўскага р-на, 88 двароў, 328 жыхароў; у складзе калгаса імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну загінулі 9 жыхароў вёскі. На могілках — брацкая магіла партызан. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім, з 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-нах. У 1950 г. — у калгасе імя Варашылава праводзіліся лесанарыхтоўкі, існавала вытв-сць калёс і саней. У 1959 г. 249 жыхароў. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (28 вучняў). З 6.1.1965 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. 291 жыхар. У 1979 г. — 166 жыхароў, ферма. У 1997 г. 48 двароў, 80 жыхароў; у 2002 г. — 40 гаспадарак, 62 жыхары.

**БЯЛАВІЧЫ** — вёска ў Косаўскім с/с, за 14 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 153 гаспадаркі, 292 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. ў складзе Клецкага княства ВКЛ. Паводле даследаванняў М.К.Любаўскага, у 1485 г. Ласасін, Бялавічы і Гошчава былі падараваны вял. князем Казімірам цвярскому кн. Міхаілу Барысавічу, які збег з Русі ў Літву пасля паражэння войск маскоўскага кн. Івана III у вайне з ВКЛ. У 1505 г. пасля яго смерці маёнтак увайшоў у склад Слонімскага староства. У кн. «Рэвізія пушч і пераходаў звярыных у Вялікім княстве Літоўскім...» адзначана, што «людзі бялавіцкія жывуць у пушчы Бялавіцкай на пераходзе звярыным». У 16 ст. Бялавічы — шляхецкая ўласнасць, у Слонімскім пав. ВКЛ. Дзейнічала праваслаўная Свята-георгіеўская царква, якая ў 1559 г. валодала значнымі надзеламі ворных і лугавых угоддзяў. У 1630 г. на паўн. ускраіне ўзведзена драўляная Ільінская царква. У 2-й пал. 18 ст. на месцы пастаўленай у 1630 г. царквы была пабудавана драўляная Ільінская царква (мураваная званіца дабудавана ў 1885 г., захавалася; у архітэктуры помніка спалучаюцца рысы традыцыйнага нар. дойлідства і асобныя элементы барока і класіцызму). 22.11. 1791 г. ў Бялавічах у сям'і уніяцкага святара нарадзіўся Міхаіл Лявонавіч Гамаліцкі, бел. вучоны-медык, гісторык, літаратар.



*Ільінская царква ў в. Бялавічы.*




*Традыцыйная сустрэча партызан ва ўрочышчы Гута-Міхалін каля в. Бялавічы.*



*Мураваная званіца Ільінскай царквы ў в. Бялавічы.*

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. сяло ў складзе маёнтка Косава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага, 453 рэвізскія душы сялян, царква, вучылішча. Бялавіцкае сельскае т-ва налічвала 192 душы сялян, 628 дзес. зямлі. У 1877 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1890 г. сяло ў Бялавіцкім сельскім т-ве, 823 дзес. зямлі, царк. прычту належалі 124 дзес. зямлі. У 1905 г. сяло Косаўскай вол. Слонімскага пав., 1038 жыхароў. У 1909 г. дзейнічалі царква, вучылішча, казённая лаўка. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Косаўскай гміне, 57 будынкаў, 371 жыхар, з якіх беларусаў 322. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Бялавіцкага с/с Косаўскага р-на, 264 двары, 1000 жыхароў, клуб (на 150 месцаў), магазін, пач. школа (286 вучняў), 2 каап. крамы. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 16 жыхароў вёскі, ахвяры фаш. тэрору. У гады вайны Бялавічы — важны пункт партыз. краю. За вёскай пачынаўся Гута-Міхалінскі лес, месца базіравання многіх партыз. атрадаў. На ўшанаванне памяці аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай вобл., сакратара Брэсцкага падп. абкома КП(б)Б І.І.Баброва, камісара партыз. брыгады імя П.К.Панамарэнкі К.Дз.Талочкі, якія 1.11.1943 г. загінулі ў Бялавічах у баі супраць ням.-фаш. акупантаў, а таксама 91 жыхара вёсак Бялавічы і Заполле, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1975 г. на іх магіле пастаўлены абеліск.

З 20.9.1947 г. вёска знаходзілася ў Івацэвіцкім р-не. З 31.3.1959 г. з'яўлялася цэнтрам Бялавіцкага с/с. У 1961 г. працавала пач. школа (46 вучняў). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1968 г. ў складзе Косаўскага гарсавета. У 1970 г. 733 жыхары. З 1987 г. ў Косаўскім с/с. У 1997 г. — 180 двароў, 360 жыхароў. У 2002 г. — 160 гаспадарак, 324 жыхары. Размешчаны клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У цэнтры вёскі — абеліск са сцяной Памяці. Помнік Баброву Івану Іванавічу, Талочку Канстанціну Дзям'янавічу і землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху ў Віцебскай вобл. М.І.Пліса.

Каля вёскі знаходзяцца помнікі археалогіі — курганныя могільнікі: могільнік-1 (4 насыпы, выявіла і абследавала ў 1980 В.С.Вяргей) і могільнік-2 (4 насыпы, вядомы з канца 19 ст., абследавала ў 1980 В.С.Вяргей). Таксама за 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Хвойня, знаходзіцца курган вышынёй 2,1 м, дыяметрам 16—17 м.

**ВЕРАШКІ** — вёска ў Квасевіцкім с/с. Непадалёку ад шашы Косава—Ружаны. За 27 км на ПнЗ ад Івацэвіч, 26 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. 55 гаспадарак, 84 жыхары (2005).



Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 20 ст. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Альбаўскім (Альбінаўскім) с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 128 двароў, 475 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 12 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору. Установлены помнік землякам. За 13 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Гута-Міхалін, пахаваны 140 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў у 1941—44 гг. З 20.9. 1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. 16.7. 1954 г. цэнтр Верашкоўскага с/с. У 1959 г. 308 жыхароў. У 1950—60-я г. працавала 7-гадовая школа (127 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 319 жыхароў. З 1980 г. ў Квасевіцкім с/с. У 1980 г. — 122 жыхары, 76 двароў. У 2002 г. — 63 гаспадаркі, 103 жыхары. Размешчаны базавая школа, магазін. Планіровачна складаецца кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВІШНЁЎКА** (да 1964 г. Гнойна) — вёска ў Даманаўскім с/с, за 10,5 км ад Івацэвіч, 2 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. На беразе р. Шчара. 158 гаспадарак, 363 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Згадваецца ў 1556 г. пры апісанні пушчы Гацкай у «Рэвізіі пушч і пераходаў звярыных у Вялікім княстве Літоўскім...»: пушча «села Гати» мела ўздоўж чатыры мілі, упоперак тры мілі, межавала з Целяханамі, Абровам, Гнойнам, Любішчыцамі і Свяціцкім возерам (цяпер Выганашчанскае). У актах Слонімскага земскага суда пазначана пад 1570 г. Дзейнічала царква св. Пятніцы, якая ў 1592 г. была надзелена зямельным участкам. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1856 г. — вёска Гнойна ў складзе маёнтка Быцень Слонімскага пав., належала графам Патоцкім. У ліст. 1856 г. ў маёнтку адбыліся выступленні сялян. Хваляванне ахапіла некалькі вёсак. Сяляне адмаўляліся прыняць інвентары, у якіх фіксаваўся памер паншчынных павіннасцей і розных плацяжоў; быў забіты земскі спраўнік. Зачыншчыка Кандрата Райка з в. Даманава арыштавалі, але сяляне вызвалілі яго. Для заспакойвання сялян у маёнтак былі ўведзены 2 сотні казакоў, якія заставаліся там на працягу 8 месяцаў. Пасля гэтага ў ліп. 1857 г. сяляне вёсак Гнойна і Даманава (400 душ) адмовіліся выходзіць на паншчыну. У Быцень зноў былі накіраваны войскі — 2 роты салдат. У 1861 г. адбыліся хваляванні сялян у в. Гнойна. У 1870 г. Гнойна — цэнтр Гнойнаўскага сельскага т-ва ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. У таварыстве мелася 907 душ сялян-гаспадароў, 1985 дзес. зямлі. У 1870 г. Гнойна — вёска ў маёнтку Быцень, уладанне графоў Патоцкіх, у Быценскай вол. Слонімскага пав., рэвізскіх душ: мужчын — 213, жанчын — 229. У 1884 г. сяляне вёсак Гнойна і Даманава (да 200 душ) аказвалі супраціўленне будаўніцтву Грыўдзенскага вадасховішча на спрэчнай зямлі, напалі на прыказчыка, разбурылі ахоўную будку, якая была пабудавана ў 1877 г.

У 1890 г. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ., в. Гнойна ў Быценскай вол., у Гнойнаўскім сельскім т-ве, 1092 дзес. зямлі. У 1905 г. — в. Гнойна, 871 жыхар, у Слонімскім пав. Гродзенскай губ. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. (34 двары, 193 жыхары). З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Гнойна ў Даманаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл.; разам з пас. Міцкоўшчына — 205 двароў, 921 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 19 жыхароў вёскі — ахвяры фашысцкага тэрору. У 1947 г. — 191 гаспадарка, 10 гаспадарак

у калгасе, 181 — аднаасобнік. У 1952 г. 800 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 14.10.1954 г. — у Івацэвіцкім, з 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-нах. У 1964 г. Гнойна перайменавана ў в. Вішнёўка. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1979 г. — 556 жыхароў; у 1997 г. 167 двароў, 398 жыхароў; у 2002 г. — 151 гаспадарка, 331 жыхар.

**ВОЛЬКА** — вёска, цэнтр Волькаўскага с/с, на левым беразе Шчары. За 27 км на ПдУ ад Івацэвіч, 160 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 311 гаспадарак, 636 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1591 г. 21 дым. У 1592 г. ў складзе Гнойненскага царк. прыхода. Пад 1631 і 1632 гг. ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва пазначана як сяло. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. ў Дабромысленскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., існавалі дзве самастойныя вёскі Волька-1 і Волька-2, якія потым зліліся. Волька-1 належала памешчыку Фадзею Юндзілу; 289 рэвізскіх душ вёскі ўваходзілі ў Рэгінаўскае сельскае т-ва. Волька-2 належала памешчыку Ігнацію Юндзілу, 254 рэвізскія душы вёскі ўваходзілі ў Руднянскае сельскае т-ва. У 1879 г. ў ліку сяленняў Целяханскага царк. прыхода. У 1886 г. 40 двароў, 743 жыхары, царква, у Дабромысленскай вол. Слонімскага пав. У 1909 г. 176 двароў, 1300 жыхароў. У пач. 20 ст. дзейнічала школа. З 1915 г. Волька акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Целяханскай гміне, 60 будынкаў, 319 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска — цэнтр Волькаўскага с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл.; разам з хутарам Падкур'е, хутарам Залом і леснічоўкамі Кабылле і Збішча тут было 295 жыхароў; працавалі пач. школа, клуб, пошта. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 23 жыхары вёскі, ахвяры фашысцкага тэрору. У баях супраць гітлераўцаў загінулі 5 воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле сав. воінаў. У 1974 г. пастаўлены абеліск. 9.7.1944 г. недалёка ад вёскі з часцямі Чырвонай Арміі злучыўся атрад (камандзір П.А.Кудраўцаў, камісар Ц.М. Кавецкі) 8-й брыгады Брэсцкага партыз. злучэння, які 12.7.1944 г. ўдзельнічаў у вызваленні г. Івацэвічы. У 1975 г. ў гонар гэтых падзей пастаўлена стэла. У 1947 г. ў вёсцы 275 гаспадарак. У 1952 г. — 1220 жыхароў, якія працавалі ў створаным калгасе «Іскра», вялі лесанарыхтоўкі.

З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. 343 будынкі, 365 гаспадарак, 1298 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра». У 1930—60-я г. працавала школа (у 1961 7-гадовая, 224 вучні), існавала школа сельскай моладзі (у 1961 — 26 вучняў). У 1960-я г. дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. З 25.12.1962 г. — вёска ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 1918 жыхароў; у 1997 г. — 769 жыхароў, 344 двары; у 2002 г. — 315 гаспадарак, 657 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. За 1,5 км на У ад вёскі, з правага боку дарогі на Дабромысль, знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў.

**ВОЛЯ** — вёска ў Жытлінскім с/с, за 7 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Івацэвічы—Жытлін. 241 гаспадарка, 641 жыхар (2005).

Паводле звестак Дзярж. гіст. архіва Літвы, у Гошчаве існавала да 1794 г. грэка-уніяцкая царква, у прыход якой уваходзілі сяляне в. Воля. У 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. Воля — вёска ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ., у маёнтку Косава, уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага, 167 рэвізскіх душ сялян, якія ўваходзілі ў Волянскае сельскае т-ва. У 1880 г. мелася 430 дзес.



сял. зямлі. У 1905 г. вёска ў Косаўскай вол., 410 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Косаўскай гміне, 35 будынкаў, 165 жыхароў, з якіх 137 беларусаў. 20.12. 1925 г. вёска далучана да Боркі-Гічыцкай гміны Косаўскага пав. У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Яблонскім с/с Косаўскага р-на, 131 двор, 576 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 19 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору.

На Пд ад в. Міхнавічы, злева ад шашы Івацэвічы—Брэст, знаходзіцца помнік М.В.Гойшыку, які пастаўлены ў 1968 г. (скульптар М.Рыжанкоў, архітэктары В.Занковіч, Л.Левін). М.Гойшык нарадзіўся 17.1.1927 г. ў в. Воля, у 1943 г. падрыўнік партыз. брыгады імя Дзяржынскага. 24.4.1944 г. з мінай кінуўся пад эшалон з танкамі, гарматамі і жывой сілай ворага. Юны герой пахаваны на партыз. могілках ва ўрочышчы Гута-Міхалін, пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. З 20.9.1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Калініна, меліся кузня, вытв-сць калёс і саней. З 1954 г. ў Яглевіцкім с/с. У 1959 г. 556 жыхароў. У 1960 г. — цэнтр калгаса імя Кірава, які аб'яднаў 4 вёскі, 280 двароў. У 1961 г. — 7-гадовая школа (116 вучняў). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 634 жыхары. З 1981 г. вёска ў складзе Жытлінскага с/с. У 1997 г. 255 двароў, 572 жыхары; у 2002 г. — 252 гаспадаркі, 615 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, дзіцячыя яслі-сад, ветэрынарны, фельч.-акушэрскі пункты, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пн далучаецца з У кароткая, прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Быценскім с/с, за 30 км на Пн ад Івацэвіч, 18 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 85 гаспадарак, 119 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. вёска ў Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у маёнтку Быцень графоў Патоцкіх, 191 рэвізская душа. Сяляне вёскі былі аб'яднаны ў Вуглоўскае сельскае т-ва, мелі 539 дзес. зямлі. У 1890 г. ў т-ве 625 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 438 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв., 40 двароў, 231 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Доўгаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., разам з асадай Дзеткавічы (за 1 км ад вёскі), 138 двароў, 693 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 5 жыхароў вёскі — ахвяры фашысцкага тэрору. У 1947 г. 119 гаспадарак. У 1952 г. — 546 жыхароў. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. 132 жылых будынкі, 156 гаспадарак, 622 жыхары. У 1959 г. ў складзе калгаса «Краіна саветаў». У 1940—60-я г. працавала школа; у 1961 г. — 7-гадовая школа (71 вучань). З 25.12.1962 г. вёска ў Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1972 г. ў складзе Быценскага с/с. У 1979 г. — 358 жыхароў. У 1997 г. — 106 двароў, 166 жыхароў. У 2002 г. — 86 гаспадарак, 133 жыхары. Размешчаны клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін.



*М.В.Гойшык.*

**ВУЛЬКА-АБРОЎСКАЯ** — вёска ў Козіцкім с/с, за 28 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Целяханы—Івацэвічы. 287 гаспадарак, 746 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Аброўская Вулька, у Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У Вулька-Аброўскім сельскім



Добраўпарадкаваная вуліца ў аграгарадку ў в. Вулька-Аброўская.



Рамонт вуліцы ў аграгарадку ў в. Вулька-Аброўская.

т-ве, 119 душ сялян, 574 дзес. зямлі. Вёска належала казённай ферме Ілкі, мелiся царква i вучылішча. У 1880 г. сяло ў Гічыцкай гміне Слонімскага пав., 48 двароў, 375 жыхароў, царква, 818 дзес. сял. зямлі, 45 дзес. царкоўнай. Царква — помнік нар. драўлянага дойлідства, пабудавана ў цэнтры вёскі ў 19 ст. з сасновага бруса. У 1886 г. 48 двароў, 375 жыхароў. У 1905 г. вёска, 704 жыхары. У 1909 г. дзейнічала нар. вучылішча. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 85 будынкаў, 396 жыхароў, з якіх 386 беларусаў. 20.5.1925 г. далучана да Святавольскай гміны Косаўскага павета. У в. Вулька ў 1931 г. знаходзіўся цэнтр Целяханскага райкома КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Козіцкім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 166 двароў, 732 жыхары, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. акупантамі знішчаны 150 двароў, 21 жыхар. На франтах вайны ў баях з ворагам загінулі 23 вяскоўцы. У 1951—52 гг. вёска, 166 двароў, 628 жыхароў, якія працавалі ў калгасе «Бальшавік». З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1954 г. ў вёсцы працавала кузня, вяліся дабыча торфу і лесанарыхтоўкі, была наладжана вытв-сць калёс і саней, дзейнічала хата-чытальня. У 1958 г. — 164 жылыя будынкі, 186 гаспадарак, 710 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў складзе Івацэвіцкага р-на. У 1961 г. працавала 7-гадовая школа, у якой вучыліся 94 вучні. З 25.12.1962 г. вёска знаходзілася ў складзе Бярозаўскага р-на, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1960-я г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У 1979 г. — 745 жыхароў, праўленне саўгаса. У 1997 г. — 308 двароў, 817 жыхароў; у 2002 г. — 299 гаспадарак, 796 жыхароў. Размешчаны базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца дзве кароткія прамалінейныя, злучаныя паміж сабой вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

Царква ў в. Вулька-Аброўская.



**ВУЛЬКА-ЦЕЛЯХАНСКАЯ** — вёска ў Целяханскім пас. Савеце, за 49 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 232 гаспадаркі, 615 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1880 г. вёска ў Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., размяшча-



лася на беразе воз. Вулька (Волянскае), якое ўваходзіла ў сістэму Агінскага канала; 57 двароў, 209 жыхароў, якія займаліся ў асноўным сплавам лесу. Уладанне Пуслоўскіх, у Вулькаўскім сельскім т-ве. Паводле перапісу 1897 г. Вулька – вёска (135 двароў, 912 жыхароў, хлебазапасны магазін); лясная ахова (2 будынкі, 15 жыхароў) і сядзіба (11 жыхароў, працавала карчма). У 1909 г. ў вёсцы 1300 жыхароў, 176 двароў. У 1915 г. лінія фронту ўстанавілася ўздоўж Агінскага канала і праходзіла праз Целяханы, Вульку-Целяханскую, Выганашчы, Выганашчанскае возера. Фронт стаяў тут да восені 1918 г. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска Вулька-Целяханская ў Целяханскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 202 двары, 1608 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. На фронце загінулі 28 вяскоўцаў. У 1947 г. вёска ў Выганашчанскім с/с, 211 гаспадарак. У 1951—52 гг. вёска налічвала 211 двароў, 1041 жыхара, знаходзілася ў складзе калгаса «1 Мая». З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобласці. З 8.8.1959 г. ў складзе Лагішынскага р-на, 1059 жыхароў. З 25.11.1962 г. ў Пінскім, з 6.1. 1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 996 жыхароў. З 1979 г. ў Гортальскім с/с. З 1987 г. вёска ў Целяханскім пас. Савеце. У 1997 г. – 242 двары, 56 жыхароў; у 2002 г. – 242 гаспадаркі, 650 жыхароў. Размешчаны базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ВЫГАНАШЧЫ** – вёска, цэнтр Выганашчанскага с/с. На ўсх. беразе Агінскага канала, на Пн гідралагічны заказнік Выганашчанскае. За 57 км на У ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 352 гаспадаркі, 823 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц в. Выганашчы вядома з 16 ст., калі ўваходзіла ў Навагародскі пав. ВКЛ, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1558 г. Выганашчы



*Краявід каля в. Выганашчы.*

належалі Кішцы, потым уласнасць гетмана Міхала Агінскага, які быў фундатарам будаўніцтва ў 1775 г. царквы. Святыня мела 3 валокі зямлі, каля 1000 парафіян. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. ў Мінскай губ. Да 1861 г. ўласнасць Пуслоўскіх. Пры размеркаванні зямель з угоддзямі памешчыка Пуслоўскага ў 1861 г. ў вёсцы пачалося выступленне сялян; 10 зачыншчыкаў былі пасаджаны ў турму. У 1870 г. вёска ў Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 150 рэвізскіх душ, якія былі аб'яднаны ў Крывіцкім сельскім т-ве. У 1890 г. 97 двароў. Паводле перапісу 1897 г. – сяло, паселішча на казённай зямлі ва ўладанні Франца Пуслоўскага і аднайменная лясная ахова ў яго ўладанні. У сяле налічваліся 1491 жыхар, 222 будынкі, меліся царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, малочная лаўка; у паселішчы і лясной ахове 18 жыхароў і 3 будынкі. У 1909 г. сяло, 277 двароў, 2283 жыхары. У 1-ю сусветную вайну з набліжэннем фронту жыхароў адправілі ў бежанства ў глыб Расіі. У 1915 г. лінія фронту ўстанавілася ўздоўж Агінскага канала – праходзі-






*Агінскі канал каля в. Выганашчы.*

*Улоў на воз. Выганашчанскае.*

ла праз Целяханы, Вульку-Целяханскую, Выганашчы, Выганашчанскае возера. Фронт стаяў да восені 1918 г. У канцы жн. 1915 г. ў Выганашчы прыйшлі войскі кайзераўскай Германіі. Новыя ўлады пабудавалі лінію абароны на зах. беразе Агінскага канала, якая была разлічана на працяглы час як частка лініі Пінск—Баранавічы. На лініі абароны былі ўзведзены сотні жалезабетонных бліндажоў (рэшткі многіх захаваліся да сённяшняга дня). На ўчастку Выганашчы—Целяханы іх было больш за 50 — штабныя, баявыя, гаспадарчыя. Лінія абароны рус. арміі праходзіла паралельна Агінскаму каналу на адлегласці прыкладна 1 км. Між першымі лініямі абароны праціўнікаў былі загароды з калючага дроту. Немцы праклалі вузкакалейкі ад чыг. ст. Івацэвічы, якія працягнуліся — адна да Выганашчаў, другая да Целяхан, трэцяя — у бок Баранавіч да Выганашчанскага воз. На затоцы Выганашчанскага воз. былі забіты палі. Працавала электрастанцыя, былі ўстаноўлены цыркулярныя пілы, пабудаваны баракі. Тут немцы наладжвалі перапрацоўку драўніны для вывазу ў Германію. На выганашчанскім полі ва ўрочышчы Ганя была арганізавана падсобная гаспадарка — вырошчвалася жыта, гадавалася жывёла. Ва ўрочышчы Нога вялася нарыхтоўка сена. Першыя бежанцы вярталіся ў Выганашчы восенню 1918 г., жылі ў ням. бліндажах і рускіх зямлянках. Вёска была спалена, першыя рубленыя сял. хаты пачалі будавацца толькі пасля 1922 г. З лютага 1919 г. вёска акупіравана польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Целяханскай гміне, 81 будынак, 447 жыхароў, з якіх 426 беларусаў.

З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Выганашчанскага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 293 двары, 1608 жыхароў, працавала пач. школа, была арганізавана рыбалавецкая арцель з 44 жыхарамі. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінула больш за 1300 чал. з сельсавета, з іх не вярнуліся з фронту 43 чалавекі. У вайну загінулі 33 жыхары в. Выганашчы, ахвяры фашысцкага тэрору. У 1967 г. на ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў у Вял. Айч. вайну, на вяршыні кургана Славы пастаўлены абеліск. У 1947 г. ў вёсцы было 287 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 300 двароў, 1710 жыхароў, якія працавалі ў створаным калгасе «30 гадоў ВЛКСМ». З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., вяліся здабыча торфу і лесанарыхтоўкі, дзейнічалі кузня і хата-чытальня. У 1958 г. — 335 жылых будынкаў, 382 гаспадаркі, 1645 жыхароў; недалёка ад вёскі існаваў хутар Выганашчы. З 8.8.1959 г. ў складзе Лагішынскага р-на, з 25.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1962 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 1361 жыхар, у 1997 г. — 380 гаспадарак, 963 жыхары; у 2002 г. — 374 гаспадаркі, 927 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, філіял запаведніка Белавежская пушча, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, ма-





*Помнік на абарончым збудаванні часоў 1-й сусветнай вайны каля в. Выганашчы.*

газіны. Помнікі сав. грамадзянам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну, і партызанам, якія загінулі ў баі з карнікамі на 10-м шлюзе Агінскага канала ў вер. 1942 г. Радзіма бел. мастака М.Клімава.

**ВЯЛІКАЯ ГАЦЬ** — вёска ў Святавольскім с/с, за 31 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На шашы Івацэвічы—Пінск. 369 гаспадарак, 897 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Згадваецца ў 1556 г. пры апісанні пушчы Гацкай у «Рэвізіі пушч і пераходаў звярыных у Вялікім княстве Літоўскім...». Пушча «села Гати» мела ўздоўж чатыры мілі, упоперак тры мілі, межавала з Целяханамі, Абровам, Гнойнам, Любішчыцамі і Свяціцкім возерам (цяпер Выганашчанскае). З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1876 г. складалася з двух сяленняў, якія налічвалі 10 дзярж. сялян і 398 душ, паказаных па рэвізіі, уваходзілі ў Вялікагацкае сельскае т-ва. У 1879 г. сяленне Святавольскага царк. прыхода. У 1880 г. ўпамінаецца як вёска Святавольскай вол. Пінскага пав. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, уладанне Ф.Пуслоўскага, 5 будынкаў, 33 жыхары; аднайменная вёска, 963 жыхары, піцейная ўстанова, 156 будынкаў. У 1909 г. — в. Вялікая Гаць, 1187 жыхароў, 193 двары; в. Малая Гаць, 62 двары, 393 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1920 г. ў вёсцы 105 мужчын, 124 жанчыны, 129 дзяцей. Сяляне мелі 57 коней, 47 кароў, 8 свіней і 8 авечак.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Святавольскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 250 двароў, 1372 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у вёсках Вялікая Гаць і Малая Гаць дзейнічалі падп. патрыят. групы, якія ўваходзілі ў Святавольскі падраённы к-т па барацьбе супраць фаш. акупантаў. Ням. карнікі ў крас. 1944 г. спалілі 126 двароў, загубілі 123 жыхароў. На ўшанаванне памяці 45 жыхароў вёскі, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў на франтах вайны і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1947 г. 251 гаспадарка. У 1951—52 гг. — 265 двароў, 1238 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. 292 жылых будынкі, 316 гаспадарак, 1352 жыхары. З 8.1.1959 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1961 г. працавалі 8-гадовая школа рабочай моладзі (15 вучняў) і 7-гадовая школа (224 вучні). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 1605 жыхароў. У 1997 г. 397 двароў, 908 жыхароў, у калгасе імя Калініна. Планіровачна складаецца з трох прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. У вёсцы размешчаны сярэдняя школа, магазін, дзіцячы сад. Помнік землякам. У 2002 г. — 391 гаспадарка, 894 жыхары.

**ГАЛЕНЧЫЦЫ** — вёска ў Яглевіцкім с/с, за 7 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, далей аўтадарозе Івацэвічы—Целяханы. 89 гаспадарак, 157 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як дзярж. маёмасць у Слонімскім пав. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. вёска, цэнтр Галенчыцкага сельскага т-ва ў Гічыцкай вол. Сло-





німскага пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад казённай фермы Ілкі, налічвала 102 сялянскія душы. У 1905 г. ў вёсцы 280 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў складзе Боркі-Гічыцкай гміны, 33 будынкі, 174 жыхары, з якіх 172 беларусы. У 1920-я г. дзейнічала ячэйка КПЗБ, якая з 1931 г. падпарадкоўвалася Целяханскаму райкому КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Яглевіцкім с/с Косаўскага р-на. У 1940 г. — 80 двароў, 364 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопінкамі, якія ў крас. 1942 г. знішчылі 73 двары, загубілі 23 жыхароў. На франтах вайны загінула 27 вяскоўцаў. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім, з 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-нах. У 1959 г. — 316 жыхароў. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (21 вучань). З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім. У 1970 г. — 327 жыхароў; у 1997 г. 79 двароў, 179 жыхароў; у 2002 г. — 92 гаспадаркі, 171 жыхар. Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ГАЛІК** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 27,5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 39 гаспадарак, 66 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Галік — вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ.; 269 сял. душ вёскі ўваходзілі ў Бусяжскае сельскае т-ва. У 1890 г. ў карыстанні сялян знаходзілася 749 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска ў Косаўскай вол., 506 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска Вялікі Галік, у Косаўскай гміне, 77 будынкаў, 326 жыхароў (праваслаўных беларусаў). У 1924—39 гг. дзейнічала камуністычнакамсамольскае падполле. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Бусяжскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 117 двароў, 444 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 11 жыхароў вёскі — ахвяры фашысцкага тэрору. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1949 г. створаны калгас «Зара камунізму», у якім працавала кузня. У 1959 г. — 341 жыхар, дзейнічала пач. школа (у 1961 — 20 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 274 жыхары. З 1987 г. ў складзе Мілейкаўскага с/с. У 1997 г. 50 двароў, 87 жыхароў; у 2002 г. — 45 гаспадарак, 76 жыхароў. Працуе магазін.

**ГАЛЫНКА** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 26,5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1833 г. Галынка — мястэчка, 226 жыхароў, драўляная царква, 30 драўляных дамоў, піцейны дом. У 1870 г. вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Бусяжскім сельскім т-ве, 74 сял. душы. У 1885 г. — мястэчка ў Косаўскай вол., 572 жыхары, дзейнічалі сельская школа, грамадская ўправа (з 1880), млын, 3 крамы, 2 карчмы. У 1890 г. вяскоўцы апрацоўвалі 242 дзес. зямлі. У 1905 г. — вёска, 177 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 15 будынкаў, 56 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Бусяжскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 45 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 13 жыхароў вёскі — ахвяры фашысцкага тэрору. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У



1950 г. — у складзе калгаса «Праўда». У 1959 г. 76 жыхароў. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 50 жыхароў. У 1980 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава. З 1987 г. вёска ў складзе Мілейкаўскага с/с. У 1997 г. 9 двароў, 17 жыхароў; у 2002 г. — 5 гаспадарак, 12 жыхароў.

**ГІЧЫЦЫ** — вёска ў Яглевіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Івацэвічы—Целяханы. 121 гаспадарка, 188 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1594 г. належалі Сапегам; сяляне вёскі плацілі ўладальніку па адной бочцы аўса, таму што мелі дрэнныя землі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. — цэнтр Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Гічыцкае сельскае т-ва налічвала 91 душу сялян, 687 дзес. зямлі. Вёска ўваходзіла ў склад казённай фермы Ілкі ў Гічыцкай вол., 178 жыхароў, дзейнічала валасное праўленне. У 1905 г. — вёска, 466 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 40 будынкаў, 300 жыхароў, з якіх 256 беларусаў. У 1923 г. ў Боркі-Гічыцкай гміне арганізаваны ячэйкі КПЗБ. Да студз. 1929 г. на тэрыторыі Боркі-Гічыцкай, Святавольскай і Целяханскай гмін дзейнічала звыш 20 ячэек КПЗБ, якія падпарадкоўваліся Косаўскаму райкому. Пасля 1929 г. Целяханскі гар. к-т рэарганізаваны ў Целяханскі райком КПЗБ, цэнтр быў спачатку ў Целяханах, потым перанесены ў в. Гічыцы.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Яглевіцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 184 двары, 834 жыхары, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. (паводле іншых звестак, у крас. 1942) фашысты загубілі 42 жыхароў і спалілі 121 двор вёскі. У 1967 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фаш. тэрору на магіле загінуўшых пастаўлены абеліск. На франтах Вял. Айч. вайны загінула 49 жыхароў вёскі. З 20.9. 1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Партызан», дзейнічалі кузня, сталярная майстэрня. З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1959 г. — 426 жыхароў. У 1961 г. працавала пач. школа (34 вучні). З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 459 жыхароў. У 1979 г. — 411 жыхароў, ферма. У 1997 г. 115 двароў, 247 жыхароў; у 2002 г. — 110 гаспадарак, 214 жыхароў. Каля вёскі выяўлены тры археал. помнікі. Размешчаны пач. школа, магазін. Помнік ахвярам фашызму.

Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж дарогі) і забудаванай нятчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГЛАДЫШЫ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 10 км на Пн ад Косава, 29 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 22 гаспадаркі, 26 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. — вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Даргужоўскім сельскім т-ве, 122 жыхары. У 1890 г. — 349 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска ў Косаўскай вол., 264 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Бусяжскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 76 двароў, 241 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. — 188 жыхароў. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (21 вучань). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім. З 1968 г. вёска ў Мілейкаўскім с/с. У 1970 г. — 161, у 1979 г. — 90 жыхароў. У 1980 г. ў саўгасе «Мілейкі», у 1990-я г. — у складзе аграпрамысловага камбіната

«Беларусь». У 1997 г. 25 двароў, 36 жыхароў; у 2002 г. — 21 гаспадарка, 29 жыхароў.

**ГЛІНІШЧА** — вёска ў Целяханскім пас. Савеце, за 45 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, далей аўтадарозе Івацэвічы—Лагішын. 48 гаспадарак, 94 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. як сяленне ў Пінскім пав. ВКЛ. Пад 1498 г. пазначана пры продажы вёскі Алёхнай Курэйшавым Х.Д.Гутоўскаму. У матэрыялах ВКЛ аб пушчах згадваецца ў 1559 г. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. Глінішча — фальварак, уладанне Франца Пуслоўскага, у Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 1 будынак. У 1909 г. фальварак, 1 двор, 3 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — фальварак Глінішча ў Целяханскай гміне. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. ў Целяханскім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працавала хата-чытальня. З 1959 г. ў Лагішынскім р-не, з 1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 314 жыхароў. У 1979 г. — 246 жыхароў; у 1997 г. 64 двары, 130 жыхароў; у 2002 г. — 55 гаспадарак, 104 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГЛІННАЯ** — вёска ў Амяльнянскім с/с, за 40 км на ПдУ ад Івацэвіч, 42 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Аўтадарогай злучана з Івацэвічамі. 271 гаспадарка, 612 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1555 г., мяркуючы па грамаце каралевы Боны, сяло ў валоданні М.Вайцяховіча. У 18 ст. ў цэнтры вёскі пабудавана драўляная прыходская Святабагародзіцкая царква, у архівах якой захоўваліся метрычныя кнігі з 1800 г. З 1795 г. ў Рас. імперыі.


*Прачысценская царква ў в. Глінная.*

У 1880 г. вёска ў Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Побач з вёскай знаходзіліся 2 маёнткі: Глінная-1, уласнасць Сініцкага, 49 рэвізскіх душ сялян; Глінная-2, уладанне Краскоўскай, 46 рэвізскіх душ. Вяскоўцы разам з жыхарамі в. Гошча ўваходзілі ў Гліnненскае сельскае т-ва. Паводле перапісу 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі: сяло Глінная-1, 36 двароў, 210 жыхароў, дзейнічалі царква, царк.-прыходская школа; в. Глінная-2, 30 двароў, 176 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач з сялом размяшчаліся сядзібы двух маёнткаў Гліннае — уладанне Гартэнзіі Ліпскай (4 двары, 14 жыхароў) і ўладанне Іпацэвіча (3 двары, 12 жыхароў). У 1909 г. — 2 маёнткі Гліннае, уладанні памешчыцы Ліпскай і Шамбаранта; сяло (454 жыхары, 83 двары), у Святавольскай вол. Пінскага пав. З 1915 г. акупіравана герм., частка жыхароў збегла. З 1919 г. акупіравана польскімі войскамі. У 1920 г. ў вёсках Глінная-1 і Глінная-2 пражывалі 70 жыхароў, сяляне мелі 11 коней, 15 кароў, 13 свіней. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска Глінна ў Святавольскай гміне, 71 будынак, 231 жыхар, з якіх 228 беларусаў; фальварак Глінна-1 (2 будынкі, 24 жыхары, з якіх 23 праваслаўныя беларусы); фальварак Глінна-2 (2 будынкі, 14 жыхароў, з якіх 13 праваслаўных беларусаў). У 1925 г. ў цэнтры вёскі з сасно-



вага бруса пабудавана Прачысценская царква (помнік нар. драўлянага дойлідства). Перад царквой — двух'ярусная шатровая званіца. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. — вёска ў Коланскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 140 двароў, 767 жыхароў. У 1940 г. створаны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. патрыят. група. У 1947 г. 110 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 119 двароў, 536 жыхароў, у складзе калгаса імя Молатава, працавала кузня. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. — 130 жылых будынкаў, 135 гаспадарак, 593 жыхары. З 1959 г. ў Лагішынскім, з 1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 705 жыхароў. На 1979 г. — 752 жыхары. З 1980 г. ў Амяльнянскім с/с. У 1997 г. 265 двароў, 765 жыхароў; у 2002 г. — 269 гаспадарак, 625 жыхароў. Размешчаны пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пн далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГЛЯДЗЕННЕ**, Г л я д з е н і — вёска ў Дабромысленскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Івацэвіч, 22 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 46 гаспадарак, 106 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. — вёска ў Дабромысленскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Дабромысленскім сельскім т-ве, 55 рэвізскіх душ. У 1890 г. вёска Глядзені, 151 дзес. зямлі. У 1905 г. — 224 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Дабромысленскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл.; разам з асадай Аўгустова 60 двароў, 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 5 жыхароў вёскі, ахвяр фаш. тэрору. У 1947 г. — вёска, 86 гаспадарак. У 1952 г. 352 жыхары. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 69 гаспадарак, 228 жыхароў, працавала пач. школа (24 вучні). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 245 жыхароў. У 1979 г. — 208 жыхароў, лясніцтва. У 1997 г. — 66 двароў, 120 жыхароў; у 2002 г. — 54 гаспадаркі, 122 жыхары.

**ГОРТАЛЬ** — вёска ў Целяханскім пас. Савеце, за 50 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 338 гаспадарак, 1060 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1876 г. Гorталь — вёска ў Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 119 жыхароў, у Гортальскім сельскім т-ве. У 1879 г. сяленне ўваходзіла ў Целяханскі царк. прыход. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 72 будынкі, 495 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба, 2 будынкі, 18 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 762 жыхары, 80 двароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Целяханскай гміне, 74 будынкі, 461 жыхар, з якіх 457 беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. — вёска, цэнтр Гортальскага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 141 двор, 772 жыхары, смалакурня, арцель, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 88 землякоў, якія загінулі на франтах вайны і ў партыз. барацьбе, у 1975 г. пастаўлены абеліск. У 1947 г. — 175 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 180 двароў, 349 жыхароў, у складзе калгаса імя Будзённага. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1954 г. — кузня, хата-чытальня, дабыча торфу. У 1958 г. — 214 жылых будынкаў, 238 гаспадарак, 1105 жыхароў, інтэрнат леспрамгаспадаркі. З 8.8.1959 г. ў складзе Лагішынскага р-на, з 25.11.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах.

У 1970 г. 278 двароў, 1362 жыхары. У 1979 г. — 1371 жыхар. З 1987 г. вёска ў Целяханскім пас. Савеце. У 1997 г. 340 двароў, 1135 жыхароў, цэнтр калгаса імя Куйбышава. У 2002 г. — 347 гаспадарак, 1166 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазіны. Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну.

**ГОШЧА** — вёска ў Амяльнянскім с/с, на беразе Гашчанскага возера. За 46,5 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Пінскім пав. ВКЛ. Пад 1520 г. пазначана ў даравальным запісе кн. Ф.І.Яраславіча Багародзіцкай царкве Ляшчанскага манастыра. У 1559 г. ўпамінаецца ў матэрыялах аб пушчах ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1880 г. вёска ў Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 24 жыхары, вяскоўцы ўваходзілі ў Глінненскае сельскае т-ва, адносіліся да Глінненскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 114 жыхароў. У 1909 г. — 16 двароў, 125 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Святавольскай гміне, 20 будынкаў, 121 жыхар (праваслаўныя беларусы). З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. — вёска Гошча ў Коланскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 27 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. 35 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 33 двары, 137 жыхароў, у складзе калгаса імя Молатава. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. — 38 жылых будынкаў, 42 гаспадаркі, 170 жыхароў. З 1959 г. ў Лагішынскім, з 1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 192, у 1979 г. — 175 жыхароў. З 1980 г. ў Амяльнянскім с/с. У 1997 г. 42 двары, 88 жыхароў; у 2002 г. — 38 гаспадарак, 75 жыхароў.

**ГОШЧАВА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 10 км на З ад Івацэвіч, 130 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Косава—Няхачава. 351 гаспадарка, 790 жыхароў (2005).

Паводле звестак мясц. краязнаўцаў, назва вёскі паходзіць ад імя княжацкага дружынніка ваяра Гошчы, які распусціў сваю дружыну, і многія яго паплечнікі пасяліліся на ўзвышшы і пачалі гаспадарыць.

З пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. ў Клецкім княстве ВКЛ. Паводле даследаванняў М.К.Любаўскага, у 1485 г. Ласасін, Бялавічы і Гошчава былі падараваны вял. князем Казімірам цвярскому кн. Міхаілу Барысавічу, які збег з Русі ў Літву пасля паражэння войск маскоўскага князя Івана III у вайне з ВКЛ. У кнізе «Рэвізія пушч і пераходаў звярыных у Вялікім княстве Літоўскім...» Гошчава згадваецца як уладанне Льва Абразцова, якому яно перайшло пасля смерці цвярскога кн. Міхаіла Барысавіча. Раней належала князям Чартарыйскім. У 1559 г. пры апісанні граніц пушчаў ВКЛ прыводзяцца скаргі пасялян на дзеянні гошчаўскага ўладара Льва Абразцова: ён «праз граніцу старадаўнюю перайшоўшы нямала яго пушчы гаспадарскае забраўшы, асадзіў там людзей 11 службаў». У 16 ст. вёска ў Слонімскім пав. ВКЛ. У пач. 17 ст. — уладанне Тышкевічаў. Альжбета Тышкевічава-Савіцкая ў 1614 г. пры падзеле маёнтка Гошчава паміж сынамі замацавала 3 валокі зямлі за гошчаўскай царквой, якую пабудавала ў 1596 г. (пазней царква згарэла). Яе ўнук кашталян смаленскі Мікалай Тышкевіч у 1692 г. пабудаваў дамініканскі кляштар і касцёл. У 1776 г. Івацэвіцкі ўласнік пан Глухоўскі спаліў кляштар.

Паводле звестак Дзярж. гіст. архіва Літвы, у Гошчаве ў 18 ст. існавала грэка-уніяцкая царква. Як значыцца ў кнізе візітацыі касцёлаў Слонімскага і Лідскага дэканатаў, гэта царква да 1794 г. была



ўжо вельмі старая, дах працякаў. Цэнтральны алтар мясц. сталярнай работы з'яўляўся вялікай каштоўнасцю. На ім вісела стараж. ікона з лікам Хрыста, маляваная на дошцы. На маленькім алтары вісела срэбрам і золатам маляваная (упрыгожаная) ікона Св. Марыі. У спісе інвентару царквы ёсць упамінанне пра каштоўны кубак, які падаравалі царкве манахі-дамініканцы. У Гошчаўскі грэка-уніяцкі прыход уваходзілі сяляне вёсак Гошчава, Аўсто, Размеркі, Быч, Воля, Сярадава. Царква валодала 5 валокамі зямлі. У 19 ст. уніяцкая царква прыйшла ў заняпад, у больш пазнейшых дакументах згадваюцца руіны старой царквы. На гэтым месцы знаходзяцца могілкі.

З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 19 ст. ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. У час Айч. вайны 1812 г. каля в. Гошчава стаяў са сваім штабам ген. Собалеў. З 1814 г. маёнтак Гошчава належаў Быценскаму кляштару базыльян. У 1838 г. каля дарогі ў г. Косава пабудавана драўляная Крыжаўзвіжанская царква, у якой выкарыстаны прыёмы нар. драўлянага дойлідства. У 1854—55 гг. група сялян вёскі праводзіла самавольную высечку казённага лесу, за што была прыцягнута да адказнасці. Паводле інвентару 1859 г. — казённы маёнтак, які меў 1394 дзес. зямлі, прыдатнай для земляробства, 226 дзес. —пад лесам, 41 дзес. — няўдобіц, 54 дзес. зямлі належалі царкве. Сяляне з прыдатных для земляробства зямель мелі 765 дзес.; ферма Гошчава — 393,35 дзес. зямлі. За маёнткам лічыліся 182 душы мужчынскага полу. 12.8.1859 г. адбыўся сельскі сход у Гошчава Боркінскага сельскага т-ва, сяляне даслалі гродзенскаму губернатару скаргі на сваё цяжкае становішча. Адзін з сялян вёскі ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях Расіі, на Каўказе, і атрымаў медаль «За покорение Западного Кавказа» (1850—64).

У 1867 г. Гошчава — казённая ферма, 177 дзес. зручнай зямлі, 12 дзес. — не-



*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Гошчава.*

прыдатнай для земляробства; у Гошчаўскім сельскім т-ве — 138 душ, 399 дзес. зямлі зручнай, 100 — непрыдатнай для земляробства. У 1870 г. Гошчава ў Косаўскай вол. Слонімскага пав., сяляне ўваходзілі ў склад некалькіх сельскіх т-ваў. У Гошчаўскім сельскім т-ве былі 133 душы сялян, 399 дзес. зямлі. У Велікагошчаўскім сельскім т-ве — 26 душ, 131 дзес. зямлі. У 2-м Гошчаўскім сельскім т-ве — 173 душы, 905 дзес. зямлі. У 1870 г. вёска Гошчаў уваходзіла ў склад маёнтка Косава; уласнасць памешчыка Вандаліна Пуслоўскага, 184 рэвізскія душы, дзейнічалі царква, нар. вучылішча. У 1870 г. вядомы таксама: вёска Веліка-Гошчаў у маёнтку Косава, уладанне Напалеона Палубінскага, 53 рэвізскія душы; казённы маёнтак, 326 сялянскіх душ. У 1886 г. 73 двары, 786 жыхароў, царква, школа, вінакурня, конны млын. У 1890 г. сяло, 652 дзес. зямлі; у маёнтку Гошчава Мікалаю Нікіціну належалі 390 дзес. зямлі; у фальварку Гошчава разам з іншымі фальваркамі — 2251 дзес. зямлі належалі Льву Пуслоўскаму; у пас. Гошчава Адаму Раткевічу — 18 дзес. зямлі, царкоўнаму прычту належалі 79 дзес. зямлі. У 1905 г. сяло (1165 жыхароў), маёнтак (25 жыхароў), фальварак (21 жыхар) у Косаўскай вол. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі. У 1-ю сусветную вайну ўсё насельніцтва вёскі выязджала ў бежанства. Вярнуліся ў 1920—21 гг. З лютага 1919 г. акупіравана польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і фальварак у Косаўскай

гміне; у вёсцы 127 будынкаў, 802 жыхары, з якіх 768 беларусаў. У фальварку 1 будынак, 7 жыхароў.

У 1929 г. жыхары вёсак Гошчава і Сенькавічы падалі школьнаму інспектару заяву аб навучанні іх дзяцей на бел. мове і адкрыцці бел. школы. Пасля таго, як улады адмовіліся выканаць просьбу, адбылася дэманстрацыя. У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска — цэнтр Гошчаўскага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 337 двароў, 1450 жыхароў, сярэдняя школа, клуб. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 56 вяскоўцаў змагаліся з ворагамі ў партыз. атрадах, больш за 200 чалавек — на фронце. Ням.-фаш. акупанты расстралялі 40 мірных жыхароў вёскі. На ўшанаванне памяці 65 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. жыхары працавалі ў створаным калгасе «Запаветы Ільіча», дзейнічала кузня. З 1954 г. ў Стайкаўскім с/с. У 1959 г. — 1247 жыхароў. У 1960 г. вёска ўваходзіла ў склад калгаса імя Леніна. У 1961 г. дзейнічала сярэдняя школа з прац. навучаннем (353 вучні). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 1313, у 1979 г. — 1133 жыхары. У 1997 г. 390 двароў, 948 жыхароў; у 2002 г. — 375 гаспадарак, 841 жыхар. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, б-ка, бальніца, майстэрні камбіната быт. абслугоўвання, магазіны. Планіровачна складаецца з працяглай, крыху выгнутай, шыротнай вуліцы, якая на З далучаецца да цэнтра кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж аўтадарогі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма бел. літаратуразнаўцы Аляксея Майсейчыка.

**ГРЫЎДА** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, на беразе р. Грыўда. За 17 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 105 гаспадарак, 247 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Належала панам Храптовічам. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1867 г. — маёнтак Палубінскіх у Слонімскім пав. Гродзенскай губ., 797 дзес. зямлі, прыдатнай для земляробства. У Грыўдзенскім сельскім т-ве было 225 душ сялян, 1035 дзес. прыдатнай зямлі. У 1870 г. вёска ў Косаўскай вол. Слонімскага пав., 204 жыхары. У 1886 г. дзейнічалі царква, вадзяны млын, карчма. У 1905 г. — вёска (597 жыхароў) і маёнтак (21 жыхар) у Косаўскай вол. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і асада ў Косаўскай гміне; у вёсцы 40 будынкаў, 182 жыхары, з якіх 174 праваслаўныя беларусы; у фальварку 3 будынкі, 26 жыхароў, з якіх 15 праваслаўных беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Грыўдзенскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 180 двароў, 601 жыхар, магазін, хата-чытальня, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты расстралялі 10 вяскоўцаў. За 1 км на У ад вёскі, у лесе, пахаваны 27 жыхароў в. Була, якіх у 1942 г. расстралялі ням.-фаш. акупанты. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск. З 20.9.1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. З 17.4.1959 г. ў Бусяжскім с/с. У 1959 г. — 411 жыхароў, цэнтр калгаса імя Суворава. У 1961 г. працавала пач. школа (17 вучняў). З 1962 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1963 г. — сяло, працавала бальніца. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. 369 жыхароў. З 1987 г. вёска ў складзе Мілейкаўскага с/с. У 1997 г. 115 двароў, 258 жыхароў; у 2002 г. — 112 гас-



падарак, 258 жыхароў. Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДАБРОМЫСЛЬ** — вёска, цэнтр Дабромысленскага с/с, на беразе р. Шчара. За 32 км на ПнУ ад Івацэвіч, 174 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 270 гаспадарак, 616 жыхароў (2005).

На Пд вёскі, каля р. Шчара, ва ўрочышчы Вал, археолаг П.Ф.Лысенка выявіў гладкасценную кераміку раннефеад. часу. Паводле пісьмовых крыніц Дабромысль вядома з 15 ст. ў складзе Клецкага княства, потым у Слонімскім пав. ВКЛ. Паводле даследаванняў М.К.Любаўскага, Дабромысль — сяло, якое вял. князь літ. Казімір пажалаваў пану Яну Немiровічу. У 1518 г. Я.Неміровіч запісаў сваёй жонцы трэцюю частку маёмасці і, у ліку іншых, сёлы Дабромысль і Нулавіды (цяпер в. Мілавіды). У 1559 г. вядома пушча Дабромысленская як уладанне Хадкевічаў. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. Жыхары вёскі прымалі ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. У 1870 г. вёска — цэнтр Дабромысленскага сельскага т-ва, у Слонімскім пав. Гродзенскай губ. У таварыстве налічвалася 29 душ дзярж. сялян, якія мелі 75 дзес. зямлі, а таксама 281 душа сялян-гаспадароў, якія мелі 1115 дзес. зямлі. У вёсцы дзейнічалі царква, нар. вучылішча (заснавана ў 1862), валаснoе праўленне. У 1874 г. на ўскраіне вёскі была пабудавана Мікалаеўская царква (з цэглы па тыпавым праекце, помнік архітэктуры рэтраспектыўнарускага стылю). У 1886 г. 63 двары, 474 жыхары, 2 царквы, капліца. У 1890 г. сяло ў Дабромысленскай вол., у Дабромысленскім сельскім т-ве, 871 дзес. зямлі; царкоўнаму прычту належалі 56 дзес. зямлі; у маёнтку Дабромысль, які належаў Аўгусціну Юндзілу, разам з іншымі фальваркамі — 5592 дзес.; у паселішчы Дабромысль — 76 дзес. зямлі. У 1905 г. — сяло (1083 жыхары), маёнтак (43 жыхары). У 1909 г. царква, вучылішча, казённая лаўка, фельч. пункт. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. — вёска ў Дабромысленскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 266 двароў, 1190 жыхароў, пач. школа, пошта, амбулаторыя. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны атрада імя Шчорса 10.9.1942 г. вялі з ням. акупантамі цяжкі бой каля вёскі і нанеслі карнікам вял. страты. У гады вайны загінулі 35 жыхароў в. Дабромысль. На ўшанаванне памяці землякоў, загінуўшых у барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў, у 1974 г. пастаўлены абеліск. У 1947 г. — 260 гаспадарак. З 1951 г. ў складзе калгаса імя Молатава. У 1952 г. — 1209 жыхароў, працавала кузня, вяліся дабыча торфу і лесанарыхтоўкі. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 246 жылых будынкаў, 300 гаспадарак, 1029 жыхароў. У 1960 г. вёска ўваходзіла ў склад калгаса «40 гадоў Кастрычніка». У 1961 г. дзейнічала сярэдняя школа (207 вучняў), школа сельскай моладзі (30 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працавала бальніца. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1979 г. 912 жыхароў. У 1997 г. 309 двароў, 688 жыхароў; у 2002 г. — 243 гаспадаркі, 575 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, майстэрні, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, амбулаторыя, аптэка, ветэрынарны пункт, аддз. сувязі, магазіны.

**ДАБРЫНЁВА** — вёска ў Даманаўскім с/с, за 15 км ад Івацэвіч, 3,5 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 63 гаспадаркі, 98 жыхароў (2005).

За 0,3 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Грыўда, знаходзіцца помнік археалогіі — стаянка эпохі неаліту і мезаліту. Выявіў у 1963—64 гг. В.Р.Супрун,

даследаваў у 1967 г. М.М.Чарняўскі. На непашкоджаных участках помніка выяўлены культурны пласт. Сярод знаходак — нуклеусы, крамянёвыя прылады працы (мікраліты, пласцiністыя стрэлы, канцавыя скрабкі, праколкі і інш.), а таксама абломкі арнаментаваных гліняных гаршкоў з раслиннымі рэшткамі на сценках. Стаянка датуецца 9—5-м тыс. да н.э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Дабрынёва — вёска ў маёнтку Быцень, уладанне графоў Патоцкіх у Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 374 рэвізскія душы, у Дабрынёўскім сельскім т-ве. У 1886 г. 47 двароў, 524 жыхары. У 1890 г. вёска, 1386 дзес. зямлі. У 1905 г. 843 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. — вёска ў Даманаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 119 двароў, 732 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 3 км на З ад вёскі (паміж вёскамі Дабрынёва і Любішчыцы) знаходзіцца магіла ахвяр фашызму, дзе пахаваны 19 сав. грамадзян, расстраляных гітлераўцамі ў 1942 г. У 1947 г. ў вёсцы 125 гаспадарак. У 1950 г. арганізаваны калгас, які пазней увайшоў у склад калгаса «Даманава». У 1952 г. — 627 жыхароў. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 121 жылы будынак, 138 гаспадарак, 464 жыхары. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. 280 жыхароў. У 1997 г. 81 двор, 143 жыхары; у 2002 г. — 73 гаспадаркі, 122 жыхары. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы К.П.Саленіка.

**ДАМАНАВА** — вёска, цэнтр Даманаўскага с/с, на левым беразе р. Грыўда. За 19 км на ПнУ ад Івацэвіч, 151 км ад Брэста, чыг. станцыя на лініі Брэст—Баранавічы. 541 гаспадарка, 1260 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пад 1513 г. пазначана ў грамаце князя Ф.І.Яраславіча. У актах Слонімскага земскага суда ўпамінаецца пад 1570 г. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1856 г. вёска Даманава ў складзе маёнтка Быцень, у Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., належала графам Патоцкім. У ліст. 1856 г. ў маёнтку Быцень адбыліся выступленні сялян. Хваляванне ахапіла некалькі вёсак. Сяляне адмаўляліся прыняць інвентары, у якіх фіксаваўся памер паншчынных павіннасцей і розных плацяжоў, быў забіты земскі спраўнік. Зачыншчыка Кандрата Райка з в. Даманава арыштавалі, але сяляне вызвалілі яго. Для супакаення сялян у маёнтак былі ўведзены дзве сотні казакаў, якія заставаліся там на працягу 8 месяцаў. У ліп. 1857 г. сяляне вёсак Гнойна і Даманава (400 душ) таксама адмовіліся выходзіць на паншчыну, у Быцень зноў былі накіраваны войскі — 2 роты салдат. У некалькіх данясеннях царскіх чыноўнікаў вёска зноў згадваецца ў сярэдзіне 19 ст. ў сувязі з хваляваннямі сялян. У 1870 г. ў в. Даманава было 414 рэвізскіх душ, якія ўваходзілі ў Гнойнаўскае сельскае т-ва. У 1890 г. вяскоўцы апрацоўвалі 1215 дзес. зямлі. У 1871 г. ўступіла ў строй чыгунка Брэст—Масква са станцыяй у Даманаве. У 1884 г. сяляне вёсак Гнойна і Даманава (да 200 чал.) аказвалі супраціўленне будаўніцтву Грыўдзенскага вадасховішча на спрэчнай зямлі, напалі на прыказчыка, разбурылі вартавую будку (пабудавана ў 1877). У 1886 г. 48 двароў, 504 жыхары. У 1905 г. ў вёсцы Даманава — 787 жыхароў; на чыг. ст. Даманава — 35, ва ўрочышчы Даманава — 10 жыхароў. У 1-ю сусветную вайну сяляне вёскі выехалі ў бежанства. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне



Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв. У 1920—39 гг. тут дзейнічалі падп. камуністычныя і камсамольская арг-цыі.

З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Даманава — цэнтр сельсавета Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 166 двароў, 941 жыхар, дзейнічалі пач. школа, клуб, пошта, амбулаторыя. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы пахаваны 85 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з ворагам у Вял. Айч. вайну. На магіле ў 1950 г. пастаўлены абеліск. У 1942 г. 9 вяскоўцаў былі расстраляны ням. карнікамі, у 1950 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Пасля вызвалення ад ням.-фаш. акупантаў Даманава — цэнтр прам. і сельскагаспадарчай вытв-сці, транспартных шляхоў. У 1947 г. 182 гаспадаркі. З 1951 г. ў складзе калгаса імя Калініна. У 1952 г. — 902 жыхары, вяліся дабыча торфу і лесанарыхтоўкі.

З 8.1.1954 г. вёска ў Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. ў Даманаве 114 жылых будынкаў, 125 гаспадарак, 378 жыхароў; на чыг. станцыі — 114 жылых будынкаў, 134 гаспадаркі, 503 жыхары. Існавала паселішча пры Даманаўскай ГЭС (1 будынак, 1 гаспадарка, 3 жыхары). У 1962 г. далучана в. Гнойна. У 1961 г. дзейнічалі школа прац. моладзі (331 вучань), сярэдняя школа прац. моладзі (60 вучняў). У 1963 г. быў фельч.-акушэрскі пункт. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. 1450 жыхароў. У 1997 г. — 541 двор, 1348 жыхароў; у 2002 г. — 537 гаспадарак, 1332 жыхары. Працуюць гута, цагельня, шыферны з-д, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 4 магазіны. Узведзены 2 помнікі на магілах сав. воінаў, партызан і землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ДАРГУЖЫ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 8 км на Пн ад Косава, 26 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. цэнтр Даргужоўскага сельскага т-ва ў Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у якім налічвалася 169 душ сялян, 1023 дзес. зямлі. Вёска адносілася да казённага маёнтка Бусяж, 104 сял. душы. У 1890 г. вёска, 454 дзес. зямлі. У 1905 г. — вёска ў Косаўскай вол., 278 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Косаўскай гміне, 32 будынкі, 148 жыхароў, з якіх 146 праваслаўных беларусаў. 1.5.1934 г. адбылася дэманстрацыя пад кіраўніцтвам КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Бусяжскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 68 двароў, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. ў складзе калгаса «32-я гадавіна Кастрычніка». У 1959 г. 153 жыхары. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1968 г. ў Мілейкаўскім с/с. У 1970 г. 125 жыхароў. У 1979 г. — 72 жыхары, у складзе саўгаса «Мілейкі». У 1997 г. — 19 жыхароў, 14 двароў; у 2002 г. — 13 гаспадарак, 15 жыхароў.

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Быценскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Івацэвіч, 13 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 83 гаспадаркі, 124 жыхары (2005).

Каля вёскі непадалёку ад р. Шчара выяўлена селішча жал. веку. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1856 г. — вёска ў маёнтку Быцень Слонімскага пав., належала графам Патоцкім. У ліст. 1856 г. адбыліся выступленні сялян маёнтка. Хваляванне ахапіла некалькі вёсак, у тым ліку і в. Доўгае. Сяляне адмаўляліся прыняць інвентары, у якіх фіксаваўся памер паншчынных павіннасцей і розных плацяжоў, быў забіты земскі спраўнік. Для супакаення сялян у маёнтак былі ўведзены дзве сотні казакаў, якія заставаліся там на працягу 8 месяцаў. У 1870 г. вёска з'яўлялася цэн-

грам сельскага т-ва, якое налічвала 281 душу сялян-гаспадароў, якія мелі 793 дзес. зямлі. У 1870 г. 273 рэвізскія душы. У 1879 г. ўваходзіла ў Святавольскі царк. прыход. У 1890 г. вёска ў Быценскай вол., у Доўгаўскім сельскім т-ве, 878 дзес. зямлі. У 1905 г. — 583 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. — вёска, цэнтр Доўгаўскага с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 132 двары, 618 жыхароў (разам з леснічоўкай Мерынос, урочышчамі Тчэльнік, Восава), пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ням. акупанты ў крас. 1944 г. спалілі 36 двароў і загубілі 9 жыхароў. У 1947 г. — 119 гаспадарак. У 1952 г. — 524 жыхары, працавала кузня, вялася дабыча торфу, у складзе калгаса «Краіна саветаў». З 8.1. 1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10. 1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 121 жылы будынак, 130 гаспадарак, 546 жыхароў. У 1930—60-я г. працавала школа (у 1961 — 7-гадовая, 114 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 1972 г. вёска ў складзе Быценскага с/с. У 1979 г. 370 жыхароў. У 1997 г. 101 двор, 180 жыхароў; у 2002 г. — 90 гаспадарак, 141 жыхар. Радзіма ўдзельніка грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў, генерал-лейтэнанта танкавых войск М.Л. Ермачка.

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Святавольскім с/с, каля р. Шчара. За 37 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На шашы Івацэвічы—Пінск. 38 гаспадарак, 68 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1880 г. вёска ў Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1897 г. 38 двароў, 244 жыхары. У 1909 г. вёска, 318 жыхароў, 44 двары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. — вёска ў Святавольскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 67 двароў, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфаш. група. У гады вайны загінулі 11 жыхароў вёскі, ахвяр фаш. тэрору. На ўшанаванне памяці 61 жыхара вёсак Доўгае, Малая Гаць, Святая Воля, Турная, загінуўшых у Вял. Айч. вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск у в. Святая Воля. У 1947 г. — 46 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 53 двары, 276 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. — вёска ў Святавольскім с/с, 57 жылых будынкаў, 60 гаспадарак, 240 жыхароў. З 8.1.1959 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (29 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 188 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна. У 1997 г. 47 двароў, 95 жыхароў; у 2002 г. — 44 гаспадаркі, 73 жыхары. Размешчаны школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**ДУБІТАВА** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Івацэвіч, 19 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы, 157 км ад Брэста; на У і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Грыўда (прыток р. Шчара). Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 44 гаспадаркі, 64 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1905 г. ў Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 357 жыхароў. У 1915 г. акупіравана герм., у 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. 46 двароў, 221 жыхар. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Косаўскім р-не Брэсцкай вобл., 104 двары, 429 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1947 г. ў Івацэвіцкім р-не.



У 1959 г. — 303; у 1970 г. 269 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЁДЧЫКІ** — вёска ў Квасевіцкім с/с, за 20 км на З ад Івацэвіч, 25 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы, 3 км ад Брэста, на аўтадарозе Ружаны—Косава, на У меліярацыйны канал. 96 гаспадарак, 187 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. вёска ў маёнтку Косава, уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага, у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 164 рэвізскія душы, царква, вучылішча. У 1890 г. ў Куляшоўскім сельскім т-ве, 435 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 339 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Косаўскай гміне, 32 будынкі, 213 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Альбенскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 149 двароў, 429 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У партыз. барацьбе загінулі 2 жыхары; 12 жыхароў вёскі расстраляны гітлераўцамі. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 16.7.1954 г. ў Верашкоўскім с/с. У 1959 г. — 430 жыхароў. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (38 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 399 жыхароў. З 17.11.1980 г. ў Квасевіцкім с/с. У 1997 г. — 244 жыхары, 120 двароў; у 2002 г. — 101 гаспадарка, 199 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЁЛКІ** — вёска ў Яглевіцкім с/с, за 6,5 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы, 141 км ад Брэста. На аўтадарозе Івацэвічы—Целяханы. Каля шашы Івацэвічы—Пінск. На Пд сетка меліярацыйных каналаў. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. — казённая ферма Ілкі ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У склад фермы ўваходзілі Гічыцкае, Уласаўскае, Яблонскае, Галенчыцкае, Козікаўскае, Корачынскае, Хадакоўскае, Вулька-Аброўскае і Вядскае сельскія т-вы. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — у Боркі-Гічыцкай гміне, 6 будынкаў, 44 жыхары, з якіх 36 праваслаўных. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Яглевіцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 24 двары, 88 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. — 59 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 53, у 1979 г. — 38 жыхароў. У 1997 г. — 10 двароў, 23 жыхары; у 2002 г. — 9 гаспадарак, 21 жыхар. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж аўтадарогі.

**ЖАМАЙДЗЯКІ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ружаны—Косава. 53 гаспадаркі, 91 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў ВКЛ. Паводле інвентару Косаўскай вол. 1597 г. сяло Жамойцкае, 40 двароў і 4 пустыя ўчасткі. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. — вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Мілейкаўскім сельскім т-ве, 142 сял. душы. У 1880 г. вёска і фальварак у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Фальварак з'яўляўся ўласнасцю Заградзіных, меў 194 дзес. зямлі. У 1905 г. ў

вёсцы 319 жыхароў; у маёнтку — 12. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і фальварак у Косаўскай гміне, разам налічвалі 40 будынкаў, 199 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Альбенскім (Альбінаўскім) с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 100 двароў, 370 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінуў 1 жыхар вёскі. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. ў калгасе «Світанне», вяліся лесанарыхтоўкі, меліся кузня, была вытвсць калёс і саней, вяровачная вытв-сць. З 16.7.1954 г. ў Верашкоўскім с/с. У 1959 г. — 432 жыхары. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (47 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1968 г. ў Мілейкаўскім с/с. У 1970 г. — 355; у 1979 г. 275 жыхароў, у складзе саўгаса «Мілейкі». У 1997 г. — 116 жыхароў, 72 двары; у 2002 г. — 55 гаспадарак, 96 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЖЫТЛІН** — вёска, цэнтр Жытлінскага с/с, за 22 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы, 158 км ад Брэста. 74 гаспадаркі, 155 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. вёска ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Корачынскім сельскім т-ве, 147 рэвізскіх душ, дзейнічалі царква, нар. вучылішча. У 1886 г. 25 двароў, 198 жыхароў. У 1897 г. 446 дзес. зямлі сялянскай і 36 дзес. царкоўнай. У 1905 г. сяло, 476 жыхароў. У 1909 г. ў Косаўскай вол. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 69 будынкаў, 269 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска, цэнтр Жытлінскага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 108 двароў, 442 жыхары, хата-чытальня, магазін, пошта, пач. школа, медпункт. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14.3.1943 г. гітлераўцы спалілі 130 двароў, загубілі 128 жыхароў. У гады вайны непадалёку ад вёскі, ва ўрочышчы Хаваншчына, размяшчаўся Брэсцкі абласны к-т КП(б)Б, штаб Брэсцкага партыз. злучэння, абком камсамола, рэдакцыя абласной газ. «Заря». Брыгада імя Ф.Э.Дзяржынскага Брэсцкага партыз. злучэння, створаная ў снеж. 1943 г., базіравалася ў в. Жытлін і навакольных лясах. Дзейнічала на акупіраванай тэр. Бярозаўскага, Косаўскага і Целяханскага р-наў (камандзір В.М.Манахаў, камісар П.Р.Кавалёў). У крас. 1944 г. брыгада ўдзельнічала ў аперацыі «Здзітаўская абарона». 12.7.1944 г. брыгада ў складзе 4 атрадаў (1040 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. У 1962 г. ў гонар брыгады пастаўлены абеліск. У брацкай магіле сав. воінаў і партызан пахаваны 72 воіны і партызаны брыгады імя Дзяржынскага, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў. Сярод пахаваных — адзін з арганізатараў партыз. руху на Брэстчыне, камандзір партыз. атрада брыгады імя Дзяржынскага А.П.Чарткоў.

З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1949 г. ў складзе с.-г. арцелі імя Панамарэнкі. У 1959 г. — 325 жыхароў. У 1960 г. ў складзе калгаса «Світанак», дзейнічала пач. школа (30 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 241, у 1979 г. — 274 жыхары. У 1997 г. 92 двары, 182 жыхары; у 2002 г. — 89 гаспадарак, 182 жыхары. Размешчаны лясніцтва, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін.

**ЗАКАПЛІЦА**, З а к а п л і ч ч а — вёска ў Дабромысленскім с/с, за 40 км на ПдУ ад Івацэвіч, 22 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 45 гаспадарак, 85 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Закапліца — вёска ў Даб-



ромысленскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Дабромысленскім сельскім т-ве, 81 рэвізская душа. У 1890 г. вёска, 207 дзес. зямлі. У 1905 г. — 192 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў Дабромысленскай гміне, 12 двароў, 70 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Закаплічча ў Дабромысленскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 11 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору. У 1947 г. — 64 гаспадаркі. З 1950 г. ў калгасе «40 гадоў Кастрычніка». У 1952 г. — 231 жыхар. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 59 жылых будынкаў, 73 гаспадаркі, 236 жыхароў. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 165 жыхароў. У 1997 г. — 58 двароў, 110 жыхароў; у 2002 г. — 46 гаспадарак, 87 жыхароў.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Быценскім с/с, за 21 км на Пн ад Івацэвіч, 10 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 63 гаспадаркі, 117 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая маёмасць. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. — вёска ў Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У Запольскім сельскім т-ве (разам з в. Рудня) 280 дзярж. сялян. У 1880 г. вёскі Заполле і Рудня мелі 816 дзес. сял. зямлі, 11 дзес. ворнай зямлі належалі царкве. У 1890 г. ў вёсках 815 дзес. зямлі. Быценскай царкве належалі 11 дзес. зямлі пры в. Заполле. У 1905 г. — вёска, 533 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1923 г. ў Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 28 двароў, 145 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. — вёска ў Зарэчанскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 8 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору. У 1947 г. — 98 гаспадарак. У 1952 г. — 401 жыхар. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. — у Быценскім с/с, з 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 96 жылых будынкаў, 122 гаспадаркі, 443 жыхары. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (будынак пабудаваны ў 1960). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1979 г. — 282 жыхары. У 1997 г. — 86 двароў, 150 жыхароў; у 2002 г. — 77 гаспадарак, 145 жыхароў.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Косаўскім с/с, за 14 км на З ад Івацэвіч, 7 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. 312 гаспадарак, 680 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. Заполле — вёска ў маёнтку Косава (уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага), у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 675 рэвізскіх душ. У Запольскім сельскім т-ве налічваліся 334 душы сялян, 1176 дзес. зямлі. У 1880 г. Заполле — вёска і маёнтак пры Брэст-Маскоўскай шашы, 816 жыхароў, 83 двары, 1620 дзес. сял. зямлі; паштовая станцыя. Маёнтак належаў да ўладанняў Зянопаль памешчыка Палубінскага. У 1886 г. 83 двары, 846 жыхароў. У 1905 г. — у в. Заполле 1463 жыхары, паштовая станцыя налічвала 12 жыхароў. З 1915 г. Заполле акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і асада ў Косаўскай гміне; у вёсцы 132 будынкі, 647 жыхароў, з якіх 620 праваслаўных беларусаў; у асадзе — 4 будынкі, 16 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Бялавіцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 356 двароў, 1385 жыхароў,

магазін. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У магіле ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі пахаваны 22 вяскоўцы, якіх гітлераўцы загубілі ў 1943 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. 1258 жыхароў. У 1961 г. працавала 8-гадовая школа сельскай моладзі (27 вучняў) З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 1.4.1968 г. — вёска ў Косаўскім гарсавеце. У 1970 г. — 1421 жыхар. З 1987 г. ў Косаўскім с/с. У 1997 г. 357 двароў, 839 жыхароў; у 2002 г. — 316 гаспадарак, 771 жыхар. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, магазіны. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаецца прамалінейная шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Быценскім с/с, на р. Шчара. За 26 км на Пн ад Івацэвіч, 7 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 67 гаспадарак, 134 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1594 г. належала Сапегам; сяляне вёскі плацілі гаспадару па адной бочцы аўса, таму што мелі дрэнныя землі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1856 г. вёска ў маёнтку Быцень Слонімскага пав. Гродзенскай губ., належала графам Патоцкім; адбылося хваляванне сялян супраць памешчыцкага ўціску, якое ахапіла некалькі вёсак. Для супакаення сялян у маёнтак былі ўведзены дзве сотні казакаў, якія заставаліся там на працягу 8 месяцаў. У 1870 г. цэнтр Зарэцкага сельскага т-ва ў Быценскай вол., у якім налічвалася 411 душ сялян-гаспадароў, якія мелі 1190 дзес. зямлі; у вёсцы 265 рэвізскіх душ сялян. У 1890 г. — 902 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 574 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1923 г. ў Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 55 двароў, 377 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Зарэчанскага с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 20 жыхароў вёскі, ахвяр фашысцкага тэрору. У 1947 г. 120 гаспадарак. У 1952 г. — 476 жыхароў. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 16.7. 1954 г. — у Быценскім с/с, з 14.10. 1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. 110 жылых будынкаў, 127 гаспадарак. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1979 г. — 259 жыхароў. У 1997 г. 70 двароў, 186 жыхароў; у 2002 г. — 77 двароў, 124 жыхары.

**ЗЫБАЙЛЫ** — вёска ў Жытлінскім с/с, за 11 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Зыбайлы — вёска ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Яблонскім сельскім т-ве, 144 рэвізскія душы. У 1880 г. вёска, 482 дзес. сял. зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 327 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 13 будынкаў, 83 жыхары (праваслаўныя беларусы). У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Яблонскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 95 двароў, 356 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўскія карнікі ў сак. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 260 жыхароў (пахаваны ў цэнтры вёскі ў магіле ахвяр фашызму, у 1967 пастаўлена стэла). Пасля вайны вёска адноўлена. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 16.7.1954 г. ў Яглевіцкім с/с. У 1959 г. 89 жыхароў. З 25.12.



1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. -- 50, у 1979 г. — 30 жыхароў. З 1981 г. ў Жытлінскім с/с. У 1997 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў; у 2002 г. — 6 гаспадарак, 11 жыхароў.

**ЗЯЛЁНЫ БОР** — пасёлак у Стайкаўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Івацэвіч, каля ст. Косава-Палескае, на лініі Брэст—Баранавічы. Каля аўтадарогі Брэст—Баранавічы. 370 гаспадарак, 1010 жыхароў (2005).

Пабудаваны ў 1960-я г. ў сувязі з уздзеннем торфапрадпрыемства «Бярозаўскае». Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. пасёлак пры торфапрадпрыемстве «Бярозаўскае» Стайкаўскага с/с перайменаваны ў пасёлак Зялёны Бор. У 1970 г. — 643, у 1979 г. — 615 жыхароў. У 1997 г. — 353 гаспадаркі, 1047 жыхароў; у 2002 г. — 351 гаспадарка, 1041 жыхар. Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная. Працуюць брыкетны і асфальтавы з-ды, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт са стаматалагічным кабінетам, клуб, б-ка, магазіны, сталовая, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка». У цэнтры пасёлка знаходзіцца магіла савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баі каля пасёлка.

**КАРАННАЯ** —вёска ў Амяльнянскім с/с, за 46,5 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Лагішын—Івацэвічы. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1894 г. Каранная — лясная ахова, уладанне Іпацэвіча пры балоце Гошча, у Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 1 двор. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. засценак Каранна ў Святавольскай гміне, 4 будынкі, 21 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. — вёска ў Коланскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 22 двары, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. — 23 гаспадаркі. У 1951—52 гг. — 22 двары, 94 жыхары, у складзе калгаса імя Молатава. У 1958 г. — 22 жылыя будынкі, 23 гаспадаркі, 80 жыхароў. У 1970 г. 89 жыхароў. У 1979 г. — 75 жыхароў. З 17.11. 1980 г. вёска ў складзе Амяльнянскага с/с. У 1997 г. — 16 двароў, 26 жыхароў; у складзе калгаса імя Мічурына. У 2002 г. — 14 гаспадарак, 21 жыхар. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**КАХАНОВА** — вёска ў Даманаўскім с/с, за 22 км на Пн ад Івацэвіч, 3 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 47 гаспадарак, 91 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1856 г. Каханова — вёска ў складзе маёнтка Быцень, уладанне графоў Патоцкіх, у Слонімскім пав. Гродзенскай губерні. У ліст. 1856 г. ў маёнтку адбыліся выступленні сялян, якія ахапілі некалькі вёсак, у тым ліку Каханова. Сяляне адмаўляліся прыняць інвентары, у якіх фіксаваўся памер паншчынных павіннасцей і розных плацяжоў, быў забіты земскі спраўнік. Для супакаення сялян у маёнтак былі ўведзены дзве сотні казакаў, якія заставаліся там на працягу 8 месяцаў. У 1890 г. вёска ў Быценскай вол., у Гнойнаўскім сельскім т-ве, 187 дзес. зямлі. У 1905 г. — 215 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1923 г. ў Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 30 двароў, 187 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Зарэчанскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 34 жыхары вёскі, ахвяры фашысцкага тэрору. У 1947 г. — 50 гаспадарак. У 1952 г. — 224 жыхары. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. — у Быценскім с/с, з 14.10.1957 г. — у Івацэвіц-

кім р-не. У 1958 г. — 56 жылых будынкаў, 64 гаспадаркі, 217 жыхароў. У 1959 г. ў складзе калгаса імя Калініна. Потым — у Даманаўскім с/с. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 90 жыхароў. У 1997 г. — 59 двароў, 113 жыхароў. У 2002 г. — 48 гаспадарак, 88 жыхароў.

**КВАСЕВІЧЫ**, Квасовічы — вёска, цэнтр Квасевіцкага с/с, за 21 км на З ад Івацэвіч, 20 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы, 140 км ад Брэста. На аўтадарозе Ружаны—Косава. 268 гаспадарак, 601 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1597 г. 16 валок зямлі. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. — вёска ў маёнтку Косава (уладанне Вандаліна Пуслоўскага), у Квасевіцкім сельскім т-ве, у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 381 рэвізская душа. Квасевіцкае сельскае т-ва налічвала 165 душ, 456 дзес. зямлі. У канцы 1883 г. сяляне вёскі ўчынілі патраву на лузе памешчыка Пуслоўскага, за што былі аштрафаваны ў памеры 482 руб. У 1884 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне ўладам, хавалі жывёлу ў лесе ад апісання сял. маёмасці. У вёску прыехала каля 200 паліцэйскіх, арыштавана 12 чалавек. У 1886 г. 35 двароў, 510 жыхароў. У 1890 г. сяляне т-ва апрацоўвалі 582 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 751 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Косаўскай гміне, 79 будынкаў, 407 жыхароў, з якіх 406 беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Альшаніцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 252 двары, 920 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. гітлераўцы спалілі 50 двароў вёскі, расстралялі 12 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 22 вяскоўцы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг., у 1975 г. пастаўлена стэла. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — вёска ў Альшаніцкім с/с, у складзе калгаса імя Дзімітрава, праводзіліся лесанарыхтоўкі. У 1952 г. ў калгасе працавалі 2 кузні. З 31.3.1959 г. вёска знаходзілася ў Бялавіцкім с/с. У 1959 г. — 859 жыхароў. У 1961 г. дзейнічалі сярэдняя школа (265 вучняў), асобныя класы вячэрняй школы сельскай моладзі (31 вучань). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 1964 г. вёска ў складзе Верашкоўскага с/с. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 934 жыхары. З 17.11.1980 г. — у Квасевіцкім с/с. У 1997 г. — 300 двароў, 695 жыхароў. У 2002 г. — 287 гаспадарак, 648 жыхароў. Размешчаны пяро-пуховая ф-ка, сярэдняя школа, амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, шыротнай вуліцы, да цэнтра якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная драўляная, сядзібнага тыпу.

*Выступленне самадзейных артыстаў перад працаўнікамі в. Квасевічы.*



**КОЗІКІ** — вёска, цэнтр Козікаўскага с/с, за 21 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы, 153 км ад Брэста. На аўтадарозе Івацэвічы—Пінск. 126 гаспадарак, 300 жыхароў (2005).



Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Козікі — вёска ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у казённай ферме Ілкі, 163 жыхары. Уваходзіла ў Козіцкае сельскае т-ва. У 1905 г. — вёска, 512 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 14 будынкаў, 148 жыхароў, з якіх 143 беларусы. З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. вёска — цэнтр Козікаўскага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 117 двароў, 560 жыхароў, пач. школа, арганізавана торфапрадпрыемства. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. акупантамі знішчана 119 двароў, 39 жыхароў. У гады вайны на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 33 жыхары вёскі. На ўшанаванне памяці вяскоўцаў, закатаваных гітлераўскімі карнікамі, і аднавяскоўцаў — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск на магіле ахвяр фашызму. У 1951—52 гг. — 116 двароў, 449 жыхароў, у складзе калгаса «Палеская праўда». З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл., працавала кузня, вяліся дабыча торфу, лесанарыхтоўкі, дзейнічала хата-чытальня. У 1958 г. — 103 жылыя будынкі, 122 гаспадаркі, 456 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў складзе Івацэвіцкага р-на. У 1961 г. дзейнічала 7-гадовая школа (60 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 526 жыхароў; у 1979 г. — 472 жыхары. У 1997 г. — 141 двор, 347 жыхароў; у 2002 г. — 140 гаспадарак, 344 жыхары. Размешчаны лясніцтва, базавая школа, клуб, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж аўтадарогі і забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**КОЗІНА** — вёска ў Быценскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Івацэвіч, 8,5 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 151 гаспадарка, 319 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1856 г. вяскоўцы ўдзельнічалі ў сялянскіх хваляваннях, якія адбываліся ў маёнтку Быцень; царскія ўлады прысылалі сюды войскі. У 1870 г. Козіна — вёска ў Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Зарэцкім сельскім т-ве, 270 рэвізскіх душ. У 1890 г. вёска ў Быценскім сельскім т-ве, разам з мяст. Быцень налічвалася 1921 дзес. зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 532 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1923 г. ў Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 10 двароў, 90 жыхароў. Да 1925 г. дзейнічала ячэйка КПЗБ (кіраўнік Мікалай Кузьміч). З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Быценскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 136 двароў, 635 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. — 117 гаспадарак. У 1952 г. — 501 жыхар, працавала кузня, вяліся дабыча торфу, лесанарыхтоўкі; у складзе калгаса імя Леніна. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 106 жылых будынкаў, 130 гаспадарак, 333 жыхары. З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 492 жыхары. У 1979 г. — 431 жыхар. У 1997 г. — 168 двароў, 345 жыхароў; складзе калгаса «Быценскі». У 2002 г. — 214 гаспадарак, 340 жыхароў. Размешчаны магазін.

**КОЛАНСК** — вёска ў Амяльнянскім с/с, за 45 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 181 км ад Брэста, аўтадарогай злучаны з Целяханамі. 175 гаспадарак, 349 жыхароў (2005).

Паводле даследаванняў М.К.Любаўскага, у запісе вял. князя ВКЛ Вітаўта ад 1401 г. ўпамінаецца «волостка Вяда» (Вядская воласць), да якой належалі Вяда пры воз. Бабровіцкае, Бабровічы пры тым жа возеры, Коланск і с. Гаць. Ко-

ланск таксама ўпамінаецца ў 1559 г. пры апісанні пушчаў ВКЛ. У канцы 16 ст. — дзярж. ўладанне ў Пінскім пав. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1876 г. Коланск — вёска, уваходзіла ў маёнтак Коланск (уласнасць Жука), 128 сялян-уласнікаў. Знаходзілася ў Коланскім сельскім т-ве Святавольскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 62 двары, 471 жыхар, хлебазапасны магазін. Пры ўрочышчы Асіхоўка, непадалёку ад вёскі, размяшчалася сядзіба Коланск, уладанне Гетліна, 3 двары, 14 жыхароў, карчма. У 1909 г. вёска і маёнтак, 94 двары, 575 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Святавольскай гміне, 71 будынак, 342 жыхары, з якіх 338 праваслаўных беларусаў; фальварак, 1 будынак, 9 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Коланскага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 137 двароў, 611 жыхароў, дзейнічалі 3 пач. школы, клуб, медпункт, у складзе калгаса «Шлях да камунізму». У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. патрыят. група. У 1947 г. — 126 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 144 двары, 691 жыхар, у калгасе імя Молатава. У сярэдзіне 1950-х г. працавала хата-чытальня. У 1958 г. — 157 жылых будынкаў, 169 гаспадарак, 746 жыхароў. У 1972 г. 220 двароў, 871 жыхар. У 1979 г. — 778 жыхароў. З 17.11.1980 г. ў Амяльнянскім с/с. У 1997 г. — 425 жыхароў, 194 двары; у 2002 г. — 182 гаспадаркі, 389 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

*Косаўскі краявід.*



**КОРАЧЫН**, К о р а т ч ы н — вёска ў Жытлінскім с/с, за 24 км ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 31 гаспадарка, 42 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. вёска — цэнтр Корачынскага сельскага т-ва ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Т-ва налічвала 137 душ сялян, 549 дзес. зямлі; у в. Корачын было 146 рэвізскіх душ. У 1905 г. в. Корачын, 345 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і асада ў Боркі-Гічыцкай гміне, разам 37 будынкаў, 161 жыхар. У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска Корычынь у Жытлінскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 100 двароў, 411 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сакавіку 1943 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 108 жыхароў. За 3 км на Пд ад вёскі, у лясным урочышчы Хаваншчына, у 1943—44 гг. базіраваліся Брэсцкі падп. абком КП(б)Б, падп. абком ЛКСМБ, штаб Брэсцкага партыз. злучэння, рэдакцыя і друкарня газ. «Зара». У 1971 г. ва ўрочышчы Хаваншчына створаны мемарыяльны комплекс — 4 драўляныя хаты, 2 зямлянкі, калодзеж, «лясная школа» (некалькі самаробных сталоў, лавак і школьная дошка на ствале дрэва). Устаноўлены шчыт з тэкстам «Прысягі беларускага партызана» і вялікі валун з памятным надпісам.

З 20.9.1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. — 354 жыхары. У 1960 г.



ў складзе калгаса «Світанак». У 1961 г. дзейнічала пач. школа (26 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 215 жыхароў. У 1979 г. — 136 жыхароў; у 1997 г. — 60 жыхароў, 35 двароў. У 2002 г. 29 гаспадарак, 43 жыхары. Вёска — радзіма героя руска-турэцкай вайны 1877—78 гг. Канстанціна Вікенцьевіча Хруцкага.

Каля вёскі ва ўрочышчы Боркі знаходзяцца 2 курганы (вышынёю 1,5 і 1,8), вядомыя з канца 19 ст. У 1970 г. археал. помнікі абследаваў Г.В.Штыхаў.

**КОСАВА** — горад раённага падпарадкавання ў Івацэвіцкім р-не, за 151 км на ПнЗ ад Брэста, 15 км на ПнЗ ад Івацэвіч, 13 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. Цэнтр Косаўскага гарсавета. Аўтадарогамі звязана з Ружанамі, Івацэвічамі, Нехачава. 2384 жыхары (2005).

Узнікла на старадаўнім гандл. шляху. Захавалася гарадзішча 10—12 ст., якое даследавалі Ю.У.Кухарэнка, П.Ф. Лысенка, Л.Д.Побаль, П.А.Рапапорт. Існуе паданне, звязанае з імем Касы, які быў кавалём і ў часы набегаў татар каваў зброю, якую жыхарам часта прыходзілася пускаць у ход у бітвах з ворагамі. Калі людзі ішлі да гэтага каваля, то казалі, что ідуць да Касога, а месца, дзе ён жыў, паступова сталі называць Косава.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1494 г. ў прывілеі вял. князя ВКЛ Аляксандра, які падараваў Косава маршалку І.Храптовічу. Вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт І сваім прывілеем 1510 г. дазволіў праводзіць у мястэчку таргі і кірмашы. Пазней фальварак Мерачоўшчыну Храптовіч аддаў у пасаг сваёй дачцы, па мужу Аборскай, аб чым сведчыць запіс у актах за 1529 г. у 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ. У 1559 г. маёнтак належаў Мікалаю Осціку. Перад смерцю ён завяшчаў двор і мястэчка сваёй дачцэ Ганне, якая з Львом Сангушкам-Кашырскім 11.5.



*Фрагмент забудовы г. Косава.*

1569 г. запісвае свайму мужу маёнтак. Самае поўнае апісанне маёнтка Косава маецца за кастрычнік 1597 г., калі была праведзена падрабязная інвентарызацыя з выпадку падзелу яго паміж кн. Рыгорам Сангушкам, сынам Льва Кашырскага, і Мікалаем Кішкам. У 1611 г. ўладальнікамі Косава сталі Сапегі. У 1626 г. Л.Сапега пабудаваў у Косаве касцёл. У 2-й пал. 18 ст. Косава належала Пуслоўскім. З 1795 г. — у Рас. імперыі, мястэчка Слонімскага пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губ. Дзейнасць Пуслоўскіх спрыяла развіццю Косава. Тут была пабудавана суконная ф-ка, цагельня, гута, бровар, млын. У 1815 г. на суконнай ф-цы працавалі 115 рабочых, у тым ліку 65 жанчын. Вотчынная суконная мануфактура ў Косаве, якая адкрылася ў 1825 г., існавала да 1855 г. У 1850-я г. дзейнічала вінакурнае прадпрыемства, якое выраблял а ў год 17 тыс. вёдзер гарэлкі.

*Палац Пуслоўскіх у г. Косава.*





*Троіцкі касцёл у г. Косава.*

4.2.1746 г. ў былым фальварку Мерачоўшчына каля мяст. Косава нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Бенавентура Касцюшка — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік паўстання 1794 г. ў Польшчы, Беларусі і Літве. Аднапавярховы драўляны дом Касцюшкаў у Вял. Айч. вайну згарэў.

У 1833 г. ў Косаве 741 жыхар, 2 драўляныя царквы, 3 каменныя будынкі, 101 драўляны дом, 1 сукнавальная ф-ка (200 рабочых), 2 крамы, карчма, 15 піцейных дамоў. На зах. ускраіне горада, ва ўрочышчы Мерачоўшчына, у 1-й пал. 19 ст. існаваў палац (не збярогся). У 1838 г. праект палаца і парку быў распрацаваны архітэктарам Ф.Яшчолдам, у будаўніцтве прымаў удзел архітэктар У.Марконі. У час. Вял. Айч. вайны палац моцна пашкоджаны. У 1842 г. ў Косаве адбылося 11 кірмашоў. У 1860 г. ў мястэчку 205 двароў, 538 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, касцёл, яўр. сінагога, 3 яўр. малітоўныя школы. Штогод наладжвалася не менш 6 кірмашоў, праводзіліся штотыднёвыя базары па нядзелях.

У час паўстання 1863—64 гг. пад Косавам адбыўся бой паўстанцаў з урадавымі войскамі. На косаўскіх каталіцкіх могілках стаіць помнік у памяць пахаваных там удзельнікаў паўстання. У 1867 г. — мястэчка маёнтка Вандаліна Пуслоўскага, якому належала 11 674 дзес. зямлі, прыдатнай для земляробства; 1276 жыхароў. У прам-сці былі заняты 36 жыхароў-агароднікаў, 480 гандляроў, 36 рамеснікаў, 1 каваль, 3 рэзчыкі, 2 цырульнікі, 2 шаўцы, 3 краўцы, дзейнічалі 3 харчэўні. У Косаўскім сельскім т-ве было 146 душ сялян. У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1868 г. пабудавана мураваная Антоньеўская царква.

У 1870 г. — мястэчка ў маёнтку Косава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага, 321 рэвізская душа, валасное праўленне, царква, касцёл; у Косаўскім

*Адкрыццё новай сярэдняй школы ў г. Косава. 2005 г.*



*Косаўскія замалёўкі.*





сельскім т-ве 154 душы, 542 дзес. зямлі, 101 працаўнік. У 1870 г. Косава з'яўлялася таксама цэнтрам Косаўскага сельскага таварыства-2, у якім было 55 душ сялян, 18 дзес. зямлі. Памешчыку В.Пуслоўскаму належала ў маёнтку 11 036 дзес. зямлі. У 1867 г. ў Косаве пачаў дзейнічаць млын (у 1881 на ім устаноўлены паравы рухавік, у 1900 сума яго вытворчасці складала 5 тыс. рублёў). У 1885 г. заснавана яшчэ адна суконная мануфактура (у 1896 выпусціла прадуктаў на 25 тыс. рублёў, 50 рабочых). У 1878 г. пабудаваны мураваны Троіцкі касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага стылю (захаваўся). У 1878 г. — 2030 жыхароў, з іх 1279 яўрэяў, існавала паліцэйская ўправа. У 1885 г. ў Косаве царква, касцёл, 4 сінагогі, сельская школа, управа (дзейнічала з 1879), валаснае праўленне (дзейнічала з 1861), 2589 жыхароў. Адно з косаўскіх суконных прадпрыемстваў у 1885 г. выпусціла звыш 1 тыс. м сукна (працавала больш 20 рабочых). На другім суконным прадпрыемстве (больш 30 рабочых) у 1898 г. пачала дзейнічаць паравая машына. На 1890 г. мястэчка ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ.: у 1-м Косаўскім сельскім т-ве 703 дзес. зямлі, у 2-м Косаўскім т-ве — 7 дзес. зямлі, царкоўнаму прычту належала 101 дзес. зямлі, у маёнтку Косава Льву Пуслоўскаму — 880 дзес. зямлі.



*Косаўскія замалёўкі.*

У 1897 г. — 3092 жыхары, 64 цагляныя і 807 драўляных будынкаў, з іх 643 жылыя. Дзейнічалі сельскае нар. вучылішча, прыёмны пакой для хворых, аптэка. На 4 паравых млынах працавалі 13 рабочых. У 1900 г. косаўская вінакурня дала прадукцыі на 13 тыс. рублёў, устаноўлена паравая машына. У 1905 г. мястэчка, маёнтак і чыг. станцыя, 5067 жыхароў. 15—16.10.1905 г. ў Косаве адбыліся хваляванні навабранцаў (900 прызыўнікоў). Паліцыя адкрыла агонь, было забіта і паранена некалькі чалавек.



*Антоньеўская царква ў г. Косава.*



*Тэатралізаванае свята ў час адкрыцця аднаўленай сядзібы Т.Касцюшкі ў г. Косава.*



*Косаўскія замалёўкі.*



*Тэатралізаванае свята ў час адкрыцця адноўленай сядзібы Т.Касцюшкі ў г. Косава.*

Прызыў у армію быў часова спынены. У 1909 г. дзейнічалі царква, вучылішча, 2 казённыя крамы, фельчарскі пункт. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. У 1915 г. лінія фронту ўстанавілася ўздоўж Агінскага канала (праходзіў праз Целяханы, Вульку-Целяханскую, Выганашчы, Выганашчанскае возера). Фронт стаяў тут да восені 1918 г. Немцы пабудавалі вузкакалейныя чыгункі ад станцыі Косава-Палескае ў лясныя масівы Гуліна, Міхаліна Ружанскай пушчы. Пачаўся масавы вываз лесу, паблізу станцый запрацавалі лесапільныя з-ды. У час 1-й сусветнай вайны разрабаваны палац, загінулі сад і аранжарэя.

З 1921 г. ў складзе Польшчы, горад, цэнтр Косаўскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. горад (399 двароў, 2433 жыхары), фальварак (8 двароў, 27 жыхароў) і чыг. станцыя (9 двароў, 27 жыхароў). У Косаве размяшчаліся павятовае староства і аддзелы, міравы суд, паліцэйская камендатура, школьны інспектарат. У 1922 г. ў Косаве пабудавана павятовая бальніца на 930 ложкаў. У 1923 г. адкрыты лесапільны з-д «Тартак» (у 1934 46 рабочых). У 1930-я дзейнічала электрастанцыя магутнасцю 100 кВт, працавала 3-класная гандл. школа, якую ўтрымлівала т-ва распаўсюджвання прафесійных ведаў (59 вучняў, 11 настаўнікаў). У Мерачоўшчыне знаходзілася дзярж. школа. Працавала б-ка пры косаўскім магістраце, Дом-музей Т.Касцюшкі ў Мерачоўшчыне. 3.2.1927 г. адбылася дэманстрацыя працоўных, арганізаваная Косаўскім падп. райкомам КПЗБ, якую расстраляла паліцыя. У 1966 г. ў памяць аб удзельніках дэманстрацыі пастаўлены абеліск. У 1938 г. ў Косаве 3708 жыхароў, некалькі гасцініц, царква. Павятовыя органы ўлады размяшчаліся ў б. палацы графоў Пуслоўскіх у Мерачоўшчыне.

З 1939 г. ў складзе БССР. У 1940—47 гг. — цэнтр Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 13.7.1944 г. Косава акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вайну загінуў 31 жыхар Косава, а таксама 96 жыхароў Косаўскага с/с, з якіх не вярнуліся з фронту 78 чалавек. У 1941—44 гг. дзейнічаў антыфаш. камітэт. На доме, у якім адбываліся пасяджэнні к-та, у 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Кіраўнік косаўскага раённага антыфаш. камітэта М.Ф.Трында загінуў у баі 11.5.1944 г., пахаваны разам з партызанам У.І.Палешчуком, у 1968 г. на магіле пастаўлены

*Аднўленая сядзіба Т.Касцюшкі ў г. Косава.*





абеліск; імем М.Ф.Трынды названа вуліца ў Косаве. У гады акупацыі дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (чэрв. 1943 – 12.7.1944) і ЛКСМБ (1.9.1943–12.7.1944). 2.8.1942 г. партыз. атрады імя Варашылава, імя Дзімітрава, імя Шчорса разам з падпольшчыкамі знішчылі ў Косаве гарнізон акупантаў і на працягу месяца ўтрымлівалі горад, у горадзе больш як месяц дзейнічала партыз. камендатура. У 1955 г. ў гонар баявой аперацыі партызан пастаўлены абеліск. У 1960 г. на магіле воінаў і партызан, дзе пахаваны 68 загінуўшых у баях супраць акупантаў, пастаўлены помнік партыз. славы – скульптура воіна.

З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. – 2,6 тыс. жыхароў. У 1961 г. працавалі сярэдняя школа, вячэрняя школа прац. моладзі (12 вучняў). У 1984 г. дзейнічалі сярэдняя, рабочай моладзі і муз. школы, 2 дашкольныя дзіцячыя ўстановы, Дом культуры, б-ка, бальніца.

У 1997 г. – 2700 у 2002 г. – 2500 жыхароў. У Косаве акц. т-ва «Косаўскае МВА», камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, пякарня, лясніцтва. Сярэдняя і муз. школы, вучнёўскі вучэбны камбінат, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, спартыўны комплекс, бальніца, аптэка, вузел сувязі, сталовая, магазіны. Мемарыяльны знак на месцы дома ў б. фальварку Мерачоўшчына, дзе нарадзіўся ў 1746 г. Тадэвуш Касцюшка. Абеліск на ўшанаванне ахвяр дэманстрацыі 3.2.1927 г. Манумент на брацкай магіле сав. воінаў і партызан Вял. Айч. вайны, помнік партыз. славы ў памяць разгрому ў Косаве гітлераўскага гарнізона 2.8.1942 г. Мемарыяльная дошка на доме, у якім праходзілі пасяджэнні антыфаш. к-та. У скверы – магілы загінуўшых ад рук фашыстаў членаў камітэта У.Палешчука і М.Трынды; магіла маёра М.М.Бяззубава. Помнікі архітэктуры – Антоньеўская царква, Троіцкі касцёл. Радзіма бел. пісьменніка Уладзіміра Мароза. Планіровачна складаецца з прамавугольнай сеткі вуліц, якія ўтвараюць



*Тэатралізаванае свята ў час адкрыцця аднаўленай сядзібы Т.Касцюшкі ў г. Косава.*

дробныя кварталы. Забудова вядзецца паводле ген. плана 1972 г., які прадугледжвае развіццё горада ў сучасных межах за кошт рэканструкцыі аднапавярховай забудовы і пашырэння будаўніцтва шматкватэрных і індывідуальных жылых дамоў на свабоднай тэрыторыі ва ўсх. частцы горада. Грамадскі, культурны і гандлёвы цэнтр склаўся на перакрыжаванні гал. вуліц.

**КРАГЛЕВІЧЫ** – вёска ў Целяханскім пас. Савеце, за 49 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст–Баранавічы, 184 км ад Брэста. На аўтадарозе Івацэвічы–Лагішын. 107 гаспадарак, 264 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Пінскім пав. Трокскага, з 1566 Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Згадваецца пад 1599 г. пры апісанні граніц Вядскай пушчы. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1876 г. вёска ў Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у Краглевіцкім сельскім т-ве, 150 рэвізскіх душ, уласнасць Пуслоўскага. Паводле перапісу 1897 г. Краглевічы – вёска, 85 двароў, 535 жыхароў, хлебазапасны магазін; фальварак, уладанне

Франца Пуслоўскага, 3 будынкі, 16 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 763 жыхары, 99 двароў; у маёнтку — 9 жыхароў, 1 двор. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і фальварак у Целяханскай гміне, разам 61 будынак, 324 жыхары (праваслаўныя беларусы). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Краглевіцкага с/с Целяханскага р-на Пінскага вобл., 141 двор, 839 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11.7.1944 г. вызвалена воінамі 48-й гвардзейскай стралк. дывізіі і партызанамі атрада імя Куйбышава. У 1965 г. ў гонар вызваліцелей пастаўлены абеліск. У вайну загінулі 23 жыхары вёсак Краглевічы і Гнілішча, ахвяры фаш. тэрору. У 1947 г. — 144 гаспадаркі. У 1951—52 гг. — 145 двароў, 795 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1954 г. працавала хата-чытальня. З 1959 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 566, у 1979 г. — 509 жыхароў. На 1980 г. ў калгасе «Расія». У 1997 г. — 118 двароў, 289 жыхароў. У 2002 г. — 119 гаспадарак, 292 жыхары. Планіровачна складаецца з дзвюх амаль прамалінейных вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАІ** — вёска ў Рэчкаўскім с/с, за 58 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 298 гаспадарак, 730 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Навагародскім пав. ВКЛ. У 1599 г. згадваецца як маёнтак ваяводы Троцкага. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. Пад 1879 г. пазначана ў ліку сяленняў Целяханскага царк. прыхода. У 1880—91 гг. уладанне Пуслоўскага; была праваслаўная царква. Паводле перапісу 1987 г. вёска ў Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 49 двароў, 379 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 58 двароў, 572 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Целяханскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 96 двароў, 609 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Рэчкаўскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 149 двароў, 979 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з фронту не вярнуліся 46 землякоў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Лагішынскім, з 25.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 1377 жыхароў. У 1997 г. 308 двароў, 774 жыхары. Размешчаны сярэдняя школа, магазін.

**КУЛЯШЫ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 55 гаспадарак, 76 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Па інвентару Косаўскай вол. ў 1597 г. 41 двор. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. вёска ў Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ.; у Куляшоўскім сельскім т-ве, якое налічвала 284 душы сялян, 1141 дзес. зямлі. У 1890 г. вёска ў Куляшоўскім сельскім т-ве, 587 дзес. зямлі. У 1905 г. Куляшы — вёска (495 жыхароў) і фальварак (53 жыхары). З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 32 будынкі, 175 жыхароў, з якіх 169 праваслаўных беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Альбенскім (Альбінаўскім) с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 161 двор, 536 жыхароў. У Вял. Айч. вайну гітлераўскія карнікі расстралялі 11 вяскоўцаў. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. ў складзе калгаса імя Дзяржынскага, вяліся лесанарыхтоўкі, дзейнічалі кузня, вытв-сць калёс і саней, вяровачная вытв-сць. З 16.7.1954 г. ў Верашкоўскім с/с. У 1959 г. — 406 жыхароў. У 1961 г. працавала пач. школа. З 25.12. 1965 г. — у Бярозаўскім р-не. З 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-не, у складзе



Верашкоўскага с/с. Па рашэнні аблвыканкома №107 ад 1.3.1968 г. ў складзе Мілейкаўскага с/с. У 1970 г. — 336 жыхароў. У 1979 г. — 240 жыхароў, у саўгасе «Мілейкі». У 1997 г. — 118 жыхароў, 74 двары. У 2002 г. — 58 гаспадарак, 89 жыхароў.

**КУШНЯРЫ** — вёска ў Падстарынскім с/с, на р. Грыўда. За 6 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Аўтадарогай звязаны з Івацэвічамі. 33 гаспадаркі, 65 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст., належалі маёнтку Івацэвічы пана Юндзіла. У 1905 г. Кушняры — вёска (153 жыхары), фальварак (15 жыхароў), урочышча (16 жыхароў); у Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 15 будынкаў, 69 жыхароў (праваслаўных беларусаў); фальварак, 1 будынак, 6 жыхароў. У чэрв. 1929 г. каля вёсак Кушняры і Падстарынь адбылася канферэнцыя Косаўскага райкома КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Сенькаўскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 33 двары, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у складзе калгаса імя Маленкова. З 16.7. 1954 г. цэнтр Кушняроўскага с/с. У 1959 г. 194 жыхары. З 25.11.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 185 жыхароў. У 1972 г. 48 двароў, 173 жыхары. З 1987 г. ў Падстарынскім с/с. У 1997 г. — 37 двароў, 85 жыхароў, у калгасе «Бальшавік». У 2002 г. — 35 гаспадарак, 73 жыхары. За 18 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Чыжыкі, знаходзіцца брацкая магіла партызан. Размешчаны лясніцтва, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАЗАЎЦЫ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, на р. Грыўда. За 8 км на Пн ад Косава. За 23 км на ПнЗ ад Івацэвіч, 21 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ружаны—Івацэвічы. 29 гаспадарак, 54 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Лазаўцы — вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Мілейкаўскім сельскім т-ве, 180 жыхароў. У 1905 г. вёска, 454 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 32 будынкі, 172 жыхары (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Бусяжскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 108 двароў, 494 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 6 жыхароў вёскі, ахвяр фашысцкага тэрору. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. вяскоўцы працавалі ў створаным калгасе «Чырвоная зорка». У 1959 г. — 324 жыхары. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (25 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1.4.1968 г. ў складзе Мілейкаўскага с/с. У 1970 г. 193 жыхары. У 1980 г. — у саўгасе «Мілейкі». У 1979 г. — 149 жыхароў, ферма. У 1997 г. — 41 двор, 67 жыхароў. У 2002 г. — 31 гаспадарка, 61 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЮБІШЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Любішчыцкага с/с, на левым беразе р. Грыўда. За 6 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. На шашы Брэст—Баранавічы. 530 гаспадарак, 1212 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц Любішчыцы вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1594 г. належалі Сапегам; вяскоўцы плацілі ўладальніку па адной бочцы аўса. Згадваюцца ў кн. «Рэвізія пушчаў і пераходаў звярыных...» як цэнтр Любішчыцкай пушчы, якая была каралеўскай уласнасцю. У 1679 г. сяляне в. Любішчыцы скардзіліся каралю на празмернае абкладанне павіннасцямі. Кароль вымушаны быў выдаць уставу, паводле якой вызначаліся абавязкі сялян на карысць дзяржавы (плаціць 4 злотыя 10 грошаў літоўскіх з адной валокі зямлі; вызваленне ад нясення натуральных павіннасцей, уплаты мядовай даніны і пастаўкі фурманак). З 1795 г. — у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. тут адбылося хваляванне сялян, выкліканае ўціскам адміністрацыі. У прашэнні на імя віленскага ваеннага губернатара сяляне 14 вёсак, якія належалі маёнтку Быцень, пісалі аб сваіх пакутах за спробу паскардзіцца гродзенскаму губернатару і цару на бясчынства эканома. 12 сялян маёнтка, якія падпісалі скаргу цару, былі арыштаваны і пакараны розгамі. У 1845 г. пабудавана царква св. Ганны — узор выкарыстання ў архітэктуры стылізаваных форм стараж.-бел. дойлідства (захавалася).

У 1870 г. вёска — цэнтр сельскага т-ва ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Таварыства налічвала 468 душ сялян-гаспадароў, якія мелі 2018 дзес. зямлі. У 1880-я г. ў Любішчыцах было 1076 жыхароў, 118 двароў, 2 царквы, школа, яны лічыліся самай буйной вёскай у Слонімскім пав. У 1905 г. існавалі: в. Любішчыцы-Паддухоўныя (69 жыхароў), с. Любішчыцы-Царкоўныя (937 жыхароў), с. Любішчыцы-Зарэчныя (1066 жыхароў). У 1908 г. ў с. Любішчыцы меліся царква, вучылішча, казённая крама. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Касаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 107 будынкаў, 660 жыхароў, з якіх 645 праваслаўных беларусаў. З 1927 г. дзейнічала ячэйка КПЗБ. 8.3.1927 г. Баранавіцкім акруговым к-там КПЗБ арганізавана дэманстрацыя. З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. вёска — цэнтр Любішчыцкага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 511 двароў, 2803 жыхары, пач. школа (400 вучняў), хата-чытальня, магазін, тэлефон, ветраны млын, крупадзёрка, масласырпрадпрыемства, у складзе калгаса імя Леніна. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 54 жыхары вёскі, ахвяры фаш. тэрору. На могілках пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў. У 1955 г. на брацкай магіле сав. воінаў пастаўлены абеліск. Восенню 1942 г. фашысты загубілі 21 жыхара, якія пахаваны ў магіле ахвяр фашызму; у 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

З 20.9.1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у складзе калгаса імя Сталіна; дзейнічалі паравы млын, электрагенератарная ўстаноўка, 2 кузні, вяліся лесанарыхтоўкі, існавалі вяровачная, вытв-сць калёс і саней, шорная майстэрня, з 1951 г. — маслабойня. У 1959 г. — 1933 жыхары. У 1961 г. працавала сярэдняя школа з вытв. навучаннем (360 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. 1996 жыхароў. У 1979 г. — 1875



*Царква Св. Ганны ў в. Любішчыцы.*





*Помнік жыхарам в. Любішчыцы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.*

жыхароў, праўленне калгаса. У 1997 г. — 574 двары, 1349 жыхароў. У 2002 г. — 542 гаспадаркі, 1267 жыхароў. Размешчаны майстэрня камбіната быт. абслугоўвання, сярэдняя школа і міжшкольны вытворча-навучальны камбінат, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазіны. Вёска — радзіма Героя Сацыяліст. Працы Сяргея Пракопавіча Агейчыка. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых ракой частак: усходняй (квартальная забудова на шашы з 2 паралельнымі паміж сабой мерыдыянальнымі вуліцамі на Пн) і заходняй (2 паралельныя паміж сабой вуліцы — працяглая і кароткая — амаль мерыдыянальнай арыентацыі). Забудова драўляная і мураваная.

На ПнУ ад вёскі на правым беразе р. Грыўда, ва ўрочышчы Сежня, знаходзіцца археал. стаянка позняга неаліту. Выявіў і абследаваў у 1967 г. У.Ф.Ісаенка. Паселішчы адносяцца да нёманскай культуры (2-я пал. 3-га тыс. да н.э., матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Ін-це гісторыі НАН Беларусі). Сярод знаходак — расшчэпленыя неапрацаваныя крамяні і разнастайныя крамянёвыя прылады працы: лінзападобныя сякеры, скрабкі, разцы і праколкі, аднапляцовачныя нуклеусы, рэшткі глінянага посуду.

**МАГІЛІЦЫ** — вёска ў Волькаўскім с/с. На Пд мяжуе з гідралагічным заказнікам Выганашчанскім. За 22 км на У ад Івацэвіч, 115 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 197 гаспадарак, 430 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Магіліцы — вёска ў маёнтку Быцень (уласнасць графоў Патоцкіх), у Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Магіліцкім сельскім т-ве, 257 рэвізскіх душ. У 1890 г. вёска, 910 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска (592 жыхары) і ўрочышча (3 жыхары). З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 60 двароў, 331 жыхар. У 1920—30-я г. ў вёсцы настаўнічала польская пісьменніца Вераніка Трапачынская-Агарак. Героямі яе аўтабіяграфічнага рамана аб рэв. барацьбе ў Зах. Беларусі з'яўляюцца жыхары в. Магіліцы. З 1939 г. ў складзе БССР. З 1940 г. вёска і хутар Магіліцы ў Волькаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., разам з урочышчамі Задні Бор, Збаронак, леснічоўкай Паланез — 231 двор, 865 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. 36-ы партыз. атрад 8-й брыгады Брэсцкага партыз. злучэння на чале з камандзірам П.А.Кудраўцавым і камісарам Ц.М.Кавецкім знішчыў гітлераўскі гарнізон у вёсцы. У 1975 г. ў гонар баявой аперацыі партызан пастаўлена стэла. На ўшанаванне памяці 84 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск. У 1947 г. ў вёсцы 145 гаспадарак. У 1952 г. — 817 жыхароў, дзейнічала кузня, вялася здабыча торфу; у складзе калгаса «За Радзіму». З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 130 жылых бу-



*Ферма на эксперыментальнай базе ў в. Майск.*

дынкаў, 164 гаспадаркі. У 1930—60-я г. працавала школа, у 1961 г. — пачатковая (97 вучняў). У 1959 г. 852 жыхары. У 1960 г. вёска ўваходзіла ў калгас «Іскра». З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. 989 жыхароў. У 1979 г. — 709 жыхароў. У 1997 г. — 215 двароў, 548 жыхароў; у 2002 г. — 204 гаспадаркі, 479 жыхароў. Размешчаны базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, ветучастак, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**МАЙСК** — вёска ў Любішчыцкім с/с, цэнтр Косаўскай доследна-меліярацыйнай станцыі, эксперыментальнай базы «Майск». За 8 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 135 гаспадарак, 324 жыхары (2005).

Заснаваны ў 1940 г. на балотах як Косаўская вопытна-балотная станцыя Бел. навукова-даследчага ін-та меліярацыі і воднай гаспадаркі. У 1959 г. пасёлак, 223 жыхары. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. пасёлак Косаўскай вопытна-балотнай станцыі перайменаваны ў пас. Майск. У 1970 г. — 223 жыхары. У 1972 г. 49 двароў, 224 жыхары. У 1979 г. — 354 жыхары, вопытная станцыя. У 1980 г. 397 жыхароў, 138 гаспадарак, эксперыментальная база: дзейнічаюць лабараторыі па даследаванні гатункаў бульбы і развядзенні жывёлы. У 2002 г. — 143 гаспадаркі, 361 жыхар. Размешчаны пач. школа, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін.

**МАНЦЮТЫ** — вёска ў Быценскім с/с, на р. Габелька. За 21 км на ПнУ ад Івацэвіч, 11 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, далей аўтадарозе Слонім—Даманава. 64 гаспадаркі, 109 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Манцюты — вёска ў Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у Зарэчанскім сельскім т-ве, 78 рэвізскіх душ. У 1890 г. вёска, 281 дзес. зямлі. У 1905 г. — 257 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 35 двароў, 209 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. — вёска ў Зарэчанскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 19 жыхароў вёскі — ахвяры фашысцкага тэрору. У 1947 г. ў вёсцы 93 гаспадаркі. У 1952 г. — 322 жыхары. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. — у Быценскім с/с, з 14.12.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 78 жылых будынкаў, 95 гаспадарак, 337 жыхароў. З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 270 жыхароў. У 1997 г. — 86 двароў, 155 жыхароў; у 2002 г. — 74 гаспадаркі, 121 жыхар. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІЛЕЙКІ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, на р. Грыўда. За 6 км ад Косава. За 21 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ружаны—Косава. 197 гаспадарак, 583 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Слонімскага пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1591 г. 5 дымоў. Па інвентару Косаўскай вол. 1597 г. — ся-



ло, 31 двор. У 18 ст. ва ўладанні царквы, на палетках якой вяскоўцы павінны былі адпрацоўваць па дзевяць дзён з валокі штотыднёва. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. Мілейкі — вёска, цэнтр Мілейкаўскага сельскага т-ва (289 сялянскіх душ, 1620 дзес. зямлі), у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Мілейкаўскім сельскім т-ве, разам з вёскамі Лазоўцы і Жамойдзякі 460 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска ў Косаўскай вол., 412 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 31 будынак, 177 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Альбенскім (Альбінаўскім) с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 99 двароў, 383 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вайну загінулі 4 жыхары вёскі. З 20.9.1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не. З 16.7.1954 г. ў Вераш-коўскім с/с. У 1959 г. — 356 жыхароў. У 1961 г. працавала 7-гадовая школа (87 вучняў). З 25.12.1965 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1968 г. ў Мілейкаўскім с/с. У 1970 г. — 385 жыхароў. У 1979 г. дзейнічаў саўгас «Мілейкі», 358 жыхар. У 1997 г. — 661 жыхар, 221 двор. У 2002 г. — 210 гаспадарак, 632 жыхары. Размешчаны базавая школа, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Вёска — радзіма бел. пісьменніка і краязнаўцы Яраслава Пархуты. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**МІРОНІМ** — вёска ў Быценскім с/с, на мяжы са Слонімскім р-нам. За 37 км на Пн ад Івацэвіч, 17 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 146 гаспадарак, 216 жыхароў (2005).

Вядома з канца 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. вёска, цэнтр Міронімскага сельскага т-ва, у Слонімскім пав. Гродзенскай губ. Таварыства налічвала 53 душы сялян-гаспадароў, якія мелі 60 дзес. зямлі. Вёска знаходзілася ва ўладанні памешчыка Баранцэвіча і памешчыцы Кухцінскай, у Быценскай вол. Слонімскага пав., 53 рэвізскія душы. У 1870 г. існавала таксама в. Нова-Міронім — цэнтр Нова-Міронімскага сельскага т-ва (182 душы дзярж. сялян, якія мелі 491 дзес. зямлі). У Міронімскім выселку, створаным з сялян розных валасцей павета, было 29 рэвізскіх душ, 348 дзес. зямлі. У 1880 г. адзначалася як дарожная станцыя на шляху паміж Слонімам і Чамяламі за 19 вёрст ад Слоніма. У 2-й пал. 19 ст. была пабудавана царква з бутавага каменю і цэглы (з'яўляецца помнікам архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю). У 1890 г.: вёска ў Быценскай вол., у Міронімскім сельскім т-ве, 87 дзес. зямлі; с. Міронім-Падухоўны (395 дзес. зямлі); в. Міронім-Казёны (153 дзес. зямлі), выселкі Міронім (194 дзес. зямлі) у Нова-Міронімскім сельскім т-ве. У с. Міронім Быценскай царкве належалі 92 дзес. зямлі. У 1905 г. сяло, 661 жыхар. У 1909 г. сяло, дзейнічалі царква, нар. вучылішча. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 59 двароў, 347 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска Міронім у Доўгаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 178 двароў, 779 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 17 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору. У 1947 г. — 144 гаспадаркі. У 1952 г. — 591 жыхар, у складзе калгаса «XIX партз'езд», працавала кузня. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 138 жылых будынкаў, 164 гаспадаркі, 672 жыхары. З 1959 г. ў калгасе імя XIX з'езда КП(б)Б. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (56 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У



*Я.С.Пархута.*

*Царква ў в. Міронім.*



1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 1972 г. вёска ў складзе Быценскага с/с. У 1979 г. — 597 жыхароў. У 1997 г. — 296 жыхароў, 152 двары. У 2002 г. — 163 гаспадаркі, 258 жыхароў. Размешчаны б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт.

**МІХНАВІЧЫ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, прымыкае да зах. ускраін Івацэвіч, на шашы Брэст—Масква. За 2 км на ПдЗ ад чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 68 гаспадарак, 138 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Міхнавічы — вёска ў маёнтку Косава, уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага, у Слонімскім пав. Гродзенскай губ., 77 рэвізскіх душ, у Быценскім сельскім т-ве. У 1890 г. вёска, 495 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска у Косаўскай вол., 240 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Косаўскай гміне, 20 будынкаў, 98 жыхароў, з якіх 75 праваслаўных беларусаў. 20.12.1925 г. вёска далучана да Боркі-Гічыцкай гміны Косаўскага пав. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Стайкаўскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 64 двары, 284 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. партыз. радыёстанцыя, з якой радыстка Цянутава перадавала звесткі аб руху па магістралях ваеннай тэхнікі і жывой сілы ворага (на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка). У гады вайны загінулі 9 жыхароў вёскі. На Пд ад вёскі, злева ад шашы Івацэвічы—Брэст, у 1968 г. пастаўлены помнік юнаму герою, удзельніку партыз. руху на тэр. Брэсцкай і Пінскай абласцей у Вял. Айч. вайну М.В.Гойшыку. З 20.9. 1947 г. вёска ў Івацэвіцкім р-не, з 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім. У 1959 г. — 251 жыхар. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (21 вучань). З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 286, у 1979 г. — 238 жыхароў. У 1997 г. — 170 жыхароў, 76 двароў. У 2002 г. — 68 гаспадарак, 156 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная і мураваная, пераважна сядзібнага тыпу.

**НАЛІЎКІ** — вёска ў Быценскім с/с, каля р. Шчара. За 35 км на ПнУ ад Івацэвіч, 15 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 70 гаспадарак, 211 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1905 г. Наліўкі — вёска ў Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 176 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Доўгаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 33 двары, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 18 землякоў. У 1947 г. — 37 гаспадарак. У 1952 г. — 152 жыхары. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У



1958 г. — 36 жылых будынкаў, 40 гаспадарак, 153 жыхары. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1972 г. вёска ў складзе Быценскага с/с. У 1979 г. 98 жыхароў. У 1997 г. — 221 жыхар, 71 двор, у складзе калгаса «Падгор'е». У 2002 г. 69 гаспадарак, 227 жыхароў. Размешчаны базавая школа, магазін. Выяўлена селішча каменнага веку.

**НЯХАЧАВА** — вёска ў Стайкаўскім с/с і каля чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. За 10 км на ПдЗ ад Івацэвіч, 123 км ад Брэста. На шашы Брэст—Масква. 119 гаспадарак, 220 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст.

Каля шашы Мінск—Брэст, што праходзіць праз вёску, знаходзіцца паштовая станцыя Заполле (цяпер частка в. Няхачава). Пабудавана ў 1840-я г. з цэглы. Будынак станцыі — помнік грамадз. архітэктуры позняга класіцызму. У 1905 г. Няхачава—урочышча ў Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 279 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі. У 1915—18 гг. дзейнічалі лесапілкі, дзе перапрацоўваўся лес для адпраўкі ў Германію. З лютага 1919 г. акупіравана польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — 35 будынкаў, 214 жыхароў, з якіх 96 беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Гошчаўскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 113 двароў, 367 жыхароў, пошта, магазін. У Вял. Айч. вайну дзейнічала антыфаш. арг-цыя. У гады вайны загінулі 18 жыхароў вёскі. З 20.9. 1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. — 399 жыхароў. З 16.7.1954 г. — у Стайкаўскім с/с. У 1961 г. дзейнічала вячэрняя школа сельскай моладзі (13 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 536, у 1979 г. — 504 жыхары. У 1997 г. — 270 жыхароў, 142 двары. У 2002 г. — 119 гаспадарак, 228 жыхароў. Помнік землякам, воінам і партызанам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж шашы.



*Чыгуначны вакзал у в. Няхачава.*

**ПАГОР'Е** — вёска ў Быценскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Івацэвіч, 13 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 41 гаспадарка, 53 жыхары (2005).



*Гасцiны двор у в. Няхачава.*

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Пагор'е — вёска ў маёнтку Быцень (уладанне графоў Патоцкіх), у Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 157 рэвізскіх душ. Цэнтр сельскага т-ва, якое налічвала 238 душ сялян-гаспадароў, 632 дзес. зямлі. У 1890 г. — 701 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 256 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 16 двароў, 77 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Доўгаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 6 аднавяскоўцаў. У 1947 г. — 144 гаспадаркі. У 1952 г. — 297 жыхароў. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 73 жылыя будынкі, 87 гаспадарак, 324 жыхары. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 1972 г. вёска ў складзе Быценскага с/с. У 1979 г. — 205 жыхароў. У 1997 г. 50 двароў, 83 жыхары, у складзе калгаса «Пагор'е». У 2002 г. — 46 гаспадарак, 83 жыхары.

**ПАДСТАРЫНЬ** — вёска, цэнтр Падстарынскага с/с, за 7 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі на прасёлачнай дарозе, потым па шашы Брэст—Баранавічы. 309 гаспадарак, 785 жыхароў (2005).

У 1886 г. ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 46 двароў, 519 жыхароў, 2 млыны. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1905 г. Падстарынь — вёска (887 жыхароў) і лясная ахова (4 жыхары) у Боркінскай вол. Слонімскага пав. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 61 будынак, 331 жыхар (праваслаўныя беларусы). У чэрв. 1929 г. каля вёсак Кушняры і Падстарынь адбылася канферэнцыя Косаўскага райкома КПЗБ. У канцы 1920-х г. у вёсцы існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска — цэнтр Падстарынскага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 250 двароў, 920 жыхароў, пач. школа, каап. крама, хата-чытальня, магазін. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 132 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе супраць гітлераўцаў, у 1970 г. пастаўлены абеліск. У 1944 г. загінуў партыз. сувязны А.А.Гулевіч; у 1972 г. на будынку школы, дзе вучыўся камсамолец, устаноўлена мемарыяльная дошка. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. ў складзе калгаса «Бальшавік», меліся кузня, вытв-сць калёс і саней. З 16.7.1954 г. ў Кушняроўскім с/с. У 1959 г. — 946 жыхароў. У 1961 г. працавала 8-гадовая школа (157 вучняў). У 1963 г. — фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 1987 г. ў Падстарынскім с/с. У 1970 г. 938 жыхароў. У 1997 г. — 821 жыхар, 309 двароў. У 2002 г. — 314 гаспадарак, 786 жыхароў. Размешчаны базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад, ветучастак.

Вёска — радзіма сав. ваеннага дзеяча, камдзіва І.І.Васілевіча. У 1975 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка на будынку Падстарынскай 8-гадовай школы. У 1903 г. ў вёсцы нарадзіўся К.Дз.Талочка, удзельнік рэв.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, з 1939 г. старшыня Івацэвіцкага пас. Савета, камісар партыз. брыгады імя П.К.Панамарэнкі. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, прамалінейных, паралельных паміж сабой шыротных вуліц, да якіх на У і З далучаюцца кароткія мерыдыянальныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАНКІ** — вёска ў Любішчыцкім с/с, каля р. Грыўды. За 3 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі



Брэст—Баранавічы. На шашы Брэст—Баранавічы. 101 гаспадарка, 247 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў ВКЛ. У 1570 г. 4 дымы. У 1594 г. ўласнасць Сапегаў; сяляне вёскі плацілі гаспадару па адной бочцы аўса, таму што мелі дрэнныя землі. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1905 г. вёска ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 285 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў Боркі-Гічыцкай гміне, 19 двароў, 110 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Любішчыцкім (Любішчынскім) с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 83 двары, 329 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага. У 1959 г. — 319 жыхароў. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (33 вучні). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 384, у 1979 г. — 355 жыхароў. У 1997 г. — 261 жыхар, 110 двароў. У 2002 г. — 101 гаспадарка, 247 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, пастаўленых паралельна паміж сабой і забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЛЕХАВА** — вёска ў Любішчыцкім с/с, над р. Грыўдай. За 10 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Брэст—Баранавічы. 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ. У 1586 г. згадваецца ў акце падзелу маёнтка Дзераўная. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1905 г. вёска і 2 маёнткі, 154 жыхары, у Люшнеўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Косаўскім р-не Брэсцкай вобл. У гады Вял. Айч. вайны загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1947 г. вёска знаходзілася ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. — 283 жыхары. У 1961 г. працавала пач. школа (16 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 206, у 1979 г. — 138 жыхароў. У 1997 г. — 61 жыхар, 35 двароў. У 2002 г. — 30 гаспадарак, 49 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы. На Пд невялікі адасоблены ўчастак забудовы. Будынкі пастаўлены рэдка, драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПРЫБАРАВА** — вёска ў Быценскім с/с, каля р. Шчара. За 30 км на ПнУ ад Івацэвіч, 10 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 75 гаспадарак, 103 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Прыбарава — вёска ў Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 422 рэвізскія душы. Вёска з'яўлялася цэнтрам Прыбараўскага сельскага т-ва (422 душы сялян-гаспадароў, якія мелі 1484 дзес. зямлі). У 1890 г. вёска, 1952 дзес. зямлі. У 1905 г. — 959 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Быценскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 41 двор, 219 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Быценскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., 252 двары, 1146 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 3 жыхары вёскі — ахвяры фаш. тэрору. У 1947 г. — 200 гаспадарак. У 1952 г. 802 жыхары. З 8.1. 1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10. 1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 195 жылых будынкаў, 226 гаспадарак, 635 жыхароў. У 1961 г. дзейнічала пач. школа (33 вучні). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. 398 жыхароў. У 1997 г. — 176 жыхароў, 109 двароў, магазін, у складзе саўгаса «Пагор'е». У 2002 г. — 87 гас-

падарак, 138 жыхароў. Каля вёскі выяўлена кераміка 1-га тыс. н.э.

**РАЗМЕРКІ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 6 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Брэст—Баранавічы. 45 гаспадарак, 94 жыхары (2005).

Паводле звестак Дзярж. гіст. архіва Літвы, у Гошчаве да 1794 г. існавала грэка-уніяцкая царква. У яе прыход сярод іншых уваходзілі сяляне в. Размеркі. Царква валодала 5 валокамі зямлі. Пасля закрыцця грэка-уніяцкіх цэркваў у 1839 г. сяляне перайшлі ў праваслаўную веру, сталі наведваць праваслаўную царкву, пабудаваную на месцы б. каталіцкага касцёла на У ад маёнтка Гошчава. У 1881 г. вёска Размеркі ў Гошчаўскім царк. прыходзе.

У 1870 г. Размеркі — вёска ў маёнтку Косава (уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага), у Слонімскім пав. Гродзенскай губ., 96 рэвізскіх душ, у Гошчаўскім сельскім т-ве. У 1890 г. ў Косаўскай вол., у Гошчаўскім сельскім т-ве, разам з в. Гошчава 652 дзес. зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 224 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. Паміж вёскамі Гошчава і Размеркі ў 1920 г. былі ўтвораны асады польскіх легіянераў пад назвай Белы Двор. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Стайкаўскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 76 двароў, 241 жыхар, каап. лаўка. У Вял. Айч. вайну загінулі 6 жыхароў вёскі. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у складзе калгаса «Маладая гвардыя», дзейнічала кузня. У 1959 г. — 239 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 236 жыхароў. У 1979 г. — 199 жыхароў, ферма. У 1997 г. — 116 жыхароў, 50 двароў, у складзе калгаса імя Леніна. У 2002 г. — 49 гаспадарак, 108 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай, крыху выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАЦКЕВІЧЫ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 6 км ад Косава, 21 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 59 гаспадарак, 92 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як Радковічы, у Слонімскім пав. ВКЛ. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. вёска ў казённым маёнтку Бусяж Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 226 жыхароў. Цэнтр Рацкевіцкага сельскага т-ва (364 душы сялян, 1349 дзес. зямлі) у Косаўскай вол. Слонімскага пав. У 1890 г. вёска ў Рацкевіцкім сельскім т-ве, разам з вёскамі Дубітава, Хідэркі, Старажоўшчына 1660 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска ў Косаўскай вол., 594 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 29 будынкаў, 163 жыхары (праваслаўныя беларусы). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Бусяжскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 135 двароў, 567 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. — 448 жыхароў. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 353 жыхары. У 1980 г. — у Бусяжскім с/с, цэнтр калгаса «Шлях да камунізму». З 1987 г. вёска ў складзе Мілейкаўскага с/с. У 1997 г. 81 двор, 142 жыхары, у калгасе «Бусяжскі». У 2002 г. — 64 гаспадаркі, 109 жыхароў. Дзейнічае свідравіна мінеральнай вады. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУДА** — вёска ў Падстарынскім с/с, каля р. Грыўда. За 5 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі



Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Кушняры—Івацэвічы. 61 гаспадарка, 119 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Руда — вёска, цэнтр сельскага т-ва, у Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У т-ве 126 душ сялян-гаспадароў, якія мелі 440 дзес. зямлі. У 1905 г. Руда — вёска (313 жыхароў) і маёнтак (40 жыхароў) Боркінскай вол. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 15 будынкаў, 111 жыхароў (праваслаўных беларусаў); фальварак, 1 будынак, 5 жыхароў. У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Сенькаўскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 89 двароў, 457 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі 2 жыхары вёскі, ахвяры фаш. тэрору. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у калгасе імя Жданава, працавала кузня. З 16.7. 1954 г. ў Кушняроўскім с/с. У 1959 г. — 342 жыхары. У 1961 г. працавала пач. школа. З 25.11.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 314 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» у Падстарынскім с/с. У 1997 г. — 151 жыхар, 66 двароў; у 2002 г. — 63 двары, 135 жыхароў. Размешчаны пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУДНЯ** — вёска ў Быценскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Івацэвіч, за 7 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Берасцейскім ваяв. ВКЛ. Пад 1577 г. пазначана ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва як сяло ў Волінскай вол. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1856 г. Рудня — вёска ў складзе маёнтка Быцень Слонімскага пав. Гродзенскай губ., належала графам Патоцкім. У ліст. 1856 г. адбыліся выступленні сялян маёнтка, у якіх прынялі ўдзел сяляне в. Рудня. Для супакаення сялян у маёнтак былі ўведзены дзве сотні казакаў, якія заставаліся там на працягу 8 месяцаў. У 1870 г. вёска ў Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 44 рэвізскія душы, у Зарэцкім сельскім т-ве. 25 дзярж. сялян в. Рудня ўваходзілі ў Запольскае сельскае т-ва. У 1890 г. вёска ў Быценскай вол., у Зарэцкім сельскім т-ве, 118 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 159 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дабромысленскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 2 фальваркі, 8 двароў, 34 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. — вёска ў Зарэцкім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. — 30 гаспадарак. У 1952 г. 93 жыхары. З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 16.7. 1954 г. — у Быценскім с/с, з 14.10. 1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 23 жылыя будынкі, 24 гаспадаркі, 82 жыхары. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 56, у 1979 г. — 27 жыхароў. У 1997 г. 6 двароў, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Быценскі». У 2002 г. — 7 гаспадарак, 9 жыхароў.

**РУДНЯ** — вёска ў Рэчкаўскім с/с, за 60 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 256 гаспадарак, 603 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1897 г. ў Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 39 двароў, 235 жыхароў. У 1909 г. 54 двары, 428 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1924 г. вёска ў Целяханскай гміне, 81 будынак, 489 жыхароў, з якіх 484 беларусы. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Рэчкаўскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 120 двароў, 751 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана



*Крыжаўзвіжанская царква на ўскраіне в. Святая Воля.*

ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 3 жыхары вёскі, ахвяры фаш. тэрору. За 0,8 км на У ад вёскі ў 1941—42 гг. гітлераўцы расстралялі 2 тыс. савецкіх грамадзян; у 1968 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлена стэла. У 1951—52 гг. вёска, 163 двары, 771 жыхар, у калгасе «Перамога». З 8.1.1954 г. ў складзе Брэсцкай вобл. У 1958 г. — 187 жылых будынкаў, 196 гаспадарак, 861 жыхар. 8.8.1959 г. вёска ў Лагішынскім, з 25.12.1962 г. — у Пінскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 1037 жыхароў. У 1979 г. — 935 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне». У 1997 г. 280 двароў, 711 жыхароў, у складзе калгаса «Рассвет».

**РЭЧКІ** — вёска, цэнтр Рэчкаўскага с/с, за 65 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Аўтадарогай злучана з Івацэвічамі. 320 гаспадарак, 948 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1876 г. вёска ў складзе Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 58 сялян-уладальнікаў, у Краёўскім сельскім т-ве. У 1879 г. сяленне Целяханскага царк. прыхода. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 46 будынкаў, 291 жыхар, хлебазапасны магазін. Побач знаходзілася аднайменная сядзіба пры ўрочышчы Рэчкі, 2 будынкі, 13 жыхароў. У 1909 г. 67 двароў, 485 жыхароў. З лютага 1919 г. акупіраваны польскімі войскамі. У 1919 г. партызаны вёсак Краі, Гутка і Рэчкі на месцы стварылі партыз. рэспубліку з органамі сав. улады, кіраўнікамі, узброенай абаронай («Краі—Гутка—Рэчкаўская рэспубліка»).

З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Целяханскай гміне, 84 будынкі, 534 жыхары. У 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. вёска, цэнтр Рэчкаўскага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 130 двароў, 851 жыхар, лесазавод (25 рабочых), млын, аддз. смалакурнай арцелі «Вызваленне», пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 101 земляка, якія загінулі ў 1941—45 гг., у 1975 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены помнік — скульптура воіна і партызана, побач — стэла з імёнамі загінуўшых. У 1951—52 гг. — 163 двары, 892 жыхары, у калгасе «Перамога». У 1954 г. працавала кузня, вяліся дабыча торфу, лесанарыхтоўкі, дзейнічаў клуб. З 8.1.1954 г. ў складзе Брэсцкай вобл. У 1958 г. — 198 жылых будынкаў, 212 гаспадарак, 944 жыхары, смалакурны з-д, млын, лесазавод. З 1959 г. — у Лагішынскім, з 25.12.1962 г. — у Пінскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. — 1115 жыхароў, праўленне сельсавета. У 1970 г. 1141 жыхар. У 1997 г. — 997 жыхароў, 316 двароў, цэнтр калгаса «Світанак». Размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, ветучастак, аддз. сувязі, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**САКОЎЦЫ** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2005).



Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Сакоўцы — вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 97 жыхароў, у Даргужоўскім сельскім т-ве. У 1890 г. вёска, 409 дзес. зямлі. У 1905 г. ў Косаўскай вол., 199 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 20 будынкаў, 90 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. вёска ў Бусяжскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 77 двароў, 309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у калгасе «Перамога», вяліся лесанарыхтоўкі, працавала кузня. У 1959 г. — 182 жыхары. У 1961 г. працавала пач. школа (12 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 1968 г. вёска ў складзе Мілейкаўскага с/с. У 1970 г. ў ёй 125 жыхароў. У 1979 г. — 105 жыхароў, ферма. У 1980 г. — у складзе саўгаса «Мілейкі». У 1997 г. — 41 жыхар, 23 двары. У 2002 г. — 23 гаспадаркі, 46 жыхароў.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка, удзельніка рэв. і нац.-вызв. руху, перакладчыка Піліпа Сямёнавіча Пестрака.

**САСНОВЫ**, Сасновы Бор — пасёлак у Дабрамысленскім с/с. У лесе, на развілцы дарог на Мінск і Слуцк. За 25 км на У ад Івацэвіч, 14 км ад чыг. ст. Даманава на лініі Брэст—Баранавічы. 44 гаспадаркі, 98 жыхароў (2005).

Узнік пасля Вял. Айч. вайны як пасёлак побач з дзіцячым аздараўленчым санаторыем «Сасновы Бор». У 1961 г. — у Дабрамысленскім с/с, працавала 7-гадовая школа (97 вучняў). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. Пастановай Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. пасёлак пры санаторыі Сасновы Бор Дабрамысленскага с/с перайменаваны ў пас. Сасновы. У 1979 г. — 235 жыхароў, дзіцячы санаторый. У 1997 г. — 106 жыхароў, 40 двароў. У 2002 г. — 47 гаспадарак, 109 жыхароў.

**СВЯТАЯ ВОЛЯ** — вёска, цэнтр Святавольскага с/с, за 33 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Гомель. На аўтадарозе Івацэвічы—Пінск. 245 гаспадарак, 526 жыхароў (2005).


*П.С.Пестрак.*

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як вёска ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. 23.11.1724 г. кароль Аўгуст II надаў вёсцы правы мястэчка і дазволіў праводзіць штотыднёвыя таргі. Была ва ўладанні Дольскіх, Вішнеўскіх, Агінскіх, затым Пуслоўскіх. У 1727 г. князі Іосіф і Міхал Агінскія пабудавалі царкву. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1863 г. на месцы састарэлай на сродкі казны была пабудавана новая драўляная Узвіжанская царква ў выглядзе прадаўгаватага крыжа з аднаярусным іканастасам (12 абразоў), меліся старадаўні сярэбраны крыж вагой 1 фунт і 29 лотаў, евангеллі 1740 і 1841 гг. выдання, у архіве метрычныя кнігі з 1807 г. На вясковых могілках была капліца. У 1876 г. Святаволя — мястэчка Пінскага пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Плянта, 125 сялян-уладальнікаў, якія былі аб'яднаны ў Святавольскім сельскім т-ве; дзейнічала праваслаўная царква. Мястэчка, цэнтр воласці, каля 70 двароў і больш за 600 жыхароў, валаснае кіраванне, школа. Паводле перапісу 1897 г. Святая Воля — мястэчка (34 будынкі, 277 жыхароў, яўр. малітоўны дом, валасное праўленне, нар. вучылішча, 4 крамы малочнага торгу, карчма); сяло (104 будынкі, 456 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква, 3 крамы, піцейная ўстанова); лясная ахова (1 двор, 5 жыхароў), уладанне Ф.Пуслоўскага. У 1909 г. ў мястэчку 643 жыхары, 114 двароў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі; лінія фронту ўстанавілася ўздоўж Агінскага канала: праходзіла цераз Целяханы, Вульку-Целяханскую,

Выганашчы, Выганашчанскае возера. Фронт стаяў тут да восені 1918 г. Германскія салдаты пабудавалі вузкакалейную чыгунку ад ст. Івацэвічы на Святую Волю, Целяханы, Красніцу і ад ст. Косава-Палескае ў лясныя масівы Гуліна, Міхаліна Ружанскай пушчы. Пачаўся масавы вываз лесу, паблізу станцый запрацавалі лесапільныя з-ды. З лютага 1919 г. акупіравана польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1920 г. ў Святой Волі налічвалася 66 мужчын, 73 жанчыны, 93 дзіцяці; 20 коней, 4 каровы, 8 свіней; дзейнічала амбулаторыя. У 1924 г. Святая Воля — вёска, цэнтр Святавольскай гміны, 83 будынкі, 615 жыхароў, з якіх 367 беларусаў. Да студз. 1929 г. на тэр. Боркі-Гічыцкай, Свята-Вольскай і Целяханскай гмін дзейнічала звыш 20 ячэек КПЗБ, якія падпарадкоўваліся Косаўскаму райкому.

З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска — цэнтр Святавольскага с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 205 двароў, 1319 жыхароў. На тэр. сельсавета меліся лесапільны з-д, маслазавод, млын, аддзел смалакурнай арцелі «Вызваленне», дзейнічалі няпоўная сярэдняя, 3 пач. школы, бальніца на 15 ложкаў, амбулаторыя, клуб, б-ка, дзіцячы сад, паштова-тэлегр. аддзяленне. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. ліст. 1942 г. быў створаны «Святавольскі падраённы к-т па барацьбе з фаш. акупантамі» (каля 50 патрыётаў), які ўзначальваў дзейнасць антыфашыстаў-падпольшчыкаў у вёсках Святая Воля, Малая Гаць, Вялікая Гаць, Доўгая, Турная, Калонск, Глінная, Амельня. 25.2.1943 г. партызаны пасля 7-часовага бою разграмілі ням.-паліцэйскі гарнізон. Народныя мсціўцы разбурылі таксама 33-кіламетровы ўчастак вузкакалейнай чыгункі Святая Воля—Парэчча. У крас. 1944 г. гітлераўскія карнікі знішчылі 137 двароў, загубілі 436 жыхароў. На фронце загінулі 27 жыхароў вёскі. На ўшанаванне памяці 61 жыхара вёсак Доўгае, Малая Гаць, Святая Воля, Турная, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1947 г. ў вёсцы 143 гаспадаркі. У 1951—52 гг. — 177 двароў, 826 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна. У 1954 г. працавала кузня, вяліся дабыча торфу, лесанарыхтоўкі. З 8.1.1954 г. вёска ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. — 157 жылых будынкаў, 206 гаспадарак, 794 жыхары, Дом культуры. З 8.1.1959 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1961 г. працавалі сярэдняя школа (306 вучняў), школа сельскай моладзі (27 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працавала ўчастковая бальніца. З 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. 7.9.1972 г. Малая Гаць была далучана да в. Святая Воля. У 1978 г. ў вёсцы 967 жыхароў, 308 гаспадарак. У 1979 г. — 1018 жыхароў, праўленне калгаса, цэнтр Святавольскага с/с. У 1997 г. — 612 жыхароў, 274 двары. У 2002 г. — 267 гаспадарак, 538 жыхароў. Размешчаны лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, ветучастак, аддз. сувязі, магазіны, новая праваслаўная царква, пабудаваная ў 1994 г. на месцы старой драўлянай. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПдЗ (уздоўж аўтадарогі), да якой далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухба-



*Крыжаўзвіжанская царква на ўскраіне в. Святая Воля.*





*Зажынкі ў в. Святая Воля.*

ковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

За 1 км ад вёскі, справа ад дарогі на в. Доўгае, знаходзіцца курганны могільнік (9 насыпаў). Выявіў у 1968 г. В.Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. В.Р.Выржыкоўскі.

**СЕНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Падстарынскім с/с, на р. Грыўда. За 7 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 107 гаспадарак, 196 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. вёска — цэнтр сельскага т-ва ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Т-ва налічвала 135 душ сялян-гаспадароў, 402 дзес. зямлі. У 19 ст. вёска адносілася да маёнтка Івацэвічы, якім валодалі Юндзілы. У 1905 г. — вёска (507 жыхароў), фальварак (18 жыхароў), лясная ахова (4 жыхары). З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 37 будынкаў, 193 жыхары, з якіх 187 праваслаўных беларусаў; фальварак, 3 будынкі, 19 жыхароў. У 1929 г. жыхары вёсак Гошчава і Сенькавічы падалі школьнаму інспектару заяву аб навучанні іх дзяцей на бел. мове і адкрыцці бел. школы. Пасля таго, як улады адмовіліся выканаць просьбу, адбылася дэманстрацыя падлеткаў. У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Сенькавіцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 170 двароў, 823 жыхары, пач. школа, крама. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 11 жыхароў вёскі, ахвяр фаш. тэрору. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. ў складзе калгаса імя Арджанікідзе. З 16.7.1954 г. ў Кушняроўскім с/с. У 1959 г. — 733 жыхары. У 1961 г. працавала 8-гадовая школа (155 вучняў). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 789 жыхароў. З 1987 г. ў Падстарынскім с/с. У 1997 г. — 264 жыхары, 120 двароў, у складзе калгаса «Бальшавік»; у 2002 г. — 108 гаспадарак, 219 жыхароў. Размешчаны базавая школа, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

На тэрыторыі вёскі знаходзіцца курганны могільнік (мясц. назва Шведскія капцы) — 11 насыпаў, якія адносяцца да 11—13 ст.; могільнік вядомы з канца 19 ст. У 1965 г. П.Ф.Лысенка раскапаў 4 курганы, матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Ін-це гісторыі НАН Беларусі.

**СКУРАТЫ** — вёска ў Квасевіцкім с/с, за 3 км на З ад Косава. За 18 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 104 гаспадаркі, 185 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Па інвентару Косаўскай вол. 1597 г. — сяло, 12 двароў, 6 валок прыдатнай зямлі і 5 валок пустых. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. вёска ў маёнтку Косава (уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага), у Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 319 рэвізскіх душ, у Скуратаўскім сельскім т-ве. У 1870 г. т-ва налічвала 144 душы сялян; 374 дзес. зямлі. У 1890 г. вёска ў Скуратоўскім сельскім т-ве, 646 дзес. зямлі. У 1905 г. — 617 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лю-

тага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Касаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Касаўскай гміне, 59 будынкаў, 358 жыхароў, з якіх 354 беларусы. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Альшаніцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 185 двароў, 743 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны і ў партыз. барацьбе загінула 40 аднавяскоўцаў, 4 вяскоўцы расстраляны фашыстамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. вёска ў калгасе «30 гадоў ВЛКСМ», праводзіліся лесанарыхтоўкі, працавала кузня. З 31.3.1959 г. ў Бяла-віцкім с/с. У 1959 г. — 672 жыхары. У 1961 г. працавала пач. школа (70 вучняў). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. З 1964 г. вёска ў складзе Верашкоўскага с/с. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 659 жыхароў. З 1980 г. ў Квасевіцкім с/с. У 1997 г. 139 двароў, 262 жыхары, у складзе калгаса «Зара». У 2002 г. — 125 гаспадарак, 233 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай мерыдыянальнай вуліцы, да якой на Пд далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СОМІНА** — вёска ў Целяханскім пас. Савеце, каля воз. Соміна. За 53 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 154 гаспадаркі, 443 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Пад 1559 г. пазначана ў матэрыялах ВКЛ аб пушчах. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. Соміна — вёска ў Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уладанне Пуслоўскіх, 15 двароў. У 1876 г. ў Сомінскім сельскім т-ве, 56 сялян-уласнікаў. У 1879 г. сяленне Целяханскага царк. прыхода. У 1897 г. вёска, 39 двароў, 302 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач знаходзілася аднайменная сядзіба, 11 жыхароў, 2 будынкі. У 1909 г. 58 двароў, 504 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Целяханскай гміне, 49 будынкаў, 316 жыхароў, з якіх 313 праваслаўных беларусаў. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Гортальскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 78 двароў, 584 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Фашысты расстралялі 4 жыхароў вёскі, 15 аднавяскоўцаў загінулі на франтах вайны. У 1947 г. 103 гаспадаркі. У 1950 г. ў калгасе імя Куйбышава. У 1951—52 гг. — 126 двароў, 602 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава. У 1954 г. працавала кузня, вялася дабыча торфу, дзейнічала хата-чытальня. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. ў Гортальскім с/с, 119 жылых будынкаў, 132 гаспадаркі, 630 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў складзе Лагішынскага р-на, з 25.11.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. 751 жыхар. У 1980 г. — у калгасе імя Куйбышава. З 1987 г. вёска ў Целяханскім пас. Савеце. У 1997 г. — 510 жыхароў, 169 двароў, у калгасе «Расія». У 2002 г. — 163 гаспадаркі, 456 жыхароў.

**СТАЙКІ** — вёска, цэнтр Стайкаўскага с/с, за 2 км на З ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Каля аўтадарогі Брэст—Баранавічы. 349 гаспадарак, 994 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Стайкі — вёска, цэнтр сельскага т-ва ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губерні. Т-ва налічвала 24 душы сялян-гаспадароў, 628 дзес. зямлі. У 1905 г. 632 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 74 будынкі, 365 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Стайкаўскага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 207 двароў, 859 жыхароў, кап. крама, пач. школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 57 жыхароў сельсавета, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1978 г.



ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе «Чырвоны сцяг» (з 1951 г. — «Савецкая Беларусь»), вяліся дрэванарыхтоўкі, працавала кузня, мелася вытв-сць калёс і саней, дзейнічала ручная маслабойка ў арцелі «Дзень перамогі». У 1959 г. — 958 жыхароў. У 1961 г. — 7-гадовая школа (157 вучняў). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 1050, у 1979 г. — 1097 жыхароў. У 1997 г. — 1074 жыхары, 395 двароў, цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». У 2002 г. — 401 гаспадарка, 1028 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРАЖОЎШЧЫНА** — вёска ў Косаўскім с/с, на р. Грыўда. За 2 км ад Косава. За 13 км на ПнЗ раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 131 гаспадарка, 328 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне Старажэўшчына ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Па інвентару Косаўскай вол. 1597 г. — сяло, 17 двароў, 8 валок зямельных угоддзяў. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. Старажоўшчына — вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 236 жыхароў. У складзе Рацкевіцкага сельскага т-ва. У 1905 г. вёска, 438 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 44 будынкі, 245 жыхароў, з якіх 243 праваслаўныя беларусы. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Сенькавіцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл. 122 двары, 399 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 15 жыхароў вёскі, ахвяр фаш. тэрору, на франтах вайны — 12 вяскоўцаў. З 20.9. 1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. З 1954 г. ў Косаўскім с/с, дзейнічала пач. школа (29 вучняў). З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — у Косаўскім гарсавеце, 341 жыхар. З 1987 г. ў складзе Косаўскага с/с. У 1997 г. 375 жыхароў, 154 двары, у складзе калгаса «Косава». У 2002 г. — 145 гаспадарак, 366 жыхароў.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Дабромысленскім с/с, непадалёку ад р. Шчара. За 30 км на ПнУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. 190 гаспадарак, 360 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як сяленне ў Берасцейскім пав. ВКЛ. Пад 1558 г. згадваецца ў пацвяр-



*Уборка цукровых буракоў у СВК «Новыя Стайкі».*

джальнай грамаце Жыгімонта I на дараванне вёскі Марціну Шырме. Пад 1577 г. пазначаны маёнтак Сельца ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. Сялец — вёска Дабромысленскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1870 г. ў вёсцы 260 рэвізскіх душ, у Сялецкім сельскім т-ве. У 1890 г. вёска, 742 дзес. зямлі. У 1905 г. 754 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска Сялец і хутар Сяльцы, у Дабромысленскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., разам з б. маёнткам Суднікі 219 двароў, 1092 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 5 вяскоўцаў, ахвяр фаш. тэрору, на франтах вайны — 31 аднавяскоўец. У 1947 г. ў вёсцы 206 гаспадарак. У 1952 г. 1001 жыхар. З 8.1. 1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10. 1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — 170 жылых будынкаў, 218 гаспадарак, 821 жыхар. У 1961 г. працавала 8-гадовая школа (1650 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працавала ўчастковая бальніца. З 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1979 г. 776 жыхароў. У 1997 г. — 506 жыхароў, 223 двары, у складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка». У 2002 г. — 200 гаспадарак, 439 жыхароў. Размешчаны базавая школа, магазін.

**СЯРАДАВА**, С е р а д о в а — вёска ў Жытлінскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Каля шашы Брэст—Баранавічы. 88 гаспадарак, 146 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. У 1870 г. вёска ў Косаўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У складзе маёнтка Косава (уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага), 171 рэвізская душа, у Сярадаўскім сельскім т-ве, якое налічвала 84 душы, 292 дзес. зямлі. Паводле звестак Дзярж. гіст. архіва Літвы, у в. Гошчава існавала да 1794 г. грэка-уніяцкая царква. У яе прыход уваходзілі сяляне вёсак Гошчава, Аўсто, Размеркі, Быч, Воля, Сярадава. Царква валодала 5 валокамі зямлі. Пасля закрыцця грэка-уніяцкіх цэркваў у 1839 г. сяляне перайшлі ў праваслаўную веру, сталі наведваць праваслаўную царкву, пабудаваную на месцы б. каталіцкага касцёла. У 1881 г. ў Гошчаўскім царк. прыходзе (Гошчава, Размеркі, Быч, Серадова) жыло 1638 чалавек. У 1905 г. вёска (362 жыхары) і фальварак (16 жыхароў). З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 14 будынкаў, 80 жыхароў, з якіх 68 праваслаўных беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Гошчаўскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 105 двароў, 468 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, загінулі 26 жыхароў вёскі — ахвяры фаш. тэрору. З 20.9. 1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 1954 г. ў складзе Стайкаўскага с/с. У 1959 г. ў вёсцы 408 жыхароў. У 1961 г. — у Яглевіцкім с/с, пач. школа (32 вучні). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 373, у 1979 г. — 348 жыхароў. З 1981 г. ў складзе Жытлінскага с/с. У 1997 г. 185 жыхароў, 102 двары. У 2002 г. — 91 гаспадарка, 167 жыхароў. Размешчаны вучэбная гаспадарка Івацэвіцкага ПТВ-162, магазін. За 0,5 км на Пд ад вёскі помнік ахвярам фашызму ў памяць аб знішчэнні ням. захопнікамі в. Зацішша і 125 яе жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТУРНАЯ** — вёска ў Святавольскім с/с, за 37 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Аўтадарогай злучана з Івацэвічамі. 103 гаспадаркі, 229 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1761 г. пабудаваны палац і разбіты парк. У 1793 г. ў Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. Турная — вёска ў Целяханскай вол. Пінскага пав., 22 жыхары. У



1897 г. 52 двары, 361 жыхар. У 1909 г. вёска ў Святавольскай вол. Пінскага пав., 72 двары, 384 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — в. Турная ў Святавольскай гміне, 43 будынкі, 274 жыхары (праваслаўныя беларусы). З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска ў Святавольскім с/с Целяханскага р-на Пінскай вобл., 90 двароў, 511 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 61 жыхара вёсак Доўгае, Малая Гаць, Святая Воля, Турная, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск у в. Святая Воля. У гады вайны загінулі 15 вяскоўцаў, ахвяр фаш. тэрору. У 1947 г. — 100 гаспадарак. У 1951—52 гг. — 11 двароў, 522 жыхары, у складзе імя Калініна. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1958 г. — 114 жылых будынкаў, 124 гаспадаркі, 549 жыхароў. З 8.1.1959 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1961 г. дзейнічала 7-гадовая школа (92 вучні). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1979 г. 514 жыхароў. У 1980 г. — у Святавольскім с/с, у калгасе імя Калініна. У 1997 г. — 280 жыхароў, 132 двары. У 2002 г. — 113 гаспадарак, 236 жыхароў. Размешчаны пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, паралельна да якой на Пд праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**УЛАСАЎЦЫ** — вёска ў Жытлінскім с/с, за 15 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 34 гаспадаркі, 59 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Уласаўцы — вёска ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 86 рэвізскіх душ. Ва Уласаўскім сельскім т-ве налічвалася 35 душ, 245 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 235 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 29 будынкаў, 191 жыхар (праваслаўныя беларусы). Вядома актыўнасцю рэв. руху ў 1922—39 гг. супраць улад Польшчы. З 1931 г. ў вёсцы дзейнічала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Жытлінскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 90 двароў, 354 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. гітлераўцы знішчылі 94 двары, загубілі 64 жыхароў. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1949 г. арганізаваны калгас. У 1950 г. — у складзе калгаса «Чырвоная зорка». У 1959 г. 292 жыхары. У 1960 г. ў складзе калгаса «Світанак». У 1961 г. дзейнічала пач. школа (21 вучань). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 241, у 1979 г. — 160 жыхароў. У 1997 г. — 51 двор, 86 жыхароў, брыгада калгаса імя Чарткова, магазін. У 2002 г. — 41 гаспадарка, 74 жыхары.

**ХАДАКІ** — вёска ў Жытлінскім с/с, за 18,5 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 165 гаспадарак, 416 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1559 г. згадваюцца пры апісанні граніц Здзітаўскай пушчы як с. Хадакоўцы Слонімскага пав. ВКЛ, якое ад Здзітава «знаходзіцца за дзве мілі і там людзей чатыры службы, пад самай пушчай Здзітаўскай на пераходзе звярыным сядзяць». З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. вёска ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цэнтр Хадакоўскага сельскага т-ва, 196 рэвізскіх душ. Хадакоўскае сельскае т-ва налічвала 100 душ, 428 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска, 523 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 43 будынкі, 204 жыхары (праваслаўныя беларусы). У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Жытлінскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 106 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана

ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы знішчылі 120 двароў, загубілі 92 жыхароў. За 0,3 км ад вёскі пахаваны жыхары вёскі А.Я.Калтун і А.М.Калтун, расстраляныя фашыстамі 14.3.1943 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у калгасе «Новае жыццё», працаваў механічны млын. У 1959 г. — 331 жыхар. У 1960 г. вёска знаходзілася ў складзе калгаса «Світанак». У 1961 г. працавала 8-гадовая школа (90 вучняў). З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працавала ўчастковая бальніца. З 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 391, у 1979 г. — 361 жыхар. Імем аднаго з арганізатараў партыз. руху ў раёне, камандзіра партыз. атрада Аляксея Пятровіча Чарткова названы мясц. калгас (у 1997 цэнтр у в. Хадакі). У 1997 г. — 513 жыхароў, 174 двары. У 2002 г. — 166 гаспадарак, 439 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, лясніцтва, ветучастак, аптэка, магазіны.

**ХАДОРКІ** — вёска ў Косаўскім с/с на р. Бусяж. За 19,5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 45 гаспадарак, 64 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. З 1567 г. пазначаны ў метрыцы ВКЛ як с. Хадарыкавічы, у Слонімскім пав. Па інвентару Косаўскай вол. 1597 г. сяло, 13 двароў. У 1870 г. Хадоркі — вёска ў казённым маёнтку Бусяж, у Бусяжскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 190 сялянскіх душ, у Рацкевіцкім сельскім т-ве. У 1905 г. вёска, 443 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 59 будынкаў, 330 жыхароў, з якіх 318 беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Грыўдзенскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 109 двароў, 409 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. З 17.4.1959 г. ў Бусяжскім с/с. У 1961 г. вёска Хадоркі ў Косаўскім с/с, дзейнічала пач. школа (16 вучняў). З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — у Косаўскім гарсавеце, 301 жыхар. З 1987 г. ў складзе Косаўскага с/с. У 1997 г. — 100 жыхароў, 59 двароў, у складзе калгаса «Косава»; у 2002 г. — 51 гаспадарка, 75 жыхароў.

**ХАЛАП'Я** — вёска ў Падстарынскім с/с, за 2 км на Пн ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, потым па шашы Брэст—Баранавічы. 55 гаспадарак, 121 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1905 г. Халап'я — вёска ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 151 жыхар. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 12 будынкаў, 50 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. вёска ў Сенькавіцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 37 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. З 16.7.1954 г. ў Кушняроўскім с/с. У 1959 г. — 217 жыхароў. З 25.12.1965 г. ў Бярозаўскім, з 6.1. 1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 281 жыхар. З 1987 г. ў Падстарынскім с/с. У 1997 г. — 139 жыхароў, 52 двары; у 2002 г. — 56 гаспадарак, 124 жыхары. Планіровачна складаецца з трох кароткіх, паралельных паміж сабой і шчыльна пастаўленых вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХАРОШЧА** — вёска ў Мілейкаўскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Івацэвіч, 26 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, далей аўтадарозе Косава—Івацэвічы. 76 гаспадарак, 122 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1886 г. вёска ў Косаўскай вол.



Слонімскага пав., 26 двароў, 281 жыхар. У 1905 г. вёска і маёнтак, 575 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. – польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Косаўскім р-не Брэсцкай вобл., 157 двароў, 673 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1959 г. – у Бусяжскім с/с, 532 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім, 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 479 жыхароў. З 1987 г. ў Мілейкаўскім с/с. У 1997 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. мастака Ф.В.Шастака.

**ХРЫШЧОНАВІЧЫ** – вёска ў Квасевіцкім с/с, на р. Фядоска. За 19 км на З ад Івацэвіч, за 17 км ад чыг. ст. Косава-Палескае на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ружаны—Івацэвічы. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У 1556 г. пры р. Фядзюска на пераходзе звярыным жылі два селяніны Пётр і Лаўрэн Хрышчонавічы. Магчыма, яны і заклалі вёску. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. Хрышчонавічы – вёска ў маёнтку Косава (уладанне памешчыка Вандаліна Пуслоўскага), у Слонімскім пав. Гродзенскай губ., 64 рэвізскія душы, у Альшаніцкім сельскім т-ве. У 1905 г. ў Косаўскай вол. Слонімскага пав., 163 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. – польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Косаўскай гміне, 23 будынкі, 117 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Альшаніцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 66 двароў, 345 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. ў вёсцы і яе наваколлі партыз. атрад імя Г.М.Дзмітрыева вёў баі супраць гітлераўцаў. У 1975 г. на ўшанаванне памяці партызан у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. З 31.3.1959 г. ў Бялавіцкім с/с. У 1959 г. – 167 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. З 1964 г. ў складзе Верашкоўскага с/с. З 6.1.1965 г. – у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. – 116 жыхароў. З 17.11.1980 г. ў Квасевіцкім с/с. У 1997 г. – 34 жыхары, 24 двары. У 2002 г. – 18 гаспадарак, 24 жыхары. У цэнтры вёскі помнік партызанам, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц (па абодва бакі ракі), забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЦЕЛЯХАНЫ** – гар. пасёлак на Агінскім канале, цэнтр Целяханскага пас. Савета. За 45 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы, 181 км ад Брэста, на аўтадарозе Івацэвічы—Пінск. 4,6 тыс. жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах Целяханы згадваюцца з 16 ст. як сяленне ў Пінскім пав. ВКЛ. Належалі Дольскім, Вішнявецкім, у 18 ст., – Агінскім, у 19 ст. – Пуслоўскім. У 1767—83 гг. паміж рэкамі Ясельда і Шчара па ініцыятыве і на сродкі гетмана ВКЛ магната М.К.Агінскага пабудаваны Агінскі канал, які злучае басейны Дняпра і Нёмана ў адзіную водную сістэму. Праходзіць цераз Выганашчанскае і Вулькаўскае азёры. Першапачаткова ка-

*Целяханскі краявід.*



нал наз. Целяханскім. Пасля адкрыцця суднаходства па канале перавозілі, галоўным чынам, збожжа і лес, а таксама сыравіну на вотчынныя мануфактуры ў Целяханы, што спрыяла эканам. развіццю мястэчка — аднаго з уладанняў Агінскага. Канал меў 10 шлюзаў. З прычыны няўдала спраектаванай трасы ў засуху зніжаўся ўзровень вады, пагаршаліся ўмовы навігацыі. У час 1-й сусветнай вайны ўздоўж канала праходзіла лінія фронту, усе гідратэхнічныя збудаванні былі разбураны. Захаваліся рэшткі многіх ням. дотаў. Адноўлены ў 1920-я г. Да 1941 г. канал выкарыстоўваўся для сплаву лесу і пасажырскай сувязі паміж Пінскам і Целяханамі. Другі раз шлюзы разбураны ў гады Вял. Айч. вайны.

Сяляне займаліся земляробствам, возніцтвам, бандарным промыслам і сплавам платоў. У 1778 г. заснавана мануфактура (існавала да 1839) па вырабе дэкаратыўных ваз і посуду, упрыгожаных гарэльефамі, а таксама фрызаў і карнізаў для аздаблення комінаў і печаў. Дзейнічала прыстань. Меўся касцёл, а затым на сродкі М.Агінскага была ўзведзена драўляная Троіцкая царква з двух'ярусным іканастасам, евангеллямі 1803 і 1836 гг. выдання, у архіве метрычныя кнігі з 1797 г., прыходскія рэестры з 1837 г.

З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці Пінскага пав. Мінскай губ. У 1817 г. Пуслоўскім пабудавана каталіцкая капліца. Меліся 2 яўр. сінагогі, гандл. прыстань, шпіталь, управа воднай камунікацыі, школа дарожных кандуктараў. Целяханская вол. складалася з 8 сельскіх акруг, у яе межах знаходзіліся Целяханы, 13 сёл і вёсак, 3 маёнткі, 4 фальваркі. У 1830 г. Целяханы моцна пацярпелі ў час пажараў. У 1880 г. вялікі пажар знішчыў мястэчка, але яно хутка адбудавалася. У 1876 г. Целяханы — мястэчка і маёнтак, уладанне Пуслоўскага. У Целяханскім сельскім т-ве аб'яднаны 200 сялян-уладальнікаў. У 1886 г. — 558 жыхароў, 64 двары, валасная ўправа, прыстань, бровар, 2 млыны, школа кандуктараў, пач. школа, бальніца, царква, касцёл, 3 малітоўныя дамы. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 450 дваровых пабудоў, 1039 жыхароў, праваслаўная царква, касцёл, 3 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча, валасное праўленне, паштовая станцыя, лячэбніца, хлебазапасны магазін, паравы млын, 20 лавак малочнага гандлю. Пры Агінскім канале размяшчаліся 23 двары, 114 жыхароў, на шкляным з-дзе меліся 4 будынкі і 152 жыхары; у маёнтку — 14 двароў, 58 жыхароў, вінакурны з-д; на станцыі — 8 двароў, 28 жыхароў. У сяле Целяханы (знаходзілася побач з мястэчкам) было 90 двароў, 591 жыхар, хлебазапасны магазін.

У 1895 г. на зямлі памешчыка Ф.У. Пуслоўскага быў засн. новы завод, дзе прымяняліся найноўшыя дасягненні навукі і тэхнікі у гутнай справе таго часу. У 1895 г. набыты паравы рухавік для шліфавальнага аддзялення, у 1899 г. ўстанавілі шклоплавільныя печы, а ў 1911 г. падключылі электрасвятло, што дало магчымасць электрыфікаваць гравіравальныя і шліфавальныя станкі. Прымяняліся пнеўматычныя прыстасаванні для выдзімання вырабаў з шкла пры дапамозе пары, на з-дзе пачалі ўкараняць спец. станкі для нанясення дэкору на вырабы. 9.1.1905 г. адбылася забастоўка 250 рабочых целяханскай гуты, якія не выйшлі на працу і выступілі з эканам. патрабаваннямі. У памешчыка Пуслоўскага з-д арандавала акц. таварыства ў складзе буйных шклозаводчыкаў Турука, Розенблюма, братоў Чарніховых,

*Агінскі канал каля г.п. Целяханы. Пачатак 20 ст.*







*Троіцкая царква ў г.п. Целяханы.*

а пазней Ю.Столе і В.Краеўскага. У хуткім часе целяханскі з-д стаў буйнейшым у Беларусі і ў 1910 г. выпускаў прадукцыі на 156 тыс. рублёў. Напачатку колькасць рабочых складала 146 чалавек, у 1900 г. тут працавалі 300 рабочых, а ў 1910 г. — 471 чал. Прадукцыя з-да: аконнае, лямпавае і аптэчнае шкло, графіны, бутлі, бутлікі, шклянкі, кварты, кілішкі, кухлі, бакалы. Выпускалася шмат пляшак, асабліва пасля таго, як вінная дзярж. манаполія загадала прадаваць гарэлку і віно толькі ў шкляной тары. Найбольшую славу целяханская гута прыдбала за вырабы з крышталю і каляровага шкла, высокі мастацкі ўзровень і якасць. Камітэт ўсерасійскіх с.-г. выставак узнагародзіў з-д залатым медалём «За працавітасць і мастацтва». Сыравінай для вырабу крышталю служыў мясц. пясок, які пасля чатырохразовай прамыўкі быў годны нават для выпуску багемскага шкла, якім ганарыліся чэшскія майстры. Сялітру пачалі завозіць з Чылі, фарбавальнікі шкла атрымлівалі з Германіі, Аўстрыі, Англіі. Прадукцыя целяханскага з-да ахвотна куплялася на Каўказе, у Крыме, Туркестане, Сібіры, Паволжы, Растове-на-Доне, Баку, Маскве, Саратаве, у гарадах Польшчы і Прыбалтыкі, у многіх краінах Зах. Еўропы. Асаблівым попытам за мяжой карысталіся «венскія» і «берлінскія» лямпы, а таксама сервізы з крышталю і каляровага шкла.

У 1905—07 гг. баставалі рабочыя-гутнікі з Целяхан. 1-я сусветная вайна спыніла працу шклозавода.

У 1909 г. Целяханы — маёнтак (147 жыхароў, 8 двароў); мястэчка (1120 жыхароў, 230 двароў, пошта), сяло (1328 жыхароў, 210 двароў); шкляны з-д (460 жыхароў, 70 двароў). З 1915 г. акупіраваны герм. войскамі. Лінія фронту ўстанавілася ўздоўж Агінскага канала, праходзіла цераз Целяханы, Вульку-Целяханскую, Выганашчы, Выганашчанскае возера. Фронт стаяў тут да восені 1918 г. Немцы пабудавалі вузкакалейныя чыгункі ад ст. Івацэвічы на Святую Волю, Целяханы, Красніцу для вывазу лесу. З лютага 1919 г. акупіраваны польскімі войскамі. У 1919 г. дзейнічаў партыз. атрад Целяханскага баявога ўчастка супраць войск Пілсудскага. У 1920 г. ў Целяханах 210 мужчын, 214 жанчын, 384 дзіцяці. Мелі-ся 33 кані, 63 каровы і 18 свіней.

З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — мястэчка, цэнтр Целяханскай гміны, і фальварак — разам 79 будынкаў, 895 жыхароў, з якіх 361 беларус. У 1929 г. створаны Целяханскі гарком КПЗБ, які ў канцы 1930 г. рэарганізаваны ў Целяханскі райком КПЗБ (цэнтр — Целяханы,



*Троіцкая царква ў г.п. Целяханы. Агульны выгляд.*



*Капліца на могілках у г.п. Целяханы.*



*Будынак школы ў г.п. Целяханы.*

потым — в. Гічыцы, з 1931 — в. Вулька). З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. — мястэчка, цэнтр Целяханскага р-на Пінскай вобл.; у мястэчку і вёсцы Целяханы разам 397 двароў, 2611 жыхароў. У склад Целяханскага р-на ўваходзілі 32 населеныя пункты, 22 850 жыхароў, тэр. складала 1349 км². У раёне працавала 21 школа. 12.10. 1940 г. раён падзелены на 10 сельсаветаў: Аброўскі, Бабровіцкі, Выганашчанскі, Гортальскі, Козікаўскі, Коланскі, Краглевіцкі, Рэчкаўскі, Святавольскі, Целяханскі. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. партызаны брыгад 8-й, імя Дзяржынскага, Брэсцкага партыз. злучэння і імя Куйбышава Пінскага партыз. злучэння разграмілі ням.-фаш. гарнізон у Целяханах. У 1949 г. ў гонар подзвігу партызан пастаўлены абеліск.

У гады вайны загінулі 270 жыхароў Целяхан, з іх не вярнуліся з фронту 186 чал. Целяханы вызвалены 10.7. 1944 г. воінамі 1-га Бел. фронту ва ўзаемадзеянні з 99-й партызанскай брыгадай імя Дз.Ц.Гуляева ў ходзе Беларускай аперацыі. У 10 брацкіх магілах пахаваны 41 воін і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў. Сярод пахаваных — партызаны 99-й брыгады імя Дз.Ц.Гуляева і воіны 138-га гв. стралк. палка 48-й гв. стралк. дывізіі, якія 10.7.1944 г. вызвалілі Целяханы ад ворага. У 1952 г. на брацкай магіле воінаў і партызан пастаўлены абеліск.

У 1951 г. працавалі райпрамкамбінат (5 цэхаў, 243 працаўнікі), леспрамгас (61 рабочы), чыгунка (39 працаўнікоў), лясгас (37 чал.), хімлясгас (54 чал.), прам. арцель з крухмала-патачным і вапнавым з-дамі (у прам. цэхах 105 працаўнікоў). З 1954 г. — у Брэсцкай вобл., мястэчка, у калгасе імя Леніна, кузня, рымарская майстэрня, торфараспрацоўкі, арцель «За ўладу саветаў», пункт сувязі, дарожны аддзел, раённы аддзел нар. адукацыі, МТС, райспажыўсаюз, электрастанцыя, сталярная майстэрня, друкарня, 126 жылых будынкаў, 1174 жыхары. У 1955 г. дзейнічаў лясгас, у 1956 г. — маслазавод. З 25.12.1956 г. Целяханы — гар. пасёлак. У 1959 г. 4052 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Лагішынскім, з 25.12.1962 г. ў Пінскім, з 6.1.1965 г. ў Івацэвіцкім р-нах.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, а таксама загубленых ням.-фаш. акупантамі ў Вял. Айч. вайну, насыпаны курган Памяці. У 1967 г. на доме, у якім у 1939—40 гг. жыла В.З.Харужая — дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вял. Айч. вайну, Герой Сав. Саюза, устаноўлена мемарыяльная дошка. У 1997 г. 4800 жыхароў. У 2002 г. — 4700 жыхароў. Размешчаны лыжная ф-ка, з-д сталярных вырабаў, участак леспрамгаса і лясгаса, камбінат быт. абслугоўвання, спецыялізаванае аддз. сельгастэхнікі, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, муз. школа, навучальна-вытворчы камбінат, Дом культуры з нар. тэатрам, кінатэатр, Дом піянераў, 4 дашкольныя ўстановы, 2 б-кі, бальніца, аптэка, лясніцтва, санаторый «Палессе», магазіны, аддз. сувязі. Помнік Леніну, курган Славы на ўшанаванне памяці сав. воінаў і партызан, якія



загінулі пры вызваленні Целяхан, абеліск у гонар партыз. брыгад, якія ў студз. 1944 г. разграмілі ням.-фаш. гарнізон у Целяханах. Цэнтр калгаса «Расія». Помнік архітэктуры — Троіцкая царква (з 1934). Планіровачна складаецца з кампактнай прамалінейнай забудовы паводле генплана 1975 г. Адм.-грамадскі і культурны цэнтр на перакрыжаванні галоўных вуліц. Паўн. частку пасёлка фарміруюць 2—5-павярховая і катэджная, паўд. — пераважна аднапавярховая драўляная, сядзібнага тыпу забудовы. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі Я.М.Аксцясяк.

**ЧАМЯЛЫ** — вёска ў Волькаўскм с/с, на р. Шчара. За 18 км на ПнУ ад Івацэвіч, 8 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 99 гаспадарак, 191 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 2-й пал. 19 ст. вёска знаходзілася ў Дабромысленскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ.

У 1870 г. вёска ў маёнтку Быцень, уласнасць графоў Патоцкіх. У Быценскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 308 рэвізскіх душ, у Чамялоўскім сельскім т-ве. У 1887 г. сяляне вёскі аказвалі супраціўленне каморніку пры абмежаванні спрэчных урочышч на карысць памешчыка, уладальніка маёнтка Быцень графа Патоцкага. У 1890 г. вёска, 1030 дзес. зямлі. У 1905 г. — вёска (756 жыхароў); б. паштовая станцыя на шашы Варшава—Масква (6 жыхароў); урочышча (27 жыхароў); Чамялоўская плаціна №6 (7 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Слонімскім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Даманаўскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл., разам з асадай Быценшчына 129 двароў, 723 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 1.9.1942 г. партызаны разграмілі ням. камендатуру, якая размяшчалася ў вёсцы, і спалілі мост на шашы Брэст—Мінск. У 1947 г. — 153 гаспадаркі. У 1952 г. — 684 жыхары, працавала кузня, вяліся лесанарыхтоўкі, у складзе калгаса «Чырвоны сцяг». З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. ў Волькаўскім с/с, 158 жылых будынкаў, 172 гаспадаркі, 586 жыхароў. У 1960 г. вёска ўваходзіла ў калгас «Іскра». У 1961 г. працавала пач. школа. З 25.12. 1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. 661 жыхар. У 1979 г. — 569 жыхароў. У 1997 г. — 250 жыхароў, 112 двароў; у 2002 г. — 105 гаспадарак, 206 жыхароў.



*Пасадка маладога лесу ў Целяханскім лясгасе.*

**ЮГАЛІН** — пасёлак у Дабромысленскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Івацэвіч, 25 км ад чыг. ст. Даманава, на лініі Брэст—Баранавічы. 37 гаспадарак, 98 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1-й пал. 19 ст. Югалін у Слонімскім пав. Гродзенскай губ., уладанне памешчыка Юндзіла, які жыў тут да 1863 г. Ф.Юндзіл быў адным з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг., паўстанцкім военачальнікам Слонімскага пав. і камандзірам паўстанцкага атрада.

У Югаліне пэўны час жыла сям'я Варанцовых-Вельямінавых, нашчадкаў роду вял. рус. паэта А.С.Пушкіна па лініі сына паэта Аляксандра. Жылі да 1-й сусветнай вайны. У час вайны эвакуіраваны ў Расію, потым зноў вярнуліся ў Югалін, які канчаткова пакінулі ў 1939 г.

У 1870 г. Югалін — маёнтак у Дабромысленскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., належаў памешчыкам Канстанціну і Валерыю Юндзілам, у Сялецкім сельскім т-ве. У 1905 г. маёнтак, 49 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З

1921 г. ў складзе Польшчы, у Слонімскім пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Дабромысленскім с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. — вёска, 5 гаспадарак. У 1952 г. — хутар, 11 жыхароў. Пасля вайны ўтвораны Быценскі дзіцячы дом №1 (90 сірот ад 7 да 15 гадоў, вучыліся ў Сялецкай школе). У 1961 г. на яго базе адкрыта Югалінская школа-інтэрнат (спачатку была сярэдняй; у 1964 адбыўся яе першы выпуск). Да 1970 г. школа была 8-гадовай, у вер. 1970 г. яна стала дапаможнай.

З 8.1.1954 г. — у Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1958 г. — дзіцячы дом, 8 жылых будынкаў, 21 гаспадарка, 153 жыхары. У 1961 г. — 8-гадовая школа-інтэрнат (182 вучні). З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. З 21.1.1969 г. пасёлак. У 1979 г. — 283 жыхары, школа-інтэрнат. У 1989 г. быў здадзены ў эксплуатацыю новы спальны корпус для дзяцей, сталовая. У 1996 г. ў Югалінскай школе вучыліся 132 вучні, працавалі 46 педагогаў, 40 чал. абслугоўваючага персаналу. У 1997 г. — 104 жыхары, 41 двор. У 2002 г. — 38 гаспадарак, 112 жыхароў. Размешчаны школа-інтэрнат, магазін. Захавалася сядзіба Юндзіла — удзельніка паўстання Кастуся Каліноўскага; старажытны парк; сядзіба нашчадкаў А.С.Пушкіна Варанцовых-Вельямінавых.

**ЮРКЕВІЧЫ**, Ю р к а в і ч ы — вёска ў Стайкаўскім с/с, на р. Грыўда. За 11,5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. Непадалёку ад шашы Косава—Івацэвічы. 27 гаспадарак, 40 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Па інвентару Косаўскай вол. 1597 г. — сяло Ючавічы, 11 валок зямлі, у іх ліку 4 пустыя. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1870 г. Юковічы — цэнтр сельскага т-ва ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Т-ва налічвала 41 душу сялян-гаспадароў, якія мелі 195 дзес. зямлі. У 1905 г. вёска Юкевічы (195 жыхароў) і маёнтак (8 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 12 будынкаў, 90 жыхароў (праваслаўных беларусаў). 20.12.1925 г. вёска далучана да Косаўскай гміны Косаўскага пав. У канцы 1920-х г. існавала ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Косаўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вайну загінулі 5 жыхароў вёскі. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1949 г. праведзена калектывізацыя. У 1950 г. — у Сенькевіцкім с/с, у калгасе «1 Мая», працавала кузня. У 1959 г. — 190 жыхароў, у Стайкаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 190 жыхароў. У 1979 г. — 126 жыхароў, ферма. У 1997 г. — 54 жыхары, 32 двары, у калгасе «Савецкая Беларусь». У 2002 г. — 28 гаспадарак, 43 жыхары. Працуе магазін. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЯБЛОНКА** — вёска ў Жытлінскім с/с, за 19 км на Пд ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы, на лініі Брэст—Баранавічы. 62 гаспадаркі, 119 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 19 ст. У 1870 г. Яблонка — вёска ў Гічыцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 182 рэвізскія душы. Цэнтр Яблонскага сельскага т-ва, у якім было 154 душы сялян, 847 дзес. зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 435 жыхароў. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. вёска ў Боркі-Гічыцкай гміне, 32 будынкі, 213 жыхароў, з якіх 213 праваслаўных беларусаў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска — цэнтр Яблонскага с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 95 двароў, 356 жыхароў, пошта, пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ням. акупанты ў



крас. 1942 г. спалілі 59 двароў і загубілі 5 жыхароў. З 20.9.1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у калгасе імя Кірава, працавала кузня. З 16.7.1954 г. ў Яглевіцкім с/с. У 1959 г. — 306 жыхароў. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 288, у 1979 г. — 230 жыхароў. З 1981 г. вёска ў складзе Жытлінскага с/с. У 1997 г. — 163 жыхары, 73 двары, у складзе калгаса імя С.М.Кірава. У 2002 г. — 67 гаспадарак, 136 жыхароў.

**ЯГЛЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Яглевіцкага с/с, за 2 км на ПдУ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. На аўтадарозе Брэст—Масква. 606 гаспадарак, 1543 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1760 г. на могілках пабудавана Юр'еўская царква. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. вёска Яглевічы, цэнтр сельскага т-ва ў Боркінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У т-ве налічваліся 144 душы сялян-гаспадароў, 843 дзес. зямлі. У 1886 г. 24 двары, 233 жыхары, царква. У 1905 г. сяло (424 жыхары) і маёнтак (76 жыхароў). У 1908 г. дзейнічала царква, вучылішча. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска і калонія ў Боркі-Гічыцкай гміне, разам 62 будынкі, 398 жыхароў, з якіх 360 беларусаў. У 1920-я г. дзейнічаў Івацэвіцка-Яглевіцкі падрайком КПЗБ. У 1924 г. на канферэнцыі ў в. Яглевічы выбраны Косаўскі райком КПЗБ, які падпарадкоўваўся Баранавіцкаму акруговаму к-ту. Дзейнічала таксама ячэйка ЛКСМЗБ. У ліп. 1931 г. Яглевіцкая ячэйка КПЗБ у Целяханскім райкоме КПЗБ. У 1934 г. ў вёсцы створана ячэйка Любішчыцкага райкома КПЗБ. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Яглевіцкім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 164 двары, 689 жыхароў, пач. школа (135 вучняў), магазін, пошта, у складзе калгаса імя Камінтэрна, дзейнічала лясніцтва. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. гітлераўцы часткова спалілі вёску. Дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя. У маі 1942 г. гітлераўцы пакаралі смерцю ў г. Івацэвічы сакратара Яглевіцкай падп. камсамольскай арг-цыі, партыз. сувязнога В.С.Клютко (пахаваны ў в. Яглевічы). У 1966 г. на гэтым месцы ў Івацэвічах пастаўлена стэла. Імем В.С.Клютко названа вуліца ў Івацэвічах.

13 воінаў і партызан, якія загінулі каля вёскі ў баях супраць ням.-фаш. акупантаў у 1941—44 гг., пахаваны ў брацкай магіле. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск. У Вял. Айч. вайну загінулі 11 вяскоўцаў. З 20.9.1947 г. ў Івацэвіцкім р-не. У 1950 г. — у калгасе імя Камінтэрна, працавала кузня, існавала вытв-сць калёс і саней. У 1959 г. — 700 жыхароў. У 1961 г. працавала 7-гадовая школа (154 вучні). З 25.12.1962 г. ў Бярозаўскім р-не. У 1963 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-не. У 1970 г. — 843 жыхары. У 1979 г. — 977 жыхароў, сядзіба саўгаса. У 1997 г. — 1528 жыхароў, 527 двароў. У 2002 г. — 574 гаспадаркі, 1538 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Помнік на брацкай магіле воінаў і партызан Вял. Айч. вайны. Помнік В.С.Клютко. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх шыротных вуліц каля прасёлачнай дарогі і хаатычнай забудовы на Пд. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЯТВЕЗЬ**, Я ц в е з ь — вёска ў Квасевіцкім с/с, на мяжы з Пружанскім р-нам у Гута-Міхалінскім лесе. За 27,5 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Івацэвічы на лініі Брэст—Баранавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ружаны—Косава. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў Слонімскім пав. ВКЛ, уласнасць каталіцкай царквы. У 16 ст. тут «25 службаў, што жылі сваімі дамамі». З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 1870 г. засценак у маёнтку Косава (уласнасць

памешчыка Вандаліна Пуслоўскага). У Слонімскім пав. Гродзенскай губ., 30 рэвізскіх душ, у Кулянскім сельскім т-ве. У 1890 г. 51 дзес. зямлі; памешчыку Льву Пуслоўскаму належала 2251 дзес. зямлі. У 1905 г. 63 жыхары. З 1915 г. акупіравана герм., з лютага 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Косаўскім пав. Палескага ваяв. У 1924 г. — вёска ў Косаўскай гміне, 10 будынкаў, 45 жыхароў (праваслаўных беларусаў). З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. вёска ў Альбенскім с/с Косаўскага р-на Брэсцкай вобл., 31 двор, 108 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Загінулі 7 вяскоўцаў, ахвяр фаш. тэрору. З 20.9. 1947 г. — у Івацэвіцкім р-не. З 1954 г. ў Верашкоўскім с/с. У 1959 г. — 48 жыхароў. З 25.12.1962 г. — у Бярозаўскім, з 6.1.1965 г. — у Івацэвіцкім р-нах. У 1970 г. — 50 жыхароў. З 1980 г. ў Квасевіцкім с/с. У 1997 г. — 13 жыхароў, 7 двароў. У 2002 г. — 6 гаспадарак, 13 жыхароў. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены хаатычна каля прасёлачнай дарогі.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 254, воп. 1, спр. 438, 3451, 3463, 4102, 4158, 5991—5992, 7327.
Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, ф. 2, воп. 32, спр. 1501; ф. 18, воп. 4, спр. 1049; ф. 44, воп. 1, спр. 215.
Занальны гістарычны архіў у г. Баранавічы, ф. 254, воп. 1, спр. 938, 1321; воп. 2, спр. 122; ф. 623, воп. 1, спр. 217; ф. 693, воп. 1, спр. 700; ф. 1270, воп. 1, спр. 42, 79; ф. 1292, воп. 1, спр. 34.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 1318, 2244, 2318, 2329, 2337; ф. 30, воп. 5, спр. 6753, 6760; воп. 9, спр. 2387.
Акты, издаваемые Виленскою комиссиею... Т. 14. Вильна, 1887; Т. 22. Вильна, 1895.
Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 2. Мн., 1987.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. V. СПб., 1886.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936.
Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1. Мн., 1997.
Живописная Россия. СПб., 1882.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.
Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2000.
Литовская метрика. Книга публичных дел. Пг., 1915.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1903.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—44). Мн., 1995.
Описание церквей и приходов Минской епархии. Вып. VI. Мн., 1879.
Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вып. 10. Вильна, 1913.
Ординация королевских пущ в лесничествах Великого княжества Литовского. Вильна, 1871.
Памяць: Івацэвіцкі р-н. Мн., 1997.
Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. Вильна, 1867.
Списки волостей, обществ и селений Гродненской губернии. Гродно, 1870.
Список землевладений в Гродненской губернии. Гродно, 1890.
Список населенных мест Минской губернии с указанием волостей, сельских обществ и церковных приходов. Мн., 1870.
Справочник административно-территориального деления Брестской обл0асти в границах 1921—1939 гг. // Государственный архив Брестской области. Справочник.
Указатель населенных местностей Гродненской губернии с относящимися к ним необходимыми сведениями. Гродно, 1905.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.

# БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Маштаб 1:1 400 000**

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

По колькасці жыхароў

- ад 100 000 да 500 000
- ад 50 000 да 100 000
- ад 10 000 да 50 000
- менш за 10 000

Паводле адміністрацыйнага значэння і тыпу паселішча

- БРЭСТ Цэнтр вобласці
- МАЛАРЫТА Іншыя гарады
- Дамачава Пасёлкі гарадскога тыпу
- Альшаны Сельскія населеныя пункты

Цэнтр вобласці і цэнтры раёнаў вылучаны чырвоным колерам.

ГРАНІЦЫ

- дзяржаў
- абласцей
- раёнаў (на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь)

Нацыянальныя паркі

ШЛЯХІ ЗНОСІН

- Чыгункі
- Аўтамабільныя дарогі
- рэспубліканскія магістральныя
- рэспубліканскія іншыя
- мясцовага значэння
- Судаходныя каналы
- Рачныя парты
- Аэрапорт
- Рэкі і меліярацыйныя каналы
- Азёры і вадасховішчы





БРЭСТ
Маштаб 1:70 000
Камянец
Скокі
Цюхінічы
Чэрні
Варшава
Нарэмха
КАЦІН БОР
ДУБРОЎКА
Дубройская
Старыя Задворцы
Мінск
Плоска
Новыя Задворцы
Жабінка
Казловічы
ЛЫСАЯ ГАРА
ADAMKOBA
БЯРОЗАЎКА
вул. Лейтэнанта Рабцэва
2-ая Беларуская вул.
Беларуская вул.
Чырвонагвардзейская вул.
Верасовая вул.
Раджужная вул.
вул. Гагарына
Машэнскага вул.
вул. Пісьменніка
Сонечная
Дворнікава вул.
Смірнова
Фартэчная вул.
Асіпенка
Рэспубліканская вул.
Кіжаватава
вул. Скрыпнікава
вул. Янкі Купалы
Ленінградская вул.
Партызанскі праспект
Арлоўская вул.
УСХОД
Маскоўская вул.
РЭЧЫЦА
вкз.
Піянерская вул.
Бульвар Касманаўтаў
Пушкінская
Гогаля
Леніна
Скорскага
Калініна
ГРАЕЎКА
Лукаў
вул. Героя Абароны Брэсцкай Крэпасці
МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС
праспект Машэрава
Маскоўская вул.
Вычулкі
Багданчука
набережная Ф.Скарыны
ПУГАЧОВА
ЦЯРЭСПАЛЬ
вул. 28 Ліпеня
Цэнтральная вул.
ВУЛЬКА-ПАДГАРОДНАЯ
ВАЛЫНКА
Падгародская вул.
Суворова
Цяністая вул.
Абрыкосавая вул.
КАВАЛЁВА
Ковельская вул.
Шырокая вул.
вул. Жукава
Зяркальная вул.
Аркадзія
ПАЎДНЁВЫ
ПОЛЬШЧА
Міхалькуў
Гершоны
Міцькі
Муравец
Кацельня-Баярская
Уладава
Тамошоўка
Мухавец
Ковель
Маларыта

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ НА КАРТАХ РАЁНАЎ

### НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

#### Паводле адміністрацыйнага значэння

 Цэнтр вобласці

 Цэнтры раёнаў

 Цэнтры сельсаветаў

#### Паводле тыпу паселішча

| | |
|---|---|
| БЯРОЗА | Гарады |
| Гарадзішча | Пасёлкі гарадскога тыпу |
| *Свадзьбічы* | Сельскія населеныя пункты |

### МЕЖЫ

 дзяржаў

 абласцей

 раёнаў

 нацыянальных паркаў і запаведнікаў

### ШЛЯХІ ЗНОСІН

 Чыгункі

Аўтамабільныя дарогі

 Аўтамагістралі

 з удасканаленым пакрыццём

 з пакрыццём

 без пакрыцця

 грунтавыя дарогі

#### Скарачэнні, прынятыя на картах раёнаў

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| [illegible] | вадасховішча | Вял. | Вялікі | Нов. | Новы |
| Верх. | Верхні | запав. | запаведнік | р-н | раён |
| вобл. | вобласць | кан. | канал,канава | Стар. | Стары |
| [illegible] | возера | Ніж. | Ніжні | Чырв. | Чырвоны |

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадукац. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
археал. — археалагічны
асн. — асноўны
афіц. — афіцыйны
аўтадарога — аўтамабільная дарога
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
біягр. — біяграфічны
б-ка — бібліятэка
б-ца — бальніца
быт. — бытавы
в. —вёска (пры назве, у адзіночным ліку)
вайск. — вайсковы
вал. — валасны
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)
выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
вял. кн. — вялікі князь
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад/гара (пры назве ў адз. ліку)
г. — год (1921 г.), гады (1950-я г.)
гг. — гады (1830—31 гг., 1935 і 1937 гг.)
газ. — газета
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі
гарсавет — гарадскі савет
гасп. — гаспадарчы
гв. — гвардзейскі
геагр. — геаграфічны
ген. — генеральны
ген. — генерал (пры імені)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант
ген.-маёр — генерал-маёр
ген.-палкоўнік — генерал-палкоўнік
герм. — германскі
гіст. — гістарычны
г.п. — гарадскі пасёлак (пры назве)
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
губ. — губерня (пры назве у адз. л.)
дакум. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
дэп. — дэпутат
еўрап. — еўрапейскі
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад (напрамак)

засл. — заслужаны
засн. — заснаваны
зах. — заходні
з-д — завод
індустр. — індустрыяльны
ін-т — інстытут
каап. — кааператыўны
каап. — каапераныйны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве)
кн. — князь (пры імені)
крас. — красавік
к-т — камітэт
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
ліп. — ліпень
літ. — літоўскі
ліст. — лістапад
л-ра — літаратура
манум. — манументальны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
найб. — найбольш(ы)
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
наз. — называецца
нам. — намеснік
нар. — народны
нар.-гасп. — народна-гаспадарчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
н. с. — новы стыль
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
паветр. — паветраны
падп. — падпольны
пал. — палавіна
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
патрыят. — патрыятычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пас. — пасялковы
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
пач. — пачатковы
Пд — поўдзень (напрамак)
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
перыяд. — перыядычны
пл. — плошча
Пн — поўнач (напрамак)
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
правадз. — правадзейны
прам. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны
прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
р. — рака (пры назве)
р-н — раён
р. п. — рабочы пасёлак (пры назве)
рас. — расійскі
рус. — рускі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка
с. — сяло (пры назве, у адз. л.)
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
сапр. — сапраўдны
сац. — сацыяльны
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы
СВК — сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў

СВП — сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
слав. — славянскі
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
спарт. — спартыўны
с/с — сельсавет (пры назве, у адз. ліку)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе (пры лічбе)
ст. — станцыя (пры назве)
стараж. — старажытны
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сухап. — сухапутны
сял. — сялянскі
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя
тэхн. — тэхнічны
У — усход (напрамак)
узбр. — узброены
укл. — уключна
укр. — украінскі
ун-т — універсітэт
унутр. — унутраны
усх. — усходні
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
фельч.-акушэрскі — фельчарска-акушэрскі
харч. — харчовы
царк. — царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чал. — чалавек (пры колькасных паказчыках)
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгуначны
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак (пры назве)
чыг. ст. — чыгуначная станцыя (пры назве)
чэрв. — чэрвень
шматнац. — шматнацыянальны
эканам. — эканамічны
юрыд. — юрыдычны
яўр. — яўрэйскі

ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

# ГАРАДЫ І ВЁСКІ БЕЛАРУСІ

**Энцыклапедыя**

Том 3

Кніга 1

Брэсцкая вобласць

Рэдактары: *В.В.Грынявецкі, Н.А.Дзянісава, І.Б.Клепікаў, А.В.Скараход, Л.У.Языковіч*

Мастацкае афармленне *Н.У.Кузьмянковай* пры ўдзеле *Р.У.Кондрада*

Мастацкі рэдактар *В.Г.Паўлавец*

Літаратурны рэдактар *В.М.Лапцева*

Тэхнічны рэдактар *Н.М.Шэвель*

Карэктары: *В.М.Чудакова* (заг. карэктарскага аддзела), *І.І.Касабуцкая, В.А.Кульбіцкая, А.У.Курчатава*

Камп'ютэрны набор: *Р.У.Дзявочка, Н.М.Зубкевіч, Н.У.Мітраховіч, І.А.Новікава, Т.П.Пятровіч, Т.М.Саленік, Н.А.Стасевіч, В.А.Шрамянкова*

Камп'ютэрная вёрстка: *А.Л.Шалканаўцава*

У томе змешчаны фотаздымкі А.Р.Бензерука, А.Гладышчука, А.П.Дрыбаса, А.Л.Дыбоўскага, А.А.Жадзёнава, Ю.С.Іванова, С.А.Сасоннай, Дзяржаўнага геральдычнага рэгістра Рэспублікі Беларусь, Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, раённых выканаўчых камітэтаў Брэсцкай вобласці, Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

При падрыхтоўцы кнігі выкарыстаны матэрыялы А.Р.Бензерука пры напісанні гісторыі населеных пунктаў Жабінкаўскага раёна.

Падпісана да друку 19.07.2006. Фармат 84x108 $^1/_{16}$. Гарнітура Пецярбург.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 55,4. Ум. фарб.-адб. 222,6. Ул.-выд. арк. 50,59.
Тыраж 4000 экз. Заказ 285.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя»
імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0056830 ад 02.03.2004 г. Рэспубліка Беларусь.
220072, г. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве
«Мінская фабрыка каляровага друку». Рэспубліка Беларусь. 220024, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

**Гарады і вёскі Беларусі** : энцыклапедыя. Т 3, кн.1. Брэсцкая вобласць /
Г 20 рэдкал.: Г.П.Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.] — Мінск: БелЭн, 2006. — 528 с.: іл.

ISBN 985-11-0373-X.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і інш. крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі: 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Трэці том выдання прысвечаны населеным пунктам 8 раёнаў Брэсцкай вобласці.

**УДК 94(476.7)**
**ББК 63.3(4 Беи)**



